

Уладзімір Караткевіч.
1971 г.



Сустрэчы ў Віцебску. І. Дзяржынскі, М. Фрадкін, Уладзімір Караткевіч, А. Бембель.
1972 г.



Уладзімір Караткевіч
на сустрэчы з чытачамі.
1976 г.



Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін
на мастацкай выставе.
1979 г.



Васіль Быкаў вітае Уладзіміра Караткевіча
на юбілейным вечары.
1980 г.



Уладзімір Караткевіч у вёсцы Хлупін.
1980 г.

# Уладзімір Караткевіч

ЗБОР
ТВОРАЎ
У ВАСЬМІ
ТАМАХ

*Рэдакцыйная калегія:*
С. А. АНДРАЮК, Р. І. БАРАДУЛІН, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, Г. В. КІСЯЛЁЎ, Н. С. КУЧКОЎСКАЯ, А. І. МАЛЬДЗІС

*Рэдактар тома*
А. І. МАЛЬДЗІС

*Укладанне,*
*падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі*
Л. Д. БАГДАНАВАЙ

*Летапіс жыцця і творчасці*
А. Л. ВЕРАБ'Я

# Уладзімір Караткевіч

# 8

З ЖЫЦЦЯПІСУ
НАРЫСЫ
ЭСЭ
ПУБЛІЦЫСТЫКА
ПОСТАЦІ
КРЫТЫКА
ІНТЭРВ'Ю
ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ
І ТВОРЧАСЦІ

Кніга 2

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

# З ЖЫЦЦЯПІСУ



## ДАРОГА, ЯКУЮ ПРАЙШОЎ

Я ўраджэнец той часткі Беларусі, якая ляжыць на Дняпры. Люблю беларускае Палессе, і казачна мяккую Навaградчыну, і адзіную ў свеце Белавежу, і суровую прыгажосць паўночнага азёрнага краю. Іх нельга аддзяліць ад мяне, але ў Прыдняпроўі мне неяк больш прытульна.

На Украіне берагі Дняпра нагія, а тут яны ўсе ў лясах, курганах, у вёсках на ўзгорках, у садах, у забытых гарадзішчах, густа ўкрытых шыпшынаю і чортапалохам, у запушчаных парках.

Калі раніцаю плывеш на чаўне праз рачны туман і бачыш след за галавою выдры, што пераплывае раку, або ўсплёск бабра — адчуванне шчасця, адзінства з гэтай зямлёй і любоў да яе перапаўняюць цябе.

Продкі мае таксама ўсе адсюль. Гісторыю маю можна было б пачаць з таго, што роўна сто год таму назад мая зямля была ахоплена паўстаннем. Гарэла ўсё: фальваркі, вёскі, цэрквы, нівы. Адна бітва адбылася на поўнач ад Рагачова. Паўстанцаў разбілі, камандзіра іхняга расстралялі ў Рагачове. Ён быў мне сваяк з боку маці і яе радні. І такіх было многа. Гэтую ж гісторыю я апісаў у пралогу да рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі».

Трэба было неяк жыць астатнім на спустошанай, выпаленай зямлі. І жыццё пачалося цяжкае. Пачалося збядненне, часамі настолькі вялікае, што ў асірацелых (а часам і не ў асірацелых) дзяцей не было чаго есці.

Дзед, бацька маёй маці (ён памёр у вайну), дaслужыўся да павятовага казначэя і прытым быў атэіст і спачуваў марксістам,— магчыма, не столькі разбіраючыся ў гэтым, колькі ў памяць аб сямейнай трагедыі. У доме ў яго, калі верыць сямейнаму паданню, знаходзіў прыстанак П. Лепяшынскі.

Быў гэта чалавек уладны, разумны і з'едлівы. Ён цудоўна бачыў дурасць і ўмеў пусціць яе голай. Валодаў нязмернай духоўнай і фізічнай сілай, бязмежнай энергіяй і азартам. Калі ён, незадоўга да смерці, аслеп — я быў у яго чымсьці накшталт сакратара: чытаў яму, а часам і пісаў за яго. Таму што «непісьменным» сябе не памятаю. Маці кажа, што чытаць, непрыкметна для іншых, навучыўся ў тры з паловаю гады, а пісаць трохі пазней. І, здаецца, гэта быў першы і апошні мой подзвіг.

Маці мая, Надзея Васільеўна, нарадзілася ў 1893 годзе, у дзяцінстве засталася без маці, скончыла Марыінскую гімназію ў Магілёве, некаторы час, кінуўшы дом, працавала вясковай настаўніцай у вёсцы Збароў, ля Рагачова, а пасля пазнаёмілася з маім бацькам, Караткевічам Сямёнам Цімафеевічам, і ў 1917 годзе выйшла за яго замуж (бацька нарадзіўся ў 1887 годзе, памёр у 1959-м).

У сям'і нас было трох. Старэйшы брат (загінуў на апошняй, спадзяюся, што апошняй, вайне), старэйшая сястра і я.

Я нарадзіўся 26 лістапада 1930 года ў горадзе Оршы Віцебскай вобласці. Тады гэта быў маленькі гарадок. Зялёныя вуліцы, рэшткі валоў замчышча, гудкі далёкіх цягнікоў і блізкіх параходаў (чыгунка і аўтобусы яшчэ не забілі раку), дубовыя лясы на берагах і ліпы на вуліцах, недалёкія парогі. І, вядома, сотні крыніц па берагах і нашы песні. І перш за ўсё кнігі. Кніг у доме было мноства: і рэшткі дзедавай бібліятэкі, і кнігі бацькоў, і свае.

Пісаць (а спачатку «бубніць») вершы пачаў год у шэсць, але, на шчасце, хутка кінуў гэты занятак. Трохі пазней спрабаваў пісаць апавяданні, прычым абавязкова іх ілюстраваў. Увогуле, усё гэта было разнавіднасцю дзіцячай гульні. Таленты выяўляў разнастайныя: і маляваў, і ў музычную школу хадзіў (прычым абсалютны слых спалучаўся ўва мне з гэткай жа абсалютнай лянотай), але ўсе гэтыя таленты пайшлі тунна.

А потым пачалася вайна. Бамбёжкі. Эшалоны. Пачуццё бездапаможнасці падлетка, які ўжо не дзіця, што спакойна пакладаецца на старэйшых, але яшчэ і не мужчына, каб так ці іначай дзейнічаць і, магчыма, вырашаць свой лёс. Бунтаваў супраць гэтага пачуцця. Некалькі разоў уцякаў з інтэрната на фронт. Затрымлівалі, вядома. А з інтэрната таму, што здарылася звычайная на вайне рэч: доўгі час не ведаў, дзе бацькі і ці жывыя яны наогул, а калі жывыя, то дзе, за лініяй фронту або паспелі эвакуіравацца.

Быў спачатку ў Маскве, потым на Разаншчыне. Пасля давялося ўцякаць і адтуль. На Урал, у наваколле Кунгура. Выпадкова даведаўся, што бацькі ў Арэнбургу. З вялікімі цяжкасцямі (без пропуска і білета) дабраўся да іх. У Арэнбургу скончыў шосты клас. Потым нядаўна вызвалены Кіеў (Беларусь яшчэ была акупіраваная).

Крашчацік ляжаў у руінах. Па бульвары Шаўчэнкі некалькі разоў на суткі праходзіў трамвай. У руінах універсітэта мы разважаліся, шукаючы міны. Як не трапіў у «палату мінёраў» (па выразу майго друга паэта Р. Барадуліна), сам не ведаю.

А горад, нягледзячы на запусценне, быў прыгожы. Такія залатыя каштаны на вуліцах, такія пустыя здзічэлыя паркі!

Восенню сорак чацвёртага пераехалі на Беларусь. І вось тут упершыню ўбачылі сапраўдны разор, «зону пустыні», некалькі ўскраінных завулкаў, як канцы галінак ля згаслага вогнішча. Гарады, дзе нават руінаў не было. (Немцы разабралі іх на цэглу для абаронных патрэб.) Да голаду і холаду было не звыкаць, але тут, на выпаленай зямлі, так намерзліся, што часам хацелася памерці, абы толькі цябе пахавалі ў печцы.

Але ад работы не бегаў. І сябры-аднакласнікі былі такія самыя. Надзіва згуртаваны, вясёлы і сумленны народ. І не змяніліся за дзевятнаццаць год. Мы, вядома, агрубелі. І ўсё ж многіх з нас цягнула да вершаў. Стольких, што мы нават выдалі некалькі нумароў рукапіснага часопіса «Званочак».

Чамусьці вершы былі патрэбней за многае. А пісаліся ж пры святле гільзы на нямецкіх бланках ці на звароце доўгіх жоўтых канвертаў, таксама нямецкіх. Аддавалі перавагу канвертам, з-за добрай

паперы. Большасць вершаў, якія тады друкаваліся, мы не любілі: такая ў іх была бесшабашнасць. А былі яшчэ вершы саладжавыя.

А добрыя вершы любілі вельмі. З беларускіх, напрыклад, вершы Пімена Панчанкі, некаторыя вершы Танка часоў вайны і ўсе, амаль без выключэння, чгоныя даваенныя вершы.

Напісаў я тады, думаю, не менш за дзвесце вершаў, але нікому іх не паказваў. А потым прыйшла настаўніца, якую заўсёды памятаю дабром,— Е. І. Грыневіч. І неяк так атрымалася, што ёй некаторыя вершы паказаў. Яны і прыгодніцкая аповесць «Загадка Неферціці» былі «надрукаваны» ў нашым «Званочку». І гэта была адзіная мая «публікацыя» за дзесяць год. Цяпер усё гэта недзе згубілася, і шкадаваць аб ім пэўна няма чаго.

У сорак дзевятым годзе я паступіў у Кіеўскі універсітэт на філалагічны факультэт. Вучыўся, быў шчаслівы, меў шмат сяброў і ўсё ж успамінаю гэты час са змешаным пачуццём глыбокай пяшчоты і сораму. Пяшчоты — таму, што была навука, старыя рукапісы, кнігі, музеі, музыка, дзяўчаты, сябры, свае і чужыя вершы. Сораму — таму, што нярэдка даводзілася тады сустракацца са звычайнай вульгарызацыяй навукі.

Мне хацелася самому зразумець, чаму і нашто, і таму на некаторыя лекцыі я не хадзіў, а замест таго сядзеў у публічнай бібліятэцы.

Як ні дзіўна, я не хацеў быць літаратарам. Вершы пісаў для сябе. А ў будучым хацеў быць літаратуразнаўцам. Напісаў некалькі прац: «Багдановіч і сучаснасць», «Моўная стыхія Пушкіна», «Цёмныя месцы «Слова», «Беларускія і ўкраінскія школьныя драмы», «Авакум і літаратура расколу», «Справа пра «Саборныя дзеянні» (гісторыя палітычнай падробкі і яе выкрыцця, як «кнігі ў паўдзесць, старажытным беларускім характарам пісанай»).

Пасля заканчэння універсітэта я здаў кандыдацкі мінімум і пачаў быў пісаць дысертацыю пра паўстанне 1863 г. ва ўсходнеславянскіх і польскай літаратурах, але прыйшлі іншыя інтарэсы: з’явілася задумка аб рамане на тую самую тэму. Да рэалізацыі яе, праўда, я прыступіў толькі праз дванаццаць год.

Над гэтым раманам — «Каласы пад сярпом тваім» — працую і зараз.

А тады я проста сабраўся і паехаў настаўнікам у глухую вёску Лесавічы, што ля Таращчы. Працаваў там два гады. І, нягледзячы на ўсё, удзячны і вёсцы і універсітэту. Удзячны многім сумленным хлопцам, кнігам, пошукам. Удзячны настаўнікам і старэйшым сябрам: А. А. Назарэўскаму, А. І. Бялецкаму, Л. А. Панамарэнка, С. І. Маславу. Іх я любіў, і яны мяне любілі. Хто жывы — тым сто год жыцця. Хто памёр — пухам ім зямля.

І яшчэ за адну рэч я ўдзячны тым гадам. Здалёку я асабліва палюбіў Беларусь і яе людзей. Яна ўяўлялася мне тады па незямному прыўкраснай. Уся зялёная, вільготная, з азёрамі, з народам, з ягонай пявучай і звонкай мовай, з легендамі і палямі, курганамі і рэкамі.

Напісаў я за дзевяць год — горы. Нават трагедыю белым вершам, жахліва тр-рагічную. Але друкавацца і не думаў. У канцы першага года маёй настаўніцкай работы адбылося, аднак, нечаканае. Мінскі сябра папрасіў мяне даслаць яму вершы, пачытаць. Я даслаў, як бывала і раней. А ён панёс іх у часопіс «Полымя».

І раптам улетку 1955 года я атрымаў нумар часопіса са сваім вершам «Машэка». Гэта пераламіла мой лёс. Потым з'явіліся яшчэ вершы. За два гады, што (пасля вёскі) працаваў у Оршы, я падрыхтаваў першы зборнік «Матчына душа» і атрымаў прэмію за п'есу «Млын на Сініх Вірах» (паставіла яе беларускае тэлебачанне).

У 1957 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, а праз год — на Вышэйшыя літаратурныя курсы. Трохі пазней выйшла першая кніга. У тым жа годзе, яшчэ да курсаў, напісаў аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». Доўга яе нікуды не аддаваў, і толькі ў гэтым годзе пачаў яе друкаваць часопіс «Маладосць».

Літаратурныя курсы шмат далі мне самой сваёй атмасферай, глыбінёй спрэчак, сяброўствам, шырынёй далягляду. Там я напісаў сваю другую кнігу «Вячэрнія ветразі» (1960), некалькі апавяданняў і гістарычную аповесць «Сівая легенда»; разам з напісанай раней аповесцю «Цыганскі кароль» яны склалі трэ-

цыю маю кнігу «Блакіт і золата дня». Акрамя таго, у Маскве быў задуманы першы мой раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», надрукаваны пад назвай «Нельга забыць» у часопісе «Полымя» ў 1962 годзе.

Працаваў і ў кіно. Зрабіў тры кароткаметражныя сцэнарыі. Апошнім з іх задаволены. Гэта — «Сведкі вечнасці», аб беларускіх славутых дрэвах. Напісаў і поўнаметражны сцэнарый «Гнеўнае сонца» аб пераадоленні страху чалавекам, аб раскутасці чалавецтва.

Цяпер працую над гістарычным кінасцэнарыем «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Гэта гісторыя бадзягі, які воляй лёсу быў названы Хрыстом, вымушаны быў рабіць «цуды» і, урэшце, узначаліў паўстанне супраць царквы і караля. Такі сапраўдны факт адзначаны ў старажытных беларускіх хроніках.

Гэта будзе не камедыя і не трагедыя, а трагікамедыя, смех праз слёзы, народная драма, калі хочаце. Героі яе перажываюць самыя незвычайныя прыгоды, сутыкненні, сустракаюцца з жорсткасцю і дабрынёй, подласцю і сапраўднай высакароднасцю і паступова з махляроў, круцялёў, бадзяг ператвараюцца ў сапраўдных людзей.

Пасля двух год перапынку здаў у «Полымя» новы свой раман «Каласы пад сярпом тваім». Здаў першы том. Другі не выпускаю з рук, дапрацоўваю. Пастараўся заплаціць гэтай кнігай доўг Дняпру, людзям паўстання 1863 г., Беларусі.

Калі б мне ўдалося пасля «Каласоў» напісаць некалькі раманаў і аповесцей і давесці дзею да нашых дзён, я б лічыў, што справа жыцця зроблена. Але да гэтага так далёка! Трэба працаваць. Не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу, колькі будзе дадзена дзён,— многа або мала, але да канца.

# НАРЫСЫ



## ВЯЗЫНКА

Мы спазніліся на маладзечанскі поезд і вырашылі ехаць прыгарадным да станцыі «Беларусь», а ўжо адтуль дабірацца як-небудзь да Радашковіч, шукаць Вязынку, дзе нарадзіўся вялікі паэт.

Што ведаў я да таго часу аб гэтай вёсцы?

У памяці паўстаў радок з школьнага падручніка: «...нарадзіўся ў фальварку Вязынка, непадалёк ад мястэчка Радашковічы былога Вілейскага павета».

А што за гэтым радком?

І вось праносяцца невядомыя ўзгоркі, рачулкі з празрыстай вадою, вёскі ў лагчынах. Тут прыгожа, і паступова пачынаеш разумець, што толькі на гэтай зямлі мог нарадзіцца чалавек з прыгожай душой.

За станцыяй «Беларусь» тыя ж палі без канца, высокія ўзгоркі, парослыя лесам. Родная, мілая зямля!

Удвух з таварышам пускаемся ў невядомыя краі.

Шмат часу «лічым шпалы», спяшаемся туды, дзе лес на двух узгорках расхінаецца і стварае браму ў светлую, залітую сонцам зямлю.

Спёка. Жаўранкі звоняць крыллямі ў шкляное празрыстае паветра. Па краях насыпу смяюцца кветкі: легкадумныя званочкі, сіні, як неба, васілёк, палявая «грэчка», ліпкія смолкі.

Ад будынка станцыі Радашковічы павяртаем у поле. Сцежка бяжыць праз палеткі — пыльная, мяккая, як атлас, аточаная задзірванелымі абочынамі, парослымі алешнікам. Вось яна ўзбіраецца на ўзгорак, нырае ў канюшыну, знікае... І тут знянацку сустракаемся з дзяўчынай.

— Як прайсці да Вязынкі?

— А вунь там, бачыце, дзве вялізныя сасны? Пройдзеце адну вёску,— гэта будуць Ліпяні,— дык амаль адразу за ёю.

— Дзякуем.

Дзяўчына праводзіць нас доўгім позіркам, і нам здаецца, што ў вобліку яе ёсць штосьці ад Паўлінкі. А вакол красуе жыта — плён яе нястомных рук, красуе на ўсім абшары. Пад восень тут запяюць жаночыя галасы, застракочуць жняяркі, ляжа ў бабкі ўмалотнае збожжа.

У вырай сабраліся гусі,
І жораў азваўся пад небам...
Плывуць па шляхах Беларусі
Абозы чырвоныя з хлебам.

І нам уяўляецца, што наперадзе жней ідзе тая, з якой мы спаткаліся, і высока лунае яе мілагучны спеў.

Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонца ёй цалуе
Шыю, твар і вочы.

А яна — царыца,
Весела, шчасліва
Карануе песняй
Залатое жніва.

Мінаем Ліпяні, дзе і сапраўды так шмат старых ліп, што ўся вёска аж хаваецца пад шатамі дрэў. Мы праходзім далей, і вось ад будкі стрэлачніка нам відаць невялікі будынак з чатырма белымі калонамі. Гэта і ёсць былы фальварак Вязынка.

Амаль ля самай вёскі, там, дзе на чыгуначным адхоне чырванее цяпер зорка, вылажаная з кавалкаў цэглы, стаяў калісь пагранічны слуп. Ліпяні былі яшчэ савецкія, а Вязынка адыходзіла да панскай Польшчы. Магчыма, што Купала калі-небудзь стаяў на ўзгорку савецкай стараны і глядзеў на захад. Там яму была відаць хата, дзе ён упершыню пабачыў свет, там жылі знаёмыя людзі, там у панскіх маёнтках і броварах ён праходзіў школу жыцця, «зазнаўшы такога пекла, якога яшчэ ніколі не ведаў».

Вецер з таго боку даносіў да яго вушэй звон кайданаў.

Але нядоля даўно мінула. Вольнай стала калыска яго маленства — Вязынка.

Вёска мрэе пад сонцам, уся зялёная, наскрозь пранятая святлом. Непатрэбны былы панскі будынак

дагнівае з ускраю яе. Нехта яшчэ жыве ў ім, але большая частка яго пустая, калоны пахіліліся.

— Ой, каб не спаткала вас доля Нерона! — успомніліся словы паэта.

Запаветную хату з белымі аканіцамі мы пазналі здалёк, нават не давялося пытаць нікога.

Старажыха адчыняе дзверы. Музей зусім невялікі, але ўсё тут, у гэтай мясціне, дыша ўспамінамі аб ім — хата, сяло, навакольныя пушчы. Магчыма, што хату трэба было б пакінуць такой, якой яна была ў той час, калі нарадзіла ў ёй простая беларуская маці свайго сына. Хай бы падлога была земляная; хай бы мядзведзь-печ панура глядзела на ўсіх; хай бы стаялі ў куту кросны,— ён жа вырас у беднай хаце, каб вывесці з тысяч такіх хат на святло людзей, якія не бачылі сонца.

Ля хаты цвітуць кветкі, гудуць пчолы. На другім беразе рачулкі ходзяць важныя бацяны, шуміць лес...

Тут ён праходзіў сваю навуку, гэтыя палі ўлівалі яму ў грудзі сваю песню.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар...

Шырокі гэты абшар на ўзгорках пад Вязынкай! Жывая Беларусь, апетая Янкам Купалам, паўстае перад намі — срэбныя званочкі жаўранкаў, блакітныя далягляды, баравы шум... Але гэта зямля мае цяпер новы адбітак на сваім чале. Па ёй ходзяць новыя, шчаслівыя людзі. Янка Купала бачыў іх яшчэ тады, калі абуджаў у душы іхніх бацькоў пачуццё чалавечай годнасці, калі заклікаў:

Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.

Гісторыя паказала, што паэт быў правым у сваім сцверджанні таго, што «будзе ўнукаў панаванне там, дзя сягоння плача дзед».

З палёў нясецца песня. Вечар кладзе на ўзгоркі свае ружовыя адбіткі. А песня ўсё шырыцца. Можа, гэта песня народа, што выклікала да жыцця яго вершы, а можа, яго ўласная, аб якой ён гаварыў:

Песня мая не шукае чырвонцаў —
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям,—
Жыць толькі хоча ў радзімай староньцы,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.

Пеці, і з часам, у добрую пору,
Выклікаць водклік у сонным сяле...
Усю Беларусь — неаб'ятну, як мора,
Убачыць у ясным, як сонца, святле.

Яснае, як сонца, святло залівае зямлю і крылата лунае ў прасторах.

Спускаемся зноў у лагчыну да сяла. Зноў перад намі запаветная хата. Семдзесят год таму назад у гэтай хаце пачуўся яго дзіцячы голас. Якім моцным стаў гэты голас з гадамі, як грымеў ён над зямлёю, калі перад сялянскім хлапчуком адкрыўся зорны шлях! А выйшаў жа ён на гэты шлях з гэтай хаты. Выйшаў басанож. Шмат перад ім наперадзе было сустрэч, шмат песень, шмат сонечных ранкаў і сноў аб роднай Беларусі. І ён пайшоў, ён ідзе... І разам з ім ідзём і мы, бо і пасля смерці ён застаецца нашым настаўнікам і паплечнікам і сумесна з намі пракладае шлях наперад.

Вось апошні раз мільгнула праз дрэвы хатка, вось схаваўся за ўзгоркам былы фальварак, але доўга яшчэ з цягніка відаць сосны, што акружаюць Вязынку. Бываюць мясціны, да якіх прывыкаеш за кароткія хвіліны так, што не хочацца расставацца, і калі пакідаеш іх, здаецца, што пакінуў там частку самога сябе.

Так і тут. Вось ужо і сосны зніклі з далягляду, пасінела і цёмнай стала далячынь, а ўсё здаецца, што там стаіць сонца...

Бывай, Вязынка!

## КАЗКІ ЯНТАРНАЙ КРАІНЫ

Паміж латгальскімі азёрамі і Балтыйскім морам ляжыць Янтарная краіна.

І ўсё на гэтай зямлі мае янтарны колер.

І валасы ў людзей, і свежыя зрубы, і нават піва.

І вось у канцы мая, калі цвіце ружовы глог, мне нясцерпна захацелася ўбачыць гэтую краіну.

Калісьці ў казку адпраўляліся пехатою, але цяпер іншы час. Таму я паехаў у мінскі аэрапорт і там абмяняў некаторую колькасць грашовых знакаў на

білет «Мінск — Рыга», у якім касірка акуратна прапісала маё прозвішча, забыўшыся чамусьці дапісаць, што мне трыццаць адзін год і што я нежанаты.

Гэтым яна зламысна і падступна сапсавала мне ўвесь палёт, бо я вёз з сабою вялікую ляльку, і сцюардэса, падобная ў сваім венчыку на каралеву Поўначы, глядзела на мяне коса. Але я не крыўдую, усё было цалкам заканамерна: папера ёсць папера.

І вось самалёт нёс і нёс мяне над зямлёю, і скора раскінулася перад вачыма мора. Гэта была Янтарная краіна.

З аэрадрома я імчуся на таксі паміж чысцюткімі і добрымі дамочкамі прадмесця на сустрэчу са стольным горадам Лаймы — Рыгай, другім маім сэрцам.

Вы не ведаеце Рыгі? У Рызе самыя лепшыя ўсмешкі, самыя паважныя рабочыя, што з незапомных часоў носяць знак сваёй цэхавай годнасці — шапкі з нізкім казырком; у Рызе самыя ветлівыя і спакойныя прахожыя і самыя цудоўныя дзеці на зямлі.

І гэтага яшчэ мала. Калі на тым свеце будуць важыць дрэнныя і добрыя якасці гарадоў, калі Лайма разам з сівенькім панам богам возьмуцца за Рыгу,— хай яны кінуць на залатую шалю маю бязмежную любоў да цябе, сіні горад Янтарнай краіны. І тады ўсе расчуляцца і заплачуць і накрыюць гэты горад крыштальным купалам заўсёды блакітнага неба, каб ніхто не насмеліўся дыхаць на яго, як не дыхаю я. А дзе-небудзь у прыстойным месцы нябесны гарсавет прыб'е мемарыяльную дошку з надпісам: «Гэты горад любіў Караткевіч...»

Тут, у гэтым горадзе, жыве самы лепшы мой сябар Геронім Стулпан. Ён паэт, а гэта азначае — узвей-вецер, свістун, вятрак... Чакайце, гэта яшчэ азначае — пакутнік, галернік і чалавек бяссонных начэй.

Чорт стаптаў не адны лапці, пакуль падабраў нас у пару, дзякуй яму за гэта. І мне добра ведаць, што ў мяне ёсць сябар — цяпер ужо да канца, добра глядзець у яго сінія і янтарныя вочы, добра пакепліваць з ягоных прыгод і патаемна ганарыцца ім.

І вось з ім, з гэтым добрым, цудоўным сябрам, мы выйшлі надвячоркам у стары горад.

Стары горад — гэта вузкія, пераплеценыя ў лабірынт вулачкі, высокія шэрыя дамы, у якіх калісь жыла, гандлявала, ела, піла, рагатала, як Гарганцюа,

кпіла і кахала паўнакроўная старая Рыга. Дагэтуль з верхніх паверхаў — колішніх свірнаў і складаў — змеямі звісаюць перакінутыя цераз блокі канаты, на якіх падымалі ў склады тавар. Грыфельныя дамы, гладкі брук, крутыя дахі, мордачкі анёлаў на парталах — гэта старая Рыга.

У латышоў дрэнная фантазія. Упершыню я здагадаўся аб гэтым тут, па назвах вуліц. Не менш паловы вуліц старой Рыгі носяць назву Сарканас Гардэс. Як адрозніваюць іх самі латышы — гэта іх дзяржаўная і нацыянальная таямніца, бо гэтых вуліц — як пяску ў Рыжскім заліве. Вы выходзіце з дому, маючы цвёрды і варты ўсялякай ухвалы намер пагаліцца ў «фрызетаве» ля Парахавой вежы (там самыя ўважлівыя, прыязныя і адукаваныя цырульнікі ва ўсёй Латвіі), а потым пашпацыраваць па беразе Даўгавы. Здаецца, што можа быць лягчэй? Але так могуць разважаць толькі наіўныя людзі. Вы выходзіце з «фрызетавы», не ведаючы, што вуліца Сарканас Гардэс ужо закрыла сваю пастку. Можаце плакаць і маліцца, можаце абяцаць богу ніколі не курыць нічога, акрамя фіміяму для начальства,— нічога не паможа.

Вы пакідаеце надзейную плошчу, каб заглыбіцца ў завулкі... Вуліца Сарканас Гардэс... Вельмі добра! Адсюль трэба прайсці трохі далей, потым звярнуць направа, потым — налева... Стоп! Зноў вуліца Сарканас Гардэс... Другая... Пакідаеце за сабой метраў пяцьдзесят і выходзіце на вуліцу... Сарканас Гардэс... Трэцюю... Адчуваючы, што тут нешта не да ладу, ныраеце ў перпендыкулярна-радыяльную вулачку толькі для таго, каб праз пяць хвілін вынырнуць з яе на вуліцу... Сарканас Гардэс... Пасля гэтага заходу чалавек з гарадскімі нервамі звычайна кідаецца бегчы і выбягае на вуліцу... Сарканас Гардэс... Вы бежыцё і бежыцё, і паўсюль вас ветліва сустракае вуліца Сарканас Гардэс... Гэта як у страшным сне... І тады вы сядаеце на панель і пачынаеце жаласна і ціха клікаць маму...

...Калі я адчую набліжэнне смерці, я абавязкова пасялюся на вуліцы Сарканас Гардэс — і хай тады Касая пашукае мяне. Трасцу яна мяне знойдзе. А я буду пасмейвацца і пісаць усё новыя і новыя раманы...

...На вуліцы Сарканас Гардэс.

І ўсё ж я люблю стары горад. Некалі на яго вуліцах

пакутаваў лепшы з паэтаў-урбаністаў дваццатага стагоддзя Аляксандр Чак. Ён любіў Зязюліну горку — адзінае высокае месца ў горадзе. Адтуль ён спрабаваў зразумець тваю душу, старая Рыга, зірнуць з вышыні ў твае глыбіні.

Рыга, ліхалецце паэтаў! Рыга, любоў мая!

...А цяпер — ціха, мой спадарожнік, ціха, бо я маю заняцца недазволенай справай: хачу паказаць табе саборы Рыгі. Гэтую ерась катэгарычна забараніў мне рэдактар. А паколькі я збіраюся надрукаваць гэтыя нататкі ў ягоным часопісе, трэба быць мудрым, як змій, і слухацца. Таму я нічога не скажу ні пра гучны, страшны, як харал дэманаў, Домскі арган, ні пра самую званіцу Дома, ні пра цудоўныя вітражы, праз якія льецца ў сабор чырвонае, як віно, і жоўтае, як янтар, святло. І дарэмна я не скажу аб вітражах, бо беларускія майстры славіліся імі некалі на ўсю Еўропу, а цяпер гэтае тонкае мастацтва занядбалі на нашай зямлі. І толькі Прыбалтыка і дагэтуль любіць, удасканальвае, развівае далей цудоўны «куншт»[1], які дазваляе бачыць свет больш вясёлкавым, чым ён ёсць на самай справе. А гэта ж уласціва кожнаму з нас: нездарма ж мы на світанку жыцця любілі глядзець на зямлю праз каляровыя шкельцы.

Ніякага дачынення да гістарычнай трухі не мае ўнутраны дворык рыжскага гістарычнага музея, і таму я магу расказаць аб ім больш падрабязна. Гэта маленькі дворык, абкружаны гатычнымі арачкамі, увесь чырвона-цагляны і бела-мармуровы. Над ім блакітнае неба і снежныя рэдкія аблокі, а ў ім, як нявеста, квітнее белая чаромха і пяшчотна-ліловым полымем гарыць бэз.

Рэнесанс памёр, як бы мы ні сумавалі па ім. Ад яго асталіся толькі кнігі і гэты дворык ля Домскай званіцы. І таму, як бы ты ні чакаў у гэтым дворыку сваёй Джульеты, на дне сэрца жыве сум.

І мімаволі зайздросціш срэбным пеўням на шпілях дамоў і званіц, бо яны бачылі ўсё гэта, і перажывуць цябе, і будуць вітаць тваіх прапраўнукаў.

Так, тут нідзе няма на шпілях агіднага знака крыжа, сімвала нялюдскай пакуты і прыніжэння. На ўсіх шпілях Рыгі дзёрзка ўзносяцца ў неба нахабныя,

[1] Куншт — мастацтва.

вясёлыя і звонкія пеўні. Яны чхаюць на ўсё, смяюцца з груганоў і хмар, яны толькі што не спяваюць. А можа, мы проста не чуем іхніх спеваў з зямлі?

Пеўнік — сімвал яснага світання! Пеўнік — сімвал нараджэння новага дня!

Менавіта такі пеўнік сядзеў калісь і на званіцы Пятра, самай высокай драўлянай званіцы на зямлі. Пра яго прыгоды раскажа першая янтарная казка...

## КАЗКА ПРА СРЭБНАГА ПЕЎНІКА

Скрып... скрып... скрыпянец... Што азначае: «Сядзеў пеўнік на шпілі...» І не дзе-небудзь, а на шпілі званіцы Пятра. А званіца гэтая была самая высокая драўляная званіца на зямлі, а значыць — і ў Рызе.

І вось што казалі латышскія сяляне пра званіцу Пятра: «Не забудзь зняць шапку перад Пятром. Усё адно Пётр яе скіне».

І як жа было пеўніку не ганарыцца, стоячы вышэй за ўсіх і першым з усіх пеўняў на зямлі сустракаючы сонца? Ён і ганарыўся, тым больш што быў тады зусім маладзенькі: толькі год ці два назад выкаваў яго з чыстага звонкага срэбра юнак Лат, самы здольны мастак ва ўсёй Рызе.

А было гэта чатырыста год назад, і латышам тады дрэнна жылося ў сваім горадзе. Кіравалі горадам епіскап і яго святое апалчэнне, што насіла пад плашчом чысціні акрываўленыя даспехі, а на поясе, побач з ружанцам, прагны рыцарскі меч.

Людзі плакалі і лаяліся, але да пеўніка ўсё гэта не даходзіла. Што яму было, па маладосці год, да людзей? Ён цікавіўся толькі адным Латам, як мы цікавіліся б лёсам далёкага бацькі, пазнаваў яго ў чалавечым мурашніку, сачыў за ім, радаваўся, калі Лат глядзеў на яго.

— Бессардэчны,— казалі пра нашага пеўніка другія пеўні, што стаялі бліжэй да слёз і гневу зямлі.

Яны не ведалі (ды і сам пеўнік не ведаў), што не можа не быць сэрца ў творы вялікага майстра, што сам майстар не можа не даць часткі свайго сэрца свайму твору, што пеўнік проста дрэнна чуе, пра што гнеўна спявае зямля. А між тым яму кожны

раз хацелася заспяваць для ўсіх там, унізе, калі першы прамень сонца падаў на яго. Тады нешта цёплае варушылася ў яго срэбных грудзях. Толькі ён не ведаў, што гэта сэрца і што яно стане вялікае, калі ён пачуе песню зямлі.

І вось аднойчы, прачнуўшыся маёвым ранкам і зірнуўшы з вышыні на горад, пеўнік убачыў унутраны дворык ля Домскага сабора. Ніколі ён яму не здаваўся незвычайным, гэты дворык, але сёння пеўнік упершыню адчуў, колькі прыгажосці ў маленькіх арках, у басейне, у белым вэлюме чаромхі і ў ліловай дзёрзкасці бэзу... Яго гаспадар, яго Лат, быў у дворыку, і не адзін. Там была і дзяўчына. І Лат нагадваў дзёрзкі бэз, а дзяўчына — белую чаромху.

Пеўнік не ведаў, што дзяўчына была пляменніца самога епіскапа, што Лату небяспечна было быць там, дзе яна, бо ён смерд. Пеўніка проста здзівіў незвычайны агонь у вачах юнака, і яму ўпершыню захацелася паслухаць, пра што яны там гавораць. А паколькі слухаць ён яшчэ не ўмеў, ён пачуў не ўсё.

— Я... цябе,— сказаў Лат.— Што ты хочаш, каб я зрабіў у славу тваю?

— Выкуй мне са срэбра такую ж зямлю, як гэтая...

— ...як бог?

— Хіба не хопіць сілы?

— Хопіць, калі ты падорыш мне адзін...

І тут пеўнік убачыў, што іхнія дзюбы — ці як гэта там завецца ў людзей? — зліліся. Яму стала сорамна чагосьці, і ён апусціў срэбныя павекі.

Так здарылася, што першае слова, якое пачуў пеўнік, было слова любві. А калі такое здарыцца з істотай, тады вушы яе адкрываюцца для ўсіх галасоў зямлі. І на пеўніка раптам нахлынуў прыбой гукаў, і ён пачуў, як смяецца праз слёзы, кляне і лаецца зямля.

— Як жа я мог без гэтага? Як я мог не чуць? Я ж іхні! Мяне выкавалі там! Мала таго — я ж першы, першы з іх сустракаю сонца.

Ён слухаў, слухаў, і нешта вырастала, вырастала ў яго срэбных грудзях. За дзень яно вырасла так, што пеўніку стала балюча, і ён не ведаў, што зрабіць, каб суняць гэты пранізлівы, усеабдымны боль.

Застогне нехта ўнізе — як іголкай працінае.

І таму ён, праседзеўшы цэлы дзень з заплюшча-

нымі вачыма, нават узрадаваўся, калі прыйшла ноч, бо ўсім пеўням, як вядома, уначы належыць спаць. «Засну і заўтра ўстану здаровы».

Але разбудзіла яго не сонца, бо хмары густа зацягнулі неба над Рыгай, а страшны крык соцень крумкачоў ды нейкая невядомая трывога.

...Узняў срэбныя павекі і ўбачыў на плошчы перад Домам людскі мурашнік. Чорныя постаці завіхаліся ля слупа.

...А над плошчай убачыў крумкачоў, што кружылі ў бурым небе. І неба было бурае, бо на плошчы раскладалі вогнішча. Чорныя людзі неслі да слупа сушняк, а ля слупа, прыкуты, стаяў Лат у сваім белым плашчы. Янтарныя валасы рассыпаліся па плячах, а янтарныя шалёныя вочы глядзелі ў бок дворыка, у якім не было — толькі пеўнік бачыў гэта — епіскапавай пляменніцы.

Пацягнуўся да ног Лата першы зыркі струмень агню. Але Лат маўчаў. Затое плакалі людзі, і пеўнік зноў адчуў нясцерпны боль.

Кружылі крумкачы.

Бедны пеўнік у трывозе замітусіўся на сваім прутку. Ён ведаў: срэбныя пеўнікі не лётаюць і не крычаць. Яны могуць толькі нячутна гаварыць паміж сабою. Але ж Лат, але ж гаспадар не крычаў, хоць агонь пачаў лізаць край ягонага плашча. І ў чым ён быў вінен, гаспадар? Ён жа не ўкусіў тае, у дворыку, ён проста дакрануўся да яе сваёй дзюбай.

І тады пеўнік шалёна тарганууся на шпілі і адчуў, як з болем выйшаў з ягонага цела востры пруток. Дзіва, але крылы ўзняліся ў паветра, ножкі напружыліся і адштурхнуліся ад спрадвечнага седала.

Пеўнік паляцеў.

Ён падаў у сваім палёце, і выраталі, рабіліся ўсё бліжэй постаці людзей на плошчы.

Першым ударам крылаў ён збіў полымя, што падбіралася да ног Лата. Агонь лізаў пеўніка, але ён не адчуваў пакут: унутраны боль быў мацнейшы. І людзі крычалі, вітаючы пеўніка, а ён збіваў полымя, і такая сіла тады жыла ў ім, што ён сваёй мяккай срэбнай дзюбкай разрываў цвёрдыя сталёвыя ланцугі, быццам яны былі з паперы.

Ужо не было агню — толькі дым, ужо не было ланцугоў — толькі пашматаныя кавалкі іх, а ён у

ярасці змагаўся з тым, чаго не існавала. І Лат, перш чым знікнуць у натоўпе, узяў пеўніка і высока падкінуў яго:

— Ляці!

І той паляцеў на сваё месца, цяжка, з натугай, штохвіліны зрываючыся, бо пеўні — а тым больш срэбныя — лётаюць дрэнна.

Варта не паспела схапіць яго, ён зноў апусціўся на сваё месца. А там яго ўжо ніхто не мог дастаць, бо шпіль Пятра быў такі высокі, што з яго было відаць усю Янтарную краіну...

Часам на яе абшарах пеўнік бачыў Лата: суровага, заўсёды гатовага да бітвы. Пеўнік не здзіўляўся, што гаспадар цяпер пасталеў. Ён і сам ужо быў не бліскучы, а закураны, і дзюбка ў яго была чырвоная, бо ён скрывавіў яе аб ланцугі. Лат і ён былі цяпер — пара. І таму, калі пеўнік бачыў, што да Лата крадзецца нечаканая бяда, ён голасна крычаў на ўсю краіну:

— Лат, кокерыке, Лат! Вораг з захаду!.. Кокерыке! Лат, вораг з поўначы!.. Кокерыке! Ко-ке-ры-ке!!!

І ворагі нічога не маглі зрабіць з ім.

Выгнаныя з латышскай зямлі, яны дзвесце год спадзяваліся адпомсціць, і ўрэшце гэта ім удалося, у сорак першым, калі яны падступалі да Рыгі. Трывожна крычаў пеўнік на шпілі Пятра — і вось праз многа год адзін з нашчадкаў епіскапа стрэліў па ім з гарматы. Снарад пацэліў у званіцу, і яна, палаючы, усім целам рухнула на зямлю разам з гарластым вестуном раніцы. У рыжскім музеі ёсць здымак: званіца падае ў агні, а ў неба ляціць палымяны пеўнік.

Лат адпомсціў ворагу і прагнаў яго з Янтарнай зямлі, бо Лат вечны, ён не памірае. І прыйдзе, скора прыйдзе ўжо час, калі чалавек з янтарнымі валасамі, вечны Лат, адновіць званіцу і пасадзіць на яе шпіль новага, яшчэ лепшага пеўніка.

І давеку будзе — скрып... скрып... скрыпянец...— сустракаць сонца срэбны пеўнік над Рыгай.

А што ж, вядома, так і будзе. І я, падарыўшы сабе і вам гэтую казку, толькі цяпер падумаў, што лёс кожнага сапраўднага паэта — гэта лёс нашага пеўні-

ка. Калі ён сапраўдны — ён першы сустракае раніцу і першы крычыць, калі вораг з'яўляецца на мяжы ці нават у сэрцы суайчынніка.

І ніхто не ведае, што яго сэрца баліць за ўсіх.

А калі ўсё добра — ён весела круціцца на сваім прутку і бязмэтна ззяе, каб радаваць легкаважнае сэрца юнака, які вяртаецца са спаткання разам з сонцам. І яму ад гэтага добра.

Некалькі год таму я і Геронім паехалі ў этнаграфічны музей. Латышы — малайцы: яны звезлі з усяе Латвіі найбольш тыповыя сялянскія пабудовы і паставілі іх за горадам, у лесе, на беразе сіняга возера. Стаяць у лесе хаты, свірны, адрыны, вясковыя цэрквы, млыны, вянглярні, корчмы, і чалавек можа за дзесяць хвілін дайсці ад земгальскай сялібы да курземскай і паглядзець, як жылі продкі, а за некалькі гадзін даведацца пра ўвесь побыт старой Латвіі.

Даўно пара і нам, беларусам, зрабіць у сябе такое.

Мы з Геронімам, як і ў жыцці, не пайшлі ў царкву, затое старанна агледзелі карчму і пашкадавалі, што гэта толькі музей. Але справа не ў нашых схільнасцях, а ў другім. Была позняя восень, і музей зачынялі да вясны. Але нам паказаў усё вартаўнік, мудры стары латыш, чыста паголены, маршчыністы і, як многія жыхары поўначы, падобны на старую бабулю. Такія былі стырнавымі ў вікінгаў.

Але цяпер зусім іншы час, таму на старым быў брызентавы балахон, пад ім безрукаўка-кацавейка, а на нагах валёнкі, падшытыя знізу рабрыстай гумай з аўтамабільнай шыны.

Стары каменціраваў усё, што мы бачылі, цікава і даволі з'едліва.

Мы зайшлі ў відземскую хату. Тут я ўбачыў дзіўную печ, што нагадвае звон, а пад ёю — ачаг і зэдлікі. Сядзі сабе ў зімнюю халодную ноч, як у цагляным пакоі, і прадзі або вяжы сеткі: цёпла, светла (я асабіста дык і не вылазіў бы, так і спаў бы тут). На двары завіруха, а тут скача агонь, тут казкі, тут жыццёвая мудрасць старых і жарты моладзі. Хараша!

І вось калі мы выйшлі ў бакоўку гэтай цудоўнай, старажытнай (яна мае не менш як дзвесце год) хаты, стары паказаў нам гравіраваны партрэцік чалавека ў лаўровым вянку.

— Сляпы Індрыкіс,— сказаў нам вартаўнік,—

быў калісьці такі паэт... І вось, бачыце, вісіць на сцяне ў сялянскай хаце. Вы відушчыя — ці заслужылі вы такі гонар?

Я не скажу вам, хто з нас спаслаўся на нашу маладосць. І тады стары ўсміхнуўся:

— Ну, а са старэйшых вашых сяброў многія заслужылі?

— Чакайце,— неяк трохі самаўпэўнена сказаў я,— вось памром... можа, тады ўжо.

— Канечне,— суцешыў нас добры стары.— Толькі Індрыкіс, каб ён не быў сляпы, мог бы сам убачыць гэты партрэт у сялянскай хаце.

І, памаўчаўшы, спытаў:

— Што ж, можа, людзі горш пачалі пісаць?

— Не,— упершыню сур'ёзна сказаў я.— Лепш.

— Вось бачыце, значыць, лепш, ды не ўсе... Часамі каторыя былі паадвыкалі ад святой шчырасці кожнага слова... Што ж, хлопцы, ідзіце далей самі. Ногі ў мяне дрэнна ходзяць... А малады — бегаў...

Гэтая сустрэча была, бадай, самая цікавая за апошнія гады. Таму я і расказаў вам пра яе.

Мне робіцца лягчэй на сэрцы, калі бачу, колькі харошых хлопцаў (з той самай святой шчырасцю радка, аб якой казаў стары) з'явілася за апошні час. Моцныя повязі сплятаюць гэтых людзей, у якой бы краіне яны ні жылі. Братэрства нацый, братэрства шчырасці, братэрства паэзіі. І вось ужо на твары зямным алмазная сетка — ад сэрца да сэрца. Гэта толькі тыя, каго я ведаю: Знаменскі, Нішніянідзе, Астаф'еў, Барыскоў, Іяселіяні, сотні-сотні другіх. І колькі іх на Беларусі, і колькі ўсюды! Праз рэкі, моры, акіяны — тысячы моцных повязяў, братэрства сэрцаў.

Я рады, што і Латвія падарыла мне некалькі яшчэ нядаўна нечаканых, а цяпер неабходных сяброў. Не кажучы ўжо аб Героніме.

Гэта ўсе сапраўды добрыя хлопцы. Гэта Ояр Вацыецis (Вацыецis азначае «немец», хоць ніякі ён не немец, а латыш), гэта Арвід Скалбе (не той Скалбе, што пісаў казкі для дарослых, а той, што піша казкі для маленькіх), Яніс Лусіс (невядома, калі ён смялейшы: тады, калі водзіць яхту, ці тады, калі ўзнімае праблемы).

Рэдка калі я сустракаў такіх чыстых, такіх адда-

ных справе паэзіі людзей (я маю на ўвазе не толькі вершы). І што самае дзіўнае ў латышскім характары — чысціня ў ім не мяжуе з тым ідыёцка-сумным ідэалізмам, ад якога кожнага нармальнага чалавека нудзіць.

«Нудны, як усе людзі занадта ўзвышаных ідэалаў», гэты афарызм, мусіць, не датычыць маладога чалавека Янтарнай краіны. А маладога паэта — тым больш. Яны ўсе жывыя, вельмі жывыя, і нават іхнія слабасці мілыя мне.

Геронім пазнаёміў мяне з маладым шведам, кашчавым, гарбаносым і з нейкімі дзіўнымі манерамі. Швед сяк-так гаварыў па-руску, і мы трохі разумелі адзін аднаго. Швед быў цікавы. Ён так параўноўваў норавы і звычаі Швецыі і СССР, што можна было кончыцца ад смеху. Я прыліп да яго. А латышскія сябры сядзелі вакол, пакурвалі і маўчалі. Маўчалі, як кітайскія багі, як фіны, як лапландскія алені. Толькі часам нехта сур'ёзна пускаў дым і казаў:

— Так... То ж бо яно... Але...

Толькі вечарам выявілася, што швед ніколі не бачыў Швецыі і не ведае па-шведску ніводнага слова, бо завуць яго Арвід Скалбе. Беднага, даверлівага беларуса зноў падманулі.

І рагаталі з мяне, а я шкадаваў, што мой прадзед не эмігрыраваў у Парагвай і асудзіў нашчадка на ганьбу і сорам. Потым я ўзяў рэванш, ахарактарызаваўшы вычварна-бяздарны, ганебна-эклектычны дом Савы Мамантава як шэдэўр маскоўскай архітэктуры пятнаццатага стагоддзя і неўміручы помнік геніяльнаму дойліду. Яны паверылі.

Так што мы квіты, і я зноў люблю латышоў.

Мая табе парада, чытач: калі хочаш быць шчаслівы — бяры ў сябры латыша, а ў жонкі — латышку. Латышскія мужчыны — гэта верныя вочы і верны меч, гэта розум і крыштальная чысціня. А латышскія жанчыны — гэта янтарная казка, гэта прыгажосць і верная, вечная любоў. Нейкі злаславец сказаў, што жанчыны могуць зрабіць з нічога тры рэчы: капялюшык, салату і скандал. Дык вось трэці інгрэдыент гэтай злоснай прыказкі начыста адсутнічае ў латышскіх жанчын. Яны для гэтага занадта задумныя, жаноцкія і лірычныя. Гэта не лясны пажар — гэта цёплы добры агонь, да якога заўсёды будзе імкнуцца

тваё сэрца. Толькі да яго аднаго. А якія імёны: Лайма (шчасце), Мілда (мілая)!

А латышскія дзеці! Дзеці ўсюды прыгожыя, але такіх прыгожых дзяцей, як там, мне, бадай, і не даводзілася бачыць. Латышы любяць дзяцей — першая прыкмета добрага чалавека! — і дзеці заўсёды прыбраныя, дагледжаныя. Яны адчуваюць, што яны — скарб. І таму дзеці тут мала плачуць і глядзяць на свет з аптымістычным спакоем васількова-зменлівымі, як бурштын у вадзе, вачыма.

Аднойчы мы надумалі паехаць у Відрыджы, у добрую Відземе, зямлю ідылічных хутароў, якая нарадзіла зусім не ідылічнага пісьменніка-рэвалюцыянера Леана Паэгле. З гэтай прычыны я раненька прыйшоў у былы рыжскі замак, дзе працуе мой сябар.

Замак гэты — вялізны квадратны будынак з унутраным дваром. Калісьці тут грукалі падковамі па камені рыцарскія коні, луналі харугвы і п'яныя воклічы. Тады тут шмат гаварылі пра бога і з бухгалтарскай дакладнасцю падлічвалі, колькі латаў трэба адправіць на той свет, каб астатнія паверылі ў літасць Хрыста і яго слуг і ў тое, што гэтыя слугі нічога не робяць без маральна і юрыдычна абгрунтаванай прычыны.

Цяпер тут Палац піянераў і Літаратурны музей імя Райніса.

Дзіўна, але ніякая гістарычная з'ява не знікае, не пакінуўшы слядоў і моцнага, часцей за ўсё жыццяздольнага, насення. Вы можаце знішчаць народ, прышчапляць яму чужыя вераванні і чужую мову, і ўсё ж насенне, наканавана і ўпарта, дасць свой парастак, ды яшчэ часам і на вашым трупе.

Ці думалі божыя служкі, перакладаючы на латышскую мову казані і ўрыўкі з Евангелля, што самі капаюць для сябе яму? Не, яны толькі хацелі, каб прыгнечаныя латышы разумелі слова крыжа, каб яны сталі паслухмянымі рабамі. Дзеля гэтага яны складалі першыя латышскія слоўнікі і вывучалі латышскія язычаскія паданні. Відаць, яны дрэнна верылі ў догмат наканавання божага. І, мусіць, ужо зусім не ведалі пра вынікі сваёй набожнай справы, бо зарракліся б яе рабіць.

Бо, самі не ведаючы гэтага, яны паклалі першы камень у падмурак латышскай літаратуры. Бо, самі не ведаючы гэтага, яны зачалі ў сваім чэраве дзіця, якое забіла іх.

І вось, як нейкі сімвал, у даўнім гняздзе цемрашальства і прыгнёту цяпер літаратурны музей, музей той літаратуры, якая жывіць не толькі Латвію, але і ўвесь культурны свет.

Нефы старой замкавай царквы былі для музея занадта няўтульныя. Іх падзялілі на тры паверхі. Кабінет майго сябра на верхнім паверсе, пад самымі гатычнымі скляпеннямі. А сам Геронім сядзіць у высокім крэсле, вывучае новыя дакументы пра фальклрыста Крыш'яна Барона і сустракае мяне шчырай усмешкай:

— Едзем!!!

Я нідзе не бачыў гэтакіх дарог, як у Латвіі. Латышы назнарок падганяюць сваю прыроду пад маляваныя кілімы. Такія прыгожыя замкі, такія затокі, зарослыя лілеямі, такія дэкаратыўныя купы дрэў! Не хапае толькі лебедзяў і дзяўчыны, што купалася б разам з імі. Зрэшты, лебедзі ёсць — у Рыжскім канале, а дзяўчаты, вядома, выбіраюць месца для купання трошкі далей ад дарогі...

У аўтобусе, у якім я ехаў, былі бадай што адны супрацоўнікі літаратурнага музея. Першы прыпынак зрабілі ля так званай «трыццаць восьмай паралелі» (кветкі нявіннага латышскага гумару, бо «трыццаць восьмая паралель» — гэта буфет на трыццаць восьмым кіламетры ад Рыгі), дзе мы накуплялі бутэрбродаў і яшчэ сяго-таго. Гэты легкаважны рэмаркізм прывёў да таго, што пасля «трыццаць восьмай» усім у аўтобусе хацелася абдымаць шырокі свет і складаць вершы ў гонар жанчын. Усе латышы пішуць вершы, гэта іх нацыянальная хвароба, і ў гэтым сэнсе яны падобныя да беларусаў.

Латышы наогул менш адрозніваюцца ад беларусаў, чым прынята думаць. Ды і гэтая розніца такая нязначная, што яе лёгка ліквідаваць. Яны неяк хутка спасцігаюць таямніцы славянскай душы, і ў іхнім характары ёсць лёгкі налёт дастаеўшчыны, як у славяніна.

Аднаму латышскаму сябру я пераказаў некалі апавяданнеЛяскова «Чартагон». Вы, вядома, памя-

таеце гэты твор. Там апісваецца папойка ў «Яры», папойка з цыганамі і біццём люстраў.

— Усё гэта вельмі добра,— сказаў сябар і, задумаўшыся, дадаў: — Але нашто люстры біць? Вось гэтага я ніяк не разумею.

Увесь гэты дзень я заўважаў, што мой сябар нечым заклапочаны. А потым ён раптам зарагатаў:

— А здорава! Дальбог, здорава! Напэўна, гэта і сапраўды добра — біць люстры.

Я ніколі не біў люстраў. Ён, як цывілізаваны чалавек, напэўна, таксама не будзе іх біць, але ж думка — гэта той жа самы ўчынак, і таму мне давядзецца на страшным судзе адказваць і за гэты грэх.

Развіў, называецца, свядомасць сябра...

...Наваколле Відрыджы ўсё блакітнае ад вод, ручаін і ціхіх азёр. Тут жыве харошы народ, мудры і працавіты, як сама Відземская зямля. Жыццё гэтых людзей ідзе ў змене дня і ночы, лета і зімы, працы і адпачынку — і ў гэтым, відаць, і ёсць найвышэйшая мудрасць: есці хлеб з поля, якое ты сам урабіў.

Удзячная, добрая зямля можа заваліць маслам і малаком паўсвету.

Добрая парода жывёлы, сытыя цяляты на адпоі, такія кругленькія і чысценькія, што хоць давай залаты медаль.

Здавалася б, чаго яшчэ?

Як чаго? А дурні, якіх, як вядома, не сеюць і не жнуць? І гэтыя дурні ходзяць у разумных не толькі ў Латвіі, але яшчэ і ў маім Прыдняпроўі, і на Разаншчыне, і шмат у якіх мясцінах.

Ёсць правільная пастанова: зааραць лугі з марнай і дзікай травою, выбітыя і здратаваныя жывёлай. Супраць гэтага не будзе пратэставаць ніводзін добры гаспадар.

Але хто, скажыце, даў загад заворваць лепшыя лугі, дзе косяць духмянае, як чай, сена? Ніхто. І, аднак, гэта робіцца праз нядбайных гаспадароў. Нядаўна я быў на Разаншчыне. Там, у наваколлі Салотчы і ясенінскага сяла Канстанцінава, начыста заaралі лепшыя ў Саюзе салотчынскія паплавы, сена з якіх калісь ішло на арлоўскія і пецярбургскія конныя заводы. Як гэта назваць, як не нядбайствам?

Тое ж робяць і ў некаторых другіх мясцінах.

О, каб можна было вымачыць дурняў і засеяць

зямлю разумным насеннем! Але дурні, на жаль, вільгацеўстойлівыя і родзяць, як мак-самасейка. І ўсё ж, як ні цяжка, дзяржава павінна зрабіць гэта, бо справа, урэшце, ідзе аб шчасці працаўніка, які сваімі рукамі стварыў усё, што ні ёсць на гэтай зямлі.

Людзі варты шчасця, дзе б яны ні жылі: на Ацэ, у Прыдняпроўі, ці па берагах сініх латышскіх азёраў, або ў наваколлі Відрыджы.

А людзі ў наваколлі Відрыджы, як і ўсюды, добрыя.

Ці памятаеце вы, Ганна Лестландэ, двух бадзяг, што проста так зайшлі ў вашу хату? Вы паілі нас малаком, не пытаючы, хто мы і што мы, не ведаючы нічога пра нас. Вашы натруджаныя рукі былі цёмныя і шорсткія на далонях, як торф, ледзь цямней за таго цяжкага пульхнага хлеба, які вы кроілі для нас.

Ваш дом з устойлівымі, адвечнымі рэчамі, такімі звыклымі, што аб кожнай можна было б расказаць гісторыю, быў нашым мірным прытулкам толькі на адну гадзіну. Я хачу аддзячыць вам за ўсё, добрая пажылая жанчына. І я не ведаю, як зрабіць гэта. Хіба расказаць пра вас у казцы, з якой вы калісь выйшлі на зямлю.

Або вы, Бірута Бетхерэ, маладзы і такі прыгожы брыгадзір, царыца відрыджскіх ніў, з глыбокімі, як неба, вачыма, такая непарушна-спакойная на выгляд, што нельга было паверыць у ваш подзвіг, калі — толькі за дзень да нашай сустрэчы — запалаў ад удару маланкі цялятнік. Мы хадзілі з вамі па палях, чулі вясёлы перастук з кузні, бачылі за жывымі агароджамі сытых кароў, пра кожную з якіх вы ведалі ўсё. Гэтыя каровы былі такія паважныя, што чалавек адразу разумеў, чаму ў старажытным Егіпце абагаўлялі карову Хатор і яе багароўнага мужа быка Апіса.

Аставайцеся шчаслівыя, Бірута Бетхерэ і Ганна Лестландэ!

...Дарэчы, я дрэнна аддзячыў за гасціннасць. Даслаў свае кнігі. Такога ўдару яны, вядома, не чакалі.

Вось чаму я хачу хоць трошкі акупіць свой грэх. Пішу —

Ці-лі-ліа-цірр... Што азначае: лётаў жаўранак у паднябессі... Не які-небудзь там безгалосы саліст, не па заслугах увянчаны званнем, а сапраўдны, звонкі відземскі жаўранак, што прыляцеў сюды яшчэ ў марозную ноч, змёрз, згаладнеў, а раніцай паляцеў і аддзюбнуў ад сонца кавалачак, каб закапаць яго ў закалелыя скібы відземскай краіны.

І вось лётае і спявае, бо заслужыў у сваёй зямлі права на палёт і на спеў.

Ён дрыжыць нясцерпна-высока, гэты жаўранак. А пад ім, у сіняй глыбіні стаўка, трапеча яго двайнік.

І мы ідзём па беразе якраз паміж двума жаўранкамі. І ўвесь свет спявае вялізным жаўранкам, радасны і празрысты, як ён.

Дарога вядзе ад хутара да хутара, мяккая, як аксаміт, расквечаная блакітнымі лужынкамі, звілістая і няпэўная, як палёт матыля.

Яна віецца ля рэчак і маленькіх гаёў, пераваливае цераз былыя ледавіковыя грывы, нырае ў крывавыя канюшыннікі.

Дыхайце, грудзі, спявайце, вусны, спяшайцеся ў дарогу, ногі!

І няхай трапеча над галавою жаўранак, няхай ляціць у твар вецер з не ходжаных яшчэ палёў.

Дай руку, друг! Чуеш, певень заве нас! І ва ўсім свеце мы адны. Толькі мы і жаўранак у далёкай вышыні... Вось сіняе вока возера, вось ліпы над ім.

Над возерам рута на луках,
І ліпы, і чмель на ляту.
Сваю невялікую муку
Ўсю зможаш ты выплакаць тут.

Нашто мне выплакваць муку, дружа? У мяне ж няма яе, праўда? Адкуль бы ёй быць? Проста мы разам ідзём з табою ў краіну казкі, і на яе межах сустракаюць нас мудрыя калматыя сабакі. Такія белыя, як быццам гэта малюсенькія кавалачкі воблака ўпалі на зямлю.

— Ці добрыя вы людзі? — пытаюць у нас яны.— Ці наступалі вы сабакам на лапы, ці бралі іх з сабою на рэчку, ці дзяліліся з імі апошнім кавалкам?

— Так, мы добрыя,— кажам мы.

— Тады ідзіце налева ад вялікай дарогі,— ка-

жуць сабакі.— Там чароўныя маленькія хутары, там квітнеюць сады, там жыве Ганна. Там і казка, якую вы шукаеце.

Мы ідзём туды, дзе — далёка-далёка — узносяцца раскошныя шаты дрэў.

...Імкне ручаінамі празрыстая вада, калыша ў сабе срэбнае цельца маленькай вясёлай міроны. І, каб міроне было добра жыць, цягнуцца з неба да ручаін і палёў празрыста-дымныя фіранкі далёкіх дажджоў.

Стань ціха! Чуеш? Гэта мірона кажа журліва-салодкім, нячутным галаском:

— Дзякуй вам, добрыя дажджы! Дзякуй табе, дарагая зямля! Дзякуй і вам, добрыя людзі, за тое, што ідзяце берагамі і не хочаце злавіць мяне!

Хутары высокія, з шэрага і ружовага каменю, які ляжыць у мурах такімі прыгожымі няроўнымі брыламі. Брылы гэтыя знадворку роўна і гладка адпаліраваны. А да вялікіх дамоў квадратамі прымыкаюць дворныя будынкі.

Канавы, пазарастаныя густой травой, струменяць кудысьці ясную, добрую ваду. Над імі непралазным гушчаром растуць вялізныя, як коўдра, лопухі. Пад іх навіссю цырымонна вітаюцца агністы Шантэклер-певень і мініяцюрная Юнгфрау — вадзяная курачка.

— Як сп-р-равы, о мая цудоўная, мая ясная, мая невер-рагодная, мая маладая каралева к-канаў?

— Вы ўсё жартуеце з беднай пасялянкі, месьё,— апускае яна вочы.— А справы нічога... Рэвень урадзіў такі густы — хаваешся з галавой.

Певень скоса паглядае на свой адбітак у вадзе. І раптам заўважае нас.

— Кур? Кур? — пытае ён па-латышску.— Куд-куды ідуць гэтыя цыбатыя?

— Кракс,— гэта качка вядзе ў лапуховыя нетры сваю пушыстую флатылію.— Кракс. Гэта два паэты. Паэты сярод людзей — усё адно што індыкі сярод птушак... Шабалды-балды-балды... І так усё жыццё... Смехата! Гэта яны ідуць да добрай Ганны, што не шкадуе мне слімакоў.

І качка заплывае недзе пад бераг. Толькі вялікія лопухі варушацца над ёю.

— Перагарае, як у качкі,— здзекліва кажа Шантэклер.— Глытае гэтых слімакоў разам з панцырам.

Але качка не чуе. Яна далёка. І стаяць, не варух-

нуцца над канавай вялізныя, як коўдра, лопухі.

Дзе ты, дом добрай Ганны? Ага, напэўна, вунь там, дзе квітнеюць дрэвы ля агароджы, дзе вада з канавы разлілася маленькім азярком. Над азярком пунька — зусім як у музеі пад Рыгай, і жорны пакладзены замест прыступкі пад яе дзвярыма. А над азярком, над коўдрамі лопухаў стаіць на дрэве бусел.

— Ганна! Ганна! Ідуць два цыбатыя. Ідуць два бясперыя. Хутчэй кажы хохлікам-гномам, каб канчалі рыхліць грады пад бабы.

Ах, бусел, бусел, што ж ты нарабіў! Як жа нам цяпер паглядзець казку?!

А вось і яна. Ганна выходзіць нам насустрач і запрашае ў дом.

— Піенс,— кажа яна, і я разумею: малако.

— Майзе,— кажа яна, і я разумею: хлеб.

Будзьце благаслаўлёныя, малако і хлеб Відземе! Будзьце благаслаўлёныя, добрыя зморшчынкі гаспадыні.

Тут усё адвечнае і цяжкаватае. Вялізная дубовая шафа, у якой начамі сама па сабе пахрумствае чысцюткая, як снег, накрухмаленая бялізна. Пліта, пафарбаваная, як усюды ў Латвіі, у чырвоны колер. А на сценах доўгі і шырокі фрыз, на якім намаляваны высокія, у рост дзіцяці, казачна-бардовыя мухаморы.

Дзе ж яшчэ жыць казкам, як не тут? Тут, дзе ўсе рэчы дзесяцігоддзямі стаяць на сваім месцы. Тут, дзе нават святло прабіваецца ў пакой праз выразаныя сэрцайкі ў аканіцах. Тут, дзе бабуля, бабульчына маці і яе бабка — усе сядзелі на тым жа крэсле і ставілі ногі на той жа зэдлічак.

А дзеткі-малалеткі, гуляючы ў хованкі, часам, як у самае надзейнае месца, хаваліся пад шырокую — у восем пол — клятчастую бабуліну сукенку.

Казка надзейна затаілася ў гэтым доме. Гэта добры дамавік звівае з гарохавіння мяккі цяўнік пад нагамі ў кароў. Гэта добрая жонка Бая пахрумствае ўначы бялізнай, пераглядаючы яе.

І гэта хохлікі сядзяць ноччу ў цёплым попеле ля пліты, гуляючы ў карты чалавечымі снамі.

— Што ты мне торкаеш гэты сон? Хіба гэта бітка? Клопат адзін: гаспадар сніць пра капу канюшыны, што забыўся ў полі... Пхе!

— Замірыў, ды пад цябе чырвовага туза... Гэта Ганна сніць пра ўнукаў... Ну, чым будзеш біць? З'еў?

Прыпёр я цябе? Гуляць трэба ўмець, маладыя людзі.
Але «прыпёрты да сцяны» самы малады хохлік усміхаецца:
— І паб'ю. Казырным званковым. Сном малодшай дачкі. Сёння суседскі сын... Як бо яго?.. Здаецца, Гунар... Дык вось, сёння ён сказаў ёй нешта пад буслянкай...
Дай бог, каб споўніліся вашы харошыя сны, добрая Ганна!
Мы выходзім з хаты і зноў ідзём у вільготныя палі. Згасае над срэбным лугам далёкая вясёлка. Вялізныя, як коўдра, лопухі варушацца над канавамі.
Вакол казка. Вакол спакой і мір, і твая рука на маім плячы, дружа. Але, відаць, дарэмна я ўцякаў у казку і спакой, бо трывога расце ў маёй душы.
Чаму? Можа, таму, што тут, зусім непадалёку, латышскія, як на карцінах Разенталя, ціхія могілкі, апетыя Паэгле, тыя, дзе калісь стралялі ў народ і дзе кроў тры дні, не засыхаючы, стаяла на камянях?
Не, не таму. Не таму штосьці бурнае імкне з мае душы. Але чаму, чаму я не знайшоў міру нават тут, чаму звініць трава на паплавах? Чаму дыхае такім сумам туга палёў?
— Дружа мой, дружа! Што ж мне рабіць? Што мне рабіць, калі я кахаю яе?!

Мора, супакой нашы душы! Даволі зялёных дарог, закалышы наш смутак блакітнымі дарогамі, на якіх не астаецца слядоў.
Сёння мы пойдзем з рыбакамі ў твае далечы і вырвем у цябе адказ. Досыць з нас ідылій! Досыць буслаў над хатамі і казак! І на гэты раз ты не падманеш свайго пакорнага слугу, не пасмяешся з яго недасведчанасці, як тады — памятаеш? — калі ён знайшоў на беразе празрысты вясёлкавы шар і ў дзіцячым захапленні крычаў на ўвесь свет, думаючы, што гэта сігнал няшчасця часоў князя Вячка або мяч, якім гуляюць на хвалях спакуслівыя дочкі Нептуна, блакітнакосыя Нераіды.
Ах, як ты падманула тады жаўтадзюбага вершаплёта, мора! І як гэта ты магло падкінуць яму замест мяча шкляны паплавок рыбацкага нерата?

...Да саракавога года рыбакі жылі горш за ўсіх у Латвіі. Цяпер рыбакі жывуць, бадай, лепей за ўсіх, і пра іх столькі ўжо гаварылі ў друку, што следам за Жанам Лабруерам я пераканаўся: усё ўжо сказана, і не варта псаваць паперу.

Ужо гаварылі пра чысцюткія фіранкі, пра тэлевізары ў кожнай хаце, пра надзейныя матаботы, пра тралы, якімі ловяць рыбу ў паўднёвай частцы Янтарнага мора, дзе роўнае дно, і пра нераты, якімі ловяць у паўночнай частцы, дзе архангелы варылі суп, ужываючы замест фрыкадэлек такі маласпажыўны матэрыял, як скалы і валуны, і вымасцілі імі дно.

...Такія ўжо нашы журналісты. Няма на іх упыну.

Іхняе начальства, відаць, цвёрда пераканана, што журналісты дзейсна памагаюць там, дзе прарыў, дзе гарачая пара. І вось сотні дзядзькоў з фотаапаратамі блытаюцца ў нагах людзей, якія працуюць, і бадзёра кідаюцца туды, дзе і без іх шмат лайдакоў, ледзь толькі пачуюць аптымістычны прызыў: «Журналістаў — на палі! Журналістаў — у мора!»

Э-э, гэта я ўжо нешта не тое сказаў. У мора іх нельга, ні ў прамым, ні ў пераносным сэнсе. У прамым — бесчалавечна, і наогул шкада. А ў пераносным нельга таму, што бедны Нептун атрымае такую даніну, што яму давядзецца ўцякаць у самыя глыбіні Атлантыкі.

Балтыка не глыбей за сотню метраў. Тут не схаваешся.

І вось я гляджу на бераг са зламанымі соснамі, на хвалі, што павольна бягуць на яго, на неба з рэдкімі аблокамі.

Мора! Вецер перапаўняе цябе, і вочы, каб не слязіцца, самі прымаюць той прыжмур, які ўласцівы какеткам і прасоленым «марскім ваўкам».

І цяпер я разумею, чаму грэчаскія гапліты, прыйшоўшы з пяскоў Азіі да марскіх хваль, падалі на калені і цалавалі пясок, разумеючы, што яны ўратаваны.

Таласа! О Таласа!

Бо гэта ж тут я на спадзе дня ўбачыў у хвалях марскую царэўну. Тую самую, што калісьці задыхалася ў бочцы з зялёнай вадою. Тую, якую вызваліў і выпусціў у мора прыслужнік пры балагане, хлопец, што пайшоў у Рыгу ў заробкі.

Я сказаў пра гэта Геroніму. Але той быў у празаічным настроі, і таму азваўся змрочна:

— Не быў бы ты пісьменнікам, каб не ўмеў маніць.

Я засмуткаваў быў, але потым зміры ўся.

І ўсё ж неспакой жыў у маёй душы, а разам з ім вырастала трэцяя янтарная казка.

## ...КАЗКА ПРА ЯНТАРНЫ ПАЛАЦ

Шшш... усхліп... усхліп... шшш... Што азначае: «Набягала мора на янтарны бераг, які тады яшчэ не быў янтарны...» Хвалі паміралі на пяску, пакідаючы пасля сябе хлапякі пены...Шшш... шшш... шшш... А на беразе, між зламанымі соснамі, стаяла хата. Жыў у той хаце малады і гожы рыбак з янтарнымі валасамі...

Я не ведаю яго імя, і не ведаюць другія людзі — надта ўжо даўно, вельмі-вельмі даўно гэта было. Да рымлян, да егіпцян... Адкуль я ведаю гэта? Вельмі проста: рымляне насілі янтарныя бранзалеты, егіпцяне рабілі з янтару вочы для сваіх мумій. А янтару яшчэ не было ў той час, калі жыў наш рыбак,— дык, значыць, гэта было раней.

Але ўжо тады на берагах Юры жылі латы: вось якое гэта даўняе племя. Нездарма ж нейкі вучоны гаварыў з жыхарамі глухіх латышскіх і літоўскіх вёсак на старажытным індыйскім санскрыце і ледзь не звар'яцеў, адкрыўшы, што сяляне яго разумеюць.

Але наш рыбак анічога, вядома, не ведаў пра гэта і не ганарыўся. Ён ведаў толькі сонца, што ўставала з зямлі і сядала ў мора, толькі свае нераты і свае цудоўныя песні, бо ён быў бесклапотны і нежанаты.

Можа, таму і ўпадабала яго марская царэўна. А панаваў у той час над зямлёю бог грымотаў, дымна-чырвоны Пярун. Пабраўся ён з Зямлёй, і нарадзілася ў іх дачка, прыгажэй за якую не бачыла і ніколі не будзе бачыць сонца. Была яна як сонечны прамень, і як морская хваля, і як каханне, і як прыгажосць усіх жанчын, увасобленая ў адной. І, як гэта часта здараецца з прыгожымі, была яна зусім без сэрца.

Пярун любіў сваю дачку і аддаў ёй ва ўладу мора. А каб было ёй дзе жыць, збудаваў пад вадою з сонечнага святла самы гожы з усіх палацаў, якія толькі бачылі людзі і багі.

І вось адтуль, з гэтага палаца, яна і выплывала на

хвалі. І дзівіліся з яе прыгажосці рыбакі, мужныя воіны, што плылі ў сваіх ладдзях рабаваць чужыя берагі, і гусляры, якія прыходзілі да мора па натхненне.

А на каго гляне яна — той робіцца слабы, як сітняг, і пакутуе, і нясе ёй найлепшыя песні і кроў сэрца, а потым, звар'яцеўшы, кідаецца ў хвалі, а яна бярэ яго да сябе ў палац і там, змучыўшы пагардаю, навек аддае ў абдымкі чорнай нечысці падводных глыбінь.

Так яна хацела зрабіць і з нашым рыбаком, але ён, хоць і вельмі закахаўся ў яе, не кінуўся ў глыбіні. Ён быў узвейвецер.

Яна не раз клікала яго да сябе, але ён адказваў толькі песнямі.

Гані каханне — яно пабяжыць за табой.

Царэўна сама не заўважыла, як знікла яе злосць на гэтага непакорнага хлопца. Кожны вечар яна гайдалася на хвалях і слухала песні, і, урэшце, слёзы пачалі падаць з яе вачэй.

Тады яна не ўтрывала і сама выйшла на бераг, апусцілася на калені перад рыбаком:

— Вось я перад табою. Але ці кахаеш ты мяне?

А ён стаў на калені і ўзняў яе, бо цяпер, калі яна сама кінула дзеля яго мора, ён стаў яе рабом.

Песня змоўкла. І над морам стала цішыня...

...Цяпер часта, кожны вечар, яны сустракаліся на скале, што абрывалася над морам. Яна прыходзіла са свайго палаца, ён — са сваёй хаты, і яны доўга сядзелі разам на сухіх водарасцях, і ён цалаваў яе косы, яшчэ вільготныя і трошкі салоныя ад хваль, з якіх яна выйшла. Вочы яе цяпер былі добрыя, як мора ў штыль, і ён спяваў песню пра гэтыя вочы, і нават сонца спынялася, слухаючы яе.

Стаміўшыся, яны елі рыбу, разрываючы яе рукамі. Часам палавіна рыбы падала ў хвалі (калі іхнія вусны былі заняты іншым) і, ажываючы ў роднай стыхіі, плыла ў мора пад вясёлы лямант чаек.

Так з'явілася ў моры камбала.

Яны кахаліся доўга і аддана. Але вось дымначырвоны Пярун даведаўся пра ўсё. У гневе на дачку і на род людскі ён, дачакаўшыся, калі дачка зноў пачне збірацца на спатканне, кінуў у мора небывала-магутную грамавую стралу. І тая прабіла паветра і мора і ў дробныя кавалкі разбіла сонечны падводны палац, за-

біўшы дачку. Забіла ў імгненне вышэйшага шчасця, бо Пярун шкадаваў дачку.

Мора рынула на бераг, выносячы на пясок сонечныя асколкі палаца, і рыбак зразумеў, што здарылася бяда, і кінуўся ў хвалі — ратаваць. А там яго схапіла варта, закавала ў кайданы і намёртва прывязала да адзінай калоны, што дзівам асталася цэлая. Да адзінай калоны былога палаца.

Мірыяды асколкаў на дне. Ляжыць на іх жанчына. А непадалёк ад яе стаіць сонечная калона, да якой прыкуты юнак. Схіліў галаву, заплюшчыў вочы. Ён цяжка дрэмле, але часам падымае павекі...

...Вось яна перад ім. Тут. Побач. І, здаецца, жывая. Здаецца, трапечуцца яе вейкі. Ледзь прыкметна. Ці гэта сонца трапечацца на іх?

Гнеў загараецца ў яго вачах, і ён пачынае ўтрапёна і безнадзейна рвацца да яе.

І тады на моры ўзнімаецца бура. Маланкі б'юць у высокія, амаль да неба, хвалі, і караблі стаюць не мацнейшыя за яечную шкарлупіну. Бізунамі б'юць канаты, і ветразі чайкамі ляцяць у чорны змрок, а людзі ў адчаі ўзнімаюць рукі.

Тады юнак бачыць цені маракоў, што апускаюцца на дно, і сціхае.

Яму шкада людзей. І што, што зменіш, прыцiснуўшы да сэрца мёртвую?

Не вернеш! Не вернеш!

А мора, супакойваючыся, нясе і нясе на бераг кавалачкі сонечнага святла, асколкі палаца — янтар.

Што ж зробіш, дружа. Сапраўднае заўсёды канчаецца мукамі. У гэтым ёсць нейкая горкая мудрасць. І яна дае нам мужнасць жыць.

Дзякуй табе, мора. Пойдзем зараз туды, дзе святлом канчаецца простае шчасце, дзе нараджаюць яснавокіх дзяцей. Пакаленне за пакаленнем, пакаленне за пакаленнем. І зноў у чаргаванні іх народзіцца няпростая пакута з яе мужнасцю і подзвігамі. Гэта абавязкова было, ёсць або яшчэ будзе. У кожным доме. У кожнай простай дынастыі. Дзеля гэтага жывём.

Паедзем зараз да іх. Гэта ж цябе запрасілі ў наваколле Ляўдоны кумам на простыя хрэсьбіны. Забяры мяне з сабою. Ага, ты так і думаў! Што ж, дзякуй табе...

...У Крустпілсе, дзе трэба знайсці машыну аж да

Ляўдоны, кідаем на волю лёсу цягнік. Бедныя людзі! Яны не едуць на хрэсьбіны ў Ляўдону. Ад усяе душы шкада іх. Так ім і галець без хрэсьбін у Ляўдоне.

Крустпілс азначае — Замак крыжа. Крыжа я не бачыў. Замка таксама. Бачыў толькі аўтобусны вакзал, таму што мы ўпарта і гераічна чакалі таксі аж тры гадзіны. Толькі тут я зразумеў сэнс старога латышскага анекдота, і паколькі ён пашырыць нашы веды пра латышскі нацыянальны характар, перакажу яго вам.

Пасажыр едзе цягніком Даўгаўпілс — Крустпілс — Рыга. Ён трохі падвыпіў і просіць праваднікалатыша, каб той разбудзіў яго ў Крустпілсе.

— Бачыце, які я? Гулялі два дні, магу праспаць. Дык вы ўжо, калі ласка, разбудзіце.

— Я,— кажа праваднік.— Лабі. (Так... Добра.)

— Я сплю моцна. Магу ў сне лаяцца, можа, нават адбівацца, дык вы ўжо, будзьце ласкавенькі, калі трэба — і сілаю не бойцеся будзіць.

— Я... Зробім...

— Вось мой чамадан, дык вы і яго...

— Я... Абслужым.

Пасажыр кладзецца спаць і... прачынаецца ў Рызе. У адчаі пачынае лаяць праводніка. Праваднік маўчыць. Абураныя пасажыры спачуваюць праваднiку.

— Дробязь,— нарэшце не ўтрываў праваднік.— Хіба гэта лаянка? Чулі б вы, як лаяўся і адбіваўся той пасажыр, якога я высадзіў у Крустпілсе... О-о...

Маючы на ўвазе гэты анекдот, я стараўся быць вытрыманы і спакойны, пакурваў і на гарачыя тырады Геронiма адказваў:

— О-о...

Відаць, я сваю ролю выконваў так добра, што нейкая дзяўчынка падышла да мяне і спытала пра нешта па-латышску.

— Я,— адказаў я.— Лабі.

Геронім усё растлумачыў за мяне, і мой прэстыж астаўся на вышыні. Я ганаруся тым, што мяне палічылі за латыша. І мне сапраўды ўдаецца быць латышом. Напрыклад, магу згуляць з латышскім дзіцянём у цікавую гульню, не ўжыўшы пры гэтым ніводнага беларускага слова, а толькі латышскія. Робіцца гэта так.

Дзіця выходзіць за дзверы, марудзіць там і потым стукане ў філёнгу.

— Кас тур нац? — трэба спытаць тады, і гэта азначае: «Хто там ідзе?»

— Гаў-гаў! — чуваць з-за дзвярэй.

— Кас тур нац? — гэта трэба спытаць ужо трывожна.

Дзверы адчыняюцца, выглядае мілы дзіцячы тварык, няхітра насуплены ад лютай злосці.

— Вілкс,— на цябе строга глядзяць сінія вочкі. Вы самі здагадаліся, што гэта азначае «воўк».

— Вілкс, вілкс! — у жаху крычыцё вы.

«Вілкс» набліжаецца, страшна заграбаючы лапкамі паветра. І тут ужо трэба падаць на канапу ці нават проста на падлогу і адчайна крычаць на чыстай латышскай мове:

— А-ай! А-а-а-й!

...Ф-фу-у! Вось нарэшце мы едзем у Ляўдону.

Ляўдона здалёк нагадвае цукатны торт, такая яна чысценькая і прывабная. Мураванкі, хутары. А вакол сады і лясы. Часам цукаты будынкаў быццам пашчыкалі дзіцячыя пальцы: стаіць у гушчары здзічэлых сліў каробка колішняга хутара ці, пустая ўсярэдзіне, ідылічна-дзікенсаўская цэркаўка. І толькі потым здагадваешся, што не дзіцячыя, ліпкія ад ласункаў, пальцы зрабілі гэта, а кашчавая рука вайны. Бо на гэтую благаславёную зямлю, на гэты ціхі гарадок падалі бомбы, і нехта меў нахабства страляць па ім з гармат.

Я чалавек сціплы і, пакуль не давёў адваротнага, мяркую, нават трошкі баязлівы. Мне не падабаюцца бомбы і вельмі падабаюцца тутэйшыя дамы. Яны мураваныя, з камення. Сцены знадворку ў іх адпаліраваны, як у метро. Сам дом двухпавярховы, з зялёным ад старасці чарапічным дахам, вокны невялікія — не дом, а цытадэль даброт, шчасця, няспыннай працы і дастатку. Упрытык да яго, часам пад адным дахам, дваровыя будынкі. І ўсё гэта ў вянку яблынь, ігруш, ліп.

Я ж вам кажу, я не помслівы і зусім не крыважэрны чалавек. Я не люблю кулявых шрамаў на такіх мурах. І ўсё ж мне хацелася б, каб сцены аднаго вось такога дома, у якім я буду жыць у апошнія свае гады, былі спаласаваны і знявечаны шрамамі і выбоінамі, бо я хацеў бы, каб усіх каралёў вайны, усіх,

хто робіць барабаны, а не скрыпкі, прывялі ў адзін добры дзень да муроў майго дома і тут расстралялі ўсім наяўным запасам патронаў. Гэтыя залпы я слухаў бы як бахаўскія «Страсці», з тым прыемным хваляваннем, што памагае пісаць вялікія вершы.

...Дзень цудоўны, блакітны, як крыло сіваваронкі. Даўно ўжо з'ехаліся на хутары кумы, якіх запрашаюць на хрэсьбіны здалёк, часта аж з самае Рыгі. Гэта розныя людзі, сярод іх можна сустрэць і рабочага і пісьменніка. Кумы чысцяцца, прыхарошваюцца. Дзіця ўбіраюць у лялечны народны касцюмчык або ў пухавое «медзведзяня». Потым ідуць у сельсавет.

Так зрабілі і мы. Маці трохі затрымалася, і таму малога Айвара панеслі толькі мужчыны: кум Геронім, бацька, сусед і я. Пакуль тое, дзіця нясу я.

Дарога мяккая, паабапал яе глыбокія, аксамітназялёныя канавы, а далей сады ў квецені і раскошныя купы ліп.

Насустрач нам едзе фурманка. З воза пажылы фурман крычыць нешта. Усе рагочуць. Даведваюся, што нас як кумоў пасадзілі ў лужыну:

— Во, мужыкі хлапчынку нарадзілі. Раней дык з гэтым неяк бабы спраўляліся.

На ганку ў сельсавеце нас сустракаюць дзяўчаты ў народных уборах і праводзяць у пакой, дзе на стале ляжыць вялікая кніга ў ціснёнай вокладцы. На кожнай старонцы — фота дзіцяці. Тут жа напісана: «кум» і «кума». Кумы распісваюцца. Грае музыка. Поўна людзей з дзецьмі на руках. Дзеці ўсе у карунках, атласе, самаробных стракатых коўдрачках. Малыя сядзяць паважна, як маленькія шчаслівыя прынцы. Толькі часам нехта з іх салідна выкажа сваё абурэнне і пратэст. Але паколькі іх многа — уся далейшая цырымонія праходзіць пад акампанемент:

— А-а... О-о-о... Крэх-крэх.

Кумы нясуць дзяцей у другую залу. За імі ідуць астатнія.

Зала — як суцэльны грот з кветак. На спінках крэслаў гірлянды незабудак, у насценных вазах букеты нарцысаў і цюльпанаў. Століь — як кветкавы шацёр. І ля сцен — маладыя бярозкі.

А на сцэне — дзявочы хор. Ніжэй — вясковы аркестр.

Кумы з дзецьмі садзяцца парамі, ля праходу. І хор

пачынае спяваць. Песні яго — тыя песні, што спявае народ пра дзяцінства, пра маці, пра будучы лёс немаўлятка. Музыка, водар кветак. Усе сядзяць трошкі расчуленыя.

Потым пачынаюць выклікаць на сцэну кумоў. Яны ідуць з малымі на руках. Адна пара... Першая...

Там, на сцэне, іх шэптам пытаюць, як яны хацелі б назваць дзіця (гэта, вядома, рытуал, бо некаторым дзецям амаль год, але так прыгажэй). І вось гучаць са сцэны пявучыя словы:

— Наракаю табе імя Гунар... Наракаю табе імя Айвар...

Кожнаму дзіцяці даюць каробку з пасагам, а кумам і бацькам па букету кветак. Пасаг розны, але харошы. У дадатак дзіцяці падносяць прыгожы вялікі кубак для малака.

— Пі. Расці харошы.

Калі кумы ідуць са сцэны, услед ім адна з гожых дзяўчат кажа — кожнаму іншая — народныя выслоўі пра маці, пра тое, як трэба шанаваць дзецям бацькоў, а бацькам дзяцей. Потым хор спявае песню.

Кожны павінен памятаць гэты дзень як найлепшае свята, пра якое маці з захапленнем раскажа сыну, калі той пачне разумець, а сам ён, ужо старым дзедам, раскажа ўнукам, як яго «хрысцілі» ў гроце з кветак.

Падарункі для дзяцей купляе саўгас. І гэта абыходзіцца не вельмі дарага. Затое колькі святла і колькі ўспамінаў!

І гэта не толькі ў дзень хрэсьбін. Часта спаборнічаюць хоры суседніх вёсак, часта ставяць спектаклі. Напрыклад, у той самы дзень у Крустпілсе самадзейная трупа ставіла «Вей, ветрык» Райніса на беразе возера. Гледачы сядзелі проста на траве, а дэкарацыямі былі купы дрэў і вада.

Так маленькі народ будуе сваю вялікую культуру, так ён умее рабіць гожым кожны дзень свайго жыцця. І, паверце мне, ляўдонскія хрэсьбіны адвучаць людзей ад царквы хутчэй, чым нецікавая лекцыя пра рэакцыйную сутнасць хрышчэння.

І я падумаў: чаму ж мы не ўмеем праўляць вось гэтакія хрэсьбіны, вось гэтакія святы?

А мы ж не горшыя. Няма бесталанных народаў. Няма народаў без цягі да прыгажосці. Кожная выці-

нанка на шыбе сялянскай хаты неабвержна сведчыць пра гэта.

А чалавеку патрэбна радасць. Ён жыве дзеля яе.

...Пасля хрэсьбін хор спяваў яшчэ, а потым кумоў з дзецьмі развезлі на саўгасных і асабістых машынах па хутарах. Астатнія пайшлі пехатою, бо паветра было ласкавае, а неба — празрыстае.

Потым гулялі дома. Былі музыка, спевы, танцы. І ўсе былі трошкі на падпітку, але за два дні я не бачыў ніводнага п'янага.

Чорт ведае які моцны народ жыве там! На хрэсьбінах я пазнаёміўся з тамтэйшым кавалём, якому даў пяцьдзесят — пяцьдзесят пяць год. На самай справе яму было восемдзесят, і ён грукаў молатам з пятнаццаці год, толькі летась кінуўшы працу, ды і то, бадай, таму, што саўгас пабудаваў новую майстэрню, а старэнькая кузня, дзе падкоўвалі коней ды рабілі нарогі, стала непатрэбная. Так яна і стаяла зачыненая — аж шкада было яе, як жывога чалавека.

Каваль гэты быў жывой рэліквіяй наваколля, бо кожны вечар пасля працы выпіваў бутэльку «крышталю», а яго біяграфія магла б паслужыць сюжэтам для рэнесансскага рамана. Слухаць, як ён падмайстрам абдурваў «шэрых баронаў», была чыстая асалода.

На гулянцы пасля хрэсьбін ён піў цёмнага латышскага піва больш за ўсіх і быў самы цвярозы.

А пілі ўсе, бо гаспадар і гаспадыня ўмелі так ласкава прымусіць, што адмовіцца было нельга. Дый наогул, за сталом панавала атмасфера шчырасці і сардэчнасці.

Ці быў хто з вас у Сігулдзе? Ці бачыў імкліва-празрыстую раку, пячоры, равы, вежы замкаў і неверагодна раскошныя, як на палотнах ілжэрамантыкаў, лясы на схілах гор?

Калі мы спускаліся па волатавых уступах на дно Крумкачовага рова, з-пад нашых ног неахвотна адпаўзло маленькае вужаня з залатымі рыгсдалерамі на галоўцы. Яго прашчур, напэўна, бачыў таго цівуна, якога за жорсткасць кінулі на дно рова сяляне.

Сігулда выгодная ва ўсіх адносінах тым, што тут шмат равоў, і калі прыйдзе вораг, месца хопіць. Узяць хоць бы Кацёл Ведзьмаў — яму, у якой бруіць вада, а

над ёю звісаюць брылы скамянелай гліны крывава-чырвонага колеру. Зручнае месца!

Відаць, разумеючы гэтую акалічнасць, ворагі і набудавалі тут калісь замкаў. У адзін з іх, Турайдскі, я і Геронім лезлі па адхоне ў сорак дзевяць градусаў ледзь не тры гадзіны. Для тых, хто штурмаваў замак, гэта была сапраўдная фіззарадка, асабліва калі ўлічыць, што даспехі важылі сама меней тры пуды.

— Як цяжка было штурмаваць крэпасці,— сказаў Геронім, трымаючыся за траву.

Я, аддыхаўшыся, апрытомнеўшы, дзве гадзіны лаяў шведаў, якія апошнімі сядзелі ў Турайдскім замку і, адступаючы, не ўзнялі яго ў паветра.

Потым я яшчэ гадзіну лаяў руплівых да старажытнасці латышоў, якія дбайна рэстаўрыравалі Турайдскую вежу і цяпер аднаўляюць палац каля яе. А чаму б не павучыцца ў нас і не забыць гэтыя помнікі, як забыліся мы пра Мірскі замак і Віцебскае Благавешчанне, якое за апошнія дзесяць год разбурылася больш, чым за ўсе папярэднія восем вякоў свайго існавання?

Прынамсі, турыстам было б спакойней.

Не тое, што ў Сігулдзе.

...Тут калісь было, кажучы словамі Эрскіна Калдуэла, «зашмат шведаў». Аж тры замкі на сігулдскую даліну: у Сігулдзе, на Турайдскай гары і яшчэ на нейкім узгорку, назву якога я забыў.

Я лазіў на самы верх Турайдскай вежы і быў да інфаркту так блізка, як гэта толькі магчыма. У вежы ёсць гарматы, рыцарскі камін, а з верхняй галерэі адкрываецца вачам цудоўны краявід. Толькі на ёй страшна дзьме. Нездарма шведы былі такія панурыя, не разумелі жартаў і пісалі змрочныя сагі.

Словам, шведы, пакідаючы гэтыя замкі, радаваліся, напэўна, не менш, чым латышы.

Вайна, наогул, не дае людзям радасці і ўзрошчвае ў душах самыя скажоныя і перакручаныя меркаванні аб тым, што такое гонар, правільнае асвятленне падзеі.

Дык вось... Шведы, напэўна, рады былі адпачыць ад перамог і стаць, нарэшце, звычайнымі людзьмі, якія не ўвесь час б'юць другіх.

Кажуць, у многіх шведскіх дамах вісіць на сцяне

партрэт Пятра Першага. Турысты, асабліва нашы, здзіўляюцца:

— Вы што, любіце яго?

— За што? За тое, што ён біў нас?

— Дык нашто ж вісіць партрэт?

— Ды ён, ці ведаеце, адвучыў нас хадзіць на чужыя землі.

Што ж, тут ёсць нейкае рацыянальнае зерне. Хадзіць на чужыя землі не вельмі лёгка. Гэта азначае несці ўсялякі цяжар чалавека, падвышаць падаткі, выдаткоўваць порах, прыдатны на феерверкі, выхоўваць язычнікаў у духу братняй любві — аж да апошняга чалавека, ды яшчэ кожныя дзесяць год нанава перакрываць дах на сваім доме.

Дорага. Дрэнна. Значна лепей, калі чарапіца на даху ляжыць сто год. І таму з-пад майго пяра выходзіць апошняя янтарная казка...

## ...КАЗКА ПРА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ІШОЎ У ПЕКЛА

Тэн-турэнь... тэ-рэ-нэні... турэнь... Што азначае: «Спявала кокле[1] пад старымі вязамі...» Не якое-небудзь там неадгабляванае кокле, а сапраўднае даўняе кокле, упрыгожанае янтаром, як звонкае, як бор на дзюнах і як морскія хвалі... І спявала яно сумна, бо толькі што пракацілася па зямлі вялікая вайна, і нават муры дамоў не астылі ад агню і, распаленыя, свяцілі ў цемры трывожным вішнёвым агнём.

Нікога не асталося на Янтарнай зямлі.

...Чалавек выйшаў з лесу, падышоў да папялішча, уторкнуў у зямлю вілы і закалаціўся... Слёз у яго не было... Ён вярнуўся з вайны. Даўно не быў дома. А за гэты час — дрэвы расказалі яму пра гэта — вайна спустошыла ўсё, а жонку яго спалілі з домам. Таму чалавек маўчаў і калаціўся, а над яго галавою павольна кацілася ноч.

— Неба, як жа гэта ты? — моўчкі спытаў ён.

Але неба не адказала.

— Зямля, як жа гэта ты?

Але маўчала і зямля. Зямля не можа абараніць сябе. Яе заўсёды абароняць яе сыны. Таму яна і маўчала.

---

[1] Латышскі музычны інструмент. Род гусляў або цымбал.

І толькі першыя промні сонца, як суцяшэнне, пырснулі з-за лясоў на янтарныя палі... А як толькі прамень упаў на папялішча — там нешта радасна азвалася:

— Гулі-гулі-гулі.

І чалавек убачыў на горбачцы цёплага попелу замурзаную дзяўчынку з янтарнымі валасамі, сапраўдную Папялушку. Дзяўчынка радасна гулькала і трымала ў жменьцы верабейчыка.

Напэўна, маці, калі яе забіралі, схавала дзіця ў бур'ян і дала яму птушку, каб не плакала. А дзяўчынка, мусіць, прыпаўзла сама і пераначавала ў цёплым попеле.

— Што ж ты, гулюшка? — спытаў чалавек.

Але дзяўчынка не адказала, не ўмела яшчэ гаварыць, затое адказаў верабей:

— Выпусці мяне, добры чалавек. Мне тут, вядома, добра, цёпла, але ж з голаду заходжуся. Адпусціш — сам пад'ем і дзяўчынку пакармлю.

Чалавек расшчапіў у дзяўчынкі руку, і верабей пырхнуў на галіну абпаленага дрэва.

— Дзякуй,— сказаў ён.— Век не забуду.

— Верабей,— сказаў чалавек,— зямля не адказала мне, неба не адказала мне, як жа гэта?

— А пра што ты пытаў? — легкадумна азваўся верабей.

— А ці астаўся яшчэ хто жывы?

— Мала,— сказаў верабей.— А тых, што пабілі, не вернеш.

— Як не вернеш? А калі сярод іх мая жонка? Як жа мне без яе? — І твар ягоны быў такі, што нават верабей задумаўся.

— Я нешта чуў,— нарэшце сказаў ён.— Старыя вераб'і ціўкалі, што там, куды цяпер пайшла Вайна, ёсць у зямлі правал. Гэта ўваход у пекла. Напэўна, і твая жонка там. Вось калі б ты змог спусціцца туды і вывесці душы нябожчыкаў зноў на зямлю... Але гэтага не рабіў яшчэ ніхто жывы.

— Усё роўна некаму трэба быць першым. Пайду я.

— А што табе дае сілу? — здзівіўся верабей.

— Там мая жонка. Я іду да яе. Паглядзі за дзіцем.

І чалавек пайшоў. Дарогу яму паказвалі сляды Вайны. Усюды чарнелі папялішчы. Усюды было нямое гора.

Ішоў ён вельмі доўга. Яшчэ здалёк убачыў чорны правал у зямлі, але раптам спыніўся.

На дарозе спала Вайна.

І чалавек падумаў, што дарэмна ён пойдзе ў пекла, пакуль яна жыве. Бо яна зноў прачнецца і зноў зжарэ ўсіх, і не будзе на зямлі спакою, пакуль яна тут.

Чалавек падняў самы цяжкі камень і апусціў яго на галаву пачвары. Аглушаная, яна ўсё ж усхапілася, і рык яе падобны быў на рык усіх гармат зямлі, вочы кідалі бліскавіцы, а з пашчы несла магілай.

Нарэшце яна ўпала ў крапіву, і чалавек, убачыўшы, што яго пакідаюць сілы, папрасіў:

— Крапіва, крапіва, памажы!

І крапіва — бо гэта была зямная крапіва — пачала звязваць пачвару. Калі Вайна была скручана моцнымі крапіўнымі вяроўкамі, чалавек узваліў яе на плечы і панёс у падземнае царства.

Гэта быў страшны шлях. Сэрца яго ледзянела, калі ён спускаўся ўсё ніжэй і ніжэй. Бачыў ён, як пакутавалі тыя, хто з-за грошай або велічы памагаў Вайне.

І раптам нечы голас:

— Глядзіце, глядзіце, гэта наш Жоўтавалосы.

А потым другі:

— Глядзіце, гэта Жоўтавалосы. Ён нясе скручаную Вайну.

Гэта гаварылі душы янтарных людзей.

Але вось нечы подых, пяшчотны, як ранішні ветрык, крануў яго вочы.

— Гэта ты. Чаго ты тут?

— Я пазнаў цябе,— сказаў чалавек.— Я пазнаў бы цябе нават мёртвы.

— Куды ж ты?

— Я іду ў самае страшнае пекла. На самае дно. Ідзіце за мной.

Ён пайшоў, і ўсе галасы ляцелі за ім. І толькі адзін бязважка сядзеў на яго плячы і раз-пораз дакранаўся да яго валасоў.

І чалавек прыйшоў на самае дно, дзе холад і лёд; і там зваліў з плячэй сваю ношу.

На дне пекла тырчаў востры ледзяны слуп, і чалавек пасадзіў на яго Вайну, і слуп праняў яе навылёт; а потым чалавек прыкуў Вайну да сцяны жалезнымі

ланцугамі. Яна ўадчаі грызла іх, пускаючы крывавую пену.

Чалавек ударыў яе нагою ў твар і сказаў усім душам нябожчыкаў:

— Вы вольныя, хадзем.

Але яны маўчалі. І толькі адзін голас, той, што быў на плячы, ціха азваўся:

— Не, мой любы, мы астанемся.

— Чаму?

— Ты бачыш, яна жывучая, як гад. Яна грызе. Калі ніхто не накіне на яе новых ланцугоў — яна вырвецца. Хто ж будзе пільнаваць Вайну, як не мы, бяссонныя, як не мы, забітыя ёю? У магілах мы праклінаем яе. На дне пекла мы праклінаем яе... І таму мы астанемся тут дзеля тых, што на зямлі.

— Тады і я астануся тут.

— Нашто? Ідзі на зямлю. Зноў зрабі яе прыдатнай, і ўзрадуюцца нашы душы.

— Але я не магу без цябе.

— Супакойся, яно нядоўгае, зямное жыццё. І тады ты прыйдзеш да мяне, і разам з табою мне будзе добра... Нават на дне... Ідзі. Любоўю нашай прашу.

Ён пайшоў. Галасы асталіся. І толькі адзін ляцеў з ім да самага выхаду, а потым яшчэ раз дакрануўся подыхам да яго вачэй.

— Даруй мне, што пакідаю цябе аднаго.

...Зноў было святло. Чалавек ішоў той самаю дарогай, на полі ўвіхаліся людзі, ачышчаючы свае загоны ад бур'яну.

Чалавек ішоў насустрач усходу, і слёзы высыхалі на ягоных шчоках.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтага яшчэ не было, але гэта будзе. Будзе!

І ўсё вернецца, усё забітае, усё забытае, усё растаптанае. Усё вернецца, дружа. Стане відушчы сляпы Індрыкіс, выйдзе з пячоры і абдыме каханую Лат, ажыве забітая маланкай царэўна, парве свае ланцугі рыбак, і яны выйдуць з мора такія ж маладыя і прыгожыя, як некалі.

А на аднаўленай званіцы Пятра заспявае срэбны пеўнік:

— Кокерыке! Уставай, Лат! Уставай, беларус! Сонца ідзе! Сонца ідзе!

Я прыдумаў гэтую казку на хутары Мелдры, апошнім маім прыстанку на латышскай зямлі. На маленькім хутары, які самім існаваннем сваім даводзіць, што можа зрабіць праца. Усё было. Былі акопы на балотах, краўся да гнёздаў ліс, былі крыўды і была несправядлівасць. І ўсё прайшло. Асталіся суровыя і добрыя людзі, астаўся дом, у якім нараджаюць дзяцей. Асталіся палі, што зеляняюць бульбай і кучаравяцца гарохам, добрыя стайні і адрыны і паважныя, як лорды, коні на зялёных лугах. Асталіся лопухі рэвеню пад яблынямі.

Была вечарынка. Спявалі песні. І мне хацелася ўзяць кожную песню і кінуць яе ў бязмежны свет, каб ён таксама быў добры да ўсіх, каб ніколі не ўпала на зямлю ніводная сляза крыўды.

Мелдры, трысцінкі мае! Трысцінкі горкай і добрай Янтарнай зямлі!

...Потым, калі я ўжо лёг, прыгожая жанчына, зусім як вядзецца на Беларусі, прынесла мне кубак бярозавага квасу. Я выпіў яго, адчуваючы, што сіле маёй цяпер няма граніцы.

Мне хацелася пацалаваць жанчыну, як гэта робяць у такіх выпадках на Беларусі, але я не ведаў, ці можна гэта, ці такі тут звычай, ці не асудзяць мяне.

Белая латышская ноч стаяла за акном. У прывідным святле млелі кучаравыя яблыні, а за імі фасфарычна прасвечвала возера, спакойнае, як малако.

Я ляжаў і думаў, што мне амаль немагчыма жыць, не любячы гэтай зямлі і сваёй радзімы, і што ў сэрцы маім яны цяпер неадрыўна звязаны повяззю, моцнай, як смерць, і вечнай, як жыццё.

Белая ноч над Янтарнай зямлёй! Ты вылечыла мяне. А можа, гэта зрабіла Янтарная зямля? Усё адно.

Я цяпер ведаю: трэба сурова сеяць свой хлеб, змагацца з градам і навальніцамі, спяваць і не звяртаць увагі на крушэнні, здрады і боль.

Ave victis! Слава пераможаным. Бо яны не спяць, як не спіць парастак у зямлі.

Дзякуй табе, Янтарная зямля. За ўсё, што ты зрабіла, дзякуй табе.

Вечна блакітныя будуць за тваю дабрыню твае азёры, вечна магутныя будуць людзі на тваіх палях. Вечная будзе іх мудрая мова. І вечна-вечна будзе смяяцца і плакаць кокле пад тваімі старымі вязамі.

## «РША КАМЕН...»

Гораду майму — дзевяцьсот. Не дужа шмат, але не так ужо і мала. Полацк, самы стары горад усходніх славян, вядома, старэйшы за яго, але многія — маладзейшыя.

Дзевяцьсот...

Усе гэтыя гады ляжыць ён на вышынях Беларуска-літоўскага ўзвышша, на ўвалах, над Дняпром і яго-нымі парогамі. Пойдзеш некуды за Чарталле, сядзеш над празрыстымі водамі, паглядзіш на зарэчныя камяніцы і сады і адчуеш — радзіма. Хай сабе і не жылі тут твае продкі, а — радзіма.

Тое самае, відаць, адчуваў і Купала, бо нездарма ж ён пасяліўся менавіта ў гэтых мясцінах.

Усе мы пілі гэтую ваду. Карычневую, як чай,— з Аршыцы, мяккую і празрыстую — з Дняпра, вуглякісла-жалезістую — з Любавіцкіх крыніц.

І ўсе мы, з часоў Усяслава-чарадзея, асядалі на гэтых стасажэнных гарбах, на Кабыліцкім вапняковым кліне, здабывалі тарпу і секлі лясы, палявалі на бабровых гонях, ішлі на звера і дзічыну, здабывалі балотную жалезную руду, каменнае масла (нафта дагэтуль точыцца ў ваду з берагоў) і непараўнальны наш вапняк.

«Аршанцы-вапеннікі, на вапне любяцца, на вапне родзяцца і ў вапну кладуцца».

Мы заўсёды былі народ прадпрымальны. Дзегцяры, цагельнікі, смаляры. Наваколле нашага горада заўсёды славілася садамі і пародным быдлам. Першыя на Беларусі плугі з'явіліся ў сялян — тут. І яшчэ — вытворчасць дроту, цвікоў, шкур. І ўсё гэта — на крутых і ізвілістых берагах, на шматлікіх «бітых дарогах», дужа старажытных (князь Расціслаў ішоў праз Оршу на Друцк — някепскай дарогай — яшчэ ў 1127 годзе). Пазней сталі мы параходным краем (пала параходства, а шкада!), а яшчэ пасля — краем чыгуначным.

Любілі мураваць, калі паўсюль панавала дрэва. І звалі наш горад:

«Рша камен...»

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці.

І такія ж каменныя засталіся мы і цяпер. Толькі ўжо не смалу і шкіпінар дае Орша, а швейныя машы-

ны, ільняныя тканіны, катлы і процьму ўсяго іншага, аб чым у кароткім слове не раскажаш.

Усе, хто еў вэнджаную рыбу са славутай аршанскай «курніцы», гуляў у «піва» на валах «замка Боны» ці на разбураных мурах езуіцкага калегіума,— усе тыя згодзяцца, што адзначае нас, карэнных аршанцаў, асобая аршанская рошчына. Яна ў незалежнасці, працавітасці, своеасобнасці меркаванняў.

Падтрымлівалі мы крамольнага князя Усяслава (быў гэта 1067 год, год першага ўпамінання аб горадзе). Прыйшоў на гэтую зямлю з рабункам Васіль Трэці — і яму здолелі даць па шыі аршанскія людзі. Спатрэбілася віцяблянам забіць ката Кунцэвіча — яны паклікалі на дапамогу нас, бо ведалі мужнасць нашу і вернасць.

Ніколі не любілі аршанцы тыранаў. Не хапала сілы — замыкаліся ў сабе. Хапала — давалі свету тых мужыкоў, што пабілі напалеонаўскі ар'ергард.

У грамадзянскую вайну немцы не ўвайшлі ў Оршу. А ў пачатку Вялікай Айчыннай па іхніх нашчадках ударыў тут першы залп «кацюш».

Слаўны мужнасцю яшчэ восемсот гадоў таму назад, горад мой у мінулую вайну пасылае на вялікую бітву Заслонава і насыпае пасля Курган неўміручасці над сваімі сынамі.

Мураваны стагоддзямі, росціць ён і сёння, як грыбы, рады новых будынкаў.

Пісьменны і абазнаны ў культуры яшчэ сярэднімі вякамі (у Куцейне была адна з першых друкарань) — дае роднаму краю, з сябе і навакольных вёсак, пісьменнікаў і паэтаў.

Горад-працаўнік, горад-паэт, горад-воін, горад-вучоны — жыць табе яшчэ тысячы і тысячы год. Нізкі табе паклон ад усіх тваіх сыноў.

## ЗВАНЫ
## Ў ПРАДОННЯХ АЗЁР

Кажуць балады Палесся,
Што ў даўнія злыя гады
У правалах танулі замкі,

Цэрквы і гарады.
Азёры ўставалі над шпілямі,
Палі залізваў разліў,
І рыбкі ў байніцы вежаў
Сотняй вясёлак плылі.
Але кажуць дасюль, што ў прадоннях,
Над якімі бяжыць чарот,
Жывы ў гарадах падводных
Стары палескі народ.
Жывыя яго паданні,
І песня, і мовы строй
У недасяжных глыбінях,
Пад сіняй азёрнай вадой.
Яны зберагаюць скарбы
За сябе і за нас ўсіх,
А мы цягнем свой крыж штодзённы,
І мы забываем іх.
Але дзень настае, калі раптам
На світанні, нібыта праз сон,
З даляў блакітных мы чуем
Ціхі падводны звон.
Гэта значыць, што з вежаў нябачных,
Праз світанак над мокрай лазой
Клічуць жывых супакутваць
Званы ў прадоннях азёр:
«Прыйдзіце, каб нам убачыць
На беразе кветку агню.
У нас замест птушак — рыбы,
Багноўкі — замест ячмяню.
Але мы зберагаем Сэрца.
Але нашы й вашы грахі
Выкупляем мы ў прорвах азёраў,
Як калісьці ў пажарах ліхіх.
Прыйдзіце. І словам продкаў
Вады ўскалыхніце свінец,
Каб ведаць, што вы — жывыя,
Што мы недарэмна — на дне.
Што мы недарэмна чакаем,
Калі на паверхню зямлі
Узрынуць, амытыя хвалямі,
Белых званіц караблі.
І звон залунае вясёлы,
І светла ўдараць званы
Над агульнымі вечнымі сёламі

Нас, азёрных, і вас, зямных».

. . . . . . . . . . . . . .

Калі захлынаецца песня,
Адчаем туманіцца зор,—
Клічуць душу на Палессе
Званы з прадонняў азёр.

## І. ПАЧАТАК ЛАСКАВАГА ЧЭРВЕНЯ

На самым пачатку ласкавага чэрвеня званы паклікалі з Мінска адразу трох чалавек. Штопраўда, аднаго,— а імя яму было, да вашага ведама, Зянон,— адначасова паклікалі і другія, браслаўскія, званы, і ён павінен быў прыяднацца да астатніх бадзяг пазней, недзе ў Мазыры. Мы вымушаны былі зміры́цца з гэтым, хаця адсутнасць мастацтвазнаўцы рабіла нашу экспедыцыю крыху непаўнацэннай і, ва ўсякім разе, змяншала нашу самапавагу. Але нічога зрабіць было нельга: мастацтвазнаўцы ёсць самыя неарганізаваныя людзі на гэтай і без таго неарганізаванай зямлі.

Астатнія два былі крыху больш арганізаваныя. І вось яны, журналіст Валянцін і літаратар Уладзімір, ваш пакорлівы слуга, у належны дзень узброіліся фотаапаратамі, рукзакамі, вудамі і мужнасцю і годна ўзышлі на борт паветранага лайнера Мінск — Гомель. Выгляд у гэтых двох быў дужа неавантажны: патрапаныя курткі, нагавіцы, якія прымушалі жадаць лепшага, а на адным яшчэ і кірзавыя боты. Толькі першакласная тэхніка журналіста давала некаторае паняцце, што гэта культурныя людзі, а не басякі.

Лайнер скокнуў і высадзіў іх у старажытным горадзе на Сажы, дзе ўжо чакаў агітпараход «Маякоўскі», на якім яны павінны былі адплысці ў «краіну Палессе», зрабіць першы этап падарожжа, каб пасля ўжо самім біць ногі на нямераных палескіх дарогах.

Гомель купаўся ў сонцы, чалавечых усмешках, лістоце славутых сваіх паркаў і ў свежай фарбе на мурах свежаадрамантаваных дамоў. Не хапала толькі букетаў і хлеба-солі, якія падносіць гераічным даследчыкам і першапраходцам прыгожая супрацоўніца аэрапорта. Дабраліся мы да прычала, дзе проста ля берага прыткнуўся наш плывучы дом, кінулі рукзакі

ў лялечную каюту (два ложкі і паліца для таго, хто спазніўся, бо хто позна прыходзіць — косці знаходзіць і сам сабе шкодзіць) і выбраліся ў горад.

...Усе вы былі ў Гомелі, так што не трэба пераконваць, што гэта за горад, і ў тым, што «і за Гомлем людзі е», не трэба расказваць, што такое добры Сож, белакаменны палац над ім, гэтыя алеі і вуліцы. Не трэба расказваць і пра тое, што менавіта ў палацы склалася калісьці ядро маскоўскай бібліятэкі Леніна.

Так што пра горад — толькі па неабходнасці. Пра шэрыя пляжы, на якіх сядзяць у абдымку закаханыя, пра змрочную магільню Паскевічаў, дзе ляжаць доўгавалосыя муміі, пра рупныя рукі страхароў, тынкоўшчыкаў і майстроў «па драўлянай частцы», якія рэстаўруюць гэтую магільню, і пра разумных прарабаў па «спецыяльнай навуковай рэстаўрацыі».

І не трэба нічога расказваць пра лапчастыя каштаны, апетыя і без таго сотнямі паэтаў, і пра выключныя пейзажы з балкона вежы, і пра тое, што журналістаў трэба трымаць за порткі, калі яны, у пошуках лепшага ракурсу, звешваюцца з гэтага балкона галавою ўніз, рызыкуючы згубіць акуляры, а заадно — і галаву.

Гораду проста трэба сказаць дзякуй за падараваную любоў, за адзеты каменем бераг, па якім, рызыкуючы паламаць ногі, прабіраешся светлай летняй ноччу на свой параход, за бязлюдна шэрыя, сумныя, як харошы верш, пустыя вуліцы і плошчы перад світаннем і за апошні ўзмах рукі на развітанне яму.

На развітанне, за якім пачалася новая краіна, прага і кліч нашага закаханага сэрца.

## II. ПЛЫВУЧЫ МАНАСТЫР

Абедзве журналісткі, якія павінны былі ўваходзіць у нашу групу, у апошні момант адмовіліся ехаць, спасылаючыся на больш-менш неаб'ектыўныя прычыны. Такія ўжо таямніцы жаночай душы!

Таму мы накіраваліся ў наш прыгожы паход па старую палескую культуру адны, як то і належыць крыжаносцам. І каб не наш мілы летні кок — Амяльянаўна,— на караблі ўвогуле не было б ніводнай кабеты.

Мужны і суровы дух першых вікінгаў валодаў намі. Свет, дзе не было месца сантыментам і слін-

цяйству. А было нас спачатку восем чалавек, малайчына ды малайчына. Усе, акрамя Амяльянаўны, удалыя хлопцы і ўсе бацькавічы.

Спіс каманды з кароткімі паслужнымі дадзенымі:

1. Глышкін Мікалай Фёдаравіч, начальнік па агітацыйнай частцы, заўзяты, да забыцця сну і ежы, рыбалоў з усім, што адсюль вынікае (хай даруе мне бог, я так і не аддаў яму дзесятка рыбалоўных — першакласных! замежных! — кручкоў, якія бессаромна ў яго пазычыў, бо сваіх не хапіла).

2. Кірыльчанка Андрэй Іванавіч, з якога б і пачынаць, бо гэта капітан, суровы рачны воўк, знаўца фарватэру і людзей.

3. Намеснік капітана Толя. Па бацьку Фадзеевіч. Астатняе вывудзіць не ўдалося. Чарнявы і гожы ўлюбёнец усіх агітуемых па дэбаркадэрах і вёсках (ну, наконт некаторай часткі хлопцаў я гэтага, вядома, не скажу, а скажу толькі наконт прыгожай паловы роду чалавечага). Па сумяшчальніцтву — кінамеханік.

4. Амяльянаўна. Кок, які з нашай рыбы і нашага шчаўя, плюс сваё мастацтва, рабіла дзівы, ад якіх язык праглынаеш (вы яшчэ пераканаецеся, на сваё няшчасце, я яго не праглынуў).

5—6. Грыша і Алёша, матросы-практыканты. Маўклівыя рачныя ваўчаняты, з якімі — хоць на полюс.

7. Валянцін. Журналіст. Фоталетапісец вылазкі. Чалавек з тых, што ахвотна здымаюць, звісаючы з вежы або шасі верталёта.

8. Каб не рызыкаваць сваёй рэпутацыяй, звесткі пра сябе я рассею на працягу ўсяго апавядання.

9. Параход. Маленечкая акуратная шкарлупінка. Жывая. З рухавіком, вінтамі, падвясным кінаэкранам. З голасам. Бадзёрым раніцаю і сонным над соннай вячэрняй вадой.

Пятага чэрвеня 1969 года, у суботу, роўна ў 11 гадзін 8 хвілін плывучы манастыр накіраваўся ў свой слаўны шлях. Прагудзеў гораду, зялёным адхонам і дамам, лебедзям у ставах і вежам.

...І адразу пайшла Рака. З'ява, без якой я не ўяўляю свайго жыцця. Якая і ёсць гэтае самае жыццё: з нараджэннем, сонцам і хмаркамі, з тлустай рыбай і шафраннымі захадамі. І, урэшце, з прадвызначаным канцом.

Хвалі. Хвалі. Усе першыя дні крыху пахмурыя хвалі. Вязуць на барках штабялі пацямнелых, амаль чорных бярвенняў. Лунае над імі прывязаны на мачце, расчалены, каб не трапала ветрам, чырвона-зялёны сцяг. Імчыць насустрач гэтым змрочным кастрам «Ракета», і ззаду за ёю палошчацца ражком брызентавы чахол.

Імчыць, як вядзьмарка на мятле.

І пайшлі рудыя, жалезняковыя, вапняковыя берагі з гнёздамі бераговак. Усе паточаныя, васпаватыя. Усе, як паменшаная копія ўцёса Сценькі Разіна. І свінцовая, як восенню, вада б'ецца аб іх. І дрымучая, старажытная, баладная журба просіцца ў сэрца. І няма нават персідскай княжны, каб яе ўтапіць.

А вакол усё ж шчаслівая Аркадыя, няхай сабе і пад змрочным небам. Зялёнае трапятанне дубовых хмар, плывучае мора чароту.

Сцежка вядзе. Куды?

Чароды на нізкіх берагах. Што яны думаюць, сочачы за намі і раняючы сытую сліну?

Дзядзька доіць карову. Ага, нашчадак таго мужыка ў Альберта Паўловіча, які таргаваў карову на кірмашы і, даведаўшыся, што яна слухмяная і не наравістая, а брухае насмерць толькі тады, як яе доіш, сказаў, што гэта яшчэ лепей, бо даіць давядзецца не яму, а жонцы.

Малайчына!

Сачыў бы за дубамі бясконца. Ніводны нельга зблытаць з другім. Вось адзін, зялёна-сакавіты, падобны па форме на костку тырчком. А побач другі, амаль аднолькавы, але ўжо як рассечанае сэрца, раскрытае насустрач небу. Той поўна-зялёны, а той амаль празрысты. І з-пад ног гэтых вечных, гэтых палескіх, гэтых нашых дубоў зялёнае мора дзірвану спаўзае ў раку: плямамі на грыфельным. Зверху свежазялёны, ніжэй травяністы, падмочаны, а яшчэ ніжэй, ля вады, буры.

І адкрылася Палессе. Адкрылася тым, што тры ласі пераплывалі Сож, выставіўшы над вадою гарбаносыя галовы. Вы ніколі не ўзважвалі на руцэ ласіны рог? Дык вось, першы спосаб утапіцца — гэта прывязаць яго на галаву і паспрабаваць пераплысці хаця б Проню ля яе вытокаў.

Гэтыя плылі, як багі. Як стрэлы. Як дэльфіны.

А пераплыўшы, пачуўшы гоман вінтоў, ірванулі на сваіх хадулях — аж затрашчала лаза. Нават пазіраваць перад аб'ектывам не схацелі. Была ва ўсім гэтым такая першабытная дасканаласць і прыгажосць, што сціснула сэрца.

Баюся, што складанага апавядання ў мяне не атрымаецца. Проста таму, што не апішаш гэтыя мачтавыя, бронзавыя бары над вярбовымі адхонамі, гэтыя пахучыя, зморшчаныя познія смарчкі высакародна-карычневага, аксамітнага колеру, гэтую ідылію першай прыстані. Астраўкоў (Астраўкі!) з драўлянымі сходамі да дэбаркадэра, гэтыя патрэсканыя гумны ў цені велізарных, у познім цвіценні, груш.

Ох, што там, за гэтай ідыліяй, да нас, мімаходных!

Ані д'ябла мы не ўмелі. І прычальваў наш параходзік да нейкага там Радуля ў лепшым выпадку пад «Тр-ры кар-рты» з «Пікавай дамы», а то і пад гукі бессмяротнай, як усякая выпушчаная мільённым тыражом пошасць, «Лады».

«П-под жел-лезный звон коль-чу-ги».

Я сам люблю кальчугі,— нездарма гісторык,— толькі не папяровыя і не пластмасавыя.

«Хмуриться не нада, Л-ла-а-да!»

Алёша ў зялёным пінжаку саскоквае на бераг і забівае ў пясок жалезную свайку, ломік, каб швартавацца. З палубы лянівы голас капітана:

— Ён жа яго ў Амерыку загоніць...

І сапраўды, пры такім стаpar старанні і да Амерыкі недалёка. А на самай справе, цікава было б, каб ломік вылез праз асфальт недзе побач са статуяй Свабоды. Ото быў бы газетны і палітычны шквал наконт падступных падкопаў і інтрыг!

Выбух халоднай вайны. А вінаваты — Алёша...

Халоднай вайны не адбылося. Адбыўся сеанс у цеснаватай параходнай зале. Не помню ўжо, ці то прыгоды славутага Івана Макарэвіча, ці то прыгоды дзяцей на паўночным птушыным востраве. І такія ж дзеці сядзелі, шморгаючы насамі ад хвалявання, а брывастыя дзяўчаты (о, манастыр-манастыр!) чысценька лузалі ў адзін кулак семкі, а другім камячылі ражкі хустак на грудзях. А пасля іх праводзілі па сходнях, галантна трымаючы замест парэнчаў доўгую лату. І дзеўкі павісквалі над чорнай вадой, і іх, пасля

ліхтарыкаў, чакала ноч, рыпенне драча, пах лазы, а можа, і моцная рука, што туліць да сябе за плечы.

Э-эх, манастыр-манастыр!

## III. МАЯ РАКА

Добра, што ноччу мы не плылі, а стаялі недзе ля вёскі ці проста ўторкнуўшыся ў бераг. Такім чынам, бачыў я кожны дзюйм, кожную цалю таго берага, ля якога мы праплывалі.

І скажу вам: прыўкрасны дубовы Сож, багацей за ўсё на свеце рыбаю плёсы Прыпяці. Але другой ракі за маю раку, за мой сонечны, за мой суровы і шырокі, за мой старажытны Дняпро — другой такой ракі на свеце няма.

Ясна, што ён неласкавы, што кожны год ён, як кожны бог, павінен узяць хаця адну ахвяру. Але ён карміў, корміць і давеку будзе карміць нас, ягоных сыноў і дачок, ён даў нам шырыню душы і размах думкі, ён... ён проста Рака, што адзіная такая на зямлі. З брохannem самоў і браканьерамі, з курганамі ў квецені шыпшыны і разлівам бэзу на котлішчах, з памяццю пра жалезных варагаў і сталёвых старых і новых беларусаў.

Ён — бацька. Ён калыска наша. Ягоная душа — наша душа, усё яшчэ нястрымная, язычаская, вераломна-праўдзівая, цыганская. Ён і сапраўды язычнік, мнагажонец, і ўсе жонкі ягоныя не чуюць у ім душы. І Друць, і Прыпяць, і Дзясна. А браты ягоныя і сябры, накшталт Сажа, таксама не чуюць у ім душы. Бо гэты не выдасць. Бо ён верны сябар, які не заложыць цябе ўсякай свінні.

Бо ён — Рака.

Амаль невераемная шырыня ўладна рухалася некуды. Стары працаваў, каб напаіць сотні земляў, накарміць тысячы людзей і птушак, нагадаваць нялічаныя легіёны рыб.

Я якраз рабіў замах на тых рыб. Шчыра кажучы, не дужа паспяховы. Але ж справа была не ў гэтым. Справа была у тым, што курэла рака і шурпатыя акуні з блакітнымі шчупачкамі дыхалі жабрамі ў маленькіх вымачынках між зарасцяў ліловых і залатых дэкадэнцкіх касачоў. І ў касачоў былі мяккія вусны, вычварна загнутыя, пушыстыя.

Я люблю касачы. Беларускія архідэі.

Яны цвілі шалёна над морам разнатраўя.

Чаго тут не было! Аж да круглалістай расіцы (Drossera roturdisotia), якая — хай гэта будзе вам вядома! — дужа дапамагае ад няшчаснага кахання. Рэцэпт — даць у страве ці зашыць у адзенне. Я-то, праўда, сам не спрабаваў, але, як лёс мне тое няшчаснае каханне (толькі яго мне ў маім шматпакутным жыцці і не хапала) — пашле,— абавязкова паспрабую.

Ліны, як пацьмянелае меднае блюда, гладкія, з высакароднай буйной луской — хоць глядзіся ў іх — таўстахвостыя. Сырымі еў бы. Але кручок увесь час налязае на чапу, і, паколькі я не люблю губляць кручкоў, трэба распранацца і плысці адчапляць ад тоўстых, плямаватых, як пітоны, каранёў лілей.

А потым амаль марскі разліў з сапраўднымі марскімі бакенамі на створы. Месца, дзе ў абдоймы да майго віцязя прыходзіць Прыпяць і неразрыўна, навекі зліваецца з ім. Караблі, рудавозы ў туманным вэлюме, белыя, крыклівыя хусціны чаек, напаўзатопленыя астравы.

Абшар! Бог мой, які абшар!

## IV. БРАМА Ў ПАЛЕССЕ, АБО «И РАЗОШЛИСЬ, КАК В МОРЕ КОРАБЛИ»

Палі амаль затопленай хаткі бакеншчыка. І над усім халодны вечар. Шэра-блакітнае, бясколернае бязмежжа.

Кавалачак украінскага Палесся, Зялёны Чарнобыль з царквою XVIII стагоддзя (абразы нікуды не вартыя), з ціхім рынкам і мяккім пылам на вуліцах. Вялізныя грушы на вуліцах (наш галоўны агітатар чамусьці палічыў адну за грэцкі арэх).

І ледзь не канец падарожжа. Рудавоз РС-09. Харошы рудавоз. У маі выканаў план на 115 працэнтаў. Капітан — казак з вёскі Мысы, якую мы праплывалі, Васіль Антонавіч Бычок, сімпатычны дзядзька, апрануты надзвычай сціпла. Але нас цікавіў не толькі капітан.

Палессе з самага пачатку паказала нам святы ўзор сваёй прыгажосці ў асобе кока з рудавоза, маладзенькай дзяўчыны, што скончыла школу кокаў у

Пінску. І ледзь не паляцеў увесь наш манастыр да ўсіх д'яблаў.

Аблічча казачнай царыцы. Хада — хмарка плыве. Усмешка — сонца ззяе. Зваць Тамарай, прозвішча не скажу. Ну вас!.. І так адбою не будзе, а мне непрыемна...

Пакуль на рудавоз перадавалі кнігі пра шпіёнаў, мы знішчылі па цэлай фотаплёнцы і засумавалі. Матухна мая, дзе ж дагэтуль, якімі такімі дарогамі вадзіў нас нялітасцівы, няўблажны беларускі лёс! Як магло мне ўсміхацца сонца!

Варта было б учыніць бунт на караблі, пад пагрозай зброі прымусіць капітана прышвартавацца да РС-09 і плысці, узяўшы тое судна на абардаж. І адбіваць атакі зайздроснікаў.

Шчыра кажучы, мы так бы і засталіся тут, і не было б плывучага манастыра, і не было б Прыпяці. І, можа, варта было б.

Але перамог, як у класіцыстаў, абавязак. І замучыў ён няшчасную любоў. І адвалілі мы ад рудавоза і доўга яшчэ глядзелі назад, як быццам маглі нешта бачыць. «И разошлись, как в море корабли», няведама якому чорту на радасць, а сабе на смутак.

Але Палессе ўсё ж глянула на нас. Першым, самым яркім промнем сонца. Глянула дый знікла.

І аднойчы сасніўся ёй дзіўны сон,
Майскі лес, паплавы і зямля,
І адчула далёкі надводны звон
Лілафея, дачка караля.

А можа, яна і сапраўды з'явілася на хвіліну з падводнага горада?

## V. БАКЕНЫ З РЫБАЙ

Ужо зноў Беларусь. Шырокая, спакойная Прыпяць.

На пясчаных адхонах, пад дрэвамі, навенечкія домікі, крытыя шыферам. Падобныя, бадай, да ўсіх новых хат на Беларусі і таму, як красамоўна выказаўся Валянцін,— «не фантан!».

Але затое якія берагі, умацаваныя пляцёнкамі і свежанькай лазою, якія белыя-белыя коні на паплавах! Глядзяць, як гуінгмы ў Свіфта, з высакамерствам і кепска схаванай пагардай. І які ідзе паўз нас плыву-

чы магазін з дробным часцікам, акавітай, журавінавым напіткам.

Адсюль відаць ужо і Нароўлю. Але блізка відаць, ды далёка дыбаць. Прыпяць тут вераломная, як паэтэса: паваротка на паваротцы.

Нароўля таксама калісьці належала Паскевічам. У ёй ёсць нічым нецікавы позні палац, прыгожы стары парк з векавымі дубамі, ліпамі і клёнамі, увесь парэзаны пратокамі з цёмнай вадой, і здалёк яшчэ бачная альтанка, белакаменная, дзіўна стрункая свечачка з XIX стагоддзя. Лёгкая, са скразнымі праёмамі, з ладнымі калонамі, увенчаная зграбным купалком. Дзіва. А вакол зелень і цень. А ля ног — рака з каравымі, таўшчэзнымі стваламі вярбы, выкінутымі на пясок.

Пра альтанку, ясна ж, ходзяць розныя байкі. Нібыта пахаваны пад ёю ўлюбёны панаў сабака і нават партрэт ягоны (сабакі, а не пана) выкарбаваны на муры. Я, аднак, разгледзеў гэты партрэт і пераканаўся, што гэта не сабака, а проста здорава папсуты барэльеф савінай галавы. Сава — сімвал мудрасці. І, значыць, альтанка проста была месцам, дзе можна сядзець і думаць. Як сказаў бы Манілаў — «храмом уединенного размышления».

...О, рака-рака!.. Пясчаныя косы, і зялёныя горы, і змеі каранёў на іх.

Рыбакі, што злавілі на дне чаўна «жывы волас» і цяпер з дзіцячай цікаўнасцю дзеляць яго на лопасці вясла нажом на часткі, «а кожная частка жыве». І ўсім цікава да апошняга, нават белай з чорнымі вачыма сучцы — Розе.

Пад'язджае бакеншчык. У яго з рыбакамі ўзаемаразуменне. Рыбак раніцаю гасіць яму самы далёкі бакен. А заадно накладае ў яго рыбы. Вечарам, калі ён запальвае бакен, рыбы ў ім ужо няма, але затое ляжыць чвірка ці бутэлька «чарніла». Добра і аднаму і другому.

І пагойдваюцца на хвалях бакены з рыбай.

## VI. МІНІ-КІЕЎ

Горад на зялёных адхонах. Яры, над якімі хіляцца дрэвы. Цукровая бель старых цэркваў і манастыроў праз сець галін. Мазыр. Міні-Кіеў. Падабенства і

сапраўды надзвычайнае. Усё, праўда, крыху меншае. І стромы, і дрэвы, і вежы касцёлаў. Але нешта агульна-мяккае, лірычна-вясёлае, сціплае і добрае — яно тут. І старажытнасць таксама тут. Сярэдзіна XII стагоддзя. Адвечнае імкненне да Турава і Пінска, да братоў-дрыгвічан. Вечныя сутычкі з татарамі і літоўцамі, паўстанні, страта Янушам Радзівілам Міхненкі, што так доўга трымаў горад супраць каралеўскіх сіл. У XVIII стагоддзі паўстанне мазырскіх сялян пагражала ўзняць пад косы і паходні ўсю Беларусь.

Шмат было крыві. Але ўсё ж ясная ўсмешка засталася на прыгожых вуснах горада. І светла дрыжаць на ягоных гарах дрэвы.

Я люблю гэты горад здаўна. Люблю бескарысліва і назаўсёды, і заўжды рад вярнуцца ў яго. Гэта тут, у наваколлях ягоных, я сустрэўся з цар-дубам. Я яшчэ раз зразумеў тады, што такое мая зямля і якое маё месца на ёй.

З самага пачатку яе дзён, з тых часоў, калі княгіня Вольга, ідучы на драўлян, загадала выбіць пад гэтым самым Мазыром «зоўжыны студні».

Шанцавала мне тут на мядзведзяў. Першы раз на кіношных, другі — на мядзведзяў са звярынца. Купіў ім батон і цукру, думаючы, што, пэўна, і мой бедны Міхась сядзіць зараз у клетцы і яго таксама нехта накорміць. Страшнае гэта ўсё ж відовішча, звярынец. І які чорт мог загнаць туды капітана, Валянціна і мяне!

Уяўляеце, буслы ў клетцы. Калі ледзь не на кожнай палескай хаце ляскае дзюбай жывы, вольны бусел, абліты барвай захаду. А тут бусел браў у мяне з рук хлеб. І ў адной клетцы гулялі лісяняты з пеўнем і кацяняткам. «Куток маладняка»... Фу! Вялікае няшчасце чалавека — адбіраць у жывога свабоду. За гэта і плаціўся стагоддзямі гэты самы чалавек.

Чамусьці заўсёды шанцавала мне ў Мазыры і на навальніцы. Траскучыя, як разнос у шэфа, грымлівыя, з праліўным дажджом, калі няма чым дыхаць, з яраснай сечай маланак, з пясчанымі рэкамі, якія равуць ярамі. Навальніцы тут жудасныя. Адна старая бабка тлумачыла гэта тым, што жанчыны перасталі насіць хусткі і валасы «прыцягваюць електрычаство». Тлумачэнне, па-мойму, не горшае, чым у многіх навуковых працах.

...І стала пахмурая раніца. Зноў пахмурая, нібы неба не выліла за адну гэтую вераб'іную ноч усяго запасу дажджу.

Рака злавалася. Несла дном таплякі і ўсякую брыду. Уначы ледзь не патанула баржа з рудой. Загінуў адзін матрос, і пашкодзіўся ў розуме стырнавы. Мы везлі на тую баржу чалавека: расследаваць. Дарогаю ледзь не здарылася яшчэ бяда. Стырнавы нейкага маторнага чаўна «злавіў гаву», не паспеў паставіць чаўна носам да нашай хвалі, і човен той перакуліўся. Людзей вылавілі. Кожная вада не любіць жартаваць і не церпіць няўмелых. Бяспека гэтай ціхай вады і жыцця на ёй — дужа ўяўная. Гінуў і гіне чалавек ад сутыкнення з кожнай стыхіяй. Таму павінен паважаць тое асяроддзе, сярод якога жыве. Не чапаць ані дрэва, ані пратокі, калі на гэта няма самай пільнай патрэбы.

## VII. ВОСТРЫ ВОДАР ЛАЗЫ

Яшчэ і яшчэ глыбей. Пляската, у раскошных дрэвах над межытокамі канчаецца мазырская града. Спускаюцца на Прыпяць шэрыя, ласкавыя вечары з мараннем туманна-зялёных дрэў, з рэдкім палётам «Ракеты» і задуменным бязлюддзем рэдкіх вёсак.

Назвы палескіх вёсак — музыка ў ціхім сэрцы. Акулінкі, Стрэльск, Навасёлкі.

Хутка мы развітаемся з табою, Прыпяць. І таму вочы асабліва востра заўважаюць усё, асабліва відушча разглядаюць твой незабыўны твар. Гэтыя штабялі бярвенняў ля млынка, рыжыя зверху, цёмнабурыя знізу (туды даставаў летні разліў), і гэты плывучы кран, што дастае з дна шматвяковыя дубы, і мотапаром, які вязе два грузавікі, іначай не праедзеш ад адной вёскі да другой. Два чаўны, злучаныя платформай, і катэр цягне іх, а з аднаго чаўна вычэрпваюць вядром тарфяную ваду.

Нам добра бачыць паром, вялізную чаргу машын і «Беларусаў», што чакаюць пераезду і дарогі на Тураў, але нам таксама добра і цікава бачыць хлопчыка, што цягне па вадзе на водмель веласіпед, і флатылію гусей з малымі шэрымі гусяняткамі. Старыя абкружаюць іх. І — ух! — як жа іх загойдала на хвалі ад нашага парахода!

Вострьі водар лазы і над Туравам, дзе нас, урэшце, дагнаў з рэшткамі апаратуры наш мастацтвазнаўца, сябар Зянон уласнай персонай. А мы ж толькі радаваліся пры думцы аб тым, як некалькі начэй ён будзе спаць на паліцы і куды ён пры гэтым падзене свае цыбатыя ногі.

...Самае сумнае ўражанне за ўсю дарогу. Тураў. Проста — вялікая вёска. Пераджыў сябе. Горад, які трымаў у сваіх руках гандаль Кіева з Польшчай. Сталіца Вялікага княства, куды ўваходзілі Пінск і Нясвіж, Рагачоў і Ваўкавыск. Спалены татарамі (легенда кажа, што яны закідалі дзецьмі Тур-калодзеж, пасля чаго сем год з таго, замест вады, біла жаночае малако), выпалены літоўцамі і палякамі, горад так і не ўзняўся. І ніякіх слядоў велічы. Стагоддзі нарадзілі, стагоддзі і сцерлі. Засталося адно тое, што не тлее і не гарыць. Слова. Слова «другога Златавуста», вялікага Кірылы Тураўскага. Ды яшчэ валы і равы на Туравай гары. Гэтыя маўчаць. Слова больш даўгавечная рэч, чым муры і мячы. Яны гінуць, слова — жыве, нават калі вялікія сталіцы засынаюць на грані небыцця. Гэта трэба добра помніць. Усім.

Адплывалі. Сонца было злева. Навальнічная хмара стаяла над горадам, ішла на яго, на нас. Срэбныя, дробныя бліскаўкі сонца трапяталі на ліловай вадзе і цьмяна-срэбных плямах пены. А над усім сутыкаліся дзве цёмна-сінія хмары, як два мячы. Пад імі клубіліся жамчужна-белыя аблокі, а ў іх малюткім яснасінім вочкам палыхаў лапічак неба.

Я стаяў ля борта і ўспамінаў словы вялікага Кірылы, якія не пастарэлі за восемсот з лішнім гадоў:

«Ныня сонца красуяся... усходзіць і радуюся зямлю агравае. Ныня... зіма прэстала ёсць і лёд... растаяся... Дзесь вясна красуецца, ажыўляючы зямное есцьство; бурніі ветры, ціха павяваюшчэ, плады цалуюць... Ныня навараджаемііі агнцы і унці, быстра пуць пярушчэ, скачюць і, скора к мацерэм ввзвращчаючэся, весяляцьця... Ныня ўсю дабрагласныя пціца... гнездзяшэся весяляцьця... і сваю кожная паюшчы песнь, славіць бога гласы нямоўнымі».

Слова не пастарэла. Адно толькі Слова, настоенае на водары садоў і горкай вярбовай кары.

Той дзень быў апошні дзень Прыпяці. Працавалі толькі мы трох ды Толя за штурвалам у рубцы. Я палез да яго, і сталі глядзець на берагі, на дубровы, што цягнуцца берагамі да самага вусця Случы і далей.

Размова, аднак, і тут была невясёлая. Можа, таму, што так прыгожа было вакол, што Прыпяць і дагэтуль звярыная і рыбная. Зайшла ў нас размова пра тое, а ці доўга яшчэ існаваць такой раскошы на беларускай зямлі, аб тым, як слепа часам умешваецца чалавек у вечныя справы прыроды.

І як, магчыма, за нашу каротказорасць давядзецца плаціць нашчадкам, а можа, і нам самім — запраграміраваным калісьці для святла сонца, чыстай зелені і чыстай вады. І не для таго, каб разбураць і нішчыць прыроду, не дзеля таго, каб за чалавекам заставалася пустыня, а для таго, каб памятаць: чалавек толькі невялікая частка цэлага, імя якому — жыццё.

Дрэва не можа напасці на чалавека. Барацьба яго з сабе падобнымі непрыкметная для вока чалавечага. І таму мы адпачываем, гледзячы на дрэвы і траву. Ідыёцкі аптымізм, што «ўсяго яшчэ многа», па меншай меры беспадстаўны. Ужо зараз найбольш відушчыя людзі падымаюць голас у абарону тых самых балот, якія мы так няўмела, па-драпежніцку асушалі. Падае слой падглебавых вод — і сохнуць навакольныя лясы, карані якіх не могуць так хутка зноў дабрацца да вады. Асушылі балоты ў Ламбардыі — і нашым качкам няма дзе зімаваць. Асушылі на Палессі — і ім няма дзе выводзіць дзяцей. Знікае від. І пач-чаў раскручвацца ланцуг ад жывёлы да жывёлы, канчаючы аж самім чалавекам.

Толя расказаў, як пасля сенакосу знішчалі гербіцыдамі з самалётаў чорную лазу. Знішчылі, вядома, лістоту (якая адрасце на наступны год, калі тую лазу — а чым яна, дарэчы, вінавата? — не карчаваць, аб чым амаль ніхто не падумаў).

І вось у навакольных гаях ляжалі раздутыя, здохлыя ласі, у сітнягах смярдзелі качкі, білі крыламі, паступова заміраючы, буслы. Па вадзе плыла маслянiстая каша, і нельга было есці злоўленую рыбу.

Бралі па дзесяць тысяч з калгаса за псаванне прыроды, за злачынства, калі ўжо так разабрацца.

Лесавод у Белавежы расказваў мне, што лесанарыхтоўчыя арганізацыі дабіліся дазволу на буйныя высечкі лесу на Бярозе-рацэ. Лес гэты так і застаўся гнісці на высечках, бо лета было дажджлівае. Дзякуй богу, што гэты разбой прыпынілі. Мы гаспадары, дык трэба ж быць гаспадарамі, чорт пабяры!

І потым, хто ведае, як дзейнічае на псіхіку чалавека выгляд кар'ера на месцы зялёных узгоркаў, звалкі на месцы поплаву, бурай роўнядзі торфанарыхтоўчай гаспадаркі на месцы мокрай лугавіны? Быццам невядома, што Палессе не толькі каласальны рэзервуар, з якога нараджаюцца аблокі і дажджы для навакольных земляў, але і пясок, дзюны, якія прыніклі пад тонкім слоем дзірвану і зялёнай футрай лясоў, толькі і чакаюць іх знішчэння, каб тыграмі вырвацца на волю.

Мы пакуль што не можам з упэўненасцю меркаваць, карысны ці шкодны той ці іншы від жывёл ці раслін для жыцця ўвогуле, для вялізнай гармоніі біясферы на зямлі. І мы робім гэта. Мы ведаем ганебна мала — і мы робім выгляд, што ведаем усё. Таму, што мы жывём у доўг, пазычаючы й пазычаючы ў банку, запасы якога нявечныя, як і ўсё на зямлі.

Палескі скарб валяецца ў нас пад нагамі, а нам неахвота нагнуцца і падняць яго. Дзесяткі тысяч людзей, замест Балатона ці Залатых пяскоў, праехаліся б на параходзе па ціхай яшчэ Прыпяці, пазагаралі б, палавілі рыбу, пакачаліся б на цвітучых яе паплавах. І пакінулі б тут грошы, якіх хапіла б на тое, каб аднавіць старыя будынкі, узбагаціць музеі і ператварыць усё гэта зноў у грошы, коштам якіх можна было зрабіць Палессе,— дый не толькі яго,— Эдэмам.

Дзесяткі турысцкіх паходаў ажывілі б Дняпро, і Прыпяць, і Сож. А між тым рачны флот беларускі памірае. Знізу яго падціскае кіеўская флатылія, і мы задавальняемся — і то не наша тут паслуга — толькі перагрузкай руды з іхніх вялікіх рудавозаў на свае, меншыя.

Жоўць руплівага гаспадара разліваецца ўва мне, калі бачу безгаспадарчасць. Я сню Прыпяць з белымі параходамі Брэст — Гомель, з матэлямі і кэмпінгамі ў гушчары лесу, Прыпяць цвітучую, Прыпяць высакародную і чыстую, па берагах якой паўсюль можна прабегчы босым, не парэзаўшы пятаў. Прыпяць, на

якой працуюць заводы рыбагадоўлі і аднаўлены чароды дняпроўскай сцерлядзі і асятра Прыпяць, на якой нешта прыдумалі, каб «Ракеты» не забівалі рыбу (я сам бачыў пудовых шчупакоў, прыбітых да берага). Я сню Прыпяць багацейшай ракою. І я сню яе — у галоўным — такой, як зараз, з пышнымі дубовымі гаямі над вусцем Случы, са смолкамі-смалянкамі на сытых паплавах, з дробнымі ліловымі званочкамі-«цыганамі»,— нібы мільёны табараў сышліся на адным лузе.

...Я сню яе прыўкраснай.

Перад упадзеннем у Прыпяць Гарыні пацягнуўся дагістарычны лес. Каравыя вербы з дзвюма-трыма буслянкамі, перакручаныя, як душы змарлых у пекле вялікага тасканца. І маленькія маладыя вербы, што толькі падкрэслівалі трагічнасць пейзажу. А над усім гэтым, над буслінымі крыламі, першабытнае неба, нібы ў час стварэння сусвету.

Бусел за буслам зрываўся з дрэў па меры набліжэння парахода. Было гэта бусліпае каралеўства.

Я ведаў, што недзе жыве і пануе над ім кароль-бусел з крыламі, размахам на палову неба. Ногі да каленяў улезлі ў твань, бо праваліўся за стагоддзі. Стаіць у зарасцях тысячагадовых беларускіх дубоў. Іхнія вяршыні ледзь прыкрываюць яму загорбак, бо галава ў яго прыціснутая, а дзюба лягла на грудзі.

Думае. Птушкі баяцца парушаць ягоны пакой. Калі ж набярэцца бясчынстваў, браканьерства, выгаляння над жывым — уздыме галаву, пракінецца і махам крылаў уздыме ўраган і змяце тых, што рабілі такое з яго братамі і гвалцілі натуру ды крыўдзілі меншых братоў.

А пакіне толькі гэтых, хто працаваў заўзята і ўпарта, думаў глыбока і добра, чыніў справядлівасць і ніколі не крыўдзіў ні жывёл, ні дрэваў, ні раслін, ні іншых людзей. І яшчэ не крыўдзіў яго рахманы, спакойны і мудры буслíны народ.

## IX. ПАГАРЫНСКАЯ ВЕНЕЦЫЯ

Гадзін у шэсць вечара — сонца было яшчэ куды як высока — увайшлі ў Гарынь. Пасля цёмнай, празрыстай прыпяцкай вады тут вада была каламутная, непразрыстая, імклівая. Рэчка вілася так, нібы за ёю

гнаўся казачны цмок, і шырока ляжалі вакол голыя паплавы з чародамі рабых і вогненных кароў.

Праплылі паўз нейкую каробку з пустымі правааламі вокнаў.

— Завод кансерваў,— сказаў капітан.

— А чаго то ён пусты такі?

— Закансервавалі,— змрочна сказаў капітан.

Весці яму параходзік тут было цяжкавата. Не разгорнешся. Толькі выйшаў на прамую — мяняй курс. Але ўсякай непрыемнасці бывае канец. З-за купаў дрэў выплылі першыя, старанна прыхаваныя хаткі, вербы над вадою, сотні чаўноў, прывязаныя да іх. І платы, што стаялі ўпрытык да вады, аксамітна-зялёныя знізу ад вільгаці.

Венецыя на зары свайго існавання, калі першыя беглыя рыбакі высадзіліся на востраў Маламока, была, відаць, менавіта гэткай: дымка над вадой, зелень платоў і дрэў, чаўны з задзёртымі насамі. І ціша.

Вечарам мы крыху пасядзелі з нашымі хлопцамі. Шкада было развітвацца з імі: народам вясёлым, грубаватым і дасціпным. Харошыя хлопцы! Пра кожнага можна было б напісаць апавяданне. Калісьці я так і зраблю, паплаваўшы з імі не тыдзень а, скажам, месяц.

А цяпер проста дзякуй ім ад усіх нас.

Спакавалі рукзакі. Зянон узлез на сваю паліцу, звесіўшы з яе ногі: ні даць ні ўзяць — макароны на лыжцы. Хутка засоп і Валянцін. А я ляжаў і ўспамінаў, што я ведаю пра гарадок і яго наваколле.

Ведаў я ганебна мала. Мы ўвогуле ганебна мала ведаем сваю радзіму, і нам даўно патрэбен свой краязнаўчы часопіс. «Наш край».

Ведаў тое, што размешчаны Давыд-Гарадок на астравах Гарыні, праўдзівей, між яе рэчышчам і старыкамі, што да рэвалюцыі жыхары разводзілі садавіну, а цяпер — кветкі, і мястэчка славіцца імі ледзь не па самы Урал, што народ тут увогуле прадпрымальны і тутэйшыя паляндвіцы ды шынкі куплялі нават у Варшаве. Ведаў, што тут шмат ганчароў, а калісьці былі майстры па вырабе рачных суднаў і што мясцовая царква адна з самых старых драўляных цэркваў на Палессі.

А што са старадаўняга? Ну, тое, што калісь на Гарыні было шмат гарадоў (цяпер хіба толькі Давыд-

Гарадок ды Столін), былі яны багатыя і гандлёвыя, але выпальваліся, пачынаючы з XI стагоддзя, ледзь не па тры разы на кожныя сто год. Ушчэнт.

Пабудаваны Давідам, князем Тураўскім, на зары хрысціянства, у паходах на крыжакаў гарадок славіўся невымернай смеласцю і ўмельствам воінаў. Бараніўся і ад татар, і ад кепскай памяці князя Валконскага ў 1665 годзе, прычым быў знішчаны да попелу і тлену.

...На досвітку мы ўзвалілі рэчы на плечы, узялі лахі пад пахі і спусціліся па трапе на глеісты бераг. Горад ледзь прачынаўся ў тумане. «Маякоўскі» даў гудка ў наш гонар і адваліў. Мы стаялі і рабілі рукамі «аці» яму наўздагон. З палубы нам адказвалі тым самым.

Пасля параход знік. Мы засталіся адны пад схіламі вялізных валоў замчышча. Не меншых, чым у Оршы, Рагачове, Быхаве. Крэпасць была на свой час вялізнай.

Варушылася на адхонах трава, а над ёй панаваў вэлюм туману. І ціша. Глыбокая ціша стагоддзяў. Не было ёй канца.

Хаты маўчалі пад вязамі, клёнамі і ліпамі. І старыя, тыпова палескія, і новыя, звычайныя. Але ва ўсіх на франтонах было сонца з раскінутымі прамянямі, падобнае на рамонак.

Хаты стаялі пад знакам сонца. А вакол іх хісталіся густазялёныя каноплі. І цвіло ці збіралася зацвітаць (вясна была позняя) такое мора кветак, якога я не бачыў у жыцці. Півоні ўсіх колераў, ружы, аксамітна-стракатыя браткі, мацыёла, флоксы, зарасці вяргінь, канаў, пахучага гарошку, пантофелькаў маці божай і залатога бэрла. Віліся кручаныя панічы, грамафончыкі, дзікі вінаград, плюшч. Гарадок патанаў у моры кветак. Хаты задыхаліся ад водару, як рымляне на оргіі ў Нерона. Ільсняна чарнела спрыснутая дажджом зямля. Паўсюль, на кожным вольным лапіку, былі кветкі, кветкі, кветкі. Кветкі над платамі, кветкі над суцэльнымі радамі чаўноў у рэчцы і вясенніх каналах. Пагарынская Венецыя шалела, буйствавала ў іх разліве, таму й не хацелася нам адсюль ісці ні ў якія Альшаны і Аздамічы, дзе і дагэтуль трывала жывуць старыя звычаі і вопратка.

## X. ВЯРХОЎНЫ ЦЫГАНСКІ СУДДЗЯ

У чайной сядзелі звычайныя палешукі. Бабулі з «крэндзелем» на галаве і ў белых фартухах паўзверх вышываных сукняў, вусатыя меднатварыя дзядзькі. Але ўся гэтая публіка, што ела смажаную гаўяду, сёрбала капусту, піла з асалодаю піва, а сям-там і прапускала па чарчыне, была яшчэ больш стракатая, бо сям-там сядзелі за сталамі цыганы ў сваіх вясёлкавых хвандаватых сукенках, шнуроўках, намістах, у сваіх камізэльках, ботах і шырокіх портках. І ля кожнай такой пары па некалькі дзяцей. За суседнім сталом аж чатыры снапкі лапаюць рукамі смажаніну з бульбай. І адразу чамусьці ўспомнілася, як змей пасябраваў з цыганом і цыган запрасіў яго вячэраць і вось з шатра выбегла штук дзесяць такіх мурзаў і радасна закрычала:

— Тата прыехаў! Змея на вячэру прывёз!

Калі верыць гэтай беларускай казцы, змей так кінуўся лататы,— аж дарога да самой Курылаўшчыны закурэла.

На вуліцы дзеці абляпілі нас, як камары-таўкуны.

— Дзядзька, паздымай! Дзядзька, паздымай!

Мы паздымалі. Відовішча было каларытнае. І адразу:

— А кеды картачкі?! А кеды картачкі?!

І дзіўна было чуць у вуснах цыганскіх людзей (адзін тыповы, а другі — беленькі гарбузік, зусім як беларус) знаёмы палескі дыялект.

Мілыя палескія цёткі заглядзеліся на Валянціна:

— І вы таксама цыган?

— Што вы,— сказаў я і паказаў на другога чарнявага, на Зянона,— гэта ён цыган.

— І гэты падобны,— сказалі цёткі.

«Цыганы» з апаратамі пашыбавалі здымаць старажытную царкву.

Толькі тут ад цікаўных спадарожніц-цётак мы даведаліся, чаму на вулках такое цыганскае разнатраўе. Спраўлялі гадавую па вярхоўным цыганскім суддзі, пахаваным на давід-гарадоцкіх могілках. Адзін цыган пазычыў у другога грошы. Суддзя прыехаў разбіраць справу і ўтапіўся ў рачулцы ля вёскі Рамель. Утапіўся, ратуючы беларускую дзяўчыну-падлетка.

— Аркестра будзе. Сабралыся з усёй чыста зямлі.

Гэта мы пасля ўбачылі і самі. Вучоныя, рабочыя з МАЗа, аседлыя на зямлі і проста пералётныя птушкі. Вопраткі ад самых сучасных да ледзь не сярэдневяковых.

І аркестр убачылі. У шалёным намёце сцяліўся насустрач нам конь, а на возе ззялі проста нам у вочы наяранымі меднымі глоткамі трубы. Тут мы, у прыватнасці Валянцін, зрабілі першую накладку: не паспелі сфатаграфаваць, такой каметай яны імчалі.

На месцы Валянціна я дзёр бы на сабе валасы.

А цёткі ўсё яшчэ прасвячалі нас:

— Бацюшко-о дазволіў ім на могілках трызну правіць. Воны світло хацелі туды правесці. Адных курэй дзвесце штук насмажылі, трох кабаноў купілі, бараноў. Па гарэлку паехалі ды піва.

Думаючы, якім чынам нам паздымаць гэта, каб хаця, крый бог, не натаўклі карак, мы прыйшлі да царквы на старых могілках. Яшчэ дагэтуль дзядзька з пявучым палескім акцэнтам растлумачыў мне, што гэта Юроўская царква, царква нябожчыкаў. А сам я ўбачыў, што ёй не менш як дзвесце год. Трохзрубная, з трыма шатрамі даху, уся ў зарасцях бэзу і вішняку, была яна — дзіва. Пчолы ў калодах бралі мёд з магільных дзічак і ліпаў, а наводдаль сціпла стаяла старажытная квадратная беларуская званіца.

Каравыя векавыя сосны, каменныя крыжы з паўмесяцам і шасцікутнай зоркайураслі ў зямлю. У некаторых адваліліся верхнія лопасці. Нібы нехта замшэлы распасцёр рукі. А на распяццях асірыйскія, вавілонскія, бог ведае якія аблічча.

Музыка прымусіла нас кінуць агляд. Звычайныя пахавальныя маршы. Паўздоўж агароджы ішло на новыя могілкі шэсце цыганоў. Дарэмна мы сароміліся. Да нас проста падышлі і папрасілі зняць. І вось мы рассыпаліся, хто па дрэвах, хто на платы.

Наперадзе картэжу — цыган з барадой патрыярха нёс абраз у белым ручніку. За ім ішлі мужчыны, і натоўп іхні быў густа перасыпаны то старымі і змаршчакаватымі, то маладымі, неапісальна прыгожымі цыганкамі. Намісты, хвалі хвалістых сукенак. Завушніцы дрыжаць пад смалянымі хвалямі валасоў. Усё хвалістае, усё яркае, як крыху прыглушаны попелам жар. Кульгавая цыганка цягне нагу ў баку ад картэжу. Нясуць дзяцей. На руках і загорнутых у хусты.

Мора медзі, мора чырвані і сіні. А над усім гэтым — мора сонца. І не верыцца ў смерць, у тое, што ўсё мае пачатак і канец.

Такое крыклівае буянства ашалелых фарбаў мне даводзілася бачыць толькі ў першых каляровых фільмах. У «Салаўі-салоўцы», у «Сарочынскім кірмашы». Нібы ашалелы ландрын.

Ззаду ступае гладкі, як змей, гнеды конь. Вядзе яго здаравенны цыган. Збруя зіхаціць бляскам. На возе тыя, хто не можа хадзіць: паралізаваны стары і сівая цыганка з двума дзеткамі.

— З канём сфатаграфуй. Яго конь. Калі ласка, з канём...

Але вось мора ўлілося ў гусцюшчую зялёную засень могілак і паблякла.

У баку ад магілы на ўзнесеных латах два даўжэзныя вялізныя шатры з грубай мешкавіны. У адным посуд, мыцельнік, кухня, дзесяткі два баб гатуюць талеркі. У другім — доўгі рад сталоў з закуссю і выпіўкай.

Ля магілы галосяць. Спявае хор. Рухаецца чорна-зялёны епітрахіль папа. Сіні, матавы, як ягады ядлоўцу, цягнецца ў праменнях сонца дым ад кадзільніц. І надпіс:

*«БАЗЫЛЕВІЧ*
*Гарасім Ігнатавіч*
*1928—1968»*

Ратаваў беларускую дзяўчынку. Ёй было пятнаццаць. Яму пад сорак.

Якія гордыя, медныя, часам ледзь не індзейскія твары! Вунь хаця б у той, з прамымі вугальна-чорнымі валасамі, што падаюць на плечы, з гарбаносым, крыху шыракаватым абліччам. Або тая маладая зусім і ўжо цывілізаваная крыху. Рухомы твар, пластычныя рухі, белая кісейная кофта і стракатая сукенка. Павярнулася — ну, хоць адразу на сцэну, такая бездань гонару і плаўнасці. Аседлая. Жыве ў вёсцы Хорск. І прозвішча, як ва ўсіх тутэйшых цыганоў, беларускае: Вішнеўская.

Эх, так і пацягнула мяне да іх! Магчыма, мая цыганская кроў.

— А ото цыганскія фатографы.

Гэта на Валянціна і Зянона.

— Бач, і фатографаў сваіх з сабой прывезлы.

«Цыганскія фатографы» збянтэжаны ўкрай, але лазяць паўсюль, ловяць ракурсы, здымаюць. І ёсць што здымаць. І ўсё гэта прыгожа, тэатральна, пластычна ў кожнай «мізансцэне», як балет. І так этнаграфічна, так нязвыкла, і столькі ва ўсіх гэтых звычаях гонару і павагі да традыцый. Трымаюцца іх. І добра, што трымаюцца.

Як бы ні жыў цыган, у якой бы хаце або нават кватэры ні жыў, а праводзяць яго ў краіну Цыганію пад шатром. Пад шатром і пад зорамі або пад дажджом. У далёкі шлях, па якім вечна рыпець колам і вечна ступаць капытам цыганскага каня.

І гэта ў крыві. Вось малая цыганачка штурхае каляску з ледзь меншым за сябе дзіцем. Цяжка на байраках, людзі стаяць на дарозе. І вось раптам яна гартанна, са страсцю тысяч пакаленняў крычыць:

— Чавэло!!!

Ах, гэты разліў, шырокі, нібы ўся нямераная цыганская зямля! Гэты змрочны і маўклівы першы кубак. Не трэба нам тут больш. Знікнем паціхеньку і пакінем іх з горам і з думамі аб апошняй цыганскай дарозе. Вязі, косю, вязі! Свяці яму на ёй начное, цыганскае сонца.

## XI. ШТО ТАКОЕ «БУСЬКО»

Што за гарадок! Замест бульбы ў гародах кілім кветак. Механік «Сельгастэхнікі» Максім Рабкоў зрабіў сабе човен-амфібію. Праехаў горадам, плюхнуўся з берага ў ваду дый паплыў на рыбалку. Яшчэ адзін выдумаў для працы на гародзе мікратрактар на трох колах. Чатыры чалавекі можа везці. Сена на ім возіць. Палескія дзеткі на вуліцах паказваюць на нас пальцамі.

— Фоткі павялічваюць.

Палічылі, значыцца, за халтуршчыкаў, бадзячых барыг і бізнесменаў, што тайком ад райфа ходзяць па вёсках і зашыбаюць рублі.

Пад вечар дамовіўся са старшынёй гарсавета і са святаром, каб дазволілі зняць інтэр'ер царквы. Дазволілі. Толькі самага каштоўнага, царскай брамы, ужо няма. Знялі і адправілі. Здаецца, у Пінскі музей.

Галава злёгку адурэла ад чалавечага тлуму і гара-

чыні. А тут яшчэ лётаюць на матацыклах дзяўчаты ў чырвоных і апельсінавых сукенках. А тут яшчэ танцуюць, скачуць пад нагамі цыганяты, просяць у Валянціна:

— Дай, дай, дзядзька, капеечку! Дай, каб ты даехаў да дому! Каб ты сто год пражыў!

Валянцін нешта не дужа хоча жыць да ста гадоў і не хоча даехаць да дому.

Вечарам крыху адпачываем на могілках. Юроўская званіца ў спакойным вячэрнім сонцы ўся аранжавая. І такая ва ўсім гэтым дасканаласць, такі асуджаны спакой адыходзячай старой Беларусі. А ў траве настойліва: «Фр'ю! Фр'ю! Фр'ю!»

Палескія цыкадкі. Так, на Палессі водзяцца цыкады.

Крыж у мой рост ляжаў ніцма. Каменны. Я з цяжкасцю ўзняў яго і паставіў. Зірнула аблічча. Перакошанае, страшнае аблічча, як у паганскага ідала, вызваленага з зямлі. Грымаса болю, велізарныя, пляскатыя, як ступакі, рыдлёўкі рук. Грудзі звісаюць на тры скупа намечаныя складкі жывата. Тры складкі. Паўкружжам. І ва ўсім гэтым умоўнасць і вышэйшая адначасова рэальнасць.

Ішлі дамоў. На страсе стаяў чырвоны бусел і ляскаў дзюбай. Маленькая дзяўчынка выняла палец з рота і паказала на яго, даверліва ўсміхнуўшыся:

— Гэта бусько,— сказала яна.

## XII. МІР ВАМ!

Раніцаю, пасля беганіны, ледзь датаўкліся з дапамогаю сакратара гарсавета Валі ў царкву. Пуста. Пазней даведаўся, што дзеці з урвісаў лазяць сюды гуляць у карты. Гэта б яшчэ нічога, але шыльду аб ахове помніка архітэктуры нейкія два, што прыехалі на «газіку» (і нумар запісаць не паспелі), недзе ў маі паддзелі крыжам, спаролі і павезлі. Пасля мне, праўда, сказалі, што шыльда ўсё адно была напісана «не па правілах» і што яе трэ было замяніць новай. Ну то й замяняйце. Толькі я ў непаразуменні, якія такія «правілы» для такіх шыльдаў. І, галоўнае, тая ж самая карціна ў Пінску, Ружанах, у сотні мясцін. Зняў — і ніякага табе клопату. Як быццам справа ў шыльдзе, а не ў справе.

Што можна ўбачыць у той царкве? Хоры з прымітыўным, дужа беларускім «Маленнем аб чашы»? Па сценах абразы з псеўдараманскімі — фініфць з золатам, як на сурвэтачных колцах пачатку стагоддзя,— акладамі. Цікавае ў іх толькі тое, што гэта ахвяры старых давід-гарадоцкіх цэхаў. Скажам, цэх цесляў ахвяраваў «Нараджэнне» (і цалкам лагічна. Іосіф таксама быў цесля). Або цэх краўцоў ахвяраваў «Пакровы» (і гэта са значэннем, бо пакроў трэба было камусьці шыць). У гэтым мілы наіў.

Абразы на сценах — часткова пэцканіна. Але галава святога Юрыя (не тулава) і «Прынясенне ў храм» з мілым велікавокім абліччам Марыі і строгім тварам Сімяона, на якім важлівасць моманту і адчуванне, што сплываюць апошнія хвіліны, што цяпер можна і памерці,— гэта добротная работа, якой пад сто год. Калі гэта і не Васняцоў, то нехта з лепшых яго вучняў. Ва ўсякім разе, не горш, а можа, і лепш за яго тварэнні ў Валадзімірскім саборы Кіева.

Але гэта — не галоўнае. Галоўнае іканастас. Верх ягоны — XVIII стагоддзе, цяжкаваты, мясцовы жывапіс з фарбамі злёгку пажухлымі, але затое па-беларуску грунтоўнымі. А ў ім дзве рэчы XVII, ну, можа, самага пачатку XVIII стагоддзя. Маці божая і Спас. Адвечная жаноцкасць маці і адвечная туга за людзей. Гэта здорава! На жаль, аклад скрывае ўсё, акрамя абліччаў і тонкіх, любоўных рук, і разгледзець гэта больш дакладна не ўдаецца.

Але ўсё адно гэтыя твары, гэтыя рукі, гэтую вялікую цішыню і вялікі спакой закінутага будынка, гэтую драму і пыльнае сонца — немагчыма забыць.

Крыху ашалелыя, мы ішлі вулкамі, паплаўцамі, садамі, і мне хацелася сказаць — мір усяму...

Ходзяць берагам старыка белыя пеўні, пушаць таполі. Мір вам!

І, аднак, ішла бяда.

У Карпатах дажджы. З Сарнаў пазванілі: вада ўзнялася раптоўна больш чым на паўтара метра і пагражае ўзняцца вышэй. Калі не здарыцца дзіва — заўтра ці паслязаўтра тут залье дарогі, і нельга будзе трапіць нават у Рубель. Залье нізкія бульбянікі, гароды, кветнікі, што толькі пачалі цвісці. Залье паплавы, і сена не будзе. Перад самым янавым днём. Няўжо зноў пагроза гэтаму дабрабыту?!

Мы вырашылі выбірацца хутчэй. Сустрэлі дзяўчат з вёскі Альшаны і пачалі распытваць: куды, як, нашто.

І ясна стала, што не дабяромся мы ўжо ні да Аздамічаў, ні да Сямігосцічаў, ні да Верасніцы. Ды мы й самі бачылі, што аўтобусы не ходзяць, а ісці 25 кіламетраў з чыгуннай цяжкой апаратурай і рэчамі немагчыма. Даводзілася толькі чакаць.

Дзве Галі з Альшан толькі ўздыхнулі:

— Пажар можна ўтушыць, воду ўтушыць няможно.

Разгаварыліся. Доўга не хацелі гаварыць імёны, але адрас альшанскага дзядзькі, што пускае начаваць, далі. Урэшце пачалося:

— Вы хто?

— Томы, Валі, Марусі... На Беларусі ўсе Марусі.

Хлопцы ўпалі ў задор і ўрэшце даведаліся: Галі.

— Дык што гэта ў вас усе — Галі?

— Угм...

— А вы, Галі замужам ці не?

— Замуж так скора выходзіць не трэба. Дзяцей народзіш, як цыганы.

— За аднакласнікаў не пойдзеш. А старэйшыя ў арміі. Пета, Коля, Ілля — усе мы трое друззя. А вы што робітэ?

— Касцюмы шукаем, дзяўчаты.

— От у нас хор быў у старых касцюмах. Картачка ёсць, як сестра была.

— Тэпэр не носім.

— Чаго так, дзяўчаты?

— А... як фараон ходзіш. Спадніцы, анучы. Летам парышся.

— Катора худзенька, пад бокі накладае.

— Хто ж гэта вас такому глупству навучыў?

— Настаўнікі ў нас з Мінска ды з Пінска самі пасмейваліся. Дужэ смяяліся з народных касцюмаў.

Але ж і настаўнікі! Без году тыдзень, як табліцу множання вывучаў, а насміхаецца з густу народа, з яго таленту. А ў дзяўчат у голасе ўсё яшчэ адценне нібыта суму.

— І хусткі яркія былі. «Амерыканкі», «шаляноўкі». Вам у Цярэблічы трэба дабірацца. Там яшчэ ўсё па-старому. Карсэткі. Шоўкавай сукенкі не знойдзеш, усё палаценка.

— То мы заўтра вас у народных касцюмах здымем. Дзе жывяце?

Абмовілася, нібыта незнарок:

— Іван Баклан мой сусед.

— Глядзіце, на слове спаймалі.

Вечар. Здымаем кветкі. Цяжкія снежныя шары півоняў, духмяныя стрэлы лубіну, ахапкі касачоў і лілей, празрыста-зялёныя аблокі гарошку. І ўсё гэта пад вялізнымі грушамі. А вокны хатак, складзены з брусоў, рахмана глядзяць праз кветкі і лістоту. Смерць, спыні сваю касу! Спыніся, сціхні, Гарынь!

## XIII. НАРАДЖЭННЕ ПЕСНІ. НАРАДЖЭННЕ ЖЫЦЦЯ

У Альшанах, з іхнім вялізарным клубам, з рукавом Гарыні (на шчасце, вада пакуль не спяшалася падымацца), з дзесяткамі трыма новых будынкаў і стогадовай драўлянай царквой на цяністым цвінтары, мы перш за ўсё пайшлі шукаць Івана Баклана. Няма нікога. Побач з цудоўнай кнігарняй (мне асабліва спадабалася, што кнігагандаль заслаў туды пяць экземпляраў другога тома майго рамана і ніводнага першага тома — растаропнасць і ўменне гандляваць проста вышэй за ўсякую крытыку),— побач з гэтым магазінам убачылі хату пасярэдзіне вуліцы. Таямніцы планіроўкі. Гарод — цераз вуліцу. У ім, у нетрах канопляў, бабуля. Вочы ясныя. Твар сухі, загарэлы.

— Гарод у вас, бабця,— шкелца.

— Гарод, таварышы начальнікі, харошы.

— Ну, якія мы начальнікі?!

— Но, тады сынкі... А гарод харошы. Каноплі дзяржаве здаём. І плацяць някепска. Але ж працы...

— А дзе ж гэта Іван Баклан?

— Баклан? А хай яго качкі, хай яго.

— А што?

— Ды курэй многа паразвёў. Курэй дзяржыць многа. Спасу няма... А вы кіньце валізы ў яго на двары.

— А як жа: у яго з хаты вокан у двор няма?

— А ў нас, сынкі, не было шчэ такога, каб чужога баяцца. Кідайце. Прыйдзе, убачыць і забярэ ў хату.

Бабуся казачная. І вось мы ўрэшце і спадобіліся пасля «цыганскіх фатографаў» і «начальнікаў» простага слова «сынкі».

Кінулі рэчы, пайшлі на ганак праўлення. Пакурвалі з дзядзькамі. Размова ішла крыху насцярожаная. Пагаварылі аб повені. Як быццам хадзілі чуткі, што ўверх па рацэ жыхары скінуліся, нанялі бульдозер, і той у самым нізкім месцы берага, адкуль вада магла рынуць на паплавы і сады, змываючы ўсё, наваліў ім нізенькую дамбу. Пакуль што рака не перахваснула яе. Але як дождж будзе яшчэ, як повень яшчэ ўспыхне — тады зноў хаты, сады й кветнікі будуць у вадзе. Летняя паводка. Страшны біч! І як тады зацугляеш раку?

Раптам нехта сказаў радасна:

— А от і яшчэ адзін гарадскі. Два. Ну, гэто хіба японці.

Набліжаліся два чалавекі. На адным быў казырок ад сонца, і здалёк здавалася, што ён сапраўды нацягнуў на галаву японскі ваенны кашкет.

— Вашы?

— Не.

І ў тую ж хвіліну я пазнаў іх. Куды ні заносяць чэрці нашага брата! Топалі з магнітафонам два фалькларысты з акадэміі — Міша і Арсень. У экспедыцыю іх, сардэчных, прынесла. І собіла ж — у самую глушыню! Ды яшчэ каб мы тут былі. Здзівіліся, вядома.

А пасля тыя, без доўгіх слоў, селі на прыступкі і пусцілі магнітафон: самы, як выявілася, верны метад, самы лепшы ключ да душы. Што тут пачалося! З другога канца вулкі, ад чайной, ад клуба, проста з двароў, ірванулі сюды мужыкі. Па прынцыпе зявак усёй Беларусі: «Хай пасля людзі не кажуць, што я ззаду бег».

Прыбеглі. Расселіся. Якія ж сталі твары, якім мяккім святлом загарэліся вочы! Сваё. І не толькі ў бяседзе, а і ў «машыне». У той момант я раскрышыў бы ўсе нашы магазіны грампласцінак. Песня. Другая. Змоўклі.

— Мы калісьці над рэчкаю спявалі. За шэсць вёрст чутна было.

— У чайной не заспяваеш. Вось выедзем давайце на Канаву (гэта старык), будзем у лодках спяваць.

— От, каб даяркі запелі!

Мы так і зрабілі. Пайшлі спачатку ў садова-гародную брыгаду, у плямісты ад сонца, густа-цяністы сад, а пасля паехалі з даяркамі на пасавіска.

Спявалі дарогаю, трымаючыся ў кузаве адзін за аднаго. Спявалі і потым, ля закансерваванага завода, ля загонаў з ільдзістымі брыламі лізунца. Гарачае сонца драбілася ў іх.

Мы ледзь паспявалі ўпраўляцца. Арсень з магнітафонам, Міша з алоўкам, мы з апаратамі, а я яшчэ й з блакнотам.

Галіна Леўчанка спявала, святочна накінуўшы на галаву ліловую газавую хусцінку. А побач хісталася ў такт ёй белая ў кветкі хустка Насты Сысы. Усмешлівая, востраносенькая, рот, як месячык, вочы смяюцца. І ўжо зусім прыемна было побач з імі бачыць злёгку надзьмутыя губкі ды шырокія чорныя бровы Дуні Скрабейкі. Усе галасістыя, загарэлыя, як негры. Спявалі «Хадзіла сіротка»:

Як мы любіліса,  
То сухія сады цвілы,  
Як мы перасталі,  
То й зялёныя сів'ялы.

Як слухалі ўсе! Пастух, што толькі прыгнаў каровы, пастух з суровым аблiччам слухаў, успершыся грудзьмі на кій, прыкрыўшы вочы.

Міхась Клочка прыяднаўся, уплёў голас, душэўны і густы:

Плакала, рыдала,  
Лічко пабеліло,  
Наверно дзеўчына  
Веночок жалела.  
Веночок жалела,  
Усе тайныя рэчы,  
Касу распусціла  
На ўсе свае плечы.

Наталля Сыса ўступіла за імі, старэйшая крыху за іх. Адразу гожым зрабілася добрае мілае аблічча, задрыжэлі завушніцы-паўмесяцы ў добрай формы вушах:

Ой, жалю мой, жалю,  
Вялікі пячалю.

Яшчэ мужык не вытрымаў. Вастраносік-верабей. І хахалок з-пад кепкі. Іван Шут:

Ой ты, гара, гара,  
Гара высокая,  
Што й на тобі, гара,  
Чотыры сокала.

Кожны голас — скарб! Няма кепскіх, каб яны здаровыя былі. Кожны не з горла цісне, а душой спявае. Як мяняецца чалавек, калі спявае! Колькі ў ім адразу вышняй прыгажосці!

Я памагаў карміць цялят, гладзенькіх, як барокавыя анёлкі, і з такімі самымі нявіннымі слівавымі вачыма. Адзін хацеў есці і таму смактаў вуха ў друго-

га. У гэты момант крык пастухоў: карова раджае. Адразу ж грубаватыя мужчынскія галасы:

— На песню лезе.

— От, як спявалі! Ну, салавейкі!

І здаровы рогат.

Гэтыя салавейкі, аднак, цягалі на памост, на вышыню ў тры метры, бітоны літраў на сорак, каб зліваць малако ў малакавоз. Нікому не прыйшло ў галаву, што патрэбна і тут механізацыя.

Зноў слухалі магнітафон і раскокалі здаровы слоік з малаком, узлезшы на лавы і агароджу. Зноў выбух маладога беспрычыннага смеху.

— Шолопуты!

— Усцерабіліса і на лаўкы і на слоікі.

Хапае і на смех, і на песні.

Мылі вёдры ў рацэ і зноў спявалі. Тураваў ім з-за Гарыні каровін рык. Карова-парадзіха лізала цяля па вушах, вачах, мордзе і задаволена мычэла. А цялічка, усяго дзесяцi хвілін жыцця, аранжавая, з белай мордай і чырвонымі акулярамі, усё мкнулася ўстаць насустрач гэтым аблокам, сіняму сонцу, мяккаму павеву з ракі.

— Ну, а ты чого ляжыш? Уставай.

Тая ўрэшце ўстала на хісткіх нагах, якія дрыжэлі ўсё менш і менш.

Арсень і я сядзелі на беразе і думалі і гаварылі пра адно. На кожным кроку, нават сярод гэтых, утрапёных, усё часцей і часцей сустрэнеш тое, што яны не любяць сваёй песні або робяць такі выгляд, бо саромеюцца. Дый з кім спяваць? Хлопцы ў арміі, хлопцы ў горадзе. Песня ні з кім не вяжа агульным узбуджэннем, як было. І ўсё менш застаецца ёй абшару сярод родных лясоў.

Радыё і тэлебачанне нясуць песні-аднадзёнкі, міжволі выклікаючы ў людзей захапленне модай і сорам за сваю, «другарадную» песню, якая ціха засынае ў нетрах або патанае на дне азёр.

Трэба хаця б збіраць, выдаваць. Але існуе абавязковасць маршрутаў, калі трэба аб'ехаць пэўную колькасць вёсак, нават калі ведаеш, што ў суседняй вёсцы дзесяткі спевакоў, нават калі тут, у той, дзе ты зараз, можна ад аднаго чалавека запісаць семдзесят, а то і сто.

— Дав-вай маршрут!

І вось з-за нашай безуважлівасці цудоўная наша песня саступае месца нейкай «Ладзе», што, як трызненне, гналася за намі ўсё падарожжа, нейкай «Ладзе», крыклівай і нахабнай, як хам у Луўры, навязлівай, як свіння, што кладзе ногі на стол, песні, якую заўтра забудуць, але якая зрабіла частку сваёй справы, саступіўшы месца такому ж сабачаму трызненню, але на хвіліну адштурхнуўшы сапраўднае, песні апафеозу дрэннага густу, песні, якая не песня, якую, можа, й помніць будуць толькі таму, што пара дубовых галоў (і ў тым ліку я) мелі глупства памянуць яе нядобрым словам.

А непадалёк адсюль, у Фядорах, той жа Арсень запісаў такі жніўны дыямент:

Ой, я жала, не ляжала,
Тры снапочкі нажала.
А хто зо мною снапка звяжа,
Той зо мною спаткі ляжа.
Снапка звяжа цеснесенько,
Ляжа спаты шчыльнесенько.
Снапок звяжа — дай падыме,
Спаты ляжа — дай абдыме.
Снапок звяжа — памацуе,
Ляжа спаты — пацалуе.

Ехалі назад. Зноў быў смех. І ўсякія песні і байкі. А вакол цягнуліся хмызы, сухая трава і маленькія астраўкі палескіх дзюнаў, рабрыстых, як мыцельная дошка. Вырваліся, выпаўзлі, чакалі часу, пакуль адамруць песні і лясы.

Арсень раптам глуха ўспомніў, як збіраў з бабуляй зёлкі і як тая сказала:

— Вучыса старой песні. Памром. Ты будзеш яе спяваць, а мне ў зямлі лягчэй будзе.

## XIV. ЦІХІ ВЕЧАР

Праводзілі Арсеня і Мішу. Спакой разам з вечарам спускаўся на вёску. Усё мацней пачынала тхнуць ад дрэўных шатаў прахалодай, але вулічны пыл быў яшчэ гарачы. На дахах і званіцах ляжала сумнае цёплае святло.

Сядзелі з дзвюма мілымі бабулямі на лавачцы ды гаварылі, вячэрнім чынам, пра тое пра сёе.

Дзядзька ідзе з віламі. Вілы завуцца «быкі». Ад

сонца бляха купалоў зазалацілася, заззяла чырвоным золатам. Вечар ясны. Сонца сядае чыста. Заўтра будзе добры сонечны дзень. Камары таўкуць. Будуць яшчэ тысячы сонечных дзён. Будзе сонца.

— Пакажу вам тую вярэньку, дэ хлебець насілы.

Вярэнька дзівосная. З тугой крышкай, плеценая з бяросты так, што не хлеб, а ваду насіць можна.

— З ёю ў школе прадстаўлялі. А калысь яшчэ вялікія для хліба былі. «Шаня» для хліба.

— Бяроста — яна здаровая была,— уступае другая.— Ногы не гніюць. Калысь людзі спакайней жылі. Ані клопату, то й займалыся.

— Са скуры постолы, то ўжо для свята, для храму.

— Но. Уроніш з нагі то — «Ой-ой, храмоў чаравік упаў».

— А як у вас кацатых звецца? Ну, падвірка для падплёту? Спіца? — пытаю я.

— Спіца. А як падплятае — падплітанка. А раменьчыкі сырамятныя — воло́кы.

— Волокы́? — перапытваю незнарок я.

— Волокы́, што рыбу ловяць. А тое наставэнь,— паказвае яна.

Паўз нас ідуць хлапчукі з таптухай. У торбе дробныя шчупакі і залаты нябуйны карась.

Кожнае слова дыямент! Як ласкава і родна слухаць яго, ведаць, што ёсць твой корань на гэтай зямлі, што ты свой тут.

Бабцы Фёкле Сысе 67 год, яна ўспамінае:

— Калысь, як ішлі замуж, то ў запоіны малады гасцінца дзеўцы: пляце харошыя пасталы. І танцавалі ў іх. Й як яшчэ прытупвалі.

— Цяпер людзі вучацца-вучацца,— кажа суседка, тая, што раніцай у каноплях працавала.— Цяпер, як зап'ецца, то й чаравік не купляе.

Заспявалі недзе за садам.

— Цяперашнія песні не докажуць колісных. Колісныя ўсе ў праўдзе.

— У нас Андрый быў. Пасвіў тава́р. З-пад Турава. О, спяваў! Так маўклівы быў, а запяе — усё замрэ,— і спахапілася: — О-ой, сядзіць старая баба! А дзе ж мой онук дзіўся?

Ідзём шукаць «онука», знаходзім яго ў двары з вялікім малатком у руцэ і вядзём да бабы.

— Вось гавораць! — кажа Валянцін.— Не прыду-

маеш. Пад Івянцом на паляванне ішлі па чарнатропу. Дык адзін кажа: «Ну, то сёння паляванне будзе. Следна».

Бабка ўсё яшчэ гладзіць варэньку:

— Памяць. Вікавына (гэта «векаўшчына»)! У яе ж не нальецца вада.

Бярэ малаток:

— То як баба абсякала город, то колiснага мыкалаiўскага знайшла.

Яна досыць прыкметна какетнічае і тым, што яе слухаюць, і сваім уменнем гаварыць разважліва і разумна, і тым, што ладна кроіць сказ, знатна ўзважваючы і падбіраючы словы.

— Год сто трыццаць назад, было ў нас семдзесят надзілоў. Як бы дзяды паўсталы з могыл, то не пазналы б. Горад, Масква.

— Прарочылі, праўда,— не адстае суседка.— Вось пташкы з жалезнымі дзюбамі. Ерапланы. А раней?

— Дзе машына пройшла — слід нюхалы. А цяпер давялося бабе і й на «Пабедзе» праехаць. А вік наш нехарошы. Войны перажылы.

— Я за свой вік шэсць перажыла. Но жыць багацей. На рыштунку[1] ніхто не спіць.

— Песняў старых шкада,— і тут баба Фёкла проста аж здзіўляе і расчульвае мяне.— Ім «Ладалада», г..., ой, прошу вас! Ну, школа іх вучыць гэтаму. Радзіво. «Ну, Тонежа-Тонежа». А як того, як жа заспявае, то ўсі бягуць, і старыя і маладыя. Усім цікава.

— Раней, як вяселле, то тры дні песнэ. Каравай ставяць — песнэ, рэжуць — песнэ. Тры дні співаюць і ўсіх пераспяваць не могуць... Ой, заговорылася! Заговорылы вас.

Мілыя вы бабці! Куды там загаварылі. Век бы слухаў.

...Дарога па вячэрняй вёсцы. Стрэхі ў жыце. Росная, следная трава на вясковых могілках. Плеценыя платы. Вогненны, расплаўлены шафран заходу, і на ім, як цені, як ізваянні — буслы. Адзін дыбаў па вільчыку, нёс у дзюбе хлюдзінкі. Засаромеўся, угледзеўшы чужых, выпусціў і ўзляцеў. Гэты адцінак

[1] Рыштунак — падлога.

найлепшай, найбольш зацененай вуліцы ў Альшанах зваўся Шабунькі. Цяпер у яго назва: вуліца Северная. Таксама перайменаванне. Мала новых бяздумна паназываных вуліц розных там Радыятарных або Трэціх Лінейных...

Падыходзім да клуба. Дзіцёнак нейкі шчыра і з поўным даверам глядзіць на нас і паведамляе:

— А знаеце, хто ў бульбе? Каралацкія жукі.

І раптам з клуба, як праклён, як лямант, які абражае сваёю пачварнасцю гэты залаты вечар, на поўны моц дынаміка:

Хмурится не над-а, Л-а-а-да,
Для меня твой смех нагр-а-ада.

І сюды дайшла гэтая пошасць.

...Вячэраем з гаспадаром і гаспадыняй. Сапраўды, убачыў рэчы і перацягнуў у хату. Летні паважны дзядзька. Есць дымную бульбу з кіслым малаком і філасофствуе, і адзіны гэта паратунак пасля клубнага, як кот на страсе, няўкання і выцця.

Размова, як заўсёды сярод мужыкоў, ідзе пра палітыку, ад Пятра Першага аж да Гітлера.

— Слоўцы твае добрыя, ды работа чортава. І хаця б разложыстыя вусы былі, а то... яціт тваю пад носам. Беларусаў паўсюль прасвешчалі. У нямецкіх і іншых усякіх гарадах. Мяне вось у Быдгашчы. На нашу Беларусь, як на красыву дзеўку, усе кыдаюцца. Усього многа. Нам бы парадак. Ну, ясна, як Івана не ў морду, то ў розум не вб'е. Адно дрэнна. Так хлопец у андарак пайшоў, а так — у салдаты. Усе хлопцы ў некруткі. А дзіўкы сваю войну. Дзесяць на аднаго.

І праўда, на які д'ябал вайна, ды яшчэ ў дадатак да кепскай эстрады. Знікнуць дрэвы, і гэтыя людзі, і мова. А калі ты, такое, знікнеш з зямлі, то знікне ўсё святое на ёй.

— Есць у нас, ясна, і лапцявая пошта. У трыццаць дзевятым начальнік польскі бачыць, што бабы ля студне сокочуць. «Што такое?» — «Вайна!» — «Я не чуў». Аж назаўтра, спраўжды, вайна. Но гэто нам нічого. Розуму ў нас хапала, каб і цёмнымі разумнага абдурыць. Мой дзід непісьменны быў. Усё на карбусі адмячаў. Так засечка — Івану аддаў, гэтак — Сцяпану. А разумны быў, дай бог нам з вамы. Ды вось

як наш паляшук у Пятра і багатым стаў. Пятро любіў знаць, як люды думаюць. Хадзіў вон у простым. Мужык арэ. Ну і загадаў ён Пятру загадку: «Як, кажа, не одгадаеш, адпішы мне сядло». Што цару сядло? «Давай». Гэты і кажа: «Чаму ў мяне галава сівая, а вусы чорныя». Не отгадаў Пятро. А той яму: «Таму шчо на дваццаць год маладзейшыя». Пятро тую загадку самым разумным міністрам. «Мужык прыдумаў дурны». А й ёны не цямяць. А паляшук і Пятра абдурыў. Сядло тое не сядло було, а сяло на Палессі.

Адкідваецца.

— Разумныя людзі былі. Не думайтэ, шчо дурныя. І тады разумныя людзі — былі. Вось карчмар у нас з Мінска наймаў хлопцаў гарэлку вазіць. Як ні прывязуць — няпоўныя бочкі. Узмаліўся: «Хлопцы, скажыце. Нічога не будзе. Самому цекава». А яны абруч саб'юць, на тым месцы дзірачку прасвідруюць, адальюць, пасля замажуць, дый абруч на месца... Вось!.. І бочка целая, і хлопцы п'яныя... А тут настаўнік з расказаў такіх смяецца: «Не соврэменна! Не сучасна!» Каго вы саромеецеся? Адзін аднаго?

## XV. СУХІ ШЛЯХ

Зноў пыліць, трасецца аўтобус. З Давід-Гарадка на Пінск. Зноў гайдае нас і трасе. Але мы шчаслівыя, што нават так трапілася. Выехаць было цяжка. У поўным аўтобусе звычайныя аўтобусныя размовы.

— Шпікулянты яны...

— Я конскі доктар. Жонка мая конскі доктар. Дык што нам рабіць?..

— А от цешча хацела, каб зяць дачцэ верны быў. То ёй параілі даць яму сабачай крыві з віном. Хлопчык ягоны заўважыў, сказаў бацьку — той і замяніў на простае віно. Выпіў, яешняй заеў. Цешча з жонкай яго вачыма гіпнатызуюць. Вось той сядзеў і раптам: «Гаў!», яшчэ раз: «Гаў-гаў!» Ды на чацвярэнькі, ды за цешчай па хаце, ды на двор. Тая ледзь не анямела. Ну й перастала бабскім плёткам верыць.

Пайшлі-пайшлі круціцца вакол палі, далёкія стужкі сіняга лесу, сіне-блакітныя, з рысамі готыкі, цэрквы. Маладыя піскляча-свежыя пасля дажджоў лугавінкі.

Пісклячае Палессе. Мілы гарадок Столін, які калісьці быў сталіцай цадзіка, якога найбольш шанавалі хаседзімы, а цяпер — сталіца раёна.

Зноў нізкія мокрыя паплавы з плямамі вады. Менш буслоў. Кажуць, бусел не любіць, калі барана пад ягоным гняздом жалезная або ў аснове гнязда кола з жалезным вобадам.

Шкада буслоў. Што на Ніле, што ў нас, ім менш і менш даецца месца, каб жыць. Можа, і беламу буслу суджана выгнанне ў лясы, як яго чорнаму сабрату. Ці не адвыкне тады вока чалавечае ад белага свайго сябра, ад выгляду хаты пад крыламі, і калі цяпер, каб застрэліць бусла на чучала для музея, бяруць чалавека здалёк, бо свае не згаджаюцца ні за якія грошы, то ці не стануць людзі, адвыкшы, паляваць на белых, як на чорных.

Але вось разрываецца роўнядзь, і ўдалечыні — Пінск, і ўжо няма калі думаць аб іншым, бо сэрца ўладна ўваходзіць у яго, а ён запаланяе сэрца сваімі мурамі і старымі вежамі, каштанамі і ліпамі на цяснінах вуліц, усёй вялізнай сваёй прыгажосцю, да якой ніколі не здолее звыкнуць душа.

## XVI. ПІНСКАЯ ДАЎНІНА

Пінск — адзін з самых улюбёных маіх гарадоў. Ён, як Гродна, мае сваю фізіяномію. Гэта Горад з вялікай літары, а не двайнік розных там «чаромушак», якія ў кожным-кожным горадзе — колькі б іх ні бачыў — аднолькавыя. Таму і шкада, што стандарт, ды яшчэ і нязручны стандарт, лезе і сюды, як быццам гэта ён тут гаспадар і пан.

Усё гэта, што вакол,— Прыпяць і Піна, лясы ласкавыя, паплавы мокрыя, дрэвы раскідзістыя, пчаліныя свепеты на векавых дзічках, няяркае палескае неба,— усё гэта было, мабыць, такім самым, як у часы Уладзіміра, што, паводле падання, заснаваў горад, такім самым, як і ў часы асляплення князя Васілька.

Але чалавек на працягу дзевяцісот (а можа, і тысячы) год не толькі паліў і нішчыў, не толькі ваяваў, забіваў і асляпляў — ён яшчэ і будаваў, старанна ўходжваў гэтую гліністую зямлю, вечна дбаў аб прыгажосці. Зрабіў, урэшце, на гэтай звычайнай зям-

лі малое дзіва, якім мы па праве можам ганарыцца.

Паліў яго хан Койдан — але жыхары зноў узводзілі вежы з гладкага дубовага бярвення. Паліў яго Нарымунт — але ўзносіўся амаль адразу Андрэем Васілаў францысканскі драўляны касцёл. Татары вынішчалі ўсё ў наваколлі, але жыхары не толькі давалі адпор пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага, але і капалі першыя ў гісторыі Палесся каналы (1-я палова XVI стагоддзя).

Гарэў ён у сутычцы Нябабы з Радзівілам, гарэў ад рук ваяводы Валконскага і воінаў Карла XII. Але няўхільна паўставаў, прыўкрашаўся будынкамі, квітнеў працай сваіх майстроў і гандлем. Многа, дужа многа паспеў ён наашчадзіць і назапасіць, нягледзячы на шаблі заваёўнікаў. І гэта назапашанае мы павінны несці асцярожна, на выцягнутых далонях, як чашу з вадой. Старанна гледзячы сабе пад ногі, дзе там-сям зберагліся яшчэ святыя і старажытныя пінскія камяні.

Нам абавязкова трэба было разабрацца, а ці так гэта. Бо калі дагэтуль справа ішла пераважна аб памяці звычаяў, то, што датычыць самога Пінска, тут справа магла ісці, бадай, толькі пра памяць архітэктурную.

Таму трэба было пачынаць з галоўнага архітэктара. Да яго мы і пайшлі ў дзівосны будынак былога калегіума, адзін з лепшых помнікаў грамадзянскай архітэктуры на Беларусі, шматпавярховы, дзіўна велічны барокавы гмах.

Архітэктар яшчэ досыць малады, сімпатычны. Прозвішча Заржэцкі Міхаіл Сігізмундавіч. Тутэйшы, але з дзяцінства амаль усё жыццё пражыў у Маскве. Справу ведае. Але адзін чалавек, калі яго не падтрымлівае грамадскасць, няшмат можа зрабіць.

Справа, гаворачы сцісла, вось у чым. Усе вы са шматлікіх беларускіх і польскіх гісторый архітэктуры ведаеце будынак славутага паезуіцкага касцёла. Дык вось, яго ўжо няма. А гандлёвыя рады XVIII стагоддзя, што ішлі ад яго? Фота іх ёсць нават у падручніку В. Чантурыі. Дык вось, фота ёсць, а радоў ужо таксама няма. А пафранцысканскі касцёл? Калегіум? Гэтыя пакуль што стаяць, але іхняе існаванне — не існаванне, а балансаванне паміж жыццём і небыццём. Дошкі, ва ўсякім разе, з іх зняты. Ахоўныя.

Дзіўныя справы! У паезуіцкім касцёле хацелі зрабіць піўзавод. Выявілася, многа работы па пераабсталяванні. Тады яго, моцны, як дуб, папросту ўзарвалі ў 1953 годзе, а ў 1954 разабралі. Тады стала ясна, што разбураны ансамбль і, на аснове гэтага,— калі ўжо ансамбля ўсё роўна няма,— знеслі гандлёвыя рады. Бо яны ж выпалі з агульнага. І вось цяпер пададзена ідэя зрабіць піўзавод у ацалелым пафранцысканскім. Што за піўная кароста?

Калегіум, пасля перапрацоўкі, стаў добрым адміністрацыйным будынкам: пакоі і калідоры прасторныя, высокія, велічныя. Месца хапае на многія і многія ўстановы. Летам прахалодна, узімку, пры паравым ацяпленні, цёпла (а праводзіць яго было цяжка, бо муры ў два метры таўшчынёй). Так-сяк падрамантавалі. Каму шкодзіць яго вонкавы выгляд? Выгляд аднаго з лепшых помнікаў Беларусі.

Абапёрся на магутныя контрфорсы, як на лапы. З-за пятнаццаць кіламетраў з-за ракі відаць. А яшчэ каб адкрыць ягоныя аркады, выламаць адтуль сучасную цэглу — гэта быў бы палац дожаў. А пад аркадамі зрабіць — ну, хаця б летняе кафэ са старымі сталамі і кутымі свяцільнікамі. Гэта быў бы гонар Пінска і ўсёй Беларусі. Дык не. Прыехаў нейкі таварыш з Мінска, агледзеў усё і заявіў архітэктару:

— Слухайце, стаўце пытанне аб зносе — мы вас падтрымаем. Скрыня нейкая. Адной фарбы колькі выходзіць.

Архітэктару ледзь удалося адгаварыцца. Ледзь удалося адбіць і пафранцысканскі касцёл з мурам ля яго:

— Транспарту шкодзіць. Манастырскі выгляд. І ўваход з вуліцы.

А на самай справе вуліцы хапае. А як не хапае, то зносіць трэба зусім іншае.

Кожная з'ява мае два бакі. «Езуіт» стала словамсімвалам. Але як бы мы ні ставіліся да езуітаў і да іх тактыкі, трэба, дзеля справядлівасці, прызнаць, што гэта былі самыя адукаваныя людзі свайго часу. Іншая справа, на што яны гэтую адукацыю ўжывалі. Але ў іх былі самыя шматлікія школы і самыя багатыя бібліятэкі з выключна багатым падборам кніг, аж да вальнадумных. Таму з гэтых школ выходзілі не толькі цемрашалы, але і вальнадумцы.

Кнігі, часам найсамыя рэдкія, маглі б служыць і зараз. Але 1939 год, час безуладдзя, вайны, нарадзіў у калегіуме страшны пажар. Некалькі дзён гарэў будынак, і ў ім палалі сотні кніг. Потым другая вайна з яе разарэннем, і безуважнасць. І вось попел ведаў даўно рассеяўся па зямлі.

І ўсё адно ў некаторых людзей яшчэ бачыў я старыя пергаментныя граматы па-беларуску. Адна з іх была 1592 года. То шукайце ж вы гэта сярэдневякоўе, збірайце яго, захоўвайце ў музеях. Не здымайце дошак аховы, як з Ружанскага палаца і касцёла пафранцысканаў у Пінску, накрыйце палац чарапіцай, і сапраўднай, а не Брэсцкага завода, што пастаяла тры гады ды і асыпалася.

Ды і другі ахараніце. Пабудаваны князямі Дольскімі ў 1595 годзе для братоў-камуністаў (быў і такі манашы ордэн, у якім усё, аж да лыжкі, было агульнае). Трэба зберагчы гэтую барокавую цацачку, якой мог бы ганарыцца любы горад Еўропы, цацачку, на якой таксама няма дошкі.

І цуд драўлянага дойлідства, храм на могілках, дзе ўсё, аж да галерэі, такой тыпова беларускай, абапертай на каменныя слупкі, ёсць радасць і ціхі сум. Дзе званы вісяць між дзвюх ліп, што разыходзяцца з аднаго кораня.

Усё там радасць. І ўсё ў запусценні.

То аднавіце тое, што засталося.

## XVII. «АДАМ БЫЎ ЗЛЕПЛЕНЫ З ГЛІНЫ...»

А наступнага дня мы паехалі шукаць народных майстроў. У Моталі — ткачы, у Кужэлічах — пляценне, у Іванаве — інкрустацыя, у Гарадным — ганчары.

Мы паехалі да ганчароў. Суправаджаў нас галоўны мастак фабрыкі мастацкіх вырабаў Алесь Пятровіч Ступак, мажны гэткі, тыповы ўкраінец.

Усё ж гэта было дзіва як хораша! Вёска Хлябы, што спіць у збажыне. І хоць нас кідала, хоць дарога,— не памятаю ўжо, хто гэта сказаў,— была падобная на паласу эксперыментаў гіганцкага дыназаўра, затое абапал яе цвіла шыпшына, траплялiся не зусім яшчэ зарослыя дзюны, а пасля пачаліся і лясы.

Паўла Гмыра з Гараднога не засталі дома. Адны дзеці былі ў хаце з пазелянелай страхою. Пад нагля-

дам малой, як лялька, Тані-сінявочкі. Гэты носік з лёгкай згорбінкай вынюхаў ужо, на наша дзіва, навуку аж цэлых сямі класаў.

Паказала яна нам горшчыкі. І мы, нанюхаўшыся лазеннага водару бярозы, заторкнутай для прыгажосці паўсюль, дзе можна, пагушкаўшы малога ў калысцы, захапілі тую Таню з сабою, выйшлі, стараючыся не наступіць на «цыплюкоў», пасадзілі дзяўчынку ў машыну і пакацілі шукаць тых, хто якраз працуе. Захапілі яшчэ й сівога дзеда Казачка — і яго ў машыну, дый паехалі да Цімахвея Шэлеста, што якраз «крутыў круг».

Дзед і свае горшчыкі паказаў. Скардзіўся, што калісь рабілі букетніцы, свечнікі, коней і аж «у Варшаву вазылы», а цяпер «попыту няма». А ён, ды яшчэ Яроміч Базыль, памёр цяпер, былі найлепшыя майстры: на выстаўцы ў Пінску, у 1931 годзе, адзначаныя былі. І гліна ў іх тут найлепшая. «Ганчарская гліна, вона ня змішуецца ні з чым, вінуецца — што хочаш, то і зробіш». А попыту няма...

Я здзівіўся. Столькі ў гэтых вырабах было высокага класа паганскага прымітывізму, што кожны паставіў бы гарлач ці «банечку» (збанок) у сябе на паліцу. Чаму ж не наладуваць так, каб адны рабілі, а другія маглі купіць?

Хата ў Цімахвея Шэлеста, мужчыны нестарога, зграбнага, хоць і худаватага, была на дзве палавіны. У майстэрні падлога земляная, ля акон лава, ля яе ганчарнае кола. На печцы гаршкі падсушаныя, на «палу» — не зусім высахлыя.

Пад столлю яшчэ адны бэлькі, на іх дошкі пакладзены, а на дошкі гаспадар ставіць зусім сырыя гаршкі.

— Ну, давай паспрабуй узяць.

— Самну.

— А ты не душы, не цісны. Ты беры, от просто беры.

Сапраўды, удалося ўзяць і панесці.

— Колькі ж вы, дзядзька, працуеце?

— Як зародыўся. З сямі год. Значэ, год сорак.

Сядае на лаву. Густыя чорныя бровы, гарбаты нос, шырокае ўсмешлівае аблічча чырвонага колеру. Клятчастая сіняя сарочка, заляпаныя глінаю порткі.

І вось пасуровеў. Позірк стаў пільны. Як ужо бачыць у глінянай нашлёпцы будучую рэч.

Міска з каламутна-рыжай вадою побач, шэра-блакітная гліна — на коле. Крутануў нагамі і — пайшоў...

Часам мочыць пальцы ў місе і цягне. Гліна выцягваецца, сціскаецца, шырыцца і пухне. Што будзе? Цукарніца, макотра, гаршчочак? Ён і сам гэтага пакуль не ведае. Гэта ён іграе, прымяраецца, радуецца пакорлівасці матэрыялу.

Гліна,— не, ужо не гліна,— тоўста спаўзае, то ўгору, то ўніз. Вось выцягваецца ўгору Вавілонская вежа. Пальцы лісліва і мякка паўзуць унутр, робяць сярэдку, змочваюць, цягнуць яшчэ ўгору. Цяпер ужо можна зразумець, што робіць «баньку». Рука залазіць амаль па локаць, шліфуе знутры. Выпаўзае. Вось адзін палец вызваліўся, нібы паказвае кудысь, астатнія прагладжваюць горла.

Круцяцца, нібы танцуюць, ногі. І танцуюць пальцы. І выцягваецца, выцягваецца рыльца. І вось гатова, і вось ужо, каўбаскай, ручку. І ніткаю адразае баньку ад кола, і ў хаце, пабеленай блакітнай глінай, адразу нібы робіцца святлей, такая банька зграбная.

— Майстра,— кажа дзед Казачок.— Шэлест — самы скоры ганчар.

Памаўчаў:

— Наша прохвесія самая старая. Адам буў злеплены з гліны. Бог буў першы ганчар.

І нельга зразумець, ці то ён жартуе, ці то ён гаворыць з сур'ёзным гонарам.

— Мы колысь рабілы велькія глякі. Звалыся «палякі». Не було кадушак, то рабілы для насыпкі. Вялізныя. То і станок быў іншы. І ганчар стаіць наўколішкі, а руку ўнутр да падпахі цягне. Цяпер забылі.

Ківок на цяперашняе ганчарнае кола:

— Ужо і гэтага дзеці не вучацца.

— А як вучылі?

— З папружкой вучылы.

— Ну а я навучыўся б?

— Хоч два гады вас папружкай бі — не навучыш. Тэпэр не навучыщеся. Гэта дзела з маленькосьці.

Глядзіш, як зачараваны, на працу гэтых рук, адчу-

ваючы сваю нікчэмнасць. А дзед пляце далей няспешныя свае славесы:

— Вся గарадная на гліні. Яе яшчэ будэ на міл'ён літ. Яе нэ пэрэробыш. Такая гліна была толькі на кашубі, як у нас. Дзве трэці людзей банькі ляпілі, а то і болей. З тых год, як царква ў нас. А ёй з трыста пяцьдзесят год. Можэ, і раней ляпілы, але то ўжо точно, бо папы запісвалы.

Усміхаецца і Шэлест:

— У нас тут еслі не ўміў гаршкі робыць, то дзеўкі не йшлі замуж. Не підзе, бо што ж, як не ганчар...

— А за цябе ішла? — пытае нехта з гледачоў.

Дзед падкусвае:

— Падманіў, сказаў, што ўміе.

— Вывучыўся, шчоб жаніцца,— парыруе Шэлест.

— А чаго ж гэта, дзеду, маладыя не вучацца?

— Работа грязная, дзяшовая,— дзеду відавочна крыўдна за сваё ўмельства і за ўмельства яго спрадвеку ганчарнай вёскі.— Зрабіць зробіш, а выпаліш — трэця часць астаецьця. Стукнеш — выб'ецьця, паліш — выб'ецьця, аблываеш — выб'ецьця. Багатыром ніхто не буў. Калаціліся, а жылі. Не для хліба, а шчоб людзям... Не ў прыгоршчах жа ім варыць... Ну, гразная, кажу, работа, дзяшовая, але і тую некалькі год толькі як папусцілы. Дзяшовая, ды і тую не давалы рабіць. Дзе горан быў — дык пяць-шэсць год назад, за кукурузным часам, трактарам пабілі, бульдозерам панішчылі. Прадаваць не давалы. Заробак з той работы, ды і то ў зімне врэмя,— на тытунь, а на рынку не бяруць, а рынак бярэ... Калісь-то ў нас жанчына-опікун була, выставы рабілі, не чыпалы нікога. Як пабачуць, шчо робіш, не возражалы. А тут. Хіба зараз такі горан зробіш ужо, які буў? — І з нейкім гаротным неўразуменнем: — Ці ты ўкраў, ці каго забіў? З землі сам зробіў.

Памаўчаў:

— Цяпер рабі, можно.— І зноў пасля паўзы: — Ды позна. Хто рабіў — кінулі, плюнулі. Іздзяць на заробкі. Што ўжо казаць. Канец ганчарнаму Г086родному.

...У мяне было дужа смутна на душы. Каму гэта ўсё было трэба? Сотні год існаваў промысел. Мала таго, існавала мастацтва. І вось бульдозерамі. Добра, зараз усё выпраўлена. Зараз імі цікавіцца фабрыка

мастацкіх вырабаў, памагаюць мастакі. Іхнія творы зноў адпраўляюць на выстаўкі. Але фінансавая палітыка нядаўніх год пашкодзіла промыслу, загубіла мастацтва. Пойдуць старыя майстры — і што тады застанецца ад яго?

...Царкве ў Гарадным, вядома ж, не 350 год, хаця кнігі, цалкам магчыма, вядуцца з таго часу. Але што сярэдняя яе частка з XVIII стагоддзя — гэта, мусіць, так.

Стаяла, мабыць, маленькая адназрубная цэркаўка (дзед сказаў: «ад патопа, як кажуць»), пасля да яе прыбудавалі яшчэ адзін зруб. І атрымалася тры зрубы і два шатры.

У інтэр'еры ёсць дзве досыць каштоўныя і, галоўнае, арыгінальныя рэчы. Адна — наіўны, амаль лубачны, абраз маці божай уніяцкіх яшчэ часоў, з букетам лілей, сэрцам і какетліваю ўсмешкай. Не хачу абражаць майстроў і сам культ мацярынства, але з лілеямі, з усмешкай і, галоўнае, з сэрцам яна атрымалася крыху падобнай на чырвоную даму.

Ёсць і яшчэ адна работа. Сапраўдны народны прымітыў XVIII стагоддзя. Уезд Хрыста ў Іерусалім. Прапорцыі вельмі парушаны. Сам Езус вышынёю з вежы горада. Галава ягоная — трэцяя частка ад усёй постаці. Круп каня і заднія ногі — вялізныя. Галава і пярэднія ногі маленечкія. Як ні дзіўна, гэта стварае страшэнна дынамічнае ўражанне. Здаецца, конь (конь, а не асёл, бо адкуль было жывапісцу таго асла бачыць), здаецца, гэты конь скача. А вежы Іерусаліма, вежы нейкай невядомай архітэктуры, пафарбаваныя палосамі: ніжні ярус шэры, дах яго аранжавы, верхні ярус белы з зялёным дахам.

Шкада, што ў мінскім музеі так цесна і так мала адведзена месца неацэннай нашай старой скульптуры і жывапісу. Нам, беларусам, ёсць чым ганарыцца і ў гэтым сэнсе. Не менш, чым іншым.

Зноў былі тлустыя чорныя дарогі з глыбачэзнымі каляінамі, налітымі вадой. І ніводнай машыны, акрамя «казла» ды тых, што ходзяць хлебнай парай.

Пад сонцам, пад спеючымі хмарамі цвіла ўсцяж дарог шыпшына.

Так, Адам быў злеплены з гэтай гліны. З гліны, абпаленай ачышчальным і святым агнём.

## XVIII. КАРОЛЬ УЮНОЎ, АБО НЕКАЛЬКІ МАРНЫХ ДУМАК АБ ПІНСКУ

Брыдкі інцыдэнт адбыўся з намі ля царквы Варвары. Ішла «рэстаўрацыя», то-бок на дах ставілі нешта дужа падобнае на хвігу. Пры выключным барокавым франтоне праз дах лезла цыбуліна на драўляным барабане. Не паспелі мы нават папрасіць дазволу паздымаць, як да нас падляцеў «рэстаўратар», царкоўны стараста з кучай цэменту ў галаве і ашалелымі вачыма:

— Не пазволю! Вон атсюда! — і выбухнуў непрыстойнай лаянкай.

Свяшчэннік, калі звярнуліся да яго, толькі рукамі развёў, не памаглі і дакументы.

— Я служачы. Уся ўлада — царкоўны савет.

Мы паспрабавалі пераконваць, але стараста налятаў з выглядам байцовага пеўня, і нам стала ясна, што пры такім клопаце старажытная царква застанецца стаяць. Нават калі прышыбеевы ад царквы не дазволяць ніводнаму мастаку, ніводнаму знаўцу і аматару народнага мастацтва ўвайсці ўнутр, сфатаграфаваць усё сапраўды каштоўнае і апісаць яго нехлуслівым словам павагі.

Мы махнулі рукой і, збянтэжаныя, не ведаючы, смяяцца нам ці абурацца, пайшлі прэч.

Такі ва ўсім гэтым быў прымітывізм мыслення, нібыта мы перанесліся на стагоддзе назад.

Я сядзеў на адхоне за калегіумам і ўяўляў сабе Пінск, якім ён быў год 120 назад. Мне лёгка было ўявіць гэта, бо варта было толькі ўзняць галаву — і ўбачыш чароўныя краі барокавага франтона, закручаныя, як струцаль з макам. Акрамя таго, у Крашэўскага, у ягоных «Успамінах Палесся, Валыні і Літвы», ды ў Аскара Кольберга, у ягонай кнізе «Беларусь — Палессе», ёсць досыць добрыя апісанні горада. Як зараз рака, як зараз лясы,— і таму яшчэ лягчэй уяўляць. Таполі над ставамі, яўрэйскія корчмы, ветракі, як на пакуце. За ракою хаты, напалову ў зямлі, а ля іх — худыя сабакі.

Грэблі, на якіх яздок клацае зубамі. Чумацкія фурманкі, што вязуць на поўдзень хлеб, а адтуль соль і сушаную рыбу.

Ля рагатак на вазах шукаюць гарэлку.

«Зорка наваколля» амаль уся драўляная, зрэдку мураваная. Але яна на шляху між Балтыйскім і Чорным морамі. Яна багата гандлюе, хоць і жыве ў гразі. У яе хапае грошай, каб узводзіць магутныя муры і вежы. Над горадам, над замчышчам высяцца сем ці восем званіц. Асабліва ўражвае велічынёй, масай камення паезуіцкі касцёл. Ёсць у ім і яшчэ адна славутасць — напалову замураванае акно, на якім намаляваны дзве постаці ў турэцкім адзенні. Яны гавораць між сабой. Жыхары кажуць, што гэта дзве ахвяры, забітыя пад час будавання, але ўборы супярэчаць гэтаму, ды і надпіс таксама: «Мы абрашчаем няверных».

У гэтым касцёле ў 1657 годзе, калі напалі казакі, быў забіты пад час імшы Андрэй Баболя, пасля кананізаваны.

Крашэўскі і Кольберг прарочылі, што горад стане паходняй гандлю. Але яны не ўлічылі чыгунак і аўтамашын. Усё ж горад паспеў набудаваць мураванак.

Ужо засынаючы, я ўспомніў пра ўлюбёны, ад прадзедаў успадчаны пінчукамі розыгрыш.

Свежаму чалавеку, які ўюноў і на вочы не бачыў, казалі, што каля моста, пад ім, плавае кароль уюноў. Злавілі, маўляў, але такі быў вялізны, сажняў на дзесяць, што не здолелі выцягнуць. Прыкулі на ланцуг, прывязалі да сваі і пакінулі плаваць, як своеасаблівую славутасць горада. Падкармліваюць, каб не здох: усё ж слава гораду. То вось, ці не хочаце, васпане, паглядзець? Васпан, ясна, хацеў. Гэткае дзіва! І вось яны вадзілі па мосце і па берагах, па балоце, глядзелі, «куды адплыў», казалі «вось-вось там, здаецца». А на беразе стаяла куча зявак і аж надрывала жывоцікі. Такім чынам, у Пінску кожны дзень была свая забава і сваё «Prima aprilis».

Ніхто ўжо не пажартаваў так з намі. Адышоў у нябыт нават гарадскі жарт. Усё адыходзіць.

## XIX. СЕМДЗЕСЯТ ПЯЦЬ АНЁЛАЎ З ГАКАМ

Пінскі катэдральны касцёл — адзін з лепшых будынкаў, якія мне даводзілася бачыць на Беларусі. З першага позірку на ягоную абсіду, магутную, як грудзі закутага ў латы волата,— нараджаецца ў сэрцы нешта падобнае на пачуццё велічы: я не зусім

малы чалавек, калі я нашчадак дойлідаў і каменшчыкаў, якія маглі збудаваць такое!

Калісьці ён, разам з прылеглым да яго кляштарам, належаў «братам мнейшым канвентуальным закону святога Францішка». Заснаваны ён у 1396 годзе Зігмунтам Кейстутавічам, князем Пінска, Турава і Старадуба, але быў ён тады драўляны. Пасвяціў яго біскуп Віленскі Андрэй Васіла. За тры стагоддзі будынак перанёс тры пажары. Першы ў 1618 годзе. Дзевяць год яго адбудоўвалі, але ў 1648 годзе ён згарэў другі раз пасля аблогі горада і страшнай «пінскай разні», калі згарэла пяць тысяч дамоў і было забіта чатырнаццаць тысяч чалавек. Згарэла тады толькі яго драўляная частка, бо тая самая велічная абсіда была ўзведзена яшчэ ў 1509 годзе (гораду тады не хапіла сродкаў зрабіць каменнай усю будыніну). Да абсіды ў другі раз прыбудавалі драўлянае памяшканне, але ў 1705 годзе агонь знішчыў і яго. Тады жыхары ўзяліся, нарэшце, мураваць цалкам каменны храм і адкрылі яго 1 мая 1730 года. Вось так за дзвесце дваццаць адзін год была, урэшце, скончана гэтая тытанічная праца.

Сапраўды тытанічная. Бо як улезлі ў маленькую сігнатурку на даху (Зянон з Валянцінам ледзь не скончылі там сваіх брэнных жыццяў, бо падламаўся прыступак лесвіцы), то ад відовішча займае дух. Магутныя вежы, лускаваты, як спіна дракона, дах, велічныя завіткі барокавых франтонаў. А ўнізе, у недасяжнай, страшнай глыбіні, блытаніна вузкіх двароў, лабірынт пераходаў, дахі, муры. І ўвесь горад як на далоні, і далёка-далёка віецца сіняя Прыпяць.

Перакрыцці і каркас з бярвенняў, на якіх ляжыць дах, шэдэўр інжынернага разліку і ўмельства нават цяпер. Гэтае перапляценне стаякоў, распорак і падпорак, расцяжак і звязак стварае ўражанне, нібы ты знаходзішся ў чэраве нейкай неверагодна складанай машыны. І адначасова ва ўсім відаць розум будаўнікоў, прастата, мэтазгоднасць і дакладнасць.

Муры фантастычна тоўстыя, а для палёгкі, лепшага рэзанансу і вентыляцыі ўся тоўшча іхняя траточана калодзежамі і хадамі. Тутэйшы арган быў пастаўлены ў 1833—1887 гадах архітэктарам Градзіцкім, а галасы для яго з чорнага дрэва, спецыяльна мочанага і сушанага, сканструяваў выключны наш

майстар арганаў Рудніцкі з Вільні. Тады арган быў аб дзевятнаццаці галасах і двух мануалах з педаллю клапаннай канструкцыі.

У 1936 годзе яго рэканструяваў майстар Бярнацкі. Ён дадаў шэсць новых галасоў, а старыя дапоўніў новымі трубамі. Частку іх ён замяніў на сталёвыя, і арганіст, вялікі майстар сваёй справы і знаўца музыкі, і цяпер незадаволены гэтым: «Са старымі, драўлянымі, было лепей». Педаль цяпер пнеўматычнай канструкцыі.

Не ведаю, як там было раней, але і цяпер гэта велічна і здорава. Ды і вонкавы выгляд гэтых срэбных трубаў, цёмнага золата капітэляў, бякла-зялёнага асноўнага фону здзіўляе гарманічнасцю.

Вадзіў нас па будынку, ад зялёнага дворыка з чатырох'яруснай званіцай («здымі шапку, бо ўсё адно званіца табе яе скіне») і аж да канструкцый гары і лазаў у сценах добры знаўца муроў і ўвогуле старажытнага Пінска і Піншчыны сіваваты ўжо, харошы чалавек з усмешлівым і разумным абліччам Казімір Свёнтак. Па-сапраўднаму здзіўлялі ягоныя веды, памяркоўнасць і шырокі падыход да з'яў жыцця. А асабліва здзіўляла спалучэнне сапраўднай улюбёнасці ў старажытнасць і дасведчанасці ў ёй з сучаснай любоўю да тэхнікі. Дужа харошы фатограф, матацыкліст, кінематаграфіст-аматар (зараз здымае фільм аб прыродзе Палесся), чалавек, які здатны цэлую ноч нерухома праляжаць у лесе, толькі каб запісаць на магнітафон такаванне глушцоў.

Пра помнік, пра кожную скульптуру ён мог гаварыць гадзінамі, і ўсё гэта было цікава і з веданнем справы. Гэта ён даў назву гэтаму раздзелу, расказаў, што раз прыйшло яму ў галаву, што дрэнны ён знаўца і не гаспадар над старыной, калі не ведае, колькі анёлаў у касцёле. Ну і пачаў лічыць. Фігуры на абразах, на роспісах, статуі на галоўным алтары і на алтарах бакавых. Налічыў семдзесят пяць, збіўся і махнуў рукой. Нельга палічыць. Так што тут іх, анёлаў, семдзесят пяць з гакам. А беларускі гак, бывае, і ў сотню не ўлезе. Гэта самыя дакладныя звесткі, а калі каму трэба больш дакладныя — хай лезе і лічыць сам.

Тут, між іншым, акрамя абразоў шмат карцін, часам дужа старых і каштоўных. Напрыклад, «Зняццё

з крыжа і аплакванне». Вернае XVII стагоддзе. Акрамя манеры, цікава яшчэ і тое, што аблічча Хрыста не відаць: твар схілены, на яго ўпалі валасы. Мастак лічыў, што ён няварты гонару, маляваць гэтае аблічча.

Паабапал алтара таксама дзве познія карціны С. Рудзінскага: «Зняццё з крыжа і нараджэнне». Цікавыя яны каларытам. Сапраўдным палескім каларытам. Калі валхвоў мастак апрануў яшчэ ва ўсходнія строі, то астатнія гледачы — сапраўдныя старазаветныя пінчукі ў вясковай вопратцы. Наміткі, світкі — «латухі», шэрыя з чырвонымі паясамі, вярэнькі з бяросты ў руках.

З новых карцін ёсць карціна Альфонса Ромера «Маці божая ў промнях», якой не пасароміўся б кожны першакласны музей.

Ды і абразы ёсць дужа каштоўныя і старыя. На адным — Маці Божай — ёсць вотум 1507 года. Значыць, абраз павінен быў ужо мець славу, а гэта справа доўгая. Значыць, майстар зрабіў яго ў XIV стагоддзі.

Ёсць некалькі дужа добрых работ XVI—XVII стагоддзяў. Напрыклад, два абразы святога Антонія-францыскага. Тут усё дыхае даўнімі вякамі, нават асаблівасці перспектывы. Напрыклад, чым чалавек на абразе далей ад гледача, тым вышэйшага росту робіць яго жывапісец.

Другая рэч мае прысвячэнне ад 1620 года. А ў пачатку XVIII стагоддзя яе ўзялі ў срэбную сукенку, якая — сведчанне таго, што ў чаканшчыкаў і басменных майстроў беларускіх былі залатыя рукі і вытанчаны густ сапраўдных мастакоў.

Да чаго я не люблю варварства! І як яно, на жаль, яшчэ здараецца ў нас... Вось ускрываюць магілкі на Завальнай вуліцы. Труны XIV стагоддзя, доўбленыя з цэльнай калоды і абвітыя бяростай, так званыя корсты, чэрпалі каўшамі экскаватараў і вывозілі на звалку... Вось два п'яныя ўрываюцца ў касцёл і крычаць: «Крышыць усё!» І крышаць. Добра, што абласны цэнтр даў справядлівы і суровы загад: «Судзіць».

Ксёндз, на жаль, дараваў. І неразумна зрабіў. Я б не дараваў нізавошта. Не таму, што такі ўжо крыважэрны. А таму, што быў бы ўрок на будучае іншым. Таму што разьблёныя алтары XVI—XVIII

стагоддзяў не толькі стварэнне рук нашых продкаў, а і проста дзіва рук чалавечых, якое належыць не толькі нам. І не на «ачаг цемрашальства» ўзнялі гэтыя два хуліганы свае кіі, а на годнасць народную, на яго мастацтва, на ягоную гісторыю і павагу да мудрасці продкаў.

Але што я? Народ выкажа свае адносіны да такога лаканічней. Заб'е адным словам.

...Студэнты трэслі краты капліцы на могілках, нібы арангутангі ў клетцы. Вартаўніца падышла, паглядзела на іх і сказала адно толькі слова:

— Няшчасныя.

І праўда, няшчасныя.

У такіх ні да чаго няма павагі. Нават да слова. Ім нічога не каштуе перайменаваць Скорбічы пад Брэстам у Дружбу, а Завальную вуліцу ў вуліцу Пабеданосікава.

Але вернемся да прамой нашай справы. Да мастацтва. Да таго вялікага, якога «няшчасным» не забіць. Вернемся ўнутр муроў.

Галоўны алтар пафранцысканскага касцёла ўстаноўлены, як і ўсё тут, аж да канструкцый даху, на магутных — зносу ім не будзе — шматсотгадовых бэльках з сасны і дубу.

Наконт якасцей дубу — распісваць і хваліць не трэба. Але вось як рыхтавалі продкі сасну дзеля такіх мэт, як апоры і перакрыцці. Каб стагоддзі стаяла і не гніла. Зімою выбранае дрэва,— спелае, але не пераспелы семяннік,— туга, з дапамогаю калаўрота, перацягвалі тросам ля самай зямлі і так пакідалі. Дрэва павінна было быць цалкам здаровым, без заганы і пашкоджанняў кары. Цэлы год росту яшчэ быў дадзены яму, і жывіца накаплівалася ў кожнай поры, у кожнай клетцы дрэўнай тканкі. Наступнай зімой дрэва ссякалі і сушылі пад павецямі, даступнае ветру, але недаступнае дажджу. Вычасаны з такога бервяна брус — «уванчос» — быў набрынялы мікраскапічнымі кроплямі смалы аж да цёмна-янтарнага колеру, звонкі, практычна непадуладны тлену і на дзіва цвёрды: цвік забіць цяжка. Урэшце, ніхто тых цвікоў амаль і не забіваў. У месцах злучэння бярвенняў свідравалася дзірка, а пасля ў яе забіваўся драўляны шып. Жалезная ржа, якая так раз'ядае дрэва вакол цвіка, не пагражала канструкцыі.

Ведалі майстры тых часоў і нейкі састаў супраць агню, сакрэт якога цяпер не вядомы. Таму і не дзіва, што пасля пажару драўлянай царквы або касцёла часам згарала толькі абшыўка, а сама будыніна, ад сцен і да шкілета крокваў, заставалася стаяць, толькі злёгку закураная, як фенікс, што выйшаў з агню. На гэта, ясна ж, паказвалі, як на божае дзіва.

Састаў быў, мабыць, дарагі, і пакрыць ім усё было немагчыма. Але дранка на дах нічога не каштавала, як і ўвогуле дрэва ў тыя часы. Дзеля новай абшыўкі трэба было ўсяго толькі некалькі дзён пацюкаць сякерай. І вось за тыдзень-другі будынак зноў бялеў свежымі сценамі і ўзносіўся ўзорным вільчыкам, нібы полымя і не жэрла яго.

Дык вось галоўны алтар і ўмацавалі такімі бэлькамі. Старасвецкай разьбы, двухпавярховы, укрыты скразным танчэйшай работы кіпенем кветак, пялёсткаў, завіткоў. Фігуры на ім часткова маляваныя, часткова залочаныя, але залочаныя, як і ўсё тут, высакародна, з густам і без усялякай крыклівасці.

На адным паверсе — узнясенне Маткі Боскай. Нават вельмі нядрэнная старая копія з Мурыльё: поўная глыбокага і светлага суму туманная сінь цераз густа-сіні плашч жанчыны пераходзіць у радасны, ружова-залацісты, вечны ўсход.

Някепская і ўкленчаная постаць св. Францішка (стыгматызацыя). Шырокія, тоўстыя хлапякі аблокаў. Анёл, што ўзлятае над званіцай. Нагрувашчанне цел і ўзнятых рук. Ва ўсім гэтым простая, крыху прымітыўная веліч і адначасова пышнасць. Хоць і з дрэва.

А фігуры алтара пад столлю з народнымі візарункамі! Дыспрапарцыянальныя, з выразам смешнай журбы або здзіўленай усмешлівасці. Ва ўсім адзін і той жа кранальны прынцып старых нашых майстроў: у статуях святых усё павінна быць «так, як у людзей, ды не так». Вось святая манерна падбірае падол з аднай прыгожай ножкі, нібы збіраецца ісці па вадзе. Добра!

З правага боку ад галоўнага алтара першы алтар св. Францішка, таксама ўвесь разьблёны, маляваны, пазалочаны. У ім стары абраз. Сухое, копчанае аблічча нагадвае формамі стары факомскі партрэт. Стыгматызаваныя рукі надзіва ненатуральна маленькія. І добра, што срэбная шата прыкрывае ўсё цела.

Бо на астатняй частцы ўжо цяжка што-небудь разабраць, і работа дужа патрабуе ачысткі, каб ізноў заззяць прамытымі, першароднымі фарбамі. І ўсё ж глядзіш на гэтае ягня, падобнае ці то на льва, ці то на сабаку, рахманае, з наіўна закінутай, пяшчотна маленькай галавой, глядзіш на праваленыя ля вачэй, здзіўленыя аблічны «прадстаячых». І рэч пачынае гучаць у душы, як напаўзабытая музыка.

Анёлы на алтары, дый паўсюль, не анёлы, а іранічная радасць. Пухлыя задкі, круглыя пузічкі. Усе яны тоўстыя і надзьмутыя, крыху асавелыя, нібы толькі што добра паабедалі. Мілыя тоўстыя мардахі (некаторыя нават кірпатыя) без усялякай адухоўленасці. Глядзяць на свет божы сіне-цьмяна-каламутна, як малыя шчанючкі, з адной толькі сытай радасцю, што вось до-обра жыць.

Іх, як я ўжо казаў, семдзесят пяць з гакам, і, нягледзячы на агульнасць выразу на абліччы, уже яны розныя. Каб мы былі ўважлівыя, дбайныя і нават скупаватыя гаспадары, каб сотнямі выпускалі альбомы па мастацтву для сябе і турыстаў — патрэбная была б асобная манаграфія-альбом «Анёлы Пінскай катэдры». Дужа каштоўная і патрэбная, дужа цікавая магла б быць рэч.

Што тут яшчэ? Вось алтар Маці Божай, зноў жа разьблёны і залочаны, мае два абразы. Малы на блясе, слабаваты, а вось вялікі, на дрэве, гэта XVII стагоддзе. Гэта напэўна.

На трэцім алтары досыць старая і досыць цікавая карціна на палатне: святое сямейства і голуб у ззянні над імі. Яе някепска было б вывучыць знаўцу, як, урэшце, і многае з таго, што мы бачылі.

Другі алтар з левага боку ад галоўнага — адна з найбольш тут цікавых з'яў. Не кажучы ўжо пра незвычайна тонкую разьбу, пра галоўны стары абраз, дзве бакавыя, з жыцця святога Францішка, дужа старыя работы. Ёсць нават рысы XVII стагоддзя, але, можа, гэта намераны архаізм ці стылізацыя або проста прыхільнасць глухога кута да крыху спозненай моды. І ўсё адно гэтая архаічная кампазіцыя, гэтыя порцікі фантастычнай, небывалай архітэктуры — усё гэта прыўкрасна.

Разьблёныя рэчы касцёла таксама розныя. Ад спавядальнікаў мясцовых, вырабу школы рамёстваў у

Пінску недзе ў трыццатых гадах, але зробленых з густам і без таго, каб яны парушалі агульны настрой і тон інтэр'ера, і да амбона разьблёнага, штукі велічнай, высакароднай, пышнай і, сказаў бы я, нават велікапышнай.

Словам, усё гэта — веліч, усё гэта — мастацтва, усё гэта — наша. І таму, што гэта ўвогуле душа продкаў нашых, майстроў. І таму, што гэта веліч нашай гісторыі.

## XX. АДЗІН НА ПАЛЕСКІХ ШЛЯХАХ

Тут, у Пінску, шляхі нашы разыходзіліся. Хлопцы павінны былі вяртацца ў Мінск, а я вырашыў усё ж перасячы Палессе да канца, прайсці апошні адрэзак шляху і такім чынам прыдаць падарожжу характар завершанасці.

І вось мы развіталіся на набярэжнай, я ўскінуў на спіну пляцак і, махнуўшы ім рукою, рушыў над вадка-залатой, злёгку туманнай ракой. Ранішняе паветра яшчэ не страціла ласкавай свежасці, нібы з бронзы кутыя, высіліся ў ім францысканскія вежы, з якіх лянiва планіравалі першыя галубы.

Чакалі дарогі, мяккі пыл на іх, прыдарожныя крамы, задушна-залатая спёка дня, жоўтае хваляванне баркуна на ўзмежках і коршакі ў сляпучых, цяжкіх аблоках.

Я ехаў аўтобусамі і спадарожнымі машынамі, ішоў пешшу, перапраўляўся цераз рэчкі і каналы, закідваў вуды ў спакойныя завадзі і абрываў кручкамі гарлачыкі, урэчнік і расіцу. Сузор'е Рэшата ўначы мігцела нада мной і рыбы, тлустыя ад ашыткаў, непаразумела глядзелі з-пад вады на маё вогнішча.

Ноч. Туман устае над нізінамі. Аднекуль песня. І ўжо значна менш у яе палескага, а хутчэй мяккі косаўскі акцэнт. Калісьці я чуў такую у Быцені. Але як пранізліва, як прытомна і журботна гучыць яна між гэтых дрэў, над гэтымі рэкамі і туманамі!

І з-пад лесу і з-пад гаю
Цёмна хмара выступае.
Барлак ногі падымае,
Усю радзіму праклінае.
«Ты, радзіма, ты, радзіма,
Нашто ж мяне парадзіла?»

Спакой. Туман. Тужлівы крык савы.

І зноў дзень. І зноў ноч. Але вечныя туманы над нізінамі. І вечна гучыць уначы — здалёк і на дне душы — незабыты звон з прадонняў. Кліча Князь-возера, і адказвае яму Белае, і захлынаецца ў маленні Бабровіцкае, заклікаючы возера Пагост.

Звон амаль нячутны. Нібы з даўняй музычнай скрынкі. Нібы нешта мяккае чапляецца за меладычныя голкі на валку, і залатыя пчолкі лётаюць вакол званочкаў і часам ціха ўдараюць па іх.

...Мне здалося, што адзін з гарадоў ужо ўсплыў, калі я праходзіў паўз пяціярусную, трыццаціметровую, сямісотгадовую Камянецкую вежу, і я канчаткова ўпэўніўся ў гэтым, у тым, што сёе-тое ад іх засталося і на зямлі, каб мы памяталі іх і сумавалі па іх, калі я выходзіў васільковымі палямі да Чарнаўчыц.

Срэбна плылі і хваляваліся вербы, зелена плыло высокае жыта, беллю і чырванню пераліваліся над ручаінамі рамонкі і смолкі. Сцежка ныраля ў палях, і залатыя парушынкі пчол завіхаліся над малінавымі шарамі канюшыны. Над усім гэтым раскашаваннем грувасціліся беласнежныя вежы аблокаў, а першыя ярусы іхнія былі шызыя, як дзікі камень.

А паміж палёў і аблокаў, нібы злучаючы іх, стаяла белая будыніна ў сакавітых зялёных шатах. Нібы ўломак снежнага горада, які праваліўся да сэрца зямлі. І я рушыў ёй насустрач, ведаючы, што яна не адштурхне мяне, бо я нясу ў сэрцы дабро і мір.

## XXI. АДРАДЖЭННЕ

Кажуць, што першая культавая пабудова з'явілася тут ў XIII стагоддзі на месцы паганскага капішча. А тое, мабыць, існавала з першага пасялення людзей у гэтых мясцінах. Стагоддзі сплывалі, мяняліся і цяклі плямёны па твары зямным. Тыя, даўнія, нават імёны якіх не зберагліся, пра якія мы нават не ведаем, хто яны былі такія. Готы ў другім стагоддзі ішлі тут да цеплыні, да далёкага Чорнага мора, якое вабіла іх гарачай сінню і чуткі аб якім дайшлі невядомым чынам на іхнюю туманную поўнач. Ішоў авангард воінскіх атрадаў з узброенымі, грубымі, як зубры і як гоцкія сагі, мужчынамі, а за імі бясконца

цягнуліся абозы. Іржалі коні, плакалі дзеці, лаяліся і вішчалі жанчыны, клубіўся, устаючы да неба, пыл, і ў ім крычалі колы вазоў.

Пакідаючы за сабою мужчынскія могільнікі (частку, самы край аднаго з іх, нядаўна раскапалі ў Трышыне), плацячы мускуламі, крывёю, жыццём, валіла, ірвалася на поўдзень арда.

— Наперад!

А праз два стагоддзі паўдзённыя плямёны турнулі іх ад Чорнага мора, і яны цяжка пакаціліся назад ужо зведаным, ужо аплачаным жыццямі, крывавым сваім шляхам, па дарозе — цяпер ужо назаўсёды і без надзеі вярнуцца,— развітваючыся з магіламі продкаў і братоў, што навекі засталіся ляжаць на гэтым шляху, адплаціўшы самімі сабой два стагоддзі жыцця ля мора, пад сонцам і сінімі пырскамі прыбою, аплаціўшы туманныя легенды сваіх плямёнаў пра навекі страчаны рай.

Шчаслівы выпадак памог нам выкапаць два скарбы, якія маглі б быць сюжэтам для змрочнай балады, а то і цэлага эпасу.

Скарб другога стагоддзя. На наканечніку дзіды рунічны надпіс: «Наперад!»

А на такім жа наканечніку чацвёртага стагоддзя тыя ж суровыя вуглаватыя руны: «Назад!»

Зніклі старажытныя плямёны, зніклі готы і дзесяткі іншых, у чаргаванні прыліву і адліву адплывалі і зноў наплывалі, змешваючыся, яцвягі і славяне, а парэпаныя дубовыя ідалы капішча, мяняючыся з новымі гаспадарамі, усё глядзелі і глядзелі на гэтыя змены, на дымы вогнішчаў, на пыл над дарогамі сляпымі і страшнымі дубовымі вачыма.

У XIII стагоддзі Ілініч узвёў на гэтым месцы першы драўляны храм. А ў 1583—1585 гадах на яго месцы з'явілася дбаннем Мікалая Радзівіла Сіроткі і рукамі геніяльных дойлідаў і муляраў тое дзіва, што бачым мы зараз, што яшчэ здалёк убачыў я, ідучы да яго канюшыннікамі.

Час быў неспакойны, круляванне Баторыя. Толькі што скончылася Лівонская вайна і рыхтавалася новая. Хто ведае, што несла пераменлівае ваеннае шчасце? І таму храм зрабілі крэпасцю з магутнымі мурамі, цяжкімі круглымі вежамі, трывалымі скляпеннямі і пагрознымі вузкімі байніцамі.

У чалавека, які фундаваў яго, былі разнастайныя густы. Нясвіжскаму касцёлу, таксама збудаванаму ім, не трэба было быць крэпасцю, побач стаяў магутны замак. І таму ў Нясвіжы пышнасць і адкрытасць ранняга барока, а тут, у Чарнаўчыцах, псеўдаготыка з рысамі рэнесансу. Але і ў тым, і ў іншым паўсюль сімвалы эўхарыстыі. Вінаград — гостыя, вінаград — гостыя. Хлеб і цяжкія гроны з узорнымі лісцямі. І матыў тайнай вячэры і шматлікія арлы.

Дужа цікавае, я б нават сказаў, унікальнае скляпенчатае, пасечанае вяззю скульптурных візарункаў перакрыццё касцёла. Гэта досыць рэдкі на Беларусі рэнесанс. І калі, скажам, палякі могуць ганарыцца ў гэтым сэнсе такімі цудоўнымі рэчамі, як Зыгмунтаўская капліца на Вавелі, замак у Баранаве, двор у Пабяніцах, ратуша ў Хелмне і яшчэ многа-многа чым, то нам тым больш трэба берагчы тое нямногае, што збудавана ў гэтым стылі ў нас. Прычым гэта адраджэнне, успоенае мясцовымі манерамі будаваць, мясцовымі традыцыямі і густамі, мясцовым пачуццём гармоніі.

З першага позірку ўнутранае абсталяванне касцёла здзіўляе аскетычнай беднасцю. Каб не шыкоўнасць і пышнае багацце скляпенняў з іхнімі складанымі візарункамі і золатам разетак, яно здавалася б нават проста ўбогім. Што тут ёсць? Акрамя новых упрыгожанняў, каштоўнасць якіх больш чым няпэўная, ёсць тут дзве перанесеныя знадворку цікавыя і старыя скульптуры. Святы Марцін, які раздзірае плашч, каб аддаць палову жабраку, і яшчэ фігура нейкага францысканца. Гэта зроблена на добрым старым узроўні.

Ды ёсць яшчэ абраз Яна Непамуцкага, таго самага, што не адкрыў каралю таямніцы споведзі каралевы, грахоў яе, і за гэта быў зрынуты з моста. Гэта рэч сапраўды майстэрская.

Побач з Янам два цікава і досыць манерна выпісаныя анёлы, адзін з якіх цягне ахапачак лілей, а другі вянчае галаву пакутніка. Наводдаль стылізаваны мост.

Вось, бадай што, і ўсё. Чаму? Чаму храм, фундаваны фантастычна багатым чалавекам, храм, які на працягу трохсот год асыпалі золатам, падзякамі, у якім працавалі найлепшыя майстры, такі бедны?

Пачатак гэтаму трэба шукаць у 1867 годзе. Бессаромная і бязлітасная мураўёўская помста абурылася не толькі на людзей, але і на помнік іхняй культуры. Палітыка паслядоўнага вынарадавання, самадзяржаўя, праваслаўя і «народнасці» проста не магла абмінуць душы, мовы, пачуцця гожага і думкі чалавечай.

У школах загадам папячыцеля Карнілава цяпер ледзь вучылі чытаць. Касцёл Чарнаўчыцкі быў забраны пад царкву. Статуі і абразы шаснаццатага стагоддзя, зіхатлівы сонечны рэнесанс з яго водбліскам Італіі, рэнесанс, на якім ляжалі апошнія водбліскі адраджэння і гуманізму, выносілі на цвінтар і секлі, шчапалі сякерамі і кідалі ў агонь. Два дні секлі сякерамі. Два дні цягнуўся над Чарнаўчыцамі тлусты дым, два дні пухірылася, бурліла, ускіпала чорным празрыста-ясная фарба на прыўкрасных абліччах. Два дні палілі старыя кнігі.

Другую смяротную небяспеку прынесла вайна і пажар пры ўваходзе немцаў. Праз тыдзень пасля таго, як былі занятыя Чарнаўчыцы.

Нехта з беларусаў — дагэтуль невядома хто — стрэліў жаканам у нямецкага гаўптмана і параніў яго ў руку. Нехта сказаў ці, можа, гэта самім немцам здалося, што стралялі з байніцы касцёла. Вечарам таго дня салдаты аблілі муры і падлогу бензінам і падпалілі яго.

Вечар і ўсю ноч будынак зырка палаў, і полымя гэтае рвалася ў ноч. Толькі раніцай камендант даў жыхарам дазвол гасіць шэдэўр, які гінуў на вачах. На шчасце, храмы-крэпасці моцная рэч і іх не так проста знішчыць. Але і дагэтуль, як помнік варварству новага сярэдневякоўя, падпіраюць хоры абгарэлыя, закураныя калоны.

Трэцюю напасць ледзь не прынеслі сходы, што вядуць у вежы і на званіцу (таксама XVI стагоддзя і двайнік Нясвіжскага, можа, нават, збудаваны тымі самымі майстрамі). Я іх бачыў ужо крыху падноўленымі ўнізе за апошнія гады. Падноўленыя звычайнымі прыступкамі на трэцюю частку вышыні вежы.

Але і тое, што засталося, было дзівам інжынернага разліку невядомага сярэдневяковага цеслі. Вінтавыя, зробленыя з абчасаных бярвенцаў, яны толькі адным канцом кожнага бярвенца ўмацаваныя ў ма-

ленькіх нішах каменнай кладкі. Другія іхнія канцы, тыя, што стваралі вось вінта, былі проста пакладзены адзін на адзін на ўсю вышыню вежы, не звязаныя ні шыпам, ні цвіком, ні скабою, змацаваныя ў жорсткае цэлае толькі сілаю ўласнай вагі. Гэты вінт жывога дрэва нібыта пераліваўся як хацеў. Глянеш знізу — нібы жывое сонца з промнямі, то светлымі ад святла з байніц, то цёмнымі. І плахі, чым далей, тым у перспектыве, танчэйшыя. Скеміць таўшчыню кожнай плахі, колькі счасаць, якія выемкі трэба зрабіць з ніжняга боку дзеля аблягчэння ўсёй канструкцыі,— гэта трэба было мець на плячах галаву, што добра ўмее цяміць. І гэты вінт прастаяў трыста шэсцьдзесят гадоў.

Дык вось гэтыя самыя геніяльна задуманыя сходы ледзь не загубілі ўсёй будыніны. У 1941 годзе яны знізу згарэлі на трэць. Прыступкаў не было, а восевага слупа таксама не існавала. І ўсё ж немцы, пры наступленні нашых, ухітрыліся залезці на вежы і адстрэльвацца адтуль. За час запеклага, зацятага бою па храме-крэпасці было выпушчана васемнаццаць снарадаў. Тысячы куль і асколкаў паплямілі яе ля байніц і паўсюль. Яна засталася стаяць, але трэшчыны і дагэтуль змяяцца, перасякаючы яе шматпакутныя муры.

...Лянівы і спякотны чэрвеньскі поўдзень стаяў над вежамі, калі я кіраваўся з Чарнаўчыц на Брэст. Замлела раскашавалі сады, а над імі і над белым крышталем храма-крэпасці плылі мне насустрач хмары. Нібы цяжкія беласнежныя зубры.

І ўвесь гэты абшар быў як адраджэнне ўсяго таго, што прайшло, пракацілася над гэтым пакутным кавалкам зямлі.

## XXII. НАПЯТЫ СВІТАНАК. БРЭСТ

Апельсінава-залатыя расплаўленыя хлябі нёс Мухавец да недалёкага Буга. Яны імкнуліся наперад, зрэдку абліваючы халоднымі блакітнымі мазкамі.

Прыйшоў канец майму падарожжу. Нізкае яшчэ сонца ледзь пачынала прыграваць патыліцу.

Шлях быў вялікі. Шлях быў цікавы. Многа-многа адмералі ногі, шмат, дужа шмат бачылі вочы.

Нібы пазбаўлены раптам хрыбта, пагрузіўшы ў

ваду натруджаныя ступакі, я ўспамінаў хмары над Прыпяццю, хвалі, што ліжуць лазу, залёныя знізу ад вільгаці платы, цыганскі натоўп, што пераліваецца, мінаючы старажытную царкву.

І песні, і нязлую размову бабуль на прызбе, і дзяўчат у вышываных сарочках, і ўсё, што завецца маім народам, самае каштоўнае, што ў мяне ёсць. І тое, што стварылі рукі ягоныя: гэтыя хаты пад знакам сонца, і франтоны калегіума, і вежы францысканаў, і гліну, што жыве на ганчарным коле, і драўляныя кветкі старой разьбы, і карункі чарнаўчыцкіх скляпенняў.

Успамінаў гэта і ведаў, што мы ўсё ж збераважом, абаронім усё гэта. Упрыгожым яго, каб жыло вечна. Толькі каб не прайшла вайна, у полымі якой згараць вежы, статуі, самі людзі, як гарэлі яны ўжо не раз. Як вежа пры татарах, і як Пінск у сялянскую вайну, і як чарнаўчыцкі шэдэўр у вайну апошнюю.

Здзіўная, знямоглая і напятая трывога вісела, была разлітая ў паветры.

Было 22 чэрвеня. Чатыры гадзіны раніцы. Бераг Мухаўца.

## XXIII. ІЗНОЎ ГАВОРАЦЬ ЗВАНЫ

На нейкі час ты кончылася для мяне, святое маё Палессе. Але я вечна буду ўдзячны тваім іржавым балотам, тваім шыроколістоўным бязмежным пушчам, тваім азёрам, залатым рэкам тваім, задуменна-пахмурым вежам і мурам, праўдзівым сведкам мінулага. І яшчэ тваім людзям, дзецям тваім чыстым, сапраўднаму сэрцу твайму і тваёй непадкупнай, вялікай, справядлівай душы.

Яны старанна працуюць. Яны светла думаюць. Яны жывуць дабром. Што б там ні было, яны жывуць дабром. І заўсёды жылі дабром, іначай не збярогся б, даўно паў бы пад ногі захопнікам і рознай навалачы, расплыўся б, знік гэты тысячы разоў выпалены, тысячы разоў попелам пушчаны край.

Я ледзь паспеў вярнуцца ад цябе. Але часам ужо зараз на світанні або ўначы, калі сплыве на імгненне сон, а то і ўдзень сярод чалавечага тлуму я раптам забываю аб усім і не чую нічога.

Пачынаюць гаварыць твае званы.

Вельмі далёкія, амаль нячутныя, яны пачынаюць гаварыць з усіх тваіх азёр. Там жывуць людзі, жыве стары палескі народ, першародны народ з вялікім сваім сэрцам, якое мы не павінны забыць.

Настане дзень, і з'явяцца над вадою шпілі, залатыя шатры і самыя белыя вежы, а тады ў патоках блакітнай пены, у карунках і сонцы багатыя і гожыя муры.

І людзі з яснымі, як вада тваіх крыніц, вачыма, не затуманенымі вайной, жахам, адступніцтвам і здрадай, будуць пяшчотна махаць рукамі, сустракаючы нас, а мы кінем ім пад ногі кветкі, сваё раскаянне і сваю любоў. І мы абдымемся з імі братнімі абдымкамі, якія не разарваць, і нідзе нішто не будзе гарэць і выбухаць, і паўсюль застануцца толькі хаты, тонучыя ў кветках, і маці з дзецьмі, і светлая радасць, і мова, і песні, і шчасце.

*Ліпень, 1969 г.*
*Палессе — Мінск*

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ «БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА»

На самым захадзе маёй Беларусі ляжыць Белавежская пушча. Гэта адзін з апошніх астравоў таго першабытнага лесу, які пакрываў у старадаўнія часы ўсю Еўропу. Тут зусім не рэдкасць дрэвы ў паўтысячы год. Тут з незапамятных часоў вольна жыве зубр. Магутны, як сама зямля, і старажытны, як яе запаветныя нетры.

Адвечная цішыня. І шолах дрэў. І тупат зубрыных статкаў. Таксама як і ў каменным веку.

І побач з гэтым сляды далікатнага любоўнага ўмяшання чалавека: стагі, каб падкарміць узімку звяроў, музей, хаткі егераў, сучасная гасцініца. Для праўнукаў сваіх беражэ чалавек кожную кветку, кожнае дрэва, жывёл і птушак.

І такуюць, такуюць раніцай глушцы. Да штучнага возера цягнуцца цяжкія сляды япрукоў. Трубіць ў нясытай страсці алень. Дзікі вінаград абвівае буралом. І палюе на янотаў егер. І клічуць-клічуць белыя лебедзі, б'юць на рэках пудовыя шчупакі, шумяць сонечныя дубы і грабы. І чырванеюць падасінавікі.

І дымок ад ранішняга вогнішча змешваецца з туманам.

Усё гэта — пушча. Усё гэта — неўміручая душа яе. Яна цудоўная, як душа нашага народа. Калі вы стаміліся, калі хочаце прыпасці вуснамі да вечна жывой крыніцы жыцця — прыйдзіце сюды, у найдзівоснейшы куток зямлі. Бо тут — фарпост чалавечнасці, літасці чалавека да прыроды, сястры нашай.

## ВІЛЬНЮС — ЧАСЦІНКА МАЙГО СЭРЦА

Горад мой! Любоў мая да цябе зарадзілася так даўно, што я нават не помню калі. І думаю, што буду любіць, пакуль жыву.

Я ўдзячны табе за светлыя веснавыя ранкі над Нерыс, над Віліяй, калі жыхары спяшаюцца да працы, за спякотныя поўдні на Росах, за золкія кастрычніцкія змярканні ў блытаніне вулак старога горада, за жоўтыя і залатыя лістапады на Антокалі, за язычок зыркага агню — Анну, за універсітэцкі квартал з Святаянскімі мурамі, у якіх столькі ўсяго перажылі героі маіх твораў, за цішыню музеяў і за агеньчыкі ўтульных, гасцінных «корчмаў». І яшчэ за цішыню тваіх архіваў, у якіх адрабіў чорт ведае колькі гадзін.

Праходзячы па тваіх плошчах, я збіраў усё ў сваю пісьменніцкую кайстру — і кінуты кімсьці жарт, і вобраз прыгнечанага бядой чалавека, і шчаслівую, светлую ўсмешку дзіцяці, якое ляжыць у калясцы, і разумную размову са старым мастаком у ягонай майстэрні, і ўважлівы позірк бабулі, што прысела на лаўцы.

І я тут столькі набраў ружаў і шыпшыны, нікчэмнасці і высакароднасці, чалавечай сціпласці і неўвядальнай красы, што цяпер, калі б усё гэта вытрас з сваёй кайстры, стаў бы зусім бедным.

Але Вільнюс... Вільня — гэта не толькі адзін з любімых маіх пісьменніцкіх «палігонаў», да кварталаў якога я «прыстасоўваю» характары і ўчынкі сваіх герояў, ён сапраўды часцінка майго сэрца,

таму што тут я дыхаў на поўныя грудзі, таму што тут я проста — жыў!

Колькі перамералі крокаў мае ногі па тваіх гарбатых тратуарах! Колькі вершаў я тут напісаў! Колькі нечаканых і цудоўных думак нарадзілася тут (горад — гэта каталізатар, які абуджае вялікія, часам парадаксальныя думкі)! Колькі падарыў ты мне нязмернай радасці і бязмежнага болю, за якія я роўна блаславляю цябе.

Тут спляліся культуры нашых народаў, як карані літоўскіх і беларускіх дрэў на мяжы (але хіба ёсць тая мяжа?), як плынь беларускіх і літоўскіх рэк. Непадзельная і выпакутаваная нашымі пакаленнямі гісторыя — з першых, яшчэ няцвёрдых крокаў, з тых дзён, калі ўжо падужэлыя разам рушылі на Грунвальд біць крыжакоў і там зрабілі канец іх крывавым нашэсцям,— да самых апошніх часоў.

...Мой Вільнюс, мая Вільня, хадзіў-папахадзіў я тваімі вуліцамі-вулачкамі. Але адзін дзень прынёс мне светлай тугі больш за ўсе іншыя. 10 сакавіка 1964 года, калі споўнілася сто гадоў, як пакаралі смерцю Кастуся Каліноўскага, я яшчэ ў прыцемках прайшоў увесь яго шлях: ад Дамініканскіх муроў на рагу вуліц Гараліса і Гедрыса (там ён быў зняволены) да Лукішак, дзе ля сцен кляштара св. Якуба стаяла шыбеніца.

А пасля таксама пехатою пайшоў на месца, дзе хавалі павешаных (на тэрыторыі тагачаснай цытадэлі), падняўся на гару Гедыміна. Я не ведаў, дзе там ляжаць яго косці, але сеў пасядзець і бачыў, як над горадам абуджаецца ранак.

У тую раніцу ў горадзе выпала шэрань, тонкая і сыпкая, нібы цукровая пудра, галінкі дрэў пакрыліся лёгкім інеем. Сонца, узыходзячы, пазначыла ружовай фарбай верхавіны званіц, а потым перада мною раскінуўся горад — увесь пафарбаваны ў ружовы колер ад праменняў сонца і лёгкі, як хвост райскай птушкі. Вось так я і ўшанаваў памяць Кастуся Каліноўскага. Нібы разам з Беларуссю і Літвой чакаў світання новага дня, за які так упарта — аж да смерці — змагаўся ён.

Цяпер я ведаю, што шмат чаго можа прадракаць мне лёс — як і кожнаму іншаму чалавеку,— але ў маім жыцці, поўным усялякіх нечаканасцей, акрамя

ўсяго іншага быў Вільнюс, Вільня, і той ранак на гары Гедыміна.

Горад мой, ты не абнесены мурамі, але самыя лепшыя муры — сэрцы вільнюсцаў: літоўцаў, беларусаў, палякаў, усіх.

Людзей.

І маё сэрца — гэта каменьчык, пакладзены ў гэтыя муры.

## «МОЙ СЕ ГРАДОК!»

Пасяленням чалавечым на месцы, дзе стаіць зараз Кіеў, сорак... дваццаць пяць... (Кірылаўская стаянка) дзесяць тысяч гадоў. Так што, магчыма, яшчэ апошнія неандэртальцы палявалі тут на мамантаў і шарсцістых насарогаў. І так яно і ішло пасля: не зводзіўся на гэтым зручным месцы чалавек. Па берагах рэчак і ручаін, што беглі ў Дняпро. У неалітычных пячорах, над якімі пасля ўзнікла Кірылаўская царква, на Саломенскіх схілах, на Лысай гары. І плямёны трыпольскай, медна-каменнай культуры былі тут. Ішло людское жыццё-быццё, і ў познетрыпольскіх знаходках сафіёўскага тыпу пачынае трапляцца ўжо не толькі ўзбраенне паляўнічага, але і зброя воіна. Трэба было бараніць маёмасць, а значыць, і весці войны дзеля ўзбагачэння захопленым чужым дабром. І прыйшла эпоха бронзы, эпоха вайны. А пасля жалеза. Перад самай вайной археолагі даследавалі Карчувацкі могільнік (Зарубініцкая культура, II ст. да н. э.— I ст. н. э.).

Не трэба думаць, што ўсе гэтыя (і пазнейшыя) помнікі археалогіі — гэта паслядоўная і бесперапынная гісторыя таго самага Кіева, што ёсць сёння. У іх няма развіцця, няма бесперарыўнай традыцыі. Гэта проста: нарадзілася пасяленне — загінула — узнікла праз сотню гадоў у другім месцы — праіснавала стагоддзе — пайшло ў нябыт — зноў вырасла... Няма ніводнага пасялення, якое б існавала ўвесь час ад эпохі бронзы і ранняга жалеза і аж да сярэднявечча, калі ўзнікла пісьмовая традыцыя, ці крыху раней, да

эпохі легендарных братоў-заснавацеляў горада Кія Шчэка і Харыва.

Легенда гэтая, прыведзеная ў летапісе, на жаль, не дае нам дакладнай даты. А археалогія гаворыць нам толькі, што было некалькі дафеадальных селішчаў, якія былі папярэднікамі, існавалі перад стварэннем самага старажытнага кіеўскага гарадзішча замка (недзе ў пачатку другой паловы 1-га тысячагоддзя нашай эры). Магчыма, гэта было ўжо і славянскае замчышча (Хатомель на беларускім Палессі адносіцца да таго самага часу, і гэта ўжо — славяне). Магчыма, аб гэтай рэальнай з'яве і гаворыць летапісная легенда. Мы не ведаем, ці было тое замчышча «градам Кія». І застаюцца яшчэ такія пытанні, як: «ці можна назваць тое гарадзішча горадам» (горад — гэта месца, дзе жыхары рамесьнічаюць і гандлююць і вырабы свае мяняюць на хлеб, якога самі не вырабляюць у дастатковай колькасці)? І застаюцца пытанні культурнага, сацыяльнага, горадабудаўнічага (развіццё гарадской тэрыторыі) адзінства.

Гандаль? Магчыма. Трапляюцца на тэрыторыі Кіева нават манеты старажытнагрэчаскага і рымскага часоў. Абшчыннае пасяленне (большую частку ўсяго вырабляюць для сябе) або горад (большую частку ўсяго вырабляюць на абмен) — гэтага мы пакуль дакладна не ведаем.

...Замкавая гара, дзе нібыта была першая рэзідэнцыя Кія да таго, як ён пабудаваў горад на Старакіеўскай гары? Цяжка сказаць, бо тут культурныя пласты наслойваюцца адзін на адзін ад рубяжа нашай эры. Старакіеўская гара, гарадзішча на якой і атаясамліваюць з «градам Кія»? Невядома. Капішча — яно было тут. Археалагічныя знаходкі сведчаць, што і пасяленне тут было, у IX—X стст. Менавіта тут у IX—X стагоддзях стаялі і два княжацкія палацы, і тут тады ўзнік дзяцінец Кіева, у межах якога горад разрастаўся ў X—XI стагоддзях, атрымаўшы назву «Уладзімірава горада». Тут была першая царква горада, Дзесяцінная.

Вось гэта быў ужо горад. Але ці ён менавіта «горад Кія»? Гэтага мы пакуль не ведаем. Пісьмовых крыніц няма, у летапісах няма дат пра гэты перыяд.

Адзіная ўскосная пісьмовая згадка пра заснаванне трыма братамі горада Куара ёсць у «Гісторыі Таро-

на», што належыць пяру армянскага храніста Зяноба Глака. А гэта VIII стагоддзе. Гэта сведчанне сына народа прадпрымальнага, гандлёвага, які шмат ездзіў і шмат бачыў, пісьменнасць якога была афіцыйна ўведзена ў 396 годзе нашай эры (а хрысціянства было прынята за 95 гадоў да таго і, значыць, таксама не магло абыходзіцца без нейкага пісьма). Словам, «молчат гробницы, мумии и кости. Лишь Слову жизнь дана».

І ўсё адно: мясціны кіеўскія дыхаюць старажытнасцю, і параўнаць гэта адчуванне подыху гісторыі, гэтае фізічнае пачуццё павеву вякоў, ветру, часу можна хіба з тым, якое ахоплівае цябе на полацкіх стромах.

Тут ва ўсё можна паверыць, нават у міфічнага апостала Андрэя, які нібыта прыцягнуў сюды крыж аж з берагоў Міжземнага мора недзе на рубяжы нашай эры.

Гэтыя адхоны, зарослыя дзеразой,— сама старадаўнасць. Гэтыя цяжкія пласты рыжай, жоўтай або чорнай зямлі здаўна-давён хаваюць у сабе бронзавыя рымскія бляшкі, антычныя камеі — усё сведчыць аб тым, што чалавек сядзеў на гэтых стромах з Зарубінецкіх часоў і да сярэднявечча... і да нашых часоў. Праўда, толькі на нашай пісанай памяці бывалі часы, што на месцы Яраслававa горада сто год раслі дрэвы, а раней бывалі, відаць, запусценні яшчэ больш страшныя і доўгія, чым пасля манголаў, але ўсё ж давайце ўспомнім, што на тэрыторыі ад Куранёўкі да Пірагова і ад Лук'янаўкі да Дняпра агульная колькасць рымскіх манет перавышае шэсць тысяч экземпляраў. Лічыць, што гэта тэрыторыя аднаго населенага пункта, хай самага выдатнага, нельга, і тое, што іх так многа, можа азначаць толькі тое, што тут шмат капалі. Але ўсё ж. Але ўсё ж і ўсё ж.

Тым больш што Кіеў — агульнаславянская наша святыня, сімвал наш. І з кожнага камяка тутэйшай цяжкай зямлі — толькі сцісні яе ў пясці — пачне церушыцца ржавы пыл ад даўно спарахнелых мячоў і — сцісні мацней, мацней! — закапае чалавечы пот і чалавечая кроў.

Знаходкам такім часта спадарожнічаюць своеасаблівыя абставіны. Паблізу ад Пакроўскага манастыра, скажам выбухнуў у вайну снарад, і ў варон-

цы знайшлі рымскую рэспубліканскую манету Спурыя Афранія. А гэта другое стагоддзе да нашай эры. Хочаш не хочаш, а задумаешся над гэтай археалагічнай «удачай».

Ну так, мы не ведаем, калі быў закладзены «горад Кія». Але мы ведаем, што часам жыхарам пратакіеўскіх паселішчаў свяцілі ўначы рымскія свяцільнікі першых стагоддзяў нашай эры (знаходка на вуліцы 9 Студзеня). Ну так, мы не маем аніякіх падстаў атаясамліваць Данпарстад (Дняпрагорад), нібыта сталіцу готаў на Дняпры часоў гунскага нашэсця (IV—V стст.), з «горадам Кія». Проста пісьменнікі VI ст. Йярнанд і іншыя раздзьмулі межы «дзяржавы готаў» ледзь не на ўсе славянскія і ўгра-фінскія землі, што не болей чым безадказная і малапісьменная балбатня, графаманства і трызненне (накшталт спробы аднаго з сучасных «аўтараў» аднесці слова «бужаніна» да племя «бужанян» — культурныя людзі гавораць «бужан»,— у якіх вышэйпамянёная ежа была нібыта нацыянальнай стравай, і вось яны вымерлі, бедныя, але запаветалі нам яе як адзіную пра сябе памяць)... Але вось перад намі знойдзеная ля Феафаніі Карынфская манета V ст. да нашай эры. Але вось пералічаныя Пталемеем (II ст. нашай эры) «гарады» на Дняпры. Мы ведаем, што гэта былі яшчэ не гарады і ўжо не пасяленні, а «гнёзды пасяленняў», якія мелі цягу адзін да аднаго.

І ўсё адно, швэндаючыся гэтымі вуліцамі (а гэтаму майму занятку ўжо без малога сорак год), я адчуваю падэшвамі жар вялікай маці-гісторыі, якой не тысяча, не паўтары і не дзве тысячы гадоў, а болей, і кіеўскі вецер, вецер часу, уладна і мякка штурхае мяне ў твар.

Вось пра гэтае адчуванне стагоддзяў, пра тое, як чытаў кнігу часу, кнігу гэтага горада адзін чалавек, я і раскажу на гэтых старонках. Бо які сэнс у паўтарэнні даўно ўсім вядомых археалагічных (накont таго, што роў, адкрыты пры раскопках 1909—1912 гадоў, вакол нібыта гарадзішча Кія, быў шырынёй 4 м, а глыбінёй «4 м ад узроўню старажытнай паверхні») і гістарычных («Святаполк забі Барыса і Глеба») звестак. Тым больш што і самі старадаўнія гісторыкі пра гэта нічога не ведаюць (рукапіс XVIII ст. называе 334 год «ад Хрыста», Мацей Стрый-

коўскі — 430 г., 1-шы Наўгародскі летапіс — 2-ю палову IX ст., год 854), а мы і пагатоў. І нават у самых даўніх летапісцаў ідзе барацьба кіеўскага летапісання, якое вядзе паходжанне горада ледзь не ад цара Гароха, і Наўгародскай летапіснай традыцыі, якая пераменшае ўзрост горада і называе Аскольда і Дзіра наўгародцамі. Словам, і тады гісторыя і праўда ўжо былі пастаўлены на службу палітычнай тэндэнцыі, а значыць, і простай фальсіфікацыі. Я асабіста думаю інакш. Я сам трымаў у руках чарапкі VIII стагоддзя. Я ведаю, што верхні археалагічны рубеж Кіева — вось гэты. А які там ніжні — хто яго ведае. І я смела кідаюся ў гэтую сваю «гіпотэзу», а там — бог бацька. Тым больш што горад у старажытным славянскім сэнсе — гэта не наш «горад», а «ўмацаванне», «замак». А ўмацаванні, гарадзішчы існуюць тут бог ведае з якога часу. Больш дакладна: з часу зараджэння феадальных адносін на славянскіх землях (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя нашай эры) і да часу завяршэння феадалізацыі ўсходняга славянства (IX—X стст.).

Блукаючы па зямлі, мне даводзілася часам трапляць у месцы, якія міжвольна выклікаюць думкі аб вечнасці, аб зменлівасці лёсу, аб тым, што ўсё мінае, аб тым, што ніколі не ведаеш, які каму суджаны лёс. Вось стаіш на тэрыторыі кіеўскага гарадзішча (аднаго з чатырох самых старадаўніх сярэдневяковых славянскіх гарадзішчаў) і пад табою Дняпро, мой Дняпро магутны, а вакол свеціць агнямі двух з гакам мільённы горад, сталіца і «маці гарадоў». І вось Хатомельскае гарадзішча (Столінскі раён), равеснік Кіеўскаму, а пад ім толькі «старык» Гарыні і каля старых валоў толькі адзін хутар. А можа, і яго цяпер няма. Кожнаму вызначаны свой рубеж, як сказана продкамі.

Толькі хто думае пра гэты рубеж, пра гэты канец?

Перафразірую крыху старую прыказку: «Нават калі табе заўтра адсякуць галаву — не думай і не бойся, сей жыта сваё».

...Такі прыблізна настрой быў у толькі што вызваленага Кіева, калі я ў 1944 годзе ўпершыню ўбачыў ягоныя вуліцы, ягоныя дрэвы, ягоныя камяніцы. Ягоныя руіны.

Горад быў ціхі, амаль бязлюдны. Горад прачынаўся ад страшнага сну. Вонкава цэлы, ён толькі пры

набліжэнні да Крашчаціка адкрываў воку сваё знявечанае, абвугленае, узарванае, прастрэленае сэрца. Чалавек з прастрэленым сэрцам памірае. Горад і краіна не паміраюць, пакуль б'ецца сэрца хаця аднаго іхняга сына ці дачкі.

Як расказаць пра гэтыя руіны?! Пра руіны Крашчаціка і трамвайчык, які вазіў па вузкай сцежцы пасярэдзіне вуліцы бітую цэглу, пра вуліцы, якія ўпадалі ў яго таксама руінамі, пра каробку універсітэта, вокны і дзверы якога былі заплеценыя дротам. Пра гулка-пусты пасаж. Пра пыл, які кожны моцны вецер уздымаў з руін Успенскага сабора ў лаўры. І трапезная лаўрская была пустая, а дзіўна жывыя твары святых на сценах былі струмянямі, плынямі — і гэта значыць незнарок — залітыя нейкай абрыдлівай фіялетава-бардовай вадкасцю. Як сумессю марганцоўкі з крывёй. Я не ведаю, ці здолелі рэстаўрыраваць работу Іжакевіча. Бо я ніколі з таго часу не набраўся мужнасці пайсці туды. А тады нават у падлетка было адчуванне, што гэта асабіста цябе пакрыўдзілі, і плакала душа.

Было цяжка і не дужа сыта, і ўсё ж у гэтых руінах было вялікае абяцанне шчасця і для тваёй Беларусі, бо гэта ўжо свая зямля. І твая Беларусь, пакуль што здратаваная і загнаная пад зямлю, ужо была абяцаная табе, павінна была ўжо вось-вось таксама зрабіцца сваёй. Хай яшчэ мора крыві і роспачы трэба было перайсці, каб назваць яе сапраўды сваёй.

Ногі мае і тады і пасля насілі мяне па ўсім горадзе і асабліва часта заносілі туды, дзе людзі, вучоныя, гісторыкі, археолагі, пачыналі расчышчаць, аднаўляць, капаць. Як нюх у мяне быў на гэта. Я ведаў, хто, дзе, калі і што робіць, і прыставаў да гэтых людзей, адных з самых прывабных у свеце, бессаромна і навязліва, як смала. Часцей за ўсё з голага энтузіязму. І так вось праз раскопы і расчысткі, праз задуменныя каштаны на Сафійскім падвор'і, праз друз Успенскага сабора, праз кашлатыя арэхі ля Спаса на Берастове і глухую лагчыну Выдубецкага манастыра я паступова адчуў галоўнае ўва мне, прыналежнасць да Вялікай Гісторыі Славян, да гісторыі народаў, у тым ліку да ўкраінскага, што складаюць маё племя.

Уваходзіў у галоўную справу майго жыцця: асэн-

саванне нас, сённяшніх, асэнсаванне таго, хто мы ёсць сёння і куды мы ідзём,— праз асэнсаванне нашага ўчора.

Вось стаіш на плато верхняга горада, ля муроў гістарычнага музея, тады яшчэ чырвоных, неатынкаваных. Бяжыць пад ветрам пустазелле, і ты ведаеш, што вось гэты невялічкі, гектары ў два кавалачак плато над урвішчамі ў бок Кажамяцкага яра і Андрэеўскага спуску — гэта і ёсць старое першагарадзішча, гарадзішча Кія. І вось тут дрэмле пад зямлёй фундамент Дзесяціннай царквы, тады яшчэ не расчышчаны. А каля адной з яе былых муроў першапачатковы роў, які мусілі ж, пэўна, засыпаць, перш чым пачаць узводзіць у 989 годзе храм.

І адтуль можна пайсці ў кожны канец Уладзімірава і Яраслава места, куды панясуць запыленыя ногі. Можна пайсці да Андрэеўскага ўзвозу, дзе мадэрнізаваная готыка «замка Рычарда — Львінае сэрца» і каратусенькі Борычаў узвоз (а ў даўніну ён быў доўгі, меў працяг недзе каля фанікулёра, і ім ехаў пасля ўцёкаў з палону князь Ігар да царквы Маці Божай Пірагошчай), якім валаклі, прывязаўшы да коней, Перуна і кінулі ў Дняпро, а людзі беглі па берагах і, плачучы, крычалі: «Божа! Божа! Выдыбай!» І ён «выдыбаў» там, дзе цяпер Выдубецкі манастыр. А можна пайсці ў Сафійскі сабор і ў ягоным змроку глядзець на цьмянае глыбіннае золата Маці Божай Непарушнай Сцяны і ўяўляць, як пасля татар, калі ўсё вакол было разбурана і стаяла толькі яна, мог уражана і спалохана спыніцца нейкі паляўнічы, калі з дрэўных нетраў біла яму ў вочы пахмура-вячэрняе, заходняе ззянне мазаікі і ўздымалася насустрач рука. А ад Сафіі пабрысці Залатавароцкай вуліцай да Залатой брамы. Тады, у 1944 годзе, у горадзе панавала такое бязлюддзе, што камяні вакол брамы зараслі хмызняком, пустазеллем, і там вадзілася і грэлася на камянях вялікае мноства яшчарак.

А можна было пайсці на Уладзіміраўскую горку, да помніка. Там, дарэчы, я атрымаў першы такой сілы ў жыцці ўрок аб непасрэдным уздзеянні мастацтва на чалавека. Стаяла перад помнікам і глядзела на бронзавую дошку са сцэнай хрышчэння бедна апранутая вясковая жанчына з хатулём на плячах

(можа, упершыню ў жыцці і бачыла нешта такое) і гаварыла:

— І дытыну нэсуть... Та воно ж малэ... Та воно ж голэ.

І залівалася горкімі слязамі ад сабе самой незразумелых замілавання і гора.

Я хацеў быў засмяяцца, але пасля мне стала сорамна. І ўсё жыццё, калі я пішу, гоніцца за мной сорам перад бедна апранутымі людзьмі і іх слязамі.

Хто хоча ведаць, як там, у Кіеве, калі яшчэ ішла і доўга яшчэ павінна была ісці вайна, нараджаўся адзін чалавек і як ён толькі дзівам не загінуў на парозе нараджэння, хай прачытае маю аповесць «Лісце каштанаў». Гэта адна з нешматлікіх маіх рэчаў, якая на дзевяноста пяць працэнтаў голая праўда, нават што датычыцца дробных рэалій, якія могуць засведчыць усе кіяўляне, што былі ў той час у горадзе.

Праўда аж да нямецкіх шыльдаў сям-там (Каффее), аж да закладзенага цяпер цэглаю нашага пад'езда, аж да аднавокага бандурыста ў лаўры, аж да двара дамоў нумар 48—50 па вуліцы Леніна, дзе жартавала, геройствавала, спаборнічала ў высакароднасці наша мушкецёрскае войска, аж да таго, што я мог там памерці... Ну так, некалькі разоў мог. Адзін (ці два?) раз у вайну. І яшчэ раз студэнтам, калі мяне напярэдадні стыпендыі высадзілі з трамвая нумар 8, а той пайшоў па схіле ўніз і разбіўся. Некалькі вось такіх дзіўных выхадак лёсу, пасля кожнай з якіх я мог зрабіцца ўкраінскай зямлёй, як калі-небудзь — аднаго хачу — зрабіцца зямлёй беларускай.

І праўда ж гэта было: прыгоды, вернае мушкецёрскае сяброўства да канца і абяцанне першага кахання, таксама да канца, у што я крыху старамодна і сентыментальна веру.

Сяброўства, небяспека, намёк на абуджэнне сэрца і намёк на будучы шлях — вось колькі ўсяго шчодра адваліла мне Украіна, Кіеў. Дык як жа магу я, унук свайго дзеда, не ставіцца да іх і да Беларусі з лёгкай добрай іроніяй і як я магу не разбіць носа кожнаму, хто ўздумае жартаваць з іх нядобра і ўсур'ёз?!

Я пан жартаваць сам з сябе. Але няхай толькі паспрабуе іншы.

Бо вось усё ўспамінаецца падземны ход пад мур

лаўры і святло месяца на бяленькіх хатках Цяліч-кі, якія адбіваюцца ў начной вадзе рова (там цяпер дамы). І тое, як на світанні глядзеў у туман над Дняпром і здавалася, што вось паплывуць з вярхоўяў варажскія чаўны, і Аскольд з Дзірам спытаюць: «Чій се градок?»

862 год. Першая дакладная храналагічная дата з жыцця старажытнага Кіева. Незадоўга да гэтага Кій, Шчэк і Харыў (або іхні род) «ізгібоша». Я не палена-ваўся і перабраў каля сотні радаслоўных розных радоў на Беларусі, Украіне, Расіі. Ёсць сярод іх «доўгія» (Радзівілы — 600 год, і жывуць; Рамана-вы — каля 600 год; Сапегі — недзе каля 400 год, вымерлі), ёсць «кароткія» (род Монтвіда, Карыята, Кейстута і Любарта Гедзімінавічаў вымерлі ў муж-чынскай лініі ў другім-трэцім пакаленнях). Сярэдняя працягласць дынастыі (асабліва калі ўлічыць, што князі тады арудавалі мячом самі, а не рассылалі загады праз ад'ютантаў) 150—200 год.

Нарманісты, хоць ты іх галавою аб сценку таўчы, лічаць, што гэта і ёсць пачатак Кіева. Аднагодак Полацку. Але мы ведаем, што такое першая згадка ў летапісе. Гэта азначае, што дадзены горад нехта або спаліў, або захапіў, або нейкая чума ў ім была.

Даўжэй, значна даўжэй гісторыя гарадоў. І невя-дома яшчэ, ці варагі былі Аскольд і Дзір, ці на-шчадкі Кія (так кажа Длугаш).

Не ведаю, але калі вось у такую туманную раніцу я нібыта чую з ракі пытанне: «Чій се градок?» — мне хочацца загарлаць ва ўсё горла: «Мой! Мой гэта градок! І спрадвеку быў мой, як спрадвеку маёй, ад пачатку дзён маёй была, і ёсць, і будзе мая вялікая рака!»

Няма чаго здзіўляцца, што ўспаміны аб вайне, сяб-рах, успаміны аб тым, як нарадзілася пачуццё пры-належнасці да мінулага, дзіўнае адчуванне, што ты жывеш унутры яго, прывялі мяне, калі прыйшоў час, зноў на Украіну, у Кіеўскі універсітэт. І я, відаць, не дужа памыліўся, прадчуваючы, што менавіта там мне ўдасца лепей зразумець мінулае ўсходнеславян-скіх народаў, чым яно ў кожнага народа падобнае і чым адметнае. Там былі лепей упарадкаваныя бібліятэкі (асабліва аддзелы рэдкіх кніг і рукапісаў) і архівы. Акрамя таго, там ніхто не здзіўляўся,

што я чытаю, напрыклад, Максіма Гарэцкага (быў 1949 год), усю літаратуру аб паўстанні 1863—1864 гадоў або, скажам, справу забойцы Лермантава М. С. Мартынава (ён сядзеў тры месяцы на гаўптвахце ў Кіеўскай крэпасці і ў Кіеве ж павінен быў адбываць царкоўнае пакаянне; пятнаццаць год — пасля толькі пяць год, але ўжо праз чатыры гады ад эпіцім'і быў вызвалены). Або разнастайныя старадрукі ці перыёдыку 20-х гадоў. Гэта прыводзіла часам да дзіўных выпадкаў. Да таго, скажам, што я здзіўляўся, чаму паўстанне Каліноўскага называюць сялянскім, калі яно было — статыстыка! — разначынна-шляхецка-сялянскім. Калі пазней гэты погляд — падзякуем Г. В. Кісялёву — стаў агульным, я ўспрыняў яго з радасцю, як заўсёды з радасцю ўспрымаем такую падзею, калі розум і вернасць ісціне даюць па лапах прадузятай думцы.

І такіх адкрыццяў было шмат. І самым галоўным адкрыццём быў горад. Вялізная і аж да неймавернасці цікавая гістарычная і сучасная кніга. Самая ў маім жыцці захапляючая кніга аж да таго часу, калі я пачаў чытаць кнігу маёй роднай старany, маёй зямлі, якую я з'ездзіў, праплыў, прайшоў уласнымі нагамі ўсю.

Першай кнігай быў Кіеў. І чаго я там толькі не нагледзеўся, дзе толькі не налазіўся. Трымаў у руках чэрап Яраслава (здарылася раз такая нагода), жоўты з белай плямай (след удару шаблі качэўніка; толькі я не ведаю, ці не быў гэта муляж ці нейкі іншы чэрап, як гэта часам робяць у музеях. А я тады быў яшчэ нявопытны).

І гэта было веданне горада знутры, да апошняга каменя (цяпер, вядома, не тое, «мой горад» цяпер толькі нязначная частка Кіева). Я лазіў у скляпенні і на званіцы цэркваў, ведаў, чым славуты кожны прахадны двор і як ім прайсці, у якім двары найлепшая ў Кіеве акустыка, калі заспяваеш (вуліца Чудноўскага, цяпер Рэпіна, якраз «за спіною ў Тараса»), дзе гібее ў хмызах закінуты фантан незвычайнай формы. Я памятаю, як выглядалі драўляныя, даўно знесеныя дачы на берагах Дняпра на шляху да «Зязюлі», і якія незвычайныя людзі там жылі, і як менавіта ў апошні раз вялі свае партыі ў «Запарожцы за Дунаем» М. І. Літвіненка-Вольгемут і І. С. Патар-

жынскі, і хто пры іх граў турчаня (Барадзінеўскі), і дзе сядзеў палонны Шаміль (вул. Кірава, а нумар дома, здаецца, 28, на рагу Крапаснога завулка), і колькі ў Кіеве Лысых гораў (аж тры, так што вось дзе ведзьмам раздолле і раскоша!). І памятаю (мабыць, такіх людзей не дужа многа), як помнік Уладзіміру пару дзён стаяў увесь чырвоны, нібы заліты той крывёй, якой многа праліў князь. Ільсніўся барвою на сонцы, страшны, як рана (гэта ягоную бронзу і чыгун грунтавалі, і было гэта ці не ў пяцьдзесят трэцім годзе). Словам, ведаю цэлую кучу бескарысных і, аднак, чароўных рэчаў, пры веданні якіх толькі й можна сказаць, што чалавек з горадам на «ты». Бескарысных, чароўных і... дужа патрэбных, бо гэта — душа горада і частка тваёй душы ў ёй. Не велічныя абеліскі і мармур, а памяць пра тое, як раса падае з хобатаў сланоў на дзівацкім будынку Гарадзецкага (мабыць, гэта і дало падставу К. Паўстоўскаму пісаць, што слановыя галовы на гэтым будынку рыны, што, па-мойму, не так, я, ва ўсякім разе, праўраў і такіх не бачыў). І памяць пра тое, што ў караімскай кенасе не заўсёды было кіно, а пэўны час быў тэатр лялек. І памятаеш, як называўся Яраславаў вал раней, і радуешся, што людзі паразумнелі і даюць імёны сучаснікаў вуліцам, пабудаваным сёння, а не старым, гістарычным вуліцам, якім многія стагоддзі. І ты можаш нават дужа часта папраўляць даведнікі.

Чырвоны з чорным, колераў Уладзімірскай стужкі, корпус універсітэта (старая, яшчэ царскіх часоў чырвань — а легенда казала, што так пафарбавалі будынак пасля студэнцкіх хваляванняў — настойліва лезла праз менш якасную новую), маладзенькія пірамідальныя таполі перад порцікам (цяпер яны закрылі яго ўвесь, ды і ўвогуле зяляніна кіеўская разраслася так неўтаймавана, што схавала ад вачэй маіх аблічча многіх родных дамоў, і я не пазнаю іх у твар, а куткі, дзе я ведаў кожны камень, здаюцца мне чужымі), доўгая магіла кіта-фінвала на універсітэцкіх задворках (першая кітабойная флатылія падарыла яго універсітэту, і косткі вось так вызвалялі ад мышцаў), а побач, між «кітовым капцом» і акадэмічнай бібліятэкай, у татарніках, вялізная конная статуя Суворава.

Залы бібліятэк (вялікай я не любіў і заўсёды сядзеў у першай, малой) такія розныя, з такімі разнастайнымі тварамі і атмасферай, ад строгай вялікай і да малой залы літаратуры па мастацтву, дзе на стале ў яблычна-аранжавай, крыху спляшчанай зверху і знізу вазе стаялі нейкія барвяна-індзейскія галіны з лісцямі (за вокнамі даўно снягі, а тут была восень і яе лёгкі, празрысты настрой).

Кнігі. Старыя, пульхныя, у скураных адзеннях, чорных і рыжых, з валікамі на карэньчыках, сухая сітаватасць паперы XVIII стагоддзя, альманахі часоў Міцкевіча і Пушкіна, «Жалейка», прыжыццёвыя выданні Лесі Украінкі, «Матчын дар» (па вонкаваму выгляду кнігі адточанае вока можа меркаваць пра эпоху, у якую яна стваралася і выйшла, часам не менш, чым па яе зместу). Кнігі, залашчаныя сотнямі рук, і кнігі (часта не менш цікавыя), якія за сто год не разрэзала нічыя рука, і тады ты першаадкрывальнік.

І — некалькі разоў — ледзь не выключэнне з універсітэта за тое, што я не хаджу на многія лекцыі, а замест гэтага прападаю ў бібліятэцы.

Неяк абыходзілася, і я зноў браўся за сваё. Ого! Стаў бы я замест скарбаў, якіх я так доўга чакаў і да якіх урэшце дарваўся па спецыяльнай просьбе акадэміка А. І. Бялецкага (першыя тры, здаецца, курсы ў «тайнае тайных» не пускалі), стаў бы я замест гэтай любоўнай, п'янай асалоды хадзіць на лекцыі мікрацэфала і ў соты раз слухаць тое, што ўжо даўно ведаю і што мне даўно ўжо абрыдла і — я прадчуваў — доўга яшчэ будзе абрыдаць. Там са мною гаварыў яловай мовай пра моранага дуба думкі сучасны варыянт папячыцеля Карнілава, а там мне грымелі, шапацелі, спявалі Дастаеўскі і Сафокл, Шаўчэнка і ўсе старыя ўкраінскія, беларускія і іншыя гісторыкі, там былі Катул, Антоніч, Рыльке, паэты «Млодай Польскі», Бунін, Ясенін і Грын, стаптаны тады Важдаевым з зямлёю, невядомы мне да таго (ды, памойму, і на радзіме тады не сярод усіх папулярны) Норвід.

З некаторымі ацэнкамі тагачасных крытыкаў я не згаджаўся, з некаторымі быў згодзен (і зараз, напрыклад, не прымаю Гамсуна, Пруста і іншых), але галоўнае было тое, што, раскашуючы ў каморы чала-

вечых думак і пачуццяў, я прымаў сам і адвяргаў сам, давяраючыся толькі ўласнаму мозгу, сэрцу, сумленню, не кіруючыся нічыімі безапеляцыйнымі ўказаннямі.

Няпраўда, указанні былі, вельмі далікатныя, стрыманыя, асцярожныя. Украіна і Кіеў пасадзілі мяне за гэты банкетны стол — яны знайшлі мне і настаўнікаў, якія ненавязліва, часта канфідэнцыяльна, заўсёды як роўныя з роўным (а яны ж былі старымі маракамі, а я юнгам), з павагай «толькі рэкамендавалі і раілі, калі гэта мне падыдзе», які келіх піць з гэтага разліўнога мора ідэй і тэорый. Звярталі ўвагу на тое, які іранічны парадокс варты цэлай сістэмы, і якая дужа сур'ёзная кніга, высока ацэненая тым і тым, вартая прачытання, толькі каб ведаць яе, не паступаць так, як раіць яна, і, калі нехта ўжывае яе як зброю, мець супраць яе надзейны шчыт: ведаць на тры метры пад аўтарам, чаго ён хацеў і чаго дабіваўся.

Гэта быў асцярожна-іранічны і пры гэтым надзіва для мяне адкрыты і шчыры А. І. Бялецкі, непрыкметны, а між тым шырокі эрудыт А. А. Назарэўскі, вельмі-вельмі цікавы (а гаворыць так, што зразумее і загарыцца нечаканай і новай думкаю нават тупы) сівы С. І. Маслаў. І прафесар Шамрай (на жаль, рана пайшоў) з яго сарказмам. І паэт Рыльскі, нібы паглыблены ў сябе. І «свяцейшая» наша Л. А. Панамарэнка.

Бадай што ўсе яны былі значна цікавейшыя ў жыцці, у размове (мне шанцавала, яны верылі, што я шчыра стараюся зразумець хаду іхняй думкі і іхніх сумненняў да тых глыбінь, куды сёй-той з іх, можа, і сам заглядаў не дужа часта, і плацілі мне за сур'ёзнасць, смею думаць, поўнай адкрытасцю), чым у некаторых са сваіх кніг. Ды яно і зразумела было. Яны былі людзі добрай школы і памяталі, што Сакрат не пакінуў кніг, затое пакінуў вучняў. Яны, вучні, былі ў большасці, вядома, дурнейшыя за яго, але глыбокая пашана да настаўніка і яго памяці прымушалі іх несці ў свет нескажоныя яго думкі і няхібна карыстацца ў жыцці ягонымі правіламі, жыць імі, прыбавіўшы крыху свайго, яшчэ лепшага,— самаахвярна.

У кнізе ўсяго не скажаш. Лепшае сваё чалавек

выказвае ў шчырых размовах з сабе падобнымі, і яны — магу ганарыцца, хаця і не ведаю, чым заслужыў,— не шкадуючы, дарылі мяне гэтай адкрытасцю, гэтым сваім лепшым, якое, можа, рэдка каму і казалі і сведкам чаму, для некаторых, цяпер з'яўляюся, магчыма, адзін я.

Украіна, Кіеў — гэта былі не толькі кнігі і архівы, не толькі лепшыя з настаўнікаў, якія разам са мной узважвалі меру дабрыні і зла, гэта былі археалагічныя раскопы, дзе я працаваў, музеі (украінскі і рускі хацелі браць мяне экскурсаводам, і там і там я праводзіў пробныя экскурсіі і рабіў гэта, не пасаромеюся сказаць, добра, як і экскурсіі ў Сафійскім саборы, калі не было свабодных людзей; пасля гэтага неяк не зладзілася — усё больш часу патрабавала чытанне і пісанне,— але паўсюль я застаўся сваім чалавекам). Ну і, вядома, не толькі музеі, але і опера і сімфанічныя канцэрты. Тады з вясны да восені чалавек з малымі грашыма (а адкуль яны ў студэнта?) мог праслухаць усю сімфанічную класіку бясплатна з эстрады ў парку над Дняпром. Дырыжыраваў, нават злёгку какетнічаючы і хуліганячы, Рахлін, граў Рыхтэр і г. д.

Лёс мой кідаў мяне так, што з многімі людзьмі мастацтва я быў знаёмы. Прычым зводзіў ён мяне з імі, што абставіны знаёмства маглі б здацца нейкай містыкай, і адзін з нашых вядучых крытыкаў абавязкова кінуў бы свой дзяжурны сказ: «Караткевіч выдумае, а пасля сам жа ў гэта і паверыць». Па-першае, гэта не абраза: значыцца, выдумана дыхтоўна, з шырынёй і фантазіяй, так, што не толькі чытач, хочаш не хочаш, а паверыць, а з цягам часу і сам аўтар. А па-другое, можна, вядома, правесці дні 8—9 студзеня гэтага года так: пайсці на работу (ці працаваць дома), пасля на пасяджэнне (сход, праўленне ці што там яшчэ), паглядзець тэлевізар (пачытаць кнігу), легчы спаць, паўтарыць тое самае на наступны дзень і вечарам пайсці ў госці. Гэта лічылася б нормай. Але такая норма, такі паўзучы жыццёвы рэалізм не па мне. Па мне паехаць у гэты дзень у Мсціслаў, дарогаю (пры трыццаці градусах марозу) трапіць ва ўраганны буран, калі снег ад зямлі да неба, блукаць, бо ў метры ўжо не відаць нічога, некалькі разоў думаць, што ўжо гамон (тым больш што

праз нябачныя шчыліны ў машыну насейвае снег, а матор глухне, бо ў Беразіне заправілі бензінам з вадой), выбіцца ўрэшце на аўтакалону, што таксама засела (снег вышэй аўтобусаў), капаць, выцягваць і вылезці-такі ў дзве гадзіны ночы з дапамогай бульдозераў. А назаўтра, ідучы Мсціслаўем, бачыць у лютым марозным небе каляровую і вялізную, на палову неба, вясёлку. А ноччу, у дадатак да ўсіх уцехаў, бачыць яшчэ, і як памірае поўня пад час месячнага зацьмення.

Вось гэта сапраўдны рэалізм. Мой. І вы ў мяне гэтага майго рэалізму не адбірайце і іншых «ізмаў» мне не торкайце. Ні ў жыцці, ні ў творчасці. Бо інакш жыць, інакш пісаць я не хачу і не магу.

...Але досыць пра крытыкаў. Вернемся да іншага.

...Дык вось, пра кіеўскіх людзей мастацтва. Адзін толькі выпадак. Не памятаю ўжо, на якім курсе было, падыходзіць да мяне ў зале акадэмічнай бібліятэкі мілая жанчына і шэптам просіць выйсці, а ў калідоры тлумачыць, што яна біёлаг ці псіхолаг (не памятаю), піша дысертацыю (ці проста навуковую працу) аб стамляльнасці, і паколькі з усіх, хто сядзіць ва ўсіх залах, я працую найбольш часу, з раніцы да вечара, працую больш за ўсіх заўзята, мэтанакіравана і ўтрапёна, то ці не згаджуся я ёй дапамагчы. Я згадзіўся, але сказаў, што часам хаджу на лекцыі, а яна сказала, што нічога, што яна і гэта ўлічыць, як адпачынак.

І вось да таго, як засяду за работу, у сярэдзіне дня, і пасля сканчэння работы я іду ў маленькі пакойчык, вызвалены для яе машын, там мне надзяваюць на галаву марсіянскі шлем, наклейваюць на павекі розныя датчыкі, дзьмухаюць у вока струменьчыкам паветра (а на экране ў гэты час скачуць зайчыкі рознай формы), даюць рашаць пад секундамер розныя тэсты (я не ведаю прозвішча гэтай жанчыны, забыў імя, але як нехта прачытае гэтую работу і сустрэне там «працаздольнага студэнта К...», то хай ведае, што гэты падвопытны трусік быў я), а пасля даюць яшчэ пятнаццаць рублёў. Не чакаючы гэтага, я пачаў быў адмаўляцца, але яна ўгаварыла. І потым, час быў для мяне вельмі скрутны, і з гэтымі грашыма я мог працаваць тут, а не хадзіць разгружаць вагоны. І я ўзяў, бо й так, дзе яна знайшла б чалавека, які штодзённа столькі б сядзеў за кнігай.

Працавала яна ўсю зіму, а пасля скончыла работу і пайшла.

Здаецца, праз год, неяк вясной, студэнты задумалі запрасіць на выступленне Барыса Раманавіча Гмыру, тады ўжо народнага артыста, а можа, і лаўрэата. На чале дэлегацыі дзяўчат накіравалі мяне, «галоўнае трапло і Сірано дэ Бержарак» (лічылася, што калі я захачу, і калі чалавек будзе мне сімпатычны, і калі гэтага дужа патрабуе справа, і калі камусьці — не мне — будзе без гэтага нявыкрутка, я магу «прывесці ў выгляд, зручны для лагарыфмавання, самага складанага і цяжкага чалавека, абы разумны быў»).

Пазваніў... Адкрыла мне дзверы... тая самая мілая кабетка з бібліятэкі, якая з машынамі. Абое мы разгубіліся: я падумаў, што памыліўся дзвярыма, яна... не ведаю, што падумала яна, ды яшчэ ўбачыўшы мяне з такім эскортам.

Выявілася, што гэта жонка Барыса Раманавіча (добра, што я не задаў пытання накшталт: «А вы як тут?»), і ўжо як яна пасля яго ні ўмаўляла выступіць, кажучы, што я быў у яе самым ідэальным партнёрам, без агаворак. На жаль, было нельга, Гмыра напярэдадні пайшоў у водпуск і даў сабе волю, з'еў сем порцый марожанага. Але канцэрт быў. Гэты дзядзька з-пад Харкава, даведаўшыся, што я беларус, сказаў, што ў яго нехта з бацькоў (ці дзядоў, не помню) таксама з Беларусі, і ўсю рэштку дня да ночы мы з ім спявалі («мы аралі») беларускія народныя песні, якія ён памятаў. Не думаю, што ён сказаў пра продка-беларуса з ветлівасці, бо песні ён ведаў сапраўды глыбінныя, неапрацаваныя, такія, якія і зараз спяваюць недзе пад Туравам, або Рагачовам, ці Астраўцом. Гэта было лепей за ўсякі канцэрт, бо спявалі, што хацелі, дый я «падвываў» досыць удала, бо сярэдні мой голас быў у тыя часы ўсё ж лепшы, хлопцы-украінцы ахвотна бралі мяне ў хор, а пазней я нават вёў барытанальна-басовую партыю ў хоры а capella «Бандура». Дый дзяўчаты мае — некаторыя — спявалі ва універсітэцкім хоры Святлічнай, так што атрымаўся канцэрт, які, можа, вось так, толькі раз ці два здараецца ў жыцці кожнага спевака.

А знаёмства з Зояй Гайдай! А бойка ў нейкім пустым цяпер Зялёным тэатры, бойка з хуліганскай кампаніяй, якая спрабавала асвістаць канцэрт Вяр-

цінскага. Мы такі не далі ім зрабіць гэтага, бо мы такі проста ім далі і пазнаёміліся пасля са спеваком! А нашы тэатральныя куміры! А тое, што жывых беларускіх пісьменнікаў (за выключэннем Янкі Купалы, якога бачыў у дзяцінстве) я ўпершыню ўбачыў таксама ў Кіеве, пад час выступлення іхняга ў тым жа Зялёным тэатры. І тэатр Янкі Купалы бачыў я ўпершыню таксама там, і поспех ягоны быў — куды там сённяшняму!

...І, вядома, сябры, з якімі вучыўся. З усіх факультэтаў і «відділов», у прыватнасці з украінскага. Чытаеш зараз кнігі, бачыш «укладальнік такі», «прадмова такога», «пераклад з іспанскай і каментарый таго і таго», а сам успамінаеш, як жылі ў адным калідоры, па суседству, як здабывалі хлеб, як разам спявалі (выпадкова сабралася тры чалавекі, заспявалі, абраслі хлопцамі — гатовы хор). Словам, тое, пра што казаў украінец у адказ на запытанне, а што б ён рабіў, каб яго зрабілі царом. А ён ляжаў бы з усім сенатам пад вішняю і... «правив та співав би».

І ўспамінаеш, як вырашалі светавыя праблемы, як швэндаліся вулкамі і зацята спрачаліся аб паэзіі, праўдзе, любові да радзімы і проста любові і зноў, і зноў аб паэзіі.

Дый што здзіўляцца. Былі мы звычайнымі дзяўчатамі і хлопцамі, маглі і напракудзіць, і згарэзаваць, і разыграць, і заступіцца за сябра ў бойцы, і выкінуць нешта зусім нечаканае. Але яднала нашу рэспубліку на Шостай Новай (там быў інтэрнат) не тое, што мы пальцам не давалі свайго зачапіць, але хутчэй пачуццё хранічнай закаханасці ва Украіну, у Кіеў, ва ўсё на свеце. Словам, кажучы словамі песні:

«Все они красавцы, все они таланты, все они поэты...»

Многія з нас не ведалі, што іншыя пішуць вершы, многія нікому і не адкрываліся ў гэтым, так што даведаліся мы аб гэтым куды пазней. Але над нашымі галовамі лунала маці-паэзія, і з ёю нам чорт быў не брат. Я, праўда, выступіў аднойчы з чытаннем свайго верша «Кіеў» і нават быў узнагароджаны кнігай, але гэта хутка забылася. А верш я склаў адразу на трох мовах: украінскай, рускай і беларускай. Было гэта ў сакавіку 50-га года на першым курсе, і верш той недзе згубіўся, а кніга яшчэ ёсць. Дзіўнага тут

нічога няма, я ў той час напісаў акрамя беларускіх яшчэ з дзесятак украінскіх і па некалькі рускіх і польскіх вершаў, спрабаваў сілы. Але, паўтараю, неяк праз пару год ніхто не ведаў, не помніў, што я пішу. Мы не лезлі з вершамі да іншых, мы, паўтараю, амаль заўсёды не ведалі, што сусед — паэт.

Можаце здзівіцца, але са мною ў адным пакоі жыло, як выявілася пасля, нязнаныя аж пяць, здаецца (не лічачы мяне), вядомых цяпер паэтаў. А колькіх іх было ў суседніх пакоях, на іншых курсах!

Адкуль я мог ведаць, што вось гэты іранічны хлопец (як рана ён пайшоў ад нас!) — бліскуча таленавіты паэт Васіль Сіманенка? Адкуль я мог ведаць, што вось за ложак-другі ад мяне гэты белазубы і русявы юнак, які ўсміхаецца, трасе чупрынаю і запрашае ўсіх да сябе пад Бравары «копацьця и ставку, бо краще нема»,— што гэта будучы паэт Мікола Сом? І што паэт — вось гэты крыху замаруджаны Толька Шаўчэнка? І што Толька Маскаленка, самая флегма, і Васіль Дзідзенка, дзівак з дзівакоў, і Тамара Каламіец, перад якой самыя грубіяны трымалі сябе як выхаваныя лорды, і Барыс Алейнік, і дзесяткі іншых, што яны — сабраты, саратнікі, паэты? Што гэты кіеўскі інтэрнат загрыміць з часам сваёй паэзіяй аж на ўсю Украіну і далёка за яе межамі?

А, каб вас бог любіў! Гэта для іншых яны — сузор'е. А для мяне яны — хатнія, з якімі дзяліліся хлебам і салам, калі было, і пра якіх мне няма чаго казаць гучныя словы.

А дзяўчаты кіеўскія! Дальбо, год гэтак пад трыццаць назад яны былі такія ж прыгожыя, як мінскія, слонімскія, рагачоўскія, а значыць, найпрыгажэйшыя ў свеце. І, божа мой, колькі ж яны задалі мне радасцяў і пакут сардэчных! Колькі праз іх было напісана вершаў, колькі пераплакана, колькі ідыёцкіх выхадак зроблена (перайшоў на руках па перылах аднаарачны мост Патона між Першамайскім і Піянерскім паркамі — дзяўчаты здорава вішчэлі), колькі вулак і завулак выхаджана, асабліва ж на Пячэрску! Большасць маіх знаёмых чамусьці жылі там.

Ідзеш начнымі вуліцамі. Спяць дамы і паркі. Калі гэта зіма, то малады снег галосіць ад шчасця пад нагамі. Калі восень — апошнія лісты ціснуцца да ліх-

тароў (тут цяплей), як я цягнуўся да каханай і жыў ля яе святла і цеплыні.

Памятаю... Гэх, што ўжо цяпер «памятаю». Дай вам бог кахаць,і быць адрынутым, і быць каханым, як кахалі мы і як кахалі нас. А так проста... дзякуй вам, кіеўскія дзяўчаты, за ўсё, што вы нам, што вы мне дарылі. Дзякуй за ўсе бездані адчаю і вяршыні шчасця, за песні, за ласку, за прыгажосць вашу, якая нятленная давеку стаіць і стаяць будзе ў маіх вачах.

Шчаслівыя вы ці не — дзякуй. Каб я быў бог — вы ўсе, усе былі б самыя шчаслівыя на свеце, самыя сагрэтыя святлом і дабрынёй.

...Дзіўным сумам павеяла на мяне апошняе спатканне з Кіевам. Дамы нібы пастарэлі, дрэвы разраслiся, нібы лес, там, дзе былі паляны майго юнацтва. Двор «лісця каштанаў» забудаваўся і паменеў, стаў цацачны; даўно ляжыць брук на месцы старых раскопаў непадалёк ад доміка М. Булгакава; стары Зялёны тэатр падобен уначы на марсіянскі цырк, і не мільгнуць за рогам вуліц аблiччы многіх маіх сяброў і дзяўчат. Горад, які я ведаў да апошняга каменьчыка, цяпер разросся і напалову невядомы мне.

Але ўсё адно душа мая, вершы мае, складзеныя там, словы, прамоўленыя да блізкіх, блукаюць паркамі, бульварамі Шаўчэнкі, начнымі вуліцамі, Пячэрскам, як каханне маё, незабытае і незабітае ні пуцявінамі, ні холадам гадоў. Як душа і каханне ўсяго мноства людзей, што любіла цябе гэтыя многія сотні гадоў.

Але ўсё адно я стаю на беразе майго і твайго Дняпра і малюся не толькі за свой кут, але й за цябе. І жадаю табе таго, чаго пажадаў бы і свайму народу: адсутнасці гардыні, фанабэрыі і зазнайства ў час трыумфу і неадольнай, мужнай і спакойнай стойкасці ў бедах.

І калі зноў выплывуць туманным Дняпром чаўны і людзі на іх спытаюць мяне: «Чій се градок?» — я азірнуся на кручы, на старадаўні горад, на іх і адкажу ў апошні раз:

«Мой. Мой се градок. І маім будзе, пакуль існуе род чалавечы на зямлі, на берагах майго Дняпра».

# ЭСЭ



## І БУДУЦЬ ЛЮДЗІ НА ЗЯМЛІ

Калі гэта было — дальбог, не ведаю.

Ва ўсякім разе даўно... Даўно, калі мераць час меркай аднаго жыцця.

Наш дом стаяў на крутаяры над Дняпром, аддзелены ад яго алеяй старадаўніх ялін. За домам быў вялікі сад, увесь зарослы і цяністы. А за садам стаяў вельмі стары, урослы ў зямлю дом, які належаў гаспадарам з дзіўным прозвішчам: Косця. У доме былі печы з маляванымі галандскімі кафлямі і бронзавымі круглымі аддушынамі.

У гэтым доме спыняўся Напалеон, калі ішоў у паход, які яго загубіў. І таму дом здаваўся мне прывабным і страшнаватым, не такім, як усе астатнія аршанскія дамы.

У тую ноч над Дняпром раўла страшэнная навальніца. Вецер удзіраўся праз яліны ў сад, глуха шумеў іхнімі лапамі, варушыў парадзелую лістоту дрэў.

Мой бацька, які ўвогуле не вельмі любіў вершы, падышоў да акна, прыціснуўся лбом да чорнай шыбіны і, гледзячы некуды ў змрок, ціха сказаў:

Реве та стогне Дніпр широкий,
Сердитий вітер завива...

Радкі, якія ведаюць усе людзі і якіх тады яшчэ не ведаў я. Самыя, калі можна так сказаць пра вялікае, «збітыя», самыя «зацяганыя» радкі. І яны раптам аддаліся ў сэрцы вялікай праўдай, адпаведнасцю таму, што рабілася за акном.

Я спытаў у маці, хто гэта.

— Шаўчэнка.

Дняпро, па маіх тагачасных пераконаннях, быў нашай, маёй ракой, і я спытаў:

— Ён наш?

— Ён украінец. Яны таксама на Дняпры. Ніжэй па плыні.

«Ніжэй па плыні» азначала тады для мяне «за Ляўкамі», апошняй павароткай ракі, якую я ведаў. Нішто сабе. Блізка. Суседзі. Свае.

Я тады яшчэ не ведаў, да якой ступені я меў рацыю, лічачы гэтага чалавека «сваім». Я проста не мог уявіць, колькі жыццёва важных сустрэч мае адбыцца ў мяне з ім. Розных сустрэч: у горы і ў шчасці, у хмельным ап'яненні юнацтва і сталай задумлівасці.

Першае пачуццё, калі я пачаў чытаць Тараса, было, вядома, не роздум і не суперажыванне. Гэта было хутчэй амаль фізічнае адчуванне заміраючага сэрца. Сэрца замірала ад размаху фантазіі паэта:

Червоною гадюкою
Несе Альта[1] вісти,
Щоб летіли крюки з поля
Ляшків-панків істи.

Уявіш сабе гэтую поўную крыві гадзюку-раку і здрыганешся ад той жудасці, якая ахоплівае ўсю істоту, калі чытаеш сапраўды вялікі, просты твор няпростага мастацтва.

Лёс зрабіў так, што мае шляхі часта праходзілі праз тваю, Вялікі Кабзар, Украіну, перасякалі твае дарогі. Я трапіў туды неўзабаве пасля вызвалення Кіева (Беларусь яшчэ была пад акупантамі), Крашчацік быў разбураны, але ў Крашчаціцкім завулку збярогся дом, дзе ты жыў. І стаяла чырвоная каробка універсітэта, у якім ты выкладаў бы мастацтва, каб цябе не арыштавалі за бунтарскія вершы. Праз некалькі год я пайшоў вучыцца ў той самы корпус. Ва універсітэт, які носіць тваё імя. І твая Украіна на цэлыя сем год стала мне другой радзімай.

Домік, у якім ты жыў, стаў музеем. У ім была дзівосная печка. Яна адна ацяпляла ўсе пакоі, выходзячы ў кожны хаця адной нейкай маленькай сваёй гранню. І быў пакойчык у мезаніне, дзе стаяў твой мальберт, ляжаў твой гадзіннік і твае пэндзлі. Можа, адным з іх ты маляваў Кацярыну і дзеда, які рэжа

[1] Прыток рэчкі Трубеж (Трубайла).

лыжку з грушы і сумна глядзіць на дзяўчыну?

Не. Кацярыну ты маляваў яшчэ ў 1842 годзе. Праз пяць год цябе арыштавалі і дзесяць год трымалі ў ссылцы. Значыць, ты маляваў гэтым пэндзлем нешта іншае. Магчыма, дамалёўваў серыю акварэляў. Магчыма, мой улюбёны «Від на Кара-Тау». І зноў не, бо пэндзаль не акварэльны.

То што?

Не скажаш. І ўсё ж гаворыш.

У студэнцкія гады я з сябрамі хадзіў да цябе ў Канеў, на Чарнечую гару. Ішлі доўга, шмат разоў пераплывалі на сялянскіх дубках праз Дняпро, спыняліся ля крыніц, ішлі па высокіх кручах Трыполля. І зямля была падобная і не падобная на Украіну. Хаты тыя самыя, але вакол былі старыцы, дубы, шаўковіцы на пяску і тэрыконы бітых ракавінак у кожным двары. Гэтыя тэрыконы яшчэ здалёк ззялі перламутрам — аж вачам было балюча.

І раптам адкрылася перад намі гара твайго запавету. І ты ў бронзе. А пад табою твой Дняпро. Мой Дняпро. У чалавека бывае шмат успамінаў, але гэты быў з тых нешматлікіх, якіх не забудзеш.

Пасля універсітэта я два гады настаўнічаў не так і далёка ад тваёй Звянігарадчыны. Пад Белай Царквою. Ля Тарашчы. У мясцінах, што ты апісаў у «Прагулцы з задавальненнем і не без маралі».

Сяла, прыгажэйшага за мае Лесавічы, па-мойму, няма на Украіне. Сады, белыя хаткі, Катлуй, які абмывае падэшвы ўзгоркаў, утвараючы бясконцыя стаўкі. І песні, песні такой дзівоснай прыгажосці, што шчыміць у сэрцы.

Маліцеся лёсу, паэты, каб ён даў вам у сэрцы вашага народа хоць сотую долю таго месца, якое займае ў сэрцы звычайнага ўкраінскага селяніна Тарас. Гэтага хопіць. Старыя, амаль непісьменныя дзяды чыталі некаторыя яго творы на памяць. І калі над белымі букетамі цвітучых садоў басілі хрушчы — гэта было як Тарасаў «Садок вишневий». І, напэўна, мала хто ў такія празрыстыя вечары не ўспамінаў аб ім.

Хрушчы басілі над вішнямі, як тысячы тысяч сімпатычных бамбавозаў. І гаспадар мой, філосаф ад прыроды, з двухкласнай асветай, ідучы са мною ў Тарашчу і ўзыходзячы на гару, кожны раз спыняўся,

аглядаў беленькія ў зялёным хаткі і з чуллівай усмешкай дэкламаваў:

Неначе писанка сіло.

Гэта было на тваіх шляхах, Тарас.

Хадзіў я і ў Лысянку над Гнілым Цікічам, сяло сто разоў апісанае паэтам. Тут ён часта бываў. Тут пабудаваў калісьці палаты Багдан Хмель. Будынак пазней разбурылі людзі Гонты і Залізняка.

Усе гэтыя мясціны былі месцам страшнага пажару гайдамацкай вайны. Гэта тут сяляне-рыцары разбіралі вазы з «жалезнай таранню»[1] і рэзалі магнатаў. Гэта тут палалі палацы.

Дзве сабакі заўсёды знюхаюцца, калі справа ідзе аб іхняй шкуры. Войска царыцы памагло магнатам Польшчы. І калі нават у наш час тут можна пачуць яшчэ апавяданні пра тыя неспакойныя часы, то можна ўявіць, якім было водгулле навальніцы ў гады дзяцінства вялікага паэта. І мне здаецца — што б тут ні казалі — што менавіта адсюль ён і паходзіць: гэта — апошняе зіхаценне вялікага зарава былых навальніц і першая зарніца будучага вялікага ўрагану.

Як кожны чалавек, ён не ведаў і не мог ведаць сілы пражытага ім жыцця, магутнасці сваіх слоў. Ён не ведаў, што ён — зарніца. Яму здавалася, што ён — толькі апошні ўсплёск зарава.

Ацэньваюць нашчадкі. Сучаснікі — лямантуюць на руінах, як Ерамія. Жолуду, які ўпаў са зрынутага, вялікага калісьці дрэва, заўсёды здаецца, што гэта канец. Ён не ведае, што ён, самотны і малы для самога сябе, ёсць эстафета будучыні, што ў ім — карані, галіны і лісці вялікага дрэва лютасці, якое будзе весці спрэчку са стагоддзямі, зберагаць сабою чыстыя крыніцы і даваць цень усім добрым людзям.

Жолуд не ведае. А між тым ён — прыклад для кожнага змагара. Нішто не знікае ў свеце. Слязіна крыўды адальецца акіянам. І адно жыццё можа назаўсёды пераважыць шалі вагаў, калі яно — для людзей, калі яно — высакароднае.

У першых вершах Тараса загучаў гнеў і адчай. Гэта і зразумела. Лагодны, смелы і горды народ, абяскроўлены войнамі і паўстаннямі, здраджаны,

---

[1] Нажы.

абылганы, закоўвалі ў кайданы. Слізкі ад крыві бізун лунаў над спінамі людзей. Свісталі шпіцрутэны. І гэта не Тарас Трасіла, а Тарас Шаўчэнка плакаў над прыніжэннем роднай зямлі:

Обізвавсь Тарас Трясило
Гіркими сльозами:
— Бідна моя Украіно,
Стоптана ляхами!

Па загадзе дзяржаўнага фельдфебеля армейскія фельдфебелі здзекаваліся над самой гісторыяй, раскопваючы магілы, выкідаючы з іх шматпакутныя касцякі. Туга «Розритоі могили» ідзе адсюль.

Веданне гісторыі, любоў да яе — гэта падмурак, на якім чалавек — у дадзеным выпадку паэт — будуе трывалы будынак свайго жыцця. І варты жалю той, у якога такога падмурку няма: мурашка, закінутая ў мора, бездапаможнае кацяня ў твані.

На гэтым падмурку Тарас пабудаваў велічны гмах сваёй паэзіі, галоўнай рысай якой стала багаборніцтва. Таму што слабы дазваляе адчаю прыдушыць сваю любоў, а моцны даходзіць да поўнага забыцця небяспекі і пачынае пагарджаць тленным і схільным да болю целам сваім у імя гонару, у імя справы, у імя любві да зямлі і людзей.

І тут ужо чым больш ворагаў, тым лепш. Губляць няма чаго, а слава — вялікая.

Цар — давай цара, бог — давай бога!!! Таму, што ўладары шнырaць вачыма па ўсіх канцах зямных, ці нельга захапіць чужы край і ўзяць яго з сабою ў труну. Няма сілы бачыць гэта, і чалавек крычыць — усё адно дзе: на людных плошчах ці ў пустынях. Няхай не пачуюць ні там, ні там — абы не быць саўдзельнікам брыды, якую чыняць тыраны.

Знішчаць? Няхай. Смерць лепшая за такое жыццё.

Яго любоў да людзей не ведала межаў. Часам яна прыкрывалася панцырам іроніі, часам аддавала горкім сарказмам. Шаўчэнка надзіва па-юнацку страсны. Ён прымушае кожнае сэрца біцца ва унісон са сваім, магчыма, больш чым які другі паэт на зямлі. І таму ён друг, таварыш дум, паплечнік усіх узростаў.

Ён чалавек дзівоснага, неверагодна рэдкага на зямлі складу.

Ніколі ў жыцці ён не ведаў кампрамісаў. Роўнасць у яго азначае «роўнасць для ўсіх», без аніякіх вы-

няткаў. Толькі што перажыўшы незлічоныя пакуты салдатчыны, ён слухае на параходзе ігру «прыгоннага Паганіні» Панова.

«...з тваёй беднай скрыпкі вылятаюць стогны зняважанай прыгоннай душы і зліваюцца ў адзін працяглы, сумны, глыбокі стогн мільёнаў... Ці хутка далятаць гэтыя прарэзлівыя крыкі да твайго свінцовага вуха, наш праведны, няўмольны, неўлагодны божа?»

Роўнасць была патрэбная яму не ў нейкай там легендарнай будучыні, а сёння, зараз, вось тут, пад страхою кожнай мужыцкай хаты. Ягоныя радкі аб вёсцы і дагэтуль нельга чытаць без слёз абурэння і гневу.

...Латану свитину з каліки знімають,
З шкурою знімають,— бо нічим обуть
Княжат недорослих. А он розпинають
Вдову за подушне, а сина кують,
Единого сина, едину дитину,
Едину надію! — в військо оддають!

Да віноўнікаў такога не можа быць іншага пачуцця, акрамя нянавісці. Усё адно хто яны: тупыя капралы або ліберали-панкі, ханжы, манюкі, «заўзятыя патрыёты», якія ўмеюць абдурыць нават славу.

Кругом паскуда!
Чому ж його не так зовуть?
Чому на його не плюють?
Чому не топчуть?! Люди, люди!
За шмат гнилоі ковбаси
У вас хоч матір попроси,
То оддасте.

Па-мойму, гэта азначае: знішчыць на месцы.

У казематце, загнаны ў пустыню, Шаўчэнка кіне словы, споўненыя той гардыні, без якой людзі не былі б людзьмі: «караюсь, мучусь, але не каюсь». У яго не можа быць дылемы Галілея з адной замежнай п'есы: пайсці на касцёр або пакаяцца, каб «даўжэй гаварыць праўду». Ёсць ва ўсім гэтым нешта невыказна брыдкае, і нездарма легенда выправіла яву, сказаўшы: «А ўсё ж яна круціцца».

Душу ўладна бярэ ў палон стойкі гонар за тое, што сярод роду чалавечага быў такі чалавек. Нібы сам беспамылковы інстынкт народа, вопыт усіх яго пакаленняў узрос у адной душы.

Агульнапрынятым, напрыклад, быў погляд сучас-

нікаў на Пятра I як на ўвасабленне велічы, як на з'яву, што можа абяліць рабства і тыранію. I вось Шаўчэнка перад помнікам Пятру:

Кінь басує,— от-от річку,
От... от... перескочить,
А він руку простягає,
Мов світ увесь хоче
Загарбати.

А вось як выглядаюць пад пяром паэта Пятро і Кацярына:

Кати! Кати! людоіди!
Наілись обое,
Накралися! А що взяли
На той світ з собою?

Слава асвянцоных афіцыйнай гісторыяй мураў — вось яна:

...а з шкур наших
Соби багряницю
Пошив жилами твердими
I заклав столицю
В новій рясі. Подивися:
Церкви та палати!
Веселися, лютий кате,
Проклятий! Проклятий!

I так паўсюль. У паэта адна думка — думка народа.

Усе булгарыны і чужбінскія могуць ледзь не з амбонаў крычаць, што разгром народнай самасвядомасці — дабро. А Шаўчэнка адказвае:

I забули сірий попіл
По вітру розвіять.
Лежить попіл на розпутті,
А в попелі тліє —
Іскра огню великого.
Тліє, не вгасає,
Жде підпалу, як той месник,
Часу дожидає...

Клерыкалы могуць лямантаваць, што праваслаўе, самадзяржаўе і народнасць — дабро. А ён ведае, што ўсё гэта — фальшывыя гучныя словы, прыкрываючыся якімі, нянавісць, варварства і карыслівасць робяць свае цёмныя справункі.

У нас
Святую Біблію читає
Святий чернець і научає,
Што цар якийсь — то свині пас

Та дружню жинку взяв до себе.
А друга вбив. Тепер на небі!
От бачите, які у нас
Сидять на небі.

Прадажныя гісторыкі выстаўляюць гнюсную расправу з паўстанцамі Каўказа як высакародную справу. Толькі два чалавекі падымаюць голас супраць маны — Леў Талстой і Тарас Шаўчэнка:

Ми християни: храмы, школы,
Усе добро, сам бог у нас!
Нам тільки сакля очі коле:
Чого вона стоїть у вас,
Не намі дана; чом ми вам
Чурек же ваш та вам не кинем,
Як цій собаці! Чом ви нам
Платить за сонце не повинні!

Іронія і сарказм мацнеюць. Здаецца, немагчыма ўжо ні ў каго верыць. Народ змучаны паборамі, замардаваны, прыніжаны. Ён адрокся ад свайго слова, нават ад імя свайго. Немагчыма не кідаць у твар людзям слоў горычы і... немагчыма не любіць іх.

За каго ж ти розіп'явся,
Христе, сине божий?
За нас, добрих, чи за слово
Істини... Чи може,
Щоб ми з тебе насміялись?
Воно ж так і сталось.

Несправядліва было б не звярнуцца са словам да тых, што дапусцілі такое. Так нараджаецца адна з лепшых рэчаў «І мертвим, і живим», магутная, адчайная і, на жаль, амаль безнадзейная спроба абудзіць сумленне ў тых, што, стаўшы над простымі, зажэрліся, забылі аб тым, хто яны, якога народа дзеці, забыліся на ўдзячнасць, на неабходнасць плаціць борг.

Умийтеся! Образ божий
Багном не скверніте.
Не дуріте дітей ваших,
Що вони на світі
На те тільки, щоб панувать...
Бо невчене око
Загляне їм в саму душу
Глибоко! Глибоко!
Дознаються небожата,
Чия на вас шкура,
Та й засудять,— і премудрих
Немудрі адурять!

Падпявалы хлуснi, парафiяне дурасцi, слугi ўвасобленай бяздарнасцi, з iнтэлектам, спалоханым яшчэ ў матчыным лоне,— вось яны, бязлiтасна высмеяныя паэтам:

Нiмець скаже: — Ви моголи.
— Моголи! Моголи! —
Золотого Тамерлана
Онучата голi.
Нiмець скаже: — Ви слав'яни.
— Слав'яни! Слав'яни!
Славних прадiдiв великих
Правнуки поганi!

Паны i паўпанкi, уладары душ, цемрашалы, паборнiкi бiзуна, закляймёныя пякучым Шаўчэнкавым словам:

А чванитесь, що ми Польщу
Колись завалили!..
Правда ваша: Польща впала,
Та й вас роздавила!
Доборолась Украïна
До самого краю.
Гiрше ляха своï дiти
Iï розпинають.

Паўстае перад вачыма «мiстычная», змрочна-жорсткая ад любвi паэзiя «Великого льоха»[1] — аднаго з найбольшых дзiваў у паэзii.

Усiм ладам сваiм яна неабвержна сведчыць, што няма даравання тым, хто апраўдвае прыгон i дзеяннi цароў, усiх гэтых Мучыцеляў i Пятрух, якiх нiбыта трэба ўсхваляць за iхнiя дзеi i якiх сучасныя iм прыгонныя мужыкi лiчылi за антыхрыстаў. Нельга апраўдваць тых, што далi магчымасць вароне ўкрасцi кавалак жоўцi ў засланага дзекабрыста, тых, вялiкiх, што тысячамi губiлi людзей на будове Пецярбурга, на Ладазе, у Фiнляндыi, на Арэлi.

Теперь уже заходились
Древностi шукати
У могилах... бо нiчого
Уже з хати взяти.

Раскопваюць магiлы, i ў вочы iм смяюцца касцякi. Каб яшчэ ў форменных кайданах, то прыдалiся б. Але кайданы старыя. I золата няма. I няма нашчадкам карысцi ад гордай беднай гiсторыi.

---

[1] Вялiкага склепа.

І такі чалавек мог існаваць у чорны, у жалезны, у подлы век! Нездарма, відаць, гаварылі аб такіх вароны

2

Я золотом розтопленим
Заллю йому очі!..

1

А він, клятий недолюдок,
Золота не схоче.

3

Я царевыми руками
Скручу ему руки!..

2

А я зберу з всього світа
Всі зла і всі муки!..

Мукі сабралі. Каземат. З забаронаю пісаць і маляваць. Узнагарода за сапраўдную любоў да радзімы. Адзіная ўзнагарода, якой можна ганарыцца.

І адначасова ў гэтым пакаранні — усё бяссілле катаў. Што з ім сапраўды рабіць? Хіба знішчыць? Але мёртвы не пакутуе. Зламаць? Але такія нязломныя.

Знішчыць — застанецца песня. Заточыш — застанецца жывая нянавісць. Кабзар стаўся мацнейшы за фельдфебеля ў парфіры. Але яго казематныя вершы — гэта згусткі пакуты і болю. Менавіта гэтыя гады далі «Садок», які мог бы здацца ідылічным і саладжавым, каб мы не ведалі, калі ён напісаны.

Ідылія знікае. Застаецца плач па волі, смяротная настальгія і пяшчота. Каб ён быў толькі нязломны прарок — мы, магчыма, болей паважалі б яго, але так не любілі б. Каб ён пісаў толькі вершы пра тугу — мы шкадавалі б яго, але не захапляліся. Ён пісаў і тое і другое. Пад пагрозай кары.

У гэтыя гады з'явілася ў свет, бадай, самае чароўнае стварэнне яго — балада, якая сваімі трыццаццю чатырма радкамі адна вартая юнацкай «Кацярыны», балада «Рано-вранці новобранці».

Маці вярнула дачку, якая пайшла была за навабранцамі. Потым пахавала яе і сама пайшла ў старцы. Пахілілася хата. І вось аднойчы прыйшоў на мыліцы

салдат, сеў і задумаўся. Хата пустая. А калісь жа тут ткаліся ручнікі, мярэжыліся шоўкам вясельныя хусткі. І ён думаў жыць і кахаць.

Сидить собі коло пустки.
Надворі смеркае.
А в вікно, неначе баба,
Сова виглядае.

Не ведаю, як у каго, а ў мяне марозам цягне па скуры, так гэта хораша. І ўсё гэта не толькі абвінавачванне супраць дзяржавы, якая ваюе, жандарыць і трушчыць людскія жыцці. Гэта яшчэ і прадбачанне свайго лёсу. Плач аб пакінутай радзіме, хаце, аб дзяўчыне, з якой ён ніколі не сустрэнецца, плач аб сваёй самотнай старасці.

Такога, магчыма, ад яго і чакалі.

І памыліліся. Ён застаецца нязломны. Яму здаецца, што і самога бога даўно праклялі людзі. Значыць, няма чаго маліцца. Толькі што адпушчаны на волю, ён, ні пра што не забыўшы, нічым не навучаны, піша яшчэ больш выбуховую рэч:

Німії, подлії раби,
Підніжки царськії, лакеі,
Капрала п'яного! Не вам,
Не вам, в мережаній лівреі
Донощики і фарисеі,
За правду пресвятую стать
І за свободу. Розпинать,
А не любить ви вчились брата!
О роде суетний, проклятий,
Коли ти видохнеш? Коли
Ми діждемося Вашінгтона
З новим і праведним законом?
А діждемось-таки колись!

Яшчэ больш ярасна накідваецца ён на царкву, якая мірылася з усімі гаспадарамі, абы яны дазвалялі ёй жыць і гандляваць Хрыстом. З цэзарамі, што цкавалі хрысціян ільвамі, з язычнікамі, што забівалі папоў. Царква-блудніца, відаць, толькі з-за сусветнай славы самога пана Езуса не аб'явіла яго «ілжэнастаўнікам» і «ерэсіярхам», бо ўся гісторыя царквы ёсць актыўнае адмаўленне Евангелля, бо людзі, якія ліжуць мірскім уладарам пяткі, відавочна, забылі словы аб «сусветных валадарах цемры гэтага веку». І таму — дзярыце з баграніц анучы, курыце люлькі з кадзіл, паліце «яўленнымі» печку, вымятайце крапілам новую хату.

Нянавісць душыла паэта. Здохла «Сука», жонка Мікалая I, галодных дзяцей з прытулкаў гналі за труною «маці народаў», дзякаваць за шчаслівыя забавы дзяцінства. Паэт задыхаўся:

І день іде, і ніч іде.
І голову схопивши в руки,
Дивуешься, чому не йде
Апостал правди і науки!

Ставячы перад сабою гэта пытанне, ён не ведаў, што апостал праўды і навукі даўно ўжо з'явіўся ў свет, ударыў грамавержца, прыкутым Праметэем пакутаваў у пустынях і цяпер памірае ад пакут, якія даў яму лёс, ад няздзейсненых жаданняў, ад няволі.

Не ведаў, што апосталам гэтым быў ён сам.

...Буде бите
Царями сиянее жито!
А люди виростуть. Умруть
Ще незачатії царята...
І на оновленій землі
Врага не буде, супостата,
А буде син, і буде мати,
І будуць люди на землі.

Людзі будуць, урэшце, на ўсёй зямлі. І ў немінучым чаканні гэтага мы павінны вечна дзякаваць светачам, і сярод іх Кабзару, за тое, што ён вучыць таму, што не падмане і не састарэе: любові да чалавека, вучыць адзіна вартаму ў свеце — мужнасці.

Вось і ўсё аб тым, як жыццё ўвесь час сутыкала мяне з думамі і радкамі Шаўчэнкі.

Нічога незвычайнага. Усё такое ж, як і ў мільёнаў іншых людзей. У мільёнаў, з якіх я не вызначаюся нічым. Бо так думалі аб ім і так сустракаліся з ім — усе.

Артэрыя Дняпра з'яднала мяне калісь з тваім, Кабзар, радзінным месцам, з домам, які даўно ўжо стаў попелам.

Стаў попелам? Так. Але з попелу гэтага выкрасаўся агонь, які адзін спаліў на нашай грэшнай зямлі больш нечысці, чым тысячы іншых вогнішчаў.

І таму я схіляю перад табой галаву, слава Украіны і ўсіх краін зямлі, мой Бацька, багаборац з майго Дняпра.

## БАЛАДЫ КАМЕНЯ

На маім стале замест прэс-пап'е ляжыць старажытная цагліна, падобная на скамянелы хлеб. Чорная, сітаватая, яна сям-там парасла сівым мохам. Яна ў дваццаць дзевяць разоў старэйшая за мяне. Ёй нешта каля тысячы год.

Я падабраў яе на старым дняпровым гарадзішчы, што пад Збаровам. Другіх вакол не было. Дождж вымыў з зямлі толькі яе ды яшчэ россып чарапкоў. У час, калі ў пакоі вечарэе, калі няма агню, а папяросны дым ціха плыве ў паветры, гэты ўламак часам спявае мне нешта ледзь чутнае і няўлоўнае.

На жаль, я ніколі не здолею спаймаць гэтую музыку. Бо гэта ўсяго толькі цень, лісток са ссечанага дрэва, пялёстак кветкі, засушаны на памяць.

Калі верыць паэтам і лічыць Мікенскі палац скамянелай Іліядай (а гэта, па-мойму, так), то дзве сястры, паэзія і дойлідства, пачыналіся з вартых жалю, але вялікіх сваёй будучыняй зерняў.

Рытмічныя выгукі радасці або гневу — і некалькі камянёў, нагрувашчаных у рад, каб прыкрыцца ад ветру. Спроба надаць рытму два-тры словы — і нашы «рытуальныя» каменні, размешчаныя па кругу. Прымітыўныя абрадавыя песні — і вострыя пірамiды камянёў на праславянскім могільніку ля Бяздоннага возера, што пад Слонімам. Маленні Сонцу і Перуну — і мянгіры з далменамі.

Спачатку — словы, спачатку — некалькі камянёў. Паселішчы — гэта ўжо балада. Я адчуў гэта, калі праплываў аднойчы ўначы ля таго гарадзішча, дзе падабраў маю цагліну.

Месяц цягнуўся між разарваных хмар. І ў ягоным святле чорным сілуэтам узвышаўся ўсечаны конус велізарнага насыпу і скарлючаны дубок, што прымасціўся на ім.

І я адклаў вясло. А рака павольна несла мяне, як плынь песні. Кожная балада, нават самая прымітыўная і дзяцінная, мае права на месца ў нашым сэрцы. Нават балада гарадзішча, нават песня сялянскай курнай хаты. Жыць так, як яны, мы не будзем. Але помніць — павінны. Гродзенскі музей перавёз адну такую хату і паставіў яе на замчышчы. І гэты першы крок годзен ухвалы, бо Рыжскі і Стакгольм-

скі музеі вясковага дойлідства таксама некалі зрабілі першы крок, а цяпер — гонар сваіх народаў. Бо гэта таксама нашы песні, няхай сабе і сціплыя. Бо гэта пад іхнімі стрэхамі або пад стрэхамі іхніх братоў-блізнят, што загінулі ў тысячагадовых пажарах, складаліся «За рэчанькай за быстраю», «Перапёлка, дзе звіла ты гняздзечка», «Лін калыша ваду». Бо, выходзячы з такіх хат на татар, людзі склалі «Лявоніху», якая збіралася «начаваць з вераб'ямі» вось пад такою страхой.

Нядаўна на дыспуце ў вялікім абласным горадзе адзін з тых, што выступаў, крычаў аб непатрэбнасці «песень для чацвёртага класа», якія «ніяк не могуць выбіцца з-пад стрэх». Не думаю, каб «не выбілася з-пад іх» паэзія Танка ці Багдановіча. Не ведаю, ці прыносіць гэтаму чалавеку асалоду хор Шырмы.

Але затое я добра ведаю, што права на веліч маюць і Багдановіч і «Ой, рана на Йвана».

Маці — у крайнім выпадку прабабка гэтага чалавека — пад такою страхою нарадзіла сына, ягонага дзеда, а значыць, дала жыццё і яму. І тут нарадзіла яна для яго яшчэ і калыханку.

Люлі, люлі, люленькі,
Не шуміце, лазнякі,
Тонкія націнкі,
Моцныя трысцінкі.

І ўсе мы, нават самыя вытанчаныя і інтэлектуальныя, нават самыя вялікія паэты-геніі, рана ці позна, але, урэшце, пайшлі адтуль.

Гэтая страха нікому яшчэ не здрадзіла, тут нарадзіўся твой продак, які меў на ўвазе і прадбачыў праз шэраг пакаленняў нават цябе, адсюль ён выплыў, нібы ў чаўне, каб даць дарогу табе, лепшаму.

У далёкага стваральніка каменных балад ёсць суцяшэнне: знайшліся ў яго лепшыя дзеці. Прыёмныя. Яму няма клопату да тых, няхай сабе і родных, якія не трымалі ў руках рыдлёўкі і гэбля, якія не зрабілі нічога, акрамя двух-трох вершаў, слабых не таму, што пісаў яшчэ малады чалавек, а таму, што ніколі не вырастуць вялікія дрэвы на муры або ў жолабе. Мне заўсёды вельмі шкада іх, але яны — дрэвы, яны не вінаватыя, што іх занёс туды вецер. А ты ўсё ж чалавек і сам павінен рабіць выбар.

За зямлю, за балады з каменя — і тады мукі шляхоў і, магчыма, чалавечая веліч.

Або без іх — і тады заслужаная ганьба і смерць раней смерці. Пэўна, помніш лёс Карыялана, які бурыў родныя камяніцы, лёс тых «вялікіх», што лаялі Рансара за тое, што ён адступіўся ад латыні ў імя новага.

Ці, можа, табе хопіць і такой славы?

Тады праслаўляйся, і досыць пра цябе.

Калі пэцкаць паперу, то пэцкаць яе дзеля чагосьці вартага. Дзеля той каменнай песні, што рабілася ўсё больш і больш складанай, што ўздымалася ў неба вышэй і вышэй. Побач з песняй жывою.

Плялі славясы, плялі камяні. Кірыла Тураўскі перамяжаў словы казаняў язычаскім гімнам вясне, зямлі, абуджэнню кахання ў людзях. І, як ён, невядомы ягоны сучаснік вывеў на беразе Нёмана муры Каложы. Ён перамяжаў тоўстыя пласты цамянкі ружовымі і жаўтаватымі, танюткімі, як скрылёк, цаглінамі, упрыгожваў сцены зялёнымі маёлікавымі плітамі, што адлівалі ружовым, аранжавым і сінім, як пяро качкі, як вясёлка. І, прыгажэйшая знадворку за кіеўскія і наўгародскія, устае над ракою будыніна, якая сама нібы песня і церпіць напады, як сярэдневяковая песня.

Разлівы рэк і нядбайнасць людзей цягнуць яе муры ў хвалі Нёмана. А потым яе рэшткі, як фрагменты старой сагі, замацоўваюць.

— Стой хаця так, радуй нам душу.

І гэта правільна. Бо калі прыходзяць новыя часы — старая песня адыходзіць. Але кожны ўсё ж бярэ сілы і ў ёй. І можа здарыцца так, што на новым узлёце яна будзе больш сучасная, яна, якой дзвесце-пяцьсот-тысяча год, чым тыя, што створаны восемдзесят год назад. Як «Марсельеза» ў параўнанні з «Узвейцеся, сокалы, арламі». Як Рублёў, якога яшчэ семдзесят год назад лічылі брыдою людзі, якія цяпер для нас — брыда не брыда, а так, нешта не вартае вялікай увагі.

Тое самае з Каложай. Створаная ў цемры стагоддзяў, але з яснай мэтай і яснымі сродкамі, яна бліжэй нам, чым сумна славуты нью-йоркскі бацька сучасных хмарачосаў, вядомы «Прас», або нават некаторыя дамы Мінска, якім, скажам, толькі шаснаццаць. Сапраўдныя балады не старэюць. І вечна з намі славутая наша «Шчыравала ў бары пчала», бо яна

сучасная і па змесце і па форме. А колькі вершаў, створаных учора, сёння ўжо ўпалі на дно, у каламутную плынь ракі забыцця.

...Прыходзяць іншыя часы — і чалавек мяняецца з імі. Прыходзіць развал старых княстваў. Прыходзіць час, які, сам крывавы і змрочны, як балада, патрабуе новых балад. І на некаторы час Каложа перастае адпавядаць. Як мірная песня ў часіну навалы. Яна стаіць, а непадалёку ўзводзяць муры з байніцамі.

І нават сёстры Каложы, у Маламажэйкаве і Сынкавічах, груба і пыхата тапырацца чатырма пузатымі вежамі па баках. Рыны іхнія не для цёплага дажджу, а для расплаўленага свінцу. І застрашлівыя драконы на іхніх жаралах сведчаць аб гэтым.

А вайна была, вайна была,
А ніўка зялезнай карой парасла,
Зялезнаю, крываваю,
Сталёваю, іржаваю.
Ой, прыехала Літва.
Заўтра будзе ў нас бітва.

І, аднак, тут цепліцца песня і светлы дух чалавечы. Узносіцца готыка, нібы агонь, у неба. І гэта палёт думкі, што пачынае абуджацца, гэта перадпачатак рэнесансу, гэта вершаваны ўступ Скарыны да кнігі «Іудзіф».

Вызвалены дух уздымаецца некуды туды, вышэй, разам з «багамерзкімі» шкалярскімі песнямі. Цесна на зямлі, цесна ў гарадскіх мурах. Крылы яшчэ не нарадзіліся, гэта толькі прадчуванне палёту. Яшчэ шэсцьсот год будуць ваяваць, бурыць дзівосныя будынкі, душачы песню, і паліць кнігі, пакуль чалавек не вырвецца з ланцугоў.

Хай сабе стаяць на зямлі і яны, змрочныя балады Міра, Наваградка, Смалян, Ліды. З часам яны таксама зразумеюць, што не адной вайною жывыя балады, што мужнасць мужнасцю, але і добрым і адкрытым павінен быць чалавек. Як новы гродзенскі замак, як іншыя такія. Што з таго, што пакуль яны служаць адзінкам. Яны прыдатныя і для ўсіх. Паэты і майстры заўсёды загадваюць на стагоддзі.

...Так, разам з песняй, прадбачачы паэзію Багдановіча, як белыя слупы дыму ў марозны сонечны дзень, устаюць на нашай зямлі шырокія снежныя

палацы, якія чакаюць і вераць у той радасны дзень, калі да іх прыйдуць не адзінкі, а ўсе.

Некаторыя дачакаліся. Дачакаўся неаддзельны ад «Паланеза» Агінскага Залескі палац.

Дачакаўся замак у Нясвіжы, падобны на абдымкі белых і цёплых рук.

А колькі ж не дачакалася? Стаяць прыдатнымі яшчэ каробкамі, ляжаць камянямі.

Успомніце Старэ Мяста ў Варшаве. Яго ўзнялі з праху такім, якое яно было. Рукамі кавалі ліхтары, бо «тады» яны былі кутыя рукамі, а не адлітыя. Аднавілі па малюнках усё, нават колькасць пер'яў у крыле грыфона на партале.

Загінуў палац у Шчорсах. А людзі маглі б жыць у ім лепей, чым у хатах ці нават у некаторых буйнаблочных будынках. Разабралі ратушу і, амаль насупраць, сталі будаваць музей.

Што б вы сказалі, каб нехта кінуў у агонь «Мёртвыя душы»? Няпэўнае права на гэта меў толькі сам аўтар. Няпэўнае, бо ягонае стварэнне ўжо не было ім як асобаю.

Каб нехта кінуў у агонь Купалаў «Курган»? Дык, паверце, тое, што здарылася з каменнымі баладамі,— горшы злачын. Тысячы «курганоў» стаяць на паліцах і шалахцяць і спяваюць у руках людзей. А каменныя балады выдаюцца ў адным экземпляры. І знішчаць іх — гэта тое самае, што спаліць «Кіеўскія глагалічныя лісткі» ці «Астрамірава Евангелле». Іншых не будзе.

Скажы ты, аўтар вялікай справы, якую ты зрабіў сёння, на шчасце, на доўгую карысць усім людзям, ты, дойлід Крамлёўскага Палаца з'ездаў, ты, аўтар «Ціхага Дона», ты, творца сімфоній, ты, муляр, ты, араты цаліны, скажы мне, ці хацеў бы ты, каб гэтую справу нехта разбурыў заўтра?

Тое, што мы творым сёння, таксама будзе старажытнасцю, і па справах нашых тыя людзі будуць меркаваць аб нас.

Ці хацелі б вы ўсе, людзі, каб на ўсё, створанае вамі ў радасці, муках і поце і на радасць другім, нехта заўтра махнуў рукой і сказаў:

«Ат, мінулае. Парахня».

Вы хочаце павагі ў будучым — паважайце тых, безыменных.

Яны працавалі для вас. Яны прадбачылі вас. Яны вас — не ведаючы — любілі.

Сто пяцьдзесят год мы не можам дараваць Напалеону за полымя, у якім згарэла «Слова аб паходзе Ігара». А за знішчэнне любой каменнай балады самы горшы адказ — кінафельетон у «Фіціль».

На мурах Міра ахоўныя дошкі. Абсыпаюцца муры Міра. А ў іх, пры сціплых сродках, мог быць санаторый, Дом творчасці, музей. У старой балады зноў з'явіўся б змест, адпаведны яе дзівоснай форме і яе аправе са ставоў і зялёных паркаў.

...Адна цагліна ляжыць на маім стале. Але я аддаў бы дзесяць год жыцця, каб па адным гэтым слове аднавіць старажытную баладу. Як кожны паэт, які любіць людзей, аддаў бы іх за поўны тэкст «Энеіды», за спаленыя раздзелы «Анегіна», за знішчаныя агнём, ненадрукаваныя вершы Купалы.

Дык будзем цаніць тое, што маем.

Адна цагліна ляжыць на маім стале, падобная на адзінае слова забытай балады...

## ПЕСНЯ З ПАЎНОЧНЫХ АФІН

Той асенні дзень быў цёплы і пахмурны. Лісце ляжала пад нагамі тоўстым стракатым дыванам, і нам з сябрам добра было хадзіць па ім, варушыць лістоўныя сумёты нагамі і адчуваць сябе бязбожна шчаслівымі, нягледзячы на лёгкі сум. Таму што мы былі ў Залессі, былым маёнтку славутага Міхала Кляофаса Агінскага, «паўночных Афінах», як называлі гэты кут сучаснікі.

Залессе — адна з самых паэтычных мясцін нашай радзімы, а восень надавала ўсяму, што мы бачылі вакол, лёгкую паціну чысціні, празрыстасці і журбы.

Магутныя прысады клёнаў і ліп ішлі да Віллі, туліўся ў зарасніках старажытны цёплы дом са свечкамі калон, ртутна свяціліся ставы, ручай імкнуў праз грэблю. І ва ўсім, што вакол, была музычнасць, ціхая песня: у плёску вады, у шолаху лісця, у парывах ветру, які гайдаў палын на мяжы.

Ёсць мелодыі, якія чуеш так часта, што пачынаеш грэбаваць імі. Ад частага паўтарэння можа абрыднуць (думаецца мне) нават «Легенда» Вяняўскага. Але колькі б ты ні слухаў паланезы Агінскага, а асабліва вялікі паланез ля-мінор («Развітанне з радзімай») — ён застанецца блізкі і дарагі твайму сэрцу, будзе закранаць у ім самыя глыбінныя, самыя свае струны. І тады добра робіцца ад думкі, што вось нарадзіўся недзе ля Варшавы дзвесце год таму чалавек, жыў, ваяваў, быў дыпламатам і паўстанцам, пісаў між іншым музыку і, дзякуючы гэтай музыцы, стаў табе і ўсім іншым блізкі і родны. Яшчэ адзін прыклад магутнай повязі, што яднае ўсіх чыста на свеце добрых людзей.

Агінскія — стары апалячаны беларускі род, традыцыйныя гетманы літоўскія. Бацька паэта быў троцкі ваявода, а пасля літоўскі мечнік. І, аднак, наш творца, пан, арыстакрат, магнат, нобіль, адмовіўся ад свайго княскага герба, называў сябе «грамадзянінам» і хацеў вызваліць дванаццаць тысяч сваіх сялян, каб узняць іх на паўстанне. І за гэтае чалавекалюбства, дэмакратызм, гуманнасць — ён яшчэ бліжэйшы нам. Продкі ягоныя выдавалі беларускія кнігі, для польскай ягонай душы блізкія былі нашы беларускія напевы. І гэта беларускія ліпы Залесся, іхні вечны напеў навеялі кампазітару мелодыю паланеза ля-мінор і ўвогуле большай часткі ягоных паланезаў.

Ды і хіба толькі гэтыя, залескія, ліпы і дубы «англійскага» парку?! Хіба тыя трынаццаць год, што ён правёў тут?! А што казаць аб Слоніме, дзе ён жыў, аб яго наваколлі, якое, раз пабачыўшы тут, ніколі не забудзеш? А кручы Дняпра? А сінія віцебскія азёры? А Браслаў? Паўсюль хадзілі ягоныя ногі, паўсюль насіў яго баявы конь, паўсюль чуў ён беларускую песню, празрыстасці і меладыйнасці якой можа пазайздросціць любая песня зямлі.

І таму, калі стаіш ля гэтага залескага дома, сэрцу ўвесь час здаецца (А можа, і не здаецца? Хіба памяць сэрца не самая найвялікшая рэальнасць?), што з палёў ляціць неўміручае беларускае «Жніво», а з палаца адказваюць яму клавішы клавесіна. Гукі клавесіна такія слабыя, такія нямоцныя ў параўнанні з гукамі раяля, такія «несучасныя», але тут яны

здаюцца моцнымі, бо вытаргаюць іх пяшчотныя і адначасова сталёвыя рукі паэта і воіна. Гучаць гэтай пераклічцы між песняй і клавесінам тысячы вякоў, аж да сканчэння зямных дзён, якога, трэба думаць, і не будзе.

Не хацелася б тут гаварыць пра агульнавядомыя факты, пра біяграфію, але старонкі гэтага жыцця так адпавядаюць самой музыцы Агінскага, што не зрабіць гэта немагчыма. Улюбёнец шчасця — і выгнаннік. Сын сям'і з велічэзнымі культурнымі традицыямі, пляменнік паэта і аўтара першай у Польшчы оперы — і дэмакрат. Уладар дзесяткаў маёнткаў — і паўстанец. Арыстакрат — і аўтар памфлета «Папугай», які ядуча і злосна вінаваціць магнатаў за іхнюю абыякавасць да народа і радзімы, за тыя звады іхнія, якія неймінуча вядуць краіну да развалу і пагібелі. Яго паланез фа-мінор («Падзел Польшчы») — гэта лямант адчаю і гневу, дакумент (так, дакумент!) абвінавачвання. Таму дакумент, што ён сведчыць аб тым цямноцці, у якое гэта «трайное свінства» кінула душы лепшых людзей нацыі. Аб цямноцці, у якім гарэлі, аднак, прамяні надзеі, адзінага, што ніколі не здраджвала чалавеку, іначай у некаторыя цёмныя эпохі ён проста не мог бы жыць.

Міхал Кляофас быў вялікім скарбнікам літоўскім, дыпламатам, але гэта адышло ў мінулае, нікому цяпер не важліва. А вось тое, што за мяжою яго слухалі Гайдн і Моцарт, тое, што інсургенты Касцюшкі ішлі ў бой і над галовамі іхнімі луналі не толькі сцягі, але і маршы Агінскага,— гэта застанецца. І застанецца тое, што, калі загрымела паўстанне Касцюшкі, дваццацідзевяцігадовы чалавек на свае грошы сфарміраваў атрад амаль з пяцісот чалавек і ўзначаліў яго. Яны добра біліся і, галоўнае, мужна. З пяцісот засталося сорак. Яны ўзялі Валожын, ішлі на Івянец, раздавалі сялянам трафеі. А пасля іх малады начальнік узначаліў усе паўстанцкія войскі, і галава яго была ацэнена на вагу золата (як быццам можа быць нейкае золата, вартае такой галавы, галавы, якая стварала такую музыку).

А пасля паражэння прыйшла эміграцыя. І Агінскі вёў перагаворы з Банапартам. Адвечная трагедыя людзей, якія пакутна любяць затаптаную сваю радзіму і ў якіх выбілі з рук зброю, не далі магчы-

масці даць адпор гвалтаўніку айчыны. Агінскі, аднак, і тут на галаву вышэй сучаснікаў. Ён вядзе перагаворы з рэвалюцыйным генералам Банапартам, а калі прыйдзе час імператара Напалеона — ён кіне маёнтак і паедзе з адступаючымі.

Нельга быці з моцным, калі ў журбе і крыўдзе твой народ. І калі Напалеон плаціў высакароднай крывёй легіянераў пры Сарагосе, Нёмане, у рускіх снягах, Агінскага з імі не было. Ён спачуваў ім, разумеў іх, але ён ведаў таксама, што гэта памылка, якая не перастае быць памылкай, нават калі яна — трагедыя.

Аляксандр І на пачатку царавання дзейнічаў у духу свайго выхаваўцеля, русаіста Лагарпа і не заўсёды адмаўляўся ад магчымасці пакакетнічаць з ідэяй лібералізму. Ён даў выгнаннікам амністыю, не схільны быў, як-то завялі пазней, тлумачыць усё на свеце, у тым ліку нават пугачоўшчыну, «польскай інтрыгай» і прызначыў Агінскага сенатарам. У гэтыя гады Міхал Кляофас і атрымаў у падарунак ад Францішака Агінскага Залессе. І вось тады ў Залессі і быў створаны паланез ля-мінор. Гэта была «сустрэча з радзімай», але традыцыя назвала паланез «развітаннем». І, бадай што, гэта было правільна і больш адпавядала тону і настрою музыкі, вялікай яе журбе. Бо і ў радасці сустрэчы быў сум за лёс сваёй зямлі.

У тыя гады Залессе і стала «паўночнымі Афінамі», месцам, дзе панаваў культ музыкі, літаратуры і жывапісу. Большая частка музычнай спадчыны кампазітара была напісана тут.

І, аднак,— да чалавека не прыходзіла радасць. Нічога не збылося з таго, аб чым марыў. Нічога, акрамя музыкі. Напалеон не нёс вызвалення. Ён нёс пакуты і кроў. Нельга было ісці за ім. Але нельга было ісці і за царом. Нельга было жыць на радзіме, лёсам якой заставалася рабства.

У геніяў ёсць дзівосная якасць. У некаторых сваіх творах яны «прадказваюць» свой лёс, як быццам гледзячы праз завесу часоў. Містыкай тут і не пахне. Проста яны ведаюць свой час і сябе. Ленскі — прароцтва Пушкіна аб сваім канцы. Адна з аповесцей Чэхава амаль дакладна малюе яго апошнія гады.

Не мінула гэтая горкая чаша, гэты страшны дар прароцтва, і Агінскага. Паланез ля-мінор сапраўды

стаў развітаннем. Пасля эпапеі 1812 года аўтар ягоны едзе за мяжу, і на гэты раз назаўсёды. Калі нічым не можаш дапамагчы — лепей не быць сведкам народных пакут.

Фларэнцыя, «пяшчотны касач», стала ягоным апошнім прытулкам, сады Кашын замянілі яму залескія сады, плыткая Арно — глыбокую пясчаную Віллю. Тут ён і памёр. Чалавек, на жаль, памірае... Нават калі ён ствараў неўміручую музыку...

Мы сядзелі ля каменя, пакладзенага ў гонар Касцюшкі сярод залескага парку. Восень звінела лістотай. І ва ўсім была ледзь чутная музыка...

Магчыма, калі ён ад'язджаў з радзімы, горкае прароцтва ягонага паланеза гучала ў ягоных вушах, як гучыць яно зараз у нашых. Магчыма, ён ведаў, што ніколі больш не ўбачыць залескіх дубоў і радзімы. Але ведаў ён і другое.

Калі я слухаю паланез ля-мінор і калі ягоная журботная музыка ў плыні сваёй даходзіць да таго месца, дзе вызвалена і грозна пачынаюць гучаць урачыстыя фанфары — я разумею, што ён гэта ведаў.

Мір тым, хто загіне за народ і волю, слава тым, хто пераможа. Залескія дубы дадуць ім галіны для вянкоў, і самыя прыгожыя залескія дзяўчаты ўскладуць іх на галовы героям.

Музыка абяцае гэта.

## ТВОЙ ЗОРНЫ ШЛЯХ

Зорным часам аўстрыйскі пісьменнік Стэфан Цвейг назваў кульмінацыю, вышэйшы пункт кожнага чалавечага жыцця, тую вяршыню, вышэй за якую чалавек часам і не ўзнімаецца. А можа, і мог бы ўзняцца, ды не ведае пра гэта.

А павінен быў бы ведаць, павінен быў бы верыць у свае сілы, асабліва калі ён чалавек малады. Бо маладыя больш за іншых жывуць запалам свайго маладога сэрца, сваёй душы, свайго сумлення. Бо маладому ў вышэйшай ступені ўласцівая вера ў свае сілы, і, як вынік гэтага,— прадчуванне сваіх вялікіх здзяйсненняў.

Зорным часам для мараходаў было ў свой час адкрыццё Амерыкі і выхад на бераг Ціхага акіяна, для вучоных — адкрыццё электрычнасці і атрыманне радыю, для паэтаў — напісанне «Барыса Гадунова» і «Кургана».

Сёй-той, вядома, можа сказаць, што ён не Купала, не Кюры-Складоўская і ўжо аніяк не Калумб. І, аднак, ён не поўнасцю будзе мець рацыю. Амерыкі адкрыты, але мы дагэтуль не ведаем, як мігрыруюць птушкі і рыбы, хто насяляе глыбіні акіянаў. А гэта для нас, магчыма, не менш важна, бо няважных таямніц няма, і кожная патрабуе свайго героя, свайго Калумба.

Таму кожны павінен працаваць на карысць грамадства, бо яму без яго — без мяне, без цябе (так, менавіта без цябе, друг!) — абысціся нельга. Нельга абысціся без тваёй працы, без тваёй адданасці і адказнасці.

Антуан дэ Сент-Экзюперы сказаў:

«Быць чалавекам — гэта адчуваць... што, кладучы сваю цагліну, і ты дапамагаеш будаваць свет».

І гэта трэба памятаць, як і тое, што тваёй цагліны не падыме больш ніхто. І, значыцца, ні табе, ні мне, нікому на зямлі нельга кінуць справу сваю, нельга пазбыцца адказнасці за яе.

Нехта спытае: «А што мне да зорнай гадзіны? Я спакойна і сумленна раблю сваю справу. Я не рэкардсмен. Я не збіраюся быць чэмпіёнам. Я звычайны сярэдні ігрок, што акуратна з'яўляецца на спаборніцтвы, каб мая каманда не страціла ачкоў. Патрэбны і такія».

Так, патрэбны. Але як нецікава ім жыць. Добра яшчэ, што амаль ніякая каманда без іх «не абыходзіцца».

«Не абыходзіцца...» У самім гэтым слове закладзен той сэнс, што можа і «абысціся», што ўсё роўна, амаль усё роўна, ёсць ты або цябе няма.

Да чаго гэта нудна і прыніжана! А дзе весялосць і азарт, гордасць за сябе і за іншых, дзе чалавечая годнасць быць неабходным?

Адкуль ты ведаеш, дружа, што ты не здатны да таго, каб ісці першым? Чаму загадзя згаджаешся, што месца тваё не наперадзе? Проста дагэтуль нават ты сам не ведаў сіл, схаваных у табе, не бачыў

жадання прынесці ўсё сваёй грамадзе, свайму народу, свайму чалавецтву штосьці вялікае, непаўторнае.

Інертнасць дужа небяспечная рэч. Часам яна нараджае зло, таму ніколі не забывай аб гэтым. Вось чаму ў хвасце і не трэба цягнуцца.

Наш час — складаны час. Сярэдзіны ў наш век не бывае.

Нядаўна я чытаў фантастычнае апавяданне (а ці такое яно ўжо і фантастычнае?) аб тым, як на вялікім пульце кіравання наземнай ракетнай базай усё залежала ад таго, паспее маньяк-палкоўнік Гаскойн націснуць кнопку ці не. Ад чалавека, які апынуўся побач з ім, залежаў лёс зямлі.

Будзем спадзявацца, што такога не здарыцца.

Але хіба менш пачэсна адвесці, скажам, нож, занесены над чалавекам? Не менш. Таму што кожны чалавек — гэта таксама свет. І гэты непаўторны свет кожны раз згасае навекі і не паўторыцца болей са смерцю вось гэтага, непаўторнага чалавека. І той, хто яго ратуе,— кожны раз ратуе ўсю зямлю, сонца, захады і ўсходы, і ўсіх людзей, і жывёлу, і кветкі, і... зоры.

І для таго, хто ўратаваў, гэта і ёсць зорны час.

Можа ён быць і яшчэ сціплейшы. Дала першыя плады пасаджаная табою груша, расце харошым чалавекам твой сын, ты вырасціў на месцы коласа — два... Тысячы тысяч такіх спраў чакаюць любога. І на кожным шляху (і неаднойчы) чакае чалавека высакародная работа. І кожны шлях вянчаецца зорным часам. Тваім.

Толькі не прапусці. А каб не прапусціць, патрэбна гатоўнасць, маральная сіла, сумленне, звычайная людская чысціня.

Проста трэба быць дужа харошым чалавекам.

## SAXIFRAGA

Некалькі год назад у нашай кінагрупе, што здымала ў Крыме мой фільм, выдаўся вольны дзень. Я выпрасіў на той дзень у нашага дырэктара аднаго

з чатырохногіх артыстаў — а менавіта асла — і накіраваўся на ім у горы, на Яйлу. Хацеў бы я, вядома, сказаць, што выклянчыў не асла, а каня. Гэта было б куды больш рамантычна: вылазка на кані ў горы. Але праўда ёсць праўда — сябрам маім быў не скакун з сімферопальскай плембазы, а звычайны, буравата-мышасты і даўгавухі, баечны герой.

Я адчуваў сябе не вельмі здаровым, кепска спаў і пабойваўся, што мае жылы не вытрымаюць падарожжа на сваіх дваіх. Але я не мог і ўявіць, наколькі горшае будзе падарожжа на маім «таварышы і верным слузе» з яго ўпартасцю і калатлівым трушком.

Спачатку паабапал сцежкі цягнуліся карлікавыя лаўры, пасля вінаграднікі і шэрыя, заімшэлыя пліты таўрскіх магіл. Пасля пайшлі дубы. А потым зніклі і яны і пачалося царства каменю і травы, а найболей голага каменю.

Зранку з Яйлы спаўзлі, нібы снег, лавіны аблокаў, але пасля, відаць, вецер сагнаў іх, і яна адкрылася, урэчышча, з усімі сваімі роўнядзямі, праваламі і морам, што, наўскос перакуленае, ляжала перада мной: далягляд на ўзроўні вачэй, а пад нагамі — кроў ледзянее — бездань.

Я глядзеў на ўсё гэта, на пульхныя падушкі нейкіх раслін і амаль пакутліва ўспамінаў — а што такое знаёмае нагадвае мне ўсё гэта?

І раптам успомніў.

Вось і ўлюбёных паэтамі лаўраў
І пышных магнолій не ўбачыш,

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі зямлячак бялюткіх сустрэнеш, бярозак...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Потым не стала іх.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Суха, нідзе ані былкі, усё задушыла каменне,
Нібы давеку турма.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Душна... ні кроплі вады... гэта ўсё нібы шлях у Нірвану,
Смерці ўсеўладнай краіну...

Успамінаючы ўсё гэта па радку, па слоўцу і, вядома, па-ўкраінску, я зразумеў, чаму такі мне знаёмы гэты краявід, што гэта за расліны, нават успомніў,

што калісьці бачыў у Масандры іхняе пышнае цвіценне пад ліванскімі кедрамі.

Кветка вялікая, гожая, свежасць пялёсткаў
раскрыла,
Кроплі расы самацветамі ззялі на дне.
Камень прабіла яна, той камень, што ўсё перамог,
Што задушыў і магутнасць дубоў,
І цярноў непакорнасць.
Гэтую кветку вучоныя людзі завуць saxifraga.
Нам, паэтам, гадзіцца яе называць — ламікамень
І шанаваць яе болей за пышныя лаўры[1].

І вось тут, на Яйле, над безданню і бязмежным морам, калі я згадаў гэтыя радкі, пазнаў усё, што вакол,— паўстаў у маёй душы той даўно ўсімі забыты дзень, калі рвала на валынскіх палетках валошкі шэравокая русявая дзяўчынка, будучая вялікая паэтэса, будучы гонар Украіны.

...Сто гадоў назад, 25 лютага 1871 года. Маці — украінская пісьменніца Алена Пчылка, з Драгаманавых. Бацька, Пятро Касач, галава з'езду міравых пасрэднікаў у Наваград-Валынскім. Матка выпеставала здольнасць і ўкраінскае сэрца. Бацька даў не толькі вонкавыя рысы, але і дабрыню бязмежную, цярплівасць, паблажлівую лагоднасць, сілу волі, бескарыслівае сумленне, крайнюю прыстойнасць, здольнасць хутчэй моўчкі пакутаваць самому, чым прыносіць пакуты іншым, і велічэзную павагу да годнасці чалавечай, хай бы сабе гэта была і годнасць малога дзіцяці.

Аксана Сташэнка, дачка М. Старыцкага, піша: «Пятро Антонавіч паходжаннем з паўночнай Чарнігаўшчыны, ледзь не з Беларусі, хоць і лічыў сябе ўкраінцам, але ўкраінскаю моваю размаўляў дрэнна...» Вонкава суровы, ён мог і накрычаць, але ўсё роўна рабіў як лепей людзям. Паны крыўдавалі, што ён псуе сялян, заўсёды стаючы на іх бок, але ў спрэчках між сабою ўсё ж бралі трацейскім суддзёй заўсёды яго, ведаючы, што са шляху крыштальнага сумлення яго не зверне і цар.

Гэты чалавек, пакуль быў жывы, падбіраў кожную саломінку перад дачкою на нялёгкім яе шляху.

...Нейкія сем вёрст на ўсход ад Ковеля. Вёска Калодзежнае. Вялікі дом Касачоў немцы разабралі на бліндажы, і ў мой час яго толькі збіраліся аднаў-

[1] Тут і далей пераклады мае.— *У. К.*

ляць, але ясна свяціўся на фоне дрэў «Лесін бяленькі дамок», пабудаваны бацькам, каб дзяўчо магло працаваць. Чатыры акенцы. Веранда. Мезанін, што выходзіць на маленькі балкон. Тут кожны год святкаваліся шаўчэнкаўскія гадавіны, ставілася лялечная п'еса пра Кармелюка, тут стаяла фартэпіяна, якому прысвечана кранальная элегія, тут пісаліся многія з ранніх вершаў. Першы яе верш, які дайшоў да нас, быў напісаны ў дзевяцігадовым узросце. Тут дзесяцігадовая дзяўчынка запісала два тоўстыя сшыткі народнымі песнямі. Сюды нелегальна прыязджаў з-за мяжы Іван Франко: пагаварыць з бацькамі, адпачыць, палавіць уюноў. Тут вялізны свет палескай фантазіі ўпершыню нарадзіў тыя вобразы, што пазней так ярасна будуць зіхацець у славутай «Лясной песні». Тут нарадзілася душа дзяцей, усё тое, што прымусіць іх, і ў тым ліку Лесю, лічыць, што «мы не чарнігаўскія і не палтаўскія, а мы палешукі». І адчуванне гэтай еднасці з Палессем будзе глыбокае, як возера Нячымнае («нічым не дастаць дна»), ля якога жыў пасечнік Леў. У яго гасцявалі дзеці, і ён пазней стаў прататыпам «дзядзькі Льва» з «Песні».

Нячымнае таксама недалёка. З тванню ля аднаго берага, з глыбачэннай крыніцаю, з пнямі ад старых дубоў і сасновым борам. Усяго 25 кіламетраў ад Калодзежнага. Возера чыстаплёснае, верасовае і лугавое па берагах, надзіва зажуранае. І... пустое цяпер. Зусім пустое.

Тут жа непадалёку, толькі ў Луцку, пачалося і тое няшчасце, што на ўвесь век атруціла жыццё гэтаму незвычайнаму чалавеку. Дзесяцігадовае дзіця застудзіла ногі на вадохрышчы — было гэта, значыцца, 6 студзеня 1881 года,— прастаяўшы на лёдзе ўсю гэтую цырымонію... Палонка... Крыж з лёду, увянчаны голубам... Марозная пара ад вады... Чырвоныя ў сцюдзёным сонцы рызы...

І вось праз два гады ўсё гэта адгукнулася. Спачатку туберкулёзам левай рукі, пасля — нагі, на пачатку 900-х гадоў — лёгкіх і ўрэшце нырак і страўніка. А там прыйшла і заўчасная смерць. Пасля жыцця, праведзенага ў нялюдскіх — не на аднаго чалавека — пакутах. Таму і ў школе не была, а вучылася толькі ў прыватных настаўнікаў. Хоць тут магчымае і другое тлумачэнне: маці, напрыклад, казала, што

ўсё гэта было не столькі праз хваробу, колькі таму, што яна, маці, баялася, каб казённая школа не разбурыла дзіцяці мову, характар, погляды.

Як бы там ні было, але дзіця гэта было навучана нямецкай, французскай, грэчаскай, лацінскай мовам, а пасля сама вывучыла польскую, італьянскую, англійскую, балгарскую і іспанскую. А што ж?! Сям'я была культурная, таленавітая, цікаўная да ведаў. Брат Міхась — а было яму тады год дзесяць — аднойчы нават перамог у спрэчцы вядомага гісторыка Ілавайскага, аўтара гімназічных падручнікаў па гісторыі. Давёў яму, што адно пытанне з гісторыі Чырвонай Русі княскіх часоў той недастаткова ведае і таму разумее не так.

— Дока растет,— сказаў ашаломлены гісторык.

— Не то что дока, а очень люблю читать книги по истории Украины,— спакойна і сціпла адказаў Міша.

Дзіўна, што ў такіх умовах вырас усё ж чалавек, патрэбай якога было не толькі выслоўлівацца, але і дзейнічаць.

Жыццё — прыклад мужнасці. Ды яшчэ ў гэткіх абставінах, у ліпучых кайданах з гіпсу.

Як Франко, разбіты паралюшам. Як Гейнэ ў матрацнай магіле. Але гэтыя былі мужчыны.

Хаця... вядомы ў свой час прафесар Сапежка казаў: «У мяне пры такой аперацыі пацыенты-мужчыны «вядзьмедзем» равуць, а тут слабенькая кабета сціснула зубы і маўчыць».

У гэтых кайданах, у якія яе перыядычна закоўвалі, яна няўтомна працуе і робіцца дасканалай паэтэсай, драматургам, празаікам, цікавым і (што куды цяжэй, і мы пераконваемся ў гэтым на кожным кроку) бездакорна праўдзівым і справядлівым крытыкам і публіцыстам, значным гісторыкам, этнографам, фальклярыстам, музыказнаўцам.

Музыцы яна вучыцца ў жонкі Міколы Лысенкі, вялікага кампазітара. І вучыцца так, што каб не хвароба рукі, то — яна сама казала пра гэта,— магчыма, пераключылася б галоўным чынам на музыку. І, можа, там яе здольнасці выявіліся б не меншыя, чым у паэзіі. Грала яна, між іншым, і свае творы, і імправізацыі, на жаль, не запісаныя.

У 18 гадоў яна склала дзеля сястры курс «Стара-

жытнай гісторыі ўсходніх народаў»: першабытныя людзі, свет, вядомы ім, індусы, мідзяне і персы, егіпцяне, асірыйцы і вавіланяне, фінікійцы, ізраэліты — вось яго раздзелы[1]. Вось адкуль яшчэ вядзецца яе цікавасць да ўсходу, вось адкуль пайшлі «ўсходнія» сюжэты многіх п'ес і вершаў.

Яна перакладала сацыялістычныя брашуры, сама пісала іх па-ўкраінску або рабіла прадмовы да чужых.

Яна дзейнічала. Заслужыла добрую памяць калодзежанскіх сялян, якія ўспаміналі яе дабром аж праз шэсцьдзесят год, паверце мне. А вока на добрых людзей у простага люду вострае. Сялянка Варвара Дзмітрук, напрыклад, сярод усіх шматлікіх у тыя гады наведнікаў панскага дому ўспомніла праз 50 год «мужа, жонку і іхніх дзяцей з Львова». А гэта быў Франко з сям'ёй.

Яна змагалася на эпідэміі тыфусу. Арганізатарскай дзейнасцю і грашыма бязмерна многа памагла сялянам у неўраджайны, смяротна галодны 1891 год.

Будучы пасля смерці бацькі (а крыніцаю сродкаў была служба) чалавекам вельмі небагатым, каб не сказаць недастатным, яна, нібы ад імя невядомага дабрадзея, усё ж на свае грошы арганізавала фальклорную экспедыцыю 1908 года на Палтаўшчыну. З новымі тады фанографамі. Кіраўніком экспедыцыі быў выдатны музыказнаўца, фалькларыст і кампазітар Філарэт Калеса. Перад ім была пастаўлена адна задача: толькі думы і гістарычныя песні. І ў гэтым была свядомая мэта. Кожная іншая песня магла пачакаць — думы выміралі ўжо тады. А так яшчэ жылі славутыя Міхайла Краўчанка і Гнат Ганчарэнка. Нельга было адхіляцца. Было мала часу і грошай. Трэба было хоць бы на гектографе выдаць сабранае ці ў таннай літаграфіі, хоць бы рэпертуар аднаго Краўчанкі, хоць бы ў самай абмежаванай колькасці экземпляраў.

Сабрана было... два тамы. Да выдання другога Леся не дажыла. Але гэта таксама помнік ёй, вялікай выратавальніцы скарбаў.

А колькі пакут трэба было перанесці ў працэсе гэтага подзвігу, колькі звычайных для «вялікай гісто-

---

[1] Кніжка гэтая была надрукавана ў 1918 годзе ў Кацярынаславе. Памер яе — 252 старонкі.

рыі» зневажанняў годнасці чалавечай, колькі паганых «жандарскіх ласкавасцяў»!

Ганчарэнку, напрыклад, спяваць забараняла паліцыя, і ён, пераехаўшы жыць у Севастопаль, да сына-рабочага, ніколі не насіў з сабою бандуры. Калі ён прыехаў да паэтэсы ў Ялту, на запісы, паліцыя на прыстані ўсё ж прычапілася да яго, як да жабрака з недазволеным спосабам прашэння (галадаць дазволена, працягваць руку — дазволены спосаб, а спяваць думы свайго народа — спосаб недазволены); толькі запэўненні паэтэсінай наймічкі, што ён не жабрак, што едзе ў госці да вядомых людзей, уратавала бандурыста ад бяды. А той нават не быў падобны на жабрака: прыстойная вопратка, годныя паводзіны, велічная постаць, тонкія артыстычныя пальцы; і не толькі не прымаў грошай, але і найменшай паслугі не прымаў дарма; быў артыстам, што паважаў сваю прафесію.

Словам — бог мой! — і там было не лепей, чым з беларускімі лірнікамі і дударамі. Царскія служкі знішчылі найбольш адметную, паэтычную, найбольш гістарычную з'яву быцця народнага.

Каму гэта трэба было?

Маці мая расказвае, што, калі яна настаўнічала, лірнікі часта праходзілі праз сяло, гралі па хатах, і яны, настаўніцы, таксама клікалі іх да сябе і дарылі, як усе, і слухалі: «Ой, спаў крумкач на магіле», і «Дароту», і «Цара Маркабруна», і «Трубу златакаваную», і «Язэпа Прыўкраснага», і «Равуць воды крывавыя», і журботную нашу «Сіротку». А я апошні раз чуў — і, магчыма, апошняга ў свеце — лірніка на кірмашы ў Оршы ці ў сорак сёмым, ці ў сорак восьмым годзе. І плакаў, як усе вакол; плакаў, можа, не столькі ад спеваў, колькі ад адчування, што прысутнічаю пры сконе чагосьці гонарнага і велічнага. Таго, што ў самыя клятыя і чорныя часы не давала згаснуць святому адчуванню, што мы гордыя і вялікія людзі, калі мы стварылі такое.

Леся Украінка і тут зрабіла подзвіг. Гэта скажа і сёння кожны, хто слухаў украінскага кабзара. Не сцэнічнага, не на падмостках, а ў звыклай, роднай яму стыхіі. Я меў такое шчасце двойчы. Праўдзівей, чуў двух кабзароў, можа, таксама ледзь не апошніх.

Аднаго чуў шмат разоў — і адразу пасля вызва-

лення Кіева, і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. Не ведаю, ці сядзіць ён яшчэ і зараз у Пячорскай лаўры, пад старым каравым арэхам, сляпы, у памятым пінжаку, але ў бяленькай сарочцы з яркаю жычкай.

А другога — і гэта было яшчэ лепей, бо натуральная і спрадвечная была бяленькая хата пад саламянай страхою — я чуў пазней, у вёсцы па дарозе на Таращчу.

І заўсёды, і ў адным і ў другім выпадку, не пакідала адчуванне, што прысутнічаеш пры сапраўдным, мо апошнім дзіве. І заўсёды здзіўлялі і словы, і вобразы, і гэтая манера спеву: вольны рэчытатыў, дзе фразы і словы то расцягваюцца, калі гэта трэба, то сціскаюцца. Да мурашак па спіне ўражала гэтая музычная дэкламацыя з яе раздробленым рытмам, які драбіцца ў адпаведнасці з нераўнамернымі радкамі, пазбаўленымі нават самай нязначнай, нават найменшай рытмічнай схемы, раскутымі, шырокімі, як Дняпро ў навальнічную паводку. Заплачкі, галошанне, беларускае і паўночна-ўкраінскае,— вось што гэта нагадвала. Так мне здавалася тады, так здаецца і цяпер. І пры гэтым велічным, спакойным і трагічным галашэнні, якое бандурыст выконвае, ясна ж, у мінорны, нібы за валасы цябе ўздымаюць, нібы ў сэрца ўганяюць ледзяны і пякучы жах і захапленне пальцы, якія бегаюць па струнах, акампаніруючы ў мажорным гукарадзе. І гэта не дысгармонія, не дысананс, не какафонія, а, наадварот, парастак гармоніі вышэйшай.

Але подзвіг быў не толькі ў творчасці і абароне слова і песні. Ці не найвышэйшы подзвіг быў у абароне годнасці чалавека і краіны.

Калі ўвосень 1896 года цара і царыцу віталі ў Парыжы афіцыйныя колы, то некаторыя музыканты, артысты, пісьменнікі складалі ў іх гонар кантаты, здравіцы і песні. Абуралася ўся левая расійская інтэлігенцыя, але ніхто не асмеліўся сказаць слова, акрамя гэтай нядужай дваццаціпяцігадовай жанчыны.

Яна напісала і даслала ў газету «La Reform» гнеўны артыкул «Голас адной расійскай зняволенай».

«Ганьба крывадушнай ліры, ліслівыя струны якой напаўнялі акордамі залы Версаля... Ганьба вольным паэтам, якія перад чужынцам звіняць звеннямі сваіх добраахвотна накладзеных кайданоў. Няволя яшчэ

больш мярзотная, калі яна добраахвотная. Ганьба вам, аўтары, калі вы блюзнерскімі вуснамі вымаўляеце імя Мальера, які калісь сваім з'едлівым глумам падточваў жахлівага волата, якога стварыў для Францыі... кароль-Сонца. Прывід гэтага караля, такі бледны напярэдадні, пачырванеў ад радасцяў, пачуўшы вашыя песні ў горадзе Парыжы, гэтым царазабойчым горадзе, дзе кожны камень крычыць: «Прэч тыранію!»

Гэтыя прадажныя тварыны рабілі выгляд, што ў асобе высокага госця яны вітаюць вялікую Расію.

«Ці вы ведаеце, славутыя калегі, што такое ўбоства, убоства краіны, якую вы называеце такой вялікаю?.. Так, Расія велічэзная, расіяніна можна засланць аж за край свету, не выкідаючы за дзяржаўныя межы. Так, Расія велічэзная: голад, цемра, ліхадзейства, крывадушнасць, бясконцая тыранія, і ўсе тыя няшчасці велічэзныя, каласальныя, грандыёзныя. Цары нашы перавысілі цароў егіпецкіх сваім імкненнем да масіўнага. Іхнія піраміды высокія і дужа моцныя. Ваша Бастылія была нічым у параўнанні з імі. Прыходзьце ж, вялікія паэты, вялікія артысты, паглядзіце на веліч нашых бастыльскіх цытадэляў, сыдзіце з эстрад, здыміце вашы катурны і агледзьце нашу прыўкрасную турму... вялікую Расію».

Нават па адным гэтым артыкуле мы бачым, што гэтая жанчына была «свядомы свайго стану работнік...». І тысячу разоў меў рацыю Франко, калі пісаў, што яе паэзія «...гэта агністае абскарджанне таго дзікага гнёту самавольства, пад якім стогне Украіна».

Нават там, дзе Франко свядома завастраў, ён меў рацыю:

«Ад часу Шаўчэнкавага «Поховайте та вставайте, кайдани порвіте» Украіна не чула такога моцнага, гарачага ды паэтычнага слова, як у гэтай слабасілай, хворай дзяўчыны... Мімаволі думаеш, што гэтая слабасілая дзяўчына — траха ці не адзіны мужчына на ўсю навачасную, саборную Украіну».

Ужо ў нейкія дзевятнаццаць гадоў стваракцца геніяльныя вершы, што ўваходзяць у скарбніцу ўкраінскай і светавой паэзіі. Я маю на ўвазе «Contra spem spero»[1]. Гэта ўжо не толькі свой стыль і адрыў

[1] Без надзеі спадзяваюся *(лац.)*.

ад стогнаў і жальбы ў імя мужнасці, энергіі, праклёну. Гэта большае.

Бо ў асобе Лесі Украінкі ва ўкраінскую літаратуру ўвайшло тое, чаго не хапала ў той час і ўкраінцам і нам: спалучаныя з высакароднай ідэяй інтэлігентнасць, вытанчанасць і, пры ўсёй нацыянальнай стыхіі, Сусветнасць у самым вышнім сэнсе гэтага слова. У нас гэта зрабіў Багдановіч, у іх — яна.

І ўсё гэта было як раптоўны выбух вулкана, як пякучая лава, на якой пасля так раскошна буяюць кветкі, серабрацца алівы, наліваецца вінаград.

Некаторыя крытыкі бедавалі, што праз хваробу, праз прыкутасць на доўгія месяцы да ложка паэтэса часта была вымушана кідаць паплечнікаў, жыць у аранжарэйнай атмасферы санаторыяў, на чужыне. Мы ведаем, што і яна балюча перажывала гэта.

А я думаю — і няхай мне даруе яе вялікі цень, і вялікая ўкраінская паэзія, і сама вялікая Украіна,— я думаю, што ў гэтай бядзе было і зерне станоўчага.

Уявім сабе бясхмарнае жыццё каханай, жонкі, маці. Уся энергія, уся любоў, увесь боль пайшлі б туды. Мужчына ўсё ж менш залежыць ад гэтага, а для жанчын гэта многае, калі не ўсё. Колькі паэтэс чэзла і знікала вось так, у вершах аб каханні, міласці, ружовых дзетках.

Дадзена было ёй і вялікае каханне, і сябар-муж. Але найвялікшай любоўю асталася паэзія. І яшчэ вялікая Украіна, якая без гэтай паэзіі асірацела б у страшныя тыя дні. Дні ліхалецця, прыніжэнняў, заціскання роту. Дні хлусні і турмы, бізуна і плахі.

Калі я рыхтаваў да друку «Каласы пад сярпом тваім», рэдактар моцна пакрэмзаў у адным раздзеле прамову чарнасоценнага прафесара Руніна:

— Ну, браце, гэта ўжо занадта. Ты такія ўжо страшныя рэчы гаворыш. Гэта ўжо нават абразліва.

А я гэтых рэчаў не «гаварыў». Я толькі злёгку перафразаваў некаторыя месцы з кнігі Рыціха «Пакрыўджаны край». Што гаворыцца ў ёй пра беларусаў «з абліччам, не падобным да чалавечага, з нагамі ў выглядзе кола і незразумелай говоркай», якія «знікаюць канчаткова»,— пра гэта і казаць няма чаго, тым больш што я пішу гэтыя радкі, даўно зніклы, а з фашызмам у пушчах ваявалі, відаць, таксама прывіды. Паслухаем, што ён кажа пра ўкраінцаў: «...З'яў-

ленне... украінафільства, моцна цяпер падаграваемага аўстрыйскімі агентамі».

Гэта ён, відаць, пра Франко, Стафаніка і Кабылянскую.

«Гэтая справа, з грамадою Шаўчэнкі на чале, нейкай там операю Наталкі-Палтаўкі (адукаваны, новую кампазітарку падарыў Украіне!) і абмежаванай колькасцю фантазёраў, якія мяркуюць, што Маларосія, маларосы складаюць нешта асаблівае са сваёй нераспрацаванай гаворкаю і сваімі чумакамі...»

Вось так гаварыў высокаадукаваны дзяржаўны муж.

Гэта нам цяпер смешна. А людзям даводзілася жыць і дыхаць у такой прыбіральні і не спадзявацца на будучыню, бо «Расія можа жыць толькі з такім духам народа, як было пры царах Іаане III і Аляксеі Міхайлавічы».

Вось так...

Але досыць пра сумнае. Падамо і весялейшы прыклад. Пасля валуеўскага цыркуляра 1863 года і Эмскага ўказа Аляксандра II ад 1876 года ўжыванне ўкраінскай мовы зрабілася не толькі чымсьці падазроным, але нават злачынным. Забаронена было ў канцэртах спяваць нават нявінныя песні іначай, чым у перакладзе. На канцэрце Міколы Лысенкі ў першай палове 1864 года кіеўскае начальства, разглядаючы праграму, пастанавіла, каб тэксты песень пераклалі. Была ў тым канцэрце і такая песня:

Дощик, дощик капае дрібненько,
Я ж думала, я ж думала, запорожець, ненько...

Пераклад той песні зрабіла нейкая пані.

І вось выйшаў на сцэну вядомы выканаўца народнай песні Мікола Багданаў і заспяваў гэтую песню па-французску...

У зале выбухнуў несамавіты, навальнічны рогат.

І было з чаго.

Вось так... І хто б уступіўся за галодных і пяволеных, за радзіму, каб не Тарасаў цень, каб не Іван Франко, каб не гэтая слабенькая, кволая жанчына.

Яна ніколі не была абмежаваная. Яна ваявала не толькі супроць прыгнятальнікаў, але і супроць хутарскога беспардоннага «патрыятызму», які лёкайствуе перад моцнымі, ліжа ім рукі, кідаецца ад гуч-

ных лозунгаў да халуйства і спадзяецца на цемру народную як на адзіную надзею, што народ той будзе жыць. Супроць патрыятызму галушак і світак за патрыятызм адукаванай грамады, якая, вядома, і галушак не забыла, але дайшла да вышынь духу чалавечага, культуры чалавечай. Першых яшчэ можна было б трымаць у прыгоне, хоць бы трымаючы ў цемры. Другіх — ніколі.

Час прыніжэння таксама нараджае волатаў. І шчаслівы той люд, хто ў такія эпохі мае сілу нарадзіць. Нарадзіць абарону.

Я лічу, што і ў вонкавай яе «староннасці» не было вялікай бяды. Яна ведала мэту лепей за многіх, ведала шлях да яе і сродкі дасягнення гэтай мэты як ніхто. І, можа, нават лепей, што яна была пазбаўлена часам штодзённых сварак і спрэчак, грызні груповак, лаянкі народнікаў з Грушэўскім і Яфрэмавым, а тых яшчэ з кімсьці.

Ведала шлях і мэту. Спакойна і мужна рабіла сваю справу. І бласлаўеннем была тая «прымусовая бяздзейнасць», на якую яна так горка наракала.

Не яе справа была біцца. Яе справа была куць і сталіць зброю, якой, урэшце, перамогуць воіны яе народа, воіны ўсіх прыгнечаных зямлі, воіны, створаныя спецыяльна дзеля таго, каб перамагаць. Слова яе ўражала, нішчыла, біла — значыць, перамагала і яна.

Нездарма Нестар Гамбарашвілі, які кватараваў у іх, на пытанне, што прывезці паэтэсе з Грузіі, атрымаў адказ: «Востры кінжал, як эмблему для барацьбы з ненавісным ворагам». Нестар замовіў той кінжал у збраяра ў Горы і прывёз.

А між тым гэта жанчына з усімі адметнымі рысамі жаночай псіхалогіі, з адметнай, арыгінальна павернутай думкай і самой лагічнасцю. Досыць прыгадаць верш «Забыты цень...». Ва ўсіх песнях Дантэ пануе цень Беатрычэ, якую ён бачыў тры разы (і на трэці — у труне), якой ён збіраў у містычным лесе кветкі, мыў іх у водах пякельнага Стыкса, каб пасля ўскласці на раннюю магілу той, пра якую не забыў да смерці. І хто памятае Дантаву жонку, ад якой не асталося нават імя[1], але якая верным ценем ішла за

[1] Мы ведаем яе імя, Джэма Данаці, але болей, сапраўды, амаль нічога.

правадыром «Італіі няшчаснай», дзяліла з ім горкі, жабрачы і цвёрды хлеб выгнання і закрыла яму вочы?

> ...бачу слёзы...
> Па тых слязах, як па расе жамчужнай,
> Прайшла ў краіну славы — Беатрычэ.

Тут не толькі жаночы спосаб мыслення і жаночая душэўнасць, тут яшчэ і спагада адной жанчыны другой. Мы ведаем штуршок да напісання верша, прысвечанага Вользе Ліпскай, жонцы Лысенкі, якая не магла нават насіць імя мужа, бо ўлады не давалі яму дазволу на развод, жанчыны, праклятай родным бацькам за яе крок, жанчыны адданай і мужнай, якая ўсё сваё кароткае жыццё гераічна памагала кампазітару несці яго крыж, забыўшыся нават на свой не абы-які талент.

Паэтэса, жанчына тая, знайшла ў сабе, аднак, тытанічную сілу. Бо сэрца і шчокі гарэлі ад сораму за люд так, што яна знайшла страшныя словы: slavus — sclavus, славянін — раб.

> ...славянін
> З пакорай рукі склаў у кайданах папяровых
> Ды раз у раз паклоны нізка б'е
> Перад слупом, каронаю вянчаным...
>
> . . . . . . . . . . . . . . .
>
> У крыві ўвесь, слязьмі твар заліло,
> Траістая нагайка цела крае,
> А ён сплятае, крадкама, сіло
> І брату пад нагамі раскладзе.

Народ, як сляпое зроду дзіця, ніколі не бачыў сонца, за ворагаў ідзе ў агонь і ў ваду і павадыроў сваіх аддаў катам. І, аднак, хай мы рабы

> Без сораму, без гонару — хай так!
> А хто ж складаў той строй ваякаў мужных,
> Якіх сабраў пад вольны сцяг Спартак?

Тут і боль, тут і поўха народу-рабу, тут і вера ў яго.

Гэта якраз часы «Ламікаменя».

Вечны бой судзіцца гэтай жанчыне. Яна не толькі раніць, яна і атрымлівае раны. У 1897 годзе, якраз у год «Ламікаменя», яна пазнаёмілася ў Крыме з Сяргеем Мяржынскім, адным з арганізатараў «Кіеў-

скага саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа», а таксама і адным з арганізатараў беларускіх сацыялістаў. Saxifraga нездарма расцвіла ў той год. Парасткі сяброўства і любові прабіліся праз камень.

Усе, хто ўспамінаў Мяржынскага, не маглі гаварыць пра яго без пачуцця найглыбейшай павагі і пяшчоты. Гавораць пра глухаваты далікатны голас, пра пяшчотны, матава-белы колер твару, чорныя валасы і вялікія бліскучыя сінія вочы пад густымі бровамі. Гавораць пра мяккасць і строгую сумленнасць характару, пра тонкае разуменне мастацтва, арганічную няздольнасць прычыняць людзям боль, яркасць гераічнай думкі, гарманічны, высокі эстэтызм і альтруістычную захопленасць.

Як і яна, прыўкрасны прадстаўнік пароды чалавечай. Як і яна, асуджаны хваробай на перадчасны скон. Вялікую несправядлівасць дапусціла з абодвума жыццё. Але добра, што дало ім хоць тры з паловай гады шчасця.

Маці памерла ад сухотаў. Сын успадчыў хваробу. Леся і ён, абое хворыя, вырашылі не жаніцца. Супроць іх былі і лёс і людзі. Яго сваякі і матка паэтэсы, што хваравіта раўнавала дачку і, калі тая была ў Мінску (Мяржынскі служыў у дзяржаўным кантролі Лібава-Роменскай чыгункі), ля ложка хворага друга,— лічыла гэта сямейным няшчасцем, якое трэба хаваць. А дачка ў гэты час крычыць у лісце да В. Кабылянскай: «Калі падумаю толькі, што я такога друга маю згубіць!..» А дачка крычыць пакутным вершам «Апантанай». Два месяцы цягнецца пакута, а потым сухотны менінгіт — і ўсё.

16 сакавіка 1901 года каменная паліца лёсу падае на гэтага чалавека. І хоць ён «прасіў памяці, а не пакут», яна хворая ад страшэннай журбы, нават хваравіта-ненармальная. Усе думкі былі засяроджаны на тым, што адбылося.

Нельга без глыбокага жалю чытаць яе лісты з тых часоў, нельга без пакуты чытаць лірыку, прысвечаную яму і ягонай смерці. Лірыку, што даходзіць да экзальтацыі амаль рэлігійнай. Бо жанчына ведала: дадзена, але на кароткі час. Дадзена, але яго чакае крыж і смерць. Калі рассыплецца руіна, што трымае плюшч, хай яна і яго пахавае пад сабою, бо нашто самотны плюшч? Калі здарыцца евангельскае дзіва і яна

прыйдзе, як Магдаліна, рыдаць, што навек страціла яго, і раптам убачыць, што ён уваскрос і заззяў у славе,—

Што скажаш ты тады? Ці, можа, й ты
Тады пашлеш мяне з вясёлай весткай
Тваім сябрам таемным, клапатлівым,
Што тройчы адракліся ад цябе?
І пакуль я, не цямячы ад шчасця,
Па людзях шчасця панясу навіны,
Ты пойдзеш панаваць у новы край,
І рай ты на зямлі збудуеш новы
Дзеля сябе і тых, каго паклічаш.
Ці будзе ж месца там для Магдаліны?
Мне ўсё адно, абы ўчыніўся цуд!

Відавочныя, нечалавечыя рыданні раздзіраюць горла і кожны радок.

То што ж, няхай не зрушу я нічога,
Сарваўшыся ў бяздонне, ў забыццё,
Абы не зраніла так смерць мая нікога,
Як зраніла мяне маё жыццё.

У кожным успаміне б'ецца:

Я тут, я тут заўжды, я ўсё з табою.

У кожнай думцы дакор:

Не захацеў мяне ўзяць,
тут пакінуў мяне на старожы.

У кожным выгуку жаданне канца:

Знямела сэрца. Шчаслівейшай доля
Была тым лыцарам, з сядзельца збітым,—
Па праву даўняму, была ім воля
Гукнуць: «Забі мяне!..» — і быць забітым.

Тры гады спатрэбілася ёй, каб сяк-так ачуняць і аджыць да новага жыцця. Магчыма, цяжар гэтага навакольнага жыцця і ўваскрасіў яе. Занадта вялікая была б ад духоўнай яе смерці радасць усялякай погані, якая буйна і дробна помсціла ёй і ўсім яе годным сучаснікам за гордую незалежнасць, талент і вальналюбства. Помсціла цкаваннем, незаможнасцю і нават простай галечай, помсціла забаронай дзесяткаў лепшых вершаў, такіх, як «Дым», «Fiat nox!» («Хай будзе ноч!»), «Анёл помсты», і нават паэм.

Адзін за адным з'яўляюцца драматургічныя творы пісьменніцы: «Блакітная ружа», «У пушчы», «Апантаная», «Вавілонскі палон», «Касандра», «На руінах», «Тры хвіліны», «Асенняя казка», «У доме

работы...», «Руфін і Прысцыла», «Айша і Махамед», «На полі крыві», «Іагана, жонка Хусава», «Баярыня», «Адвакат Марціян», «Оргія і найлепшыя, на мой густ», «У катакомбах», «Каменны гаспадар», «Лясная песня» — магчыма, вяршыня ў жанры вершаванай драмы.

Нават па саміх назвах драм можна здагадацца, што дзея іхняя пераважна адбываецца ў далёкіх краях і ў далёкія вякі. Сучасная ёй — і не толькі сучасная — крытыка часта рабіла паэтэсе закіды і папрокі у «экзатычнасці». Я аніяк не згодзен з ёю. Тут не «экзатычнасць», а ўсё тая самая праблема адхілення творчай думкі, што, ва ўмовах нецярпімасці і самавольства, блукае па чужых краінах, па краінах гісторыі, па краінах казкі.

Апошнія гады Леся Украінка вымушана была жыць у Грузіі, што аніяк не ішло ёй на карысць. Вільготны, а тады яшчэ і дужа малярыйны клімат шкодзіў яе здароўю, і нават паездкі ў Егіпет не памагалі. Але муж быў прызначаны туды (паэтэса абвянчалася з Кліментам Квіткаю 25 ліпеня 1907 года), то даводзілася жыць там. Тужыць па зялёных гаях Палесся, па купах пышных дрэў, па смарагдавым кіліме балот і па вячэрнім дыме з комінаў. Гэтая туга па ўспамінах дзяцінства і прымусіла яе ў Кутаісі за 10—12 дзён напісаць дзівосную палескую «Лясную песню» («Лісову пісню»).

Улетку 1911 года перад яе вачыма ўставалі не ўзгоркі і малахітавыя ад вінаграднікаў лагчыны Грузіі, а ўвесь гэты чароўны палескі свет, споўнены самымі дзівоснымі праявамі фантазіі народнай.

Свет «Лясной песні» ўвесь створаны незвычайным палескім чалавекам. Свет утопленых няшчаснай маткай Пацярчат, свет Пералеснікаў, якія лётаюць з пажарам асенняй лістоты, запальваючы дрэвы, неўтаймоўны свет Тых, што рве грэблі, свет страснай вясновай вады і дранцвеючага снегу.

Свет кахання і вечнага пачуцця, абуджэння лесу і зязюлі, што адказвае жалейцы. І Маўка — прырода, Маўка — зямля, Маўка — песня, за здраду якой трэба плаціць.

Я не ведаю лепшага ў гэтым жанры. Бо гэта не п'еса, не драма, не феерыя нават, а вялікая паэма жыцця гэтай лясной і вадзяной зямлі.

Ідзе згасанне. Егіпет, дзе знаёмае арабскае дзіця, трапіўшы ў скрутны стан, крычыць пад яе акном: «Мама... я — труба! Ратуй!» Чорна-чырвоны, крывава-чырвоны, аранжава-ліловы хамсін з яго пылам і нясцерпнай спёкай. І непазбежныя ў такім стане думкі аб марнасці жыцця, якія выклікалі накіды няскончанага твора «На прадмесці Аляксандрыі...». Паміраючы, ужо ў Кутаісі, яна дыктуе маці нібы канспект гэтага твора ў ліпені 1913 года.

...Нельга не думаць, што яе скарбы таксама гінулі. Нельга не думаць, што яна не ведала пра тыя бездані, якія раскрывала людзям.

1 жніўня 1913 года ў Сурамі ўпаў апошні ўдар.

...Над свежай магілай дачкі яе маці піша Вользе Кабылянскай:

«Такі велічны агонь перастаў гарэць, такі высокі і тонкі інтэлект перастаў жыць, думаць, працаваць! Нібы ветрам здзьмухнула гэтую прыўкрасную, гэтак багата абдараваную істоту!.. Нашто так вядзецца на свеце?! І як могуць людзі верыць у нейкі мудры, вышні род думкі, нейкай усеараднай сілы, бачыўшы такія з'явы? Каму, нашто патрэбная была перадчасная смерць гэтага прыўкраснага чалавека — і яшчэ сярод такіх пакут?..»

Гэта былі не апошнія пакуты, хоць астатнія ўжо не абыходзілі яе. Астатнія зрабілі людзі. Толькі ці людзі?

Вагон з труною. Кіеў. Катафалк, запрэжаны парай коней, спыняецца на хвіліну ля дома № 97 на Марыіна-Благавешчанскай (цяпер Саксаганскага), а пасля вырушае ў бок Байкавых могілак.

Яшчэ некалькі год назад я любіў сядзець там, ля сціплага помніка маладой жанчыне, што ўсперлася локцем на стос кніг. Зялёны цень бег па каменным, але адухоўленым абліччы.

Але тады, у 1913 годзе, нават да гэтага помніка было як да неба.

...І тут не пакінулі ў спакоі. Паліцыя хацела здзерці з труны чырвоную кітайку. Ход іхняй прымітыўнай думкі аднавіць лягчэй, чым міргнуць: «Калі ў сэнсе рэвалюцыі — пагана, а калі як забітых казакоў накрывалі калісьці — таксама не лепей, калі не горш». Зняць кітайку не дазволіў святар. Хай будзе благаславёна яго безымянная памяць, хаця б толькі за гэты ўчынак:

— Працэсія ідзе, то ніхто хай не ўмешваецца да прыкрас на труне.

Забаранілі несці на руках труну і вянкі, забаранілі прамовы і спевы, нават «Вечную памяць». Хацелі скіраваць картэж па пустых вуліцах.

І ўсё ж, не тры разы, як звычайна, а да самага канца людзі спявалі і спявалі тую «Вечную памяць».

...Я думаю зараз, што гэта не хвароба шматавала і катавала беднае яе цела, а той цмок, тая прымара, той змей-полаз, «спрадвечна пераможаны, але не пахаваны», які віўся навокал ля зямлі і ўсіх земляў і сціскаў іх, «хочучы задушыць».

Усё яе жыццё было — барацьба супроць «Таго, што ў скале сядзіць», супроць усіх тых мёртвых і мярцвячых, хто хацеў бы пустэляю бачыць свет, супроць тых, хто не паважае чужога, а таму бацьку роднага і маці здатны выгнаць з торбаю ў белы свет, супроць тых, хто ўсё жыццё хацеў, нібы ў Маўкі з «Песні», здзерці з яе грудзей і пажэрці галінку чырвонай каліны, родную зямлю.

Яны і павялі яе

...ў далёкі край,
ў нязнаны край, дзе ціша цёмных водаў
спіць, як спакой вачэй змярцвелых, цьмяных,
маўкліва скалы там стаяць над імі,
нямымі сведкамі падзей, што ўмерлі.
Спакойна там: ні дрэва, ані зелле
не шалахціць, не навявае мараў,
здрадлівых тых, што не даюць паснуць,
ніякіх песняў не даносіць вецер
аб недасяжнай волі; не гарыць
зніч пажыральны; вострыя маланкі
ламаюцца аб скалы і не могуць
прабіцца ў крэпасць цемры і спакою.

Здавалася б, усё — камень. Але і адтуль далятае і далятае да нас голас пра попел, які

...вернецца, ў родную ляжа зямліцу,
разам з вадой там узросціць вярбіцу —
стане пачаткам тады мой канец.

Так сталася. Яна зламала гэты камень. Цаною свайго кароткага, няшчаснага і шчаслівага жыцця. Цаною скону і цаною існавання вечнага ў памяці народнай. Страшны, зайздросны лёс.

Маладая жанчына супроць усёй чыгуннай сілы з усім яе апаратам дзікага самавольства, тупасці і

жандарскага свінства. Выйшла і перамагла. Не магла не перамагчы. Бо што такое свінская сіла супроць сілы вялікага духу?!

> Камень прабіла яна, той камень,
> што ўсё перамог,
> Што задушыў і магутнасць дубоў,
> І няскоранасць цёрну.

...Такое і падумалася мне сам-насам з бясконцым морам і бясконцым небам на бязмежнай роўнядзі крымскай Яйлы.

## [ПРАДМОВА ДА КНІГІ «ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ»]

Я хачу правесці Вас па зямлі, якая для мяне — і, мабыць, не толькі для мяне — даражэй за ўсё, самы ўтульны і чароўны кут. І ў Вас, калі Вы наведаецеся сюды, у сэрцах могуць успыхнуць пяшчота і любоў да яе, і таму загадзя раблю Вам падарунак: сапрычашчэнне з яе вялікай памяццю. Добрай і суровай памяццю, якая нічога не забывае, Памяццю Беларусі.

Якая яна, мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў, светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звону, і пушчы, падобныя на гатычныя храмы, пушчы, дзе горда нясуць свае кароны алені. Гэта бясконцыя жылы рэк, у якіх плешчуцца бабры і рыба на захадзе сонца, і гэта амаль адзінаццаць тысяч азёр, чыстых, як усмешка дзіцяці.

Гэта ў мінулым гераічная і шматпакутная зямля. Безліч разоў, з пачатку дзён, грукаталі па ёй каляскіцы вайны. Але мы, дзеці Беларусі, ганарымся тым, што ў гэтых войнах яна ніколі, запамятайце гэта, ніколі не была агрэсарам. Іншая справа, што яна заўсёды мужна і да канца бараніла свой ачаг, сваю праўду і веру.

Памяць маёй зямлі аб гэтым і ў старадаўніх гарадзішчах, і ў курганах, пад якімі спяць яе абаронцы, у барвовых, быццам ад крыві, мурах замкаў, на палетках, дзе працавіты плуг часам выварвае каменную сякеру, меч або гільзы часоў апошняй вайны, у

жальніках, на якіх гарэў калісьці агонь перад курганамі мудрых продкаў, і ў вечных агнях перад помнікамі салдатам, якіх мы яшчэ памятаем жывымі.

І, перш за ўсё, памяць маёй зямлі — гэта людзі і іх вечная, неўміручая праца. Араць палі, біць студні, расціць сады, плесці з каменя і дрэва карункі дзівосных будынкаў, спяваць нібы на адным дыханні (так, што, здаецца, спяваюць самі нівы і лясы) песні, складаць вершы, у якіх пяшчота пацалунка і суровасць удару мяча.

Таксама якасць нашай памяці: ніколі не аддзяляць сябе ад культуры і самаахвярна ствараць яе, якія б перашкоды ні ўставалі на шляху. Стварыць непаўторны фальклор і — яшчэ больш як тысячу гадоў таму — бібліятэкі і першымі ў свеце надрукаваць кнігу ў перакладзе на родную, беларускую мову. І не перарываць ані на год той стыхіі, плыні той вялікай ракі, якая валадарыць чалавечым сумленнем і душамі і якой імя — літаратура. Шанаваць памяць яе дзеячаў, ствараць на месцах, дзе яны нарадзіліся і дзе паэзія нарадзілася ў іхніх душах, запаведнікі — хай то будзе палац або звычайная бедная сялянская хата. І там, і там калыска можа нарадзіць Песню і Неўміручасць.

Няма такой сілы, каб годна апець рукі тыя, што ствараюць памяць у рэчах: наша чароўнае шкло і кераміку, тканіны і кафлі, рэчы з металу і скуры, непаўторныя старадаўнія жывапіс і скульптуру.

І дойлідства. Вясёлку Каложы, пабудаваныя са святла Камянецкую вежу і Спас-Ефрасінню, суровыя камяні замкаў — і адметную, тыпова беларускую готыку (Мір, Навагрудак). І барока, пышнае, як лотас, і класіцызм. І непаўторнае драўлянае дойлідства, роўнага якому цяжка знайсці. Тое, калі звычайная мужыцкая сякера можа паспрачацца з разцом Фідзія.

Ёсць і горкая памяць у маёй зямлі. Дый як іначай, калі кожны чацвёрты жыхар Беларусі загінуў у апошнюю вайну. А колькі па зямлі брацкіх магіл. Першай прыняла яна ўдары ворага і гераічна змагалася з ім, пакуль знішчальны каток вайны не перакаціўся за мяжу. Канцлагеры, дзе кожную хвіліну для кагосьці навекі згасаў свет, і шыбеніцы, і расстрэлы. І — у лясах — амаль чатырыста тысяч чалавек пад

ружжом, якія да канца, часам цаною жыцця, адстойвалі ад ворага чысты водар Радзімы.

І жонка была гатовая аддаць мужа, а матка паслаць сына ў полымя. І пайсці за імі. На бой, на прарыў блакады.

Дзеля таго каб зберагчы ўсё тое, аб чым я ўжо казаў: волю, веру, спосаб мыслення, Бацькаўшчыну.

Каб спустошаная вайной краіна ажывілася працаю тых, хто выжыў і перамог, заззяла радасцю і святлом, заквітнела садамі і здзіўляла цудоўнымі будынкамі, зашумела нівамі, зазвінела адвечнай і неўміручай нашай песняй.

Яны, гэтыя мае сёстры і браты, біліся, каб зберагчы і пасля ўпрыгожыць маці нашу, зямлю.

Гэтыя азёры і нівы, сівыя пушчы і светлыя воды. Курганы продкаў, старадаўнія і новыя кнігі, песню сваю і слова, веды свае.

Усё, што за тысячагоддзі стварылі іх рукі, аж да камянёў сівых будынкаў.

Старадаўні прынцып, які прыйшоў аднекуль, але перафразаваны, навекі стаў нашым:

Людзям — душа,
Жыццё — свайму дому,
Сэрца — жанчыне,
Гонар — нікому.

Пранікніцеся любоўю да маёй роднай Беларусі, людзі. Велічная і гордая, яна таго вартая.

## ПОДЗВІГ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Подзвіг Францыска Скарыны дагэтуль не ацэнены. Не ацэнены таму, што мы пачасту глядзім на яго эпоху вачамі сённяшняга дня, забываючыся часам зірнуць на яе вачамі сучасніка Скарыны. Зірнуць на яе знутры, нібы сам жывеш у тыя часы, і многае, што для нас цяпер рэч натуральная, усмактанае ледзь не з малаком маці, само сабой зразумелае — для цябе яшчэ цёмны лес.

Ты сучаснік Скарыны. Прычым адукаваны сучаснік. Якім паўстае перад табою свет?

КОСМАС. Сусвет. Ён канечны і абмежаваны не-

парушнай зорнай сферай з усіх бакоў. За ёю ці рай, жыллё і месца знаходжання бога, ці ўвогуле хаос. А пасярэдзіне сферы — Зямля. Вакол яе Сонца і планеты. Планет сем, толькі тыя, што можна бачыць няўзброеным вокам, бо і тэлескопа яшчэ няма. Калі ў цябе зрок лепшы, чым у астатніх, і ты, скажам, бачыш, што Мілавіца мае квадры, як месяц,— памоўчвай, бо на зямлі смярдзіць паленым, і вогнішча на плошчы ледзь не самае інтэлектуальнае відовішча ўладарных і ўвогуле народных мас.

Толькі адзінкі, дый то абстрактна, спекуляцыйна ведаюць, што Зямля — шар (паводле Пталамея, бо кніга Каперніка з'явілася амаль праз тры дзесяцігоддзі пасля першай кнігі Скарынавай Бібліі). І яшчэ добрых пару стагоддзяў эйнштэйны і каралёвы тых часоў будуць прасіць прабачэння ў тых, што маюць уладу, за тое, што яны адэпты вучэння Каперніка. Будуць гаварыць прыблізна ў тым родзе, што вучэнне Каперніка не новае, што яно старое, яшчэ да Пталамея, што так думалі яшчэ некаторыя піфагарэйцы (і гэта ў сім-тым праўда):

— Не біце мяне за гэта. Я не наватар. Гэта вы... ой, прабачце! Я, наадварот, закарузлы кансерватар.

Гэта для адзінак. Для большасці Зямля — плоскасць, якую абмывае сусветны акіян. У акіяне жывуць кітарыбы і марскія манахі. Па сушы швэндаюцца, акрамя людзей і звяроў, кіраўрысы (кентаўры). Ёсць на гэтай плоскасці Еўропа, Азія, маленечкая Афрыка. За Атлантыкай ляжыць Індыя, і толькі адзінкі здагадваюцца, што гэта — Новы свет. Іншых земляў няма, бо іх ніхто не бачыў. І няма нікога, хто спытаўся б у такога рацыяналіста (божа, колькі іх і зараз!):

— Дзядзька, а вы Вільню бачылі?

— Не.

— А яна ж ёсць...

ЧАЛАВЕК. Ён — вобраз і падабенства боскае (і нікому не страшна за бога, калі ён выпадкова, не на ноч кажучы, успомніць зямных уладароў). І не кожны носіць гэты «вобраз божы». Пераважна еўрапейцы і хрысціяне (адпаведна — магаметане, будысты, юдаісты). Астатнія, не кажучы ўжо пра людзей з сабачымі галовамі і іншым такім, астатнія — расы бездухоўныя, бо не адзначаныя святлом ісціны боскай.

Але і «адзначаныя» не маюць права на роўнасць. Вышэй за ўсіх асвечаны манарх і асвечаная знаць. Праўда, мае ўжо назву галоўнае ў чалавеку — гуманізм, падмурак, на якім вырасце Чалавек Новы. Першыя праблiскі ўтапічнага сацыялізму, вера ў прагрэс звязана з дзейнасцю асвечанага манарха і асвечаных вярхоў. А паколькі іхняя ўлада ад бога, то выступленне супраць яе — злачынства, якое прыводзіць толькі да дзікага самавольства і анархіі. Над ліхім манархам адзіны суддзя — бог. Добры — можа прывесці да росквіту навук, адмены прыватнай уласнасці і раўнапраўя (нешта не бачым мы прыкладаў гэтаму ў гісторыі).

Так думаюць нават самыя перадавыя. Да Шэкспіра, які — хай аднабакова — сказаў аб грамадскай ролі народа, чалавецтву яшчэ араць амаль восемдзесят гадоў.

НАВУКА. Ну хаця б на прыкладзе хіміі (якой яшчэ няма, а ёсць алхімія). Усё досыць проста і зразумела (як паўсюль, дзе амаль нічога не зразумела). Паўсюль строгі парадак (як усюды, дзе няма парадку), усталяваны богам. Існуе сем металаў (па колькасці сямі планет, а значыць, болей і не трэба). Бацька ўсіх гэтых металаў — сера, маці — ртуць.

...Але досыць, інакш мы ніколі не скончым. Іхняя эпоха зусім не прычына, каб смяяцца. Хутчэй, прычына для спачування. Як кожная эпоха ў вачах нашчадкаў.

Проста вось такі ён быў, тагачасны чалавек. Сам Скарына таксама не быў выключэннем. Ён, напрыклад, упэўнены, што Біблія — пачатак і канец зямной мудрасці (а можа, толькі намагаецца пераканаць іншых, што ўпэўнены ў гэтым). Але, называючы яго сярэдневяковым чалавекам, мы выпускаем з-пад увагі тую рысу, якая робіць яго чалавекам Адраджэння, чалавекам новага часу, нашым братам: прагу да святла, нязгаснае імкненне да доблесці і ведаў. І галоўнае: няўменне і нежаданне аддзяліць сябе ад «брацii сваей», грамадства, у якім кожны Чалавек павінен быць такой самай Асобай, як ён, інакш не варта і гарод гарадзіць. І таму,— і гэта галоўнае,— ён імкнецца не толькі сам ісці да зор, але як Чалавек Новага, і «брацію свою» цягнуць да іх.

«Ты любіш яе. І паколькі Новы Чалавек — гэта

Чалавек Дзеяння, ператвараеш слова сваё ва ўчынак».

Першы крок твой і твайго грамадства да святла — Кніга (хай сабе нават і Біблія), пісьменнасць (хай сабе заснаваная на ёй), асвета (хай сабе рэлігійная, паколькі вышэй сваёй эпохі не дужа скокнеш, як і вышэй сваёй галавы).

Кніга. Пісьменнасць. Асвета. Астатняе прыйдзе з часам.

І каб гэтая кніга была параўнаўча танная, была для ўсіх. Значыць — друкарскі станок, а праз яго Кніга для ўсіх. Пісьменнасць для ўсіх, Асвета для ўсіх. Бо не можа называцца асвечаным грамадства, дзе асвечаныя адзінкі закрываюць сваімі спінамі святло ад іншых.

Асвечанасць — гэта калі кожнаму ў руку — паходню!

І Францыск Скарына робіць гэта, надрукаваўшы ў 1517—1519 гадах дваццаць тры кнігі Бібліі, у 1522 годзе — «Малую падарожную кніжыцу», у 1525 годзе — «Апостала».

І не на чужой мове, а на простай сваёй, беларускай, якую аднолькава разумеюць мужык і магнат, воін і гандляр. Усе.

І да кожнай кнігі — прадмовы і пасляслоўі, першыя ўзоры грамадскай, асветніцкай, эстэтычнай думкі. Таксама для ўсіх. Пачаткі любамудрыя (філасофіі) для ўсіх, адукацыі для ўсіх, вальнадумства для ўсіх. Пачатак мудрасці новых часоў, спасціжэння таямніц сусвету, магчымасці праверыць усё рукамі, розумам, душой.

Не прасіць сабе «дзён многіх... ні багацця, ні жэ душ ворагаў», але жадаць «сабе мудрасці». Быць адукаваным і вольным сабратам адукаванага і вольнага грамадства, якое не задушыць аніякая фізічная і духоўная тыранія.

Быць праўдзівым, добрым, чыстым, чалавекалюбівым. І вакол сябе — на шляхі да Розуму — бачыць такіх самых братоў, а не кодла свядома-цёмнага і вераломнага быдла.

Праз дух разумнасці — да духу любові. Праз мудрасць і добрыя звычаі — да грамадства, дзе ўсім добра і, галоўнае, справядліва жыць.

Тое, на чым і зараз стаяць лепшыя людзі і чалавецтва і з чаго іх аніяк і анікому не збіць.

Нават знішчыўшы фізічна.

Францыск Скарына быў з тых, першых, хто, кажучы сучаснымі словамі, стварыў стартавую пляцоўку для рыўка Чалавецтва ў ягоную неабсяжную будучыню. Гэты беларус быў з тых, самых першых, што стварылі лепшых з нас такімі, якія мы ёсць.

Ва ўзбраенні ведаў, усемагутнасці мозгу, адкрытай шчырасці добрага сэрца. З навукай у адной руцэ і мастацтвам — у другой.

З катаржнай працы такіх, як ён (а для ўсходніх славян — з яго), пачынаецца ўзлёт гуманізму, ідэі раўнапраўя (хай сабе спачатку ўтапічнай), рэнесанс мастацтва, літаратуры, навукі.

...Хай сабе мы яшчэ дужа і дужа мала ведаем.

Можа, праз пяцьсот гадоў нехта і пасмяецца з нашых ведаў, з узроўню нашай думкі.

Дзякуй богу, што пасмяецца.

Без веры ў тое, што далёкія нашчадкі нашы будуць як багі — навошта жыць?

Але ніхто не пасмяецца з нашай працы, з узроўню нашага мастацтва. Вось у чым яго неўміручая сіла! І ніхто не пасмяецца з нашых намаганняў у нашай цяжкай, крывавай, часта трагічнай сечы за будучыню чалавека. З нашай бітвы, у якую аднымі з першых уступілі яны... мы... дзеці нашы. Бітва, дзе адным з пачынальнікаў быў Францыск Скарына.

З яго веку і з нашага веку.

Ніхто не пасмяецца з таго, што яны і мы — у меру сіл сваіх — рассунулі Сусвет, спазналі частку ісціны. Ніхто не пасмяецца са Скарыны і яго нашчадкаў, з іхняй думкі, што дала Польшчы — Міцкевіча, Русі — Сімяона Полацкага і Дастаеўскага, сабе — Багдановіча, Купалу, Коласа і іншых, «імёны ж іх ты, госпадзі, вясі».

І на пачатку гэтага бясконцага шляху — такая малая і такая бязмежна вялікая «Кніга» Францыска Скарыны, чутны і нам праз стагоддзі гук ягонага друкарскага станка... Ціха!.. Ён грукоча!..

І таму Францыск Скарына ў поглядзе тых, самых-самых першых, што зрабілі лепшых дзяцей чалавецтва такімі, якія яны ёсць сёння і якімі яны будуць давеку, пакуль ёсць пад небам Сусвету Чалавек.

І таму мы павінны ганарыцца тым, што ён — беларус. Хаця мудрасць не ведае розніцы нацый, моў, веры.

Таму што, нягледзячы на намаганні навалачы розных нацый, мудрасць ведае адну веру — веру ў вялікае прадвызначэнне Чалавека, якога Прырода стварыла для поўнага і канчатковага спазнання самой сябе.

У гэтым, мабыць, адзіны сэнс чалавечага жыцця.

І Францыск Скарына зрабіў адзін з першых крокаў на нашым шляху да гэтага.

## СЦЮДЗЁНАЯ ВЯСНА, АБО 1000 ГОД І 7 ДЗЁН

«Ныня солнце красуяся к высот вьсходить и радуяся землю огр ваеть... Ныня... зима пр стала есть и лед ... растаяся... Днесь весна красуеться, оживляющи земное естьство; бурнiи п три, тихо пов вающе, плоды гобьзують и земля с мена питающе зелёную траву ражаеть... Ныня новорожаемiи агньци и унци быстро путь перуще, скачють, п скоро к матеремь вьзвращающеся веселяться. Ныне древа л торасли испущають і цв ти благоуханія процвітають, і се уже огради сладькую подавають воню... Ныня реки... наводняються... Ныня... трудолюбівая бчела... на цв ты излетающи, медвеныя сты створяеть... Ныня вся доброгласныя птица... гн здящеся веселяться... и свою каяжьдо поющи п снь, славіть Бога гласы немолчьными».

*Кірыла Тураўскі.* «Слова на новую нядзелю па Вялікадні». XII ст.

«Ныня сонца, красуючыся, да вышыні ўзыходзіць і, радуючыся, зямлю саграмвае... Сягоння... зіма перастала быці і лёд... растаў... У гэты дзень вясна красуецца, ажыўляючы жывую зямную існасць; буйныя ветры (сёння), ціха павяваючы, плады цалуюць, і зямля, жывячы насенне, зялёную траву нараджае... У гэты час новапароджаныя агнцы і агнянкі (баран-

чыкі і авечкі), хутка ў пуцінку беручыся, скачуць, і скора, да матак вяртаючыся, весяляцца... Цяпер дрэвы парасткі выпускаюць і кветкі духмянасці працвітаюць, і вось ужо сады салодкі падаваюць водар... У гэтую пару рэкі... навадняюцца... У гэты час... працавітая пчала... на кветкі злятаючы, мядзвяныя соты стварае... Ныня ўся добрагалосная птушка... гняздуючыся весяліцца... і сваю кожная спяваючы песню, славіць Бога галасамі несціханымі (нямоўчнымі)».

Гэта голас з васьмі стагоддзяў. Недзе ў далёкім, цьмяным дванаццатым стагоддзі прагучаў ён для нас. З вуснаў сына багатых тураўскіх мяшчан, сына горада, які ні па велічы, ні па дзяржаўнасці, ні па асвечанасці не саступаў Полацку, Ноўгараду Вялікаму, Кіеву... Багаты гандаль (знойдзена мноства манет), драўляныя і каменныя храмы (знойдзены рэшткі фундаментаў), асвечаны двор грэчаскай царэўны (яна была замужам за тураўскім князем)... Першабытная прырода, воды і лясы, роздум пад неабсяжным небам. Юнак, які ідзе ў манахі, жыццялюб (успомніце яговыя радкі), які ідзе ў аскеты аж да таго, што замуроўваецца ў вежы. Паэт, які абіраецца ў біскупы і ўсю сілу свайго красамоўства аддае «казанням» (павучэнням) і «словам».

І стаў гэты паэт «Златавустам, які больш за ўсіх заззяў нам», і пачаў ён вялікае наша Пісьменства, і ўславіў родны свой горад, які да дня яго нараджэння быў ужо сто пяцьдзесят год, як упершыню адзначаны ў летапісе (980 г.), а значыць, існаваў ужо і задоўга да таго.

...Мы адзначым ягонае тысячагоддзе толькі ў гэтым годзе. Будзем сціплыя. Не будзем весці гарадской радаслоўнай з першай чалавечай стаянкі на гэтым месцы. Не будзем казаць, што горад Гейдэльберг вядзецца аж з шэльскага часу (800—300 тыс. гадоў назад) толькі таму, што ля яго была знойдзена сківіца гейдэльбергскага чалавека. Хопіць з Гейдэльберга і аднаго са старэйшых у Еўропе універсітэтаў і славы Г. Гегеля і Р. Бунзена, і славы аднаго з ачагоў гуманізму.

Як Тураву хопіць пакуль што тысячы год і славы Кірылы Тураўскага.

...Горад стаяў тысячу год, Кірыла жыў у ім нешта

каля пяцідзесяці двух год, мы правялі ў ім на гэты раз толькі сем дзён вясны. Мабыць, адной са сцюдзёных, стылых і непрытульных вёснаў, якія даводзілася перажываць гораду.

Сонца зусім не радавалася, скупа аграваючы зямлю, «кветкі духмянасці» пад Мінскам яшчэ і не пачыналі цвісці, і «працавітая пчала» не стварала «медвеныя сты». Пчолаў яшчэ зусім не было, і нявесела славілі неба напаўгалодныя птушкі.

З цяжкасцю, з боем прабівала сабе дарогу вясна, і ўспаміналася, што год высакосны, што ён — «год актыўнага сонца» (якога д'ябла, калі такога пасіўнага яшчэ й бачыць не даводзілася!). І калі мы хадзілі пад Радашковічамі, то суцэльны белы дыван пралесак, якія пакутна мерзлі, здаваўся шэранем.

І калі мы, нагружаныя, як ішакі і вярблюды, сядалі ў аўтобус на Жыткавічы, каб ехаць насустрач тысячнай тураўскай вясне (добры повад для падарожжа і далейшай размовы!), то вясна тая ў Мінску амаль не адчувалася, дый па меры руху на поўдзень праяўлялася так павольна, з такой рахманай ніцасцю, што рабілася крыўдна за яе.

Чырвоны аўтобус (і адразу лезе ў галаву даўні польскі шлягер пра «аў-то-бус чэр-рво-ны»), мажная кантралёрша, якая ўшчувае нас за тое, што курым, кажа нешта пра некурашчага зяця («добры быў бы зяць, курыць»), і невядома, ці яна скардзіцца на зяця, які ўжо ёсць, ці падахвочвае нас на тое, каб мы кінулі курыць ды набіваліся да яе ў зяці (на жаль, пазнавата). За гонар курцоў уступаецца вадзіцель (нешта накшталт таго, што не той зяць добры, які не курыць, а той, што цешчу з хаты не выкурвае — і нам так здаецца,— ат сабе, звычайны дарожны беларускі перабрэх!). Вадзіцель малады, але ўжо дужа самавіты, а абліччам і «корпусам» — выліты акцёр Рома Філіпаў, такі самы сімпатычны, такі самы здаравенны (як два бегемоты) і з такім самым адстаўленым ніжнім грыбам.

...Дарога. Зімнія яшчэ елкі і хвоі, нясмелы зялёны пух на бярозах.

Аўтобус няўхільна набліжаецца да мэты, і чым бліжэй да яе, тым часцей сядаюць і злазяць, тым галаснейшыя галасы, тым больш рызыкоўныя і з веданнем справы жарты (бо ведаюць адзін аднаго і вадзі-

целя). І ў мяккі аўтобус (хацеў бы я пабачыць такое недзе ў Падмаскоўі ці ў наваколлях Парыжа! — І як шкада, што не пабачыш!) на правах поўных гаспадароў увальваюцца крыклівыя цёткі з мяхамі крапівы (з іх тырчаць сярпы) і з крыху ўжо грыбаватым, але вясёлым дзядком. Вязуць «з-пад ракі Арэсы» крапіву і дзядка ў Абоз. У міжгародным аўтобусе. І шкада, што не ў міжнародным, прынамсі, пасажыры вывучалі б сапраўднае зубастае жыццё, а не дурныя часопісы, не творы Флемінга і... ладна, змоўкнем.

— Дык што, цёткі, у вас у Абозе сваёй крапівы няма?

— Няма.

— Не такая.

— Суседзям дапаможам, а сваю прытрымаць трэба.

Вылазячы ў Абозе, ледзь не забылі серп. Вываліўся. Словам, сумесь самага дрымуча-традыцыйнага ледзь не з навуковай фантастыкай. Як у той тыпова нашай і цалкам праўдзівай (ручаюся!) гісторыі, якую я зараз вам раскажу.

Едуць у такім вось аўтобусе ў горад бабка з малым дзіцем. Дзіця захутанае неймаверна, як капусны качан. Такі сабе бясформенны стажок — невядома, дзе рукі, дзе што. Пасажыры ад няма чаго рабіць лезуць, прыстаюць, «як клічуць?» ды «колькі табе год?». У адказ з-пад хустак толькі невыразнае «бу-бу-бу».

Здзіўленне мацнее. «Ды што такое ўрэшце з дзіцем?» «Куды гэта вы яго?» «Чаму яно нейкае... гэтакае?»

Урэшце бабка тлумачыць. Выяўляецца, гулялі ў касманаўтаў. А касманаўт без шлема — рэч немагчымая. Таму маломy надзелі на галаву чыгун. А калі спахапіліся, то выявілася, што зняць яго хатнімі сродкамі немагчыма. І вось бабуля вязе гэтага, магчыма, будучага Клімука, па дапамогу. А захуталі, бо дзіця, у якога замест галавы чыгун, выглядала б па меншай меры дзіўна.

Не ведаю, але, па-мойму, мы яшчэ шчаслівыя, што жывём у складаны, шматфарбны, супярэчлівы час, што лётаюць над гэтай нашай зямлёй спрадвечныя лебедзі і наваз'яўленыя касманаўты. Шкада толькі, што — калі не возьмемся за розум — першых будзе

ўсё менш, а другіх усё больш. А трэба, каб было болей і другіх і першых.

І гэта адна з тэм, пра якія,— як мне здаецца,— трэба яшчэ многа гаварыць і гаварыць. Мала таго, працаваць над гэтым і працаваць, змагацца за гэта і змагацца.

Зберагаць годнае і вялікае старое. Ствараць годнае і вялікае новае. Толькі годнае. Толькі вялікае. Бо ахвотнікі псаваць выпрабаванне часам знойдуцца і без нас. А нашы рукі павінны быць чыстымі і ад таго і ад другога.

...Прыпяць. Задоўга-задоўга да яе пачынаецца пойма, старыкі, мокрыя паплавы з золатам лотаці, вербы. Пасля і сама яна, імклівая сястра наша, адкрываецца вачам, з прыбярэжнымі пяскамі, з паромам, які перавозіць нас цераз імпэтныя воды. Паромам, на якім нам яшчэ давядзецца правесці шмат гадзін, бо гэта адна з артэрый Палесся, месца, на якім засяроджваецца частка ягонага жыцця, плынь гэтага жыцця, бег ягоны.

...І ўрэшце Тураў. Узнесеная над вадою пратокі трапецыя гарадзішча (пасля — замчышча), прыстань, не дужа шматлікія мураванкі і россып хат у нясмелай квецені садоў запозненай, сцюдзёнай вясны.

Гэтая дарога з цяжкімі рэчамі. Двухпавярховая школа. За ёй розныя там турнікі і снарады дзеля караскання (па-мойму, асобныя дзеці часцей ламаюць галовы там, чым над кнігамі), а перад ёю клумба, якая ўдае лічбу «1000». Позняя вясна, нічога яшчэ не ўзрасло на клумбе...

А праз вуліцу ад школы драўляны дом на дзве палovы, у адной з якіх жыве «запаветная» сям'я: арнітолаг Прыпяцкага запаведніка Вадзім Пятровіч Клакоцкі, ды жонка ягоная, батанік Тамара Мікалаеўна, ды іхняя дачка Аленка (старэйшыя сыны не ў Тураве, і я не маю гонару вам іх адрэкамендаваць), якая вучыцца, а значыць, пакуль не мае адносін да запаведніка, хіба што ў вольны час больш-менш паспяхова б'е ў ім лынды.

У гэтым доме мы й мелі гонар пасяліцца, кіравацца адсюль па тураўскіх шляхах, літрамі паглынаць нанач каву і балбатаць языкамі да пасінення.

У многіх і многіх такіх дамах мне за жыццё давoдзілася быць. Ад Уладзівастока да Брэста. І дай мне

лёс пабываць яшчэ ў многіх і многіх, бо я люблю гэтыя хаты і гэты народ.

I ва ўсіх (амаль) такіх хатах (ва ўсякім разе ў тых, у якіх мне было дабрэй за ўсё) я бачыў, нягледзячы на сталасць побыту, на ўпарадкаванасць жыцця,— бачыў я ўсё ж налёт нейкай цыганшчыны: гнёзды на падвоканні, стрэльбу ў куце, кнігі ў самай фантастычнай малакучы, рогі, гаспадары якіх пазбавіліся ад іх за непатрэбнасцю або даўно ўжо адхадзілі па лесе сваё.

А ў двары яблыні, якія — урэшце — расцвілі нават тут, недабудаваная пуня і яшчэ пуня, старая, у якой трусы і куры, ды квактуха з пісклянятамі пад сеткай, ды ў асобнай агароджы дзве будкі, у якіх жывуць ганчак Рыжы (мы нядоўга мелі гонар вадзіць з ім знаёмства, бо ён, адаспаўшыся пасля гайні, уцёк з новай гайнёю, шчадралюбае сэрца), ды пёс няпэўнай пароды па мянушцы Цёпа (гэты не ўцёк толькі дзякуючы прыроджанай ляноце ды таму, што караткаватыя ногі пры доўгім кадлубе не дазволілі пераскочыць плот).

А на дваровым ганку трохкаляровая Чыта з двума кацянятамі, пакуль без назвіска, пярэстым і рыжым, ды кот Кузя, такі ненатуральна доўгі і чорны, што яму прыпаялі за гэта мянушку «Шланг».

А ў двары матацыкл, такі пабіты і пашарпаны па лясных дарожках, што жах глядзець, але, як сказаў бы Эрых-Марыя Ремарк, «з высакародным сэрцам гоначнай машыны». I мянушка яму, як машыне ў «Трох таварышах», Карл.

Вось, здаецца, і ўсе асобы, вартыя ўпамінавення. Далей аб кожным па ходзе справы.

...I вось вечар. I сядае, пакідаючы на вадзе залатую сцежку, сонца. Можна ісці насустрач яму з гарадзішча па вадзе Струмені, Прыпяцкай пратокі (а мноства стагоддзяў назад, відаць, не пратока, а сама Прыпяць плыла пад валамі гарадзішча), пасля паплавамі, пасля плынямі нядальняй Прыпяці і зноў паплавамі і дзюнамі. Гэтыя дрымотныя валы, тысячакротна ўтаптаныя і ўбітыя нагамі ворага, гэтая ледзь не самая плодная на Беларусі, дзірвановая, перагнойна-карбанатная глеба, тысячы разоў узараная ралам аратая.

Тураўская зямля. Не будзем спрачацца аб права-

мернасці гэтай назвы ў далёкім мінулым і сёння. Быў Тураў магутнай сталіцай, быў гарадком Мазырскага павета, быў раёнам, стаў пасёлкам Жыткавіцкага раёна. Але не трэба вучоным ламаць дзіды. Хай спытаюць у насельнікаў. Была гэта і ёсць, нягледзячы на ўсе зменлівасці лёсу, тураўская зямля. Так, Палессе, але, на думку жыхароў, «палешукі» — гэта недзе там, а тут былі і ёсць «туроўцы». І характар «туроўца» прадпрымальны, самасцвярджальны, занадта ўпэўнены ў сабе, часам не вельмі прыемны для суседа, як то часта бывае ў чалавека сталіцы, нават краіны, мясцовасці, былая слава якіх («часова», па цвёрдай іхняй думцы) у заняпадзе. Славяне, беларусы, палешукі — яны ўсё ж самі па сабе. Раней, як дрыгавічы, у адасобленасці ад крывічоў і палян, пазней, як жыхары палітычнага цэнтра княства і аднаго з двух яго эканамічных цэнтраў. Многія і многія з іх не здолелі б растлумачыць гэта гістарычна. Проста яны «туроўцы» — і ўсё.

Гэтыя закляклыя валы — гэта дынастычныя і міжусобныя войны і войны народаў. Гэтыя валы — нібы насыпаны на костках, славянскіх і неславянскіх. За выключэннем нейкіх шасцідзесяці год жыцця ў яднанні з Кіевам, Тураўская зямля ў даўнія тыя часы была палітычна і тэрытарыяльна самастойнай аж да часоў Гедыміна. У лепшыя яе гадзіны хадзілі пад началам Турава Клецк і Слуцк, Мазыр і Пінск, Чартарыйск і Рагачоў.

Нашэсце Батыя прайшло поўднем, мабыць, не зачапіўшы Турава. Хаця, магчыма, тураўскія гарады трапілі ў спіс «тых; іншых», якія спалілі манголы. Калі гэта так, то паданне аб Тур-калодзежы, які татары закідалі немаўлятамі і з якога пасля сем год замест вады біла жаночае малако, атрымоўвае хоць нейкае рэальнае абгрунтаванне, хоць нейкую цвёрдую глебу пад ногі.

У іншым выпадку яно так і застаецца застрашлівай і пагрознай легендай, апакаліпсісам беларускай памяці, што хавае ў сабе шмат падобных рэчаў.

А магчыма, легенды кажуць аб іншых татарскіх набегах, нашэсцях крымчакоў у 1502 і 1521 гадах. Бо хто толькі ні спустошваў гэтую зямлю: Літва, крымчакі, Аўчына-Целяпнёў-Абаленскі, гетман Януш Радзівіл.

Рвы, валы, палац, дамы знаці, шматлікія цэрквы — нічога з гэтага не засталося. Па беднасці летапісаў і хронік асаблівую важнасць, асаблівае значэнне набывае археалогія. Гісторыя Турава, і Тураўскай зямлі, і суседніх земляў спіць пад зямлёй. Дый там ёй пачасту спакою не даюць.

Нівеліруюць, праводзяць земляныя работы, засыпаюць скінутай з пляцоўкі акольнага горада зямлёй равы (1903—1906), пракладаюць праз гарадзішча дарогу на вёску Запясочча, будуюць на дзяцінцы земскую бальніцу з гаспадарчымі пабудовамі (пачатак XX стагоддзя). Пасля вайны буртуюць бульбу на тэрыторыі дзяцінца.

І археолагі, якія часам праводзяць на гарадзішчы раскопы, знаходзячы то муры, то пілястры нейкага будынка, то шыферны княскі (ці біскупскі) саркафаг, ці рэшткі шасцістоўпнага трохапсіднага храма, не могуць паспець за так званай гаспадарчай дзейнасцю чалавека (мала для яе месца па суседству!) або проста за адміністрацыйным свербам неразумных людзей, якія пагарджаюць нашымі законамі, бо нікога яшчэ не каралі за непавагу да роднай гісторыі.

І археалогія, толькі раскрыўшы рот, вымушана часам навекі замаўчаць «дбаннем» гэтых людзей. А за яе, у большасці выпадкаў, не скажа ніхто.

А ёсць жа, мабыць, артыкул закона, які прадугледжвае нейкае пакаранне таму, хто прыбраў адзінага сведку нейкай важлівай справы? І тэрмін, пэўна, нейкі даюць? Пішучы гэта, пазваніў, нягледзячы на тое, што ўжо амаль поўнач, добраму прыяцелю, палкоўніку міліцыі. Той, на жаль, у камандзіроўцы. Але я ўпэўнены, што ёсць такі артыкул. То дазвольце, задаць рытарычнае пытанне: выдаленне сведкі крымінальнай справы і выдаленне сведкі — сучасніка нейкай гістарычнай падзеі — ці не аднаго парадку гэта з'явы? Ці не трэба паставіць паміж гэтымі ўчынкамі знак роўнасці? Хай сабе маральны, пакуль не навучацца, перш чым дзейнічаць, спытацца ў разумнага і ўвогуле браць сабе ў сябры і дарадчыкі разумных людзей...

Мы прывыклі ў гэтыя дні сачыць за захадам, за тым, як сонца спускаецца ў бязмежныя воды. Ці з гарадзішча, ці з чаўноў, што стаяць на прыколе пад ім. Сачыць і думаць, бо не так ужо і многа часу адвед-

зена чалавеку на тое, каб думаць, на гэтыя вячэрнія бяседы з сонцам. І, на жаль, менш ужо часу засталося бяседаваць і думаць, чым адбяседаваў і аддумаў.

А дні — што ж? Дні, калі гэта не вандраванні і не праца,— гэта проста мітусня, і беганіна, і марнасць марнасцяў.

Стаіць проста ў яблыні з фіялетавай квеценню буслянка з буслам — і гэта ўцеха воку і ўспамін на ўсё жыццё. І стаіць ля прычала цеплаход з кіношнікамі, якія круцяць тут фільм, равуць у вольныя гадзіны магнітафонамі, радасна гарлаюць пры сустрэчы — і гэта мітусня.

Мабыць, паўтараюся, але як у Калдуэла было ў апавяданні поўным-поўна шведаў, так у Тураве ў гэтыя дні было поўным-поўна кіношнікаў. А паколькі я сам у пэўнай ступені належу да гэтай пароды людзей, то мне часам бывала не па сабе.

Пабудавалі яны ў затоцы хаты, «па пояс у вадзе» (вясенняй повені ім было мала!), пабудавалі царкву на гарадзішчы (мала ім было сапраўдных драўляных палескіх цэркваў над водамі), укапалі вакол яе ў зямлю векавыя таполі. Сапсавалі ўсім гэтым пейзаж, і ім добра.

Былі, вядома, і тут добрыя сустрэчы. З Барысам, з якім мы калісь «загаралі» на начным ледзяным Карадагу. З актрысай Макаравай, з якой па-братэрску расцалаваліся. Маленькае сведоцтва пра яе. Гэта чалавек, які можа, раннім ранкам ідучы на Камароўку і ўбачыўшы, што клумба на плошчы зарасла, паставіць кошык і, карыстаючыся, што людзей яшчэ няма, пачаць тую клумбу праполваць. Бо нельга запускаць хаця й маленькі лапік зямлі.

Вы самі разумееце, што пасля такога мне глыбока абыякавыя ўсе яе ступені і званні. Хаця, вядома, хай будуць і яны. Толькі — на мой розум — не за майстэрства і іншае такое, а за гэтую незнішчальную ласку да гэтай зямлі, з якой усе мы выйшлі і куды ўсе пойдзем.

Так вось мала ведаеш чалавека, нават жывучы побач, і раптам павернецца ён да цябе нейкім зусім іншым, адметным бокам.

Дзе кіно, там і анекдот. Патрэбныя былі майстрам экрана старыя палескія хаўтуры. Гэткія з доўбленай калодай замест труны. Свайго туды не пакладзеш,

адразу відаць, што ён палову жыцця прахадзіў у джынсах. Значыць, трэба было забяспечыць мясцовага «нябожчыка» («параненыя і забітыя павінны прыйсці заўтра ў адзінаццаць!»). Прасцей простага было б забяспечыць труп на самай справе, але ў такіх выпадках міліцыя — і намеркаваны нябожчык, вядома, перш за ўсё,— начыста пазбаўляюцца пачуцця гумару. Значыць — грошы.

Звычайна здымачны дзень з безліччу дубляў — гэта тры рублі. Ляжыш сабе ў калодзе са свечкай у руках і слухаеш меладычныя спевы свяшчэнніка.

Толькі адно не ўлічылі, што ёсць у Тураве Кондараўка, што ўсе ведаюць адзін аднаго, а калі не ведаюць прозвішча, то ведаюць мянушкі кожнага (скажам, «брахачка», «чомбе»), што згадзіся вось так паляжаць са свечкай, то засмяюць, да самай магілы будзеш агульным смяхоццем.

З дваццаці пяці рублёў — аніхто не хацеў — плата за полег дайшла да сямідзесяці пяці. І паехалі мы, так і не даведаўшыся, ці знайшлі ахвочага.

Зайшлі мы ў той дзень і да дырэктара Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка — Ільі Аляксандравіча Салановіча. Пагаварылі аб планах, транспарце, суправаджальніках, аб становішчы ў запаведніку. Чалавек, як на кароткае знаёмства, дык, па-мойму, сімпатычны, досыць разумны і абазнаны ў тых мэтах, якім павінен служыць гэты кавалак прыпяцкай, «туроўскай» зямлі. Шанцавала б яму толькі ў вырашэнні складаных праблем, якія стаяць перад запаведнікам, усіх гэтых супярэчлівых, почасту навальнічных плыняў, якія будуць — ой будуць! — яшчэ кідаць гэты немалы карабель.

А карабель гэты — амаль 62 тысячы гектараў. У Жыткавіцкім, Лельчыцкім, Петрыкаўскім раёнах. І з поўначы яго абмяжоўвае Прыпяць, а з поўдня мяжуюць з ім Палескі, Мілашэвіцкі, Лельчыцкі лясгасы.

Немінучыя тут самыя сур'ёзныя пытанні, праблемы, барацьба супярэчлівых інтарэсаў, канфлікты.

Я пад час першай бяседы знарок удаў з сябе гэткую святую цноту, гэткі бязмежны, да дурасці, наіў. А што, маўляў, будзе, калі я захачу зайсці ў запаведнік, сесці там на пні і ў натхнёнай самоце пісаць там вершы? І ці не выставяць мяне за гэта адтуль пад

канвоем? І зразумеў, што ён цудоўна разумее мае прыдурванні, толькі не хоча даць мне зразумець гэтага. Так што пад час другой бяседы я ўзняў рукі ўгару. Далёка тут яшчэ да статуса дзяржаўнага парку, калі штраф нават за ўзнятую шышку такі, што дзесятаму забароніш рабіць гэта. Не хапае сілы, не хапае людзей. І што ўжо там той ландыш, які я сарваў бы і нюхаў, крэмзаючы нейкі да нудоты сентыментальны верш? Што ў ландышы, калі далёка не кожны выпадак браканьерства мае ў фінале спайманне і заслужаную кару?!

А між тым — і Салановіч, па-мойму, недзе ў душы адчувае гэта — будучыня гэтых мясцін і самога гарадка, прынамсі, на бліжэйшы час і ў ідэале, менавіта ў запаведнасці гэтай зямлі, менавіта ў яе першародстве, менавіта ў тым, што гэта не закультураная з незапамятных часоў, як Белавежа, старонка, што гэта першапачаткова было так, і таму гэта унікальная навукова-доследная пляцоўка, якіх у Еўропе — і не толькі ў Еўропе — ужо амаль няма.

У сім-тым, вядома, паспелі напсаваць і тут, але не да такой ступені, каб, гледзячы на гэтыя дубровы і чорнаалешнікі, на гэтыя зарасці грабаў і вязаў, нельга было ўявіць сабе — асабліва калі ты ўмееш уяўляць,— якой была зямля ў першы дзень стварэння.

Харошая была зямля. Створаная для людзей з чыстым сэрцам і празрыстымі вачыма.

Схема, план, карта. Лепей за ўсё пачынаць знаёмства з нечым, што ўбачыш заўтра, трымаючы іх у руках. Шкада, што гэтая схема, якую мы выцыганілі ў дырэктара, такая малая і агульная. Але й так лепей, чым нічога. Прынамсі, будзеш крыху ведаць, куды панясуць цябе ногі, дзе ляжыць у лесе якая вёска, дзе лясніцтва, дзе ручаіна, возера, балота. І вось тут Судзібор, там Сімановіцкая Рудня, там Хлупін, назвы, пакуль што не напоўненыя для цябе аніякім зместам, нумары кварталаў, за якімі яшчэ не ўстае для цябе непаўторны, кожны на сваё аблічча краявід.

А жыццё між тым ідзе і ў хаце і ў двары. У двары трагедыя. Некалькі куранят праявілі самастойнасць і вылезлі з-пад сеткі. А паколькі самастойнасць бывае небяспечная на выніку, то злы лёс у вобразе мярзотніцы Чыты не замарудзіў распарадзіцца іхнім

жыццём. Прысуд абуранага грамадства быў аднагалосны: каб перапыніць на будучае агіднасць і буянства, прысудзіць кошку да расстралляння. Вадзім ледзь не са слязьмі на вачах прыступіў да выканання прысуду. Але адкуль у такой брыды такі розум прадчування? Чыта чкурнула некуды з двара, як міцкевічаўскі селянін, што сядзеў у каноплях, пакуль у пана не пройдзе прыпадак гневу, не з'яўлялася ўсю ноч, і — сэрца, вядома ж, не камень. Прысуд пайшоў на абскарджанне і быў адменены, бо варта было Тамары спытаць: «Дык, можа б, ты й куранятка хацела б?» — і кошка, падціснуўшы хвост і вушы, ляцела ў зарасці на пяць метраў хутчэй за ўласнае няўканне.

...Раніца ў тысячагадовых гарадах такая самая, як і ў зусім свежаспечаных. Асабліва калі тысячагоддзе не пакінула пасля сябе велічных муроў, вежаў, храмаў і палацаў, калі рэшткі ўсяго гэтага спяць у затравелай зямлі.

Ідуць сабе людзі на работу — і мы сабе едзем нашым малым чырвоным КАВЗам на работу. І не толькі самі едзем працаваць, але і рабочых з інструментам, з рознымі там кельмамі падкідаем да Азяранаў. Круціць баранку вадзіцель Сямён Сяргеевіч, кіруе аўтобусік праз рэчышча Сцвіжынец і рэчку Сцвігу ў гэтую сцюдзёную, рахмана нясмелую вясну.

Як халодна вясной! Як дрыжаць гэтыя слабаапранутыя дрэвы. Як пакорліва, па-рабску спадзяюцца на няблізкае сонца. І якія яны ўпартыя ў чаканні яго.

Слепцы цяпер перайменаваныя ў Знаменку. На гэта мы майстры, бо гэта лягчэй за ўсё. І стаяць на зямлі нашай сотні Вішнёвак, тысячы Пераможных, дзесяткі Арабінавак і Яблыневых. І ніхто не вылупіцца са стандарту, не скочыць вышэй мазгоў, не прыдумае хаця б такіх мясцовых назваў, як Ветвіца, Млынок Сімановіцкі, Хваенск. Ці такой назвы далёкай вёскі, назвы — стварэння розуму геніяльнага, як Байкі Мамчыны (а мо і яе зараз перайменавалі ў нейкую там Кляноўку?!).

Клакоцкі, невялікі, вельмі кашчавы, тварам — ну, дакладна У. І. Даль, толькі што барада клінам (досыць рэдкі выпадак, калі я памяркоўна стаўлюся да барады ў чалавека, што яшчэ не стаў дзедам), расказвае. І ўзрадаваны, што побач чалавек, які ўмее слу-

хаць і спачуваць, і проста — справу гаворыць. Бо проста языком мянціць — гэта ў нас тысячы такіх, мянціць пяром на паперы — сотні. А ведаць, гаварыць слушнае і дзелавое, рабіць, не торкаючы ў вочы паказуху ў выглядзе пустых кніжак — такіх людзей куды меней, чым хацелася б.

І ён гаворыць аб фаўне стэпаў і лесастэпаў так, што, паслухаўшы яго, іншы дзесяць трактатаў напісаў бы. І ты за яго напісаць не здолееш, атрымаецца «Жыццё жывёл» А. Брэма. І яму параіць напісаць такое — язык не падымаецца і сумленне не дазваляе. Бо чалавек справай заняты.

Вунь, улева, мясцовасць такая, Ковек. Вадзілася там асобная папуляцыя гарнастаяў, вельмі буйная. Цяпер, бо работы вакол, разбрыліся, і папуляцыі той там няма. А вунь канава Бычок, самае вусце, і там піць нязварта, а глыбей, у нетры, вада чорная і бліскучая, як японскі лак, і такая самая празрыстая. Даўно капаная канава. І, як уся тагачасная «меліярацыя», была яна сціплая, не рэзала па жылах маці-прыроды, ціха і паступова ўпісвалася ў адвечную плынь яе жыцця.

Наша меліярацыя ідзе шумна, у тэмпе, волатавымі крокамі. І не дае яна ні расліне, ні жывёле, ні самой натуры прыцярпецца, прыцерціся, прыстасавацца, мякка і навекі ўвайсці ў суіснаванне адно з адным.

Вунь да вёскі Бечы, або Бячанская Буда, нейкія два з паловаю кіламетры, раней было яе не бачна і не чутно, а цяпер — як на далоні.

Дамбы, дамбы — дарогі, дамбы. І мала што жывое паспявае прыстасавацца да іх. Вунь хіба ластаўкі-берагоўкі парабілі калонію гнёздаў у адкосе адной.

Ехаць з Клакоцкім цікава. Бачыць многа. У мяне таксама някепскі зрок (тфу-тфу!), у маладосці быў нават выключны. А ў гэтага зрок абвостраны веданнем. Я магу толькі сказаць (гэта пад Слепцамі): «Палявы лунь ляціць». А ён скажа, ці далёка ягонае месца. Я магу сказаць: «Кражныя пайшлі», ды, можа, дабаўлю, што самцы. А ён скажа, што ляцяць на ліньку. Я заўважу двух сівагракаў, а ён скажа, па якой такой справе і куды яны кіруюцца.

Пайшла дуброва, чысценькая, як парк. Гэта, што праўда, саджаная дужа даўно дуброва... І пад дубамі пасвіцца чарада кароў. Прыгожа — для кепскага

мастака. І мароз па скуры — для лесавода, тым больш у запаведніку. Гэта ўжо (ад рэчышча Сцвігі) так званая буферная зона. Дый тая азначана хіба што на карце алоўкам, а больш, на справе, аніякай буфернай зоны не існуе. Я яшчэ буду казаць аб гэтым, а пакуль проста ўвайдзіце ў становішча ляснога чалавека. Як гэта яму: бачыць у дуброве замест травы і моху каровіны праснакі.

Ох гэта сіроцкая, сцюдзёная вясна! Мерзнуць буслы ў гнёздах. Матляюцца на ветры галіны дрэў і канцы ручнікоў, якімі густа ўхутаны крыжы на вясковых магілках... Перароўскі Млынок — і злева, над халодным возерам, недаверлівыя да першых праблёскаў цеплыні дубы. Хто іх ведае, ці будзе яна, гэтая цеплыня. Кніжкі кніжкамі, прагнозы прагнозамі. Першых мы не чытаем, другіх не слухаем і слухаць не хочам. Мы слухаем сваіх бацькоў. Вунь той, малады яшчэ, два стагоддзі. А як было яму трыццаць шэсць — выпаў у чэрвені снег на чвэрць сажаня, а ў ліпені азёры пакрыліся лёдам, а лістота на ім счарнела... А вунь той — зусім смаркач, нейкія сто год. Дык у ягоным юнацтве здарыўся год — жыта жалі ў кажухах. Сонца сонцам, а пажывём — пабачым. Абяцанкі-цацанкі — э-хе-хе.

У Хлупінскім лесе перасеклі мяжу непасрэдна запаведніка, часта грабняк, і нічога адметнага. Ішла перад Хлупінам праходная высечка лесу, далятаў зводдаль гук бензапілы. Арнітолаг пайшоў лугам на гукі шукаць палясоўшчыка Кадоліча, а мы стаялі каля машыны, і нам не дапамагаў нават тытунь. Адно станоўчае несла з сабою гэтая сцюдзёная вясна: параўнаўча мала было мошкі, гнюсі, гэтай атруты, яду паветра. Бо час, калі яна пануе, называецца тут кароткім і невыносным словам «з'яд». З'яд, калі яна арудуе паўсюль, калі яе можна наесціся разам з ежай, надыхацца ёю разам з паветрам аж да здыхоцця.

Стылая вясна зрабіла сваё: з'яд толькі пачынаўся. Але і такі выносіць, цярпець было цяжкавата. І чаго гэта дабротамі цеплыні перш за ўсё пачынае карыстацца розная навалач?!

...У Тураве,— калі гаварыць пра водаправод,— дужа брыдкая вада. Нейкая ржавая, з вялікім асадкам. І вось тут, у Хлупіне, я і адвёў душу, п'ючы са студні, нават калі ўжо не хацелася. Нясмела пачыналі

цвісці над студняй яблыні, а вада была сцюдзёная, як начное паветра, смачная і празрыстая. І, відаць, моцна напірала яна з глыбінь, ці іншая была нейкая прычына, бо ўзровень вады ў многіх студнях быў на 30, на 40 сантыметраў, нават на метр вышэй, чым побач, у возеры.

Вялікая гэта даброта — вада, нават у такім вадзяным кутку, вялікае шчасце і ўдача — правільна знойдзеная вадзяная жыла.

І тут пачалася дуброва, дуброўка, дубровачка. Праўда, не спрадвечная, а вытворна-другаразовая, але ўсё адно, такі стары, высокабанітэтны лес, што скінь шапку (бо ўсё адно зляціць, як галаву задзярэш) ды маліся... Не ўжываю тут тэрмінаў «сніткавая, дуброва». Не па-беларуску гэта гучыць. А калі верыць Далю, то й не па-руску: «Как немцы-ботаники, работавшие за нас, записывали по наслуху русские названия... так мы их и приняли, исковерканными, во все учебники».

Проста лес. Дзіва лесу. Дубы-волаты. Часам трапляюцца клёны, ясені, грабы, адзінкавыя экземпляры ліпы, гіганцкія вольхі над ляснымі ручаінамі. І цяплей тут, не так адчуваецца стыласць вясны, і ласкавей тут, і паветра тут іншае.

Дарэмна гэта гаварылі, што поле — таксама расліны, што ніва на месцы зведзенага лесу — таксама, маўляў, кісларод. Не. Ніва — гэта страўнік зямлі. А лёгкія зямлі, лёгкія чалавека — толькі лес. І што ў смачным абедзе чалавеку пад час прыпадку астмы, калі ён задыхаецца? Не толькі хлеб перадумова жыцця.

Паветра і хлеб!

Але і тут, асабліва бліжэй да ўзлесся, пасвілі быдла. Але й тут іржавелі ў траве рэйкі вузкакалейкі, нібы залітыя крывёй: гэты лес яшчэ нядаўна пляжылі. Цвіла ля рэек суніца, і жоўты мар'яннік спяшаўся заснаваць сабою нядаўнюю брыду.

Стаялі на дубах калоды-свепеты. Спявала птушка-цвыркун. Увогуле птушак спявала мала, але цвыркун чуўся да самых лясных глыбінь. Дзіва, але ў альшэўніках не было салаўя. Арнітолаг і тут пасняваў хутчэй за ўсіх заўважыць гняздо дразда-рабінніка, дзівосны клён, што цвіў адной вяршыняю (нібы залатою шапкай), хаця даўно павінен быў бы адцвісці. І я, што

лічыў сябе лясным чалавекам, разумеў, што ў параўнанні з такімі людзьмі я ў лесе ўсё адно што сляпы.

Ледзь не ў другі толькі раз у сваім жыцці я ўбачыў вялізную і пачварную «вядзьмарчыну мятлу» на самым канцы грабавай галіны. Але тут увогуле была маса прыгожага старога грабу. А пасля на вымачыне, на пятачку падсохлай гразі, прамільгнуў след казулі і след ваўка, які ішоў за ёю. Не бег, а ішоў, таму што быў, відаць, сыты. Таму што вось трапіўся і ягоны памёт. Як валасатая яловая шышка. І валасы тыя былі шчэццю дзіка, якога воўк нядаўна з'еў. Есці са шчэццю — не ведаю, чый страўнік, акрамя ваўчынага, вытрымаў бы гэта.

І так мы ішлі нетрамі, назіралі за гульнёй двух змеяедаў у паветры і гамапілі аб аленях, якія з'явіліся тут невядома адкуль некалькі год назад. Спачатку іх было чатыры, пасля, гады два-тры, шэсць — пасля яны зніклі. Ці пайшлі кудысь, ці нехта знішчыў. З вучоных ніхто не бачыў, а мясцовыя жыхары казалі пра невядомага звера: «Рогі, як у лася» (у ласёў бываюць рогі сукавідныя і лапатавідныя, і ласёў апошняга тыпу ўсё меней і меней). Знайшлі, праўда, скінуты «быком» (самцом аленя) рог, які быў у чатырнаццаць сукоў.

І селі мы ў машыну, і паехалі мы па палясоўшчыка Кадоліча Уладзіміра Георгіевіча, «караля лесу», як гучыць ягоная мясцовая мянушка. І прывезлі яго дахаты, і чакалі, фатаграфуючы прадаўшчыцу і яе хлопчыка, і намазалі хлопчыку галаву сродкам ад мошкі, каб спакойна стаяў, і лепш бы мы не рабілі гэтага, бо выццё ягонае чулі, па-мойму, нават у Тураве. А пасля паплылі з Кадолічам возерам Обедзь, яно ж Хлупінскае, рэчышчам да ўрочышча Галава, у славуты першы квартал.

І яшчэ адзін добры чалавек быў падораны мне жыццём за гэтыя дні. Чалавек, які спакойна і проста разважае, што вось трэба спілаваць ссохлы дуб на поплаве, і ён бы зрабіў гэта, ды дацягнуў да вясны, а там пашкадаваў буслоў. Але як яны адлятуць у вырай, то спілаваць трэба будзе адразу. Таму што буслянка старая, важыць сама меней дзве тоны і трымаецца на слове гонару. І трэба ладзіць на новым дрэве падмост пад новую буслянку для новай вясны.

Жывы яшчэ пакуль лес беларускі вось такімі людзьмі.

А пасля было дзіва. Неапісальнае. Мабыць, з апошніх такіх на нашай зямлі, хаця раней Днярпо, і Нёман, і Сож — гэта былі пойменныя дубровы па берагах.

Вада яшчэ не зусім спала. І стаялі над гэтай высокай вадой дубы карказломныя, дубы-вежы, дубы, на якіх замкі можна было б будаваць, дубы-хмары ў палову неба, дубы-калоны, на якіх трымаецца неба над гэтай зямлёй.

Дубы, якія перанеслі вечнасць, дубы, якія кожнай галінкай сваёй былі як адмаўленне сцюдзёнай вясны і сцвярджэнне цеплыні і сонца.

Было мне кепска. Фізічна кепска. І яшчэ кепска ад адчування сваёй мімалётнасці. І што кожны такі мімалётны — можа быці мацнейшы за гэтую вечнасць. А я нічым не магу памагчы вечнасці, акрамя вечнага паўтарэння аднаго і таго ж, вечнага закліку да сумлення братоў. Заклінання, якое часам бывае марным лямантам у пустыні.

Я папрасіў аб пяці хвілінах самоты і атрымаў яе. І доўга шукаў месца, дзе сесці. Бо ўся зямля была спачатку ў незабудках, потым у ландышах (тут, ля берага, яны яшчэ не распусціліся, бо сцюдзёная вясна начамі, відаць, дыхала холадам ад вады, і толькі далей бачны быў суцэльны, адзін ландыш ля аднаго, белы дыван). Ландыш каля ландыша, гэта не перабольшанне. На адным квадратным дэцыметры не менш чым дзесяць — пятнаццаць раслін. І так наколькі вока сягае.

Ну і пусці сюды гандляра. Трыццаць капеек з дэцыметра. Трыццаць рублёў з квадратнага метра. Сабака, павешаны за тое, што не ўкусіў суседа.

...А тут скора зацвітуць ландышы. Не для рублёў, а для вачэй, для неба, для гэтай бярозы, што расце ў дубовым пні, нібы ў кадушцы, для рыбалова (зімародка), які нізкай стралою ляціць над вадой, для вераб'ёў палявых і працавітай галкі, што нясуць птушанятам ежу. Проста для таго, каб не паменела ў сэрцы шчырасці, каб чалавек не ляцеў, як на злом галавы, а часам сеў і падумаў.

Напрыклад, аб тым, што вось адкрываецца паляўнічы сезон і нахлынуць на той бок Прыпяці паляў-

нічыя аж з Кіева, аж чорт яго ведае адкуль, і на кожным кіламетры там будзе гучаць столькі стрэлаў, нібы кожны кіламетр гэтай зямлі — Барадзіно.

А тут ландышы. А тут ідуць за хмызамі па недалёкай Прыпяці судны і здаецца, што Прыпяць вышэй за паплавы. Тут будзе цвісці шыпшына, і тут ты не вынішчальнік, не забойца, а роўны сярод роўных.

Калі вярнуліся астатнія, я ўжо крыху акрыяў і падумаў, глянуўшы на іх: «Ды не, не дадуць. Не дадуць такія. Не дазволяць разбою».

І плылі мы назад па канале Рэчышча. І было ў дрэвах возера Кругленькае, метраў гэтак на 12—13 з хвосцікам глыбіні. І неабсяжныя па таўшчыні і недасяжныя па вышыні вербы стаялі ў вадзе, і градамі на Прыпяць адсюль было не прайсці — гэтымі водамі і джунглямі многімі. І на адной вярбе быў дзівосны па форме нарост, і Кадоліч сказаў мне з усмешкай:

— Глядзі, мядзведзь сядзіць. Вада на дрэва загнала.

І тут урэшце была салаўіная краіна. Па дакладным падліку сем салаўёў на нейкія дзвесце метраў.

...Сядзелі мы ў двары ў Кадоліча, пілі бярозавік, вельмі смачны, бо настоены на грушах. Стаяла ў кветніку чаромха-венік: метр з нечым вышыні — і ўся ў белай квецені. На платах, на сцяне хаты была цямнейшая адмеціна: так стаяла ў повень вада. Вышэй яна была хіба што ў 1891 годзе. Ну і што? Людзі ведалі нораў Прыпяці, а Прыпяць ведала стойкасць людзей.

— Вы што ж — на гару перасяліліся?

— Чаму-у? У хаце. Я на ложку, жонка — на печцы. З ложка адразу ў высокія боты — і пайшоў.

— Дык вільготна ж.

— Ад сырасці грубку палілі... Шчупачок у хлеў заплыў.

— Што, байка пра сама ў печцы?

— Як-кая байка. Жыццё — байка. Рака... Сама байка... Бачыце на чым сядзім?

Сядзім мы сапраўды на крэслах-тронах, зробленых з цэльнага дубовага стаўбура: таўшчэзны пень са спінкаю. Такія ставяць у паляўнічых гаспадарках для розных там «ахвотнічкаў» — тых, што ахвотна п'юць на іх «ахвотнічую» гарэлку і з якіх смяецца славуты паляўнічы анекдот:

— Гэх, ахвотнічкі, не туды вы панюхалі!

І вось паводка распарадзілася па-свойму. Уначы вада ішла дваром з шумам.

— Ранкам выйшаў — думаў дзве калоды пчаліныя прынесла ў двор... Штурхнуў нагою, яна крутанулася — аж не... Дык вось і сядзім...

Прыпяць ведала, што робіць. Сама прынесла ў двор свой дар, трон для ляснога, для свайго караля.

І мы сфатаграфавалі яго на гэтым троне.

І носяць, і носяць нас ногі... Сёння, у гэты халодны шэры ранак, яны нясуць нас на паром. Быў тут калісьці мост. Спалілі ў вайну. І вось на многія кіламетры паром застаўся адзінай ніццю, што звязвае левы бераг з правым. Едзе тэхніка, едзе розны груз, трактары, легкавушкі, машыны тэхнічнай дапамогі, аўтобусы, грузавікі з трубамі, драўнінай. І людзі, розныя людзі.

Сноўдае туды-сюды за кацерам платформа ў пятнаццаць метраў даўжыні і вязе за кожным разам пяцьдзесят тон жалеза і чалавечых лёсаў.

Прычал — «прыпарамак» з ушчэнт змачаленымі бярвеннямі і два паромы.

На рацэ Сіверка, над ракой шэранькі дзень і рэдкія, халодныя кроплі дажджу. Калі разварочваецца кацярок, то з-пад вінта б'е бура-празрыстая вада Прыпяці, вельмі падобная на піва. Змрочная вада. І невядома, чаго вязуць кудысьці ў такі сцюдзёны дзень малатарні, трактары з прычэпамі і тыпавыя платы для святкавання тысячагоддзя Турава.

Дошкі паромныя, залітыя саляркай, і ўсё адно ля чыгунных прычальных кнехтаў (такіх, як на караблі), куды не заедзе кола машыны, зелянее траўка: неўміручая сіла жыцця.

Разяваць зяпу тут не рэкамендуецца. Я, напрыклад, ледзь не застаўся без азадка, бо панесла легкавік. Добра, што паромшчык у ватоўцы і кедах вельмі падобны на акцёра, які іграў у «Дзецях капітана Гранта» маёра Мак-Набса (толькі што зарослы шчэццю), адцягнуў.

— Тут аднаму ледзь уласнай машынай хрыбет не скруціло-о.

Ён махае рукамі (узвалокваюць аўтакран), гаворыць нешта дзяўчатам, уладальніцам чысцейшага палескага дыялекту і торбаў з голымі негрыцянкамі, дае нейкую параду бабульцы ў фартуху, нешта да-

водзіць дзядзьку, апранутаму ў сэнсе колераў проста з парыжскім густам.

Зялёны капялюх, сіні гарнітур, ліловы гальштук. Начальнік.

— Моро машын возім.

— Колькі?

— Лічылі раз, каб плаціць. Збі-ліса-а. Нам плоцяць па пяць капеек з машыны, і грошай нам хапае — во! Па семдзесят пяць рублёў плоцяць... Часам пытаюць: «Колькі?» Не, у нас бясплатно. У Петрыкове дзвіжэння нема. Машын дваццаць перавязуць за дзень, і ўсё. А ў нас... і ноччу часом по одной возім. Не сядзець жа. А ў нядзелю толькі вазі, толькі вазі. Моро.

Па пяць капеек. Іх шэсць чалавек. Калі нават лічыць толькі іхнюю зарплату, то перавозяць яны дзевяць тысяч машын у месяц. Трыста ў дзень А ў святы?

І таму круглыя суткі і ўвесь час вольнай вады крэйсіруе паромам, жартуе, рагоча, плача, заляцаецца і сварыцца на гэтым пароме жывое Палессе.

Едуць дзеці і дарослыя, едуць вазы з сенам, едуць спявучыя вяселлі і слёзныя хаўтуры (і вецер развейвае чорныя стужкі на крыжах).

Паром гайдаецца ад машын. Едуць бабулі ў бурках, і дзяўчаты ў джынсах, і маладзёны ў куртках пад скуру і з кудламі да спіны.

Едуць вайсковыя, малады хлопец заляцаецца да гожанькай цыганачкі. Едзе шафёр у клятчастым пінжаку, доўгі, як страла ягонага аўтакрана. І едзе другі шафёр з вусатым партрэтам за шклом (лёгкая фронда з дуляю ў кішэні), з доўгімі бачкамі і тварам, падобным на дулю здароваму сэнсу.

І можна сабе ўявіць, што такое гэты паром у святы, на нейкі фэст (па мясцоваму «кермаш»), калі ён аж гудзе ад стракатых, як восы і чмялі, баб і мужыкоў, калі ён вясёлкавы ад дзяўчат і цыганоў.

Тут, на гэтым пароме, мацаеш пульс гэтай зямлі. Тут гарлае яе лужоная глотка, тут стукае яе няспыннае сэрца.

Вечар спускаецца на Струмень. Коні качаюцца ля хаткі бакеншчыка і ластаўкі чыркаюць ваду. Пастух на веласіпедзе гоніць пугай па мосціку (а пасля яны ўплаў плавяцца цераз Струмень на балонь)

табун коней. Жарабятка, стоячы ў вадзе, смокча кабылу (бо там няма мошкі).

Сонца сядае ў жамчужную хмару, і водбліск ягоны ў вадзе таксама апалавы. Усё на дождж. І на дождж «цвеліцца» (брохае, гуляе) рыба. І ён прыходзіць уначы. Спачатку, невялічкі, цёплы, шапоча з лістотаю і травою. Пасля набліжаецца, моцны і ўсепранікальны, ох які патрэбны дождж!

Палессе і мокне і сохне. Як казаў Кадоліч, пыл за плугам там, дзе ўчора стаяла вада.

Шмат пішуць аб «утаймаванні» Прыпяці, гэта значыць аб дамбаванні яе. Ды яшчэ задаюць пытанні, ці не панясе страту ад гэтага «неапісальная» прырода краю, ягоныя «звонкія дубровы», усе гэтыя «пяцьдзесят відаў сысуноў і дзвесце пяцьдзесят відаў птушак». Адказаць можна без лішніх слоў, таму што ў повень пойма не толькі «хаваецца пад вадой». Паводка ўгнойвае глебу, корміць пойму. Нічога не трэба вырашаць так, з маху, трэба вельмі-вельмі многа думаць, улічыць усё, бо паглядзіце на тыя «шматлікія прытокі Прыпяці», якія «разыходзяцца». Там ужо ў значнай ступені няма чаму «разыходзіцца». Дзівосная Случ у вусці — гэта ўжо не болей чым занесены пяскамі канал. У многіх драбнейшых былых прытоках маляўкі не знойдзеш.

Прыродныя сістэмы складаюцца і выпрацоўваюцца тысячагоддзямі, і нельга без незваротных страт стварыць новую сістэму за год-два. Мяса-малочная гаспадарка. Травы. Але глеба, на якой растуць тут травы,— алювіяльная глеба. Дзецішча ракі, дзецішча паводак маці Прыпяці. Без гэтых запланаваных прыродай паводкавых падкормак зямля поймы Прыпяці не будзе каштаваць нічога.

Я баюся гэтага, бо люблю гэтую зямлю. Мы можам пацярпець без гэтых гектараў, а тым часам яшчэ семдзесят разоў абдумаць, чым разануць. Але мы хочам гэтыя гектары сёння, зараз. І мы заворваем неацэнныя прыпяцкія паплавы, заворваем пашу. А быдла пасвім у лесе, не выключаючы запаведнага. А тое знішчае ў лесе падлесак. Знішчае будучую змену гэтых велічных дубовых гігантаў.

Як бы вы паглядзелі на грамадства, якое, дбаючы аб сільных мужах і мудрых старых, зусім бы не дбала аб дзецях. Старыя мудрацы ў такім грамадстве вы-

мерлі, сталыя мужы састарыліся б і памерлі таксама. І ніхто не заняў бы іхняга месца. І грамадства такое было б аддадзена тлену, асуджана на смерць...

Такое грамадства — прыпяцкія пойменныя дубровы.

Гэта грамадства я люблю і таму ўзвышаю свой слабы голас у ягоную абарону, бо хачу сам бачыць першы квартал і хачу, каб далёкія нашчадкі бачылі яго. І таму кажу:

— Падумайце. Падумайце тысячу разоў. На тое вы — людзі, якія жывуць не адно сённяшняй хвілінай, а там хаця і трава не расці.

Падумайце над кожнай былкай, падумайце над дубам, які церпіць паводку, але не доўгую. Падумайце, пакуль пыл у два сантыметры (а таму ўжо ёсць прыклады) не лёг на сакавітыя паплавы. Падумайце, каб Палессю не засталося, як на апошнюю літасць, спадзявацца на дождж.

...Якое шчасце! Ідзе дождж. Кроплі сплываюць з лісцяў шыпшыны, белы снег абсыпанай квецені пад яблынямі.

Падумайце над апавяданнем Роберта Янга «Ссячы дрэва». Лепей пра ўзаемаадносіны з лясамі і прыродай не скажаш.

Падумайце і не суцяшайце сябе тым, што поле гэта — той самы комплекс раслін, што і лес, што гектар кукурузы неяк заменіць гектар лесу, займе яго месца ў біясферы.

Не, не заменіць.

Падумайце, бо іначай атрымаецца, як з янотампаласкуном. Не падумаўшы завезлі, і вось той знішчае птушыныя яйкі. Не толькі на зямлі, але ў дуплах, бо цудоўна лазіць. І гэта, побач з неабдуманай меліярацыяй, адна з прычын вялікага падзення птушынага пагалоўя на Прыпяці.

Падумайце над тураўскай гісторыяй. Бо вось збудавалі на адной палове гарадзішча дзіцячую пляцоўку з прыбіральняй на роту салдат, завялі гароды (цыбуля на былой славе), укапалі (кіношнікі) у зямлю мёртвыя дрэвы, пашкодзіўшы культурны слой, разрылі земснарадамі бераг Струменя пад гарадзішчам. І там цяпер ляжаць уроссып згубленыя для вучоных прылады працы продкаў, іхнія ўпрыгожанні, арабскія дыргемы і дынарыі, медныя іконкі і

свінцовыя пломбы, кавалкі шкляных бранзалетаў і баявыя сякеры.

Усё, чым жылі прашчуры.

Падумайце аб лёсе песні палескай. Бо вось рукой падаць да Тонежа, а з цеплахода абражае хаты і Прыпяць надрыўны барабанны пошчак і голас: (ну дакладна, як у тым віску) «Гю-ю-ю-ййы». А пасля невялічкага перапынку нешта яшчэ:

Вы слыхали, как поют дрозды?
Нет, не те дрозды, не полевые,
А лесные, русские дрозды,
Певчие избранники России.

Тут проста ў кожным слове абраза здароваму сэнсу. Нават навуцы аб птушках. Таму што няма ні стэпавых, ні палявых драздоў. Усе яны — лясныя. А палявы дрозд — такая самая абракадабра, як ледніковы заяц або горны гіпапатам.

Ад паэтаў, вядома, цяжка патрабаваць логікі. Глушэц «шчоўкае» і «скшыжыкае», але ніяк не «плачет со звонами». Гівал (івалга), хоць усё жыццё чакай, не «схоронится в дупло» і не стане «плакать».

Але тут ёсць адна вялікая розніца. Гэта Ясенін, паэзія, і «што вольна ваяводзе, то...».

Падумайце аб тым, што знікае ў нябыт, і аб тым, што ёсць і што будзе. Падумайце, што яшчэ ў дваццатыя гады дзевятнаццатага стагоддзя К. Контрым гаварыў аб спробах знішчыць тураўскія лясы (выкупілі іх за 64 тысячы рублёў і хацелі сплавіць па Дняпры), што ўжо тады гаварылі аб знікненні многіх жывёл і птушак (і спасылаліся пры гэтым на старыя дакументы).

Падумайце аб душы народа, які ўзрастае сярод гэтых дуброў і на гэтых водах, вучыцца плаваць па іх раней, чым навучыцца хадзіць, не ўмее бегаць, а ўжо грабе. Аб дзіцяці, якое ў адказ на прапанову пешай прагулянкі, раве на ўсю глотку:

— У ёдку хацю!

Аб людзях, якія ўзраслі на гэтых берагах такімі, якія яны ёсць, якіх за гэта трэба паважаць і з думкай якіх трэба лічыцца.

Падумайце, як думалі аб усім гэтым мы, ад'язджаючы шэрым ранкам ад гэтых хат і садоў, развітваючыся з суровай Прыпяццю, з гэтай зямлёй, якая адарыла

нас вышэйшым шчасцем і гонарам нарадзіцца на ёй і якой мы таму павінны адплаціць працай, даверам, павагаю і ісцінай.

# ДЫЯМЕНТАВЫ ГОРАД

*Эсэ пра гісторыю
і людзей адной зямлі*

Дарогі, якія вядуць у Мсціслаў гасцей, падарожнікаў, пісьменнікаў ці проста працаўніка, які вырашыў пасяліцца ў тутэйшых славутых гаспадарках, закалыханы жытамі, аздоблены валошкавымі палямі льну. Толькі аднойчы, у верасні 1943-га, калі Чырвоная Армія несла вызваленне ў наш край, дарогі свяціліся жабрацкай нагатою.

І адкуль бы вы ні ехалі ці ішлі ў наш горад — з Магілёва, Крычава, Горак або Смаленшчыны — прыглядзьцеся, і ўбачыце вакол курганы, ірвы і іншыя адмеціны, пакінутыя на зямлі продкамі. Скупая, загадкавая і часам нявытлумачаная гісторыя напісана на шляхах да Мсціслава, на яго вулачках, на сцежках гарадзішча і Дзявочай гары.

Добра памераўшы свет, не кажучы пра Беларусь родную, завітаў на матчына паселішча Уладзімір Караткевіч. Ці то вока ў яго пільней, ці то слых вастрэй, ці то душа прасцей, а ўбачыў ён тут бяросту пісаную, пачуў звон мячоў сечы крывавай, адкрылі яму свае таямніцы муры. І ён па-добраму расказаў усё гэта на старонках кнігі, якая да 850-годдзя нашага горада выйдзе з друку. Сёння мы пачынаем друкаваць асобныя яе раздзелы.

Ёсць на свеце гарады, імя якіх для твайго вуха проста сугучча. Прагучала назва, скалыхнула паветра і знікла назаўсёды ці да наступнага разу. Бо нічога за гэтай назвай для цябе не стаіць. Не чуў, не бываў. А і не буду — невялікая страта.

А ёсць гарады, звязаныя з табою нябачнай повяззю, самой музыкай свайго імя, або нечым трывалым, што вяжа з імі назаўсёды, нават супраць твайго жадання. Ёсць для мяне некалькі такіх гарадоў на

Беларусі. І адзін з іх — горад маёй маці, Мсціслаў. Тут яна нарадзілася амаль дзевяноста год назад і тут пражыла некалькі першых сваіх месяцаў. І Мсціслаў быў для мяне, з гэтай прычыны, і не свой, і нібыта крыху свой.

Гарады, як і некаторыя людзі, чакаюць свайго адкрыцця табой. Шмат год праходзіў міма чалавека — і раптам раскрываецца ён табе ў адной размове і на ўсё жыццё.

Для мяне і майго адкрыцця Мсціслава зорнымі гадзінамі і днямі былі казачыя дні пачатку студзеня 1982 года. Расказаць — не паверацъ. А трэба ўсё ж паспрабаваць расказаць.

8 студзеня 1982 года звычайная «Волга» выйшла з Мінска і накіравалася шляхам на Магілёў—Мсціслаў.

За горадам з усіх гурбаў пачалі зрывацца снежныя языкі, а потым змеі. Дуйка бегла па асфальце. Праз шэра-дымнае хмарнае неба мігцела сляпучая, размытая пляма сонца.

Сустрэчныя машыны сярод белага сонечнага дня свяцілі насустрач фарамі. Пасля хмары заснавалі сонца, лясы сярод поля, рассечаныя дарогай, як бохан нажом... І самотныя вароны ляцелі высока над лесам, невядома куды, за якім-такім харчам насустрач завірусе.

Не трэба было ехаць насустрач гэтаму. Трэба было спыніцца недзе ў вёсцы і прасіць аб начлезе, але перамагла дурная зухаватасць. І зноў мы спыняліся ў глухім лесе, самотным і заснежаным. І быў гэта зімовы шлях і мары на зімовым шляху да горада, які сёння стаў самы важлівы з усіх гарадоў, бо зрабіўся тваёй мэтай. Безупынны шум дрэў, ясна было і страшна было ўявіць, што робіцца ў чыстым полі.

І ўрываецца ў яго раптам настойлівае рыпенне. І цішыня. І зноў мёртва парыпвае пад ветрам нейкае дрэва. Лес скардзіцца. І над гэтым змрочным і страшным лесам кліч варон і груганоў, якія цяпер цягнулі ў лес, пад прыкрыццё.

Ужо за Друццю зусім не стала відаць ані дарогі, ані зямлі, ані неба. Шалёны ўраган дзьмуў з поўначы ў трубу між Друццю і Дняпром, каб вырвацца, мабыць, недзе ля Рагачова: на волю.

У Магілёве на спуску да Задняпроўя стаялі машыны, якія не змаглі ўзабрацца на гару, а пасля ў полі

ўсё часцей і часцей стала трапляцца кінутая тэхніка: трактары, краны, машыны (людзі, відаць, кідалі іх і дабіраліся да першага жылля).

Часамі зусім нічога не было відаць. І ўсё здавалася, што машыну заносіць і заносіць улева, некуды ў нябачны яр.

У пэўны момант здалося: гінем. Адны ў чыстым полі. Нічога не відаць, і слабы арыенцір толькі бур'яны і хмыз з правага боку (левы гіне ў снегавой імгле). Праз неіснуючыя, здаецца, шчыліны нас заносіў снегавы пыл, павольна ўтвараючы ўнутры машыны суцэльную гурбу.

За чатыры кіламетры да Ходасаў селі ў лагчыне, у якой на два кіламетры сядзеў корак з машын, занесеных снегам, і ўзрадаваліся, што не адны будзем у чыстым полі, што вакол людзі, хаця некаторыя з іх сядзелі тут ужо пяць гадзін пры трыццаці градусах марозу і ўраганным ветры.

І не было куды ісці, бо нічога не відаць. Не знойдзеш хаты — саб'ешся і замерзнеш. Застанешся ў машыне — занясе. Заставалася капаць, адкідаць, выцягваць, хаця праз хвіліну заносіла снегам зноў і дранцвелі рукі і твар. Гарэлі ліхтары — толькі за пару метраў іх і не было відаць. Працуеш і задыхаешся, і лоб расколваецца ад болю, нібы вецер разбівае яго, сціскае скроні і чэрап.

Бягуць між машын струмяні, кідаюцца чырвоныя і чорныя чалавечыя цені. Чырвоныя агні і чырвоныя хвалі снегу. Імчыць да самага неба крывавы, пурпуровы ўраган.

Я не ведаю, на жаль, прозвішча сапраўднага героя гэтай ночы. Хтось, хто ведаў дарогу (а як яе было знайсці ў гэтым пекле — не ведаю) усё ж пайшоў у Ходасы, і не збіўся, дайшоў і прывёў на дапамогу людзей.

Раптам я ўбачыў чалавека ў расхрыстанным кажусе. Твар чырвоны, мокры. З'явіўся і прывёў бульдозеры начальнік міліцыі. Гледзячы на яго, на бульдозер і бульдазерыста ў нязмерным кажусе, я ўпершыню падумаў, што, мабыць, не прападзём, а можа, і не будзем кукаваць да раніцы, прыгода таксама не з прыемных.

А пасля яшчэ адно ўсмешлівае аблічча за шклом машыны, у якую я залез сагрэцца: першы сакратар

райкома Пятро Міхайлавіч Катушкін — добры, просты мужык. І з калегамі, што вярталіся з Магілёва і таксама ўгрузлі. Сядзім, значыцца, разам. Значыцца, вышэй галаву.

— Давайце ў маю машыну. Замерзнеце.

У ягонай машыне замерзнуць было цяжка: набілася ў яе аж сем чалавек. А наперадзе раўлі ў чырвона-белай імгле вялізныя, як вежы, бульдозеры, рассоўваючы снег (дарэчы, калі ехалі пасля дадому, заносы паабапал дарогі на тым месцы былі ў два-тры чалавечыя росты: словам, «наш» занос быў найлепшы, найпрыгажэйшы, самы выдатны,— ледзь не сказаў «самы прагрэсіўны»,— нам пашанцавала трапіць менавіта ў такі, самы здаровы і велізарны занос).

Бурыліся снежныя вежы, узнікалі і зноў бурыліся. Першую «Волгу» УАЗ узяў на буксір, а за ёй паступова, у снегавым тунелі пасунуліся мы.

І яшчэ васемнаццаць кіламетраў раўло і шалела неба, але гэта ўжо не было так дзіўна і безнадзейна, як у мёртвай лагчыне.

А пасля ўзнік, у дзве гадзіны ночы, Мсціслаў. У глыбокім, мёртвым, буранным сне. Чорныя дрэвы прысадаў і садоў гнуліся і мялі, неба і дамы спалі ў іхняй засені пад спевы ўраганаў. Як тысячу год назад.

Чаму такі ўступ. Без яго ніхто не паверыў бы таму, што і сам я ўпершыню ў жыцці ўбачыў на свеце. І больш, мабыць, ніколі не пабачу. Таму, што здарылася ў Мсціславе на наступны дзень.

А сведкі таму тыя, з кім я ў гэты дзень хадзіў па горадзе, і ўсе жыхары Мсціслава.

Усе як адзін. Ад дзіцяці да пенсіянера. Ад настаўніка да дырэктара прафтэхвучылішча. Ад шафёра да сакратара, хаця яму ў той дзень зусім не было часу глядзець навакол і тым больш на неба.

Вар'яцкі буран мінулай ночы паваліў слупы, абарваў і некуды занёс драты, адключыў ад электрычнасці па вобласці дзевяноста фермаў і вёсак (у раёне, здаецца, дзевяць), перакрыў снегавымі хрыбтамі дарогі, нарабіў мноства іншых бед.

І мне падумалася ў той дзень, што цяжка, вядома, адказваць за сваю душу і сваё сумленне, як гэта ўсё жыццё даводзілася рабіць мне, але адказваць за мноства рэчаў, над якімі ты часам не ўласны, таксама складана, калі ты сумленны перад сабой і людзьмі.

І яшчэ я падумаў, што паняцце міру — рэч досыць ўмоўная, таму што лёс часам ставіць як асобу, так і грамаду ў самы, здаецца, мірны час ледзь не ва ўмовы перадавой. Як у гэтую ноч, калі шафёр кінуў машыну з камбікормам (і правільна зрабіў, бо загінуў бы), калі абясточана ферма, а на ёй у разгары ацёл, калі сувязі з многімі пунктамі няма. А тут яшчэ з'явіўся пісьменнік: знайшоў час зірнуць на раён, пра які збіраецца сказаць некалькі слоў. І каб хаця напісаў шырокую карціну таго, што робіцца, каб хаця нешта станоўчае прапанаваў, каб хаця... пашкадаваў, ці што, бо гэтаму хлебу не пазайздросціш.

Дык не, не зробіць ён гэтага. Правільна, не зраблю. Мэта не тая. А мэта мая ў тым, каб расказаць усім аб малым, непрыкметным, ледзь не самым далёкім ад сталіцы раёне і паспрабаваць пасяліць у вашых душах (і ў душах усіх, хто прачытае гэта) гонар за яго, за продкаў сваіх і за сябе, якія не горшыя.

Вы робіце ўсё, каб зямля працвітала, каб край ваш быў уладкаваны, сыты, прыбраны і багаты. Я не магу непасрэдна памагчы вам у гэтым. Але я магу прымусіць вас азірнуцца.

Я магу зрабіць так, каб вы ясней убачылі прыгажосць вашай прыроды і вашых будынкаў. Я магу расказаць вам пра забытыя і напалову забытыя подзвігі і ўчынкі вашых продкаў. Пра тую прыгажосць, што яны стварылі, і кнігі, што яны пісалі.

Я магу напомніць вам, мсціслаўцы, і іншым людзям, што на многіх шляхах чалавечай дзейнасці вы былі першыя, што ваш малы горад зрабіў для прагрэсу краіны больш, чым некаторыя вялікія і славутыя гарады.

Я магу нагадаць вам, што вы людзі з мінулым, славе і мужнасці, розуму і таленту якога могуць пазайздросціць вельмі і вельмі многія, і што толькі ад вас залежыць, каб гэтая слава тых, хто заўсёды ідзе наперадзе, не прапала ў будучых вяках, каб вы заўсёды былі поўныя незалежнай высокай годнасці ў кожным слове і ў кожным учынку, годнасці тых, хто ніколі не плёўся ў хвасце, хто быў і будзе ў ліку лепшых.

І, магчыма, гэтым я зраблю так, што вам будзе лягчэй жыць, што вы знойдзеце ў сабе сілу выстаяць у хвіліну, якая будзе патрабаваць ад вас мужнасці.

Бо ваш горад з найлепшых гарадоў Беларусі, бо ён малы, але вялікі. Бо вы беларускага старадаўняга кораня, людзі з адвечным глыбінным усведамленнем таго, што ўсю гісторыю вы рабілі справу свайго жыцця (аралі і пісалі кнігі) як мага найлепш, і павінны гэта і надалей. Павінны не нейкаму дзядзю, павінны толькі сабе.

...Узыходзіла ў той дзень усё вышэй чырвонае ад трыццаціградуснага марозу сонца. І па меры таго як яно ўзыходзіла — вочы вашы ўсё шырэй раскрываліся ад здзіўлення. І вось тут мне і патрэбныя сведкі. Бо дзіву, што ў той дзень убачыў, могуць і не паверыць. Скажуць, што выдумаў небывалае пра звычайны горад.

...Снег пад час гэтага начнога ўраганнага шаленства наліпнуў на дрэвы, муры, вежы і званіцы, на дамы і, аблізаны магутным ветрам, ператварыўся ў крышталічную ледзяную корку. Кожны порцік, кожная калона, кожная вежа, кожная ліштва заззялі зялёным, аранжавым, блакітным, сінім агнём, як вялізная навагодняя ёлка.

І ўсе будынкі — усе — увесь горад гарэў, іскрыўся, пераліваўся ўсімі колерамі, а найболей блакітным, як адзін велічэзны, чысцейшай вады дыямент.

Не, такога я яшчэ не бачыў. І — у дадатак да ўсяго — у нябеснай сіні ўстала гіганцкая і тоўстая арка зімняй вясёлкі.

Бачыў я бледныя зімовыя вясёлкі. Але гэтая была ярчэйшая за найярчэйшую летнюю. З усімі пералівамі і адценнямі, ад чырвонай, апельсінавай, жоўтай і блакітнай аж да ліловага адцення. На ўсё неба.

І яна адбівалася тысячамі ў мурах дамоў і ў вежах, узнесеных у блакіт.

Яшчэ раз кажу: такога я, мабыць, не пабачу ніколі. Такое нават у перадсмяротнай цемры ўспомніцца і з'явіцца і, як апошняе суцяшэнне, напоіць твой зрок.

І каб канчаткова прывязаць мяне да сябе, Мсціслаў шчодрай рукой выдаў мне яшчэ адно дзіва.

Быццам усяго перажытага, усёй гэтай фантазіі было мала — завяршыў яе яшчэ адзін жарт лёсу, нібы заключны мазок дзівоснай карціны.

Была месячная ноч, і горад ззяў дыяментамі, як удзень, толькі крыху больш блакітна і прыглушана. Паветра пахнула не выхлапнымі газамі, а пяч-

ным дымам. Снег пад нагамі рыпеў не па-сухотнаму, як у Мінску, а звонка, весела, бадзёра.

І раптам гэтыя дыяменты пачалі згасаць, а горад-палац пачаў растварацца ў серабрыстай імгле.

На дадатак да ўсіх раскошаў і дзівосаў Мсціслаў падарыў мне ў ноч на 10 студзеня месячнае зацьменне і павольнае згасанне сваіх дыяментаў у празрыстым паўзмроку, што насоўваўся на свет. Павольна згасала поўня.

Ціха згасаў светлы, іскрысты і зіхоткі горад пад ёй.

І я не магу зараз гаварыць аб ім без захаплення, як не мог бы гаварыць без захаплення пра жывую легенду, што сустрэлася мне на адной са шматлікіх маіх дарог. І я іду зараз разам з ягонымі людзьмі праз усе павароткі лёсу, праз усе бураны, марозныя вясёлкі і зацьменні. Бо толькі так я і магу збольшага аддзячыць ім.

Таму што тая ноч — гэта было, як быццам гіне чароўны сусвет, а ты павінен аднавіць яго, каб незгасальна стаяў у вачах людзей.

...Мсціслаў — кропля, асколак люстэрка, у якім адбіваюцца сонца і зоры і ўся няпростая гісторыя Беларусі. Горад, які, здаецца, нічым асаблівым не вызначаецца перад іншымі гарадамі, якіх на Беларусі сотні. Але паглядзіце на яго — і нібы ў фокусе адаб'ецца ў ягонай гісторыі ўвесь наш гонар і наша слава.

Ён чароўны. І ён як сціплы, вонкава непрыкметны чалавек, за плячыма якога багацюшчае жыццё. Сам ён рэдка кіне пра сябе слова. А пачнуць расказваць пра яго іншыя, дык яму пры жыцці помнік ставіць трэба.

...Мсціслаў, невялікі раённы гарадок, утульна стаў на высокім правым беразе ракі Віхры, непадалёк ад яе ўпадзення ў Сож. Ён ляжыць у васемнаццаці кіламетрах ад станцыі Ходасы і на скрыжаванні дарог Магілёў — Смаленск і Орша — Крычаў. Гэта адзін з самых усходніх куткоў рэспублікі, на самай мяжы са Смаленскай вобласцю. Да Магілёва адсюль 111, да Мінска — 312 кіламетраў.

Мсціслаў, як і ўсе гарады, перажываў узлёты і заняпады. У якасці кур'ёзу прывяду вам такія лічбы. У першай трэці XVIII стагоддзя насельніцтва Кіева

не перавышала 12 тысяч чалавек. Значна, на пару стагоддзяў раней, у Мсціславе жыло 30 тысяч чалавек. Але Кіеў у ходзе свайго гістарычнага развіцця стаў сталіцай намесніцтва, губерні, сталіцай Украіны. Ужо ў 1763 годзе ў ім жыло 42 тысячы чалавек, а ў 1979-м — 2 мільёны 144 тысячы. Мсціслаў жа, воляй лёсу і гісторыі, перастаў быць такім жа — і нават большым — сярэдневяковым цэнтрам ваяводства і, лежачы нібыта ў баку ад пуцявін гандлю, палітыкі, самой гісторыі, руйнаваны дзесяткамі крывавых нашэсцяў, нібы часова заснуў, як заснулі многія і многія славутыя ў мінулым гарады, якія калісь дыктавалі сваю волю, славіліся вялікай славай і стаміліся ад яе. Як стаміліся Тураў і Суздаль, Растоў Вялікі і Друцк і многія-многія іншыя.

Здаўна-давён населена, абжыта і ўходжана чалавекам мсціслаўская зямля. Едзеш або ідзеш па ёй і паўсюль старыя гарадзішчы і магілы, магілы і курганы. У Доўгавіцкім сельсавеце і ў Сялецкім. І перамяшаныя тут магілы апошняй вайны і курганныя магільнікі Кіеўскай Русі і таго, што было да яе. Вось яны стаяць над Натапай, кіламетры за два ад вадзянога млына, пляскатыя, нібы разлізаныя часам (пры вышыні ў 1,3, 1,7 метра, дыяметры іхнія да шаснаццаці — васемнаццаці метраў).

Вось могільнік у Дубейкаве, у самым цэнтры вёскі, 21 насып. І знаходкі: пазалочаныя пацеркі, бразготка-бомка, жалезны нож.

І вось трынаццаць насыпаў у в. Кандратаўск — і гэта Кіеўская Русь.

Але што там Кіеўская Русь!

Вось гарадзішча ранняга жалезнага веку ля в. Міцькаўшчына і роўнае яму па старажытнасці гарадзішча ў Каробчыне Чырванагорскага сельсавета. Паўднёва-ўсходні і заходні краі гарадзішча (у густым лістоўным лесе) вельмі стромыя і ў вышыню ледзь не на трынаццаць метраў, а насыпаны вал з поўдня метраў каля сямі. Тут у зямлі россыпы керамікі Мілаградскай і Днепрадзвінскай культур, таксама ранні жалезны век. А там гарадзішча ля в. Мазалава. І гэта зноў Мілаградская і Зарубінецкая культуры (пачатак — сёмае стагоддзе да нашай эры, заранка сучаснага «жалезнага» чалавецтва).

Курганы ля в. Новыя Віхраны, ля в. Пячкоўка

(на краі кар'ера, які з'еў амаль увесь могільнік), селішча і курганы ля в. Разанцы, гарадзішча і могільнік ля в. Усполле (VII ст. да н. э.— IV ст. н. э.).

Густа засялялі гэтую зямлю, густа ў яе і клаліся. Ля той жа самай Пячкоўкі, побач са старымі курганамі месца, дзе фашысты расстралялі звыш пяцісот людзей.

Курганы, курганы і курганы. Селішчы, гарадзішчы і зноў курганы. Мноства іх.

І, вядома, самыя галоўныя гарадзішчы гэтай зямлі — гарадзішчы Мсціслаўскія. А сярод іх гарадзішча «Замкавая гара». Высокі мыс на правым беразе Віхры. Абкружаны шырокімі, метраў 60—100, і глыбокімі, метраў на 25, ярамі. Плошча 108 на 48 метраў, каля двух гектараў. Па краі Замкавая гара была абкружана яшчэ насыпным валам вышынёю на два з паловаю метры, але ён збярогся не паўсюль.

Першы абследаваў і апісаў гарадзішча славуты беларускі вучоны, этнограф, фальклярыст і археолаг Е. Р. Раманаў, таксама, дарэчы, не дужа і далёкі зямляк з Сожа. Было гэта ў 1893 годзе. У дваццатыя гады абследавалі яго А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, у 1978 годзе — М. А. Ткачоў. Раскопкі праводзіў Л. В. Аляксееў. І раскопкі тыя былі надзіва багатыя. Магутны, да трох метраў, культурны пласт добра захоўваў рэчы арганічнага і неарганічнага паходжання.

Рука археолага ўскрыла жылыя і гаспадарчыя пабудовы, аж цэлых сем ярусаў вулічных маставых (не па гразі хадзілі старажытныя мсціслаўцы — па бярвенным гулкім мосце), вастраколы XIII—XIV стагоддзяў. І мноства розных рэчаў і прыладаў: рамесніцкіх, гандлярскіх, земляробчых, рэчаў культурных і культавых, рэчаў з поўначы, поўдня, усходу (значыць, і туды даходзілі гандлёвыя шляхі старадаўняга Мсціслава). Жылі тут ганчары і гарбары, шаўцы і касцярэзы, майстры ювелірнай справы і майстры апрацоўкі дрэва і выдатныя, на ўвесь славянскі свет славутыя майстры «цанінай справы» (майстры па паліванай кафлі), залатары і збраяры і іншыя, якіх нават пералічыць цяжка.

І ўсё гэта ахапляе вялізны час, аж з эпохі бронзы. Усе гэтыя рэшткі Днепра-дзвінскай і Зарубінецкай керамікі, сярэднелатэнскія фібулы, грузікі дзякаўскага тыпу (гэта на Дзявочай гары). Усе гэтыя касця-

ныя восці, дзівосныя звяры з дзвюма галовамі, сярпы, нажы, шкляныя бранзалеты, накладкі калчанаў XIII стагоддзя і жалезныя наканечнікі стрэл.

Бо горад працаваў, але і ваяваў, баронячы створанае сваёй працай. Равы, валы, яры, сцены, а пасярэдзіне рэшткі драўлянай вежы XVII стагоддзя. Апошняй надзеі абаронцаў. На жаль, драўлянай. А дрэва — яно гарыць.

Збольшага ўсё гэта знойдзенае пайшло ў Інстытут археалогіі АН СССР. Але і там гэтаму будзе цесна. І чаму, каб зведаць старажытны Мсціслаў, я павінен ехаць туды, а не заставацца тут? Не бачыць гэтага на свае вочы тут або ў Магілёве, на крайні выпадак.

Замкавая гара — не адзінае месца ў Мсціславе, дзе здаўна-давён сяліліся людзі. Непадалёк і Дзявочая гара — гарадзішча Днепра-дзвінскай культуры. Другая яе назва «Гарадок»: гэта «на палову вярсты» на ўсход ад замка.

Дарэмна гэта ходзяць легенды пра Дзявочую гару, што яе калісьці дзяўчаты нанасілі па пясчынцы. «Дзевігарадок» проста аж крычыць сваёй назвай, што гэта «Дзіві-гарадок», месца, дзе водзяцца «дзівы», гэта значыць дзівосы, дзівовішчы, злавесныя пачвары або й добрыя стварэнні, тое, чаму дзівяцца людзі, што створана людзям на здзіўленне. Словам, розныя «дзівія» стварэнні народнай фантазіі эпохі Перуна, Вялеса і Дажбога.

А можа, і эпохі, якая папярэднічала ім, папярэднічала ўвогуле славянам. Бо кераміка, знойдзеная на Дзявочай гары,— тыповая кераміка ўсходніх балтаў, а зарубінецкая культура тады ледзь-ледзь займалася тут (ёсць асобныя знаходкі ранняга яе этапу).

Ну а Замкавая гара — проста волат у параўнанні з Дзявочай, Замкавая гара са сваімі валамі, пад'ёмным мостам з паўднёвага боку, Акольным горадам (а вакол яго таксама равы і валы) — гэта ўжо не жыллё родавай абшчыны, а горад ва ўсёй разнастайнасці сваёй гісторыі, гэта ўжо дзевяць — а можа, і болей — стагоддзяў гісторыі славян.

На ўсёй, а пераважна XVII стагоддзя, да часу страшнай «Трубяцкой разні» (1654).

Вулічны мост (мы яшчэ будзем гаварыць пра яго ў сувязі са знаходкай адзінай пакуль на Мсціслаў берасцяной граматы) перасякаў замчышча з поўначы

на поўдзень і налічваў аж сем ярусаў бярвенняў. Ніжні датуецца 1239 годам, самы позні — першай паловай XIV стагоддзя. Паабапал моста былі вастраколы (бярвенняў не шкадавалі), сядзібы, хаты (досыць невялікія па памеры, як тром людзям легчы галавою да ног наступных трох: жыхары, відаць, лічылі, што няма чаго бабіцца ў хаце, калі прасторы хопіць і пад вольным небам ў полі ці ў лесе), гаспадарчыя пабудовы і склепы.

Раскапана пакуль што няшмат, і да гэтага часу самы ранні раскапаны будынак датаваны 1204 годам, а пад ім ідуць слаі бяднейшыя дрэвам.

Час, аднак, пакажа, што яно было і як. Абы нехта не ўздумаў гаспадарыць на старым гарадзішчы.

Але і знойдзенае да гэтага часу дае шмат матэрыялу для роздумаў і развагі. Касцяныя пласціны ад скуранога калчана, дзе арнамент — складаная повязь раманскага захаду, скандынаўскай поўначы і палавецкага поўдня, крыжы-энкалпіёны (складні) кіеўскай работы, шкляны кубак з арабскім надпісам. І, як часта на Беларусі, прасніцы з валынскага і аўручскага каменя, самшытавыя грабеньчыкі (гэта Каўказ). І, вядома, зброя, ганчарства, вырабы ліцейшчыкаў і гарбароў.

Вось на гэтай узгоркавай сямейцы, на Замку, аддзеленым ад Траецкай і Могільнікавай гор глыбокімі равамі, ды на Дзявочай і ўзнікла ў спрадвечныя язычаскія часы спачатку людское паселішча, а пасля і горад Мсціслаў.

У XII стагоддзі (1136 год) упамінаецца ён як горад Смаленскага княства ў грамаце князя Расціслава Мсціславіча. У 1156 годзе яго, як умацаванае месца, упамінае Іпацьеўскі летапіс.

Месца было амаль непрыступнае. Ляжала на досыць бяспечнай гандлёвай дарозе (Сож і ягоны басейн ляжаў у межах Смаленскага княства, а купцоў, што плылі Дняпром, маглі абрабаваць, а то і забіць і смаляне і шалёныя, буяныя жыхары магутнага Полацкага княства, для якіх на першым месцы была смеласць, а закон — на другім). Месца ахоўвала з паўднёвага захаду шлях на Смаленск. Месца ляжала, як на той час, менавіта там, дзе трэба, і таму хутка вырастала, рабілася горадам моцным, слаўным, упрыгожаным.

У ім ужо ёсць багаты дзяцінец, мураваныя і драў-

ляныя цэрквы, калі Смаленскі князь Раман Расціслававіч дае яго ва ўдзел сыну Мсціславу. Гэта 1180 год, год пачатку Мсціслаўскага княства. Мсціславу падпарадкоўваюцца Чавусы, Чэрыкаў, Радамля, Расна, Праношаск, Расціслаў. І князі яго — з роду Манамаха.

Толькі не дужа шанцавала гэтым князям. Мсціслаў Раманавіч, першы ўдзельны князь Мсціслаўскі, а пасля князь Смаленскі, стаў потым князем Кіеўскім і загінуў пасля першага сутыкнення з манголамі на рацэ Калцы ў 1224 годзе.

Дый самому гораду часамі шанцавала не дужа. З узнікненнем Вялікага княства Літоўскага ён апынуўся на юры, па памежжы паміж княствам і Смаленскай зямлёй. І тут ужо ён сербануў ліха спаўна, пераходзячы ад адных князёў да другіх, аж пакуль не апынуўся ў 1359 годзе — стала на пэўны, вядома, час — у складзе Вялікага княства. Вялікі князь Альгерд аддаў яго ва ўдзел сыну свайму Лугвену Сямёну. Князі літоўскія вельмі хутка аславяніліся, і князь Лугвен Сямён не быў выключэннем. Жывучы ў славянскім асяроддзі, укладаючы свой побыт на славянскі манер, прыняўшы праваслаўе, ажаніўшыся з дачкой Дзмітрыя Данскога (у год Кулікоўскай бітвы, дарэчы), ён і гаварыў і выдаваў свае граматы па-старабеларуску. У тым жа 1380 годзе засноўвае ў наваколлі Мсціслава Пустынскі манастыр. А ў 1407 годзе засноўвае Ануфрыеўскі манастыр, а ў 1410 годзе сын яго Юры змагаецца пад Грунвальдам. А ў XV—XVI стагоддзях зноў точацца войны, палаюць гарады, з-за дынастычнай бязглуздзіцы, з-за ўсобіцы і ўладалюбства князёў, каралёў і цароў многімі тысячамі гінулі аршанскія, полацкія, маскоўскія, мсціслаўскія хлопцы. Аратаі, рамеснікі, кніжнікі, майстры. Залатыя чалавечыя рукі! Замест таго каб ствараць,— яны бяруць меч і забіваюць.

І гэта ў той час, калі адзіна святы і стакрат блаславёны толькі той меч, што ўзняты на абарону роднай страхі, родных муроў, роднага ачага.

На шчасце, Мсціславу ёсць чым ганарыцца і тут. Яму давялося трымаць у руках меч высакароднай і праведнай вайны за айчыну і за самое існаванне роднага племя.

Здарылася гэта на самым пачатку XV стагоддзя.

Тады вялікая бяда звалілася на землі славян. Ішоў Тэўтонскі ордэн, ставячы пад пагрозу не толькі мову, свабоду і гонар, але і самое існаванне славян. З боку рыцараў зачэпкай вайны 1409—1414 гадоў было тое, што Жмудзь упарта трымалася язычаства. Але немцы лічылі не меншымі язычнікамі не толькі праваслаўных, але і католікаў.

Жмудзь паўстала. З яе земляў даляцеў адчайны, перадсмяротны лямант аб дапамозе:

«Выслухайце нас, прыгнечаных, змучаных... Ордэн не шукае душаў нашых для бога, ён шукае земляў нашых для сябе, ён нас давёў да таго, што мы павінны або хадзіць з торбамі, або разбойнічаць, каб было чым жыць. Як яны пасля таго... пасмельваюцца хрысціць? Хто хоча іншых умываць, павінен быць сам чысты. Усё... у нас забралі: штогод звозілі дзяцей нашых да сябе ў заложнікі, старэйшынь нашых завезлі ў Прусію, іншых з усім родам агнём спалілі — а яшчэ крыж святы на адзенні носяць. Злітуйцеся з нас!.. успомніце, што мы людзі ж, створаныя па вобразе і падабенству божыю, а не зверы якія...»

Войскі польскага караля Ягайлы (50 харугваў) і літоўскага вялікага князя Вітаўта перайшлі межы ордэна і 15 ліпеня сутыкнуліся пад вёскай Грунвальд.

Грунвальд.

У рыцараў перавага. Бо яны ад патыліцы да пятак захутаны ў сталь. Бо пусціць нават трох ратнікаў на аднаго рыцара азначала прыблізна тое самае, што пусціць трох воінаў з вінтоўкамі на танк.

У склад войска Вялікага княства Літоўскага ўваходзілі харугвы Берасцейская, Ваўкавыская, Лідская, Навагрудская, Гародзенская і іншыя. Князь Мсціслаўскі Сямён Аўген кіраваў так званымі рускімі (часам іх з часоў Салаўёва, невядома чаму, называюць яшчэ «смаленскімі») харугвамі. Гэта значыць — Полацкай, Віцебскай, Смаленскай, Мсціслаўскай.

Іхняй стойкасці, таму, што яны стаялі насмерць у той час, калі цяжкая кавалерыя ордэна пацясніла атрады Вялікага княства, абавязаныя былі Вітаўт і Ягайла, тым, што мелі час ачухацца, акрыяць, сабраць сілы і нанесці рашучы ўдар, абкружыць і знішчыць армію ордэна, нягледзячы на яе сілу, мужнасць, ваенны вопыт і дасканалае валоданне мастацтвам вайны. Каля 40 000 забітымі і 15 000 узятымі ў палон,

увесь абоз страцілі рыцары, і сам магістр Ульрых фон Юнгінген быў забіты ў сечы. Самое існаванне Тэўтонскага ордэна пасля Грунвальда ператварылася ў паволыную агонію.

Мсціслаўцам і іхняму Мсціслаўскаму князю няма чаго саромецца сваіх паводзін на полі гэтай бітвы. Наадварот, гэта іхнія мячы разам з мячамі суседзяў кавалі перамогу і здабылі ёю ўратаванне свету славян.

Мсціслаўскі князь, дарэчы, вызначыўся воінскімі талентамі не толькі тут, а і да Грунвальда (1392), разбіўшы шведаў па Няве, і пасля Грунвальда (1411), калі ён на чале ноўгарадцаў зноў хадзіў на шведаў, помсцячы ім за набег, сёлы паваяваў і спаліў і ўзяў вонкавыя ўмацаванні горада Выбарга.

Але гэта рэчы лакальныя. Вяршыняй ягонай мужнасці і мужнасці мсціслаўцаў, безумоўна, быў Грунвальд, адна з тых бітваў, у якіх славяне былі ўратаваны ад рабства і знікнення, у якіх яны былі ўзвялічаныя і зберажоныя, як каштоўнасць і этнічная велічыня.

І сын ягоны, Юры, быў услаўлены, як многія мужы горада.

Унучка Юрыя пайшла замуж за князя Жэслаўскага (Заслаўскага), якому разам з родам быў нададзены тытул князёў Мсціслаўскіх. Але Міхал Жэслаўскі быў апошні Мсціслаўскі князь. Старэйшы сын ягоны памёр, а малодшы, Хведар, у 1526 годзе ад'ехаў у Маскву (унук ягоны, таксама Хведар, стаяў за самазванца, пасля ўдзельнічаў у змове супраць яго, ваяваў супраць паўстанцаў І. Балотнікава, узначальваў так званую семібаяршчыну, выбіраў каралевіча Уладзіслава рускім царом, але й пры Міхаіле Раманаве застаўся ў першых саноўніках: на ім род Мсціслаўскіх скончыўся).

Што ж датычыцца Міхаіла, дзеда ягонага, то ён усынавіў каралевіча польскага Сігізмунда, будучага караля Сігізмунда Аўгуста, і такім чынам кончылася Мсціслаўскае княства, і ў 1528 годзе горад стаў каралеўскай воласцю, пад уладай старостаў, а ў 1569 годзе, пасля адміністрацыйнай рэформы, зрабіўся галоўным горадам Мсціслаўскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Спачатку складалася яно з аднаго павета, Мсціслаўскага, а ў першай палове

XVII стагоддзя былі створаны ў нашым ваяводстве паветы: Крычаўскі, Магілёўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі.

У 1569 годзе кароль Уладзіслаў IV даў галоўнаму гораду ваяводства магдэбургскае права. Быў створаны магістрат. Першым войтам горада стаў Язэп Корсак. Гораду была дадзена пячаць і першы сапраўдны герб: меч і шчыт пад ім.

Мсціслаў XVI—XVII стагоддзяў — вялікі горад, які вядзе гандаль з Захадам і Усходам. Менавіта тады ён налічвае 30 тысяч жыхароў і тэрыторыя ягоная дасягае прыроднага, так званага Цялячага рова, што акружаў горад з поўдня і, працягнуўшыся на дзесяць вёрст, выходзіў на заходняй гарадской ускраіне да Віхры. Менавіта тады, у канцы шаснаццатага і ў семнаццатым стагоддзі, пачалі, як грыбы, вырастаць камяніцы, касцёлы і кляштары.

Умацаванні гэтага «Вялікага горада» былі, як на той час, вельмі моцныя.

Вежа-данжон пасярэдзіне Замчышча.

Па перыметры замчышча — вал вышынёй у два з паловай метры, увянчаны сцяной-вастраколам з бярвенняў. Вышыні яе і колькасці вежаў на ёй мы не ведаем (раскапаная толькі нязначная частка Замчышча). Дый не яна і не вал былі галоўнай перашкодай ворагу. Галоўнай перашкодай былі яры, над якімі ўзвышаліся вал і сцяна.

Шырынёю ў 60—100 метраў (закідаць іх практычна немагчыма нават для сучаснай тэхнікі) і глыбінёй у 25 метраў яны ўражаюць і зараз. І зараз жудасна, стоячы на вале, глядзець уніз. Амаль стромыя адхоны пад нагамі. А калі за імі сачылі, падсыпалі, раўнялі і, магчыма, забівалі ў схіл нахіленыя ў бок ворага вастраколы, гэта была, мабыць, амаль адвесная прорва, узлезці на якую чалавеку, абцяжаранаму кальчугай, было неймаверна цяжка.

Тым больш што на месцы цяперашняга ўз'езду на Замчышча таксама быў яр і над ім пад'ёмны мост. І гэты прыродны роў запаўняўся яшчэ вадою з магутных тады крыніц Здароўца.

Адчынілася брама замчышча. Адгучаў пад нагамі пад'ёмны мост над прорвай.

Вакол — горад са шматлікімі цэрквамі, касцёламі, крамамі. Ад брамы Замчышча да яра, які абкружае горад, і валоў на ім — радыяльна разыходзяцца ча-

тыры вуліцы да чатырох гарадскіх брам: Троіцкай, Апанасаўскай, Спаскай і Пацоўскай.

І вакол манастыры-крэпасці, якія прыкрываюць падступы да горада. Скажам, той жа Пустынскі, той жа Ануфрыеўскі.

Горад вартуе, горад не спіць.

...Пра будаўніцтва і тагачасную архітэктуру мсціслаўскую я раскажу ў свой час, а пакуль што трэба пагаварыць пра асноўныя вехі гісторыі Мсціслава тых часоў. На жаль, гэта будзе пераважна гісторыя войнаў, пажараў, аблог, загібелі многіх і многіх людзей. Было мноства дробных сутычак, былі і больш буйныя сечы.

Трынаццаць год (1654—1667 гг.) цягнулася вайна між Масковіяй і Рэччу Паспалітай.

У маі 1654 года рушыла ад Бранска на Мсціслаў маскоўскае войска на чале з князем А. М. Трубяцкім. На світанку 22 (па некаторых звестках 12) ліпеня Мсціслаў быў абложаны. Аблажнікі разгрямілі яго, пад гарачую руку, учыніўшы так званую «трубяцкую разню».

Пра гэта і гаворыць фрэска XVII стагоддзя на гэтую тэму ў Мсціслаўскім Кармяліцкім касцёле. На ўсіх археалагічных раскопах Замчышча, ніжэй сучасных гародаў ідзе таўшчэзны, магутны пласт разбурэння, друзу і вугалю, рэчаў XVII стагоддзя, чыгунных і каменных ядраў, зруйнаваных дамоў з багатымі кафлянымі печкамі і г. д.

Пра кафлі я ўпамянуў не так сабе. Іх вывезлі. А паколькі Мсціслаў славіўся на ўвесь свет перш за ўсё майстрамі «цанінных справы», тымі, што ведалі сакрэты вырабу кафеляў, і дойлідамі, то перш за ўсё вывезлі менавіта іх. Я раскажу пра гэта больш падрабязна, гаворачы пра Сцяпана Палубеса, пра іншых майстроў і справы іхняга жыцця.

Зусім непадалёк ад Мсціслава, у цяперашняй Смаленскай вобласці, у вёсцы Андрусава, быў урэшце ў 1667 годзе ўкладзены мір. Мсціслаў застаўся за Рэччу Паспалітай.

Горад так і не аправіўся да канца ад разгрому. Рос, праўда, ён, расло і яго насельніцтва, але замак і многія храмы ляжалі ў руінах, і ранейшага багацця і бляску ён так ніколі і не дасягнуў. Тым больш што вайна не абмінала яго і пасля.

Паўночная вайна са шведамі прагрукатала навалай таксама праз Мсціслаўскае ваяводства. І Левенгаўпт ішоў праз Мсціслаўшчыну, і Пётр І. Напярэдадні бітвы са шведамі 30 жніўня 1708 года ля сяла Добрае (16 кіламетраў ад Мсціслава) горад наведаў Пётр І.

Тут нарадзіліся Мсціславец, Гарэцкі, Прахаў, Насовіч, людзі, якія сапраўды праславілі горад і зямлю мсціслаўскую.

Вынікам работы гэтых людзей былі разумныя і добрыя кнігі, вынікам «наведвання» другога была бітва пад Добрым (заспелі ворага ноччу, нечакана), у якой шведы, пасупраціўляўшыся дзве гадзіны, пакінулі на полі бою тры тысячы забітых, сцягі, мноства параненых.

Пасля скончылася і Паўночная вайна. Горад жыў сабе і жыў, але пакуль што яшчэ не стаў глухой правінцыяй.

Будавалі і гандлявалі, хаця і зменшылася колькасць рамеснікаў і майстроў.

Васемнаццатае стагоддзе ў гісторыі Мсціслава ўжо амаль не мае гераічных, гучных старонак. Горад ужо не вяршыць лёсаў гісторыі, горад нібы на мяжы летаргічнага сну, ён жыве, як многія і многія гарады правінцыяльнай Рэчы Паспалітай. Памалу будуе, памалу гандлюе. Людзі нібыта прывыклі да ўсяго на шляхах страшнай, крывавай і несправядлівай сваёй гісторыі і, перш за ўсё, звыкнуліся амаль абыякава пераносіць свае пакуты і прымушаць іншых.

Мсціслаў не быў выключэннем з правіл. Тое самае рабілася і ў іншых мясцінах.

У 1772 годзе, па першым падзеле Рэчы Паспалітай, Мсціслаў адыходзіць да Расійскае імперыі.

У 1777 годзе горад прызначаецца цэнтрам Мсціслаўскага павета Магілёўскай, потым Бранскай, потым зноў Магілёўскай губерні, а ў 1781 годзе атрымоўвае новы герб (уласна кажучы, герб-здзек): шчыт, а ў ніжняй частцы бяжыць па зялёнай траўцы лісіца.

Калі гэтым намякалі на жывёльны свет Мсціслаўшчыны, то лісаў там, па-мойму, столькі ж, колькі і паўсюль на Беларусі, а калі гэтым намякалі на пэўную хітрасць, спрыт і абаротнасць мсціслаўцаў (кажуць жа, што «мсціслаўцы не паміраюць на сваёй

лаўцы»), то не адны яны такія былі, і нашто было знеслаўляць іх такім гербам на ўсю Расійскую імперыю, калі быў у іхнім гербе меч і шчыт, калі славіліся яны не толькі гандлёвым спрытам і ўменнем сяк-так выкруціцца з цяжкіх абставін, але і мужнасцю, стойкасцю ў войнах.

І так зажыў Мсціслаў горадам павятовым. Жыццё ягонае ў XIX стагоддзі можна было б назваць нават дрымотным, каб не дзве акалічнасці. Першая: як і раней, не абыходзілі яго бокам розныя навалы і войны. Другая: рэдка які павятовы горад даў Беларусі і ўсёй Расіі так зайздросна многа славутых і высакародных людзей: вучоных (гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, лінгвістаў, мастакоў, пісьменнікаў). Аб іх я скажу ў сваім месцы. Цяпер жа — аб грамадскіх патрасеннях.

Не абмінула горада і вайна з Напалеонам 1812 года.

Баграціён ішоў праз Мсціслаў пад Смаленск. Яму ўдалося дзе прарвацца, а дзе і праслізнуць праз французскае войска і злучыцца са сваімі асноўнымі сіламі. Горад занялі французы. Але ён ляжаў на ўзбочыне ад мясцін галоўных бітваў. Калі французская армія адступала, гараджане напалі на французаў у Зарэччы, пабілі частку, а частку прымусілі бегчы.

Увогуле горад на працягу XIX стагоддзя не тое каб перажываў занепад, а проста жыў так сабе, сяк-так. Паменела каменных будынкаў, стала менш жыхароў (першы прызнак гэтага на тыя часы — змяншэнне колькасці цэркваў: зніклі сярэдневяковыя цэрквы Іллінская, Багаслоўская, Апанасаўская, Прэабражэнская, Мікольская, зніклі кармеліцкі і бернардынскі кляштары), і вельмі паменела сярод гараджан, як і паўсюль на Беларусі, пісьменных людзей.

Ведаю, што мае дадзеныя крыху не супадуць з дадзенымі сучаснай кароткай энцыклапедыі, але я бяру энцыклапедыі тых часоў. А згодна іх, у Мсціславе па перапісе 1896 года лічылася 8467 чалавек (з іх 38 працэнтаў пісьменных, 62 працэнты непісьменных). Шлюбаў сорак, нованароджаных 272 (146 хлопцаў і 126 дзяўчынак), памерла 126, прырост 146. Так званых «фабрык і заводаў» 13 з 35 рабочымі і вытворчасцю на суму 20 687 рублёў. Бальніц 3, багадзельняў 4, гарадское трохкласнае вучылішча,

парафіяльнае і духоўнае вучылішчы, 3 бібліятэкі, 2 кніжныя крамы.

Заводы былі вапенныя, гарбарныя, свечныя, піваварныя і мылаварныя, 4 цагельні, 2 млыны, 6 крупадзёрак, 2 маслабойні.

У 1889—1902 гадах выходзіла першая мсціслаўская штотыднёвая газета «Белорусский комиссионер».

Першая сацыял-дэмакратычная група рабочых-іскраўцаў узнікала ў 1903 годзе і ў 1905 годзе, у маі, афармілася ў Мсціслаўскую арганізацыю РСДРП. Уваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП(б). Налічвала ў канцы 1905 года 61 чалавек.

Распаўсюджвала нелегальныя лістоўкі і брашуры, вяла агітацыю (была звязана з Магілёўскай арганізацыяй, Смаленскім камітэтам РСДРП, з Замежным бальшавіцкім цэнтрам), у 1905 годзе арганізавала двухтыднёвую забастоўку рамеснікаў і рабочых майстэрняў Мсціслава. 1 мая 1906 года правяла дэманстрацыю працоўных і мітынг каля муроў Тупічэўскага манастыра. Вынікам яе агітацыі былі дзесяць сялянскіх выступленняў на працягу 1905—1906 гадоў. На падаўленне іх даслана была пяхота, казакі і паліцыя. З падаўленнем першай рэвалюцыі аслабнула і дзейнасць арганізацыі, якая крыху ажывілася толькі недзе каля 1910 года, пасля чаго звестак пра яе аж да лютага 1917 года не было.

Падзеі пачатку XX стагоддзя, хочаш не хочаш, трэба падаваць пункцірам. Звестак (у тым ліку статыстычных) мала, яны няпоўныя, а часам і няпэўныя. Таму можна гаварыць толькі пра рэчы несумненныя, а іх не так многа.

На пачатку XX стагоддзя ў Мсціславе ўжо былі мужчынская і жаночая гімназіі, чатырохкласнае духоўнае вучылішча, мужчынскае і жаночае ніжэйшыя вучылішчы, дзве царкоўна-парафіяльныя школы, пачатковае вучылішча пры Тупічэўскім манастыры і народнае вучылішча. У 1914 годзе сюды эвакуіравалі з Панявежа настаўніцкую семінарыю (на яе базе ў лістападзе 1925 года адкрыўся Мсціслаўскі педтэхнікум).

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ў горадзе пачала выходзіць газета «Мстиславский голос», у сакавіку гараджане разагналі царскую адміністра-

цыю, 15 мая быў арганізаваны першы прафсаюз рабочых і служачых, у лістападзе ўстаноўлена Савецкая ўлада, 10 снежня арганізавана РКП(б), 10 студзеня 1918 года ў гарадскім клубе-тэатры «Ратонда» на мітынгу рабочых, салдат і матросаў абвешчана стварэнне Часовага рэвалюцыйнага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а 24 студзеня 1918 года адбыўся першы павятовы з'езд Саветаў. У сакавіку 1918 года адбыўся другі павятовы з'езд Саветаў, на якім старшынёй выканкома абралі бальшавіка Ф. М. Малахоўскага, а павятовым камісарам А. Л. Юрчанка (у ліпені 1919 года ён стаў старшынёй выканкома).

Германская акупацыя захапіла частку Магілёўскай губерні, таму ў сакавіку 1918 года ў Мсціслаў перавялі выканком Магілёўскай губерні, губком РКП(б) і іншыя ўстановы.

У 1919 годзе Мсціслаў (як і ўся неакупіраваная частка Беларусі, аб'яднаная са Смаленскай губерняй) увайшоў у склад РСФСР, а 3 сакавіка 1924 года адышоў зноў да БССР у адпаведнасці з пастановай Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта.

Але пра гэта, можа, і хопіць. Я не пішу гісторыі, і не трэба тут змяшчаць звестак, якія можна атрымаць, раскрыўшы кожную энцыклапедыю і амаль кожны даведнік. А я тут пастараюся расказаць аб тым, што не ўвайшло або толькі часткова ўвайшло ў даведачную літаратуру, аб тым, што сабрана з розных крыніц, што калісьці чытаў або чуў, што сабрана адусюль па зернейку. Пра тое, на паўторнае збіранне чаго ў чытача можа не хапіць часу, ахвоты або магчымасці.

...Горад фарміраваўся ў сівую даўніну на паўдзённых узгор'ях Смаленскага ўзвышша, як было ўжо сказана, наваколл Замкавай, Троіцкай і Дзявочай гор.

Адгор'і гэтыя невысокія (да 239 метраў над узроўнем мора), лагодныя, клімат мяккі, колькасць ападкаў дастатковая, глебы добрыя. Плывуць па гэтай зямлі Сож, Віхра, Натапа і іншыя рэкі і рачулкі. Пад лесам зараз 14,4 працэнта плошчы. Ёсць радовішчы фасфарытаў, крэйды, цагельнай сыравіны.

І вось узнікаюць на гэтай ласкавай зямлі паселішча, а потым горад, жыве і развіваецца, як кожны жывы арганізм, ведае перыяды заняпаду і ўзнясення, бурыцца і зноў будуецца.

Мы можам толькі ўскосна меркаваць пра тое, як выглядаў горад у XII — XIII стагоддзях. Равы, валы намякаюць нам на гэта. Ну і рэшткі нейкай царквы той эпохі. Бо знойдзеныя былі паліваныя пліткі падлогі, кавалкі звана, частка свінцовага даху. І плінфы — тонкія і вялікія цагліны, з якіх будавалі палацы і храмы ва ўсіх усходнеславянскіх землях аж да часу мангольскага нашэсця.

Сучасны сілуэт горада складаюць будынкі значна больш познія. Гэта цэрквы Крыжаўздвіжанская, Троіцкая (зберагліся ў фрагментах), асабліва манументальныя касцёлы і кляштары. Гэта ўжо ў XVII—XVIII стагоддзях. Будуюць на пачатку XVII стагоддзя касцёл, калегіі і аптэку езуіты, у цэнтры горада будуюцца дамінікане, а ў 1614 годзе карметы ўзводзяць на Замкавай гары свой касцёл, самы велічны ў Мсціславе. Праўда, наконт заснавання яго існуюць рознагалоссі. Некаторыя кажуць, што касцёл гэты быў пабудаваны ў 1637-м ці нават 1638 годзе. А некаторыя стаяць на тым, што заснаваны ён быў усё ж у 1614-м, а ў 1637-м да яго толькі прыбудавалі цёплую капліцу.

Гэты храм мог бы зрабіць гонар кожнаму гораду, тым больш што ў ім зберагліся фрэскі, у прыватнасці, вельмі рэдкія на Беларусі фрэскі на свецкія тэмы: штурм горада Трубяцкім і «трубяцкая разня». Зроблена гэта па свежых слядах здарэння, і зроблена здорава. Ды і ўвогуле храм уражвае кожнага і сваім вонкавым выглядам, і сваім інтэр'ерам. Будынак трывала і адначасова лёгка стаіць на зямлі. Ён нібыта і прысадзісты, але адначасова такі бязважкі, што душа разам з ім адрываецца ад зямлі, асабліва калі над вежамі ягонымі бягуць аблокі, і сам ты разам з храмам плывеш з імі некуды.

У 1746—1750 гадах касцёл рэканструяваў вядомы архітэктар Ян Крыштоф Глаўбіц, майстар барока, таго, позняга, у самай развітай ягонай форме. Ён перарабіў вярхі вежаў, галоўны фасад і дах. Да іншых работ Глаўбіца (1700—1767) належыць касцёл у Сталавічах і палац архіепіскапа ў Магілёве. Ён жа рэканструяваў Сафійскі сабор у Полацку. Значная частка работ Глаўбіца, на жаль, не збераглася.

Зараз Кармеліцкі касцёл у Мсціславе рэстаўруец-

ца. Работы, на жаль, ідуць павольна, нават занадта павольна. Мала кваліфікаваных работнікаў.

У 1626 годзе быў узведзены езуіцкі касцёл з кляштарам (таксама трохнефная, дзвюхвежавая базіліка), у 1842 годзе перароблена ў праваслаўны Мікалаеўскі сабор. Зараз гэты здаровы будынак моцна запушчаны, а не так жа яшчэ даўно тут быў Дом культуры. Храм, па-мойму, нават не пастаўлены пад ахову. А яго хапіла б яшчэ на пяцьсот год, і ўвесь гэты час яго можна было б выкарыстоўваць.

А то атрымоўваецца, што камяні адказваюць бакамі за ўчынкі людзей і за тыя ідэі, што жылі ў іхніх галовах. І атрымоўваецца, што сілы і грошы народныя выдаткуюцца марна ў барацьбе з міражамі.

Глядзіце самі. Вось стаяла ў цэнтры горада праваслаўная Афанасьеўская царква. Вось у 1772 годзе яна не спадабалася. Знеслі. Збудавалі на яе месцы Бернардынскі касцёл з кляштарам. Кацярына II, як мы ведаем, спачатку заігрывае нават з забароненым паўсюль езуіцкім ордэнам.

Па плане 1778 года на галоўную плошчу Мсціслава выходзяць езуіцкі касцёл (на яго арыентуецца восевая вуліца), Троіцкая царква і Бернардынскі кляштар, але ў 1831 годзе, пасля паўстання, большасці каталіцкіх і уніяцкіх храмаў зачынена ці перададзена праваслаўю.

А тут яшчэ пажар 1858 года крыху пашкодзіў Бернардынскі комплекс. Тады яго з лёгкім сэрцам разбіраюць, а на тым месцы будуюць царкву Аляксандра Неўскага. Добра, што нехта ў нашы дні падаў ідэю размясціць у ёй музей. А то чаго б прасцей — разабраць і на яе месцы зноў нешта ўзвесці.

Мы не павінны помсціць будынкам за тое, што рабілі ў жыцці людзі, якія іх узводзілі.

Скажу болей таго: некаторым рэчам мы павінны вучыцца нават у людзей, ідэі, жыццё, учынкі якіх нам агідныя і брыдкія. Чалавек, калі ён чалавек разумны, бярэ зерне добрай ідэі нават у ворага, скажу болей: нават у вылюдка, калі ў яго такая ідэя часам з'яўляецца. Іначай ён не заслугоўвае назвы чалавека разумнага. Растлумачу зноў жа на прыкладзе Мсціслава і ягоных камяніц. Мы не ведаем імён тых, хто будаваў у Мсціславе храмы і камяніцы аж да XVII стагоддзя, хто распісваў будынкі, упрыгожваў

іх разьбою. Як ні дзіўна, сярэдневяковае праваслаўе страшэнна абыякавае да творцы, да асобы, якая на яго працавала, да дойліда, майстра фрэскі і іконы, разьбяра. І так паўсюль. Трэба быць сямі пядзяў у лбе, каб заслужыць на ўпамінанне. А ўжо біяграфіі нават у Рублёва і Феафана Грэка лічы што няма. Творца знікае, раствараецца ў бязлікай масе, нібы ўсе гэтыя цудоўныя будынкі выраслі з зямлі, а роспісы і іконы ўзніклі самі сабой.

За пяцьсот год гісторыі Мсціслава, ад яго ўзнікнення, ніводнага імя. Ніводнага. Нібы жыццё і творчыя пакуты гэтых людзей на тое не заслугоўвалі.

Ёсць, аднак, і адно імя праваслаўнага мсціслаўскага майстра, якое дайшло да нас. Дайшло па Маскоўскіх крыніцах другой паловы XVII стагоддзя. І дайшло толькі таму, што справа, што мастацтва, майстрам якога ён быў, было для тагачаснай Масквы справай новай і дагэтуль небывалай.

Імя гэтага майстра Сцяпан Палубес. У Маскве яго называлі яшчэ Сцяпан Іваноў, але мы не ведаем, ці гэта было яго імя па бацьку, ці прозвішча. З аднаго боку, «вічыць», называць па бацьку, чалавека простага паходжання (і нават купца) у Маскве не было прынята, а на тагачаснай Беларусі не было прынята зусім. З другога боку, у дадзеным выпадку маглі зрабіць і выключэнне з правіла, надта ўжо незвычайным і рэдкім майстэрствам валодаў чалавек.

А ўмеў ён рабіць вясёлкавыя кафлі і шматкаляровыя рэльефы з маёлікі.

Мне могуць запярэчыць, што Маскоўская дзяржава ведала кафельнае рамяство і раней. Ну так, ведала, але менавіта і толькі як рамяство, а не майстэрства. Маскоўская кафля была ўкрытая празрыстай аднатоннай палівай, часцей за ўсё зялёнай, радзей бура-карычневай. Ішоў па кафлі арнамент, а таксама коннікі, птушкі, сцэны з казак, ваенныя сюжэты. Але гэты дробны аднатонны рэльеф не глядзеўся здалёк: так сабе, плямы і разводы, пісягі і незразумелыя завіткі.

Зблізку, на ляжанцы або грубцы, калі ласка, разглядай колькі хочаш. На грубкі гэтая кафля пераважна і ўжывалася.

Іншая справа кафля беларускіх (мсціслаўскіх, копыскіх і іншых) майстроў. Гэта кафля расфарба-

ваная непразрыстымі эмалямі і ў мностве колераў; зялёнае плецiва лісцяў, завіткі і візэрункі сцяблін, пабегаў, вусікаў на сінім і блакітным полі, залацістыя плямы «павіных вачэй», белыя і карычневыя іскры. Прычым гэта не толькі плоскія пліткі. Гэта карнізы, каляровыя, пукатыя пояскі, калоны, вычварна абвітыя хмелем або вінаграднай лазой.

Будынкі ззялі на сонцы, як вясёлка. І ззяюць зараз.

Гэтае беларускае, мсціслаўскае майстэрства мела даўнія традыцыі. Ніжняя царква і Каложа ў Гродні мелі ўмураваныя ў цэглу муроў паліраваныя рознакаляровыя валуны і паліваныя маялікавыя пліткі, што разам складала кветкі, колы, крыжы. У той жа час храмы Паўночна-Усходніх княстваў не карысталіся гэтай тэхнікай. Там храмы былі белакаменныя з белакаменнымі ж рэльефамі. Але і гэтая традыцыя была перарваная больш чым на стагоддзе мангольскім пагромам, калі на мураваныя будынкі ўвогуле не хапала ні сіл, ні сродкаў, ні, шчыра кажучы, жадання (нашто старацца, калі заўтра ўсё адно прыйдуць і разбураць).

А будаўнічая традыцыя княстваў Паўночна-Заходніх не была спыненая. Яна развівалася і ўдасканальвалася і вось у XVII стагоддзі прыйшла з Беларусі ў Маскву. Якраз тады, калі там пачалі асабліва цаніць вонкавую ўбранасць, багацце, шыкоўнасць і пышнасць, казачную вясёлкавасць будынка. Так што беларускія майстры кафлі, размаляванай яскравымі эмалямі, якраз прыдаліся да кампаніі і нават пачалі верхаводзіць у ёй. У прыватнасці, Ігнат Максімаў з Копысі і асабліва, як я ўжо казаў, мсціславец Сцяпан Палубес.

Мы не ведаем яго падрабязнай біяграфіі, не ведаем гадоў нараджэння і смерці, не ведаем, што ён рабіў у Мсціславе, з якога быў родам. Мы ведаем толькі ягоныя маскоўскія работы, якія праславілі яго.

Мы гаварылі ўжо, што пасля «разні» 1654 года князь Трубяцкі вывез у Маскву з Мсціслаўля гарадскіх майстроў, у ліку якіх быў і Сцяпан Палубес. Спачатку ён, відаць, працаваў на князя, пасля стаў царскім майстрам.

Упрыгожваў Уваскрасенскі сабор у Новым Іерусаліме, а з 1666 года зрабіўся майстрам Аружэйнай

палаты Маскоўскага Крамля. Разам з іншымі бе ларускімі майстрамі (з Копыся, Оршы і іншых гарадоў) аздабляў Пакроўскі сабор у Ізмайлаве (1674), рабіў фрызы царквы Грыгорыя Неакесарыйскага (1669), удзельнічаў у афармленні Церамнога палаца, Аптэкарскага прыказа і царквы Спаса за залатой рашоткай у Крамлі, стварыў шматкаляровыя маялікавыя рэльефы апосталаў для царквы Успення ў Ганчарах (1691), на якіх пануе гармонія карычневага, чорнага, сіняга, зялёнага і залатога колераў.

Гэта стараннямі ягоных рук расцвілі на мурах маскоўскіх палацаў і цэркваў кветкі, гроны, зёлкі, павіныя пер'і. Бліскучастая, вясёлкавая гульня святла і колераў. Залацістага, блакітнага, сіняга і колеру марской вады.

І вышэйшае, па-мойму, што ён стварыў, лазурны церам на Круціцкім падвор'і. Небывалая, лёгкая, сіняя казка, зірнуўшы на якую, лягчэй робіцца жыць. Дзіва, пабудаванае з нябеснага блакіту і месячнага святла.

Так, адзіны і небывалы ў сваім родзе, непераўзыдзены быў мсціслаўскі майстра Сцяпан Палубес.

На жаль, у родным ягоным горадзе не засталося нічога створанага ягонымі рукамі (замест гэтага ў раскопе тоўсты след пажарышча). Мала таго, сакрэт высокага мастацтва ягонага загінуў у войнах. А калі зірнеш на тую кафлю, на таго «кабанчыка», якім абкладаюць і «ўпрыгожваюць» муры дамоў сучасныя дойліды (не толькі мсціслаўскія),— хочацца адно махнуць рукою.

XVIII і XIX стагоддзі ў Мсціславе ўвогуле перыяд будаўнічага ўпадку. Рэгулярны план 1778 года з прамавугольнай сістэмай вуліц парушае традыцыі гарадской забудовы. Пасля архітэктары, як заўсёды, парушаюць і той план. Давяршаюць справу частыя пажары (асабліва моцныя ў 1858 і 1863 гадах). Пасля пажараў забудоўваюцца дзе і як хто хоча. На месцы плошчы разбіваюць бульвар (цяперашні бульвар разбіты ў 1863 годзе).

Пажары ўвогуле часта шкодзілі гораду. Пад час агульнагарадскога пажару 1858 года згарэў, напрыклад, не прастаяўшы і стагоддзя, царскі палац, узведзены для Кацярыны II пад час яе падарожжа ў Крым (Мсціслаў тады, у 1787 годзе, сустракаў

яе з вялікай помпай, прычым асабліва вялікая ўрачыстасць адбывалася ў Кармяліцкім касцёле).

Многія пабудовы пажэрлі войны, час, а найбольш нядбальства і варварскія адносіны людзей да свайго мінулага, да сваёй спадчыны, да продкаў сваіх. Так вось сабе зніклі многія цэрквы ў самім Мсціславе, манастыры ў наваколлі ягоным.

Тым больш трэба берагчы тое, што засталося. Хай сабе той жа царкве Аляксандра Неўскага толькі сто год — будзе і яна калісь узорам таго, як будавалі ў той час людзі, а пакуль няхай бы несла службу як музей.

Хай сабе ў Ануфрыеве ад былога манастырскага комплексу (а манастыр заснаваны ў 1407 годзе героем Грунвальда Лугвенам Альгердавічам) зберaглася адна толькі царква XVIII стагоддзя — яе позняе барока павінна яшчэ доўга радаваць людзей. Таксама як позняя, надзіва зграбная, тамтэйшая званіца.

Нічога нельга нішчыць. Ні Мікалаеўскага сабора з будынкам семінарыі, ні царквы Спасапраабражэння на могілках. Усё мае каштоўнасць — вялікую ці крыху меншую, але каштоўнасць — у будучым нашым жыцці.

Мы павінны шанаваць усё гэта як і позні (1906) будынак гімназіі, у якім вучыліся столькі карысных і нават вядомых сыноў і дачок нашай зямлі (у тым ліку паэт Аркадзь Куляшоў), як і мемарыяльныя будынкі. Бо не захочам жа мы, каб нашы нашчадкі з непавагаю ставіліся да пабудаванага намі і да нашых магіл. А іх тут многа. Асабліва з вайны. 6407 мсціслаўцаў. Магілы ў Шамаве, Лютні, Сяльцы, Капачах, Забалацці. 55, 152, 271, 216, 328, 331, 437, 147 чалавек... Стамляешся лічыць! А тут жа кожны раз сонца згасала. І як падумаеш, што з гэтых пагубленых людзей, сярод якіх былі юнакі і дзеці, мог бы вырасці новы Пётр Мсціславец, новы Максім Гарэцкі, новы Насовіч або нешта зусім на свеце небывалае, нейкі касманаўт або вялікі паэт, дый проста добры муж, добрая маці, добры дзед, добрыя работнікі — хоць ты сядай і плач.

Стэлы. Помнікі. А што памогуць стэлы і помнікі? Яны толькі памагаюць жывым крыху менш адчуваць сваю віну перад мёртвымі. Мабыць, галаву адкруціць трэба таму, хто паганіць магілу. І таго самага варты

той, хто паганіць або знішчае старую будыніну. Бо гэтым ён павялічвае віну нас, жывых, перад тымі, хто аджыў, хто смяяўся і плакаў, як мы, хто працаваў і будаваў, чые мары аб прыгажосці і шчасці жывуць у гэтых старых мурах.

...Розны бываў па колькасці жыхароў Мсціслаў у розныя часы сваёй гісторыі.

А трыццаць тысяч у ім жыло, і тысяча трыста (1780), і восем тысяч з паловай (1897), і дзевяць з паловай тысяч (1905). Але колькасць жыхароў яшчэ нікому ніколі і нічога не гаварыла і не гаворыць. Якія тут жылі і жывуць людзі, вось што галоўнае.

Калі б у мяне спыталі, якая рыса асабліва ўласціва жыхарам Мсціслаўскай зямлі, што асабліва вызначае іх сярод астатніх беларусаў, я перш за ўсё назваў бы не розум, не мяккасць і дабрыню, не гасціннасць, не іншыя агульнанародныя рысы. Перш за ўсё, бадай, я назваў бы ініцыятыўнасць, прадпрымальнасць, энергічнасць, дзейнасць і спрыт. Ужо якія толькі беды ні хадзілі па ягонай мсціслаўскай спіне, як толькі ні стараліся пазбавіць яго жыцця, а ён жыве і выжывае, стойкі і ўпарты, як дрэва на камені; ён выкруціцца — дзе мужнасцю, дзе сілай, а дзе й хітрасцю (што ўжо адмаўляцца) з самых невыгодных абставін, ды яшчэ й выйдзе з іх, на ўсеагульнае здзіўленне, не толькі з перамогаю, але і з некаторай прыбыллю, хай сабе маральнай.

Ходзячы аднойчы па вуліцах горада з двума паважанымі мсціслаўцамі, я ўздумаў падражніць іх. Успомніў пару выпадкаў, калі мсціслаўцы каралю жменю блох прадалі, успомніў, што «мсціслаўцы не паміраюць на сваёй лаўцы», прыпомніў, між іншым, як «недасекі» на працягу ста пяцідзесяці год аблапошвалі ўсю імперыю кубрачаствам.

— Гэта што?

— А хадзілі па імперыі з просьбітнымі кніжкамі (заверанымі ў начальства і ў свяшчэнніка). Збіралі грошы на адбудову пагарэлых і ўзвядзенне новых цэркваў.

— Ну і што?

— Ну, каб усе тыя грошы, што яны сабралі, пусціць у справу, то ў Мсціславе не сем цэркваў было б і не «сорак саракоў» (тысяча шэсцьсот), як у старажытнай Маскве, а мінімум шаснаццаць тысяч.

— Быць не можа.
— А вы зірніце ў «Расію», т. IX, ст. 397.

Крыху абзадачаныя, яны раздумвалі: надзьмуцца ім на мяне ці пусціць усю справу так, аж тут адзін з іх успомніў пра маю маці:

— Э, дык і вы ж таксама недасек.

— Ну так. Калі меркаваць па тым, што маці нарадзілася тут, і я таксама напалову недасек.

— Тады няхай,— прымірыліся яны.

І сапраўды, чаго крыўдаваць на твае жарцікі і кепікі, калі і ты сам не лепшы, ва ўсякім разе, сам напалову такі. Ну але жарты жартамі, а давайце прыпомнім хаця некаторых людзей, якія даў Беларусі (і ўсяму свету) маленькі Мсціслаў і яго бліжэйшае наваколле. Таму што востры Мсціслаўскі розум, хватка, кемнасць, дзелавітасць заўсёды былі накіраваныя, але найбольш на карысць чалавеку і на ягоны поступ наперад.

Пра дойлідаў і мастакоў, у прыватнасці, пра Сцяпана Палубеса мы ўжо гаварылі. Давайце цяпер пагаворым пра людзей асветы, думкі, навукі і культуры.

І, перш за ўсё, увогуле пра мсціслаўскую пісьменнасць.

Доўгі час існавала думка, што на ўсходнеславянскіх землях пісьменнае было ці не адно толькі духоўнае саслоўе, ну і хіба частка самых вярхоў грамадства. Яно і праўда: пергамент рэч дарагая, амаль недаступная для сярэдняга чалавека. Пергаментныя кнігі XI — XII стагоддзяў дайшлі да нас у адзінкавых, па пальцах можна пералічыць, экзэмплярах. Адсюль вывад: насельніцтва было малапісьменнае.

Такая думка панавала аж да 1951 года, калі археолагі знайшлі ў Ноўгарадзе першую берасцяную грамату. Цяпер іх знойдзена там 588. Значыць, не былі рэдкасцю пісьменныя людзі. Значыць, для штодзённых сваіх патрэб людзі сярэдняй заможнасці карысталіся бяростай. Але ці была такая распаўсюджаная пісьменнасць асаблівасцю толькі адной Ноўгарадскай гандлёвай рэспублікі? Выявілася, што не. Проста асаблівасці паўночнай ноўгарадскай глебы лепш зберагалі бяросту. Але з цягам часу берасцяныя граматы былі знойдзены ў Смаленску, Старой Русе, Пскове.

Потым загаварыла беларуская зямля. У 1959 годзе

была знойдзена берасцяная грамата XIII стагоддзя ў Віцебску. Мсціслаў быў другі беларускі горад, дзе ў 1980 годзе таксама знайшлі такую грамату. Яна ляжала ніжэй сёмага бярвенчатага вулічнага насцілу. Машчэнне гэтае датуецца 1249 годам, і значыць, пісалі грамату раней, недзе ў першае трыццацігоддзе XIII стагоддзя.

Грамата гэтая дайшла да нас не цэлая. Гэта, узнёсла кажучы, невялікі ўрывак, тэкст якога паддаецца прачытанню з цяжкасцю і сэнс якога цьмяны. Ва ўсякім разе, гэта дзелавы дакумент (большасць берасцяных грамат гаворыць менавіта аб прыватным жыцці людзей, аб іхніх справах, пакупках, даручэннях: гэта просьбы, загады зрабіць нешта і нават прапановы рукі і сэрца), у якім размова ідзе пра пшаніцу, палупяць грыўняў і пра нейкага Сямёна. Што нарабіў гэты Сямён з пшаніцай і грашыма, для нас, напэўна, так і застаецца невядомым. Але гэта, відаць, дакумент пра закупку пшаніцы, прычым на досыць буйную суму. Што здарылася тады? Куплялі збожжа таму, што быў недарод (а з усіх тагачасных недародаў Мсціслаў закрануў толькі недарод у 1219 годзе). Рабілі запасы на выпадак магчымай вайны з кімсьці? Здарылася яшчэ нешта? Гэтага мы не даведаемся таксама. Але для нас нязмерна важлівы ўжо сам факт знаходжання граматы, як і знаходжанне шывернага колца з незразумелымі літарамі на ім, як і тое, што знойдзена было металічнае пісала, якім выціскалі літары на бяросце (для адной граматы яго заводзіць бы не сталі), значыць, іх было шмат, значыць, іншых грамат мы проста пакуль што не знайшлі.

Бязмерна важлівы, бо праз бяросту гаворыць з намі не афіцыйная, а прыватная, асабістая гісторыя нашых продкаў, паўсядзённая, шырока распаўсюджаная іхняя пісьменнасць. На кожны час, на кожную нязначную патрэбу. Не загад палкаводцу ці паслу, а «сарочку забыла», «прадай адзенне і купі жыта», «выйдзі за мяне замуж», і нават вось гэтая незразумелая нам галаваломка пра грошы, пшаніцу і нейкім чынам звязанага з імі Сямёна, якога ўжо даўно няма на свеце і які, аднак, наш сабрат па роду чалавечаму.

Здаўна-давён пісьменны Мсціслаў мае яшчэ адну неацэнную заслугу перад усходнеславянскай кніж-

насцю. Тут нарадзіўся Пётр Цімафееў Мсціславец, друкар, заснавальнік, разам з Іванам Фёдаравым, першай друкарні ў Маскве. Мы не ведаем года яго нараджэння і смерці, не ведаем, дзе ён вучыўся друкарскай справе, на радзіме ці яшчэ недзе (друкаваная старажытнабеларуская кніга лічыла тады за сабою ўжо амаль палову стагоддзя). Адзіныя вехі ягонага жыцця — гэта кнігі, выдадзеныя ім.

Нарадзіўся недзе, мабыць, у першай чвэрці XVI стагоддзя. Разам з Фёдаравым заснаваў у Маскве друкарню, у якой у красавіку 1563 года прыступілі яны да набору першай маскоўскай кнігі, «Апостала». Скончылі яе друкаванне 1 сакавіка наступнага года. Праз год выдалі два выданні «Часоўніка». І — не першыя і не апошнія — вымушаны былі пад напорам цёмнай чэрні, падбухторанай перапісчыкамі і цемрашаламі з вярхоў, як духоўных, так і свецкіх, бегчы з Масквы ў Заблудаў, непадалёку ад Супрасля. Заблудаў належаў гетману Вялікага княства Літоўскага Рыгору Хадкевічу, які дапамог ім заснаваць там друкарню і надрукаваць «Евангелле вучыцельнае» (выйшла 17 сакавіка 1569 года) і «Псалтыр» (выйшаў у 1570 годзе). Ёсць звесткі, што, па прыкладзе Скарыны, нашы майстры хацелі выдаць усё гэта ў перакладзе на простую мову, «каб научение людем... ширилося». Чамусьці гэта не атрымалася. А шкада.

У 1569 годзе Мсціславец пераязджае ў Вільню на запрашэнне віленскіх купцоў, братоў Мамонічаў і братоў Зарэцкіх (Івана — скарбніка Вялікага княства Літоўскага і Зянова, бурмістра Віленскага). Там ён будуе паперню і друкуе «Евангелле напрастольнае», потым «Часоўнік» і «Псалтыр», у пасляслоўі да якога ваюе за прасвету супраць невуцтва (тады па «Псалтыры», часцей за ўсё, людзі вучыліся чытаць).

Гэта кнігі выключнага паліграфічнага майстэрства: прыгожы шрыфт, буйны і ясны, нібы спецыяльна для таго, хто вучыцца, гравюры мастацкія, арнамент прыгожы. Кнігу, апрача ўсяго іншага, нават проста прыемна ўзяць у рукі і цешыцца з яе. Яна прыцягвае да сябе. Ужо тады наш мсціслаўскі асветнік разумеў гэта.

Недзе пасля 1580 года Пётр Мсціславец памёр. Што мы ведаем пра яго? Ведаем толькі ягоную спра-

ву: кнігі, якія неслі святло тысячам людзей. Гэты чалавек прадоўжыў друкарскую справу на тэрыторыі Беларусі, быў адным з двах заснавальнікаў друкаванага кніжніцтва на Маскоўскай Русі і (паколькі шрыфтамі ягонымі карысталіся Дзерманская, Астрожская і іншыя друкарні) заснавальнікам друкарніцтва таксама і на Украіне.

Мы чытаем больш за ўсіх у свеце, то, згадзіцеся, што тут немалая заслуга ўсходнеславянскіх першадрукароў.

Францыска Скарыны. З Полацка.

Івана Фёдарава. Радзіма невядомая.

Пятра Цімафеева Мсціслаўца. З Мсціслава.

Па-мойму, гэта зусім не так мала. І каб малы Мсціслаў нават нікога больш не даў чалавецтву — хапіла б і гэтага, каб людзі засталіся навекі ўдзячныя яму. І, як слабую даніну падзякі, паставілі б Пятру Мсціслаўцу помнік у ягоным родным горадзе. Помнік, які пакуль што ўзвышаецца толькі ў сэрцах жыхароў Мсціслава.

Давайце будзем называць уразбіўку людзей больш і менш па маштабах іхняй дзейнасці. Бо няма вялікіх і малых працаўнікоў у чалавецтва, бо кожны, хто шчыра служыць яму і прыносіць яму карысць, заслугоўвае нашу павагу і памяць.

Адным з вядомых публіцыстаў і вучоных-гаспадарнікаў сярэдзіны XIX стагоддзя быў Іван Іванавіч Сердзюкоў, гаспадар маёнтка Кудрычы на Мсціслаўшчыне. Сам ён быў з Украіны і прывёз у Кудрычы з Палтаўшчыны 25 мужчын і 25 жанчын, якія і склалі ядро гаспадаркі. Ён, вядома, не быў такім асветнікам і дэмакратам-народнікам, як, напрыклад, А. Н. Энгельгардт, якога ведаў Маркс і высока ацэньваў Ленін.

Аднак аб'ектыўна атрымалася так, што ён, яшчэ напярэдадні прыгоннай рэформы, павёў гаспадарку па шляху такой эвалюцыі, у якой ужо вельмі прыкметныя былі капіталістычныя рысы.

Будаваліся млыны, гаспадарчыя пабудовы, разрабляліся культурныя лугі, капаліся асушальныя (і паліўныя) канавы, расцяробліваліся аборкі, павялічвалася жывёлагадоўля, спрабавалася новае палyводства, уводзіліся штучныя ўгнаенні.

У «Земляробчай газеце» і асобна з'яўляліся працы

Сердзюкова (называю толькі малую частку) «О ценах на сельские произведения», «О болезни овец», «О белорусском хозяйстве», высока ацэнена «О скотоводстве», «Испорченное и поправленное хозяйство», «Народные приметы и метеорология», большой труд «Очерки хозяйства моего», «Климатология мстиславского уезда» і ўдастоенае ганаровым водгукам вучонага камітэта Міністэрства Дзяржаўных Маёмасцяў «Описание Мстиславского уезда».

Ва ўсякім разе, гэта не быў пан-паразіт, гэта быў інтэлігент, які сеў на зямлі і думаў не толькі пра сваю гаспадарку, але і ўвогуле пра карысць сваёй зямлі. Пісаў і падаваў дзяржаўныя праекты, на якія, як заўсёды, мала звярталі ўвагі, будаваў шашу ў Крычаве «паміж Сожам і Чорнай рэчкай».

Ну а для душы напісаў па-ўкраінску некалькі камедый, аперэт, склаў «Маларасійскі слоўнік».

З яго сям'і выйшла пасля некалькі значных вучоных.

Мсціслаўскае поле было ўвогуле ўрадлівае на вучоных. Вельмі значнымі вучонымі былі, напрыклад, у XIX стагоддзі браты Кутаргі. Сцяпан Сямёнавіч (нарадзіўся ў 1805 годзе ў Мсціславе, у сям'і павятовага чыноўніка, памёр у 1886 годзе) і брат ягоны Міхаіл Сямёнавіч (1809—1886 гг.) С. С. Кутарга, вучоны-прыродазнаўца, заолаг і геолаг, вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце і дактарантуры Дэрптскага універсітэта. Доктар медыцыны (1832), прафесар заалогіі Пецярбургскага універсітэта (1833), старшыня Пецярбургскага мінералагічнага таварыства. У 1852 годзе за падрабязную геалагічную карту Пецярбургскай губерні быў удастоены Дзямідаўскай прэміі. Асабліва каштоўнымі, акрамя гэтай, яшчэ ягоныя работы па Фінляндыі. І яшчэ: ніякі даследчык пермскіх асадкаў Урала дагэтуль не можа абысці ягоныя работы.

Ну і яшчэ адно. Ён першы ў Расіі, ужо праз год пасля выхаду кнігі Чарлза Дарвіна «Паходжанне відаў», прызнаў дарвінаўскае вучэнне і ў 1860 годзе пазнаёміў з ім студэнтаў Пецярбургскага універсітэта, зрабіўся прыхільнікам Дарвіна і папулярызатарам яго. Уяўляю сабе, якія, мабыць, шышкі сыпаліся на ягоную галаву. Як заўседы, на галаву першага. А можа, як падумаеш, і нічога, і абышлося,

і непрыкметна сышло. Бо проста не паспелі разабрацца і ацаніць усё значэнне гэтага рэвалюцыйнага для біялогіі выбуху.

Штогод разам з братам, прафесарам Пецярбургскага універсітэта Міхаілам Сямёнавічам, Сцяпан Сямёнавіч праводзіў у Мсціславе лета, ведучы вялізную культурна-асветніцкую работу ў горадзе і наваколлі. А брат ягоны быў таксама асобай надзвычай цікавай. Адным з самых выдатных на той час, калі не самым выдатным у Расійскай дзяржаве гісторыкам Старажытнай Грэцыі. З другога курса Пецярбургскага універсітэта таксама быў накіраваны ў Дэрпт, а паколькі Дэрптскі універсітэт быў універсітэтам шматлікіх моўных стыхій, то выдаў там на латыні першую сваю працу, а затым абараніў магісцерскую дысертацыю, а пасля і стаў доктарам за працу «Калены і саслоўі антычныя», праз год перакладзеную на французскую мову. Працаваў у Парыжы, Берліне, Мюнхене і Гэйдэльбергу, быў прафесарам Пецярбургскага і (з 1869 па 1874) Маскоўскага універсітэтаў.

Бліскуча ведаў крыніцы, але і ўмеў крытычна ставіцца да іх. Даводзіў, што антычныя традыцыі ў апавяданнях і паданнях аб ранніх гістарычных эпохах верагодныя, а часам і дакладныя.

Распрацоўваў вузлавыя пытанні сацыяльнай і палітычнай гісторыі антычнасці (рабы ў антычнай Грэцыі, становішча вольнаадпушчанікаў у Афінскай рэспубліцы, раздзяленне ўласнасці ў Афінах, барацьба дэмакратаў з арыстакратамі ў элінскіх рэспубліках). Такія яго выдатныя кнігі, як «Гісторыя Афінскай рэспублікі ад убіення Іпарха да смерці Мільціяда» (СПб, 1858 г.) і асабліва дужа змястоўная і важлівая «Грамадскае становішча рабоў і вольнаадпушчанікаў у Афінскай рэспубліцы» (выйшла пасмяротна) не страцілі свайго значэння і да нашага часу і доўга яшчэ не страцяць. Бо гэта не кампіляцыя, бо ён першы ў свеце ўзняў і даследаваў пытанне аб рабстве ў Старажытнай Грэцыі, бо гэта работы, заснаваныя на глыбінным веданні першакрыніц.

Вось якія птушкі вылятаў часам з Мсціслаўскага гнязда. І ведаеце што? Адну я тут бачу загану, уласцівую ўвогуле беларусам. Яны ствараюць Чылійскую навуку, твораць палітыку Гавайскіх астравоў, робяц-

ца лепшымі ў свеце знаўцамі арабскіх рукапісаў або, як у дадзеным выпадку, антычнасці, але... Нельга, вядома, абняць неабдымнае, але шкада, што за Старажытнай Грэцыяй так мала знайшлося ў Кутаргі ўвагі да сваіх з братам малых Мсціслава ды Чэрыкава, да свайго роднага Пасожжа. Толькі вельмі багатымі кадрамі народы могуць дазволіць сабе вывучаць інкскую пісьменнасць у той час, як на сваёй ніве не хапае рук.

А можа? Можа, гэта і ёсць галоўная вартасць і добрая якасць беларускіх вучоных: не абмяжоўвацца толькі сваім і заўсёды самаахвярна прыходзіць на дапамогу суседу? Можа, менавіта за гэта даруецца нам вялікае мноства нашых грахоў? Бо павінна ж некалі адгукнуцца народу ягоная самаадданасць і жаданне служыць не толькі сабе, але і ўсяму Роду Чалавечаму.

...Вось яшчэ два браты, якія зрабілі вельмі многае. Браты Прахавы. Таксама беларусы з Мсціслава. Старэйшы Мсціслаў Віктаравіч, філосаф, паэт, перакладчык (ледзь не першы у Расіі) Гейнэ і Гафіза, гісторык. І малодшы яго брат Адрыян, гісторык мастацтва і археолаг.

Доўгі час я неяк не звязваў іх з Мсціславам. Пасля ўспомніў, што недзе бачыў рэпрадукцыю карціны Рэпіна «Юнак у беларускай жаночай вопратцы» і чытаў пра яе, і што прозвішча юнака, здаецца, было Прахаў і быў ён сынам кагосьці з братоў.

Карціну помню. Сапраўды сядзіць падлетак у тым узросце, калі хлопцы падобныя на дзяўчат і наадварот. І вопратка на ім багацюшчая і гожая-гожая, і вопратка тая... мсціслаўская, сумненняў быць не можа. І выявілася, што аб Мсціславе Прахаве і аб яго-ным вялізным і доўгім уплыве на іх гаварылі і Антакольскі і Рэпін, бо чалавек гэты сфарміраваў іхнія погляды на мастацтва і іхні інтэлект. Прычым не толькі ў сэнсе палітычных поглядаў (сам ён, было і такое, пасядзеў у Петрапаўлаўцы за кіраўніцтва студэнцкімі хваляваннямі).

А малодшы Прахаў, Адрыян (нар. у 1846 г.), скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта і, атрымаўшы камандзіроўку за мяжу, напісаў пад час паездкі магісцерскую дысертацыю «Пра рэстаўрацыю групы ўсходняга фран-

тона Эгінскага храма ў Афінах». Выкладае гісторыю прыгожых мастацтваў у родным універсітэце, у 1879 годзе робіцца доктарам за працу «Дойлідства старажытнага Егіпта», пераходзіць у Кіеўскі універсітэт — у 1887 годзе.

Вакол яго вечна людзі, ён вечна гарыць неймавернымі пачынаннямі (і здзяйсняе іх), ён верыць у талент зусім маладых і бязведамных людзей і смела выцягвае іх на свет, даручаючы вялікую работу (юнаму Урубелю — Кіеўскую Кірылаўскую царкву, юнаму Несцераву, разам з вядомымі ўжо мастакамі,— роспіс Кіеўскага Уладзімірскага сабора, унутраным аздабленнем і ўпрыгожваннем якога Прахаў кіраваў).

Прахаў вечна віруе. Прахаў робіць немагчымае. Ён не толькі піша змястоўныя працы па старажытнарускаму мастацтву — ён адкрывае яго. Так ён адкрыў, замаляваў і даследаваў старажытныя фрэскі многіх кіеўскіх цэркваў (Сафійскай, Кірылаўскай і іншых). Вялікі рускі мастак Несцераў пісаў аб ім: «Знаёмства з А. В. Прахавым было радаснае і склала ў маім жыцці цэлую эпоху... Усё жывое, натхнёнае, што было ў гэтым надзвычай таленавітым чалавеку, не пройдзе бясследна».

І на ўсё яго хапала, і там, дзе ён быў, заўсёды ствараўся мастацкі цэнтр Расіі.

Рэпін і Куінджы, Антакольскі і Шышкін, паэты Майкаў і Мінаеў, Васняцоў і Урубель — усе яны ў сферы ўплыву гэтага чалавека. А ўплывае ён і як рэдактар (ілюстраваны часопіс «Пчала»), і, перш за ўсё, як асоба вялікай прыцягальнай сілы, асоба, якая выклікае ў людзях неадольную сімпатыю і бязмежны давер. Побач з ім нельга самому не зрабіцца больш таленавітым, больш адданым сваёй справе. Ён з самага закаранелага флегматыка зробіць энтузіяста.

Паболей бы нам і зараз такіх людзей, як гэты мсціславец! На жаль, такія з'яўляюцца не так часта, як хацелася б. А яны як дрожджы ў жыцці грамадства. І не загадам яны вядуць людзей да лепшага, а ўласным прыкладам. Тым, што людзі не хочуць адстаць ад іх і хочуць быць падобнымі да іх. Больш чыстымі, больш высакароднымі, лепшымі, чым яны ёсць.

Разнастайных людзей нараджаў Мсціслаў. У 1865 годзе ў мяшчанскай сям'і нарадзілася тут нарадаволка Анісся Давыдаўна Балоціна. Вучылася ў Маскве,

у вучылішчы жывапісу, ваяння і дойлідства. Народніцкі гурток, у які яна ўваходзіла, друкаваў і распаўсюджваў нелегальную літаратуру. Быў данос і арышты. Быў прысуд (у 1887 годзе): восем год Сібіры. Праз два гады ўзброеныя ссыльныя ў Якуцку паўсталі. Узброенае супраціўленне скончылася тым, што шасцёра ссыльных было забіта, сем паранена. Пасля зноў быў суд і ваенна-судовая камісія, якая прыгаварыла трох чалавек да павешання, а параненую ў перастрэлцы жанчыну да жыццёвай катаргі і пазбаўлення ўсіх правоў. Спачатку была Вілюйская катаржная турма, пасля — турма на Кары для асабліва небяспечных палітычных злачынцаў. Пасля было вольнае пасяленне, пасля — жыццё пад наглядам паліцыі ў Шклове. У 1898 годзе А. Д. Балоцінай удалося выехаць за мяжу, дзе далейшыя яе сляды губляюцца.

Яшчэ адно імя цесна звязана з Мсціславам, імя чалавека, значэнне якога для беларускай і агульнаславянскай культуры цяжка перабольшыць. Гэта Іван Іванавіч Насовіч, беларускі мовазнавец-лексікограф, этнограф і фалькларыст (1788—1877). Вось прыклад чалавека, які доўгі свой век пражыў нездарма, зрабіўшы многае, калі не ўсё, што было наканавана яму лёсам. Скончыўшы ў 1812 годзе Магілёўскую духоўную семінарыю, ён трыццаць два гады аддаў педагагічнай дзейнасці, якая, вядома, мала пакідала яму часу для галоўнага свайго прызвання. Быў ён настаўнікам, інспектарам Аршанскага павятовага вучылішча, рэктарам Мсціслаўскага духоўнага вучылішча (1814—1822), рэктарам Маладзечанскага і Свянцянскага дваранскіх вучылішчаў. У 1844 годзе выйшаў у адстаўку. Пасяліўся ў Мсціславе. Яму 56 год. Многія людзі ў гэтым узросце падводзяць вынікі жыцця. Ён разумее: для яго сапраўднае жыццё толькі пачынаецца. І дзякуй богу, што лёс не паставіў хуткай мяжы ягонаму існаванню, даў яму яшчэ трыццаць тры гады жыцця. Іначай паглядзіце самі, чаго мы былі б пазбаўленыя.

Ён, вядома, не ведаў, колькі яму адпушчана. Ён закасвае рукавы: паміраць збірайся, а жыта сей. І ў гэтым ён — прыклад для кожнага.

Ніколі не позна!

«Нехта ўжо канчае. Я толькі пачаў. І я будуісці па гэтай дарозе, наколькі хопіць сілы. У мяне ўрэш-

це развязаныя рукі, і мяне чакае мой народ, і я павінен зрабіць для яго ўсё, і я не маю права ўпасці, пакуль ён чакае маёй дапамогі і пакуль у мяне ёсць сілы служыць яму». Яму 64 гады, калі выходзіць ягоная праца «Беларускія прыказкі і прымаўкі», яму 79, калі выходзіць ягоны «Зборнік беларускіх прыказак», адзначаны залатым мадалём Рускага геаграфічнага таварыства. Яму 80, калі выходзяць «Беларускія прыказкі і загадкі», і 85, калі выходзяць «Беларускія песні». І яшчэ засталіся ў рукапісах «Збор беларускіх слоў па алфавіце» і «Алфавітны паказальнік старых слоў», узятых з «Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі, выдадзеных у 1853 годзе» (за гэтую работу яму прысуджана Уваўская прэмія 1865 года).

Але галоўная ягоная праца выйшла ў 1870 годзе, калі яму было 82 гады. Гэта «Слоўнік беларускай гаворкі» — «Словарь белорусского наречия» (назва «Беларусь» на той час, як вядома, знаходзілася пад забаронай і ў насельніцтва гэтай зямлі ніякай такой мовы быць не магло. Існавала гаворка).

Вось гэты вялікі па фармаце том ляжыць перада мной. У ім 752 старонкі, і ён змяшчае больш за 30 000 слоў. Аўтар пачаў яго ў 1847 годзе (праз тры гады пасля адстаўкі), працаваў над ім 16 год і ў 1863 годзе прадставіў на Дзямідаўскую прэмію, якой і быў адзначаны.

Гэта быў першы поўны слоўнік беларускай мовы. Над працамі такога маштабу цяпер часам гадамі працуюць цэлыя інстытуты. І. І. Насовіч адолеў гэтую работу адзін, аддаўшы ёй шаснаццаць год жыцця. Годны здзіўлення подзвіг і яшчэ адзін прыклад таго, што можа зрабіць нават адзін чалавек, калі ён апанаваны сваёй ідэяй і мэтай, калі ён кладзе на працу сваю ўсе сілы без астатку.

Прычым працы Насовіча заўсёды працы лінгвістычныя, з лексічнымі і фанетыка-граматычнымі каментарыямі, тлумачэннямі асобных слоў, выразаў, ідыём.

А «Слоўнік» не проста слоўнік, а слоўнік тлумачальны, са шматлікімі прыкладамі, узятымі з жывой мовы або з песняў, казак, прыказак, словам, з усяго фальклору, які Насовіч ведаў, як мала хто на той час.

Ну вось. Мы назвалі, вядома, не ўсе імёны. Але

нават па гэтых, названых, можна меркаваць, што невялікі Мсціслаў зрабіў вялікі ўклад у гісторыю культуры славян. А што датычыцца беларускай культуры, то для яе ў сярэдневякоўі і ў XIX стагоддзі Мсціслаў зрабіў так многа, што стаіць сярод першых беларускіх асветніцкіх цэнтраў.

Мне, як цяперашняму мінчаніну, вядома, крыху няёмка, але я мушу прызнацца, што ў тыя часы Мсціслаў зрабіў большы ўплыў на культуру Беларусі, чым Мінск. Гэта не патрабуе доказаў, але, як спатрэбіцца, гэта можна лёгка давесці.

Здзіўляцца гэтаму не трэба. Нам невядомыя законы таго, чаму і як, на якой глебе і дзякуючы якім абставінам раптам зараджаецца недзе культурны ачаг і ў нейкай мясцовасці часам, як грыбная сям'я на паверхню, лезуць паэты і вучоныя, мастакі і дойліды, дзяржаўныя дзеячы, героі, пісьменнікі. І неабавязкова гэта здараецца ў вялікім цэнтры. Гэта можа быць Вільня і Мінск, але гэта, у розныя часы, могуць быць Слуцк, Навагрудак, Узда, нейкія там Ушачы ці Радашковічы. Дадуць адразу дзесятак паэтаў і пісьменнікаў, вандроўнікаў і вучоных, будаўнікоў і кампазітараў — і заціхнуць на пэўны неакрэслены час, перадаўшы эстафету ў нейкую зусім іншую мясціну.

Мсціслаўскі вулкан талентаў не заглохнуў, аднак, і ў нашым стагоддзі. Прыкладам таму можа быць класік беларускай літаратуры Максім Іванавіч Гарэцкі (1893—1939). Нарадзіўся ён у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павета. Гаварыць аб ім шмат, мабыць, не трэба. Акрамя таго, што ён — гонар нашай літаратуры, ён яшчэ і вядомы педагог, таленавіты літаратуразнаўца і лексікограф. Такія яго кнігі, як «Рунь», «На імперыялістычнай вайне», «Дзве душы», «Камароўская хроніка», раман «Віленскія камунары» і многае іншае трывала і назаўсёды ўвайшлі ў залатую бібліятэку літаратуры беларускай.

А ён жа яшчэ збіраў фальклор, напісаў і выдаў у 1920 годзе ледзь не першую (і шмат у чым узорную, прынамсі, па сумленнасці падыходу да матэрыялаў) «Гісторыю беларускай літаратуры». І склаў «Хрэстаматыю беларускай літаратуры. XI век — 1905 г.».

Зробленае ім дагэтуль, па-мойму, не атрымала ўсебаковай належнай ацэнкі. Але час многае паставіў

ужо і шмат яшчэ чаго паставіць і на сваё месца.

Для мсціслаўцаў жа Максім Гарэцкі павінен быць дарагі яшчэ і за тое, што ў творах ягоных гамоніць, радуецца, працуе, плача і смяецца, гаворыць іх адметнай і трапнай гаворкай уся Мсціслаўшчына.

Дагэтуль мы сустракаемся з героямі пісьменніка на яе дарогах, слухаем іхнюю мову, смяёмся з іх жартаў, здзіўляемся багаццю іхняга мыслення. І нават дробязі мсціслаўскага побыту, нават сучасныя пейзажы ўстаюць перад намі на старонках ягоных кніг. І мы беспамылкова іх пазнаем. Як, напрыклад, зірнуўшы на драўляную царкву ў імя Іллі Прарока, што стаіць у вёсцы Слаўнае, мы адразу гаворым сабе і ёй: «Грэх, галубка, ды ты ж апісаная ў «Камароўскай хроніцы» і ў «Антоне», ты сышла нейкім дзівам з іхніх старонак і вось, жывая, стаіш перад намі».

Дарэчы, царкву ў в. Слаўнае трэба паберагчы не толькі як «літаратурную славутасць». Гэта досыць рэдкі ўжо на Беларусі ўзор «сталага класіцызму» першай паловы XIX стагоддзя. Словам, гэтаму драўлянаму трохзрубнаму храму з пяціграннай апсідай і васьмерыком са шлемападобным купалам — паўтара стагоддзя.

Раз ужо мы загаварылі пра Максіма Гарэцкага, то не павінны забываць і на ягонага роднага брата, Гаўрылу Іванавіча (вы заўважылі, што таленты на Мсціслаўшчыне ідуць «кустамі»: браты Кутаргі, браты Прахавы, браты Гарэцкія), аднаго з самых выдатных геолагаў Саюза, акадэміка, заснавальніка нашай палеапатамалогіі, навукі аб рэках даўно мінулых часоў: Пра-Волгі, Пра-Дняпра, Пра-Нёмана і многіх іншых. Г. І. Гарэцкі займаецца інжынернай геалогіяй. Рабіў, між іншым, вышукванні пад такія каналы, як Беламорска-Балтыйскі, Волга-Данскі і многія іншыя, а таксама пад такія ГЭС, як Цымлянскую, Кіеўскую, Горкаўскую, Ніжнякамскую. Ну і яшчэ (талент не можа быць вузкі) ён збіраў фальклор і складаў, разам з братам, слоўнік. Таленавіты, страшэнна працаздольны, жывы, нястомны, цікаўны да кожнай новай справы, маладзейшы за маладога ў свае гады — вось што такое гэты чалавек. Я, мабыць, заблытаюся, пералічваючы ягоныя абавязкі і нагрузкі, якія ляжаць на ягоных плячах.

...І пісьменнік Левановіч Павел Антонавіч. Нара-

дзіўся ў 1914 годзе ў в. Мазалава Мсціслаўскага раёна. Памёр ад ран у 1943 годзе. Паэт і празаік, які быў закаханы ў свой родны Мсціслаўскі край і памяці якога горад аддзякаваў, назваўшы адну са сваіх вуліц ягоным імем.

На Мсціслаўшчыне (в. Воўкаўка) нарадзіўся і прасіў, каб там яго аддалі зямлі, і член-карэспандэнт АН БССР, беларускі фальклярыст і літаратуразнаўца Іван Васільевіч Гутараў (1906—1967), які даследаваў беларускую і рускую вусную народную творчасць і эстэтыку.

Гэтага было б, здавалася, і досыць, тым болей што цяжка пералічыць усіх выдатных людзей, якія нарадзіліся тут, вучыліся тут, праходзілі праз мсціслаўскую зямлю, ваявалі на ёй.

Ваявалі на ёй. Ну так, гэтых абмінуць нельга. Хаця б некаторых. Хаця б пару імёнаў.

У Мсціславе нарадзіўся Уладзімір Сяргеевіч Галушкевіч (1898—1964), удзельнік грамадзянскай вайны. У Айчынную вайну на Цэнтральным і Заходнім франтах быў начальнікам аператыўнага аддзела, намеснікам начальніка штаба фронту. Генерал-лейтэнант.

У вёсцы Доўгавічы нарадзіўся Герой Савецкага Саюза Яўген Іванавіч Качанаў (1915. Сяржант, камандзір стралковага аддзялення. 25 студзеня 1945 года першы фарсіраваў раку Одэр (і гэта дзякуючы тысячам такіх, як ён, рацэ вярнулі яе праславянскую назву Одра), пашырыў з баямі плацдарм, быў паранены, але ў тыл не пайшоў, а наступнага дня першы ўстаў у атаку, падымаючы за сабою байцоў, і быў забіты.

У 1896 годзе нарадзіўся пад Мсціславам, у вёсцы Старое Сяло, Іван Міхайлавіч Паўловіч. Паспеў яшчэ адхапіць два гады першай сусветнай вайны, пасля, у грамадзянскую, быў у Мсціславе сакратаром крымінальна-следчай камісіі, ваяваў супраць банд Мамантава і Булак-Балаховіча, удзельнічаў у разгроме Антонава. Быў у пагранічных войсках. У лютым 1943 года ён — намеснік камандзіра дывізіі на Цэнтральным і Беларускім франтах, пасля камандзір дывізіі на 1-м Беларускім. У чэрвені 1944 года асабліва вызначыўся, і было гэта зусім непадалёк ад радзімы. Паўночней Рагачова асабіста ўзняў у атаку

батальён, прарваў абарону немцаў на Друці, а пасля перайшоў цераз Бярозу-раку і ўварваўся ў Бабруйск. А праз месяц, у ліпені, на чале палка, адбіў на паўночна-захадзе ад Брэста атаку шасцідзесяці нямецкіх танкаў. І ў гэтым баі загінуў. Герой Савецкага Саюза пасмяротна.

І яшчэ Рудкін Піліп Мікітавіч. Нарадзіўся ў вёсцы Чорная Сасна ў 1893 годзе. Працаваў у Данбасе, на рыбалоўных промыслах Далёкага Усходу. Салдат. З лютага 1917 года — чырвонагвардзеец. З 1918 у органах ВЧК — камандзір атрада, палка, дывізіі. Удзельнічаў у грамадзянскую ў бітвах пад Дзвінскам і Псковам, у разгроме мецяжоў левых эсераў у Маскве, Разані, Кранштаце, у баях з Булак-Балаховічам. З 1943 года генерал-маёр танкавых войск. Зорку Героя атрымаў за 31 сакавіка 1943 года.

Я не кажу тут пра тысячы тых, амаль безыменных у гісторыі, над рэшткамі якіх стаяць капцы па ўсёй зямлі, у гонар якіх насыпаны ў горадзе курган Славы, якія, уласна кажучы, і ёсць тыя, галоўныя, што адстаялі самое права Мсціслава існаваць. Кожны з гэтых людзей, якія радаваліся, жылі і працавалі, як мы, быў бы варты найлепшай песні.

Ну і яшчэ адно імя. Мастака, які вельмі рана пайшоў ад нас. Міхаіл Якаўлевіч Лісоўскі (1931—1970). Нарадзіўся ў вёсцы Белы Мох Падсолтаўскага сельсавета. Гэта быў майстар партрэта, станкавага жывапісу. Гумар мсціслаўскай зямлі, назіральнасць яе жыхароў, іх тонкая, някрыўдная з'едлівасць, іхняе ўменне бачыць чалавека наскрозь, іхняе веданне глыбіняў душы чалавечай вадзілі алоўкам і пяром Лісоўскага.

Ну вось. Здаецца, сёе-тое вартае ўвагі мы памянулі. Далёка-далёка не ўсё, бо іначай давялося б пісаць тоўстую кнігу.

А цяпер давайце проста пройдземся па Мсціславу і Мсціслаўшчыне. Дзе ў машыне, а дзе і пехатою. Не па кожнай вуліцы горада і не па кожнай вёсцы, бо на гэта спатрэбілася б зашмат часу.

Адвядзём на гэта дзень ці два, тым болей што пра многія мясціны мы ўжо ведаем. І выберам для нашага паходу летнія дні. Ну хаця б сярэдзіну жніўня з сонцам і бясхмарным небам. Мала ўжо засталося нязжатага, паўсюль торпы саломы. І ва ўсім тое

адчуванне радзімы, калі нейкае адценне колеру, нейкі намёк на пах выклікаюць у сэрцы даўно забытыя ўспамін: нібы ты малы хлапчук у гародзе, а ў ім між бульбоўніку зелянеюць стрэлы бабоў і чапляюцца за порткі пахучыя двухзубыя ваўчкі. І драма, і лянота, і паснулі на мяжы пузатыя гарбузы.

І Мсціслаў у гэтую пару не дыяментавы, а такі сабе звычайны малы гарадок, які патанае ў садах і магутных дрэвах на адхонах над Віхрой, спакойны і лянотны, з рэдкімі малымі віхурамі на вуліцах.

Вечарамі слаба свецяцца вокны магазінаў і рэстарана на галоўнай плошчы і ліхтары «рэтра» на газоне перад сучасным будынкам кіно. Выходзяць з яго рэдкія гледачы. І зноў кладзецца налёт таямнічасці на вулкі, якія збіраюцца спаць або ўжо заснулі, на вялізныя дрэвы. Гораду заўтра ўставаць з пеўнямі: чакае не дужа багатая прамысловасць, а галоўнае, чакаюць палі, чакае другі пакос сена. І начныя вулкі пахнуць палямі і сенам, а ты ідзеш імі і здзіўляешся, што мог рабіць тут вечарамі сто год назад хаця б той самы Насовіч у адстаўцы. Ані кіно, ані тэлевізараў. А пасля ўспомніш і ўсміхаешся. Што рабіць? А ўсяго толькі скласці слоўнік на трыццаць з лішнім тысяч слоў.

...Дарогі на палях, надзіва добра ўходжаных, як і паўсюль на Мсціслаўшчыне. Адна з іх вядзе на Пустынкі, былы манастыр, заснаваны ў 1380 годзе князем Лугвенам Сямёнам Альгердавічам, героем Грунвальда. Да Пустынак 9 кіламетраў, яны ляжаць на самай мяжы са Смаленшчынай.

Яшчэ здалёк-здалёк відаць з дарогі стройны аловачак званіцы і купы дрэў за ім.

Вельмі шкада, але ад XIV стагоддзя ў Пустынскім манастыры нічога не засталося. І званіца, і размешчаныя за ёю па адной асі будынак сабора, моцна пашкоджанага, і будынак жылы — гэта стагоддзе XIX. Сабор, урэшце, уключае ў сябе (быў, відаць, паўтара з лішнім стагоддзя назад перабудованы) вельмі значныя фрагменты са стагоддзя XVIII і сямтам, магчыма, рэшткі будыніны XVII стагоддзя.

Але вакол векавыя дрэвы, спакойнае сонца на іх, густая, па калена, трава і гаючая цішыня. Магутны, вялікі стары сад, які пачынае дзічэць. Крыніца б'е ля падэшвы яра. А крыніцы ж тут увогуле магутныя.

І ўвогуле на Мсціслаўшчыне і, у прыватнасці, тут, у Пустынках. І нізіна, куды яны збягаюць, яшчэ параўнаўча нядаўна, была ланцугом рукатворных азёр, багатых рыбай.

Зусім яшчэ нядаўна тут была школа. Будынак моцны. Уставіць толькі шыбы, і ўсё. Ну і паступова адрамантаваць іншыя службы, закансерваваць і з часам аднавіць пад нешта званіцу і сабор. Сады, стогадовыя дрэвы, недалёкія лясы, ланцуг азёр. Маляўнічы спакойны край. І такі гожы комплекс будынкаў. Так шкада, што ён можа прапасці.

Гаспадара няма. І, можа, раёну гэта не зусім пад сілу, асабліва пры тэмпах будовы, пры колькасці будаўнічых аб'ектаў. Ну а вобласці? Рэспублііцы?

Чаму б рэспубліканскімі сіламі не дапамагчы давесці да ладу гэты раён. Артэк у Пустынках. Школа-інтэрнат, скажам, у Ануфрыеўскім манастыры. Краязнаўчы музей у Мікалаеўскім саборы, мастацкі музей і зала арганнай музыкі ў Кармеліцкім саборы, крыты павільён над раскопам на Замчышчы, археалагічны музей, гістарычны музей у царкве Аляксандра Неўскага. Я называю першыя — лепшыя аб'екты для рэстаўрацыі і размяшчаю ў іх першыя — лепшыя культурныя ўстановы. Ясна ж, што над гэтым трэба думаць, што сказанае мною пакуль што толькі фантазія.

Але ўявіце сабе, што гэта зроблена, што горад ператварыўся ў турысцкі, гістарычны, мастацкі, культурны цэнтр.

Сілы нашай на гэта не хопіць, ці што? Зрабіць першы пакуль што горад-музей і тым даць прыклад на стварэнне яшчэ некалькіх.

...Пасярэдзіне двара ў Пустынках ляжалі ў траве два веласіпеды і хатулькі. Два хлопцы, мастакі-рэстаўратары з тых чатырох, што працуюць зараз у Кармяліцкім касцёле, Ю. Маліноўскі і У. Ракіцкі, добрыя знаёмыя, крыху здзіўляюцца мне.

Кожнай раніцай яны едуць на веласіпедах сюды з Мсціслава. Кожны вечар вяртаюцца туды назад. 18 кіламетраў. Выявілі ў прыбудове фрэску XVIII (а можа, і XVII) стагоддзя і зараз працуюць, рыхтуючыся зняць яе. Самой фрэскі я не бачыў, яны ўжо заляпілі яе папяроснай паперай. Потым яе замуюць марляй, затым танюткімі рэйкамі, пасля аддзе-

ляць ад тынкоўкі і павязуць на рэстаўрацыю. З часам гэта будзе зроблена. І фрэску вернуць назад, ва ўладанне гораду, які яе стварыў. Гэта зямля магутнай глыбіннай сілы. Вонкава сціпла яна здзіўляе на кожным кроку.

...Спёка. Сонца пячэ дзіка. Палі плаўна спадаюць да Віхры, што струменіць сваю плынь у берагах, укрытых густым хмызняком. Праз гэтыя нетры не дабярэшся да чысцёткай, як слязніца, вады. Смага.

І раптам, гэта ў некалькіх кіламетрах ад Мсціслава, бераг пачынае літаральна вывяргаць ваду.

Вось на беразе, у пары метрах ад ракі, абгароджаны і прыкрыты дахам басейн, гэта метры тры на тры (можа, болей). Сценкі бетонныя. З яго вядзе трубка сантыметраў на дваццаць у дыяметры, а з яе б'е няспынны і тугі шкляны вадаспад. Глыбіня крыніцы метраў пяць, але вада такая празрыстая, што дно здаецца вось-вось, як руку працягнуць. І на гэтым дне — дзіва, якога я даўно ўжо не бачыў. На дне — літаральна вулкан, які выкідае ў секунду, відаць, вёдраў пяць вады, варочае яе і вялізныя, тоўстыя клубы пяску, што тут жа ападаюць, а на іх месцы ўзнікаюць, уздымаючца новыя.

Кінь валун — будзе варочаць і яго, такі магутны напор.

Не замярзае і ўзімку. І ўзімку няспынна бяжыць і бяжыць тоўстая ручаіна да Віхры. Стоячы ў ёй, некалькі юнакоў скрабуць рыбу, і срэбныя бліскаўкі сплываюць у раку.

— Што гэта вы?

— Кажуць, лечыць раматус,— кажа адзін з іх.

— І радыкуліт,— дабаўляю я.

Вада больш ледзяная за лёд. Дзіўнага жывушчага смаку. Даўно я не бачыў такіх магутных крыніц. Магла б, мабыць, забяспечыць пітной вадой увесь горад, як забяспечвала яго калісьці, моцна цяпер запушчаная, крыніца Здаровец у яры пад Замчышчам, у межах самога горада.

А тут б'е. І ўсё дно Віхры б'е халоднымі крыніцамі. І ўвесь бераг ля Мсціслава.

Горы, лес на іх, крыніца, рака. Старажытныя ліпы і лістоўніцы на месцы былога фальварка. Свецяць праз іх перадвячэрняе крынічнае жнівеньскае неба.

Давайце сёння не будзем больш забірацца далёка.

Давайце пойдзем на тое месца, дзе малой крынічкай прабілася некалі на свет рачулка нашага гарадка. На Замчышча.

Галаваломны спуск на седлавіну (тут вісеў калісь над ярам пад'ёмны мост) і стромы пад'ём.

На Замчышчы хатка (ці, можа, дзве: так і не разабраўся праз дзікую густэчу сада, што займае ягоную частку), старыя каравыя яблыні. Пасля шлях вядзе праз грады і сад на археалагічны раскоп: маленькі, жабрачы кавалачак на вялізным, як выявілася, Замчышчы, малюсенькая частка ягоная. На астатняй частцы лапічак саду і гароды. Блытаюцца ў сонцы плеці гуркоў, сцябліны маку, лопухі буракоўага гічаўя. Гарбузы віюцца паўсюль і сонечна ззяюць пушыстымі глыбокімі кветкамі. Нейкія жанчыны торпаюць буйную цыбулю. Паўсюль густыя джунглі памідораў, яшчэ зялёных.

А раскоп — яма, запоўненая зялёнай цвілай вадой, і ў ёй рэшткі паляў, драўляных вулічных мастоў, рэшткі будынкаў. (Дарэчы, тут я, як мне здаецца, зразумеў, якім чынам жыхары абложанага горада маглі не цярпець недахопаў у вадзе: калі вораг стаяў пад вонкавым валам, праблемы ўвогуле не было, бо выручалі магутныя крыніцы Здароўца ў яры з паўднёва-заходняга боку, там можна напаіць хоць бы й сотню сланоў. А калі вораг абкладаў непасрэдна Замак — выручала вось гэтая вада, што так хутка запоўніла раскоп і не высыхае: тут або таксама блізкі да паверхні вадзяны слой, або на глыбіні ляжыць моцны воданепранікальны пласт гліны, які не дазваляе дажджам усмоктвацца ў зямлю.)

Грэшны чалавек, я ўзрадаваўся за Мсціслаў, што археолагі раскапалі так мала. Хай астатняя, большая частка Замчышча чакае лепшых часоў, больш дасканалых метадаў, сродкаў на ўзвядзенне над раскопам павільёна. Хай Замчышча пакуль што застаецца некранутай скарбніцай. Бо археолагам з Мсціслаўскім Замчышчам пашанцавала. З XVII стагоддзя тут, відаць, амаль не сяліліся, не капалі, не варочалі грунт. На сценцы раскопа відаць выразна: пласт зямлі толькі зверху крыху падрапаны рыдлёўкай гародніка, ніжэй — пласт пажару і разгрому, а яшчэ ніжэй некрануты культурны слой. Гэта не тое што, скажам, Тураўскае гарадзішча, дзе і ўзводзілі будынкі зем-

скай бальніцы, і дарогу перакладалі, і кіно здымалі, і капалі, і чорт ведае што яшчэ рабілі.

А тут нават стромы яроў, што абкружаюць Замчышча, некранутыя.

І ўвогуле трэба помніць, што пастановай Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах будаўніцтва і калегіі Міністэрства культуры БССР 7 ліпеня 1971 года Мсціслаў уваходзіць у лік гарадоў, што маюць каштоўныя горадабудаўнічыя ансамблі і комплексы, прыродныя ландшафты і старажытны культурны слой, а тым самым уваходзіць у лік гарадоў, праекты планіроўкі і забудовы якіх павінны ўзгадняцца з органамі аховы помнікаў культуры.

Мала дзе мне давялося бачыць такія нечапаныя ні часам, ні рукой чалавечай нязгладжаныя дзікія ўрвішчы. Больш за 25 метраў. Прайшоў на вал — пад нагамі — прорва. Нават страшней, чым на гарадзішчы Старой Разані. Гэта значыць на мой, разам з дахам, стары пяціпавярховы дом надбудаваць яшчэ два паверхі. І караскайся сабе на яго, асабліва ў латах, і падай адтуль у ваду рва, калі абаронца піхне цябе ўніз.

Тут была адна з самых непрыступных цвярдынь сярэдневяковай беларускай зямлі. І баранілі тут людзей не каменныя муры, а сама Зямля сваімі крутымі грудзьмі.

...Я не стаў скочвацца з яра ўніз. Не таму, што не люблю моцных уражанняў, а проста не хацеў рабіць пачатак сцежкі на гэтым смарагдава-зялёным схіле. (Дарэчы, дзе вы бачылі, каб чалавек не скараціў сабе дарогу, прабіўшы новую сцежку? Тут такіх сцежак няма, бо тут чалавек ужо некалькі стагоддзяў разумеў: скарачаючы або сэрца сарвеш, або галаву скруціш.) Я пайшоў паўз хаты, ля якой аціраўся чорна-белы шчанюк, весела ішоў да мяне, даваўся на рукі і ў вясёлкавым настроі ўвязваўся следам за мной.

Цяпер трэба было спусціцца да Здароўца, або Кагальнага калодзежа, каб паглядзець, што ўвесь горад піў, калі водаправода яшчэ не было, адносна зусім нядаўна. У яры адусюль беглі крыніцы. Спуск да Здароўца (вада тут, па сцвярджэнні старых людзей, «здаравіла, вылечвала») быў прыкрыты выбітым брукам. Брукаваны, відаць, яшчэ тады, калі

Мсціслаў бруку не меў. Бо гэта было больш чым галоўная вуліца, гэта была артэрыя да вады. Яе трэба было ўтрымліваць у асаблівым парадку (дарэчы, сям-там з-пад бруку яшчэ відаць рэшткі драўлянага моста: вось як даўно людзі трымалі ў парадку гэты спуск).

Цяпер брук да студні выбіты. Сам вялікі калодзеж зарос, і толькі пасярэдзіне вялікага драўлянага зруба б'е з пясчанага кранутага бросняй і зялёнай цінай дна невялікі пухір.

Як прыгожа!

Папрастуем цяпер да Кармяліцкага касцёла.

Што зроблена ў Кармяліцкім касцёле дагэтуль? Першае і самае галоўнае: перасталі псаваць. У сутарэннях яшчэ нядаўна салілі агуркі, і соль раз'ядала цэглу падмуркаў. Я вельмі люблю салоныя агуркі, але добра, што гэтую вытворчасць адсюль урэшце выселілі, што гэты смачны прадукт з гэтага часу будуць рабіць недзе ў іншым месцы. А сутарэнні вычысцілі, і яны з часам вельмі могуць прыдасца як запаснік для будучага музея.

Цяпер работа ідзе ў прыбудове. На жаль, мала сілы. А работа чакае тытанічная: сама прыбудова і вялізны, проста гігант па памерах храм, які ўражвае каласальнымі сваімі памерамі нават таго, хто сёе-тое пабачыў у сваім жыцці.

Быў я нядаўна ў Латвіі, у Рундале. Там стаіць палац, пабудаваны аўтарам Зімняга палаца В. В. Растрэлі для Э. І. Бірана. Што там зрабілі людзі?

Яны добраўпарадкавалі парк і паступова, адну за адной, аднаўляюць залы, разам з паркетам, лепкаю, мэбляю, карцінамі. І не чакаюць канчатковай рэстаўрацыі. Зараз працуе, здаецца, чатыры-пяць залаў. Экскурсанты ідуць туды і ідуць. Вось залы цалкам адноўленыя, вось адноўленыя напалову. А ў гэтых яшчэ ідзе работа. І аплочваецца яна часткова за грошы гэтых самых экскурсантаў. Бо ім цікава аглядаць не толькі гатовае, а, хай сабе здалёк, бачыць працэс аднаўлення.

Тое можна зрабіць і тут. Нейкая выстаўка ў сутарэннях і прыбудове. І вычышчаны цёплы храм, у якім рэстаўрацыйная работа ідзе паступова, па частках.

І ўсё гэта бачыш. І можна прыехаць праз два і праз пяць год і ўбачыць, якая яшчэ частка старажытнай

будыніны вырвана з небыцця, аддадзена і вернута жыццю.

Колькі тут работы! Тым болей што не ў такім далёкім мінулым гора-работнічкі нашкодзілі будыніне горш, чым, не нанач будзе згаданы, князь Трубяцкі, раскрылі над фрэскай «Трубяцкой разні» дах, каб паставіць новы, ды так і забылі на зіму. Фрэску абмывала дажджом і снегам і часткова моцна пашкодзіла. Цяпер выпраўляй пасля іх.

А там жа, дзе яны зберагліся, фарбы на фрэсках ёсць дзівосныя, надзвычайна жывыя. Глянуць праз павуціну гадоў вочы — наскрозь цябе бачаць.

Вось пра што думаць нам усім трэба, вось на што звяртаць увагу, на гэтыя дзівы, вышыні духу і таленту чалавечага, якіх і ў сталіцах пашукаць. І звярнуць на іх самую пільную ўвагу — вось гэта ёсць наша справа, справа ўсяго нашага жыцця і наш гонар.

Трэба скарыстацца са шчырага жадання раённай улады быць карыснай (не тое што ў некаторых: знесці, і справе канец, і клопатаў менш), з павагі іхняй да таго, што мае іхні горад, і ўсімі сіламі дапамагчы ім.

...Рачулка, светлы-светлы пасля дажджу бярозавы гай, растрапаныя сады, хаты з дзіўнай, неўласцівай для Мсціслаўшчыны і ўсёй сярэдняй паласы Беларусі формай даху: чатырохскатнай, з усечаным зверху і знізу шчытом-франтонам (з залобкам і прычолкам). Вёска Малькаўка. Дзіўная нейкая вёска. Не такая, як навакольныя, у форме зрубаў, у шалёўцы, у размяшчэнні надворных пабудоў.

І, у дадатак да ўсяго (крытык-натураліст, даруй!), у адказ на твой «дабрыдзень» дзяўчына, якая палошча ў рачулцы бялізну, нядбала кідае табе ў адказ:

— Лаба діена. (Добры дзень.)

— Каіп гівянімас? (Як жыццё?) — моцна ашаломлены, запінаецеся вы.

— Ачу, герай. (Дзякуй, добра.)

Нішто сабе сустрэча. У чатырохстах з гакам кіламетрах ад Вільні (гэта як птушцы ляцець, а калі па дарогах, то ў пяцістах) — чысцейшая, нібы ў тэатры, літоўская мова.

Як літоўцы тут апынуліся, я так і не мог дакапацца. Кажуць, што нібыта ў часы прыгоннай рэформы (ці да яе, ці пасля) купілі тут зямлю і перасяліліся. Калі

гэта так, то гэта годны прыклад таго, як можна сто дваццаць год пражыць сярод чужой моўнай стыхіі і зберагчы сябе, сваю мову, свае звычаі, свае песні.

Гэты маленькі астравок збярог таксама літоўскую грунтоўнасць, неймаверную працавітасць, сумленнасць у адносінах да справы. Паўсюль сляды старанна прыкладзеных рук і дабрабыт. Хаты дагледжаныя, гароды і палі чыстыя, між кашлатых «медуніц» (дробныя і вельмі салодкія яблыкі) аж гудзе паветра ад пчол над вуллямі.

З гэтай вёсачкі, закінутай далёка-далёка ў беларускія палі, выйшаў І. А. Манюшыс, які быў Старшынёй Савета Міністраў Літвы. Вось якія зігзагі робіць часам рэальнае жыццё. Ну, калі ўлічыць, што недзе ў Мсціслаўскім павеце быў маёнтак К. Судзілоўскага, бацькі Мікалая Канстанцінавіча Судзілоўскага — «Руселя», які арганізаваў сацыялістычны рух у Румыніі і Балгарыі, а пасля быў лідэрам партыі незалежных і членам сената Гавайскіх астравоў — то гэта яшчэ не самы дзівосны выпадак на свеце.

...Малая Багацькаўка вёска старая, з адметным абліччам, з шэрагам стаўкоў, на берагах якіх адпачываюць качкі і шэрагамі ходзяць важныя гусі. Старыя сады. Старыя дрэвы. Ашалелы малады жарабец, які, закінуўшы галаву, ляціць на злом шыі ўздоўж ставоў, сп'янелы ад адчування сваёй прыгажосці і бязмежнасці маладой сваёй сілы.

У вёсцы ў чысценькай хаціне жыве яшчэ пляменніца пісьменніка, Клаўдзія Іванаўна Шнарская. Ад старых часоў нічога ў яе не засталося, толькі кнігі Максіма, падораныя ў апошнія гады геолагам, дзядзькам Гаўрылам. Мілая, з мяккім голасам жанчына.

А вёска што ж? Вёска, з папраўкай на новае, тая самая, што і ў «Камароўскай хроніцы». Пачытайце ці перачытайце яе. Гэта і зараз досыць аддалены куток, а ў часы юнацтва пісьменніка да Мсціслава было, як і цяпер, дваццаць пяць, але ад Мсціслава да бліжэйшай чыгуначнай станцыі было не васемнаццаць, а шэсцьдзесят кіламетраў. Дарога да Слаўнага. Вось у прастакутніку са старых дрэў стаіць старая царква. Вельмі надзіва вялікая для такой вёскі. Шалёўка збольшага паабдзёртая, у старых, моцных,

як косць, бярвеннях кутыя цвікі з квадратнымі капялюшыкамі.

Як там у Гарэцкага ў «Антоне»?

«І на двары, на цвінтары народу нямала, аж мітусіцца ўсё пад старымі ліпінамі, і ў званіцы бабулек стаіць і сядзіць даволі, і на званіцу хлапчукоў-галузаў панабівалася, і ў цэркву аж дабіцца не можна».

Няма нікога ні на цвінтары, ні пад званіцаю, ні на ёй. Царква замкнёная, вартоўня ля яе таксама.

...Едзем далей. Роўнае поле, і раптам на ім сапраўды, як воспа, правалы па некалькі метраў глыбіні, густа зарослыя бярозкамі, вольхамі, асінкамі, лазой, розным хмызняком. На дне часам збіраецца і застойваецца вада. Церабі гэтыя аборкі, раўняй не раўняй — толку мала.

Вырашыў я пазваніць Г. І. Гарэцкаму. Каму ўжо, як не яму, славутаму геолагу, лепей ведаць, што робіцца з зямлёй у яго родных мясцінах?

Гаўрыла Іванавіч, вядома, ведае і гэта:

— Апісана гэта і вытлумачана яшчэ ў 20-я гады. Быў такі Георгі Фёдаравіч Мірчынк...

Пра Мірчынка крыху ведаю і я. Адзін з заснавальнікаў навуковай школы геалогіі чацвярцічнага перыяду. Акадэмік Акадэміі навук БССР. Аўтар славутай кнігі «Геалогія чацвярцічных адкладанняў». Але я ніколі не звязваў яго імя з Мсціславам. Ну але ж цікава пачуць пра яго ад чалавека, які яго добра ведаў.

Ён родам з лужыцкіх сербаў, што пераехалі сюды. Бадай што адзін з самых вялікіх знаўцаў антрапагену Беларусі. Ён, між іншым, растлумачыў і паходжанне «аборак», і апісаў іх. Ён і ўвёў і замацаваў у геалагічнай літаратуры свету гэтае беларускае, не, нават мсціслаўскае слова: «аборкі». Цяпер хай сабе англічанін апісвае гэтую з'яву або, скажам, іспанец — усё адно ён карыстаецца словам «аборка».

— Ну вось. А ў слоўніках беларускіх гэтага слова няма. Нават у пяцітомным тлумачальным. У трох значэннях гэтае слова даецца, а ў «нашым» — не.

— Можа, не ведаюць. Можа, лічаць за мсціслаўскае абласное, дыялектнае. Адкуль ім ведаць, што гэтае абласное мсціслаўскае слова стала класічным

тэрмінам, што яго па ўсім зямным шары геолагі ўжываюць?

— Дык што гэта ўсё ж такое?

— А гэта прасадачныя сподачкі.

— Лёсавыя прасадкі?

— Ну так. Там, дзе ёсць лёсавыя пароды,— там і яны ёсць. Вада праходзіць, і яны прасядаюць.

Ну так, зараз і я ўспомніў, што порыстасць лёсавых парод 45—55 працэнтаў, а значыць, яны здатныя зберагаць вертыкальныя адхоны (вось, мабыць, чаму час не размыў і не згладзіў яроў Замчышча ў Мсціславе) і даваць вертыкальныя прасадкі пры ўвільгатненні. Проста нешта накшталт падатку, які прырода наклала на людзей за ўрадлівасць глебы: «дала ж я вам плодную зямлю, такую багатую і смачную — трэба ж, каб хаця нешта было не зусім так. А то вы хочаце як мёд той, лыжкай, ды яшчэ вялікай».

— Там іх многа. А ля нашай Малой Багацькаўкі скрозь яны.

— Сердзюкоў вось змагаўся з імі. Мабыць, не атрымалася.

— А я нічога не мог. Іх увогуле не трэба засыпаць, хай так і будуць.

— Але ж... Вось механізатары.

— І ім, калі разабрацца, не трэба. Вадзе ж некуды падзецца трэба, а мясцовасць роўная. Вось яна і робіць сама сабе сцёк.

— Дык што ж іх, так і кінуць без карысці?

— Чаму? Яны могуць быць вельмі карысныя. Для вадаплаўнай птушкі. Хатняй, а пры ёй і дзікай. Качак там трэба разводзіць, гусей. Яны ж так любяць гам. Вось няхай і пасвяцца. Вялікімі чародамі.

Дарэчы, калі ўжо зайшла размова пра Сердзюкова, ягоную работу па ўпарадкаванні зямлі і, у прыватнасці, па расцяробу аборак, то мы якраз едзем праз вёску, у якой ён амаль паўтара стагоддзя назад гаспадарыў, праз Кудрычы.

...Дзіўнай прыгажосці краявіды вакол. Чысцюткая Віхра, нічым яшчэ не засмечаны Сож, у які яна ўпадае.

У плынях брохае рыба. А за Сожам, дзе ўжо Смаленшчына, цёмная лясная града аж да Бранскіх лясоў (там і ў Чавускім раёне лясы, а на Мсціс-

лаўшчыне, за рэдкім выключэннем, толькі пералескі).

...Бязмежная пойма Сожа. Пералескі і высокія аблокі над імі. За кіламетр ад Крычаўскага раёна, над Чорнай Натапай, непадалёк ад яе ўпадзення ў Сож, патанае пад высокімі дрэўнымі шатамі вёска Ануфрыева. І яшчэ здалёк відаць над ёю волатаву, стройную і зграбную, як сасновы ствол, пяціярусную званіцу.

Ануфрыеўскі манастыр заснаваны за тры гады да Грунвальда (1407) яго ным героем Лугвенам-Сямёнам Мсціслаўскім. З тых часоў тут нічога не засталося. Але званіца і сабор — гэта ўзорны класіцызм і ці не пачатак XIX стагоддзя. Будынкаў гэтага часу таксама мала. А будыніна гэтая велічная і прыгожая, і хаця моцна пабітая ў вайну кулямі і асколкамі — прыдатная для аднаўлення, можа, нават лягчэй, чым Мсціслаўскі Кармяліцкі касцёл.

О, дзіўная і праз меру небам прыўкрашаная мсціслаўская зямля! З далёкімі званіцамі і звонам каласоў, са светлымі рэкамі і светлымі людзьмі, з гарачым блакітам улетку і блякла-шафранавым, з палосамі колеру прускага блакіту, заходам узімку. З трапяткімі і шоўкавымі бярозавымі гаямі — і пахмурным заснежаным яловым лесам (на грані прыцемку і ночы), над якім безнадзейна змірылася глухое неба. З залатым россыпам вясновай лотаці і крывавым асеннім лістападам.

Услаўленая будзь і шчаслівая будзь!

Той, хто пакідае цябе, з першага ж моманту ўносіць у сэрцы тугу па табе. Тугу і жаданне калі-небудзь вярнуцца. Да калыскі продкаў сваіх.

...Машыну трасе і кідае. Паволі адступае ад горада навальнічная хмара. Ад яе і ад старых дрэў у старадаўнім доме, што згубіўся ў гэтых дрэвах, цёмна, і нехта няўчасна запаліў там святло.

Хто? Можна ўявіць каго хочаш. Хаця б таго ж Насовіча, які запаўняе картку на чарговае слова для неўміручай сваёй працы.

Якое слова? А хоць бы — давайце на развітанне ўсміхнёмся — і такое:

«Недасека» — насмешлівае названне ўраджэнца горада Мсціслава. Мсціслаўцы недасекі. Хітры недасека!

А можа, за гэтым акном гуляе з цацкамі нейкі малы, які праславіць свой горад на ўвесь свет, як праславілі яго ўжо многія.

...Аддаляецца горад, меншаюць сады і званіцы. Але не меншае над ім ліловая хмара і на гэтай хмары вялізная і празрыстая, прамытая вясёлка.

Можа, не ўсім пашанцуе ўбачыць гэты горад такім дыяментавым, якім убачыў яго я, і сказаць яму «бывай» пад такой яскравай вясёлкай.

Можа, нехта гляне на яго і ўбачыць усяго маленькі закінуты ў палях і лясах гарадок, узімку ў гурбах, улетку ў разлівах кветак.

Але мне ён зрабіў ласку, адкрыўся вось такім, зіхоткім і вясёлкавым, і такім я й падношу яго вам у гасцінец.

Вазьміце яго як мой малы вам дар.

Светлай табе раніцы, руплівага табе дня, спакойнага і аранжавага табе вечара пад дыяментавай вясёлкай.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



## ГЭТА БЫЛО 10 САКАВІКА 1864 ГОДА

*Да 100-годдзя з дня смерці*
*Кастуся Каліноўскага*

Спатрэбілася дзве роты салдат, каб схапіць аднаго чалавека. Была цёмная і снежная ноч 29 студзеня 1864 года. Салдаты абкружылі квартал Святаянскіх муроў і распачалі планамерны вобыск.

Чалавек жыў адзін. Аб яго месцазнаходжанні ведалі два-тры бліжэйшыя сябры. Каб не здрада — яго нельга было б знайсці. Ён лічыў за лепшае рызыкаваць толькі сваёй галавой. Калі ўжо здарыцца бяда — хай з яго смерцю перарвуцца галоўныя ніці падпольных тайн. Але ў горшае ён не верыў. Сам шчыры, просты і адданы справе паўстання, ён верыў у нязломную цвёрдасць людзей, якія рабілі з ім адну справу.

Дзве роты салдат і адзін чалавек. Салдаты абкружалі Святаянскія муры ў Вільні. Пачаўся пошук чалавека, які кіраваў адсюль паўстаннем у Беларусі і Літве, не даючы згаснуць полымю. Ратаваў самае каштоўнае — сяброў, братоў, людзей. Дамагаўся, каб вясною паўстанне выбухнула зноў...

Чалавек ішоў сходкамі насустрач салдатам, несучы свечку ў руцэ. Так яны і сутыкнуліся. Адзін нёс святло. Другія выраслі са змроку.

— Як ваша прозвішча?

— Вітажэнец,— спакойна адказаў малады чалавек.

Яго схапілі за рукі. Агеньчык скаціўся па каменных прыступках. Згаснуў.

Уласна кажучы, гэта быў канец. Бо ні на допытах, ні на судзе чалавек не зрабіў нічога, каб палегчыць сваю долю. Чалавека павесілі на Лукішскай плошчы ў Вільні.

Яго звалі Кастусём Каліноўскім, і за тыдзень да страшнай ночы 29 студзеня яму мінуў дваццаць шосты год. За такі час большасць людзей паспявае зрабіць мала. А гэты паспеў стварыць вольную беларускую прэсу, пасеяць насенне народнага гневу, узрасціць яго і зжаць пасеў. Спачатку ён кіраваў паўстанцамі Гродзеншчыны, а потым усклаў на свае юныя плечы паўстанне ўсёй Беларусі і Літвы. І калі белае панства здрадзіла і пакінула ўзброены народ, Каліноўскі ўзначаліў яго і неймавернай сілай волі трымаў гэты цяжар пяць месяцаў.

Што гэта азначала, можна ўявіць хоць бы з таго, што супраць паўстанцаў Беларусі і Літвы царызм кінуў 120 тысяч багнэтаў і шабель пры належнай колькасці артылерыі. На аднаго паўстанца было пяць салдат. І гэты адзін быў дрэнна ўзброены, а ў пяцёх была вывучка, гарматы.

І, аднак, людзі змагаліся, а Кастусь ствараў сетку арганізацый і атрадаў. Нават у апошнія дні. І гэтыя яго трагічныя апошнія часіны, гэтая тытанічная праца, гэтая мужная ўпэўненасць у тым, што яшчэ не скончана барацьба, гэтая гатоўнасць біцца да канца, гэтая невычэрпная любоў да волі, да радзімы, да дэмакратыі,— робяць асобу Каліноўскага самай трагічнай і велічнай у гісторыі Беларусі, яе нацыянальным героем.

Вось ён, студэнт, люта спрачаецца з «белымі» за волю і зямлю для народа. І мы на яго баку. Вось ён ідзе на чале мужных атрадаў: за поясам чамаркі два пісталеты, на чамарку накінута белая сялянская світка, а побач трапеча баявы сцяг. І мы захапляемся ім. Вось ён сядзіць з пяром над пробнымі водціскамі «Мужыцкай праўды». А мы сочым за ходам яго думак і згаджаемся з імі.

І мы адчуваем фізічны боль, калі ўяўляем яго на эшафоце, з мураўёўскай пятлёй на шыі, калі чуем яго апошнія словы.

Каб ніхто больш не асмельваўся называць рабом простага чалавека і крыўдзіць яго, каб адны не елі «пушны» хлеб, а другія не жэрлі, як не ў сябе, і не подлічалі, каб родная зямля між Дняпром і Бугам (а потым і ўсе землі на свеце) сталі радзімай волі і дэмакратыі,— ён, гэты малады чалавек, змагаўся словам, пяром і зброяй.

Каб не плакалі з голаду дзеці, каб не было прыгону і гвалту, каб квітнела вольнае слова, каб не было няроўнасці, каб не сівелі ў роспачы жанчыны, каб мужчыны не лаяліся бяссільна і не паміралі з думкай, што ў іх жыцці не было жыцця,— ён аддаў сваё жыццё. Бо ведаў: неацэнны дар — жыццё — нельга абражаць рабствам, голадам, цемрай, нацыянальным уціскам, смяротнымі пакараннямі.

«З-пад шыбеніцы» ён напісаў свой славуты верш, звернуты да зямлі, якая нарадзіла яго і выхавала, дала яму песні і родную мову і вочы, што бачылі ўсю нізасць і веліч свету, і сэрца, што беспамылкова адрознівае дабро ад зла.

...Калі яго вялі на пакаранне, ён, як усе «чырвоныя», трымаў кулак левай рукі на тым месцы, дзе білася сэрца. Стары ўмоўны знак змоўшчыкаў.

— Люблю Беларусь!

Грымелі барабаны. І пад гэты пошчак была зроблена адна з самых чорных спраў, якія ведала беларуская гісторыя.

Гэта было 10 сакавіка 1864 года ў дзесяць гадзін трыццаць хвілін раніцы.

## ГОРАД ПАЎСТАЕ
## 1863—1864 гг.

Паўстанне 1863—1864 гг. у Беларусі было разрозненым, складалася з соцень асобных выступленняў, выбухаў, сутычак і сапраўдных бітваў. Быў паўстанцкі ўрад, быў генеральны план паўстання, але практычна на тэрыторыі Беларусі існавалі дзесяткі цэнтраў, якія праводзілі сваю палітыку і сваё кіраўніцтва. Гэта адбывалася часткова таму, што паўстанне пачалося раней прызначанага тэрміну і план не мог быць распрацаваны да тонкасцей, часткова таму, што некаторыя сувязі не паспелі наладзіцца або губляліся ў працэсе самога паўстання. Многія гарады вымушаны былі дзейнічаць самі па сабе. І толькі гэта дае нам права гаварыць аб выступленні Мінска і Міншчыны ў адрыве ад агульнага польска-беларуска-літоўскага выступлення. Па гэ-

тай жа прычыне наш расказ пра паўстанне на Міншчыне немінуча будзе фрагментарны. Колькі атрадаў, колькі значных людзей — столькі і фрагментаў.

Сілаю, якая несла паўстанне на сваіх плячах, была дробная шляхта, разначынцы, інтэлігенцыя, студэнты, гімназісты і часткова рамеснікі.

...Што такое быў Мінск у сярэдзіне мінулага стагоддзя?

У той час ён налічваў ужо за сваімі плячыма восемсот год гісторыі. Быў калісьці багаты і слаўны, але за апошнія дзвесце год падупаў і ператварыўся ў вельмі правінцыяльны губернскі горад. Некалькі дзесяткаў вуліц, дзесяткі тры палацаў, з сотню добрых дамоў, кляштараў, цэркваў і касцёлаў, 35—40 тысяч насельніцтва. На месцы цяперашняга паштамта — поле, па Свіслачы — гарадская мяжа, на месцы тэатра імя Янкі Купалы і далей — яр, куды скідалі смецце, падпісчыкаў газет было мала, гасцініц не было.

І, аднак, гэты невялікі горад ніколі не быў горадам вернападданых, а ў сярэдзіне XIX стагоддзя настрой яго жыхароў зрабіўся ўжо рэзка антыўрадавы. Ідыёцкая палітыка ўлад, ганебная для айчыны, сацыяльны і нацыянальны ўціск, бяздарнасць і грубасць усёй дзяржаўнай машыны не маглі не выклікаць у душах сумленных людзей гневу і пагарды. Спела рэвалюцыйная сітуацыя.

На працягу цэлых дзесяцігоддзяў рассаднікам крамолы ў горадзе была гімназія. Нягледзячы на рэжым, на аблюбаваныя начальствам розгі і стаўленні на калені (а можа, менавіта і дзякуючы гэтаму), вучні яе ненавідзелі самаўладства. Увесь час узнікалі інцыдэнты.

Тадэуш Корзан, мінчанін, удзельнік паўстанцкага руху на Ковеншчыне, супрацоўнік герцэнаўскага «Колокола», пазней успамінаў, што аднаго вучня білі розгамі за патрыятычныя непадцэнзурныя вершы, а другога, які парэзаў нажом партрэт Мікалая І, здалі ў салдаты. Апалінарый Свентажэцкі, выпускнік Пецярбургскай медыцынскай акадэміі, знаёмы Каліноўскага, у сваёй кнізе «З успамінаў ссыльнага 1863 года» таксама сцвярджае, што самыя моцныя кадры паўстання далі гімназія ды яшчэ Пецярбургскі і Маскоўскі універсітэты, дзе вучыліся многія

мінчане. Апошняе, урэшце, справядліва не толькі для Мінска, але і для ўсёй Беларусі.

У 1857 годзе ў Мінскай гімназіі было 538 вучняў, перад паўстаннем — 600. Пасля паўстання — 240... І нездарма пры першых прыкметах рэвалюцыйнага выбуху ля дзвярэй гімназіі паставілі варту на чале з маёрам Варанцом. Губернатар ведаў, што робіць! Ва ўсіх атрадах пазней змагаліся мінскія гімназісты. Так, пасля разгрому атрада Карла Святолдыча сярод забітых быў вучань сёмага класа Мінскай гімназіі Сулістроўскі, а сярод акрываўленых вязняў, без ніякай лекарскай дапамогі прывезеных у Мінск, хлопчык дзесяці-дванаццаці год, вучань першага класа гімназіі Бароўскі. Нават дзіцячыя сэрцы не цярпелі несправядлівасці!

Адзін з вядучых людзей паўстання на Міншчыне, пазней выдатны дзеяч «Інтэрнацыянала» Антон Трусаў таксама выйшаў з муроў гімназіі. Аб гэтым чалавеку мы будзем расказваць па неабходнасці сцісла, а тых, хто захоча бліжэй пазнаёміцца з выдатнай яго асобай, адсылаем да кнігі Генадзя Кісялёва «Сейбіты вечнага».

І справа была, вядома, не толькі ў гімназіі. Агульны дух большай часткі гараджан у Мінску быў непакорлівы і бунтарскі. Разначынцы, шляхта, гарадская бедната, сярэднія класы ненавідзелі стала і зацята. Холад насельніцтва зразумеў нават Аляксандр II, які наведаў Мінск восенню 1858 года. Дарэчы, цікава, што пасля гэтага візіту імператары ў горадзе больш не бывалі. Не хочам сказаць, што пабойваліся, але, ва ўсякім разе, ведалі, што будуць адчуваць сябе няёмка. Мінск заўсёды быў нязручным для тыранаў горадам.

Агульны дух непаслушэнства і адкрытых маніфестацый валодаў Мінскам у тыя часы. Калі ў 1861 годзе прыйшла звестка пра смерць выдатнага польскага дзеяча і гісторыка Іаахіма Лелевеля, гараджане вырашылі адправіць набажэнства за ягоную душу. Губернатар добра ведаў, што за асоба Іаахім Лелевель, і набажэнства не дазволіў. І тады горад знайшоў выхад. Якраз памёр нікому не вядомы цёзка Лелевеля Іаахім Кудзіновіч. Набажэнства было заказана па ім, балазе і касцёл і царква ў такіх выпадках ужываюць толькі імя. Начальства было ў

непаразуменні: такая нязначная асоба, а на набажэнстве — палавіна горада.

У сувязі з расстрэлам дэманстрантаў у Варшаве ўзнікла і другая форма маніфестацый: нашэнне жалобных убораў. Жанчыны насілі чорныя сукні, не ездзілі на балі і не танцавалі. У жалобе быў увесь горад.

Рэвалюцыйная агітацыя працвітала. Агітаваў Трусаў, агітавалі іншыя. Распаўсюджвалася нелегальная літаратура, была створана рэвалюцыйная арганізацыя. Многія людзі на знак дэманстрацыі хадзілі ў народных беларускіх касцюмах, каб нават вонкава паходзіць на мужыкоў.

Душою мінскіх «чырвоных» была Каміла Марцінкевіч, дачка славутага беларускага пісьменніка. Яе гурток, па словах В. Кошчыца, «згуртаваў усё, што было самае патрыятычнае». Інкрымінаваўшы дзяўчыне спяванне ў катэдральным касцёле патрыятычнага гімна і нашэнне жалобных убораў па забітых у Варшаве, улады абвясцілі яе вар'яткай і пасадзілі ў дом для вар'ятаў, пасля вымушаны былі выпусціць (ля дома ўвесь час збіраліся людзі і кідалі да агароджы кветкі), але пазней пасадзілі ў турму і выслалі.

Мінчане сустракалі ссыльных, якіх везлі пасля варшаўскіх падзей у Сібір, ля заставы горада і дапамагалі ім: давалі ежу, грошы і вопратку. Нядоўга давялося чакаць і Мінску. Хутка і адсюль пачалі адпраўляць людзей у ссылку. Першым ссыльным быў суддзя грамадзянскай палаты Уладзіслаў Дмахоўскі. За ім — лекары Любічанькоўскі і Казлоўскі, майстар фартэпіяна Бяляўскі (творца аргана для каралішчавіцкага касцёла, таго самага, які вельмі хваліў кампазітар Манюшка).

Цэнтр падрыхтоўкі паўстання засядаў звычайна ў кнігарні Валіцкага або ў Карнеля Пялікшы, які пазней быў прызначаны мінскім ваяводай. Мужчыны распрацоўвалі планы паўстання, жанчыны шылі вопратку і шчыкалі корпію для перавязкі ран.

Бунт вось-вось павінен быў выбухнуць. У паветры пахла порахам. У гімназіі і ў іншых установах збіралі грошы на зброю і самую зброю. Людзі ехалі з грашыма за мяжу, каб закупіць стрэльбы. Жыхары адкрыта казалі: «Каго не будзе з намі, таму кулю

ў лоб; прыйшоў час знішчаць ворага ўсімі мерамі...»

Памагалі гэтаму настрою і партыі ссыльных з Захаду. Па руках мінчан хадзілі іхнія фатаграфіі, гараджане ўсяляк імкнуліся зрабіць высакародным людзям хаця б нейкую палёгку. Ссыльных пачалі праводзіць горадам уначы. Адно такое «мерапрыемства» (у чэрвені 1862 года) скончылася сутыкненнем. На Залатой горцы (ля скрыжавання цяперашняй Даўгабродскай і Ленінскага праспекта), каля капліцы святога Роха, этап чакалі людзі, якія хацелі перадаць арыштаваным лекі і ежу. Ім забаранілі гэта, і тады ў народзе выбухнула ярасць. Пачалася бойка. Супраць казацкай зброі пайшлі ў справу жэрдкі, доўбні і каменне.

У сувязі з непарадкамі ўлады зачынілі гімназію. Гэты іхні ўчынак вызначаўся проста-ткі дзяржаўнай мудрасцю: вучні цяпер маглі замест урокаў хадзіць на дэманстрацыі.

14 снежня як прадвесце будучай бітвы запалала над Беларуссю і Мінскам не бачанае тут дагэтуль паўночнае ззянне.

...Аб пачатку паўстання на Гродзеншчыне Мінск даведаўся з паведамлення «Кур'ера Віленскага», які выдаваў Адам Кіркор. І што б ні казалі аб згодніцтве гэтага чалавека,— ягоны ўчынак, за які можна было панесці поўную крымінальную адказнасць і які сказаў усёй краіне аб тым, што час браць зброю,— сведчыць супраць абвінавачвання... Вось вам і згоднік!

Амаль адразу на Міншчыне пачалі пілаваць тэлеграфныя слупы. Ад Маладзечна да Слуцка. Пачаліся напады на паштовыя эстафеты. рэквізіцыя ўрадавай пошты (потым яе звычайна палілі) і экспрапрыяцыя грошай на патрэбу паўстанню. Пад Нясвіжам спалілі вісячы мост. Мінскія разначынцы і рамеснікі, а таксама шэсць тысяч беднай шляхты ў наваколлі горада ўяўлялі сабою парахавую бочку, да якой трэба было толькі паднесці кнот. Першы мінскі атрад быў арганізаваны ў лютым, а ўжо 14 лютага ўзнікла следчая камісія па палявых справах пад старшынствам палкоўніка Рэйхарта. Чуткі, што даходзілі да яе, былі ўсё больш трывожныя. Атрад інсургентаў у рэйдзе са Слоніма на Мінск праехаў праз Мір. Другі атрад таксама праехаў праз Мір, кіруючыся на Налібоцкую пушчу.

Пачыналася малая вайна. Паўстанцы хапалі прыгнятальнікаў і расстрэльвалі іх. Атрады (партыі) раслі ў колькасці. Толькі пад Слуцкам дзейнічалі чатыры партыі, у якіх было да 500 чалавек. Рэйхарт, лаючы мяцежную інтэлігенцыю, даносіў: «Впрочем, и некоторые туземцы православные не лучше их... тому служит доказательством то, что нашлись между ними охотники присоединиться к повстанцам».

Але адначасова даходзілі і чуткі, радасныя для ўлад. Папы падбухторвалі сялян супраць паўстанцаў, кажучы, што гэта паны, якія вырашылі вярнуць прыгон. І цёмнае сялянства сям-там верыла ім і не ішло ў партыі, а дзе-нідзе і дапамагала ўраду. У Карэлічах, напрыклад, сяляне на чале з папом зрабілі вобыск у падазроных сялян і дробнай шляхты. Тыя, у каго была знойдзена зброя або медальёны ці патрыятычныя паясы з гербам, былі схоплены. Іх вялі, каб аддаць у рукі ўлад, і білі. Білі тыя самыя сяляне, за шчасце якіх гэтыя людзі рызыкавалі жыццём.

Арышты пракаціліся і па Мінску. Схопленых кінулі ў турму, у былы кляштар бернардынак. Аўтар «Успамінаў сучасніка» Паўловіч (ён таксама сядзеў там) прыгадвае, што суседам ягоным быў Цюндзявіцкі, першая ахвяра мураўёўскага тэрору на Беларусі. Гэты чалавек быў з буйнай барысаўскай шляхты, служыў афіцэрам царскай арміі. Паўстанцкі ўрад прызначыў яго начальнікам аднаго з атрадаў. Але галоўным пунктам абвінавачвання было распаўсюджванне «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага. Новага слова баяліся.

Цюндзявіцкі мужна чакаў канца. На вялікдзень арыштаваныя спявалі песні, і гэта былі апошнія спевы ў жыцці чалавека, якому было суджана адкрыць сабою доўгі і страшны мартыралог на Беларусі.

Калі яго выводзілі з турмы на страту, ён вітаў сяброў. Гурмы людзей ішлі за ім па вуліцах. Месца расстрэлу было на разгалінаванні Койданаўскага і Ігуменскага трактаў, недзе ў раёне цяперашняй фабрыкі-кухні або паштамта.

Было гэта 21 мая. Яму было 23 гады, і ён спакойна выслухаў прыгавор. Ужо стоячы ля слупа, ён папрасіў, каб яму не завязвалі вачэй.

— Я ўсё-такі салдат і змагу глядзець у вочы смерці.

То былі апошнія яго словы. У гэты час закукавала зязюля, лічачы яму гады, якіх не будзе. І тады прадзерлася праз натоўп і кінула да слупа букет кветак не вядомая нікому дзяўчына з вёскі Палонная. Ён хацеў яшчэ нешта сказаць народу, але тут забілі барабаны, а пасля грымнуў залп. Людзі бралі змочаны крывёю пясок як талісман нянавісці.

Пасля над магілаю паставілі варту, але ўсё роўна народ абсыпаў капец кветкамі, усё роўна моладзь складала вершы і спявала песні, усё роўна, па сведчанню Паўловіча, «да яго магілы ішоў незлічоны натоўп усіх саслоўяў, вераванняў і нацыянальнасцей».

Гэта праўда. Гераічная смерць за народ не ведае веры і нацыі.

І людзі стаялі вакол, а дзеці, якім нічога не маглі зрабіць, непрыкметна бралі ў іх вянкі і кветкі і складалі на палявую магілу сярод жытоў.

Народ вяртаўся з гэтай магілы «збратаны», але і перапісаны шпіёнамі. Урад тады ўвогуле не дужа разганяў маніфестацыі з прычыны зручнасці іх для блакітных мундзіраў. Яму было больш выгадна абяскровіць паўстанне, выявіўшы ўсе ягоныя сілы.

Каб усе былі такія, як Цюндзявіцкі, расправіцца было б цяжэй, нельга абяскровіць увесь народ. Але, як пісаў Апалінарый Свентажэцкі: «Калі надышла гадзіна таго дзеяння, на жаль, аказалася, што значная частка выбуховага полымя была толькі саламяным агнём».

А. Свентажэцкі трапіў у Мінск вясною 1863 года і адразу ж сустрэўся з Паўлам Дыбоўскім. Той дастаў з жолаба ў стайні і паказаў Апалінарыю паўнамоцтвы ад Літоўскага правінцыяльнага камітэта, а пасля прызначыў Свентажэцкага акруговым начальнікам з абавязкам арганізаваць паўстанне ў ваколіцах Ракава.

Начальнікам узброеных сіл у Мінску быў часова прызначаны Адам Ваньковіч, а ваяводай — Карнель Пялікша. Павінен быў ён стаць галавою мінскага паўстання, але вымушаны быў знікнуць, калі меліся яго схапіць. У эміграцыі скончыў з сабою. Чаму ж, пайшоўшы на гэта, збаяўся годнай смерці ад рукі ворага? Чаму сваёй нядбайнасцю і нядатнасцю заваліў мазгавы цэнтр мінскага паўстання? Невядо-

ма, што рухала ім. Але сіла, якая і без таго расспалася на партыі, засталася, у дадатак да ўсяго, яшчэ і без галавы.

У красавіку пачаўся адзін з самых гераічных і трагічных паўстанцкіх рэйдаў. Самых гераічных, бо ўдзельнічалі ў ім збольшага юнакі і падлеткі, студэнты, гімназісты і іншыя, кепска ўзброеныя стрэльбамі, але звыш меры — нянавісцю і любоўю.

Як успамінае ў сваёй ананімна выдадзенай у Кракаве брашуры Янка Лучына, 19 красавіка (1 мая) 53 такія паўстанцы сабраліся тайна ў лесе за Залатой горкай. На чале іх стаяў Канапацкі, што атрымаў інструкцыі ад Трусава. Сам Трусаў з партыяй выйшаў з горада па Ігуменскім тракце. Абодва атрады павінны былі злучыцца ў Валмянскіх лясах і ісці ў напрамку на Ігумен, а там зліцца з атрадам Ляскоўскага.

У Сляпянцы атрад Канапацкага чакалі зброя — аж восем дубальтовак! — і прыпасы. Салдаты ішлі за атрадам па пятах, але хітрасцю інсургентам удалося адвязацца ад іх. Сяляне дапамагалі, але ўсё адно давялося цяжка. У трывозе, кепска ўзброеныя, людзі ішлі глухімі лясамі. Небывала цёплая вясна нараджала моравы і міражы. Адзін такі мірах людзі ўбачылі над Плісай — велізарных салдат на конях.

Атрады ўрэшце злучыліся, прыяднаі да сябе атрад Вярбіцкага і партыю Красоўскага і пайшлі пушчамі на сустрэчу з Б. Свентажэцкім.

У Мінску між тым сітуацыя была складаная. Улады баяліся. Настолькі баяліся, што Мураўёў прапанаваў узброіць надзейных сялян і паставіць іх пад кіраўніцтва вопытных афіцэраў. Начальства, аднак, адмовілася. Надзейныя маглі зрабіцца ненадзейнымі, а прывіду сялянскай вайны палохаліся нават болей, чым паўстанцкіх партый.

Узмацнілі тэрор. 2 чэрвеня аб'явілі горад і губерню на ваенным становішчы. Жанчынам забаранілі насіць жалобу пад пагрозай звальнення мужоў са службы. Тых, хто ўсё ж насіў, чакаў на першы раз штраф 25 рублёў срэбрам (кошт каровы), на другі раз — штраф 50 рублёў, на трэці раз — арышт за «ўдзел у мяцяжы». І ўсё ж мінчанкі на вуліцах літаральна атакавалі мужчын за тое, што яны ў горадзе, што не ідуць у атрад. Вінавацілі іх у здрадзе, у бра-

ку патрыятызму, казалі, што тыя — не мужчыны.

Між тым як Трусаў ішоў на злучэнне з Б. Свентажэцкім, сваяк апошняга, Апалінарый, аб'язджаў фальваркі, збіраючы людзей. Лічыў, што збярэ сотню, а сабралася чалавек дваццаць. Мэтай А. Свентажэцкага было ісці ад Ракава на Радашковічы, знішчаючы тэлеграфныя слупы, забраць у Новым Двары зброю і ісці ў бок Іліі, каб далучыцца да вілейскай партыі Козела. І тут дайшла звестка, што 16 мая партыі Козела не стала і, значыцца, ісці на Ілію няма патрэбы. Тады атрад з месца збору ў Міхалове (8—10 км ад Ракава на Валожын) рушыў на поўдзень. Дарогаю далучаліся да іх яшчэ людзі: і простыя, і шляхта, і нават афіцэр рускай арміі. І, аднак, ва ўсім адчувалася нешта трывожнае.

Свентажэцкі піша: «Сяляне зычліва развітваліся з намі: «Няхай бог таму памагае, хто да нас будзе добрым». У двухсэнсоўнасці гэтых слоў — уся тагачасная сялянская пазіцыя!

За Койданавым атрад Свентажэцкага зліўся з атрадам Дыбоўскага (Зарэмбы) і сумесна прыняў прысягу. Сурова гучалі ў лесе галасы, суровыя былі твары людзей, а непадалёк стаялі людзі з фальварка і вёскі, гатовыя поплеч біцца і памерці.

Зарэмба быў чалавек суровы і лаканічны. Нават у сне ён не выключаўся да канца, а чуйна рэагаваў на ўсё. Пад яго камандай было 69 чалавек, а на чале аднаго з двух пададдзяленняў стаяў рускі Фёдар Яльчанінаў пад псеўданімам Гарап.

Часта ратавала атрад веданне Гарапам карнай арміі, тактыкі ворага, прыёмаў бою, нават трубных сігналаў. Калі, напрыклад, у час бітвы ля Ушы карнікі перайшлі ў наступленне, Гарап сыграў сігнал: «Адступіць урассыпную» — і праціўнік сапраўды кінуўся бегчы.

Між тым атрад апанавалі разброд і хістанні. Зарэмба з незразумелай прычыны кінуў яго і ўсплыў — блізкі свет! — аж у Канстанцінопалі. Пры бітве ля вёскі Баравая выявілася, што арганізацыі няма і адзін толькі Гарап заклікае да парадку. Свентажэцкі распускае партыю, а сам з чужым пашпартам едзе ў Пецярбург. Выбрацца за мяжу яму не ўдалося, і ён пачынае калясіць па імперыі. Урэшце яго арыштоўваюць у Тамбоўскай губерні, хочуць павесіць,

але пасля пад узмоцненым эскортам адсылаюць у Мінск. І тут, у Пабернардынскім кляштары, зноў перакрыжоўваюцца шляхі — яго і Камілы Марцінкевіч (мужная дачка «першага дзеяча на ніве беларускай» была саслана ў Салікамск і вярнулася ў Мінск у 1880 годзе).

Разам з імі ў турме Пабернардынскага кляштара сядзеў мінскі лекар П. Чакатоўскі. Віна ягоная была тая, што і ў Камілы: дапамога ссыльным, якіх гналі ў Сібір. З імя гэтага лекара лепей за ўсё пачаць эпапею аб подзвігу мінскіх жанчын. Чакатоўскага саслалі, але пасля Мураўёў загадаў вярнуць яго ў Вільню, на даследаванне. І тады мінчанка Казіміра Булеўская, ужо заручоная, вярнула жаніху пярсцёнак і абвянчалася ў турме з Чакатоўскім, а пасля паехала за ім у ссылку.

А. Свентажэцкі, якога прысудзілі да катаргі, пазней сустрэў Чакатоўскага з жонкай на этапе. Слабая жанчына, ужо хворая, ехала без нараканняў на сваю долю і з гонарам.

І яна была не адна. За А. Аскеркам пайшла яго нарачоная Грабоўская. Да Паўлоўскага прыехала Ваяводская з Мінска. За мінскім доктарам Пякарскім адправілася ў ссылку Івашкевіч. Ва Усоллі, у Бураціі, у якуцкіх снягах цвёрда неслі свой крыж нашы жанчыны. Жонкі «белых неграў», пазбаўленых правоў, лячылі ссыльных, кармілі іх, былі жывою сувяззю з воляй.

Нізкі паклон вашым даўнім магілам, мінскія «дзекабрысткі». Вы жывыя для нас!

А пакуль людзі ваявалі, сядзелі ў турмах або ў ланцугах рухаліся ў Сібір, Мінск жыў сваім няпростым, замкнёным жыццём. Прыдушаны рэжымам і расстрэламі, ён жыў.

У пажарах, якія пракаціліся па горадзе ў тое лета, улады абвінавацілі паўстанцаў, якім не было патрэбы рабіць гэта. «Уладу маючыя» хацелі адчуваць сябе спакойна і ўзбуджалі паклёпам нізкую нянавісць мешчаніна і бюргера, каб хаця гэтым умацаваць пад нагамі зямлю.

Але гэта пазней, а цяпер вернемся ў май месяц.

Партыя Трусава, якую мы пакінулі недзе пад Плісай, ішла.

Яны не ведалі, што Б. Свентажэцкі здаў свой атрад на Ляскоўскага і эмігрыраваў за мяжу.

Як гэта здарылася? Партыя ў тыя дні налічвала да дзевяцісот байцоў. Кіраўнік абвясціў поўную свабоду сялян ад часовых абавязкаў, выкупу і падаткаў, і тыя ішлі да яго. 8 мая ў дваццаці вярстах ад Ігумена, ля вёскі Юравічы, загрымела пяцігадзінная бітва. Карнікам удалося разграміць інсургентаў. Былі захоплены палонныя. Пачалася расправа. Адзін з параненых паўстанцаў прасіў піць, і тады поп Канапасевіч, грунтуючыся, відаць, на вучэнні аб хрысціянскай літасці, насыпаў яму ў рот пяску. Пазней гэтага папа інсургенты павесілі на перакладзіне ўласных варот, чым далі афіцыйнай прэсе падставу крычаць аб «злачынствах».

Пасля юравіцкага разгрому атрад узяў на сябе Ляскоўскі, што адступіў за балоты ў дрымучыя Багушэўскія пушчы, якія і цяпер здзіўляюць мядзведжай дзікасцю.

І вось да яго і ішла, блытаючы лясамі, партыя Трусава. 9 мая (па н. ст.) ля вёскі Пятровічы іх дагнала рота салдат. Пасля жорсткай трохгадзіннай сутычкі разбіты мінскі атрад адступіў і групамі пачаў прабірацца на Ігумен.

У Каралішчавічах паўстанцаў (сярод іх быў мінскі кампазітар Ф. Міладоўскі) выдалі — па тры рублі за галаву. Тут не ўдалося папоўніць колькасць людзей, і Трусаў рушыў далей.

11 мая частка яго атрада ў вёсцы Сіняло напаролася на карнікаў, але пасля перастрэлкі, уплаў праз Свіслач, вырвалася і пазбегла палону. Пазней атрад Трусава злучыўся з атрадам Ляскоўскага. 350—400 чалавек, пераважна мінчан, дзейнічалі ў лясах нават тады, калі паўстанне пайшло на спад. Трэба было давесці свету, што нязмерныя былі пакуты, але і нязмернае жаданне волі.

Самі казакі лічылі, што кіраўнікі партыі ведаюць чары, таму што атрад заўсёды выходзіў з акружэння нават там, дзе не магла б праскочыць і мыш. У бяссіллі душыцелі пайшлі на меры, якія пахнулі сярэдневякоўем. Двор Б. Свентажэцкага, напрыклад, збурылі, спалілі, а месца зааралі.

Ляскоўскі ваяваў яшчэ доўга, узяў нават у палон начальніка трэцяй запасной пяхотнай дывізіі генерал-

лейтэнанта Грунта, але пасля адпусціў пад слова гонару, што ваяваць больш з паўстанцамі той не будзе. Слова сваё генерал стрымаў. Але пазней Лясkоўскі вымушаны быў распусціць партыю і з малой групай прабіцца за мяжу.

Паўстанне згасала. Кожны з 21 мінскіх атрадаў быў або разбіты, або распушчаны, або прабіваўся на Захад. Былі сотні забітых, былі пакараныя смерцю, 224 чалавекі сядзелі пад следствам.

Але самай страшнай была вернападданая петыцыя 2734 дваран цару. Малілі аб літасці і распісваліся ў адданасці прастолу і любві да манарха. Жылы вывіліся слабымі.

На Беларусь была накладзена страшная мураўёўская кантрыбуцыя. На Міншчыне яна складала 400 тысяч рублёў срэбрам ды яшчэ 90 тысяч рублёў на пратакалістаў, што амаль раўнялася сапраўднаму гадавому даходу. Край быў разграблены, горад — абдзёрты. Разгром цягнуўся далей, тэрор лютаваў, росшук шпіёніў.

2 студзеня ў Мінск выехаў палкоўнік корпуса жандараў Лосеў. Хітрасцю і паралельнай праверкай чутак, што хадзілі ў розных гарадах, ён напаў на след апошняй рэвалюцыйнай арганізацыі ў Мінску і раскрыў яе. Па горадзе пракацілася хваля аднагасовых раптоўных вобыскаў, арыштаў, допытаў «естественно, силой кротких, вежливых убеждений». Быў арыштаваны В. Парафіяновіч, пляма на сумленні, на чысціні паўстання. Ад яго пацягнуліся хвасты ў Вільню.

І ўрэшце быў узяты Кастусь Каліноўскі, гонар наш, слава наша і наша хвала.

А ў Мінску лютавалі аблавы і арышты. Узялі 89 асоб, што былі ў органах рэвалюцыйнай улады, секвестравалі 28 маёнткаў.

Зноў забівалі. Дзеяч паўстання на Міншчыне, упаўнаважаны камітэта Міхал Аскерка не прызнаўся ні ў чым і быў расстраляны ў Магілёве.

Урад, аднак, не супакоіўся, таму што ў чэрвені 1864 года Лосеў зноў едзе ў Мінск выкопваць карэнні рэвалюцыйнай арганізацыі. На гэты раз улоў быў «мізэрны»: выслалі 15 чалавек. Юда Парафіяновіч быў высланы ў красавіку ў Томскую губерню, іншых юдаў не знайшлося.

Горад быў жахлівы і тужліва прыціхлы. Сімвалам яго былі заўчасна пасівелыя жанчыны ў чорным. Начальства дазваляла насіць жалобу толькі тым, у каго ў сям'і быў памершы або забіты. Пасведчанні аб гэтым правяралі на кожным кроку. Гараджанка Немаршанская ў журботным гневе прышыла пасведчанне аб смерці мужа да сукні на спіне: горды знак прыналежнасці да высакароднага клана рыцараў свабоды.

Расстраляныя і павешаныя адпакутавалі, але яшчэ доўга, страшэнна доўга цягнулася пакута, цягнулася паўночная адысея сасланых.

А. Свентажэцкі вярнуўся на Беларусь у 1877 годзе. «Здалёк далятталі ноты тужлівай беларускай песенькі. Быў я ў краі сярод радзімых палёў і хат». Аднак мала чаго са старога можна было ўбачыць у тыя дні на Беларусі. Нават назва краіны была па-ранейшаму забаронена, нават на слове ляжала табу.

Царызм хацеў сцерці нават самыя нязначныя мясцовыя адзнакі, нават назвы мінскіх вуліц. Збаровая ператварылася ў Праабражэнскую, Валошская — у Крашчэнскую, іншыя — у Багадзельную, Губернатарскую. Нават ад назваў смярдзела ладанам і пугай, сумессю папоўшчыны і казармы, чым па сутнасці і стала імперыя.

Горад пакуль што горда маўчаў. Будучыя выступленні былі яшчэ далёка. І толькі вера ў іх і просты люд жыла на дне чалавечых душ.

І тут мы можам услед за Янкам Лучынай задаць пытанне: ці варта было паўставаць? І ўслед за Лучынай можам адказаць: было варта.

Паўстанне звярнула ўвагу ўсяго свету на гэты лясны край і яго народ. Паўстанне выклікала энтузіязм усіх шчырых людзей зямлі, а падаўленне яго — іхнюю бязмежную агіду. Карані яго цягнуліся праз дзесяцігоддзі.

І памяць аб ім і аб яго людзях жыве ў сэрцах нашых. Памяць аб ім жыве.

Твары яго ўдзельнікаў паўстаюць перад намі. Высакародныя твары. І сярод іх твары мінчан. Усіх, аб кім мы расказалі і аб кім не мелі магчымасці расказаць.

Здыміце шапкі перад іхняй памяццю.

## КОЛАСАЎЦЫ

Назвы такой да 1944 года не было. І ўсё адно для мяне яны коласаўцы. Так з вялікай пяшчотай называюць гэтую трупу на маёй роднай Віцебшчыне, і не толькі на ёй.

Колькі я жыву, столькі памятаю гэты тэатр і спадзяюся дажыць вызначаны мне век разам з ім, радуючыся, што ён жыве, нястомна расце, працвітае і, як заўсёды, заваёўвае сэрцы людзей.

Першыя спектаклі БДТ-2 мне давялося бачыць яшчэ да вайны. Тады мы — і я, і тэатр — былі зусім дзеці. Мне год сем. Ён гады на чатыры старэйшы. Бачыць і ў Віцебску, які пасля правінцыяльнай тады Оршы здаваўся вялізным, як Парыж, і ў самой Оршы, у даваенным драўляным тэатры, што так утульна размяшчаўся сярод дрэў парка над рэчкай Аршыцай.

Ясна, што тыя спектаклі моцна падзабыліся, але адчуванне свята ад святла, яркасці фарбаў, музычнасці, нават паху сцэны — яны не забудуцца. І менавіта з гэтай прычыны я не верыў і не буду верыць у хадзячую тэорыю смерці тэатра, забітага кіно і тэлебачаннем. Не будзе такога, пакуль існуюць дзеці, якія прагна глядзяць на заслону і чакаюць дзіва, якое адкрыецца іхнім вачам, а пасля застаюцца сябрамі гэтага дзіва, гэтага свята — на ўсё жыццё.

Не будзе для мяне асабіста і для тысяч і тысяч іншых, бо на свеце былі і ёсць — коласаўцы.

...Памятаю іх выязныя спектаклі пасля вайны ў выпаленай, ушчэнт спапялёнай Оршы. Калі нават завея не магла выць у руінах, бо і руін не было (немцы разабралі іх на ўмацаванні). Тэатр выступаў тады ў сяк-так адноўленым будынку старога касцёла. І ў нас, падлеткаў, ясна ж, не было грошай, каб паглядзець усе спектаклі. А нам так хацелася гэтай вялізнай штодзённай радасці! Мы проста не маглі без яе жыць. Як без хлеба.

Грэшным чынам, гэта я абследаваў тады ходы ў мурах касцёла і дазнаўся, што імі можна прабрацца і на галёрку (былыя хоры), і пад сцэну, і, у горшым выпадку, на гару, адкуль відаць было толькі патыліцы акцёраў.

І мы (хай даруе нам адміністрацыя) кожны раз

пранікалі туды і глядзелі, і смяяліся, і абліваліся слязьмі.

Ці мог я тады думаць, што «Званы Віцебска», першая з маіх п'ес, якая ўбачыць святло рампы, убачыць яго менавіта тут, на падмостках тэатра віцебскага, што ёю адкрыецца свята 1000-годдзя горада, што любімыя мае акцёры будуць гаварыць мае словы, што ў гэтым тэатры я ўрэшце не толькі глядач? А здарылася так. Такое шчасце здарылася. І падзеі трохсотгадовай даўнасці, апісаныя мной, ажылі ў знаёмых мне так даўно мурах, у абліччах так даўно мною любімых.

Мне лёгка і радасна працавалася з імі. І з рэжысёрам, і з мастаком, і з кампазітарам, і з усімі акцёрамі да адзінага. Гэта, згадзіцеся, шчасце. І калі вам будзе так жа добра з усімі намі, з гэтай п'есай, з гэтым цудоўным тэатрам — мы будзем лічыць, што зрабілі ўсё, што маглі.

Гэты тэатр для мяне, як каханне, на якое адказалі ўзаемнасцю. Я дзякую яму.

## НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

*У рэспубліцы ствараецца музей народнай архітэктуры і быту*

У канцы мінулага года Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб стварэнні Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту». Рашэнне гэта — адно з красамоўных сведчанняў клопатаў нашай партыі і ўрада аб далейшым развіцці беларускай нацыянальнай культуры.

Што будзе ўяўляць сабой будучы музей, музей пад адкрытым небам? З усёй тэрыторыі рэспублікі мяркуецца звесці і паставіць у адным месцы, у маляўнічай мясцовасці пад Мінскам, найбольш старыя і найбольш тыповыя сялянскія і мястэчковыя пабудовы: хаты, пуні, гумны, адрыны, дрывотні, млыны, іншыя жыллёвыя і гаспадарчыя пабудовы.

Вырасце як бы вялікае паселішча, і наведвальнікі яго здолеюць за досыць кароткі час убачыць, як жылі сяляне і мястэчкоўцы розных этнаграфічных раёнаў

Беларусі трыста, дзвесце, сто гадоў назад, учора.

Дзеля чаго гэта трэба? Ну, перш за ўсё,— гэта гісторыя народа. І праз гісторыю музей павінен яшчэ больш умацаваць у нашых людзях, і ў першую чаргу ў моладзі, пачуццё патрыятызму (а значыць, і інтэрнацыяналізму), пачуццё высокай адказнасці за сваю Радзіму, пачуццё павагі да працоўнага чалавека і кроўнай роднасці з ім.

І яшчэ: музей пад адкрытым небам — гэта Веданне. Веданне матэрыяльнай і духоўнай культуры народа.

Якой наша краіна стала за гады Савецкай улады — гэта ўсе мы добра ведаем (відавочныя таму прыклады будуць трапляцца ўжо на кожным кроку па дарозе з Мінска да музея). А вось якой была наша краіна, якой была яе культура да рэвалюцыі, з чаго мы выраслі — уяўленне аб гэтым і павінен будзе даць нам музей народнай архітэктуры і быту.

Міністэрствам культуры БССР зараз ствараецца арганізацыйная група. Яна будзе працаваць пакуль што пры міністэрстве, але як самастойная адзінка. Разам з зацікаўленымі арганізацыямі гэта група зоймецца зборам экспанатаў, выяўленнем і адборам помнікаў народнага дойлідства, грамадскіх і бытавых пабудоў, збіраннем даўніх прылад земляробства, рамяства, побыту, а таксама твораў народнага мастацтва.

Арганізацыйная група — будучая дырэкцыя — мае намер абапірацца на шырокае кола грамадскасці. І не толькі на дапамогу членаў таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (хаця, вядома, гэта ў першую чаргу іхняя справа, справа іхняга гонару), але і на актыўную дапамогу ўсяго насельніцтва рэспублікі.

Распачынаецца справа вялікай важнасці, і справа гэта можа быць даведзена да поспеху толькі пры актыўнай дапамозе кожнага з нас. Таму што мы з вамі, і толькі мы, ведаем, як выглядаў «бегунок», на якім мы вучыліся хадзіць, пакуль маці пякла аладкі, як выглядаў «ключ» (ад старажытнага слова «клюка»), якім хітра адсоўваўся «рыгель» у дзвярах.

...Уявіце сабе вялізнае вадасховішча, хваёвы і лісцёвы лес на яго берагах, а ў гэтым лесе, на ўзлессі і палянах, звезеныя з усіх канцоў Беларусі будынкі.

Срэбна-шчапяныя дахі і залаціста-саламяныя стрэхі. Разьблёныя ліштвы і франтоны. Махаюць крыламі ветракі, шуміць вадзяны млын. У лесе — леснічоўка. На беразе — рыбакова хата. Над вяндлярнямі — ядлоўцавы дымок. Тут — тыповы сялянскі двор з Полаччыны ці Ушаччыны, крыху далей — слуцкі або рагачоўскі двор. Уся наша рэспубліка, як на далоні, на плошчы ў нейкіх сто гектараў. На невялікай плошчы — усе праявы помнікаў народнага будаўніцтва: жылога, грамадскага, вытворчага і іншых.

Але паколькі людзі не жывуць і не жылі ў пустых хатах, то для хаты кожнага рэгіёна павінна быць і мясцовае ўбранства: розныя тыпы печак, мэблі, начыння, посуду, ткацтва, прадметаў быту — ад драўлянай лыжкі да гаршка, ад старых цымбалаў да сальнічкі.

А вакол хат — уласцівыя гэтай мясцовасці дворныя пабудовы. Сад, у якім мясцовыя пароды дрэў, агарод, у якім расце самая распаўсюджаная ў гэтай мясцовасці гародніна. Словам, усё гэта дзеля таго, каб вы, скажам, прывезлі ў музей сваіх дзяцей-мінчан, прывялі іх да полацкай хаты і сказалі ім: «Вось так, дзеці, жылі вашы дзяды. Гэта — ваша гісторыя. Яны былі працавітыя, простыя людзі. Але яны ўмелі не толькі працаваць. У іх было незвычайнае пачуццё прыгожага. Глядзіце, які посуд, як прыгожа і спрытна сплецена гэтая вярэнька, якія гожыя забаўкі, як меладычна гучаць іхнія музычныя інструменты...»

Але не толькі мінчанам, а і палачанам будзе цікава ўбачыць у музеі «полацкую» хату. Бо і на Полаччыне іх, тыповых, засталося вельмі мала. І мала хто іх бачыў: атрыбуты народнага побыту і культуры ўсё больш і больш знікаюць.

Працэс гэты няўхільны, але мы павінны зберагчы тое, што засталося. І пакуль што шмат яшчэ можна знайсці ў многіх вёсках багатых і каштоўных для музея матэрыялаў. Так што трэба спяшацца.

...Школа патрыятызму, школа павагі да працы і працоўных людзей, школа выхавання пачуццяў прыгожага на самых дасканалых, вякамі адточаных, народных узорах — вось што такое музей пад адкрытым небам.

У чым канкрэтна можа выявіцца дапамога грамад-

скасці будучаму музею? Ну, перш за ўсё, каб кожны з нас не застаўся раўнадушным да гэтай справы, зрабіў спіс старых пабудоў у сваім раёне, сельсавеце, вёсцы. У спіс гэты (а ён можа складацца нават з аднаго-двух цікавых старых будынкаў, што зберагліся ў наваколлі) павінна ўвайсці самае цікавае, самае адметнае. Старыя хаты розных тыпаў і канструкцый, розных планіровак, разнастайных формаў страхі або даху, з рознымі ўпрыгожваннямі на ліштвах, вушаках, франтонах. Разнастайныя тыпы двароў, агароджаў, гаспадарчых пабудоў — свіран, пуня, адрына, млыны паравыя і вадзяныя, ветракі, варыўні, скляпы (лёхі), паветкі, хлявы, цікавай формы студні, сыраварні, вяндлярні, азярыны рознай формы.

Не мінайце ўвагаю старыя кузні з усім начыннем, ганчарні і ганчарныя печы, майстэрні для насякання жорнаў, смалярні, дзе яны зберагліся, стальмашні, буды (спецыяльныя печы для вытворчасці паташу, выпальвання драўлянага вугалю) і многае, многае іншае.

Безумоўна, у хатах (земляроба, рыбака, пчаляра, палясоўшчыка і г. д.) павінна быць і адпаведнае начынне, рэчы, прылады, якімі карысталіся людзі. Усё тое, чым працаваў там калісьці наш працоўны чалавек, чым ён жыў. З гэтай прычыны значную цікавасць для музея ўяўляе даўняя мэбля: сталы, лавы, зэдлікі, шафы, канапы (не тыя, што зараз, а проста лавы са спінкай), скрыні простыя і маляваныя і г. д. Фатаграфуйце або рабіце замалёўкі асабліва цікавых даўніх печак з іхнімі нішамі і выступамі для размяшчэння розных прылад. Магчыма, камусьці пашанцуе знайсці печ з «комінам» (раней так называўся абмазаны глінай конус-дымаход з лазы, пад якім гарэла лучына).

Будучы музей зацікавяць таксама вырабы з воўны, лёну, канопляў, скуры, посцілкі, вышываныя ручнікі (наўрад ці якая гаспадыня — асабліва калі імя яе будзе ўпамянута — адмовіцца даць для музея нават «мамчын ручнік», калі ён упрыгожыць нейкую «пінскую» ці «віцебскую» хату), адзенне ўсіх узростаў, верхняе і ніжняе, для лета і для зімы, на свята і ў будні дзень, усе гэтыя «лятухі», «світкі», «буркі» і іншае, галаўныя ўборы, абутак («пасталы», «поршні», «лапці», «апанкі», на поўначы — драўляны абутак,

у якім выходзілі да жывёлы), паясы, упрыгожанні.

У спісе будучых экспанатаў абавязкова павінна быць рознае хатняе начынне (гаршкі, крынкі, драўляныя вёдры і цэбры, даёнкі і г. д.), прылады земляробства і жывёлагадоўлі, а таксама прадметы, патрэбныя на свята і для абрадаў.

Перш за ўсё музычныя інструменты: дуды і дудкі, жалейкі, цымбалы, гуслі, старыя скрыпкі і басэтлі, бубны, дрымбы (жалезныя выразныя пласцінкі з язычком, на якіх ігралі, сціснуўшы іх зубамі — гэта, галоўным чынам, на Палессі). Калі б нехта знайшоў батлейку з наборам (хай няпоўным) лялек — гэта быў бы добры падарунак будучаму музею.

І, вядома ж, нельга абмінуць увагаю творы народнай мастацкай творчасці: вышыўка наша і непаўторнае наша ткацтва, жывапіс, разьба, вырабы з гліны і дрэва, ільну і саломы, рогу і косці.

І яшчэ. Новаму музею будуць патрэбны не толькі жыллёвыя і гаспадарчыя пабудовы. Яму будуць патрэбныя і пабудовы культавыя, бо старую вёску цяжка ўявіць сабе хоць бы без капліцы. Таму неабходна ўзяць на ўлік старыя драўляныя цэрквы (а таксама старыя абразы, іканастасы і іншае ў іх), капліцы, старадаўнія драўляныя званіцы. Гэта таксама тое, чым жыла яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў назад наша вёска.

Па складзеных спісках вучоныя, архітэктары, гісторыкі — усе знаўцы даўніны адбяруць самае-самае вартае, разбяруць будыніну, перасыплюць у выпадку патрэбы, перавяжуць і паставяць на тэрыторыі будучага музея пад адкрытым небам. Каб людзі з усіх канцоў, з усіх краін дзівіліся будаўнічаму генію нашага чалавека.

Ужо зараз установы, прадпрыемствы і асобныя грамадзяне могуць пачаць збор экспанатаў народнага быту для будучага музея пад адкрытым небам. Дасылаць іх можна па адрасе: г. Мінск, Міністэрства культуры БССР, арганізацыйная група. І абавязкова ўказваць на кожным экспанаце: дзе, у каго, калі і пры якіх абставінах ён быў знойдзены.

Міністэрству культуры БССР варта было б падумаць аб тым, каб людзей, якія прыслалі найбольш цікавыя знаходкі, нейкім чынам заахвочваць і пра знаходкі гэтыя шырока паведамляць у прэсе. Гэта бу-

дзе стымуляваць людзей, падахвоціць іх, прымусіць яшчэ больш актыўна збіраць экспанаты для будучага музея, дасць лепшую арыенціроўку на тое, што, як і дзе шукаць, у якім напрамку весці пошукі.

Словам, праца наперадзе чакаецца вялікая. Але гэта — высакародная, удзячная праца. Наш агульны клопат цяпер — садзейнічаць як мага хутчэйшаму адкрыццю будучага музея, зрабіць яго дзейсным сродкам ідэйна-маральнага і эстэтычнага выхавання працоўных.

## АБДУВАНЧЫК НА КРОМЦЫ ВАДЫ

Ёсць у вялікага мастака М. К. Чурлёніса карціна «Спакой». Апалогія раўнавагі. Вялікі светавы акіян настолькі ціхі, што каля самай кромкі вады паспеў пабялець і не абсыпацца абдуванчык.

Спакой даўно. Прарос, зрабіўся маленькім залатым сонцам, пасля — апушыўся, пасля — рассее свой род па ўлонні зямным.

Як у каго, але ў мяне гэтая карціна выклікае адзіную думку: наколькі ж я моцны. Як я ўсё магу. Захачу — сякерай пад камель тысячагадовы дуб. Захачу — разаб'ю вялізны, як хата, валун. Захачу — па бярвенцы, па каменьчыку разнясу першую — лепшую крэпасць. Дзесяткі тысяч рук узводзілі піраміду Хеопса. А ў мяне дзве рукі і (пакуль па іх не далі) шар-баба, дынаміт, меленіт, трасца і хвароба. І — выбуховай сілы папера ад нейкага... гм!.. геадэзіста, што шаша павінна прайсці якраз праз такі і такі будынак, адкрыты кар'ер ляжыць якраз пад каранямі дубовага гаю, які памятае часы Шэкспіра або нават Цэзара.

Паперыну можна павярнуць, як дышаль, куды ты хочаш. На месцы рэліктавага лесу пабудаваць прафілакторый (мой!) або крэматорый (мой!), як быццам побач няма месца.

Як быццам нашчадкі, калі яны толькі захочуць (а я да таго часу даўно ўжо буду безабаронны), не знясуць усяго, што толькі захочуць, каб насадзіць на тым месцы сваё.

Псуюць нашу памяць, каб нехта пасля сапсуў іхнюю.

Выйсце, відавочна, адзінае: перастаць ганарыцца сваёй сілай (на тваю сілу заўсёды знойдзецца іншая), перастаць бачыць саперніка ў тваім продку, каб нашчадкі перасталі бачыць саперніка ў табе.

Дыялектыка ў тым, што для добрага — калі гэта зроблена добра — заўсёды знойдзецца месца. Побач са старым і новым.

Дыялектыка ў тым, што абдуванчык на кромцы вады, вядома, безабаронны.

А ты на кромцы жыцця?

Сутнасць у тым, што ты зрабіўся занадта моцны. Я вось так аднойчы штурхнуў проста далонню дрэва. Ды, відаць, трапіў у нейкую там «амплітуду», і яно ўпала. А ў ім было некалькі гнёздаў! І птушкі над гэтымі шкарлупінамі галасілі дужа «сілне і слезне».

Мне была забава, а ім...

Ёсць гэтаму жывыя сведкі. А самы няўмольны — мая памяць і маё сумленне.

Не хочаш, каб нехта вось таксама, не думаючы штурхнуў тваё існаванне — ну штурхай сам.

Ты дасягнуў такіх неймаверных магчымасцяў, што жах уявіць. Ты сапраўды (па праву ці без права) — «цар прыроды» (ох, як мне хочацца пры адным слове «цар» узяцца за маю добрую пушчанскую доўбню!). Ты ўсемагутны. І менавіта таму, што ты ўсемагутны, асабліва цяпер, засвой першы прынцып культуры: умей абмяжоўваць сябе. Нават калі гэта ў нечым табе асабіста пашкодзіць.

Не грабі далонню, шкробай, жменяй — лепей аддай. Будзеш багацейшы за Крэза, бо прыдбаеш раўнавагу ў гэтым свеце, які цябе стварыў і якому ты павінен як мага аддзячыць.

Гэта вельмі простае крэда: жыві ў поўнай раўнавазе з прыродай, маці тваёй, пакінь, урэшце, бачыць у ёй ворага (а то, як бач, яна ўбачыць яго ў табе, і табе ж будзе горай), з якім трэба безупынна ваяваць, адстойваючы права на існаванне.

Яна на тваё права на існаванне руку не заносіць. Калі ты, вядома, разумны і пяшчотны палюбоўнік. А калі ты добры палюбоўнік (а значыць, каханы), навучыся асцярожнасці, максімальнай абярэжнасці ў сваім каханні.

Вось пляжаць лес, ідзе молевы сплаў, аголены схілы яроў, плыве аглушаная рыба, хвошча ў раку вада са сцёкавай трубы, пэцкае дымам неба завод.

Гэ, мілы, ды ты гвалтаўнік! Там, дзе можна ўгаварыць, ты робіш злачынства горшае, чым забойства.

Глядзіце, вось яры, кар'еры, звалкі!

У нас столькі яшчэ пустых, продкамі калісьці спустошаных пустошных фактычна зямель. То, можа, спачатку прывучыцца аднаўляць іх? Прывучыцца браць спаўна з таго, што ў нас ёсць? Не разменьваць дзесятку на шклянку газіроўкі, калі ў цябе ў кішэні ёсць капейка.

Ледзь не самы горшы чалавечы грэх — скупасць! І тая ж самая скупасць — адна з найбольшых чалавечых выртасцяў, калі справа ідзе пра кішэню грамадства. Не «мой рубель», а «мой, твой, ягоны».

Бярыце з таго, што ёсць. Не адбірайце нічога ў лясоў, паплавоў, у жывёл і птушак, якія жывуць там.

Ведаю, што ўсе гэтыя ламентацыі (а па-нашаму, па-простаму — лямант) могуць не дайсці па адрасе. І таму давайце проста звернемся да вашага здаровага сэнсу, да таго, што вы не проста «гаспадарнікі». Гэта вас прызначылі — гэта вас і зняць могуць. Але ніхто (і найперш — ваша сумленне) не здыме вас з пасады мужоў, бацькоў, таварышаў. Гэта ваша пажыццёвая (і нават пасмяротная) пасада. Пакуль можаце — служыце ёй.

Браслаўшчыне, Прыпяці, Дняпру, Гарыні — вячэрняму пылу на дарогах, па якім вечна ступаць босым чалавечым нагам!

Вы і вашы ўнукі жывяце для гэтага. Чалавек запраграміраваны для свежай вады, абмытай дажджом зеляніны, чыстага паветра. І таму калі мы хоць у дробязі нявечым адзіную, раз і назаўсёды нам дадзеную біясферу — мы нявечым саміх сябе.

Могуць спытацца: «А чаго ты гарлаеш, чалавеча, калі гэта і так усім вядома?» Так, «усім вядома». Але існуе на свеце такая рэч, як чалавечая легкаважнасць.

«Ну, паступлюся ў дробязі. Вунь, сусед ваюе. І другі. І трэці».

«Так, і соты ваюе. Ён храбры дзядзька. А я яму буду біць у ладкі». Ды не біць у ладкі трэба там, дзе і ты сам прыклаў сілу. Чым ты будзеш біць у ладкі,

калі ты склаў рукі? І падумай, калі ты ўжо звыкнуў думаць толькі пра сябе, што кожная ўпушчаная табою дробязь на табе і адгукнецца.

Атручаная «хіміяй» пчала, разбітая кімсьці аб камень бутэлька — і вось дзеці твае не пабягуць босыя па траве, не загартуюцца, будуць не вылазіць з пнеўманіі, не атрымаюць пад час крызісу лыжкі паўнацэннага мёду.

Перабольшанне? Дурасць? Не такая ўжо і дурасць, як падумаць.

...Колькі ж нас яшчэ, «легкаважных»?! Тых, якія гавораць пра «сінія крэсачкі, што пярэсцяць карту». Пра балоты, якія, як гэта ні дзіўна для беларуса, таксама ўжо трэба бараніць. Бо падае ўзровень грунтавых вод, сям-там перасушваюцца землі (і — парадокс! — лютуе паводка), знікаюць мясціны, дзе нараджаліся аблокі, у некаторых гарадах адчуваецца голад на ваду (за сто кіламетраў ты правёў канал, дзе не трэба, або ссек дрэва над крыніцай), няма рэчкі, дзе ты плаваў дзіцем (Куцеянка пад Оршай), гінуць звяры і птушкі.

А маральная шкода? Ішлі мы калісьці пад час вяселля прыяцеля над Волмай. Начная рака пахнула рыбай, зоркі гарэлі ў водах і на беразе. Гэта былі светлякі...

І вось нядаўна я трапіў туды і ўбачыў просты, як страла, канал, у якім няма месца нават для печкура.

Сын прыяцеля не ўбачыць ужо, што бачылі ў тую ноч мы. Печкуры ў гэтым канале не будуць пакусваць яго за пальцы на нагах, калі ён будзе вудзіць, стоячы ў вадзе. Ён проста на палезе туды вудзіць.

І, можа, у гэтым чалавеку менавіта з гэтай прычыны памёр паэт, і людзі засталіся абакрадзенымі. Перабольшанне? Абдуванчык на мяжы вады? Магчыма. А можа, і не?

«Лёгка табе казаць такое, калі табе не трэба дбаць пра...» Ну, па-першае, мне заўсёды даводзілася пра гэта дбаць. І не толькі пра сваю асобу.

Справа ў тым, што чалавеку, вядома, трэба есці і піць. Яму толькі не трэба браць там, дзе потым немагчыма будзе аддаць. Неабходна разабрацца, ці ёсць «да канца шкодныя жывёлы», «пустыя сабе» рыбы, ці ёсць увогуле на зямлі нінавошта не патрэбнае пуста-

зелле. Трэба быць страшэнна абачлівым (а гэта цяжка, але неабходна). І проста добрым.

А то ты добры ў хімгасе ці ў шахце. У цябе ў руках выбуховыя рэчывы, ты сочыш, каб твае людзі не падарваліся. А тое, што часткай «выбухоўкі», якой ірвуць карчы, тыя ж людзі «падарвалі» рыбу ў Друці — на гэта табе напляваць.

Заплаціў за паляўнічы білет — ну і ўсё. А дзе такія жывёлы, як тур, балотная рысь, чорны заяц? На гербе горада Копыся? Хіба што толькі на гербе...

Сціпла апранутая жанчына (а стукнуў раптам люты мароз) несла па вуліцы ў Оршы вялізны марлевы хатуль, з якога ва ўсе бакі тырчала нешта вострае, фіялетавага колеру.

— Што гэта, цётачка?

— А... Я, ці ведаеце вы, прыбіральшчыца ў школе... Шпакі... Мароз... То дзеці іх штук трыста падабралі, ды грэлі, ды трымалі ў класе... Нясу вось трэці хатуль дадому... Бо там — нельга... Панапіваліся чарніла, аж дзюбы сінія...

Відаць, трэба сяму-таму браць прыклад з прыбіральшчыцы. І калі ўжо ставіць помнік «вартавым прыроды», то я паставіў бы на п'едэстале побач з Лютэрам Бёрбанкам тую бабулю з хатулём.

Не будзем баяцца слоў «паратунак прыроды». Што не скіравана на знішчэнне прыроды, тое ідзе на яе ўратаванне. Справа, ці ведаеце, зусім не ў адзіным дзяржаўным органе аховы (хаця і добра, што такі ёсць). Справа ва ўсіх людзях, у іхнім беражлівым трыманні жывога на далоні. Справа ў бабулі-арнітолагу, схіленай над гняздом, у грамадскіх інспектарах па ахове прыроды, якія мерзнуць недзе на беразе старыцы, каб не дазволіць нікому (а ёсць такія аматары) перадчасна стрэліць па вывадку кражных качак, калі хлапунцы яшчэ не падняліся «на крыло». Я не супраць азарту (сам мог скочыць па падбітую качку ў дрыгву замест сабакі), але з узростам разумееш усё лепей, што і па табе лёс можа сакануць, і нават не бакасіннікам, а жаканам, што самы лепшы азарт — гэта быць у школьным лясніцтве недзе пад Цырынам, пераносіць на новае месца мурашнікі пад Оршай, прывіваць вучням у школе любоў да пушчы, каб з іх не выраслі драпежнікі, падгадоўваць аленяў недзе ў Белавежы, выхоўваць

пільных і добрых егераў. Што там слава нейкага зверабоя Буфала Біла, які знішчыў некалькі тысяч бізонаў! Ты зрабі так, каб на месцы аднаго ляся, аднаго бабра — тры. Ты малады і славалюбны — вось яна, твая слава: садзіць сады на палескіх пясках, што нейкі дурань выпусціў калісьці на волю, зберагаць паркі ў Нясвіжы, Вялікім Мажэйкаве, Канстанцінаве.

Таму што ўся гісторыя кожнага народа ёсць гісторыя паступовага зведання ім сваёй Радзімы, асваенне і ўпрыгожванне яе, асэнсаванне самога сябе як чалавека на гэтай зямлі.

Сохне ў горадзе хваёвы парк. Бывае, як, скажам, пад Кругліцамі, турысты запаскуджваюць лясы. Стань і падумай: твае каравыя рукі лепей манціруюцца не з тапарышчам, а з пушыстай хвояй маладых сасонак. І ўлічы: сасна сохне ад шуму, ад клаксанаў, яна не любіць галасу горш, чым ты, калі ў цябе інфаркт. То чаму ж блізкія берагуць цябе, а яе — не? Дай спакой абдуванчыку на кромцы вады, ты, абдуванчык.

...Страшныя яры кіламетраў за пяць на поўдзень ад Карэліч. Проста нейкі беларускі Дагестан. Сюды нельга было прывесці ў пасаг карову з раўніннай вёскі. Мясцовыя каровы будуць насмельваць таварку, штурхаць яе пысамі («Чаго баішся? Ідзі! Не бойся!»), яна ўпадзе, ногі паломіць. Жудаснае відовішча!

А ты проста не прымірыся з гэтым. Знішчы эрозію, гэтую праказу зямлі. Пасадзі там вербы (проста забі вярбовы кол у зямлю) і таполі — хай трымаюць каранямі гэтую зямлю.

Або вялікае воднае наша багацце. «Краіна дваццаці адной тысячы рэк і адзінаццаці тысяч азёр».

Гучыць? Яшчэ як гучыць! А яшчэ калі прыпамінаеш кожную рэчку і кожнае возера «ў твар»? Вялікі Нёман, прабацька Дняпра, і ягоныя жонкі — Прыпяць і Бяроза (ён — язычнік, яму можна), светлая сястрыца Дзвіна. І, па ўсёй Беларусі, слязіны азёр.

Толькі не кожная вада — вада. Вада толькі тады вада, крыніца і калыска жыцця, калі яна — чыстая. І тут кожнаму трэба памятаць, што ніякія тытанічныя намаганні гідрахімічных лабараторый, якія сочаць за гэтай празрыстай чысцінёй, ніякія старанні інжынераў, скажам, таго ж Наваполацка па будове

ачышчальных спаруд і прыстасаванняў (каб ніжэй нафтаапрацоўчага завода ў чысцюткай вадзе брохала вечарамі рыба), ніякія водныя сістэмы (каб ліквідаваць жарсткаваты водны баланс некаторых гарадоў) не дапамогуць, калі кожны чалавек не перастане засмечваць ручаіны і крыніцы, ператвараць нават самую малую рачулку ў прыёмнік сцёкавых водаў.

Як ніякія лесаводы, батанікі, заолагі і паляўніцтвазнаўцы, ніякія школьныя лясніцтвы не дапамогуць, калі кожны турыст, курортнік, грыбнік, паляўнічы распяражацца ў нашым лесе, як п'яны вандал у захопленым Рыме.

А наш лес не горад, аддадзены салдатні на паток і разрабаванне. Ён — наш храм, наш гонар і, пры выпадку, наш паратунак, як гэта было ў вайну. А раз ён храм і ўратавальнік, то і паводзь сябе, як у храме або ў хаце ўратавальніка.

Але вернемся на сваё балота. Балота — «праклён», балота — «чума гэтай зямлі». А ўспомнім толькі тое, што большасць нашых буйных рэк (а колькі малых?) бярэ пачатак у так званых верхавых балотах. І калі іх асушаюць — мялеюць рэкі, сохнуць малыя рэкі і навакольныя студні, падае ўраджай. Таму што балота — рэзервуар вады на лета, балота — маці аблокаў і забойца засушы. Адзін Палескі, адзін Бярэзінскі запаведнік справы тут не ўратуюць. А балотныя ж сітнягі могуць у многім замяніць дрэва пры вытворчасці дэфіцытнай паперы. А журавіны, сабраныя з аднаго гектара балота, у два разы больш каштоўныя чым драўніна з гектара спелага, мачтавага бору.

Але што ўсё выгада ды выгада? А захад, які дагарае над балотам, а звон косаў у касьбу, а скокі вячэрніх журавоў на балоце? Глядзіце, колькім жывёлам, птушкам, раслінам дае жыццё і прытулак гэты «праклён»!

Без ежы, пад наглядам лекара, можна жыць і месяц, без вады — пару дзён, без паветра... Ды што там, без яго мы не толькі задыхнуліся б, але й замерзлі, памерлі ад радыяцыі. І вось мы, радуючыся «фабрыкам дымным», забыліся, што вось ужо ў гэтым паветры і пыл, і попел ад вугалю і сланцаў, і серавадарод, і вокіслы азоту. За год у паветра трапляе паўтара мільёна тон пылу толькі ад цэментавых заводаў! А аўтамабільныя выхлапы, а лясныя пажары...

А пяцьдзесят тон пылу і сажы, што асядае толькі на Мінск... Гэта, вядома, чысцей, чым над Лонданам і Чыкага, таму што памеры не тыя, дый барацьба з забруджваннем паветра ў нас вядзецца. Але ўсё ж кепска, бо чалавек усё разумее, ды робіць далёка не ўсё.

Вядома, ты не ў змозе весці барацьбу з забруджваннем адзін. Гэта справа дзяржавы: ставіць апараты для ўлоўлівання попелу, цэментавага і іншага пылу, пераводзіць прадпрыемствы на газавае паліва, электрыфікаваць дарогі і дамы, рабіць цыклонныя топкі. Твая справа — падаць сігнал, калі недзе нешта не ўсё ў парадку.

Але ёсць род дзейнасці, дзе ты і адзін у полі воін. Хай кожны пасадзіць і дагледзіць хаця б адно дрэўца ў год — і вось на барацьбу з «дымнай чумою» выйдзе толькі ў Мінску мільён, а па ўсёй Беларусі — дзевяць мільёнаў трывалых зялёных воінаў. Воінаў, якім мы абавязаны тым, што мінскае, гродзенскае, гомельскае паветра ўсё ж чыстае! Кожны год забяспеч гэтаму зялёнаму легіёну падмацаванне — і ён адолее ўсё. Не будзь ворагам братняму войску, якое выйшла бараніць твае лёгкія, тваё жыццё.

Зусім мала: толькі адно дрэўца, за сябе, адно за свайго нямоглага дзеда і адно — за сваё яшчэ някемнае дзіця. І ты забяспечыш дзеду больш здаровую старасць, сыну — нармальнае развіццё, сабе — даўжэйшы век. А яго другі раз табе не дадуць, наконт гэтага будзь пэўны.

Ваюй, дзе можаш. Бо гэта адзіная вайна, якую варта весці. Садзі дрэвы ля вадаёмаў, не давай без патрэбы валіць ніводнага дрэва, падымай голас за павелічэнне тэрміну забароны вясновай лоўлі рыбы, за мэтазгоднасць промыславай лоўлі толькі з канца лета, каб паспела аднераставаць і ўзмацнець каштоўная рыба.

І шкадуй галасістых і пёрыстых братоў сваіх, брат «двухногі і без пер'я» (паводле трапнага вызначэння Платона). Бо, вядома ж, летам і восенню неба над маці тваёй Беларуссю звініць ад спеву крылаў, нашы паляўнічыя далёкія ад таго, каб, скажам, страляць у дразда, бусла, шпака, чайку, але ж вадаплаўнай, баравой, стэпавай дзічыне куды горш.

Наўрад ці многа знайшлося б на Беларусі паляўнічых больш заядлых і азартных, чым я. Бадай што, не было такога звера ці птушкі (акрамя, вядома, тых, паляванне на якіх забаронена), на якіх бы я не выходзіў. І вось гадоў пятнаццаць назад я, назіраючы за меліярацыяй, высечкай хмызоў, ляснымі гарамі, разгулам браканьераў, усур'ёз задумаўся і ўрэшце вырашыў: што датычыцца мяне — досыць! Ні ў каго і ніколі я больш не адбяру стрэлам жыцця, хіба ў шалёнага ваўка.

І, ведаеце, ахвяра мая выявілася больш лёгкая, чым я думаў. Спачатку, праўда, усе рэдактары лаяліся, што ў маіх «Каласах» зашмат сцэн палявання (а гэта была проста спроба пазбавіцца ад неадчэпных праяў, спроба галоднага набіць рот тым, што пад руку трапіць, ад чаго — смею спадзявацца — мой чытач не дужа многа страціў). Цяпер я «палюю» сваімі вачамі, кадрамі ў маім фотаапараце або з нажом у кошыку на грыбным «ціхмяным паляванні». Мне цяпер больш цікава і куды больш сумленна жыць.

Звяры і птушкі па-ранейшаму вакол мяне, але яны жывыя. І куды цікавей, паверце, бачыць такаванне нацерукоў, чым уварвацца туды несправядлівым наканаваннем, шротам, пухам і крывёй.

Трэба, каб ва ўсіх лясных гаспадарках, а не толькі ў некаторых не секлі дуплаватых дрэў (гэта чыясьці магчымая кватэра), не палілі на балотах траву (гэта чыёсьці сховішча), не пасвілі ў лесе быдла (гэта чыйсьці знішчаны «хлеб»), абмяжоўвалі збор грыбоў і ягад (іх ясі не толькі ты, і для цябе яны — прысмакі, а для звера — жыццёвая неабходнасць).

Ды ўсё гэта і асабіста ў тваіх руках таксама. Кармі птушак зімой, арганізоўвай ім «галечнікі», каб маглі «купацца». Нават «нікому не патрэбных» мухамораў не збівай нагамі, бо звяры ядуць іх перад зімой, каб выгнаць паразітаў і лягчэй перажыць галодную сцюжу. Нават арабіну ў сваім кветніку не абірай дарэшты — хай крыху з'ядуць або абтрасуць на зямлю (гэта запас на вясну, калі сыдзе снег) птушкі, якім яна, магчыма, паратунак.

Ёсць, вядома, і такое, што знішчаюць нават будысты, якім забаронена забойства ўвогуле. Усе гэтыя кольчатыя шаўкапрады, сасновыя клапы, матылі-манашкі, яблыневыя молі і г. д. Дык вось, калі ты ўжо

жывеш па прынцыпе «размахніся, рука», то размахніся гэтай рукою на іх. А іх, дарэчы, нямнога сярод тых, што жыццём сваім дораць нам карысць і прыгажосць. І вельмі-вельмі асцярожна звяртайся да хімікаліяў, нават у сваім садзе. Гэта ж праўда, што ў 1969 годзе пры «атручванні лазы» на Прыпяцкім узбярэжжы здараліся выпадкі атручвання нават буйной фаўны. Я сам бачыў дохлых качак, буслоў, нават ласёў. Не разбурай нават мурашніка — гэта добрая форма чужога жыцця. І, галоўнае, не жыві ў гэтым свеце інтарэсамі свайго ведамства.

Тваё ведамства — увесь свет вакол цябе.

«Усё ўва мне, і я ва ўсім».

Не шкодзь старому парку ў тваёй вёсцы, нават калі ён не пад аховай дзяржавы (такіх мала), не шкодзь жывому — можаш учыніць непапраўную згубу. Апошні зубр быў забіты ў Англіі ў XII стагоддзі. У Швецыі ў XVI, а ўвогуле збярогся ў свеце толькі дзякуючы тым зубрам, якія калісьці былі вывезеныя з Белавежы.

Ну, добра, зубр уратаваны. І многія яшчэ звяры, птушкі, насякомыя. Спахапіўся чалавек. А ўвогуле ж і цяпер яшчэ каля шасцісот відаў звяроў і птушак на шляху да вымірання. Наладзіла чалавецтва гэткі звера-птушыны генацыд замест таго, каб падкармліваць, лекаваць, ствараць новыя месцы для жытла: спрадвечную, але і выпраўленую, разумна скіраваную гармонію жыцця.

Забіць, як я гэта даўно зразумеў,— непрыгожая і паскудная штука. І ніколі на паляванні мне не было так лёгка і радасна, як, скажам, на адлове баброў, для перасялення іх у новыя, незайманыя вадаёмы. Як ён, выпушчаны, яшчэ не верыць волі, як пасля імкнецца да вады, як прагна, доўга, упарта пялёхаецца, плавае, нырае (жарцікі — суткі не мыўся!), мые футра, не зважаючы на блізкасць людзей і сабак! І як ён потым спакойна плыве некуды ў ціхія воды, да захаду, у бляклую стужку вячэрняй заранкі...

Змывае вячэрняй вадой і спакоем свае «бабровыя слёзы».

У такія хвіліны адчуваеш з гонарам, што ты — чалавек, створаны прыродай і роўны з ёю.

Шчаслівыя, незабыўныя імгненні! Лепей, чым стварыць добры верш. Хіба што верш пра тое самае:

Я стал доступен утешенью;
За что на бога мне роптать,
Когда хоть одному творенью
Я мог свободу даровать!

Гэта пісаў паэт ссыльны і паднявольны.

...Вось так. Гэта ўсяго два словы, ды болей і не трэба. Зберажы роснае павуцінне ў асеннім прасветленым лесе, дай старому дубу распачаць наступнае стагоддзе, памажы звярыне, якая з такой мужнасцю, праз вякі, цягнула свой род у барацьбе з ворагамі, самым моцным з якіх яшчэ ўчора быў ты.

Затулі сабою ад ветру слабенькі і моцны абдуванчык на кромцы вады.

Хопіць, урэшце. Мір усім на гэтай чыстай зямлі пад вечнай вясёлкай у гэтым чыстым і вечным небе.

## РОДНАЯ МОВА

Дзве старонкі, дваццаць ці дзвесце... А можа, тысячы тысяч?..

Усё адно, нават іх будзе мала, каб годна ўславіць цябе, родная беларуская мова. Таму што мільёны тваіх людзей самім існаваннем сваім з самага пачатку дзён кожным трапным словам, кожнай любоўнай ці гнеўнай думкай, кожным знішчальным, здзеклівым, іранічным або, наадварот, добрым, лірычным сказам славяць цябе. І славіць будуць, пакуль не скончыцца жыццё людское і думка людская на Зямлі.

Мова Скарыны і Буднага, мова Багдановіча і Купалы, Багушэвіча і Коласа, мова соцень геніяў, што яшчэ прыйдуць. Мова інтэлігентаў беларускіх, імя якім — легіён. Мова настаўнікаў і паэтаў, вучоных і кампазітараў, але перш за ўсё мова дзесяці мільёнаў людзей па ўсім свеце — ад Уругвая да Далёкага Усходу і, галоўнае, на нашай беларускай зямлі.

Мова першай матчынай калыханкі і апошняга «бывай», мова старадаўніх архіваў і новых школ на Палессі, мова пажаўцелых статутаў і мова кахання. Мова плытагонаў, сялян, акадэмікаў і шахцёраў на саляных капальнях. Мова, якая можа ўсё; можа сказаць словы невыказанай пяшчоты і можа ўдарыць

так, што не ўстанеш. Гнуткі, спявучы, адвечна новы інструмент, без якога нельга ўявіць сабе сваё жыццё, як без хлеба, без якога радасць не ў радасць, каханне не ў каханне, бяседа не ў бяседу, сяброўства не ў сяброўства і нянавісць не ў нянавісць.

Няма цябе — і вось няма суцяшэння ў горы. Няма цябе — і вось нямы язык, і нельга сказаць слоў радасці. А калі ўбіць сабе ў галаву цалкам дурную думку, што ў нейкім далёкім будучым цябе не будзе, то... нашто нам тады такая будучыня?

Таму што ўсе мы — ад настаўніка да паэта — любім цябе, таму што ты — самы важлівы наш здабытак, і мы ў меру сіл нашых не дазваляем і не будзем дазваляць, каб нехта выказваў да цябе пагарду.

Тым больш дзіка, што яшчэ нядаўна зламысныя ёлупы прарочылі табе знікненне. Мала таго, самі дбалі аб ім са стараннем, вартым лепшага ўжывання. Што ж, Іваны Бязродныя вартыя толькі пагарды, як усе тыя, якія, адвярнуўшыся, праходзяць ля матчынай хаты. Яны проста не ведаюць, які ўдзел рыхтуе лёс таму чалавеку, які пазбавіўся мовы. А каб ведалі, то жахнуліся б. Толькі ж нават гэтага не дадзена іхнім бедным мазгам.

...Старая хроніка данесла да нас жудасную і горкую гісторыю. Тэўтоны захапілі землі прусаў, і старая пруская мова паступова знікла. І вось на турнір мейстэрзінгераў прыйшоў апошні прускі спявак і паэт — вайдэлот. Ён спяваў дзівосныя песні пра подзвігі продкаў, пра каханне і смеласць, пра вернасць і дружбу. Ён апяваў прыгажосць сваёй зямлі, але ніхто яго не разумеў. Яму не далі скончыць, бо рыцары рагаталі, як ашалелыя. І паднеслі старому вайдэлоту прыз... сто гарэхаў свістуноў.

Глыбокі сэнс гэтай гісторыі ясны як божы дзень: нямы той чалавек, які забыў мову продкаў, і не можа ён спаўна выліць сваю душу, выявіць сябе. Па пальцах можна пералічыць выпадкі, калі, напрыклад, пісьменнік стварае на чужой мове нешта нават не геніяльнае, а проста вартае друкавання, а не сметніка (скажам, паляк Кажанеўскі стаў англійскім пісьменнікам Джозефам Конрадам). Але нават геніяльны Пушкін, дасканала ведаючы французскую, пісаў на ёй дужа пасрэдныя вершы. Тое самае можна сказаць пра польскія вершы Лучыны і рускія — Багдановіча.

А яны ж таксама большую частку жыцця чулі рускую і польскую.

Нібы нейкі лёс неўблажымы кіруе рукою таго, хто піша. Нібы цень маці, прамаці і ўсіх продкаў, што прайшлі па зямлі з дня з'яўлення на ёй людзей і народаў. І калі пачынаеш пісаць не так, як думалі і гаварылі яны,— немінуча пачынаеш фальшывіць.

У старадаўнія часы, калі яшчэ не скаліся нацыі, мова магла зрабіцца мёртвай мовай, як латынь. Але і тады мовы былі практычна неўміручыя. Тая ж самая латынь не толькі нарадзіла ўсю сям'ю раманскіх моў — ад Аргенціны да Румыніі,— не толькі, будучы ўжо мёртвай, цэлымі стагоддзямі была мовай паэзіі і навукі, але і зараз уплывае на нас творамі Катула і Вергілія, Гарацыя і Авідзія, прымушаючы нас смяяцца і плакаць. Што ўжо хадзіць далёка за прыкладам: новая беларуская літаратура пачыналася з перарабкі Вергіліевай «Энеіды», і той жа самы Вергілій вадзіў па пекле заснавальніка новай італьянскай паэзіі, першага паэта новага часу Дантэ.

У новы час скон немагчымы для кожнай больш-менш развітай мовы. Нават неразвітая ўладна ўплывае на сваіх сыноў. Ян Баршчэўскі ў мінулым стагоддзі напісаў па-польску «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», але і зараз мала хто з такой выразнасцю паказаў быт беларуса, псіхічны склад ягонай душы, яго нацыянальны характар і самую Беларусь. Міцкевіч піша па-польску, але рэаліі яго твораў цалкам беларускія, але і старэйшыя і навейшыя яго даследчыкі лічаць, што сам склад яго мыслення быў беларускі, але творы ягоныя страката перасыпаны вялікім мноствам беларускіх слоў і тых беларуска-польскіх барбарызмаў, што былі ўласцівы шляхце беларускага паходжання. Нездарма ж у паэта Канстанты Галчыньскага ёсць верш, герой якога, чытаючы Міцкевіча, нападае на слова «свежоп», пераrортвае ўсе, якія ёсць слоўнікі польскай мовы, не знаходзіць такога і, не смеючы не верыць Міцкевічу, з'язджае з розуму.

Ужо шэпчуць вакол:
Што гэта зрабілася з хлопцам!
Дзякую, пане Адам!!!
Я ахвяра свежопа.

(Пераклад.— *У. К.*)

А на самай справе Міцкевіч проста «палянізаваў» звычайную беларускую «свірэпку», або «свірэп».

Не толькі беларусізмы былі ў яго творчасці. Чытаючы ў Парыжы лекцыі аб славянах, ён сказаў пра беларускую мову, што гэта найбагацейшая і найчысцейшая з усходнеславянскіх моў, адзначаная ўзнёслай прастатой.

Мова неўміручая. Воляю абставін ірландцы, напрыклад, амаль страцілі яе. Свіфт, і Уайльд, і Шоў, і дзесяткі іншых людзей, што з'яўляюцца гонарам англійскай літаратуры, былі ірландцы, любілі свой народ, але пісалі воляю няшчасных абставін па-англійску. І вось цяпер ірландская, як і валлійская, баскская, іўрыт, як мовы народаў Афрыкі, якія сотні год ляжалі ў заняпадзе, усталі. Бо мова — душа народа, і толькі на ёй можа народ найбольш поўна выказаць сябе.

Наш лёс таксама быў такі. З часоў росквіту старажытнай беларускай мовы прайшлі стагоддзі вынарадавання, забыцця, свядомага забойства. Акрамя гушчы народнай толькі ў нешматлікіх прыватных школах з закуранымі бэлькамі, у школах, дзе настаўнічалі адстаўныя салдаты ці старыя дзячкі і дзе вучылі акрамя псалціры хіба начаткам пісьма і лічэння, гучала яшчэ беларуская мова. Але было гэта ад беднасці, а не ад багацця.

Кніганошы насілі кнігі з-за мяжы. І за гэтыя беларускія кнігі ім часта плацілі кулямі салдаты з кардонаў. Але ніхто ўсё адно не мог адштурхнуць народ ад сваёй кнігі.

Кнігі палілі, супраць іх выдавалі ўказы, забаранялі самыя словы «беларуская мова». Але ўсё гэта, як і насмяханне над «паўночна-заходнім нарэччам» — нічога не дало і не магло даць, пакуль беларуская баба стаяла з рагачом ля печкі, пакуль гэтая баба спявала калыханку над ліповай калыскай.

Мала таго, усе разумелі ўсё з большай яснасцю, што без яе, без гэтай мовы, немагчыма. Яна ўладна грукала ў светавыя дзверы.

Нават панам і гандлярам яна неабходная.

«Моцныя свету гэтага,— без яе вы падсячэце ногі эканоміцы і развáліце гаспадарку, бо не на французскай жа вам размаўляць з тымі, хто працуе, і без каго вы здохлі б з голаду!»

Але, не кажучы ўжо аб гэтай публіцы, яна неабходная і сапраўдным.

«Фалькларысты — вы збяднiце чалавецтва на адзін з самых багатых фальклораў на зямлі». І вось забароненая мова, амаль разбураная ў сваёй літаратурнай, друкаванай галіне, рассыпаецца самацветамі ў запісах Шэйна, Раманава, Федароўскага і многіх дзесяткаў іншых.

Лінгвісты таксама пачынаюць разумець, што беларуская мова — гэта скарб таго, што вымерла ў другіх мовах, што, акрамя самастойнай вялікай каштоўнасці, яна — запаведнік, у якім «сохранилось очень много древнего и важного для истории» (И. И. Срезневский) і без ведання якога немагчыма славянскае мовазнаўства наогул, немагчыма вывучэнне і зразуменне іншых славянскіх моў і іхняй гісторыі.

Рэлікт? Так, калі хочаце, рэлікт, які пераЖыў стагоддзі.

Але рэлікт, што расце, развіваецца, дыхае, ідзе наперад волатавымі крокамі, які жыве і будзе жыць вечна.

Усе пачынаюць больш і больш разумець гэта. Сама гісторыя ўладна і неабходна штурхае на прызнанне, на павагу, на захапленне багаццем і прыгажосцю беларускай мовы. І нават тыя, што адышлі ад яе — я разумею найлепшых з іх,— рана ці позна вяртаюцца да звонкага *дзе* і густога *чаго*. Бо толькі так ім можна сказаць усё.

Чачот запісвае народныя песні і сам складае вершы па ўзору гэтых песень. Марцінкевіч ад польскага верша прыходзіць спачатку да беларускіх, не вельмі яшчэ спрытных вершаў, а пасля стварае шэдэўр меnavіта беларускай па мове і антуражу драматургіі — «Пінскую шляхту».

Усё, здавалася б, занядбана, але невядомы піша «Тараса на Парнасе» і яго ведае на памяць бадай што кожны беларус. І вось Багушэвіч, якому й бог загадаў, здавалася б, па выхаванні і становішчы, забыць усё — выбухае палымянымі радкамі ў абарону ўсяго гэтага, забытага, стаптанага царамі і саноўнай сволаччу. І грыміць супраць ворагаў мовы і народа голас Каліноўскага. І ўжо ў слоўнік Насовіча ўваходзіць больш за трыццаць тысяч адметных, паўнакроўных, жывых, іскрамётных слоў. І ўжо геній Купалы і Баг-

дановіча ўстае над зямлёй і займаецца над ёю далёкі яшчэ пакуль водсвет заранкі.

Першыя настаўнікі выходзяць на новую ніву. І гэта іхняй неўміручай працы, іхняму дбанню, іхнім бяссонным начам у многім і многім павінны мы быць удзячнымі за тое, што мова наша стала яваю для мільёнаў, што яна мае права патрабаваць такой жа самай павагі, як і ўсе мовы зямлі.

Мы (я кажу «мы», бо я таксама былы настаўнік) ніколі не павінны забываць, наколькі годная наша праца і хто стаяў ля яе вытокаў. А стаялі ля гэтых вытокаў, самі настаўнічалі, самі складалі першыя буквары і чытанкі Цётка, Купала і Колас. І, мяркуючы па ўсім, някепска ведалі сваю справу і зусім нядрэнна правялі яе ў жыццё. Яшчэ на зары нашага стагоддзя.

Дбаннем іх і соцень іншых мова набірае сілу, цвёрдая, як сталь, грубая, як сялянскія далоні, і пяшчотная, як спеў беларускага гівала. Яшчэ часам запінаючыся на абстрактных тэрмінах, яшчэ нясмела вымаўляючы навуковыя і філасофскія тэрміны — яна ўладна бярэ разбег. Яе ўжо не стрымаць. Першая сучасная трагедыя (я не маю на ўвазе сярэдневяковых містэрый і аповесцяў), першы раман, першая паэма — і паўсюль глыбокая зямляная праўда і дыяменты дажджу на пахучых майскіх галінах, і што ні слова, то жэмчуг падае на срэбны шчыт. І як бы часам ні было цяжка — з ёй ужо нічога не могуць зрабіць, як бы ні душылі — яна ўстае. І з атмасферы семінарыі з яе мёртвай царкоўнаславяншчынай выходзіць Якуб Колас, а са сцен школы, дзе вучаць «хто ты естэсь?» — адзін з найлепшых сучасных празаікаў Янка Брыль. Беззямельныя перасяленцы цягнуцца на Далёкі Усход — і праз семдзесят год я чую ў беларускіх вёсках на Усуры і Суйфуне яе, маю мову, некрапаную, родную, адвечна сваю. Прыходзяць і адыходзяць акупанты, усе гэтыя пілсудчыкі і эсэсманы, і след іхні знікае на твары зямным — а яна стаіць, бо карані яе ў глыбінях, дзе спяць тыя, хто стагоддзямі песціў, шліфаваў, бярог яе, лаканічную, гнуткую і цвёрдую адначасова, спявучую, тую, што з найлепшай яснасцю і дакладнасцю перадае думку чалавека, які жыве між Гродняй і Оршай, між Асвеяй і Лельчыцамі.

Думку тых, якія казалі: «Хай не будзе ў таго святла, хто на досвітку табе здрадзе».

Яна вечная, бо ўся яна як наш характар. Здаецца, кволая ад пяшчотнай мяккасці, яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх жалезную мужнасць і сілу. І, як быццам дамогшыся свайго, б'е, як перапёлка ў жытах — мякка, а за тры вярсты чуваць. «Эль» — як салодкае віно, «дзе» — як шкляной палачкай па крышталю, мяккае «с», як соннае ціўканне сінічкі ў гняздзе. І побач «р», як гарошына ў свістку, і доўга, спявуча, адкрыта гучаць галосныя. А «г» прыдыхае так ласкава, як маці на лобік дзецку, каб перастаў сніць дрэнны сон.

Дык што ж лепей за цябе, мова мая, мова наша?! За цябе, даўняя, за цябе, вечна жывая, за цябе, неўміручая?!

І ў тым, што жывая ты, што неўміручая ты, павінны ўсе мы. Сялянка, што спявае, варушачы сена,— і чалавек, які складае слоўнік, дзеці, што гуляюць у «піва»,— і дзяды, што баюць аб даўнім, паэты і вучоныя. Але яшчэ — і гэта ледзь не самае важнае — у тым, што ты неўміручая — шмат паслугі першай настаўніцы школьнай і выкладача літаратуры ў выпускным класе.

Іхняму таленту, няўрымслівасці, працавітасці і любові мы павінны дзякаваць за тое, што ты моцна, уладна і назаўсёды пасяляешся ў душах дзяцей, якія потым стануць дарослымі і самі будуць мець дзяцей і ўнукаў. А ў гэтых дзяцей і ўнукаў таксама будуць настаўнікі — праваднікі вялікіх ідэй чалавецтва ў дзіцячыя душы.

Праваднікі вялікіх ідэй на вялікай роднай мове і таму самі вялікія людзі.

# ПОСТАЦІ



## ВЕРА Ў СІЛУ ДАБРЫНІ, АБО СЫН БЕЛАРУСІ, СЫН ПРАГІ

Ёсць на свеце гарады, якія, з самага пачатку, радасна і балюча раняць тваё сэрца. Або, калі выславіцца іначай, заражаюць тваю душу вечнаю тугою па сабе. І не толькі тваю душу. Усякую.

Прага — адзін з такіх гарадоў. Я думаю аб ёй, як многія і многія тысячы людзей восемсот... чатырыста... сто год назад... зараз. Я ўжо ведаю, што ніколі не здолею адкінуць думку аб ёй, што гэты горад будзе вечна і ўладна прыцягваць мяне да сябе. І як першую даніну маёй новай (і старой) любові да яго, я хачу прынесці яму сціплае апавяданне аб адным чалавеку, для якога ён стаў другой духоўнай радзімай.

Аб Францыску Скарыне (каля 1490 — каля 1551 гг.) вялікім беларускім першадрукары, асветніку, вучоным, мастаку. Першым сярод усходніх славян доктары медыцыны. Першым (значна раней за Лютара) перакладчыку Бібліі на мову простага чарнарукага народа.

Кніга «Быцця» — і асвета? Кніга «Царстваў» — і гуманізм? Ці не замнога мы бяром на сябе, называючы Скарыну асветнікам і гуманістам? Дзеля таго каб адказаць на гэта, трэба зірнуць на эпоху, у якую жыў гэты чалавек.

Людзі нібы ачнуліся ад шматвекавога чаднага сну, у якім ледзь не памерла самая ідэя Чалавека. Іхнія галовы яшчэ баляць рэлігійнымі догмамі і феадальнымі нормамі. Але лёгкія ўжо хапаюць свежае паветра, прагна, захлынаючыся, з той цягай да рэзкага, гаючага ветру, якая лепей за ўсё гаворыць, што Чалавек, што Чалавецтва будуць жыць, якія б Гер-

нікі і Асвенцімы ні былі яшчэ суджаны ім на іхнім шматпакутным шляху.

З-за мораў плывуць караблі, гружаныя спецыяй і золатам, багацеюць і робяцца мацнейшымі за феадалаў гарады, з-пад рук раменнікаў выходзяць рэчы, якія мы і зараз лічым шэдэўрамі. Як трава пасля доўгай зімы, паўсюль з'яўляюцца дзівосныя па багаццю талентаў людзі: паэты, дойліды, філосафы, інжынеры, мастакі.

І, аднак, на думцы чалавека яшчэ вісяць кайданы. Царква паўсюль рэгламентуе гэтую думку (змянілася толькі тое, што думка болей не жадае пакоры і слухмяна цярпець гэта і, застаючыся рэлігійнай, прынамсі, у філасофскім аспекце, хоча мець права сумнявацца, мець права на ерась, мець права не ўсё браць на веру, нават калі гэта сказалі Майсей або Хрыстос).

Яшчэ паўсюль гараць жывыя факелы, і ў Англіі «авечкі з'ядаюць людзей»,— але з'явіліся ўжо Рабле і Леанарда да Вінчы, Томас Мор і Кампанела, Мюнцар і Гус.

Разгромлена войска Мюнцара. Пасля тытанічнай барацьбы з сіламі ўсяго свету прыдушаны рух гусітаў. Жыццё — як агонь і ноч: дзіўная сумесь гуманізму, які ўсё больш уладна разгараецца ў душах — і самага бессаромнага, трыумфуючага цемрашальства.

На беларускіх землях яшчэ горш. Большая частка людзей увогуле не прачнулася, не адчувае неабходнасці змен. Яны ўжо выраслі са старой вопраткі, але не саромеючыся носяць яе. Самыя перадавыя з надзеяй глядзелі на Рэфармацыю, на гусіцкі рух, але цяпер страцілі надзею і яны.

Як пісаў пазней наш паэт Мікола Гусоўскі ў сваёй «Песні пра зубра»:

Братазабойствы, грызня, міжусобныя войны —
Іхні занятак фізічны і свет іх духоўны.
Б'юцца князі — ваяводы, а стогнуць народы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Што ім той смерд — наша гора і нашы пакуты?
Ім свайго дамагчыся, а ты хоць заліся
У горкіх слязах. За мурамі рыданняў не чутна...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Што ім значыць клінком мацярынскае лона
Выпусціць разам з маленькім? Усё ж па загаду:
Сродкі — любыя, а мэта адна — вынішчэнне.

. . . . . . .   . . . . . . . . . .

...ён і не дбае, ці то голыя рукі адпомсцяць.
Стогне і ў цемрадзі ночы злавесны народ наш
Вобмацкам долі шукае. Жахлівыя здзекі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Князь і баяры — усе, каму льга заступіцца,
Глухі да нас і не горай, чым жорсткі татарын,
Душаць пятлёй галасы абурэння ў народзе.
Плаха і кат — выканаўца — вось доля любога,
Хто пастаяць за закон і за бога азваўся.

Рэфармацыя таксама пачала паліць людзей. Гуcітам не ўдалося збудаваць «царства божае» на зямлі. Свае бунтары пайшлі на плаху. Надзея ўжо нават не на бога — што ён зрабіў добрага? — а на дзеву Марыю.

Вымаліць краю тваю абарону — спагаду.
О, заступіся за нас! Праз любоў к Чалавеку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ты наша маці — заступніца, мы — твае дзеці.
Крыўдзяць, цкуюць нас і ганьбяць — утры нашы слёзы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нашым князям, што ў сваіх міжусобіцах розум
Нашай крывёй замуцілі, падай на пахмелле...
Цемра. Надзеі няма. Дабро стаптанае.

У такі час трапляе ў Прагу Францыск Скарына, сын купца з горада Полацка.

Полацк у той час вялікі і багаты. Ён плаціць каралю падатку ледзь не больш за ўсе гарады княства. У ім сыходзяцца артэрыі гандлёвых шляхоў, на вулках гучаць нямецкая, дацкая, італьянская мовы. Затое слаба гучыць сярод вярхоў беларуская мова і, галоўнае, беларуская думка.

Насоўваецца нешта трывожнае. Раней нікога не ганялі за чытанне «ератычных» італьянскіх, нямецкіх і сваіх рукапісаў. Раней была цярпімасць. Калі ў 1413 годзе ў Полацкую епархію і Віцебск прыехаў славуты Іеранім Пражскі і прапаведаваў ідэі Гуса — ніхто не перашкаджаў яму рабіць гэта, і ідэі прапаведніка з Гусінца набылі ў Полацку і Віцебску папулярнасць, іх слухалі і князь, і просты народ (мог слухаць іх і дзед Скарыны).

А тут пачыналася нешта дзіўнае. Пасеў быў зроблены. Рунь выйшла наверх. І тут жа гэтую рунь пачалі па-вар'яцку таптаць. Замест цярпімасці — бараць-

ба нацый, вер, моў, паляванне за ведзьмамі. І ўжо справа ідзе аб тым, ці будзе народ маліцца, як ён хоча, дыхаць, нават проста жыць.

І народу гэтаму, галоўнае, няма адкуль даведацца аб «праўдзе» і аб «праўдзівым богу». Мала, вельмі мала кніг. Кнігі — рукапісныя. Кніга — гэта вельмі дарагая маёмасць. Кніга дарэмна займае месца ў багатых палацах, дзе ў яе не заглядаюць. Кніга ў коранi не дэмакратычная.

І, магчыма, яшчэ ў той час зараджаецца ў душы юнака думка пра кнігу адносна танную, даступную, кнігу, якую мог бы трымаць у руках кожны і разумець — кожны. Кнігу на роднай мове. Не на латыні, не на старaславянскай (абедзве незразумелыя і абедзвюма клірыкі адгароджваюцца ад простага народа, каб і далей лічыў кніжную прамудрасць дарам божым, іх, клірыкаў, людзьмі асобай, вышэйшай пароды, а сябе — няздатнай ні на што жывёлай, якой так і суджана век пражыць у цемры).

На роднай. Тут у Скарыны няма сумненняў. Пасля, у прадмове да адной з кніг сваёй Бібліі, ён скажа, што выдае кнігі на простай мове таму, «Іжэ мя літасцівы бог з той мовы на свет пусціў».

Пачынаецца шлях. На ўсё жыццё. Упарты, настойлівы. Вечны паход, вечная вайна за веды і культуру. Па гразкіх дарогах радзімы, па дарогах чужых краін. Пад дажджом, пад пякучым сонцам, пад навальніцамі і снегам. Праз непрыхільнасць, недавер, жорсткасць, падазрэнні. Нават праз смерць.

1504 год. Юнак у Кракаўскім універсітэце Ягелонаў. На факультэце свабодных мастацтваў. Гэта часы Каперніка. Гэта рэнесанс навукі і мастацтва, адраджэнне чалавечых душ, іх выйсце з пекла, у якім гінуў сам дух.

5 лістапада 1512 года. Падуя. Храм святога Урбана. Віцэ-прыёр Тадэй Мусаці паведамляе вучоным мужам медыцынскай калегіі універсітэта аб тым, што «вучонейшы юнак, доктар навук, бядняк з вельмі далёкіх краін, можа, за тысячы з чымсьці міль ад гэтага славутага горада, дзеля павелічэння славы і чэсці яго, а таксама гэтай слаўнай гімназіі... прыбыў сюды і жадаў бы... атрымаць ступень доктара медыцыны бясплатна, па спецыяльнай міласці і з ласкі божай».

Ён адказваў «настолькі выдатна і бездакорна»

(а экзамен быў «строгі»), такімі «бліскучымі доказамі», што «ўсімі наяўнымі дактарамі, пры поўнай адсутнасці нязгодных» быў «абвешчаны доктарам лекарскіх навук».

Што прывяло яго ў Італію? А тое, што пазней прывяло ў Прагу. Дух універсітэта пранізаў і вызначыў усё ідэйнае, усё духоўнае жыццё і Падуі і Прагі. І гэта быў тып менавіта «італьянскага універсітэта».

Не бурсы, што смярдзіць капустай і запляснелымі ідэямі, і не манашая школа, а, хай сабе і не да канца вольная ад даўно струхнелых думак Аўгусціна Блажэннага,— усё ж гуманістычная школа, у якой перш за ўсё, кажучы словамі Дантэ, цанілася «доблесць і веды», а не бяздумнае наследаванне закасцянелых царкоўных догмаў. Лозунгам Падуі, лозунгам Прагі ў той час магло быць: «за розум, веды, праўду супраць догмы, супраць хлусні, супраць двух бакоў аднаго медаля: пакоры і несправядлівасці».

Дык вось. Прага. 1517 год. Менавіта ў гэтым годзе ён надрукуе сваю Біблію на старабеларускай мове. Яшчэ задоўга да таго, як выйдзе нямецкая біблія Лютара.

Дзе Скарына правёў пяць гадоў пасля Падуі? Мы не ведаем. Але гэтыя гады, несумненна, не прапалі. Чалавек рыхтаваўся да галоўнай справы жыцця. Напэўна, у гэтыя гады і быў ім зроблены пераклад, таму што пазней, у Празе, за ўсімі друкарскімі, арганізацыйнымі, грашовымі клопатамі на гэта проста не хапіла б часу.

Прага тых часоў. Яе змрочны і прыземлены раманскі пачатак з цэрквамі, падобнымі на пячоры, высечаныя ў скале. І працяг. Нібы сам дух чалавека выбухнуў у неба і пачаў выстрэльваць у яго стрэламі непараўнальнай Пражскай готыкі.

Лесвіца Іякава. Людзі раптам нібы пачалі разумець, што не адным анёлам узыходзіць па ёй на неба, што могуць і яны, пражскія мяшчане, з хітраватым розумам у вачах, аматары выпіць і пад'есці: піва льецца ў глоткі, бы ў апраметную, кавалкі шынкі падаюць туды ж, як са страхі.

Але ён бачыць галоўнае, бачыць тое, што зрабілі чорныя, жорсткія, як капыты, рукі гэтых людзей: грубыя муры будынкаў і найтанчэйшы аксаміт, мячы і карункавую работу па дрэве і злату.

Гэтыя яму дапамогуць, ён ведае. Дапамогуць зрабіць па ягоных малюнках дрэварыты (і на іх будуць «біблейскія» героі ў старабеларускіх,— аднак і з элементамі чэшскай гарадской вопраткі пачатку XVI ст.,— адзеннях), дапамогуць адліць шрыфт, дапамогуць дастаць з Германіі дэфіцытную паперу, патрэбную, як паветра, тую з Аўгсбурга, з вадзяным знакам у выглядзе галавы быка.

Памогуць яго палкаму жаданню прынесці свайму народу святло, зрабіць яго хоць крыху шчаслівейшым.

І памаглі. І ўжо ёсць друкарня. Можа быць, што напаўлегальная (гарадскія акты не ўпамінаюць аб месцы, дзе яна была). І гэта зразумела. У вясёлай «добрай, старой Празе» завялася рэлігійная падазронасць. Семдзесят дзевяць год таму задушаны гусізм, і, напэўна, самая памяць пра божых воінаў, пра рыцараў волі крыху прыаслабла ў людзях, прыціснутых усобіцамі і сваркамі князёў. Жыве яшчэ шмат людзей, што памятаюць караля Іржы з Патэбрад, але яны памятаюць і ягоны лёс, і, што казаці, ад гэтых успамінаў ім крыху не па сабе. Краінай правяць і доўга яшчэ будуць правіць — людзі, якім мала справы да чэшскай мовы і культуры, да гордага духу чэшскага народа. А не за гарамі і час Габсбургаў. Спачатку мяккія лапкі, а потым сталёвая песць, якая стагоддзямі будзе імкнуцца выдушыць з чэхаў мову, самасвядомасць і веру ў єваe сілы, каб самое імя «чэх» знікла з твару зямнога.

Скарына яшчэ ўбачыць гэта. І вялікі пажар Малай Страны, Града і Градчан, і страшны час, калі Фердынанд І пазбавіць пражан палітычных правоў. Многа, ой многа яшчэ давядзецца яму пабачыць!

Але пакуль Прага ёсць Прага. І ідзе набор. І граверы рэжуць дошкі для гравюр, і часам робяць гэта цераз пень-калоду, можа, напіўшыся піва — падумаць толькі, у сцэне жніва да кнігі «Руф» усе жняцы трымаюць сярпы ў левай руцэ! Краіна ляўшуноў! — але часцей за ўсё так добра, што скарынінскія гравюры будуць лічыцца шэдэўрамі аж да нашых дзён.

Прага ёсць Прага. Ажыўленая, гандлёвая і рамесніцкая, моцная залатымі рукамі майстроў, культурнымі традыцыямі, навукай і кніжнасцю. У ёй малады вучоны (яму яшчэ толькі каля дваццаці сямі год) ад-

чувае сябе, як рыба, якую ўрэшце пусцілі ў ваду. Ён урэшце дыхае на поўныя грудзі паветрам горада. Ён бачыў Полацк з непараўнальнымі Сафіяй і Ефрасінняй, бачыў суровы, мужны воблікам Кракаў і Падую. Але Прага, несумненна, цудоўнейшы з гарадоў, у якіх яму даводзілася жыць. Не такая, як зараз, але, несумненна, ужо «Злата Прага».

Ён любіць яе. Яму тут лёгка жыць і працаваць. Лёгка рэгуляваць вінт станка, лёгка сварыцца з рабочымі, лёгка праводзіць бяссонныя ночы над рэдагаваннем тэксту і напісаннем прадмоў да кожнай кнігі.

Лёгка нават проста блукаць начнымі вулкамі і піць прыгажосць горада.

Што ён мог бачыць?

Карлаў мост, такі ж велічны і гожы, хіба што без статуй, з адным толькі старым распяццем. Але ж Влтава плыла і тады, як цяпер, варушачы косы водарасцей і адбіваючы нясмела першыя прамені сонца.

Складаную блытаніну раманскіх і гатычных будынкаў, у якую, пакуль што яшчэ вельмі нясмела, украдваўся ранні рэнесанс (да базілікі святога Іржы толькі нядаўна прыбудавалі рэнесансны франтон і пачалі перабудоўваць «дом Фаўста»).

Так жа ўзносіўся ў палымнеючае вячэрняе неба храм святога Віта з зазубранымі, як хвост ската, шпілямі, што, здаецца, пранізваюць самое неба. Так жа звіваліся грэшнікі на мазаіцы «Страшнага суда». І, самае галоўнае, ужо пятнаццаць год блытанінай сваіх гатычных скляпенняў адгароджваў ад астатняга свету свой нязмерны абшар, у якім хоць на конях ганяй, Уладзіслаўскі зал.

Як і цяпер, узносіліся ўгору Чорная вежа і Далiборка і жорстка зранены гусіцкімі войнамі Страгаўскі манастыр. Увесь у шрамах, што раздзёрлі яго прыгожае цела.

І чорны гмах Прашнай брамы, якая (падумаць толькі!) тады яшчэ не была Прашнай, і была позне-, а не псеўдагатычнай. І, ясна ж, Каралінум — тады яшчэ гатычны, як і Старамесцкая плошча,— духоўнае сэрца горада, у якім сядзяць езуіты, але веды і цяга да іх у студэнтаў застаюцца ранейшымі.

Мне толькі страшэнна шкада, што ягоныя вочы не ўбачылі аднаго з самых вялікіх дзіваў на зямлі:

Златай вулачкі. Не ўбачылі цацачнага рознакаляроўя яе домікаў, комінаў, усёй гэтай каменнай поліфаніі, якая кажа нам аб жыцці сярэдневякоўя куды больш, чым многія славутыя храмы.

Аб звычайным няяркім жыцці з будзённымі трывогамі, са сваімі маленькімі радасцямі і маленькімі перамогамі, з усім тым, чым і зараз жыве значная частка чалавецтва.

А ўрэшце, ён бачыў шмат таго, чаго, на жаль, ніколі не ўбачым мы.

Ён блукае вуліцамі. Добра думаецца пад спеў Пражскіх званоў. І добра ўспамінаецца пра родныя Полацкія званы.

Не, не, трэба спяшацца. Жыццё не хопіць на тое, што задумаў ён, Францыск Скарына. Такога кароткага, такога безабароннага перад нечаканасцямі і чужой злой воляй. Такога ўпартага, моцнага, няломнага.

...Недзе на Старым Месце, у раёне Старамесцкай плошчы, па начах гарыць святло, звяраюць тэкст будучай кнігі з Бібліяй на стараяўрэйскай, грэчаскай і лацінскай мовах. І, перш за ўсё, з чэшскай Бібліяй 1506 года.

На Скарынавы далоні лёг першы, вільготны і ліпкі ліст. Першы з многіх і многіх тысяч. 23 кнігі. З прадмовамі, каментарыямі, застаўкамі і гравюрамі. І ўсё гэта яго работа.

Нейкая горкая іронія ёсць у тым, што ён пачаў выдаваць Біблію з «Кнігі Іова». Нібы прадбачыў свой нялёгкі шлях. Нібы ён, вялікі вучоны, вялікі мастак і пісьменнік, загадзя ведаў свой лёс. Урэшце, гэткае падсвядомае прадчуванне не такая ўжо рэдкая рэч на зямлі. Іржы Волькер прадчуваў сваю раннюю смерць, і Карэл Маха ў сваім «Маі», і Пушкін у сцэне смерці Ленскага, і наш Максім Багдановіч.

Скарына быццам адчуваў, што ён, як чалавек з «зямлі Уц, імя якому было Іаў», усё жыццё будзе рызыкаваць сваім жыццём, будзе цягнуцца па «крутых чужых сходах», як Дантэ, што яго будуць праклінаць, што супраць яго справы будуць такія ворагі, як папа і Лютар, маскоўскія патрыярхі і свае дабрадзеі.

І, аднак, ён ідзе. Ён верыць у дабро. І яго вядзе па цяжкіх шляхах толькі адно:

— Дайце асветы майму народу. Дайце крыху бо-

лей асветы славянам. Тады іх, пісьменных, абазнаных, ніхто ўжо не здолее пакрыўдзіць, як крыўдзілі дагэтуль.

Так, прынамсі, лічыў ён.

Выходзіць кніга за кнігай, і кожная — маленькае дзіва паліграфіі. Вытанчаны, зграбны, чытэльны шрыфт, з выдумкай і густам зробленыя застаўкі і загалоўныя літары, выключныя па прыгажосці і якасці друку гравюры, якія ўражваюць і зараз і якія можна разглядаць гадзінамі. Народу так патрэбна прыгажосць! Не менш чым веды і хлеб!

Ён робіць таленавітыя кнігі. Ён проста не можа рабіць іншых.

І вось ужо ўсе яны ляжаць перад ім. Такіх яшчэ не было. І ўсё гэта зрабілі ягоныя рукі і рукі яго пражскіх сяброў.

Зрабілі самі, без нічыёй дапамогі, і гэта відаць не толькі па чыстай залатой мове, але і ў кожнай рысе гравюры, з якой паўстае славянскі тып ва ўсёй сваёй асаблівасці, дзе ўсё сваё: твары, вопратка, інтэр'еры, нават сам пейзаж. І кожны славянін, убачыўшы гравюру да «Руфі», успомніць цягучую жніўную песню над полем, мігценне каласоў у вачах, шастанне сярпа і, магчыма, прыпомніць, што і ён бачыў дзвюх бедных жанчын, якія падбіралі каласы за жнягамі, і сціснецца ў яго сэрца ад раптоўнай, вострай шкадобы да іх.

І ён убачыць гравюру да кнігі «Эсфір», і прачытае, і ўзненавідзіць здраду і подлыя падкопы каралёў супраць сваіх народаў.

І ўбачыць будаўніцтва Вавілонскай вежы і зразумее, што адзіная несумненная каштоўнасць і адзіная веліч на зямлі ёсць Праца, і яе няма чаго саромецца, а саромецца трэба таго, што ты жывеш з працы другіх, бо ўмееш прадаваць індульгенцыі і мянціць языком з амбона.

І ўбачыць Юдзіф з галавою Алаферна і зразумее, што няма на зямлі каштоўнасці большай, чым родны край, і калі ўжо жанчыны, рызыкуючы жыццём і гонарам, пайшлі дзеля яго на ўсё, то мужчынам і пагатоў трэба.

Так ён і напіша ў сваёй прадмове: «Понеже ад прыражэнія звери, ходяшчие в пустыні, знаюць ямы своя; птіці, летающіе по воздуху, ведаюць гнезда своя; рібы, плываюшчыя по морю і в реках, чуюць

віры своя; пчолы і тым падобныя бароняць ульев своіх; така ж і людзі і где зродилися і ўскормлены суць по бозе, к тому месту велікую ласку імають».

Шмат чаго ён яшчэ скажа. Скажа аб тым, што хрысціянства — не суды над іншамыснымі, а бяззлобнасць і браталюбства, што абраных богам народаў няма, што ўсе браты і няма розніцы між імі. Ён падыдзе да Біблii рацыяналістычна, як да крыніцы ведаў граматычных, музычных, астранамічных. Як да таго, па чым можна вывучаць логіку, рыторыку, геаметрыю — усе не рэлігійныя, а свецкія веды.

Ён скажа аб антычна-дэмакратычным ідэале мудрага і справядлівага правіцеля, які не просіць сабе «ні дзён многіх, ні багацця, ні жэ душ ворагаў», а просіць «мудрасці», бо «без мудрасці... немагчыма добра жыць людзям простым на зямлі».

Ён будзе гаварыць аб праве і справядлівасці, аб «роўнасці для ўсіх», аб аднолькавым праве ўсіх на жыццё, хлеб, асвету і любоў.

Ён адмовіць царкве і царам у манаполіі на думку, у манаполіі іхняй улады над чалавечай думкай. І скажа, што ёсць законы прыроджаныя, а ёсць законы пісаныя, і перавагу трэба аддаваць першым.

І ён скажа гэта такой яснай і гожай, такой лаканічнай мовай, што яна і зараз шмат у чым з'яўляецца для нас узорам.

А самае галоўнае, ён дасць народу зразумелую кнігу, а значыць, і самасвядомасць, розум, шлях з сутарэнняў на святло.

...Пасля пачаліся гады вандраванняў. Родны сын Беларусі і прыёмны сын Прагі зноў пад рэзкім ветрам на бясконцых дарогах.

Бясконцая змена гарадоў. Вечныя спрэчкі з праваслаўнай і каталіцкай, з рэфармацкай догмамі. Частку ягоных кніг спалілі і ледзь не спалілі яго самога.

Але ён упарта выдае новыя і новыя кнігі. На гэты раз у Вільні.

...А потым, відаць, адмовілі ў грашах на выданне новых кніг мецэнаты. Грашовае становішча Скарыны зусім не бліскучае. Пачаліся суды, страшнае сярэдневяковае кручкатворства, горы паперы, якая так была б патрэбна для кніг, для ягоных кніг. Той паперы, на якую ён звёў усе свае грошы і без якой заўсёды задыхаўся.

А пасля, як на Іава, пасыпаліся яшчэ і яшчэ няшчасці. Канфіскацыя маёмасці. Страшны Віленскі пажар 1530 года, у якім, відаць, згарэла і друкарня. І ўсё тое, што засталося. А пасля маравая язва, што выкатала амаль увесь горад, мортусы з завешанымі тварамі і бусакамі (баграмі) у руках. І гэтымі бусакамі цягнуць трупы і кідаюць іх у фуры, што цягнуцца ўначы, пры святле паходняў, вуліцамі прыціхлага, звар'яцелага ад жаху горада.

Ён едзе ў Кёнігсберг, і хаця герцаг Альбрэхт лічыць яго ледзь не самым выдатным вучоным свету — пратэстанты хутка выжываюць яго адтуль. Ён едзе ў Маскву, каб друкаваць кнігі там — цемрашалы-царкоўнікі, якім не патрэбна зразумелая кніга, ствараюць вакол яго такую пякельную атмасферу, у горадзе так пачынае смярдзець вогнішчам, што ён вымушан пайсці і адтуль.

На ўсёй шырокай зямлі для яго няма месца. Ён — Іаў. І, самае страшнае, ён нідзе не можа цяпер выдаваць кнігі. «Удзячны» народ не падтрымаў яго. Праўдзівей, яшчэ мала і слаба ведаў аб ім і, не хочучы гэтага, ненарокам аддзячыў выгнаннем. Ён, вядома, яшчэ будзе іх чытаць, гэтыя кнігі, але тады, калі нават косткі асветніка спарахнеюць у зямлі.

Ягоныя кнігі не патрэбны нават братам. То каму яна патрэбная, кніга на беларускай мове? Габсбургам?

І тады ён паўтарае словы старадаўняга мудраца:

— Не я страціў Афіны. Гэта хутчэй Афіны страцілі мяне.

Каля 1534-га або 1535 года Скарына зноў у Празе. Там, дзе так лёгка дыхалася, калі ён быў малады. Ён не ведаў, едучы туды, што там зусім не так лёгка, як у 1517-м.

Ён назаўсёды пазбаўлены магчымасці і права выдаваць кнігі. Але застаецца яшчэ адно, тое, чым ён займаўся адначасна ўсё жыццё і што цяпер зробіцца ягонай галоўнай справай.

Акрамя ўсяго, ён яшчэ славуты лекар. І калі ён не да канца здолеў даць людзям здаровы розум і здаровую душу — што ж, ён пастараецца, у меру магчымасцей, даць ім хаця б адносна здаровае цела. Можа, з ім не яны, дык іхнія нашчадкі дажывуць да перамогі царства розуму.

Ён лечыць пражскі люд. Ён робіцца вучоным садаводам-батанікам пры двары Фердынанда І. Батанічны сад быў закладзены ў Празе ў 1534 годзе, і Францыск Скарына, несумненна, быў адным з яго заснавальнікаў. Батанічныя сады ў той час былі і «аптэкарскімі гародамі», дзе пераважна расло лекавае зелле і лекавыя дрэвы для аптэк. Магчыма, свая аптэка была і ў Скарыны.

І вось усе апошнія гады жыцця вялікі асветнік правадзіць між кветак і дрэў, у садзе, створаным і яго рукамі (сад размяшчаўся недзе там, дзе цяпер Галоўпаштамт, непадалёк ад Вацлаўскай плошчы).

Усё жыццё ён бараніў людзей ад духоўнай і фізічнай смерці.

Смерць і неўміручасць — прыйшла да яго каля 1551 года.

Ніхто не ведае, дзе ён пахаваны. Можна думаць, што недзе на старых могілках на Градчанах. Але ад іх даўно не засталося і следу, бо яны былі знесены пад час Габсбургскай рэакцыі пасля Белай Гары.

Так што магілай яго трэба лічыць проста Прагу. Усю Прагу. Яго не падтрымліваў пры жыцці ніхто, за выключэннем нешматлікіх сяброў. Але ў яго быў і яшчэ адзін сябар, які кніг тых тады амаль не чытаў і для якога, аднак, і распачаў Францыск Скарына сваю катаржную працу.

Народ.

І праца тая не была дарэмнай. Хутка пасля смерці вялікага першадрукара друкарні на Беларусі пачалі расці, як грыбы. Пераможнага шэсця кнігі ўжо нельга было спыніць. Розум Чалавечы ўставаў ва ўвесь рост, хаця доўга яшчэ, цяжка, пакутна было яму ісці — першы крок быў зроблены.

Хто ведае, як цяжка давялося б кнізе і асвеце беларускай без яго? Але ён быў і неадрыўнай часткай культурнага жыцця Прагі.

Я іду з другам дварамі Каралінума. Вось Славянская бібліятэка. Тры з паловай мільёны тамоў. Практычна ўсё, што можна ведаць аб нашым з вамі свеце. І сярод іх — пятнаццаць тысяч беларускіх назваў, не лічачы часопісаў і газет. Нават не трэба асабліва ездзіць у багацейшыя бібліятэкі свету, каб зведаць аб маім народзе ўсё.

Прыехаць трэба — і не раз — толькі каб ведаць

яго знутры. І сярод гэтых назваў першая наша друкаваная кніга. Кніга Скарыны. Маці тых мільёнаў, што выдаюцца ў нас зараз.

І за гэта дзякуй Скарыне і Празе.

...Я іду вуліцамі горада. І мне ўсё здаецца, што начнымі пражскімі вуліцамі ўсё яшчэ гучаць ягоныя крокі, што шматпакутныя і святыя пліты пражскіх тратуараў берагуць у сабе не толькі цеплыню мільёнаў ног, якія стагоддзямі хадзілі і ходзяць па іх, але і яго цеплыню, што ў старых камяніцах Прагі засталася частка і ягонай душы, душы вучонага, асветніка, гуманіста, паэта, барацьбіта з несправядлівасцю, варварствам і цемрай. Чалавека, які першы звязаў беларусаў і чэхаў у іхняй агульнай любові да ведаў і святла.

Тут ён жыў. Чалавек, які верыў у сілу дабрыні і ўсё жыццё змагаўся за перамогу гэтай сілы. Тут ён памёр. Тут пахаваны.

Прага стала яго магілай.

Пражскага праху, пражскай зямлі стала крыху болей. Пражскага духу, духу гуманізму, асветы, доблесці стала намнога болей. А значыць, у жылах гэтага вялікага горада цячэ кропка і беларускай крыві.

І мы, беларусы, ганарымся гэтым.

*Прага, 5 ліпеня 1973 г.*

## ЛЕТАПІСЕЦ

*Да 75-годдзя з дня нараджэння*
*М. Багдановіча*

Летапісцы часам адкладалі пяро і бралі ў рукі зброю, але галоўнай іхняй сілай было ўсё ж пяро — самая смертаносная зброя на зямлі. Таму што чыстае пяро, рана ці позна, абавязкова заб'е.

Гэты чалавек быў Нестарам у новым разуменні намі нашай гісторыі. Ён пачаў тую справу, якую мы ўсе робім цяпер болей ці меней, з большым ці меншым поспехам.

Ён быў геніяльны паэт. Яго звалі Максім Багдановіч. Усё жыццё ён думаў пра Беларусь, пра людзей,

хварэў за іх, піянерам ішоў праз нетры, прасякаючы шлях, церабіў зарасці, бурыў гнілыя дрэвы хлуслівых аўтарытэтаў, каб яны не падалі на галаву Чалавеку. І паўсюль паставіў, дзеля нас, абярэжныя слупы:

— Ціха, тут водзяцца злыя цёмныя сілы. Загубяць, калі не будзеце берагчыся!

— На гэтым шляху — загінеш!

— Асцярожна — дрыгва!

— Ідзі, тут светлая, надзейная дарога!

Ён напрацаваў катаржна. Можа, таму і падарваўся. І памёр. Яму было б зараз семдзесят пяць год. Мог бы суцяшаць нас сваім існаваннем на зямлі. І вось няма. І, нават, здаецца ён нам чымсьці далёкім-далёкім (хаця і давеку блізкі), чымсьці такім, што даўно адышло ў нябыт (хаця і грэе нас нязгаснымі праменнямі сапраўднага генія).

Якая прычына, што Максім Багдановіч астаецца для нас ледзь не самай сімпатычнай і роднай постаццю ў гісторыі беларускай літаратуры?

Па-першае, ён змагаўся наводдаль ад сваёй арміі. Іншым было лягчэй. Яны былі сузор'ем. Ён — самотнай зоркай, якая, вядома, бачыла святло ад вялікай галактыкі свайго народа і ад сузор'я лепшых сыноў яго, паплечнікаў сваіх — але ўсё ж палала наводдаль. Іншыя нарадзіліся ва ўлонні свайго народа, чулі ўвесь час яго мову, усмакталі яе з малаком маці і з вадою беларускіх крыніц. Гэты — чуў яе ад лічаных людзей. Ён большую частку свайго жыцця не бачыў радзімы, а калі ўбачыў, то спустошаную вайной, няшчасную, знявечаную і збрыджаную. Убачыў, каб адразу ж самотна памерці наводдаль ад яе.

Іншыя, можа, больш зрабілі. Але трагізм і веліч гэтага кароткага жыцця, пагрозная і шчымлівая яго нота — глыбей закранаюць наша сэрца. Мы супакутуем яму, і таму ён не толькі наш настаўнік, але і нібыта святло сэрца нашага, улюбёны сын, з нараджэннем якога мы пачалі новае жыццё, які зрабіў нас мудрэйшымі і дабрэйшымі, адкрыў нам вочы на нас саміх, прымусіў па заслугах ганарыцца сабой.

І адышоў, не пакінуўшы нам суцяшэння.

Па-другое, гэты чалавек ніколі не зведаў кампрамісаў, ніколі не дапусціў сваё сумленне да згоды, не пісаў таго, чаго не думаў, цвёрда ішоў па адзіна магчымым для чалавека шляху, шляху годнасці і

сцвярджэння права на сваю, адметную, незалежную думку. Без гэтага называцца чалавекам не мае права ніхто. І вось ён, незайманы, кінуў нас, астаўшыся ў сэрцах нашых найвышэйшым прыкладам такога вось Чалавека.

Па-трэцяе, ён бараніў годнасць чалавечую, клікаў да гуманізму і на гэтай дарозе адступленняў не ведаў.

Па-чацвёртае, быў наскрозь гістарычным паэтам, у тым сэнсе, што абуджаў у народзе гістарычнае мысленне, а значыць, і гонар. Вось аб гэтым, апошнім, і хацелася б сказаць. Атрымалася так, што за многія і многія дзесяцігоддзі бясправуя з людзей выбілі памяць. Здавалася, маўчалі вякі, здавалася, у нас не было мінулага, а значыць, не было і акрэсленай будучыні.

І вось з'яўляецца юнак і, падобна летапісцу з уласнага верша, раптам дае гэтай спячай памяці першы штуршок:

— Падымі галаву! За табою — веліч! За табою — барацьба! Ты не бязбацькавіч! У цябе ёсць продкі, якімі можна і трэба ганарыцца!

Загінулі яны, і, можа, сотні год
З часоў тых працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё змянілася, і ўжо пра іх забылі.
Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!
І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх,—
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі.

Я не ведаю дагэтуль у беларускай гістарычнай літаратуры лепшага твора, чым «Апавяданне аб іконніку і залатару, людзях мудрых і красамоўных, кнігалюбцам нейкім дзеля славы божай ды размнажэння дабра паспалітага выдадзенае».

І гэта нягледзячы на тое, што «гістарычнага» ў ім — акрамя антуражу ды мовы — уласна няма, а ёсць разважанні аб мастацтве.

Але хіба мова — гэта так мала? Хіба не палова справы — даць гісторыі язык? Язык, якога яе пазбавілі.

Золата, срэбра і чэрнь. Вось кажа Раман Якубовіч:

«Бо, здаецца, кожны зразумець можа, што святая ікона пана бога, хаця б і зусім няўдала зробленая,

бязмерна больш варта, чым са пса якога-небудзь малюнак найлепшы».

Адказвае залатых спраў майстра, Антон Корж: «Вось чаму я, хрысціянін не згоршы ад іншых, рэчы свае вырабляючы, адно толькі красу формы пільную ды не думаю аб тым, нашто нанізкі залатыя мае пойдуць: ці то на здабленне фігуры маткі боскай, або піяка і распуснік які на пакраску сваю ўжываць іх будзе».

Мова! Два чалавекі, два характары, два стылі. І яшчэ трэці стыль, стыль гісторыі, сапраўдны — аж валасы варушацца — вецер яе. І дорага б я даў, каб напісаць некалі нешта падобнае.

...А што, вас ніколі не здзіўляла, адкуль яно ўзялося, адкуль гэты бог з машыны, адкуль гэты, уласна, хлопчык мог так ведаць усё?

Не было і не магло ж у яго быць доступу да гістарычных дакументаў (не ў Яраслаўлі ж шукаць беларускія архівы), не было яшчэ грунтоўных прац па старажытнай мове. Не было ў яго і падрыхтоўкі да чытання старажытных папер, не быў спецыялістам у палеаграфіі.

Былі, што праўда, тамы актаў, выдадзеныя рознымі археалагічнымі камісіямі. Але ж падбор дакументаў?! І ўвогуле: аб'ектыўнасць досыць рэдкая госця ў падобных выданнях.

...Былі кнігі. Таксама збольшага, наскрозь тэндэнцыйныя ў той ці іншы бок. Сапраўдных мала. Смярдзяць ялеем і халопствам.

Не ў Бацюшкава ж, не ў Ратча, не ў Мураўёва, не ў іншых, імя якім — легіён, было яму вучыцца веданню таго, што такое народ. Кожны з гэтых людзей рабіў з гісторыі наймічку або наложніцу і рабіў з ёю што хацеў, ведаў, што бараніцца не будзе, ведаў, што для іншых людзей, для жаніха, якому яна патрэбна, як паветра, і імя якому — Народ, яна замкнёна за сямю пячацямі, за кратамі архіваў, за цёмнай мовай мінулага, за неадрыўнай вяззю папер.

І вось, перачытаўшы сотні даследаванняў, перакапаўшы стосы папер, пабачыўшы ў сто разоў болей, чым гэты вечны юнак, раптам разумееш, што ты ягоны вучань, што ён прадчуваў болей, чым ты ведаеш. Мала таго, магчыма, ты бачыш гэта ўсё, бачыш многа, бо ён даў табе вочы. Нарадзіў погляд на ўсе гэтыя

дакументы, на ўсе з'явы, даў у рукі арыядніну ніць, каб не заблукаў у цёмных лабірынтах беларускага мінулага.

Толькі геніяльнай інтуіцыяй можна растлумачыць гэта. Наскрозь дэмакратычным светапоглядам, веданнем, што ніколі, нізавошта нельга даваць у крыўду просты народ, і ўсё, што не на яго карысць — ад лукавага, у якія б прыгожыя тогі яно ні драпіравалася, якія б высокія словы ні казала.

І лепшы доказ гэтаму — «Слуцкія ткачыхі» ў рэдакцыі «Вянка», можа, найвялікшы наш шэдэўр.

Якія б ні былі зіхоткія і залатыя тканіны — яны не каштуюць слязы дзяўчыны, што нарадзіла гэтую прыгажосць. А калі яна, гэтая тканіна, усё ж мае права на існаванне, то гэта таму, што яна — памяць аб бязведамных ткачыхах, доказ іхняй геніяльнасці.

Багдановіч зведаў усё гэта. І з гэтага ведання нарадзіў сапраўдную паэзію, высокае золата і жалеза якой перажывуць вякі.

Што дало яму вернасць пагляду? Мне здаецца, фальклор. Адзіны з усіх — народ не будзе не толькі сведчыць супраць сябе (на гэта многія не майстры), а і хлусіць. Гэта за яго робяць іншыя.

А Паэт ведаў паэзію свайго народа, як ніхто. Нездарма быў сынам этнографа. І, як кожны сапраўдны сын і вучань, перарос бацьку і настаўніка. У чым? У прыватнасці, у тым, што не павeрыў сцвярджэнню аб аднастайнасці беларускай песні. І меў рацыю. Але мала таго — узбагаціў тую песню.

У чым яшчэ? Не мог паверыць, напрыклад, што на Беларусі не зберaглося гістарычных паданняў, што ў народа беларускага няма гістарычнага мыслення.

«Няма доказаў, няма фактаў, што паданні зберагліся,— тым горш для фактаў. Няма — значыцца, пакуль не знайшлі. Не існуе народаў без памяці, без легенд. І нельга чакаць, сядзець склаўшы рукі. Трэба, пакуль знойдуцца такія,— даць люду свае».

Велічная, надзвычайная вера. І, як раней чэх Ганка, ён піша гэтыя паданні, толькі што не выдае іх за народныя, не падрабляе, як той падрабіў «старажытны» Краледворскі рукапіс (Багдановіч дзеля гэтага занадта паэт).

Сёння мы ведаем, што паэт не памыліўся, што эпас, што паданні ёсць, што і цяпер мы стварaем іх.

Раскіданыя ў старажытных кнігах, у летапісах («паданне аб мужыцкім Хрысце»), запісаныя фалькларыстамі, але запісаныя ці выдадзеныя пазней, яны, каб іх, апрацаваўшы, скласці з асколкаў у цэлае, маглі быць эпапеяй, вартай іншых вялікіх эпапей розных народаў. Беларусь чакае яшчэ свайго Лёнрата, свайго Лангфела, якія зноў складуць у цэлае разбітае некалі бязлітасным часам.

І дачакаецца.

Сёння, на грунце ўжо вядомага, мы здзіўляемся, як Багдановіч трапна адчуў асаблівасці народнай мовы і самы склад народнага мыслення ў гістарычным эпасе.

«Максіма і Магдалену» маглі б спяваць лірнікі, каб яны былі ў наш час, каб дажылі.

Хоча зноў пачуць тое гранніца
У астатні раз,
У смяротны час.
На апошняе са светам развітанніца.
. . . . . . . . . . . . . . .
Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка прэкраснае!
Ой, да сонейка
Па зямлі цвяты расцвітаюць,
Ад яго ж яны й пасыхаюць.
А ты, сонца, свеціш,
Залатое, святое,
І не ведаеш тое.

«Страціма-лебедзя» — рэч у вышэйшай ступені інтэлігентную — маглі б, аднак, спяваць магілёўскія «дзяды» разам з плачам, «плачам-узрыдаем». І таксама плакалі б, жахаліся і шкадавалі, і ў глыбіні душы наракалі на бога астравецкія, полацкія ці лельчыцкія бабы.

Не анёл у трубу уструбіў —
З хмары бог старому Ною гаварыў:
Поўна з краем чаша гневу майго
На людскія грахі ды бясчыннасці.

І ў «Калевалу» беларускую стараннем будучага нашага Лёнрата (каб такі прыём быў дазволены) гістарычныя вершы Максіма Багдановіча маглі б увайсці ў якасці лепшых яе частак, побач са славутай «Дачкой Андрэя», з «Яварам і бярозай», з апрацаванымі адпаведна гісторыямі «Кронік», з легендамі,

з «Ой, вайна была» і «Ой, закурэла, ой, задымела сырымі дрывамі», з тысячамі іншых эпічных твораў.

Характар гістарызму ў нашага паэта своеасаблівы. Амаль няма гістарычных асоб. Гэта Скарына ў вершы «Безнадзейнасць» (і, магчыма, не зусім той Скарына, якога мы ведаем). Гэта князь Ізяслаў Полацкі, што загінуў у сечы з літоўцамі.

Вось, бадай, і ўсё. І гэта зразумела. Багдановіч жыў на зары Адраджэння, і ён параўнаўча мала ведаў. Але ён прадбачыў усё, разумеў усё і ў няведанні сваім глядзеў праўдзівей і далей, чым некаторыя прафесары гісторыі, што свядома скажаюць ісціну. Бачыў далей, таму што ведаў: калі гісторыя народа нераспрацаваная, малавядомая — ёсць адзіны сродак пазбегнуць памылкі, расказваючы аб ёй. Зрабіць героем сваіх вершаў самую вялікую гістарычную асобу — Народ.

Той, што адзін толькі мае права распараджацца сваім лёсам. Той, што невінен у сваіх памылках. Той, што адзіны стваральнік сваёй велічы і сваёй справядлівасці.

Той, што ўмее кахаць і адказваць за каханне, як адказваў за каханне да Магды Максім.

Той, што не дасць у крыўду высокага гонару роднай зямлі,— гэта ў геніяльнай «Пагоні».

Ён часам прымхлівы, як дзяўчына ў «Ціхім вечары» або дзед з верша «Па ляду ў густым бары». Але ён умее працаваць, перад ім ёсць будучыня.

І яшчэ таму Багдановіч бачыў далей, што ён ніколі не страчваў веры ў неадольнасць чалавечага руху наперад. Адзін з самых кранальных у гэтым сэнсе вершаў «Агата». Не на шырокім палатне, не з барабанным боем, а проста, недакучліва, няголасна гаворыць пра абуджэнне Чалавека ў чалавеку паэт.

Дзяўчына з сярэдневяковага беларускага горада ідзе да ратушы, дзе паляць ведзьмакоў. Ідзе глядзець. Усё натуральна: раз ёсць ведзьмакі — патрэбна і вогнішча.

Ідзе і сустракае прыўкраснага конніка, губляе яго з вачэй. І вось каханне абуджае яе. І яна ўжо здатная страціць уратаванне за нованабытую любоў, за каханне, загубіць варажбою душу і, магчыма, самой згарэць на вогнічшы, як гарэлі ведзьмакі, абы здабыць, абы ўбачыць светлага конніка ў залатым шаломе,

свайго «Юр'я Святога», які пакуль скача недзе ўначы, асветлены далёкім водбліскам пажару.

А значыць, як бы ні заняпаў чалавек — ён знойдзе шлях. І нічога з ім не зробіш.

Максім Багдановіч даў нам першы ўрок гісторыі. Даў яго, нарадзіўшы ў нашых людзях гонар за сваё мінулае, і гістарычнае мысленне, і веру ў будучае.

Аднаго гэтага хапіла б на вечны яму помнік.

Такі ранні помнік!

Зразумела, паэт мог бы не дажыць да сямідзесяціпяцігоддзя і без сухотаў. Войны, расстраляныя патрыёты і проста заложнікі, допыты ў падзямеллях гестапа, нахабны гвалт і тэрор ворагаў, бамбёжкі, тры нашэсці — ці мала было такога, што магло б разбіць кволы сасуд чалавечага цела. Ды яшчэ калі яно — цела паэта. Ды яшчэ такога паэта, як Максім Багдановіч.

Паэты не толькі вешаюцца. Паэтаў і вешаюць. Фалангісты расстралялі Лорку. Досыць было, што Багдановіч проста паэт, чалавекалюбца, дэмакрат, каб яны вышчарыліся на яго і распялі.

Я дрыжу за кожную кулю, якую яны маглі б усадзіць у яго. За кожны асколак бомбы, які мог бы раздзерці яго сэрца.

За гільяціны, за Трасцянец і іншыя канцэнтрацыйныя лагеры, за кожны паклёп, за кожны артыкул, падобны на здзек. Іх не было, але яны маглі б быць, і сэрца маё абліваецца крывёю за неіснуючыя яго мукі, і я вінавачу фашызм і іншае такое яшчэ і за яго, які нежывы, але мог бы жыць.

І ўсё ж як шкада, што яго няма. Жыццё — вялікая даброта.

## ПАКУЛЬ ГЭТА СЭРЦА Б'ЕЦЦА

Знаю ўсе яго думы, трывогі,
Чую родны купалаўскі спеў...
Не, я ведаў Купалу жывога,
Хоць сустрэцца з ім і не паспеў...

Заўсёды цяжка гаварыць аб тым, што любіш. І асабліва цяжка сказаць словы любві, калі гэтая любоў ужо не мае мяжы...

Я памятаю час, калі мне ўпершыню трапіла ў рукі кніга Купалы. Магчыма, зарана, бо гэта была «дарослая» кніга, а я быў яшчэ зусім малы. На «дарослыя» кнігі была накладзена забарона, і чытаць іх даводзілася ўпотай. Таму я чакаў, калі ўсе ў доме заснуць, і ў адной сарочцы забіраўся ў ціхі куток. «Забароненыя плады» былі там. І яшчэ там было старое пацёртае крэсла, а на падлозе, на мяккай аўсянай саломе, ляжалі яблыкі. Можна было набраць з шафаў або з кніжнай гары ў кутку хоць дзесяць кніг і чытаць, пакуль між яблынь за акном не ўстане перадранішні туман. Я асабліва любіў вершы. Чаравала самая іх музыка, нават тады, калі сэнс не даходзіў. Гэта здавалася дзівам, большага за якое не было на зямлі.

Я забіраўся ў крэсла, нацягваў сарочку на голыя ногі, і час знікаў. Толькі парыпванне маснічын — яны рыпелі самі — адрывала часам ад радкоў, і тады можна было прыўзняць галаву і глядзець, як далёка-далёка ў цёмным садзе трапеча адбітак маёй свечкі. Часам здавалася, што гэта блішчыць ліхтарык у маленькага хохліка, які стаіўся там, між дрэў, і здалёк глядзіць у акно. Трэба было б папрасіць у яго, каб даў мне доўгі век, больш такіх вось начэй у маўклівым доме, больш гэтага ап'янення і яшчэ — ну, што яму варта! — каб я сам мог, хоць дрэнна, хоць не так, як у гэтых кнігах, ствараць такое дзіва.

Відаць, не выпрасіў.

А радкі адзываліся ў душы і жахам, і холадам, і гарачай дрыготай, як тады, калі працягнеш рукі да агню і цеплыня льецца ад далоняў у цела.

І вось мне трапіла ў рукі кніга ў папяровай вокладцы. Я разгарнуў яе і ўбачыў:

> На Купалле там птушка садзіцца, пяе,
> У Пілілаўку воўк нема вые,
> Сонца днём распускае там косы свае.
> Ноччу зоры глядзяць залатыя.

Гэта было як ноч, як агеньчык у цёмным садзе і як водар яблыкаў на аўсянай саломе. І так гэта засталося на ўсё жыццё.

Я чытаў тады ўсю ноч і нарэшце дайшоў да таго стану, калі ўжо нічога, ані паловы слова не разумееш, але ўрачыстая, мернагучная хада радкоў прымушае валасы дыбарам стаяць на галаве.

Гэта было проста і добра. Гэта была тая самая пявучая родная мова, на якой гаварыла мая нянька,— так пяшчотна,— і мой бацька,— так грубавата. Я шмат чытаў для свайго ўзросту, гэта былі радкі, накшталт радкоў нямецкага паэта Мюлера:

Светлый мир здесь погребен когда-то,
И встают обломки, как цветы,
Золотыми искрами заката
Отражаясь в зеркале мечты.

І раптам:

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

Гэта было дзіва. Восьмы — а для мяне першы — цуд свету. А потым былі «Магіла льва», «Бандароўна»,— і змяніўся свет. Назаўжды.

Я не ўяўляю сабе жыцця без яго. Каб не было той ночы і той кнігі — я ніколі не пісаў бы так, як пішу. Ды і ці пісаў бы наогул?

Шмат радкоў напісаў я аб ім. Менш надрукаваў. Бо словы слабыя, бо словы часам нічога не могуць сказаць.

А беларусы ж нікога не маюць...

Мы маем шмат каго: і Багушэвіча з яго ўтрапёнай нянавісцю, і Багдановіча з яго ўтрапёнай пяшчотай. І ўсё адно Купала застанецца першай нашай любоўю, нашымі вачыма, нашым сумленнем, нашым вечна жывым сэрцам.

Мне давялося бачыць яго толькі аднойчы. Мне тады было, напэўна, год сем. На вуліцах Оршы грымела музыкай нейкае свята. Брат паказаў мне яго, і я здзівіўся: мне здавалася, што ён павінен быць нават фізічна дужэйшы, на дзве галавы вышэйшы за ўсіх іншых людзей. І дзіўна было, што ён жыве ў Ляўках, зусім недалёка, цераз Дняпро.

З таго часу мінула шмат год. Вайна забрала дом. Вайна забрала брата. Вайна, што б там ні казалі, забрала і Купалу. Толькі аднойчы бачыў я яго, але я ведаю, наколькі бяднейшым было б маё жыццё, каб не гэтая іскра ўспаміну з далёкіх дзіцячых год.

Пасля вайны я пабываў у Ляўках. Попел. Галавешкі. Знявечаныя адхоны над Дняпром, якія любіў Купала і якія, дзякуючы гэтаму, прымусілі мяне

яшчэ больш, часам амаль нясцерпна любіць маю сціплую прыдняпроўскую зямлю...

Купалы ўжо не было. І на месцы яго дома быў попел.

Я не разумеў тады, што некаторыя легенды — гэта само жыццё, і не ведаў, што ў легендзе пра Фенікса больш праўды, чым нават у жыцці.

Зразумеў потым, калі ўдвох з сябрам адправіўся пешшу ў Вязынку і ўбачыў простую сялянскую хату, якая стала нашай Мекай. Там я зразумеў: ён жывы.

Нам дарага ўсё ў ім: і ўзлёты генія, і простыя чалавечыя памылкі, і шлях, цяжкі і слаўны, як у кожнага вялікага паэта. І нельга ўзяць з нашых дум яго рамантызм, і яго святую праўду, і яго веру. Бо ён верыў у казку нашай радзімы.

І ён вельмі верыў у свой народ. Толькі гэта і дало яму сілу ствараць тое, што ён стварыў, даць нямому народу, якім усе пагарджалі, песню, слова і мову.

Больш за ўсё хацелася б мне напісаць паэму аб ім. Не ведаю, ці хопіць сціплых слоў, бо гэта — галоўнае, бо аб гэтым нельга сказаць абы-як. Таму што, напэўна, будуць большыя за яго,— інакш не варта было б жыць паэзіі. Але не будзе людзей, якія больш зрабілі б для маёй мовы, для маёй песні, для маёй Радзімы, нарэшце.

Калі б мяне, маленькага чалавека, спыталі: «Як ты хочаш ушанаваць яго памяць? Кажы — і мы выканаем усе, да апошняга, твае пажаданні, як быццам ты Аладзін і чароўная лямпа ў тваіх руках, а табе прыслужваюць усе добрыя джыны зямлі». Калі б мяне так спыталі — я адказаў бы: «Зрабіце гэта не для яго, бо лепшы помнік яму — нашы сэрцы і яго песні, што жывуць у іх.

Зрабіце гэта не для яго, бо яго славу не ўзвялічаць помнікі. Зрабіце гэта для сябе, каб нас не вінавацілі ў няўдзячнасці, у дрэннай памяці, у адсутнасці той вялікай павагі да лепшага свайго паэта, без якой не жывы кожны народ».

Беларуская зямля чакае праху Купалы, беларускі народ чакае вечнага агню, які будзе гарэць над яго магілай. А ля яе ў вечнай ганаровай варце стануць усе — і суровы Машэка ў ваўчынай скуры, і Бандароўна — наша непакора-зямля, і Паўлінка — маладое

характво гэтай зямлі, і гнеўны Сымон Зяблік з сякераю ў руцэ, і сляпы лірнік з павадыром-хлопчыкам, які глядзіць на свет нясцерпна-чыстымі вачыма будучага вялікага таленту, і крылатая Алеся — гордасць і светлая будучыня зямлі Купалы.

Шмат чаго яшчэ будзе. Быць бязмернаму шчасцю і яснаму сонцу. Быць і небу і хмаркам. Быць, магчыма, і навале. Але мы вытрымаем, бо мы няспынныя, як яго сэрца. І мы будзем жыць, пакуль гэта сэрца б'ецца у нашых грудзях. Пакуль гэта сэрца б'ецца...

## ЗЛІЦЦЁ З ДУШОЙ НАРОДНАЙ

У ноч летняга сонцастаяння, калі самая магутная жыватворная сіла зямлі, калі паляць вогнішчы і гарыць над карагодамі прасмаленае кола — «сонца», а дзяўчаты пускаюць па рачной плыні вянкі, на кароткае імгненне расцвітае ў лясной глухамані папараць. Пад абаронаю сіл зла. Хто адолее іх, хто сарве гэтую агонь-кветку, той здабудзе шчасце людзям і сабе.

Гэта ноч на Івана Купалу.

Такой яна была і ў 1882 годзе. Цёмныя і магутныя былі сілы зла, мёртвым было маўчанне палёў. Але агонь-кветка разгаралася недзе ў бураломе. І думкі паэта былі толькі пра тое, каб здабыць яе, што б там ні каштавала, для прыгнечанага, але гордага і таленавітага беларускага народа.

І само жыццё будучага паэта спачатку нічым не адрознівалася ад тысяч і тысяч такіх, як ён. Плуг і каса, вілы і цэп. Два класы народнага вучылішча, і зноў гэта скупая зямля. Падзол, россып камянёў, верас. Яна, праўда, была здзіўляючая, сціпла чароўная са сваімі пагоркамі, непраходнымі пушчамі, светлымі водамі, зімою патанала ў снягах, а летам у кветках. Але гэта прыгажосць, гэта харaство не давалі ўдосталь хлеба, бо належалі чужым. Твае на ёй толькі мускулы, рукі.

І на гэтай зямлі людзі і ён, будучы паэт гэтых людзей. Яму няма чаго сыходзіць да народа. Ён сам — народ. Па душы і крыві.

Земляроб-араты, хатні настаўнік, прыказчык, пісар, памочнік вінакура (а значыць, дзе патрэбна, і рабочы), бібліятэкар, журналіст, рэдактар адной з першых беларускіх газет «Наша ніва». А потым адзін з заснавальнікаў беларускага універсітэта, акадэміі, беларускіх выдавецтваў, нацыянальнага тэатра.

Але перш за ўсё Паэт. Шмат іх яшчэ будзе на Беларусі. А ён застанецца для нас першай любоўю, арганам, які мы стварылі, каб найбольш поўна выказаць саміх сябе, уладаром нашых дум, якога мы выбралі не пад уплывам абставін, а як адна душа і добраахвотна, па сваёй волі.

Гэта пачалося на заранку нашага стагоддзя, з першых яго надрукаваных радкоў. Прыціснуты цяжкай працай, абсмяяны моцнымі, асуджаны пакінуць гэты свет, як сабака, беларускі мужык раптам уладарна кінуў у кучу ўсеагульнага бунту супраць несправядлівасці сваю лямцавую шапку:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык.

Потым пайшлі першыя зборнікі вершаў «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця». Але ж і бацькі нашы, бадай, ведалі Купалу часцей не па друкаваных радках (ім часам цяжка было прабрацца ў сельскую хату, на хутар, у дом гараджаніна ці фальварак). Ён уваходзіў у іх жыццё як калыханка, як шолах лістоты пад начным ветрам, звон трыснягу на лясных азёрах, сум балот і палёў і трывожнае зарыва далёкага пажару, як спеў ліры ў руках сляпога і як вочы тых людзей, што чыталі вершы Купалы на вечарынках і ставілі яго п'есы. Ён уваходзіў музыкай нават пад тыя курныя стрэхі, дзе ніколі не чулі яго імя. А гэта хіба не найвышэйшая ўзнагарода для песняра?

«Я не паэта»,— сказаў ён у адным з вершаў. І сапраўды, калі ўяўляць паэта з сонечным німбам на галаве і ліраю Апалона ў руках,— ён не паэт. На галаве яго — сялянская шапка, у руках — жалейка пастуха.

Але для нас ён больш чым паэт. Ён іграў на струнах нашай душы, як хацеў.

Вось ён шэпча:

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

І парог хаты, заліты месячным святлом, адказвае яму.

А вось ён узвышае голас:

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

І чуцён тупат мільёнаў ног, і бачны косы, узнесеныя ў зарыва.

...І вось яшчэ ледзь не самае галоўнае. З бегам часу Янка Купала ўсё больш нагадвае нам нашы маленства і юнацтва. Яны не былі ў нас бязвоблачнымі. Нашэсце, недаяданне, холад, цяжкая праца. Але цяпер... цяпер яны здаюцца нам шчаслівымі і поўнымі пазнання хараства. Бо гэта і сапраўды было пазнанне хараства свету, няхай сабе жорсткага і суровага. І ніхто ўжо не верне нам гэтых дзіцячых, шырока адкрытых на свет вачэй, гэтых усё ж шчаслівых, таму што беззваротных, дзён.

Хіба што Купала і лепшыя, хто стаяў з ім плячо ў плячо.

Ён — наш гнеў. Ён — наша асуджэнне прыгнёту і рабства, несправядлівасці і вайны. Але ён жа і наша ўсхваленне радасці. Я не ведаю ў славянскай (і, магчыма, не толькі ў славянскай) паэзіі такога па-язычаску дзёрзкага гімна шчасцю, каханню, сонцу, вольнай працы на вольнай зямлі побач з любімым, блізкім табе чалавекам, як паэма «Яна і я».

Сэрца чалавечае разарвалася б, калі б у ім заўсёды жыла адна лютасць. І грош цана сэрцу, якое ведае адну жорсткасць і не можа хоць падчас заліцца ў бяспамятнай ад захаплення песні.

Зайздросны лёс!

Але ў тым і ўся сутнасць, што лёс ніколі не дае геніям поўнага шчасця, быццам нават зайздросцячы ім. Не быў ён ласкавы і да нашага паэта. Не кажучы ўжо аб неўладкаваным юнацтве, аб тым, што першы зборнік толькі цудам не прывёў яго на тры гады ў

выпраўленчы дом, на восем гадоў у катаргу, не кажучы аб паклёпах ворагаў і здрадніцтве фальшывых сяброў — ён яшчэ азмрочыў апошні год яго жыцця ценем самай страшнай вайны, якую давялося перажыць за ўсю сваю гісторыю яго Радзіме.

Яму давялося пакінуць родную зямлю, захопленую і бязлітасна скатаваную ворагам. Ён, праўда, не ведаў, што кожны чацвёрты яго адзінапляменнік загіне са зброяй у руках ці загнаны ў падпаленае гумно (гэта падлічылі пазней). Але ён яшчэ і не бачыў пералому вайны. Да перамогі на Волзе заставалася некалькі месяцаў, калі ён памёр. Ён верыў у тое, што ніякая сіла не зможа знішчыць ці паставіць на калені яго народ. Аднак гэта была вера, азмрочаная пакутай за яго.

Пакласці ўсё сэрца на тое, каб ён, родны народ, быў шчаслівы і вольны, і бачыць яго змаганне, пакуты гібель — якое сэрца можа гэта вытрымаць?

І ў той дзень, калі перастала біцца сэрца паэта,— на захопленай ворагам радзіме аддавалі зямлі цела яго маці.

Больш за ўсё мне хацелася б супакоіць яго, што ўсё абышлося: нам неслі смерць, але мы не памерлі.

І ў глыбіні душы я веру, што ён ведае гэта. Не можа не ведаць, раз лёс даў яму ўсё ж найвышэйшае шчасце поўнай адпаведнасці і зліцця яго душы з душой народнай.

Гэты чалавек усім створаным вярнуў народу годнасць, годнасць за сваё мінулае, сілу жыць у сённяшнім, мужнасць, каб глядзець у будучыню.

Бываюць паэты большага ці меншага генія, больш ці менш моцнага ўплыву на розум і ўяўленне Чалавека, але для нас, беларусаў, ён адзін такі.

Ён — Купала. І гэтым усё сказана.

## РЫГОРУ РАМАНАВІЧУ ШЫРМЕ — САРДЭЧНЫЯ СЛОВЫ ЛЮБОВІ

Час бардаў мінуў. Даўно. І ўсё ж яны трапляюцца і цяпер. І тым большая іхняя роля.

...Ён быў дужа цяжкі, былы лёс вялікай песні

нашага народа: пад забаронай, толькі пад дымнымі стрэхамі сялянскіх хат. І праследаванні яе, што скончыліся ў былой Заходняй Беларусі параўнаўча яшчэ зусім нядаўна.

Магло б здарыцца горшае. Калі нямецкія рыцары захапілі Прусію, калі пачаў знікаць прускі мелас і пруская мова, у Марыенбурзе, пры замку здарыўся турнір спевакоў. На ім выступіў апошні прускі бард-вайдэлот. Калі ён скончыў спяваць — над натоўпам пракаціўся рогат. Ніхто ўжо не разумеў яго, і дзікія былі гукі ягонай музыкі для ўсіх вушэй. У якасці здзеклівага падарунка рыцары падарылі яму за песню сто пустых арэхаў-свістуноў.

Здарыцца магло б горшае. Каб не энтузіясты і фанатыкі народнай песні, вечныя прапаведнікі яе, людзі, што яшчэ ў мінулым стагоддзі запісвалі яе і апрацоўвалі і выконвалі, прымушаючы сэрцы людзей дрыжаць ад хвалявання, ад замілавання, ад любові да гэтага, напаўзабытага, але роднага, як пяшчотныя матчыны рукі пад роднай страхой.

...Да ліку такіх людзей належыць з поўным правам і дзядзька Рыгор, Рыгор Раманавіч Шырма, васьмідзесяцігоддзе якога мы зараз з любоўю і ўдзячнасцю адзначаем.

О, гэта пружанская зямля, што ўся звініць песнямі, дзе іх болей, чым жаўранкаў у сінім небе над пружанскай раллёй! Спяваюць сінія роўныя лясы, спяваюць салаўі ў альховых зарасцях, спяваюць у залатым вячэрнім сонцы пчолы, спяваюць лянотныя рэкі і сама зямля. Што здзіўляцца, што й людзі тут спявучыя. Што здзіўляцца, што 80 гадоў таму назад нарадзіўся тут хлопчык, якому суджана было стаць гонарам нашай музычнай культуры, энтузіястам і мужным абаронцам беларускай песні. Вартавым пры яе скарбніцы.

Шлях ягоны смела можна назваць гераічным. Асветнік, кіраўнік ТБШ, педагог у адной з нешматлікіх заходнебеларускіх гімназій, нястомны лектар, выдавец кніг (між іншым, такіх выдатных паэтаў, як В. Таўлай і М. Танк), збіральнік нашых музычных скарбаў, які ўласнымі нагамі схадзіў кожны куток сваёй Айчыны.

Заснавальнік многіх народных хораў. Стваральнік аднаго з лепшых харавых калектываў СССР —

Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларускай ССР і, да нядаўняга часу, нязменны яе кіраўнік.

Выдавец шматлікіх, ім жа сабраных збораў песень, дзе кожная — непаўторны дыямент.

І хоць сказана недзе, што песня, вырваўшыся на волю, гаворыць спеваку:

Ты мяне да паперы не прывяжаш,
У скураную не пасодзіш клетку.
Толькі цень свой — чорныя знакі,
Толькі цень свой — літараў россып,
Бледны водгук гукаў магутных —
Вось і ўсё, што я табе пакіну.

І калі запіс яе зроблены, то спявак пакідае:

Бездыханны цень народнай песні,
Як пялёстак, засушаны ў кнізе...

Гэта, аднак, няпраўда. Песня часам можа знікнуць. Пялёстак застаецца, пакуль жыве кніга.

...Чалавек, якому за багатае яго жыццё часта даводзілася не словам, а справай даводзіць гарачую любоў да роднага меласу і часам плаціцца за яе. Аж да камеры панскіх Лукішак.

Усё жыццё сваё ён паклаў на тое, каб жыла, каб пераможна звінела песня наша. Усё жыццё. Кожнае імгненне ягонае.

...Я памятаю, як першы раз убачыў яго. На нарадзе маладых пісьменнікаў у 1955-м, здаецца, годзе. Выйшаў невысокі, сівы, як абдуванчык, чалавек з абліччам ці то настаўніка, ці то гэткага беларускага Дон Кіхота і загаварыў прыемным глухаватым голасам, з гэткім мяккім пружанскім акцэнтам «гэ-то-го», «за-мно-го». Загаварыў у віслыя вусы і сівую эспаньёлку рэчы, якія адразу зачаравалі нас. І адразу высвятлілася, якая велічная рэч наша песня, колькіх кампазітараў, ад Манюшкі да Рымскага-Корсакава, яна натхняла. І загучала арыя з «Галькі», заснаваная на мелодыі нашай песні, і «Песня Леля», якой, на самай справе, з'яўляецца наша «Ой, ляцеў арлішча».

І цяпер з усведамлення яе велічы нас не саб'е ніхто.

І мы адразу палюбілі гэтага чалавека. Назаўсёды. А тое слова, ягонае — раскрыю сакрэт — лягло ў аснову адной са сцэн маіх «Каласоў», дзе ідзе спрэчка аб беларускай музыцы.

Ён грамадзянін. Калі б ні прыйшоў да яго — ён заўсёды паможа. Ніколі ён не абмяжоўваўся адной музыкай.

Але перш за ўсё — Яна. Першая і апошняя яго любоў. Яго мара, яго пяшчота, ягоная душа, гарачае сэрца ягонае. Маці, што выхавала яго, і дзіця, над якім ён дрыжыць.

Дзякуй Вам ад імя беларускай песні, якая перамагла. Дзякуй Вам ад імя ўсіх нас. Жывіце яшчэ сто год на радасць нам, лятучая наша песня, наш дарагі дзядзька Рыгор.

## МОЙ ДРУГ І МАЯ ЗЯМЛЯ

Чалавек перажывае дзесяткі расчараванняў. Самыя балючыя з іх — расчараванні ў сябрах. Любіў да няздатнасці заўважаць кепскае — і вось забыўся нават нумар тэлефона.

Але не аб тых размова. Хочацца расказаць пра тых, прыхільнасць да каго як была, так і застаецца моцнай.

Мы шкадуем дзеля іх добрых слоў, саромеемся іх. Чаму? А так, мужчынская дурасць! Хто ведае, праз колькі год позна будзе самому сказаць добрае другу ці ад яго пачуць пра сябе? А яно, добрае слова, часам патрэбней за хлеб і ваду. Бо кепскае мы чуем занадта часта.

Гэта — эскіз. Пра многае не скажаш. Сёе-тое хай пачакае.

Таму вазьміце гэты беглы, штрыхавы партрэт майго сябра і пастарайцеся ўбачыць за ім жывыя чалавечыя рысы.

...Пачалося са смешнага. Недзе ў 1946-м, ці што, годзе пісаў я трагедыю з крыжацкіх часоў (раман з жыцця мамантаў). Гэткі дамарослы валенрадзізм, замешаны на крыві, слінях і ружовай вадзе. Патрэбна было прозвішча аднаму з герояў, а яны мне дужа цяжка даюцца, прозвішчы.

Па радыё, ці яшчэ як, пачуў я прозвішча, якое здалося мне прыдатным.

Так з'явіўся ў маёй трагедыі Янка Брыль. Пер-

шага зборніка ягонага я ў той час, клянуся, не чытаў. Нешматлікія тады кнігі ўвогуле цяжка даходзілі ў нашу глуш. Гэтымі абставінамі і тлумачыцца тое, што ходзіць па старонках маёй трагедыі нейкі асобны, зусім непадобны Янка Брыль, нават, здаецца, удавец.

Трэба будзе неяк дабрацца да гэтага забытага ў Оршы опуса ды спаліць яго, калі, вядома, яго ўжо не пусцілі «на сьледзі».(А то зганьбіш і сябе, і, галоўнае, сябра. Уявіце сабе трагічнага героя, напісанага кімсьці з мяне або, нават, з маім прозвішчам. Жах!)

А пасля пайшлі апавяданні. І першыя кнігі. І ўражанне святла. І — памятаеце? — срэбнае павуцінне на дзвярах гумна. І стаіць перад гэтым цудам змучаны жыццём чалавек, які раптам адчуў у сабе душу.

Ва універсітэце мне заказалі для аднаго з украінскіх часопісаў артыкул. Аповесць «У Забалоцці днее» была толькі што адзначана прэміяй. Не памятаю, ці быў той артыкул надрукаваны. Памятаю толькі, што хваліў. Не таму, што на сто працэнтаў падабалася, а таму, што з усяго напісанага тады на гэту тэму — «Забалоцце» рэзка вылучалася. Былі жывыя людзі, абставіны, пейзажы.

Ну і яшчэ: ніколі я не забываў пра апавяданні, заўсёды спадзяваўся, што будуць і яшчэ лепшыя. І не памыліўся ў гэтым.

А пазней я даведаўся, што кніга шмат памагла аўтару, дала магчымасць больш-менш спакойна пісаць і жыць. І таму я ўдзячны гэтай кнізе. Проста па-чалавечы ўжо. За сябра.

Першая сустрэча наша адбылася ў 1955 годзе, на нарадзе маладых. Амаль дванаццаць год мінула. Было тады яму 38. На год болей, чым мне цяпер. І вось, хай сабе гэты труізм гавораць усе, але не веру я, што яму пяцьдзесят. Сваім гадам не верыш ніколі, а другі — гэта ўсё адно што ты сам.

Сутыкнуліся мы ў цэнтральным кніжным магазіне. Я накупляў вялізарны пакунак беларускіх кніг, каб везці іх у сяло, дзе тады настаўнічаў. Мабыць, памеры гэтага пакунка і звярнулі на сябе ягоную ўвагу.

І вось, неяк непрыкметна, разгаварыліся. Памятаю, што пра вёску, настаўніцкую работу, пра тое,

што сумуеш без роднай мовы, без беларускіх кніг. Пра тое, што трэба мне перабірацца на Беларусь. Так з'явілася ў мяне першая са шматлікіх надпісаных ім кніг: томік «Забалоцця» ў вокладцы колеру кавы з малаком.

Мы рабіліся ўсё бліжэй адзін аднаму. Нягледзячы на некаторую розніцу ў гадах. Аднойчы, прыехаўшы ўжо з Оршы, я заначаваў у яго, і тут мы пераваралі адной з тых шчырых, бадай толькі славянскіх, размоў, калі са здзіўленнем і раптоўнай гарачасцю заўважаеш, што думаеш аднолькава з іншым, што словы аднаго падхапляе другі, не чакаючы нават канца выказанай думкі, бо яна, як свая. І самае важнае — аднадумства ў дужа важлівых для сябе рэчах. Такіх глыбокіх і часам балючых, што аб іх не скажаш і брату.

А пазней, у Маскве, прыйшоў да мяне ягоны ліст, які літаральна выратаваў мяне ў самы, бадай, страшны час майго жыцця. Бывае, надарыцца такі. І тады чамусьці здараецца так, што сябры нібыта чуюць. Лісты іхнія прыходзяць якраз у той самы вечар, у тую самую патрэбную ноч. Мабыць, у гэтым адрозненне сяброў ад несяброў.

Можа здарыцца, што будзе і часовае ахаладжэнне (чаго не бывае між людзей?). Але забыць тое, што было, забыць той ліст і тую падтрымку я не здолею. Не хачу.

Не скажу, што ў нас не было разыходжанняў. Часам балюча кранае няўдала выказаная думка, несправядлівая ацэнка той ці іншай з'явы.

Але за гэта б'еш і сябе. Прычым значна часцей. А сябра шкадуеш.

Я, напрыклад, ніколі не мог зразумець, як маглі крытыкаваць «На Быстранцы»? Лепшую аповесць тых год... Як можна ўвогуле крытыкаваць добрыя кнігі, а таўшчэзныя раманы (грэшны ў іх сам, каюся) узносіць на шчыт. Якое трэба дзеля гэтага мець сумленне?!

Але суддзёю ўсяму — час. Адзіны суддзя, якога нам — баяцца, і адзіны, які мае права судзіць. Табе, Яне, ён не пагражае.

Улетку 1963 года мы паехалі па Слонімшчыне, Лідчыне і Навагрудчыне, і гэтая паездка асабліва зблізіла нас.

Спачатку — цягнікам да Баранавіч. Стаялі ля акна. Гаварылі і гаварылі. Пра Коласа — бо за шклом Стаўбцы, пра Багрыма — бо наводдаль быў Крошын. Увогуле пра лёс беларускіх паэтаў і пра кожнага з іх.

Пасля хадзілі па Баранавічах, і ён расказваў, які быў горад і акруга да трыццаць дзевятага года. І я, што заўсёды лічыў Баранавічы сумным горадам, раптам зразумеў: ва ўсяго ёсць свая гісторыя, калі табе расказвае пра яе абазнаны чалавек.

На плошчы сустрэліся мы з Валодзем Калеснікам, што чакаў нас там, і паехалі далей ягонай машынай. На Слонім.

Між дзівосных акруглых узгоркаў, між дрэў, што клубяцца на іх.

Былі скразныя гравюры закінутых мастоў і затравелыя дарогі, што вядуць невядома куды. Быў Слонім, роўны канал і крэмавыя старыя будынкі, ля муроў якіх, у закутках, раслі каравыя старажытныя каштаны.

У Слонімскім музеі ўразіла мяне адна рэч. Я тады пасаромеўся пра яе сказаць. А шкада, можа б, пасмяяліся.

Уразіла каменная галава язычаскага бога. Невядомы скульптар, высякаючы яе, відавочна, меў на ўвазе Янку. Аблічча было такое самае — моцнае і масіўнае.

Вачэй, што праўда, не хапала. Разумных чалавечых вачэй. Што зробіш, продкі таксама ўсяго не прадбачылі...

І толькі гэта ўнутранае падабенства дало мне тады шчаслівае адчуванне рэальнасці таго фантастычнага хараства, што буяла вакол. Аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў і адной з найпрыгажэйшых вёсак Беларусі — Кракоткі, і замкаў, і старых муроў.

Людзі ўсё стварылі. А людзі былі шмат у чым падобныя, і ў часы Перуна, і цяпер.

Валодзя збіраў па наваколлі матэрыял пра Валянціна Таўлая, а мы з Янкам проста паталялі ненажэрную прагу прыгажосці. Расказваюць пра патаемныя маёўкі ў лесе, а мы бачым сасняк і суніцы, чырвоную зямную кроў, разліў суніц. І нам усё жыццёва патрэбна: пясчаная Рудаўка, дзе нарадзіўся і жыў вялікага і цяжкага лёсу паэт, і вечна ціхая, зялёная

Зельва, месца, дзе жыве харошы чалавек і выдатная паэтэса Ларыса Геніюш.

Там было наша першае знаёмства з ёю. У старажытнай хаце з белымі, выступаючымі бэлькамі (на адной — крук ад даўно сатлелай калыскі). Кнігі, народныя посцілкі, вялікія беленыя пакоі, у якіх ад Янкі зрабілася цеснавата, нягледзячы на тое, што ён зусім не мядзведзь, а чалавек памяркоўна зграбны.

А ў цэнтры ўсяго мажная, прыгожая летняй прыгажосцю жанчына з чорнымі рукамі сялянкі і адухоўленымі вачыма высакалобага інтэлігента. І мы вакол яе. І спрэчка. Лютая. Ніколі не думаў, што тры спакойныя чалавекі могуць так. Пра літаратуру і мастацтва, пра дабро і зло, пра ўсё, аб чым толькі можна спрачацца на зямлі. А я глядзеў збоку і, шчыра сказаць, памоўчваў.

Не было мне справы да таго, што яны там так утрапёна дзеляць. Каб гэта іншыя — і я ўвязаўся б, ды так, што пер'е паляцела б і з мяне, і з іх. А тут я проста любіў іх траіх, і яны былі добрыя людзі, і гэта было самае важнае, а ўсё астатняе — ад лукавага.

Бясспрэчныя былі сцены з беленых брусоў і старадаўняя зеленаватая чарапіца даху, бясспрэчныя былі беларускія ліпы ў прысадзе і мова, кветкі і чэрвеньскі надвячорак, зямля і мужнасць, талент і сонца. Вось і ўсё.

...Блукалі ў палях дарогі і стаялі ў разліве жытніх палёў чорныя піраміды ядлоўцу-елянцу.

— Як манахі ў жыце стаяць...— сказаў Янка.

І гэта было бясспрэчна. Тым больш што повад для спрэчак ледзь не скончыўся назаўсёды, калі пад Мастамі, на беразе Нёмана, Валодзя ледзь не кульнуўся з яра ў ваду, разам з машынай, і загарлаў на дапамогу. Дзякуй богу, мы з Янкам падскочылі і магутнымі плячыма (калі скласці іх, а пасля падзяліць на двох) падпёрлі «Масквіча».

Шкада было маладога жыцця, разумнага, таленавітага вучонага, дый машыны таксама. Харошая машына! Калі аднойчы, зноў жа трох, ездзілі ў Белавежскую пушчу, то машына ў зелені выглядала чырвоным велікодным яечкам на блюдзе з дзеразой.

Дарэчы, калі зайшла ўжо размова пра пушчу і небяспеку, то варта расказаць і пра тое, як тады,

у Белавежы, ледзь не скончыліся нашы «брэнныя жызні». Шукалі мы тады, каб паглядзець зуброў на волі.

— Не знойдзеце.

— А што ж глядзець?

— Ідзіце — унь у загародцы тарпаны...

— Што ж, і на тым дзякуй.

Тарпанаў было два. Конікі. Мышасценькія, з грывамі, як шчоткі. Гладка-мясістыя. З няшчырай рахманасцю ў вачах. Хопіць гэтымі цацачнымі зубкамі за жывот ці наверне капыцікам — неба ў алмазах убачыш.

Загародка — гектары два. З тонкіх гарызантальных бярвенняў. Пасоўваючыся за тарпанамі паўздоўж яе, мінулі мы стогадовую кашлатую яліну-вываранень (карані з зямлёй трохметровым стаячым блінам закрывалі ад нас усё, што за імі)... і абамлелі.

У лічаных метрах ад нас пасвіўся, таранячы паветра метровай лабацінай, грузла папіраючы зямлю, велічэзны зубр. Горб велічынёю з капец Міцкевіча, барада размятае траву, вочы — чырвоныя вуглі.

І, на радасць нам, побач, трохі меншая за мужа, зубрыха з зубраняткам.

З дзіцем!

Хто як, а я адразу пачаў кеміць, куды б у выпадку чаго...

Зубры, на шчасце, павольна аддаляліся.

Я выйшаў з-за вываратня. Валодзя шчоўкнуў апаратам, «запечатлеў» момант: паэт, маўляў, на фоне...

Зубр пакасіўся на нас, але вырашыў пакінуць двухногіх без увагі. Хутка яны зніклі.

Янка пасля казаў нешта ў гэтым родзе:

— Адзін яшчэ нічога. Можна вакол елкі бегаць. А як яны цябе пачнуць двох вакол яе ганяць. Наверх скакаць — скінуць рагамі. Да тарпанаў,— чорт іх ведае, што яно... Дый агароджу зубру разнесці — глупства.

Я ўявіў, як зубр разносіць лабыром загон, як у гэты момант тарпан хапае кагосьці з нас за мяккія часткі — і нервова зарагатаў.

...А тады, над Нёманам, паабапал дарог, што заблукалі ў палях, цвіла чырвоная канюшына і густыя зарасці чагосьці залатога.

— Жоўтае купалле, што ўплятаюць у вянкі,— адказаў Янка маім думкам.

Час, калі яго ўплятуць у вянкі, быў блізкі. Было 21 чэрвеня.

Размовы тут, сярод палёў, былі такія і не такія, як, скажам, на пасяджэннях у Мінску. Там таксама сядзіш поруч, бо так цікавей: адна думка, дзве рэплікі або проста позірк, які разумее другі (калі, прыпусцім, дакладчык уляпіў у кропку ці чаўпе невылазнае глупства).

Але там гэта размовы крытыкаў, зычлівых і строгіх, размовы людзей з аднаго цэха. А тут гэта былі шырокія, часам бязладныя, але душэўныя бяседы людзей, што ствараюць частку гэтых ніў, душа якіх жыве ў галінах тысячагадовага дуба ў Бабрах, а памяць продкаў — у апошняй, нежылой ужо, курнай хаце ў Маламажэйкаве.

Разумееце, мне, вядома, прыемна, як сустракаюць гэтага чалавека людзі, асабліва дзеці, як яго пазнаюць на вуліцах. Мне радасна, што мы адзін у аднаго першыя чытачы і крытыкі, што я чытаў «Птушкі і гнёзды» задоўга да надрукавання і яшчэ тады сказаў сам сабе, што гэта дужа своеасаблівы і сучасны раман, магчыма, лепшы за апошнія дзесяцігоддзі.

Усё гэта, вядома, радуе мяне, бо гэта частка вобліку блізкага мне чалавека. Але толькі частка, а не ўвесь чалавек. Больш, чым ёю, я даражу ў гэтым чалавеку тым, што сустракаецца значна радзей. Гэта бездакорная пісьменніцкая і чалавечая сумленнасць. Тое, што вышэй за ўсё цэніцца. А калі цэніцца, то няхай і застаецца назаўсёды на радасць сябрам і ўсім іншым людзям.

І, урэшце, больш за ўсё каштоўнае асабіста для мяне. Тое, што ён харошы чалавек і харошы друг. Чалавек. Асоба.

Каб ён ніколі ў жыцці не напісаў і радка, мы ўсе, вядома, былі б у тысячу разоў бяднейшыя. Але, думаю, што і тады кожны, з кім звёў бы яго лёс, адчуў бы і розум, і сумленне, і высокую даравітасць гэтага чалавека, і зрабіўся б яго другам...

...А тады, у тое падарожжа, зарадзілася яшчэ і тое, без чаго цяпер рэдка абыходзіцца кожная хоць трохі доўгая наша сустрэча. Гэта песні. У яго добры

голас, і разам мы ствараем не такі ўжо кепскі дуэт.

Ехалі. Спявалі старажытныя рамансы, беларускія, польскія, украінскія, рускія песні.

Скажу толькі, што любаваўся я тады не толькі Наваградскім замкам, капцом Міцкевіча і Свіцяззю. Любаваўся яшчэ і ненасытнай чалавечай прагнасцю, з якой глядзеў на ўсё гэта, сто разоў бачанае ім, Янка. Нібы піў прыгажосць.

Прыгажосць поўнай з коптарам Свіцязі, з якой мы, седзячы ў чоўне, цягалі пярэстых, шурпатых акунёў, і прыгажосць паліванага збана з бярозавікам на ганку леснічоўкі, і прыгажосць лепшага ў свеце краявіду з Замкавай гары, калі наводдаль шырацца дрэвы — кожнае пад неба галавой.

І прыгажосць запусцення ў Варончанскім касцёле, і прыгажосць могілак наводдаль ад яго.

І мармуровай дзяўчыны на помніку ў нетрах дрэў.

Прыгожыя дзяўчаты жылі калісь у нашых вёсках і фальварках. І, на жаль, часам рана паміралі. Як гэтая.

Мне здавалася, што ён шкадуе аб ранняй смерці гэтай невядомай нам і, аднак, блізкай Фларыяны Ліпніцкай. Блізкай, бо сэрцу чалавечаму заўсёды блізкая прыгажосць.

А вакол стаялі таполі з аліўкава-зялёнымі, апырсканымі золатам ствsituation ствaламі, кучaравіліся хмызы і сумна канала на захадзе аранжавае сонца.

Гівал дзьмуў у дудку з вадой.

Гівал спяваў.

І тут яшчэ ўзмацнела ва мне адчуванне, што гэты чалавек — паэт, хаця я і не чытаў ніводнага ягонага верша. Паэт, які не можа быць іншым, якому блізкія ўсе гэтыя мясціны, бо невядома, ці ён вырас з іх, ці яны выраслі з яго душы. Блізкая сваёй бязмежнай тужлівай журбой ліпавая альтанка Марылі ў Туганавічах, месца, дзе было растаптана сэрца вялікага паэта (а можа, тваё ўласнае?). Блізкі гэты дуб з вялікім дуплом, у якім можна залезці і высунуць стуль галаву, бо ты ў гэты момант хлопчык, лясны дух, лясун, усё на свеце.

Дарэчы, пра дуб. Мы параіліся, і Янка напісаў ліст у камітэт па ахове прыроды:

«Дрэву шэсцьсот год. Звязана з імем Міцкевіча. Трэба ратаваць».

Адказ прыйшоў недзе праз месяц:

«Ва ўрочышчы ля Варончы сапраўды ёсць дуб, і ў ім сапраўды ёсць дзірка».

На чым і дзякуй.

Чамусьці больш за ўсё запомніў я падарожжы з ім. Розныя. Але заўсёды такія, дзе мы ўсё з большай глыбінёй пачыналі ведаць адзін аднаго.

Спасцігаеш друга лепш за ўсё ў месцы, дзе ён нарадзіўся, або там, дзе нарадзіўся ягоны талент.

Пра Янкава Загор'е я раскажу ў канцы, а зараз пастараюся расказаць, як мы ехалі трох па маім Прыдняпроўі і па Ушаччыне, дзе нарадзіўся Рыгор Барадулін.

Зноў стаяла цеплыня. Быў май 1965 года. На берагах Дняпра, на замчышчах, якім дзевяцьсот — тысячу — дзве тысячы чатырыста год, шумела між чарапкоў сівая трава. На котлішчах панскіх маёнткаў цвіла шыпшына, якая вырадзілася з руж, і ўсяўладны персідскі бэз. Над Рагачовам, над зялёнымі хмарамі Кісцянёўскага парку, над хутарам Крыцкага (хацеў бы я, каб мяне там калісьці закапалі, а да таго хацеў бы, як найчасцей, бываць там) цягнуліся і звінелі веснія, празрыстыя аблокі.

Шапацелі здзічэлыя яблыні. Марылі аб мінулым чорныя дубы на дне і ў берагах. Гэта была прыгажосць, неаддзельная ад лёгкага адцення тугі, бо гэта была мая радзіма, мая купель і курган маіх продкаў, і я дужа хацеў, каб яна стала роднай і хлопцам — уся, ад Прарова да Кісцянёўскіх круч.

Рэўнасць да родных мясцін дужа глыбока жыве ў нас. Але, мне здаецца, я дамогся свайго.

...Леснічоўка Лімень пад Чэрыкавым. Там жывуць у «старыках», у даўніх рэчышчах залатыя, як старое золата царкоўных купалоў, ліні велічынёй з блюда. Там бабровыя хаты, на якія гаспадары нагрувасцілі ламачча, каб лось не лез на страху ды не праваліў яе.

Янка ўсходзіў на гэтыя купы. І дарэмна, бо важыць ён, нягледзячы на магутны рост, усё ж менш за лася.

Але затое, калі ён зрабіў гэта, ад берага пацягнуўся за бліжні мыс серабрысты след: бурбалкі паветра.

Гаспадар ратаваўся. А раптам істота з'явілася крыўдзіць.

Дарма, бабёр! Няздатны ён на гэта.

Янка расказваў мне, як калісьці ў Загор'і злавілі бабра. Усе пабеглі глядзець. Той стаяў у дзежцы з вадой, успёршыся лапамі на край, і плакаў, сапраўды, «як бабёр».

Разумееш, бабёр, у самым гэтым апавяданні была тая неабходная ўвага да ўсяго жывога, якая і ёсць — сутнасць сапраўднага чалавека на зямлі.

Так што не бойся. Пасёрбае ён тут з намі юшкі, пап'е бярозавіку з чорнай парэчкай, смачнага, рэзкага, аж да біцця ў нос, дый паедзе на Крычаў, а далей на маю Оршу, а пасля пагоніцца за намі дождж і адстане толькі ля Полацка, а там, у гасцініцы, мы «знойдзем» у шафе бутэльку каньяку і ўсё іншае, ды будзем раніцай стаяць ля Сафіі, і гэты, вялізны, будзе гладзіць далонню старажытную плінфу муроў. Яму патрэбна Грышкава радзіма. Як і мне. Акварэльна-сіняя ад неба, адбітага ў сотнях азёр, шызазялёная ад бароў, жоўтая ад пяску. І патрэбна вогнішча на беразеВаўчэнскага возера, апетага Рыгорам, і празрыстая, хуткая, як з гор, рэчка Задобрыца, і ўсе іншыя азёры, цяпер і твае. А назвы іх, як песні: Дземянец, Грамніцкае, Вечалле, Доўжыца.

...Студня на месцы, дзе стаяла Верасоўка, хутар Рыгоравых бацькоў. Там цяпер толькі студня ды старая дзічка.

Котлішчы на месцы нашых радзінных хат.

...Вечарам таго ўшацкага дня была бяседа з летнімі кабетамі, сяброўкамі Рыгоравай маці. Бяседа ў сціплай, скупа асветленай шчодрай хаце, за вокнамі якой шумеў начны вяз. Мудрая бяседа за кубкам брагі пад ушацкія песні, то грубавата-язычаскія, то шчымліва-лірычныя. Голас Янкаў напаўняў хату.

А пасля, як гжэчныя кавалеры, мы пайшлі праводзіць гэтых пажылых партызанак. І ўжо як пайшлі яны вакол нас з язычаскімі «богабрыдкімі» прыпеўкамі — завіравала зямля.

Было гэта пачуццё радзімы, роднай зямлі, народа. Таго, які тут непадалёк, у Жарах, не скарыўся Напалеону і ўвогуле нікому.

...У тое, самае першае наша падарожжа я ўвесь час чакаў, калі з'явіцца перад намі Загор'е. Яно было мне патрэбна дзеля канчатковага разумення таго чалавека, што сядзеў поруч.

Яно з'явілася. Перш за ўсё слуп ля дарогі. Нашча-

дак таго самага слупа, у якога адзін Янкаў аднавясковец, будучы ў падпіцці і не ведаючы, дзе ён, пытаў, са слязьмі і чамусьці «па-польску»:

— Скажыць, чы тутай ест весь Загужэ?

Мы ў слупа не пыталіся, а проста павярнулі ды паехалі раўнінай, злёгку ўзгорыстай, хлебароднай зямлёй, на якой і ляжала сяло.

Летам сярод палёў. Узімку, мабыць, дранцвеючае ў снягах. Але заўсёды сярод шырыні.

Была новая хата ў цяністым, разложыстым садзе, а ля яе — падмурак старой. Той, што ў многіх і многіх кнігах. А ўбаку, на ўзгорку над рэчкай і над неабсяжным зялёным абшарам, ляжалі вясковыя могілкі, на якіх ружавела шыпшына.

Спіць ідылічная драўляная каплічка, сонна марыць дзікая ружа, спяць тыя, што адпрацавалі свой век, стваральнікі і падаўцы хлеба, пяніцелі зямлі, самыя важлівыя, самыя добрыя і патрэбныя людзі на ёй.

А над усім гэтым — неба.

Я зразумеў. Вось тут. Пад гэтым абшарам. На гэтым абшары. Сярод хлебародных, добрых ніў.

...Вось стаіць новая, шырокая хата. Раней была старая, апісаная ім. А яшчэ раней — на памяці прапрадзедаў — стаяла, можа, такая, як у Маламажэйкаве.

І ў вечнай, няўхільнай пераемнасці пакаленняў жылі ў гэтых хатах — тысячу год таму, пяцьсот, дзвесце, сто, цяпер — жылі продкі. Людзі. Яны вечна ўраблялі зямлю, самі не былі без хлеба і давалі жыць іншым. І вечна вакол быў абшар, а продкі, адпрацаваўшы, адрабіўшы сваё, мірна спалі пад курганамі, на якіх, як суцяшэнне, цвіла шыпшына.

З цёмных старадаўніх хат выбіліся на святло, як парастак з зямлі, насупор нягодам, бурам, сухавеям, тысячам навалаў.

Узраслі.

І за гэта дзякуй табе, беларускі народ. За дабрыню, за таленавітасць, за ўсеўладную сілу, з якой агорваў і агораеш самую страшную бяду.

Народ аратаяў, работнікаў, вечных працаўнікоў.

І ты, дружа, у якім, нягледзячы на высакалобасць, столькі ўсё ж сялянскага, абшарнага, аратайскага — частка гэтага люду.

Лепшыя з нас менавіта гэткія. І таму хопіць цябе яшчэ на век з беларускім гакам.

Бо вакол твая і мая зямля, зямля сяброў і людзей, наша зямля.

Калі прыйдзе мой час — я пайду з яе спакойна, бо я любіў і мяне любілі, бо я меў цябе, родны абшар, меў сяброў,— і сярод іх таго сябра, пра якога я сказаў вам некалькі слоў.

## ШЛЯХІ Ў ПАЛЯХ

Дзіўная і дужа дваістая гэта справа: пісаць аб жывым, поўным сіл чалавеку, якому яшчэ крочыць і крочыць, думаць і думаць, працаваць і працаваць.

З аднаго боку, гэта цяжка: не маеш права казаць пра многае (вакол жывыя ўдзельнікі), не маеш права «абагульняць», пускацца ў асаблівыя разважанні. З другога боку — лёгка: не падвядзе памяць, заўсёды можна праверыць дату і факт.

Ёсць у гэтым жанры свае слабіны: зноў жа аб многім не скажаш.

Але ёсць ва ўсіх такіх «успамінах», «добрых словах» і адна высокая вартасць, якая перамагае ўсё. У іх нельга сказаць няпраўду.

Пры ўсёй непазбежнай вузкасці погляду, пры адсутнасці дыстанцыі — той выпадак, калі чалавек піша пра свайго сябра, якому ён можа кожную хвіліну пазваніць па тэлефоне, а то і проста ўзяць рэчы на плечы і паехаць да яго, мае адну неацэнную якасць: дакладнасць, пэўнасць.

Мне хочацца, каб менавіта гэтую якасць мела мае слова, гэтыя штрыхі партрэта майго сябра Уладзіміра Калесніка, аднаго з таленавітых сучасных нашых крытыкаў, чалавека, шлях якога не ружамі быў усыпаны і які на гэтым шляху не страціў аніводнай з высокіх чалавечых вартасцей.

Не стану разбіраць яго кніг: гэта тэма для асобнага артыкула, і пра гэта лепей скажуць калегі і час. Для мяне ён тут важлівы перш за ўсё як чалавек, з якім мы змералі шмат палявых дарог, перадумалі разам шмат думак, абгаварылі шмат важлівых

праблем. Уладзімір Калеснік для мяне — адзін з лепшых людзей, з якім даводзілася сустракацца на гэтых мяккіх палявых дарогах, што ныраюць між узгоркаў, парослых канюшынай і жытам.

Пазнаёміліся мы з ім у канцы 50-х гадоў. Пачалося, па-мойму, з размовы аб маёй «Партызанскай баладзе», якая яму спадабалася. Але мне хацелася б пачаць не з першай сустрэчы і не з вершаў пра «партызанку», а з некаторых жывых людзей.

У 1966 годзе Я. Брыль, Р. Барадулін і я калясілі па Налібоцкім пушчанскім наваколлі. Начавалі ў калгасе «Зара» ў харошага чалавека Пятра Майсеевіча Шчарбакова, а пасля ўзялі з сабой Паўла Арсенавіча Жалезняковіча і паехалі па ўсёй гэтай зямлі, дзе асколкаў і гільзаў ледзь не болей, чым камянёў.

І вось урэшце вывела нас шэрая змяя дарогі да сіняга Нёмана і да зялёнай вёскі над ім, дужа зялёнай, імя якой Сіняўская Слабада. Дагэтуль мы і пасмейваліся, і проста жартавалі, і кепікі строілі (я, пішучы ў той час «Каласы...», «заразіўся» зваротам «панове» і ніяк не мог ад яго адстаць, а мае спадарожнікі пакеплівалі: «Мы тут за слова «таварышы» змагаліся, а ён — «панове-панове»).

Дык вось, калі да гэтага пасмейваліся, то тут змоўклі. Таму што ўбачылі Сіняўскія партызанскія могілкі. Гэта трэба бачыць самому і маўчаць. А крыху вышэй іх, па схіле — вясковая школка, перавезеная сюды з пушчы, дзе яна служыла рэдакцыяй і друкарняй пяцём партызанскім брыгадам... А яшчэ вышэй — могілкі вясковыя, усе ў шумлівых шатах векавых хвояў.

І там, на могілках, сівая ад старасці — ля камля, мядзяная, як жар — увышыні сасна з вялізнай расчохранай буслянкай. А пад сасной — магіла. І на помніку барэльеф чалавека з простым строгім тварам. І два словы: «Андрэй Калеснік».

Барэльеф гэты адліў на бацькаву магілу сын. Валодзеваму характару гэта ўвогуле ўласціва: разнастайная, шматгранная артыстычнасць. І навука, і проста мастацтва, і, урэшце, не абы-якое мастацтва фота. Мне рэдка даводзілася бачыць лепшыя фатаграфіі, чым, скажам, ягоныя «Партызанская маці» або «Палюбоўніца грому». На першай стаіць на

пожні, «падперазаўшыся» сярпом, жанчына. Рукі — як сасновая кара. Вочы бачылі ўсё (і-ох, як многа страшнага!). На другой — каравае дрэва, наскрозь пашчапанае, прабітае перуном, усё ў дыме. І наводдаль адступаюць хмары.

Бацька Валодзеў памёр за чатыры гады да таго, як мы наведалі тую магілу. А быў піцерскі рабочы, а пасля плытагон. І ў вайну, у страшную блакаду 43-га года, выратаваў брыгаду, завёўшы яе ў такія сівыя нетры, што немцы не здолелі сунуцца і не знайшлі людзей.

П. А. Жалезняковіч глядзеў і ўспамінаў. Яму, камісару, не раз даводзілася выступаць на могілках. Кожнага ведаў, кожнага помніў у твар. І жывога і, пасля, мёртвага.

І вось мы сядзелі і ўспаміналі спачатку бацьку, пасля сына. І разважалі, што помнікі трэба ставіць не толькі тым, хто трапна страляў, а і тым, хто ладна і ў час умеў выратаваць. Тым больш — такое вялікае мноства людзей.

А я яшчэ думаў, што помнік гэтаму чалавеку ўсё ж пастаўлены. Літаратурны. Аповесць «На Быстранцы», дзе ён — дзед, спісаны з натуры, жыўцом.

Пасля гэтага нашага малога падарожжа я і пачаў крыху іначай глядзець на Валодзю. Адбыўся як бы некаторы пералом у маіх поглядах на яго. Што я ведаў раней? Ведаў аб ягонай «партызанцы», ведаў, чаго яна яму каштавала (урэшце, лепей за ўсё сказаў пра гэта ён сам), ведаў аб дужа цяжкай і дужа плённай працы ягонай у Брэсцкім педінстытуце, чытаў ягоныя кнігі, лавіў з ім рыбу...

А тут прыйшло разуменне асяроддзя, у якім чалавек нарадзіўся і вырас. Я ўбачыў «на свае вочы» пейзажы, на якія з дзяцінства глядзелі вочы ягоныя. Я знаёміўся, я размаўляў з людзьмі, з якімі рос, размаўляў, спрачаўся і мірыўся ён. Бачыў і тую пушчу, і тую малую белую каплічку, ля якой ён рабіў засаду на паліцаяў. Бачыў, урэшце, хату ў Крынках і магілу. Тую, дзе адліты ім барэльеф.

Прыйшло разуменне чалавека знутры, калі ты ведаеш і любіш ягоны свет. І тады, на гэтым выпадку, я разумеў, што пісьменнік, калі ён пісьменнік, нават калі ён і вывучыў усе дакументы, не можа напісаць — ну, скажам, пра Каліноўскага, калі не пабываў у

ціхай зялёнай Свіслачы і ў пецярбургскіх змрочных кутах часоў Дастаеўскага, і на полі бою пад Мілавідамі, і ў шэрых Святаянскіх мурах, і ў Дамініканскай турме, і, урэшце, на Лукішках.

Хай там мала чаго асталося з тых часоў — само паветра мясцін падкажа табе найбольшае, якое магчыма між людзей, разуменне чужой душы, яе парываў і патаемных думак, яе гісторыі.

Цяпер я ведаю, што ёсць у майго сябра рысы характару бацькі і навакольных людзей. І нервовасць, і ўпартасць, і цвёрдасць чалавека, які не адступіць і не саступіць. І гэтая бацькава страсць да незалежнасці. І адначасова залежнасць ад вялікага свету паэзіі, да якога ён належыць не толькі душою, але і ўсім існаваннем сваім.

З чаго нараджаецца сімпатыя? Можна назваць не адзін выпадак, калі за некалькі дзён сімпатыя можа перарасці ў моцнае сяброўства. Я не кажу пра выпрабаванні, вайну, выпадкі незвычайнай, дужа вялікай і ахвярнай узаемадапамогі. Я кажу пра звычайнае, будзённае жыццё.

Такі выпадак — падарожжа з бясконцай зменай уражанняў і павышаная ўразлівасцю асоб, што прымаюць у ім удзел, з поўнай іхняй свабодай ад абавязкаў, акрамя абавязкаў самога падарожжа.

У мяне такіх падарожжаў з Валодзем Калеснікам было шмат, і я шкадую толькі, што не ўдзельнічаў тады ў іхнім з Янкам Брылём падарожжы на веласіпедах.

Валодзя выключна фатаграфаваў ужо і тады. Часам я перабіраю гэтыя здымкі; як жывыя, мы зноў сядзім з ім на концы Міцкевіча і прадзіраемся праз джунглі Варанчанскіх могілак, каб адшукаць помнік белага мармуру — «самай прыгожай дзяўчыне наваколля»; і разам залазім у гмах васьмісотгадовага дуба пад Варончай, у чорны выпалены «пакой» у ім.

Мы ў Малой Кракотцы, у сябра-настаўніка, дужа добрага чалавека. Малая Кракотка — адна з найпрыгажэйшых вёсак, што мне давялося бачыць за ўсё жыццё.

...Тэраса з завесамі зяляніны. Шаты дрэў. Ну і гасціннасць. І, вядома ж, амлет. У нас, у Прыдняпроўі, на такую цвёрдую сялянскую яечню кажуць:

«Як лапаць. Можна на сук павесіць, і будзе вісець». Гэта мы лынды б'ём. А Валодзя працуе. І тут працуе. Збірае матэрыялы. І настаўнік наш патрэбен зараз яму як аднакласнік яго героя.

І мы ідзём у лес, настолькі густа засеяны суніцамі, што зялёнага менш за чырвонае. Тут кракоцкія сяляне збіраліся на маёўкі «за польскім часам». І настаўнік расказвае, а «пану Каленіку» не да суніц, бо ўвесь час бегае па старонках блакнота ягонае пяро.

Так дзень за днём. І так, якраз тады, стваралася цудоўная кніга пра Валянціна Таўлая.

...А вось Андрэевіч, не дужа яшчэ ўмеючы круціць баранку, ледзь не зваліўся з яра ў Нёман, і мы падпіраем машыну, і ногі нашы слізгаюць на цудоўным, высокім разнатраўі нёманскага поплаву. І мы ледзь не налажылі ў той Нёман галавой, а пасля стаім, збялелыя, і тупа лаем невядома каго і што.

Ці едзем у Белавежу з харошым хлопцам, настаўнікам з прыпушчанскай вёскі. Яшчэ халаднавата, і на мне пазычаная ў Валодзі безрукаўка. У памяці і Камянецкая вежа, і абшар з яе вышыні, і тое, як нечакана, выйшаўшы з-за вываратня, наляцелі на мілае відовішча — зубрыную сямейку за тры крокі ад нас. І ўцякаць няма куды.

...Рэзкі бярозавік у леснічоўцы на Свіцязі. Мы з Уладзімірам Калеснікам сядзім у чоўне паміж небам і зямлёй, і нязменны яго шэры берэт ссунуты на самую патыліцу. І маўчым, і добра нам, як ніколі, бо мы ўсё разумеем у сабе і адзін у адным, а вуды нашы перакрэсліваюць захад.

Або як ездзілі ў 1968 годзе па вёсках Брэсцкага і Пружанскага раёнаў. У Дзмітровічы, у Харава, дзе чыталі вершы, дзе паднеслі нам дзеці каравай «на волата» — зараз і партызанскай ротай не з'ясі...

А рыба на Лясной. Ён і дагэтуль не ведае, што гэта не я, наступіўшы, зламаў тады яму цудоўнае вудзільна. Мусіў згадзіцца, што гэта я, бо на сябра асабліва крычаць не будзеш.

Я люблю бываць і досыць часта бываю ў яго хаце. І, вядома ж, у Брэсцкім інстытуце, дзе ён заваяваў агульную любоў студэнтаў. Рэдка мне даводзілася бачыць так добра абладнаны кабінет беларускай мовы і літаратуры. Хай небагата, але з цеплынёй, веданнем справы і любоўю да яе, з уніклівасцю вучо-

нага і азартам паэта, з усім: ад частых пісьменніцкіх выступленняў да магнітафонных запісаў.

...Зноў дом, і гарачыя спрэчкі, і размовы аб кнігах, раптоўны рогат, калі ўспомнілі, як сядзела на каменнай агароджы інстытута малпа (уцякла з інстытуцкага звярынца) і дражніла служачага, што хацеў яе ўзяць, і натоўп разявак, якія не бачылі такой звычайнай істоты, такой з'явы, як малпа на брэсцкім плоце.

...Ну вось. Усё тут атрымалася ўрыўкамі. Урэшце, як і ўсё жыццё. Але ж гэта не крытычны артыкул. Я наношу на паперу штрыхі, ствараючы накід партрэта. Партрэта, які нехта калісь вылепіць ці напіша куды больш спакойна, куды больш выгаблевана, чым я.

...І яшчэ адзін успамін. Чэрвень 1971 года. Зноў сцелецца пад колы дарога. Едзем. Янкам і Валодзем ужо зроблены выключны (на жаль, кепскавата зроблены паліграфічна) альбом пра мясціны Міцкевіча. Але яны, па-мойму, яшчэ не прыступалі да чарговай сваёй агульнай работы: з магнітафонам, блакнотам і фотаапаратам аб'ездзіць спаленыя ў вайну вёскі. Каб на старонках былі нявыдуманыя апавяданні, непрыхарошаныя аблічча, каб з пласцінак гучалі са слязьмі і з гневам галасы дзівам уцалелых людзей. Што ж, калі гэта будзе створана — гэта і будзе тое, што называецца служэннем айчыне і ісціне.

Тады была апошняя наша сустрэча з Паўлам Арсенавічам Жалезняковічам. Ён памёр на кастрычніцкія святы таго ж года. Сядзелі ў садзе. Велізныя яблыні распасціраліся шырока, раскошна і цяніста. На іх была ўжо завязь.

Дужа хворы, спрацаваны чалавек сядзеў на лаве, склаўшы маршчакаватыя рукі. Гаварылі. Я і тут бачыў, што галава Валодзева працуе. Запамінае. Такі ўжо грунт яго адносін з людзьмі. Таму што, у сваю чаргу, без памяці аб былой барацьбе, былых здзяйсненнях, былых няшчасцях не можа быць дабрыні да людзей.

На гэты раз запісваў і я. Пра ўдзел у КПЗБ хлопцаў-украінцаў. Шкада, што Павел Арсенавіч не ўбачыць гэтых старонак мае кнігі для Украіны пра Беларусь.

Я неяк зусім па-іншаму, не так, як раней, глянуў

на вёску, куды мы прыехалі нейкай, можа, гадзінай пазней. Крынкі Карэліцкага раёна.

Сіняўку тры разы палілі немцы. Бацьку Валодзевага пасля вайны перавялі загадчыкам вадзянога млына — за дваццаць ад Сіняўкі кіламетраў — сюды, у Крынкі. Тут і дагэтуль жыве Валодзева мачыха. Бацька дзесяць год як памёр, а яна з Валодзем дружыць. Сапраўды, сябры і родныя людзі.

Хата. Сакавітыя лопухі — сцісні, і пырсне сок. Над хатаю ў вялікім садзе волат-каштан.

Вакол узгоркі над Сервеччу. І ўсё мы з Жэнем Крымком, былым партызанам і выключным чалавекам, ідзём высока над звівамі Сервечы па ўрвішчах, і вакол далеч, якую рэдка бачыць свет, і Крымко ўгаворвае нас пасяліцца тут, у Беражне, вёсцы, якую як пашукаць, то і не знойдзеш.

А што?

Спалілі хату, вёску, пазбавілі роднага дома. Думалі, што не будзе куды прыйсці? Але адбудуецца новае гняздо, і заўсёды будзе куды з'явіцца нам на нашай зямлі.

Астануцца не адны ўспаміны аб старой хаце. Астанецца і другая, куды можна прыйсці як у сваю, калі захочацца прыпасці да зямлі або проста паляжаць на мурагу і падумаць. Нічога. Таптаць нам гэтыя шляхі ў полі яшчэ незлічоную колькасць год.

...Стаім над Сервеччу. Набліжаецца, насоўваецца навальніца. Грувасцяцца і клубяцца хмары, цяжка перавальваецца ў іх пярун.

...Стаім на зямлі, якая і Валодзю, і Янку, і іншым сябрам была і будзе вельмі дарагая.

## КНЯЗЬ І ГУСЛЯР

З першага слова павінен папярэдзіць — гэты чалавек не абыякавы мне. З даўняга часу нас з ім звязвае трывалае сяброўства. Мы не часта заходзім адзін да аднаго — хутчэй нават рэдка,— але досыць таго, што мы часта думаем адзін пра аднаго (я спадзяюся, што ён гэтую думку падтрымае).

Арлен Кашкурэвіч — яму імя. Сваёй працай ён заслужыў тое, каб імя гэтае ведалі.

Даўно, яшчэ з самага пачатку, калі ён зрабіў ілюстрацыі да Халдара Лакснеса — я зразумеў, што перад намі мастак суровы, паўночны. І аднačасова беларускі: мяккі,— калі можна гаварыць пра мяккасць нашага народа,— добры, наш.

Сёння мне трэба рэкамендаваць,— калі трэба рэкамендаваць работы, якія сведчаць самі за сябе,— дзве яго рэчы: ілюстрацыі да славутай паэмы вялікага нашага песняра — «Курган».

Перш чым узяцца за гэта, я хацеў бы пагаварыць пра лепшыя, на мой погляд, ягоныя графічныя работы. Я люблю ягоную «Більярдную».

І яшчэ адна работа, якую я ўбачыў нядаўна ў майстэрні: «Нотр-Дам. Дождж». Размытае, цёмнае, начное, нібы ўвесь змрок Сярэднявечча, усе Війёны і Гюго абурыліся яму на плечы, разам са зліваю і снегам. Храм — адно з лепшых стварэнняў чалавека.

Сорамна пісаць, што гэты чалавек некалькі разоў ілюстраваў мае кнігі? Анікольki! Таму што гэта той рэдкі выпадак, калі аўтар не жадае іншага дырыжора для сваёй музыкі. І шкадую я толькі аб тым, што нам мала давялося папрацаваць разам і нам няшмат выпадала працаваць разам.

Ясна, што і Алесь мой іншы і Выліваха крыху іншы (уяўленне кожнага чалавека дужа не падобнае і своеасаблівае), але яны максімальна прыбліжаныя да майго аблічча. І я адчуваю, што і сам аўтар увесь час жыве гэтым, думае, набліжаецца. І кожны быў бы ўсцешаны гэтым.

А цяпер — «Курган». Наіўны друк часоў маладога Янкі Купалы не мог нават і думаць аб тонкасці, яснасці, дакладнасці сучаснага друку. Вялікі паэт за сваім жыццём так і не дачакаўся ілюстратараў. Але, думаю, работы А. Кашкурэвіча задаволілі б яго. У іх ёсць рамантызм і ёсць праўда, прысутныя ў творчасці Я. Купалы.

Я не магу забыць вобраза, прысвечанага катоўням князя:

> Брацця мучацца там, табой кінуты ў гразь.
> Чэрві зажыва точаць іх цела...

Дантава пекла! Мноства звітых у адно людзей. І над імі кажаны — сярэдневяковы сімвал пакуты.

Той, якая, на жаль, сустракалася ў майданаках і якой не павінна быць.

Вось і гэтыя дзве ілюстрацыі. Хіба не бачыце вы тут закладзенага ў самім творы супрацьстаўлення! Гэтыя гранёныя латы, гэтая парча, гэты бязлітасна востры позірк. І гэтая вонкавая мяккасць чалавека, трапяткія рукі якога ляжаць на гуслях. Позірк сляпога. Не таму, што сляпы, а таму, што занадта відушчы.

І гэтая мяккасць мацней за гэтую ўдаваную сілу. І так яно будзе давеку.

## УЗЫХОД НА ВЯРШЫНІ

*(Трохі лірыкі аб мастаку)*

Мастаку Георгію Паплаўскаму прысуджана індыйская прэмія імя Джавахарлала Нэру. Ён адкрыў Індыю вачам беларускага гледача, а пасля «заваяваў» Індыю, сэрца Індыі сваімі рукамі, рукамі аднаго з найлепшых графікаў Беларусі (як пра аўтара карцін мы тут пра яго казаць не будзем).

Чаму так здарылася. Мне здаецца, не толькі таму, што ён талент і псіхолаг, што ён умее бачыць, а і таму, што рукам ягоным дапамагаюць ногі нястомнага падарожніка. Хаду гэтых ног адчувалі не толькі дарогі Беларусі, але і дарогі Кубы, Аўстраліі, Фінляндыі, шматлікіх іншых краін і вось, урэшце... Індыі.

Ён усё жыццё нібы шукаў сябе. Аджывалі пад яго рукой і ніколі ім не бачаныя людзі старажытнага Полацка, казачныя дзяўчынкі з мудрымі варонамі, умоўныя, але якія ж жывыя «Дзяды і бабы». І людзі Трасцянца, і партызанскія лагеры.

Ён дужа розны на гэтых шляхах. Часам гэта яму шкодзіла. Гэта розныя мастакі. Паплаўскі казачнік («Лясны бацька»), Паплаўскі марскі («Аснастка трала»), той, які «страшыць» («Варатар»), суровы ў ваенных рэчах («Брэст. 1941»), млявы («Чэрвень»), бязмежна гаротны і пагрозны (цыкл «Трасцянец»). Я нават сяк-так, з вялікаю нацяжкай, мог бы падшукаць аналогіі. І ўсё ж паўсюль ён — гэта ён.

А розны ён таму, што ўсё жыццё шукае і шукае, што, нягледзячы на свае сорак тры, ён расце. І будзе расці ўсё жыццё, колькі яму яго ні адпушчана. Таму што аднастайна акадэмічным яго ўвогуле ўявіць сабе цяжка.

І яшчэ Паплаўскі космасу. Не таго, які бачылі касманаўты, а таго і сённяшняга, і заўтрашняга, і космасу такога далёкага дня, што мы яго не можам уявіць, бо нават самае смелае ўяўленне будзе здавацца абстрактным. Пачынаючы ад «Ікара», які лунае, як перыйка пад чорным сонцам, над сучаснымі небаскробамі, ад труб Бюракана, нацэленых у неба,— і далей, і далей...

У 1971 годзе ногі занеслі Паплаўскага на пыльныя і бетонныя дарогі Індыі, да яе вялікіх гарадоў, малых гарадоў і вёсак. Пасля гэтай паездкі з'явілася шмат малюнкаў, літаграфій, афортаў і акварэляў. Гэта і быў «Індыйскі дзённік» мастака.

Каму ж, як не яму, было даць для ілюстравання старажытную (VI? ст. н. э.) кнігу табільскіх двухрадкоўяў, якія прыпісваюць Валювару, кнігу «Ціру-курал».

Вось яна. Ажно рукі лашчыць. І вочы. Сінявою і золатам вокладкі, бледна-бледна зеленаватым фонам ілюстрацый, плаўнасцю і акругласцю лініі, сапраўдным, непадробна-індыйскім каларытам таго, што стварыў мастак.

«Ува ўсёй сусветнай літаратуры наўрад ці можна адшукаць збор афарызмаў, роўны гэтаму па высокай мудрасці»,— сказаў Альберт Швейцэр. І сапраўды, гэта праведнасць, мудрасць, любоў.

Ці лёгка ілюстраваць такое? Дужа цяжка. Але мастак справіўся. Брахманы, гандляркі, танцоўшчыцы, жанчыны з ношаю, словам, усе дрэвы праведнасці, кобры мудрасці і паўліны кахання, уся шматаблічная Індыя.

Пачынаюцца індыйскія лісты. Сам Паплаўскі так сказаў пра іх: «Індыя не толькі сонца, не толькі фарбы, рытмы, песні. Індыя не толькі... мудрасць і воля, узвышанасць і мужнасць, мінулае і будучыня — вобраз Індыі, вобраз Зямлі і Чалавека, вобраз Пачуццяў і Веры вялікага народа. Мае работы — гэта роздум...»

Так, гэта роздум над Індыяй, над яе лёсам, пра-

блемамі, над яе мастацтвам, над яе людзьмі, над тым, што яе чакае.

Партрэты. Не кажу пра майстэрства. Але, мяркуючы па «Рою Чаўндхуры», падабенства незвычайнае, нягледзячы на бегласць. І якое вернае спасціжэнне душы.

Але партрэты не галоўнае. Галоўнае — аблічча Індыі. Грандыёзныя «Бан'яны», у ценю якіх дрэмлюць буйвалы («Пад сенню Бан'яна», «Бан'ян»), і адчуваеш, якое гэта дрэва зялёнае, якая настоеная стагоддзямі цень пад яго кронай. Вёскі, дзе хаты падобныя на грыбы ці на старыя вуллі-калоды. Пальмы, што як ні пераломяцца пад цяжарам кроны.

І народ Індыі. Шматпакутны, за тысячагоддзі намучаны, як, мабыць, ніхто іншы, але горды і таленавіты, працавіты і высакародны. А ў гэтым і зарука таго, што з прыходам новых часоў ён пабудуе Шчасце.

Адчувальны звон цыкад, гандляры гаршкамі і шарамі, рыбакі, вясковыя тачыльшчыкі, ганчары. Уся гэта мнагаязыкая, стракатая, бедная і багатая, шумлівая і працавітая, гандлёвая (божа, якая таўкучка і гамарня — так, гамарня, хаця яе і не чуеш — на «Чайным базары ў Мадрасе»!) і думаючая краіна перад намі. І людзі яе не толькі «Соль Бенгаліі». Яны — соль зямлі.

Індыя!

Яе «Горы багоў», яе «Дажджы», да якіх жанчыны цягнуць зграбныя ломкія рукі, яе «Рытмы» і фарбы, яе лініі і гукі.

Цудоўныя рэчы! Не кажу ўжо пра работы жывапісныя, такія, як «Палёт белай птушкі». Сярод іх трапляюцца рэчы сапраўды высокага класа.

Так што мастак Георгій Паплаўскі законна і сумленна заваяваў высокую сваю ўзнагароду. На гонар сабе і на радасць Беларусі.

І таму няхай ён і надалей — і як мага надалей — працуе на яе гонар.

Таму што ён не толькі многа зрабіў для гэтага. Ён яшчэ і наблізіў да нас легендарную Індыю. Індыю Паплаўскага.

А цяпер — нашу Індыю.

# КРЫТЫКА



## ЯКІМ ШЛЯХАМ ІСЦІ?

Дзве тэндэнцыі набіраюць зараз сілу ў сусветнай паэзіі.

Першая тэндэнцыя: адмовіцца ад рыфмы, якая быццам забівае ў вершах сэнс, і ад рытму, які нібыта з'яўляецца насіллем над словам.

Другая тэндэнцыя — тэндэнцыя шліфавання формы верша, давядзенне рыфмы і рытму да небывалай дасканаласці.

І хоць слых людскі больш звыклы да рыфмы і рытму, якія пануюць у нашай паэзіі,— сілы першай тэндэнцыі змяншаць нельга.

Нельга лічыць асноўныя кампаненты сучаснага верша спрадвечнымі. Паэзія старажытных Грэцыі і Рыма лічыла рыфму атрыбутам «варварскіх» вершаў, фальклор многіх народаў Каўказа ніколі не ведаў яе, і пісьмовая літаратура авараў, напрыклад, пайшла па дарозе сваёй народнай паэзіі. Усходнеславянскія быліны і думы, сербскія гайдуцкія песні таксама пазбаўлены рыфмы.

Лічыць рытм і рыфму вечнымі, нам здаецца, таксама нельга. Першая тэндэнцыя набывае сілу. Амаль адмовіліся ад рыфмы паэты Іспаніі, большасць паэтаў Грэцыі абапіраецца зараз у сваіх вершах толькі на няпэўны рытм. У Італіі забылі традыцыі Дантэ, там зараз бадай што толькі адзін-два сіцылійскія народныя паэты яшчэ карыстаюцца рыфмай. І так у большасці краін.

Сутыкненне дзвюх названых тэндэнцый — гэта не проста барацьба за разнастайнасць форм паэзіі. Гутарка фактычна ідзе аб тым, знікне сучасная форма

верша або адбудзецца далейшы росквіт яе. І нам, паэтам, трэба ўжо зараз звярнуць на гэта самую пільную ўвагу, стаць на абраны намі шлях і да канца змагацца на ім за сваю мэту.

Справа не ў тым, вядома, што ўсе паэты павінны трымацца рукамі і зубамі за сілаба-танічную сістэму і за рыфму. Калі нехта хоча размаўляць з чытачамі, выкарыстоўваючы іншыя формы паэзіі,— калі ласка.

Хай у нашай сучаснай беларускай і агульнасавецкай паэзіі будуць уітмены, якія цярпець не маглі рыфмы, і маякоўскія, якія шліфавалі яе, як алмаз. Кідаць за гэта ў аднаго з іх каменнямі зможа хіба толькі артадаксальны дурань, і першыя вершы прыкметна здольнага маладога паэта А. Наўроцкага, напрыклад, нічым не горшыя за вершы (возьмем таксама кагосьці з маладых) Ю. Свіркі, хоць падыход да формы ў іх дыяметральна процілеглы.

Справа не ў гэтым. Мяне асабліва хвалюе, як будзе напісана большасць твораў нашай паэзіі, якім будзе яе твар. І калі пры гэтай большасці (сярод якой таксама будуць розныя індывідуальнасці) у нас будзе яшчэ шмат розных паэтаў — наша паэзія яшчэ больш узбагаціцца. Мы даўно выраслі з сялянскіх пялёнак. Калі пра беларускую паэзію кажуць, што чытаць яе — гэта «як басанож па расе прайсціся» — мы павінны крыўдзіцца. Чытаючы лепшыя творы беларускай паэзіі, адчуваеш нешта большае, чым «прайсці па расе». Мы адчулі ўжо добра сваю сталасць. У нас ёсць розныя вершы: песенныя і баладныя, народныя і філасофскія, наіўныя і, хай выбачаюць рэдактары, кніжныя.

І менавіта таму мы ўжо зараз павінны выбраць, па якой дарозе пойдзе наша паэзія: адмовіцца яна, у большасці сваіх галасоў, ад жорсткіх канонаў памеру і складанай рыфмы або будзе далей удасканальваць іх.

Ці з'яўляецца наватарствам тое, што прапануюць нам прыхільнікі першай тэндэнцыі? Так, з'яўляецца, калі гэта прапануе нам просты і сімпатычны нам талент такога паэта, як Парніс, бо гэты паэт змагаецца за высакароднасць чалавечай душы, за гуманізм і не забаўляецца занадта словам, зберагаючы рытм. Не, не з'яўляецца, калі гэта прапануюць нам сучасныя

«дадаісты», у якіх слова з'яўляецца «самавітым», а сучасная форма — «састарэласцю».

Слухаючы разважанні гэтых прыхільнікаў першай тэндэнцыі, ніяк не можаш адкаснуцца ад думкі, што ўсё гэта аднекуль знаёма табе. І нарэшце здагадваешся: «Ды гэта ж яны амаль слова ў слова паўтараюць разважанні нашых колішніх ОПОЯЗаўцаў, гавораць словамі Тынянава, хоць сам ён яшчэ ў трыццатых гадах адмовіўся ад сваёй тэорыі «агалення формы». І яны, мала здатныя на тое, каб прыдумаць нешта свежае, сваё, паўтараюць нашы зады.

Мы ведаем, што выклікае да жыцця тэорыі, якія аддаюць перавагу слову над думкай і стылем. З часам знікаюць старыя формы, нараджаюцца новыя. З'яўляюцца паэты, якія гуляюць словам, прымушаюць яго стаяць на галаве. Гэта заканамерна і нават карысна, але мы ведаем, бо перажылі гэта, што сам па сабе гэты час не дае пладоў. Паэты наступнага пакалення бяруць з дасягненняў гэтай эпохі толькі найбольш прыдатныя для сябе формы, магчыма — некаторыя кампаненты стылю і карыстаюцца імі, арганічна спалучаючы з усім гэтым сваю думку і сваю філасофію.

Так дэкаданс узбагаціў верш, якім карыстаемся зараз мы. Грэчаскія, італьянскія, а за апошні час і польскія часопісы поўныя разважанняў аб тым, што наша сістэма верша «аўтаматызавалася», што рытмы састарэлі, што рыфма аджыла свой век, што парадак слоў у сказе зусім не супадае з рытмам радка і што таму нам трэба адмовіцца ад усяго гэтага, перайсці да вольных вершаў, а там і зусім сцерці мяжу паміж вольным вершам і прозай. Ці так гэта?

Мне, як чалавеку з нетэарэтычным складам думкі, хацелася б, у адказ на гэта, проста прывесці ўрывак з верша М. Танка:

Самафракійская Ніка лёт на хвіліну спыніла,
Пра перамогу прынёсшы звестку ў Эладу сваю.
Радасцю дыхаюць грудзі,
высака ўзвіхраны крылы.
Ледзь я знаёмую постаць, рысы яе пазнаю.
Праўда, калі з ёю стрэўся,
ў наступ рашучы ішлі мы
Па здратаваных прасторах і па шляхах франтавых.
Іншай яна выглядала ў хмарах і пылу і дыму,
У шынялі і ў пілотцы, у кірзавых ботах цяжкіх...

Тут «аўтаматызаваная» сістэма верша, якой пісалі і тры тысячы год таму, тут, як бачыце, парадак слоў зусім аж не супадае з рытмам (вельмі «традыцыйным», нават з цэзурай пасля восьмага складу), і ўсё ж гэта, на мой погляд, паэзія.

Магчыма, такі метад спрэчкі некаторыя крытыкі і літаратуразнаўцы палічаць заганным, паўзучым і хто ведае яшчэ якім. Таму паспрабуем падысці з іншага боку.

Натуральна, што вершы перш за ўсё павінны гучаць. Яны — пераходная ступень да музыкі. Натуральна таксама, што з даўніх часоў змагаюцца між сабой дзве тэндэнцыі чытання вершаў: 1) акцёрская (на сцэне) — ОПОЯЗаўцы калісь называлі яе фразуючай — і 2) паэтычная (напеўная, па рытме) — яе называлі тактуючай.

Якая з іх лепшая? Кажуць, што паэты дрэнна чытаюць свае вершы, і мала хто ведае, што многія акцёры ім зайздросцяць, што наогул рассяканне радка на сэнсавыя адрэзкі, асабліва пры павялічаных паўзах,— глупства, бо гэта ўжо не верш. Калі нават мы толькі размесцім словы, не прытрымліваючыся вершаваных радкоў,— і то чытаць гэта будзе вельмі цяжка. Такую спробу зрабіў калісьці Жукоўскі, і вось што ў яго атрымалася:

Могучий царь по имени Демьян
Данилович. Он царствовал
премудро,
И было у него три сына: Клим
Царевич, Петр Царевич и Иван
Царевич. Да еще был у него
Прекрасный сад, и чудная росла
В саду том яблоня; все золотые
Родились яблоки на ней. Но
вдруг... і г. д.

Мне здаецца, ніхто больш не спакусіўся на такія спробы.

Тут рашэнне, як часта бывае, пасярэдзіне між музыкай і сэнсам. І тое і другое яснае толькі ў іх адзінстве. Барацьбы гукавога і сэнсавага фактараў не павінна быць, і ўзмацняць гукавы фактар за кошт яснасці належыць толькі тады, калі мы вельмі добра ведаем, пра што ідзе гутарка ў вершы, калі мы можам абмежавацца намёкамі на ўсім вядомы прадмет. Так, для чалавека, які нічога не ведае аб паўстанні дзека-

брыстаў, верш М. Асеева «Сінія гусары» з яго наўмыснымі гукавымі спалучэннямі, намёкамі, неперайманьнымі алітэрацыямі — здаецца незразумелым. А калі мы ведаем аб прадмеце верша, нам стане зразумелы настрой гэтых людзей, ліхаманкавыя спрэчкі аб царазабойстве, аб радзіме за чаркай віна, ляск капытоў па Ліцейнаму, вочы, якія з-пад ківераў пагражалі палацам. І ўсё гэта пад звон гітары, які паступова пераходзіць ад мажора да мінора.

Тады і толькі тады мы не прыкмячаем наўмыснасці напісанага. І таму прыхільнікі першай тэндэнцыі і маюць і не маюць рацыі адначасова. Пачынаючы з Тынянава, яны правы ў тым, што сэнс фразы часта не супадае з рытмам яе, які здаецца непатрэбнымі ланцугамі, што гэтыя абставіны нарадзілі вольны верш, але яны не правы, калі абвінавачваюць у гэтым рыфму і рытм. Форма не вінаватая, як не вінаваты і сэнс.

Вінаваціць трэба паспешлівасць і часам проста няўмельства паэта. У вопытнага майстра пакуты рыфмы і рытму — справа другарадная, яна зусім не перашкаджае новым вобразам, хутчэй наадварот, выклікае іх. Я, напрыклад, упэўнены, што толькі пошукі свежай рыфмы да слова «сонца» (справа, паміж іншым, амаль немагчымая) далі А. Вялюгіну — праз слова «слонцы» — наступны малюнак:

Зялёны дым: услед узнятай слонцы
арэшнік пылу воблака атрос.
Нібы ў палац, сюды заходзіць сонца —
у мокрым лесе светла ад бяроз.

Тут рыфма вяла за сабою думку, а не наадварот. Калісьці між паэтаў была распаўсюджана вельмі капрысная гульня «бурымэ»: на зададзеныя рыфмы трэба было напісаць верш. І заўсёды ў дзесяцёх паэтаў атрымлівалася на адны рыфмы дзесяць розных вершаў. Гэта патрабавала хітрыкаў і мастацтва.

І толькі той, хто не пакутаваў над словам, не насіў яго па дзесяць дзён у галаве, можа сказаць, што правільная метрычная сістэма верша — занадта таннае вырашэнне пытання. Праўда, што паўзныя вершы пачаліся ў рускай паэзіі, скажам, з Жукоўскага, Фета і Палонскага. Але нам, практыкам, цяжка згадзіцца з тым, што яны — вершы будучага, што ў імя іх

трэба забіць рытм, як гэта зроблена ў «Рустэме і Зарабе».

Мы на царя Афразнаба
Опять идем войною;
Мои сабульские дружины
Готовы; завтра поведу
Их в Истахар...

Вершы ўсё ж не музыка, і калі ў музыцы часта гук замяняецца паўзаю, то ў паэзіі гэта можна дазволіць толькі ў вынятковых выпадках. А знішчыць сучасны рытм можна толькі шырока ўжываючы паўзы.

Сучасныя разбуральнікі формы і метра сціраюць мяжу нават паміж вольным вершам і прозай, а значыцца, губляецца самы сэнс слова «паэзія».

У чым жа справа? Справа ў тым, што верш — гэта не зацямненне сэнса слова рытмам, а падпарадкаванне слова рытму, частковая дэфармацыя яго ў рытмізаваным сказе.

І робіцца гэта дзеля таго, каб даць сэнсу яснасць, надаць слову значнасць. Мы так часта паўтараем многія словы, што яны абтрапаліся на языку, загубілі свой водар. А верш адраджае гэты водар, і словы, змешчаныя ў ясныя радкі, звязаныя звінячай рыфмай, паўстаюць перад намі ў першапачатковай чысціні.

Звычайныя словы: «свет», «сэрца», «хада», «раджаць», «клады». Проза скажа:

«З сэрцам, поўным тугі, накіраваўся ён цвёрдай хадою ў свет, які ляжаў за весніцамі. Мінуў старыя клады, якія бялелі крыжамі» ... і г. д.

Паэзія скажа:

Мы пабачылі свету і шырай і далей,
Але помніцца сэрцу пачатак хады:
Тут нас маці раджалі, тут мы выраслі,
Тут мы самыя лепшыя песні складалі,
Тут паплачуць сябры, несучы на клады.

У прозе рытмічнасць часта бывае агіднай, таму што справа прозы — камечыць, кідаць, ляпіць словы, як скульптар гліну. Проза ўздзейнічае на пачуццё людзей праз думкі. Верш навастрае слова і дзейнічае ім на думку чалавека праз яго пачуццё.

Менавіта ў вершы тонка спалучаюцца рытм і сінтаксіс, утвараючы гармонію з яе меладычнасцю,

паўнатою гукаў, якія дапамагаюць найбольш яснаму выказванню думкі чалавека, яго пачуцця.

Рытм нельга забіваць, гэта не забаўка, не цацка для дасужых паэтаў. Гэта найлепшы сродак адкінуць усё непатрэбнае, сказаць галоўнае сцісла, афарыстычна, каб мозг чалавека назаўсёды затрымаў думку ў сабе.

Не сакрэт, што старажытныя ваяводы, будучы непісьменнымі, перакладалі данясенні ў верш і прымушалі ганцоў завучваць яго; не сакрэт, што людзі, якія ў выніку ранення страцілі памяць, цвёрда памятаюць адно: вывучаныя калісьці вершы. Мы не належым ні да першых, ні да другіх. Прыгадваюцца словы А. К. Талстога аб тым, што ў некаторых вершах (безумоўна, дрэнных) усякая балбатня так яскрава выступае, што яе крэсліш і крэсліш.

Але тут жа прыгадваецца і другое выказванне. Калісьці Кірэеўскі сказаў сябру, які пачынаў пісаць:

— Каб ты пісаў вершы... кожнае слова, добра сказанае, мела б для цябе цану добрай думкі... ці хочаш быць добрым пісьменнікам у прозе? — пішы вершы.

Прыхільнікі знішчэння формы і думкі, прыхільнікі самастойнага слова зрабілі б з гэтага выказвання выснову, што вершы надаюць нават беззмястоўнаму слову нейкі змест і значэнне. І на гэтым бы спаймаліся, патрабуючы свабоды верша на мяжы прозы.

Мы зробім іншую выснову: як магчыма адмовіцца ад такой моцнай зброі, як вершы, рыфма, рытм, калі яны надаюць сілу ўздзеяння нават адносна беззмястоўным, няпэўным і туманным, хоць чароўна прыгожым сказам?!

Ты в поля отошла без возврата.
Да святится имя твое!
Снова красные копья заката
Протянули ко мне острие.

Як павінен тады абылганы імі верш узмацняць сілу ўздзеяння пэўных і акрэсленых сказаў?!

І ці можам мы адмовіцца ад рытму і рыфмы, ад лепшай, ад найбольш моцнай нашай зброі? Вядома, не.

У нас застаецца традыцыя беларускай народнай песні, традыцыя вершаў, якія выраслі на гэтай багатай глебе, вершаў Купалы і Багдановіча, Багушэвіча і Коласа.

Наш шлях — гэта не шлях знікнення рыфмы, звядзення рытму на ўзровень прозы праз вольны шлях. Наш шлях ва ўдасканаленні рытмаў нашай паэзіі. Гэтую справу распачаў яшчэ Багдановіч, а мы павінны прыстасаваць усе рытмы, на якія толькі здатнае музычнае вуха, да нашай гожай, гнуткай мовы, вытанчыць рыфму да меж магчымага, дзе яна была б дасканалай і адначасова не абмяжоўвала паэта і не перашкаджала чытачу ўспрымаць вобразы верша.

Дзеяслоўная рыфма, рыфма, пабудаваная на сугучнасцях, складаная рыфма, каламбурная рыфма — усе прыдатныя для верша.

Не знікненне формы, а росквіт яе, росквіт насуперак намаганням доўбнегаловых кансерватараў і легкадумных «наватараў», рэвізіяністаў і фармалістаў розных гатункаў.

Гэта наш шлях, на якім стаім і змагаемся за ўсё лепшае, перадавое, што нясе з сабой наша савецкая паэзія.

## А БАДАЙ ВАМ ЦІКАВА БЫЛО

Сёння ў вас свята, дзеці. Старэйшыя прынеслі вам падарунак, цудоўна выдадзеную кнігу беларускіх народных казак. Малым пачытаюць гэтыя казкі бацькі, большыя — самі будуць чытаць і разглядаць малюнкі. І адразу ўстане перад вамі дзівосны свет, дзе ходзяць каткі — залатыя лабкі, дзе воўк з сабакам — зусім па-чалавечы — гарланяць на вяселлі песню, дзе ў балоце водзяцца смешныя дурнаватыя чэрці.

Мы, дарослыя, зайздросцім вам. Калісьці і мы смяяліся і заміралі, слухаючы казкі. А ў вас усё гэта наперадзе.

Каму вы можаце падзякаваць за дарагі падарунак?

Кнігу гэтую стваралі сотні людзей, маляваў для яе малюнкі дужа таленавіты мастак. Але перш за ўсё трэба дзякаваць безыменным людзям, якія прыдумалі гэтыя казкі і, праз вякі, данеслі іх да вас.

Так, праз вякі. Пра рыбу, што праглынула пярсцёнак, людзі расказвалі тры тысячы год назад.

Чалавек тады шмат чаго не разумеў і лічыў, напрыклад, што пад час зацьмення змей крадзе сонца. Таму і нельга казаць, што казка — байка і выдумка. Не зусім.

Вось казка «Стары бацька». Яна ідзе з тых часоў, калі продкі нашы часта галадалі і таму ў час голаду адвозілі старых у лес. Дзікі звычай? Але казка гаворыць і аб тым, як ад яго адмовіліся, бо любілі бацькоў і зразумелі, што ўсім патрэбен іхні розум, што іх трэба шанаваць і даглядаць. Казка гаворыць аб высакароднасці і дабрыні і таму дарагая нам.

Кніга не мяняецца, а вусныя казкі ўвесь час мяняліся. Бацькі расказвалі іх дзецям, тыя — сваім дзецям. Нешта забывалі, нешта прыдумвалі, каб лепей. А пакольні забываецца горшае — казка рабілася ўсё лепшай і лепшай і стала для нас узорам. Нямногія пісьменнікі могуць пісаць лепей. А таму казку любяць усе: і малыя і старыя. Пра казку — ведайце — пішуць навуковыя кнігі. Праўда-праўда.

Вы даведаецеся з кнігі казак, што няма нічога сыцейшага за зямлю, саладзейшага за сон, шпарчэйшага за чалавечую думку. Дык вось, казка — ад нашай зямлі і яе людзей. Яна — чароўны сон і яна — думка чалавека.

Яна гаворыць аб тым, што той, што не капае з усімі студню, той няхай п'е расу; яна гаворыць, што грубая сіла нішто перад розумам; яна заклікае любіць людзей, памагаць ім, слухаць іх, але і мець свой розум.

Казка здзекуецца з паноў, якія пайшлі ад чорта, і ўслаўляе хітрага і вясёлага селяніна, які абводзіць вакол пальца гэтых паноў.

Хто запісаў казкі? Многія людзі. Назавём хоць некаторых з іх. Гэта Е. Раманаў, П. Шэйн, М. Федароўскі, А. Сержпутоўскі. Людзей, якія запісваюць песні і казкі, завуць фалькларыстамі. Яны сабралі многія тысячы казак.

Запісы трэба было апрацаваць: скараціць (дзяды любілі расказваць доўга, ім не было куды спяшацца ў бясконцыя зімовыя вечары), зрабіць казку цікавейшай, уставіўшы ў яе словы з іншых падобных казак. Многія казкі розных народаў падобныя. Трэба было ўзмацніць усё тое, чым беларуская казка адрозніваецца, скажам, ад англійскай, украінскай, французскай.

Народы зямлі шмат у чым непадобныя адзін на аднаго і гаворацць па-рознаму. Не скажа, напрыклад, немец: «А бадай вам смешна было». Гэта наша — беларускае. Вось гэтыя казкі і апрацавалі для вас пісьменнікі М. Клімковіч, А. Якімовіч і наш народны паэт Якуб Колас.

Нашто трэба было запісваць казкі? Фалькларысты ведалі, што дзецям у горадзе расказваюць іх радзей, чым на вёсцы. Але не гэта галоўнае.

Тады былі дужа цяжкія часы. Людзі галадалі і таму марылі, у такіх казках, як «Жаронцы», аб сытасці, волі і справядлівасці. Людзі працавалі вышэй сілы — і аб гэтым таксама гаварылі казкі.

Трэба было, каб пра гэта ведалі ўсе.

Ну і хіба кнігі не маглі расказаць, што людзям так цяжка жывецца, што галодныя нават дзеці? Не маглі. Беларускія кнігі, як і мова, тады забараняліся, і казка была беднаму чалавеку замест кнігі. Яна была зразумела яму. І народ склаў казку «Замыкай» аб тым, што трэба любіць сваю мову, што між багатым і бедным агульнай мовы не можа быць.

Таму і трэба было запісаць казкі. Іх запісалі, і цяпер вы будзеце чытаць іх, здзіўляцца, смяяцца, а можа, і плакаць.

Казкі складаюцца і сёння. Калі пачуеце дзе — запомніце. Бо казка данесла да нас мінулае нашага народа, зберагла нашу мову. Яна данясе і да нашчадкаў памяць пра нас.

І ўсё адно лепей за казку не скажаш. Няхай гавораць яны. А вы, дзеці, ідзіце ў гэты край, за сем гор і мораў, трошкі бліжэй ад сонца і трошкі далей ад месяца...

Усё жыццё будзьце ўдзячны роднай казцы за той дзіўны свет, які яна падарыла вам.

Добрага вам падарожжа. Будзьце шчаслівыя.

## ЗАДУМА: УЗНІКНЕННЕ І ЎВАСАБЛЕННЕ

Вельмі паважаны пане Ахоцкі!

Прабачце за тое, што, не жадаючы гэтага, затрымаўся з адказам на Ваш ліст, які дужа ўсцешыў

мяне. Я быў у раз'ездах — у прыватнасці ў Міры. Думаю над лібрэта гераічнай оперы з XVII стагоддзя. А значыць, трэба было капацца ў архівах, шукаць знаўцаў і г. д.

Цяпер паспрабую, як магу, адказаць на Вашы пытанні. І, дзеля самага пачатку, я хачу сказаць аб тым, што мы занадта мала ведаем чалавечую псіхіку, яе асаблівасці, тое, як яна мяняецца ад вонкавых абставін, спрыяльных ці неспрыяльных, мала, каб дакладна адказаць, якім чынам узнікла думка, ідэя, твор.

Словам, «таямніца гэтая велькая ёсць». Таму я дасылаю толькі свае назіранні, толькі тое, што прыблізна ведаю сам, і нават тое, што чуў ад сяброў па пяру, не буду надта ўключаць. Каб быць пэўным.

Што сказаць аб паўставанні, аб узнікненні літаратурнага твора?

Перш за ўсё павінен быць адпаведны настрой. Яго ствараюць розныя рэчы. Пачуццё вялікага спакою або, наадварот, нейкая падзея, што скалане цябе аж да глыбіні душы. Або нешта такое, што спалучае і тое і іншае. Мінулым летам, напрыклад, такі настрой нарадзіўся ў мяне на старажытным славянскім гарадзішчы. Святая гара, пад вёскай Гараднoe, на Століншчыне. Вакол балоты і мокрыя сонечныя лугі, а пасярод іх, над рэчачкай, гара з абсечанай верхавінай. Уся зарасла чорнымі ад старасці соснамі. На соснах вуллі ў выглядзе чалавечых фігур. Тут жа адна хата і руіны млына з колам, выкачаным на адхон. Перад хатай цвітуць касачы і пеўнікі.

Гэта ўжо гатовы верш. Аб ім можна забыць, але раптам ён сам усплыве, у самы неадпаведны момант.

А ўжо атрымаецца верш ці не — тут усё залежыць ад тысячы прычын, перш за ўсё, я лічу, ад асацыяцый, ад багацця іх, ад умення чалавека выхаваць іх у сябе і аперыраваць імі.

Часам наштурхоўвае на гэта нават кніга. Прычым не толькі ў тым сэнсе, што вычытаны недзе дакументальны факт, які адразу нараджае цэлы рой ідэй, вобразаў, тыпаў, але і ў тым сэнсе, што, бывае, нейкая думка кнігі нараджае асацыяцыю «ад супрацьлегла-га», асацыяцыю-пародыю або ўспамін. Ён абрастае другімі ўспамінамі і ўрэшце ператвараецца ў сваю су-

працьлегласць, у рэч, якая мае самастойную каштоўнасць.

Не было выпадку, каб, перачытаўшы нашага Купалу, Багдановіча, некаторыя рэчы Чорнага або, скажам, не менш мне, нам блізкіх і мілых Кахноўскага, Міцкевіча, Норвіда, Славацкага, Крашэўскага, Вейсенгофа, Струга, Тэтмаера, Ружэвіча, Пшыбася, Парандоўскага (імя ж ім — легіён, і я называю толькі першыя, што прыйшлі да галавы), не з'явіўся халодны і высокі настрой, калі ўсё аж звініць захапленнем, чыстай зайздрасцю і глыбокім незадавальненнем сабою. Нешта прыблізна такое: «Бог ты мой, як умелі пісаць (або: як пішуць), чэрці! Ну вось гэтыя часу не трацілі, столькі змаглі даць, а ты нават з невялікай сваёй здольнасцю лайдак» і г. д.

Пачуццё, падобнае на рэўнасць да жанчыны, калі мы пачынаем лезці са скуры і часам скакаць вышэй галавы.

Ну вось, настрой створаны, усё адно чым, матэрыял заўсёды пад рукой, бо ўсё жыццё ты толькі і рабіў, што жыў і збіраў убачанае і чутае. І тут толькі трэба берагчы гэты настрой, не расплюхаць яго і чакаць, пакуль цябе «панясе».

Пачынаецца гэта па-рознаму і заўсёды нечакана. Ад пагляду на нешта, ад ценю, паху, які ўспомніў з дзяцінства, ад выпадковага слова з размовы праходжага пад ліхтаром. Раптам устае гатовы, заўсёды адкрышталізаваны радок. Ён можа быць нават гукам таксама адзіна патрэбным. Таму, што ён заахвочвае рабіць далей, не дазваляе кінуць, абяцае, што гэтая чарговая праца будзе добрай і патрэбнай табе, што яна можа ўзварушыць іншага.

Пасля гэтага гука або радка (а ён часта бывае ключавым) ты ўжо працы не кінеш, хаця б яна даставалася табе ў дзённых або нават у тыднёвых пакутах. Галава, душа, вусны нават будуць увесь час працаваць, хай падсвядома, ствараючы цэлае. Ты можаш на большы або меншы тэрмін забываць аб гэтым, але рашэнне ўсё адно прыйдзе, нават, бывае, у сне.

Гайдануў у сялянскай хаце пустую, бязгучную калыску і забыў. І толькі пасля ўсплыло: «Бязгучная гайдаецца калыска, як паміж небам і зямлёй труна...» А адсюль ужо два крокі да думак аб вайне, аб катастрофе, аб усёй нашай трагічнай гісторыі... аб Адаме,

які бачыў усё гэта ў сне... і аб тым, што вялікую мужнасць трэба мець, каб ведаць, прадбачыць такое і ўсё ж пачаць шлях. Аб тым, што і мы жывём з такой вось штодзённай мужнасцю і што ў гэтым шмат высокага.

Вы хацелі ведаць, якім чынам узнік верш «Таўры». Пастараюся аднавіць гэты ўспамін. Некалькі год назад я пайшоў на Аю-даг. Адзін. Можа, і не спяшаўся б, але прачытаў, што досыць многа дзён хадзіць на Мядзведзь-гару будзе нельга: будуць труціць з самалётаў шкоднікаў лесу.

За ўсю дарогу ніводнага чалавека. Скалы, сцежка, дрэвы.

А на верхавіне, як толькі дабраўся, старая, разбітая крэпасць таўраў.

Я іхнія сляды і дагэтуль не раз бачыў: мы здымалі фільм пад Кошкай-гарой, і там траплялiся каменныя скрыні іхніх магіл, зарослыя зямлёй. А тут уразіла. Замест муроў — валы з рассыпаных каменняў. Усё зарасло паўдзённым лесам, абвілося плюшчом. Ледзь відаць квадраты, рэшткі вежаў. І наперадзе самае страшнае дрэва, якое бачыў. Каравае, з кароткімі, як абрубкі, тоўстымі да неверагоднасці, пакручанымі галінамі. З дупламі, на якія звісаў мох. Нібы пачвара нейкая на цябе насоўваецца.

А пайшоў далей — і раптам высокая паляна над морам, урвішчы, мора шырокае, аж да неба, густасіняе. Ранняя вясна. Паўсюль россыпы сініх горных гіяцынтаў.

І вось падумалася, што й тыя бачылі гэта, а цяпер мы не ведаем, хто яны былі, чым пакутавалі і радаваліся, не ведаем нават ніводнага слова з іхняй мовы, ніводнай песні. Але ж не зніклі яны як адзін, пакінулі ж яны дзяцей, хай пасля атурэчаных, абруселых ці яшчэ як. Тых, што пачалі гаварыць на гоцкай мове або сталі слугамі генуэзцаў на іхніх факторыях. Не мець нават памяці — жахлівы лёс. Песні — забытыя, аблічча, усё. Прайшла катастрофа, і няма цэлай грамады. Ну а каб зараз глабальная вайна і дайшлі б да варварства тыя, хто ацалеў? І нейкі вучоны эпохі вялікіх адкрыццяў у нейкім 3000 годзе раптам пасівеў бы або галаву зламіў над праблемай, чаму тубыльцы, што жывуць над ракой Ваал, у цяперашніх Нідэрландах, гавораць на адной мове з тубыльцамі з-пад ракі Вааль, у цяперашняй Паўдзённай Афрыцы.

Такі быў прыблізна ход думак.

...А пасля, праз даволі значны час, калі і думкі гэтыя былі схаваныя ў далёкія каморы памяці, усплыло нейкае ключавое слова, не памятаю зараз, якое дакладна,— ці не «на муры, што нязнанымі продкамі ўзведзены?» — нічым не звязанае ні з таўрамі, ні з Аю-дагам (бачыце, тут пайшло ўсё ж ад уражанняў, хаця і забытых, а ў вершы пра сон Адама ўвогуле ні ад чаго, ад радка пра калыску). І раптам пайшло і пайшло. І хаця там няма ні гіяцынтаў, ні іншага — гэта ўжо адбор — усе яны нябачна прысутнічаюць, як толькі мой падтэкст, які дазволіў мне ўсхваляваца і, шляхам ужывання двух-трох скупых рэалій, крыху ўсхваляваць іншага.

Я ведаю людзей (адзін з іх нават мой сябра, якому я веру), якія казалі мне, што ім здаралася сасніць верш. Прычым ледзь не цалкам, з розвіткам сюжэта, з думкай, нават з памерамі і асобнымі строфамі. Думаю, што гэта магчыма. Мозг увесь час заняты адным і нават у сне працуе нейкай сваёй часткай. Са мной такога не здаралася: каб адразу ўвесь верш. Гэта і зразумела. Адзін чытае па радку, а другі «фатаграфуе» адразу цэлую старонку, як я чытаю патрэбную мне, але нудную літаратуру (Буніна або Чэхава так, вядома, чытаць не будзеш). Нейчы мозг, можа, і ўладкаваны так, каб «сфатаграфаваць» з думак і асацыяцый няспання цэлы верш у сне.

Але са мною бывала, што ў сне ўзнікаў нейкі радок або думка аб тым, што было б цікавым вершам. Ніколі, здаецца, яны не прыходзілі разам. Але аднойчы здарылася так, што канчатковы штуршок для стварэння рэчы прыйшоў у сне.

Усё было запісана ў некалькі блакнотаў. І пах паветра Прымор'я, і колер сопак, і факты, і выгляд партавых кранаў, і назіранні над звярамі ў запаведніках і над людзьмі, што так дапамагаюць ім. Думаў напісаць вялікі дарожны нарыс. Прайшоў ледзь не год. І раптам сон, у якім усё гэта злілося на фоне «адбіцця атамнай атакі на базу субмарын», якое я назіраў (я тады часова працаваў карэспандэнтам у марской газеце). Атака была вучэбная, але ў сне адчувалася з апакаліпсічным размахам і жудаснай рэальнасцю.

Адразу ж, яшчэ амаль не перайшоўшы да явы, я

адчуў... не, мяне як стукнула, што ёсць досыць добра намечаны сюжэт і ёсць нота, з якой трэба пачаць. І ўсё на сваім месцы, усё — адзіны сплаў.

Так і ўзнікла паэма ў прозе «Чазенія». Яна і пачынаецца з гэтага сну, які я аддаў герою, каб паказаць яго духоўны стан. Я не змяніў у ім нічога, ніводнага гуку, ніводнага колеру (сон быў каляровы). Толькі перамяніў сапраўднае імя напарніка са сну на нейтральнае «друг».

...Наконт стылю што ж сказаць?

Калі прыблізна паўстае пасля ўсяго, аб чым я пісаў Вам ужо, думка і намер (для верша) — то пасля проб, часам шматлікіх, выкрышталізоўваецца мікрастыль, стыль толькі для гэтай рэчы (макрастыль адзін, хаця і выпрацоўваецца гадамі, крыху мяняючыся ад рэчы да рэчы). Але я не мастак ахарактарызаваць, што гэта такое. Пішу, як прывык, падпарадкоўваючыся густу, слыху, зроку. А ўсё гэта ў кожнага чалавека іншае. То, можа, і піша кожны чалавек па-іншаму менавіта таму. Я, напрыклад, цярпець не магу некаторых слоў, хаця яны, дальбог, ні ў чым перада мной не вінаватыя. Ясна, што я пазбягаю іх, як і сіх-тых колераў, напрыклад, хаця б яны на сто працэнтаў падыходзілі да параўнання.

Лепей, відаць, не скажаш, што стыль — гэта чалавек, яго густы, прыстрасці і г. д. Колькі людзей, столькі і стыляў.

Далей ужо ўсё вядзе думка або часам і сам герой, у якім раптам праяўляецца небяспечная самастойнасць: выявілася нейкая новая рыса характару, дзякуючы якой ён проста не мог у дадзеным выпадку ўдарыць ворага ці, наадварот, збаяцца яго. Бывае і так, што мяняюць плынь рэчы і нейкія вонкавыя ўражанні. Напрыклад, надзіва светлы настрой, які адчуваеш пасля коннай паездкі па жніўях, з аплеценых павуціннем, «пражаю маці божай», пад празрыстым небам — гэты настрой можа прымусіць, пад уплывам хвіліны, даць такі самы настрой герою, што знаходзіцца ў гэты момант нават у досыць скрутных абставінах. Хай на адно імгненне раптам адчуе шчасце жыцця ў самую жахлівую хвіліну. Гэта бывае часам эфектна і нечакана праўдзіва.

Раман — гэта, вядома, не тое. Асабліва раман гістарычны. Думку аб ім, жаданне напісаць яго ажыў-

ляе, часцей за ўсё, нейкі асобны факт, вычытаны ў хроніцы ці старажытным акце. Для мяне гістарычная рэч пачынае жыць з анекдота (не ў нашым сэнсе, а ў тым, у якім разумелі яго продкі год дзвесце назад: трагічны або вясёлы, але заўсёды сюжэтны і арыгінальны факт з жыцця рэальнай гістарычнай асобы). Для мяне мой «Хрыстос у Гародні» пачаўся з урыўка з «Хронікі» Стрыйкоўскага, «Сівая легенда» — з магілёўскіх хронік. Толькі факт, хай нязначны, павінен узрушваць.

Але я ўяўляю і іншы шлях. Разглядае чалавек беларускія гравюры Скарыны і Вашчанкі, дзе сцэна з «Юдзіфі» і па касцюмах, і па тыпах — наша сярэднявечча. Або разглядае серыю карцін з жыцця Хрыста. Уявім сабе, што яны з кватэры Паліптыкі Аўгусціянскага з касцёла Катарыны ў Кракаве. Глядзіць гэтыя «Спайманні», «Маленні аб чашы» і г. д. І раптам разумее, што гэта XV ст., якое было яно ў Польшчы і Беларусі. Людзі, тыпы, адзенні. На гэтым цалкам можа ўзнікнуць нейкі сюжэт з гісторыі рэлігійных сутычак.

Але пасунуць на стварэнне гістарычнага рамана можа і асабістая зацікаўленасць да эпохі. Мяне, напрыклад, прымусіла займацца 1863 годам сямейнае паданне аб расстраляным у той час чалавеку. Ведаючы толькі тое паданне, я напісаў сваё «Паром на бурнай рацэ» (толькі пазней, праз некалькі год, я знайшоў судовую справу ягоную ў Віленскім архіве, усё выявілася, было так, як расказвалі мне). Але яшчэ да «Парома» быў задуманы вялікі раман аб паўстанні.

Ад першай думкі, ад першага помыслу — ад іх яшчэ да твора, як ад зямлі да неба. Тут пачынаюцца пакуты егіпецкія і адначасова ледзь не самы прыемны этап работы. Я збіраў матэрыял для «Каласоў пад сярпом тваім» дванаццаць год.

Шукаеш, капаешся ў архівах, ездзіш на месцы сражэнняў, пытаешся ў старых, скажам, у «Мілавідах», што ім расказвалі бацькі і дзяды, дзе гэта было, хто адкуль ішоў. Словам, па слоўцу, па дакументу, па апавяданню, па пейзажы месца, дзе біліся. Кожнае адкрыццё выклікае лавіну асацыяцый, варыянтаў, мяняе калізіі, вымушае гаварыць ужо жывых у тваім уяўленні людзей.

Вось пан штурмуе манастыр, у якім схаваліся дачка з жаніхом (гэта дзеля характарыстыкі дзеда

героя). Вось другі, жах наваколля, на гулянцы ў якога нехта абавязкова абап'ецца і памрэ, склікае гасцей на сваё пахаванне — і ўстае з труны з келіхам шампанскага ў руцэ.

У дакуменце пра гэта — два радкі. І тут бярэцца за працу ўяўленне, ледзь не самае галоўнае для пісьменніка, асабліва на гэтым этапе.

Ну, збіраеш матэрыял, ну, ведаеш на памяць некаторыя сцэны. Рэч усё адно яшчэ не гучыць. А калі ўсё ж у такі момант сядзеш яе пісаць, то атрымаецца правільна, з веданнем справы і... мёртванароджана.

Зноў патрэбен настрой, той стан душы, асаблівы, напяты, гатовы на ўсё, той настрой, калі, здаецца, што няма немагчымага, той настрой адпаведнасці сябе — свету, які бацькі крыху велікапышна, але ўвогуле правільна звалі натхненнем.

Для верша гэта патрэбна кожны раз. Для рамана, пачасту, толькі для тых ключавых сцэн, якія выклікаюць лавіну і да ўзроўня якіх, хай не напісаных яшчэ, ты ўвесь час будзеш падцягваць сцэны іншыя, каб зраўняцца, а то і пераўзысці.

Гучанню рэчы дае штуршок, нешта звонку. Зноў такі гук, пах, пейзаж, сцэнка, якую ўбачыў. Я сам не ведаю, што гэта, тое, якое штурхае, у чым яго адпаведнасць твайму настрою, які толькі й чакаў, каб праравацца. Але калі ўсё гатова і чакае — гэты ўладны суровы загад, гэты поштурх не прымусяць сябе доўга чакаць.

З «Каласамі пад сярпом тваім»... гэта атрымалася некалькі разоў.

У вясну таго года, калі я пачаў пісаць раман, давялося мне плысці чоўнам па Дняпры. Ля адной вёскі, бераг якой рака вечна падгрызала, я ўбачыў на паўкруглым выступе старую дзічку-грушу, якая цвіла. Ясна было, што толькі каранямі яна зберагла сабе ў гэтым годзе жыццё, каб у наступным абурыцца ў вясновую палавень. І гэта было як настрой струны, як сімвал гэтай пагрознай і літасцівай ракі часу і адначасова як сімвал чагосьці надзвычай гожага, што асуджана на загібель і ўсё ж мае мужнасць цвісці.

І яшчэ. Вясной, у дзікі дванаццацікіламетровы дняпроўскі разліў, я выйшаў са стрэльбаю і сабакам да ракі. Сабака быў малады, не вытрымаў і пагнаў хатніх гусей. Тыя беглі адчайна, як я ні крычаў на

сабаку, не спыняліся і, дабегшы да стромы, сарваліся з яе і паляцелі з рэзкім крыкам. Дзьмуў нізавы вецер, развёў страшныя хвалі з брудна-белымі грабянцамі, а гусі ляцелі, ляцелі і, вельмі далёка, апусціліся на хвалі і, белыя, загайдаліся на чорнай вадзе. Такія яны былі самотныя і адначасова смелыя ў гэтым змаганні з шалёнай стыхіяй. І прыгожа гэта было, як не ведаю што. Гэтая сцэна стала запевам і другой тэмай працягу рамана, які я зараз канчаю.

Вось, бадай, і ўсё, што я магу Вам сказаць. Тут няма і спробы тэарэтызацыі. Гэта ўсяго толькі адказ на Вашы пытанні, і датычыцца тое, аб чым я Вам напісаў, толькі мяне. Калі Вы, прагледзеўшы ўсе адказы, дасланыя Вам, выведзеце з іх нейкія заканамернасці, уласцівыя ўсім, хто піша — я вельмі буду ўзрадаваны. Эстэтыка, псіхалогія творчасці, творчы працэс — яшчэ не сталі дакладнай навукай. Гаварылі і пісалі шмат, але ўсё неяк вакол, без пэўнасці і пераканальнасці. Патрэбныя анкеты сярод усіх літаратараў, як гэта, хай выбарачна, робяць зараз сацыёлагі сярод студэнтаў, рабочых і г. д. Тады мы хаця трошкі будзем ведаць і наш мозг, і работу ягоную, і тое, што мы на зямлі робім увогуле, і што такое наш свет, а можа, будзем ведаць і сёе-тое філасофскае, вышэйшага парадку. Скажам, што гэта такое за арганізм Чалавецтва ў цэлым.

Вы адзін з пачынальнікаў гэтай работы (што датычыцца літаратараў), бо анкетамі, як гэта любілі рабіць раней, нічога не даб'ешся. Што з таго, што адзін п'е каву і курыць, а другі за работай трымае ногі ў вадзе? Гэта фізіялогія.

Трэба ведаць, як працуе мозг сапраўднага матэматыка, мастака, паэта. Трэба ведаць іхнія адносіны з усім навакольным светам, ад апошняй дробязі да праблем Быцця, усе падрабязнасці гарачага віравання ўсіх людзей сярод усіх.

## З ЛЮБОЎЮ ДА ЧАЛАВЕКА

Мы доўга чакалі гэтай кнігі, чытаючы ў часопісах адменныя, вельмі свежыя вершы паэта. Яны заўсёды далучаліся сярод другіх нашых вершаў нейкім пра-

светленым, па-дзіцячы непасрэдным светаадчуваннем, прасветленым нават у глыбокай суровасці, суровым нават у скупым жарце, які паэт часам дазваляе сабе.

Я не крытык і таму не магу прасочваць пад зямлёю «корані» кожнага верша і вобраза, грунтоўна сцвярджаць, што паэт спыніўся на сваім шляху і не расце, у той час калі ён выбірае новы кірунак. Не магу я «ўдумліва» разважаць аб уплыве на Наўроцкага Уітмена і «сучасных лацінаамерыканцаў» (чамусьці Уітмена вінавацяць ва ўсім, што не падобна на ранейшае).

Не магу таму, што наш паэт — жывая галіна ад нашага дрэва. І няхай на ёй вырастаюць такія па форме плады:

Ціха льецца сонца. Ціхі подых мая.
Яблыня кахання беллю расцвітае.
З касой за плячыма па зыркай расе
Кожны гэту яблыню у душы нясе.

А магчыма, і іншыя з наўмысна задышлівым рытмам, са знарочыстым (і зманлівым) прымітывізмам мыслення.

Ці не ўсё адно калі гэта нам — не чужое, калі на нашай мове сказана яшчэ і такое слова, ад якога яна стала багацейшай, прыгажэйшай, гучнейшай?!

Алесь Наўроцкі — паэт таго пакалення, якое ў поўнай меры вынесла на дзіцячых плячах ліхалецце вайны:

Калі жыў ля вады без вады
і ля хлеба без хлеба,
Калі цэлымі суткамі
кулі секунды лічылі.

Яно не ваявала, пакаленне паэта, але — хто ведае? — ці не цяжэй было дзіцячаму сэрцу адчуваць сябе бяссільным, а вачам бачыць такое:

Там жонка дзіцё нараджае...
Нараджае дзіцё
У агні.
Дарэмны просьбы. Суха стрэл хлопнуў.
Абвалілася першае бервяно,
І раптам дзіця закрычала,
На ўсю Еўропу
Закрычала яно.

Цяжка гаварыць пра нейкія літаратурныя «ўплывы» на творчасць Алеся Наўроцкага. І калі крытык, нядрэнны знаўца паэзіі, кажа мне, што ў «Стрэле ў твар смерці» адчуваецца «ўплыў» касмічнасці Чарота», мне хочацца сказаць — «не». Справа не ў тым, што «пажар палыхае. Ад агню куды кідацца? Ён ліжа ногі, рукі, твар». Справа ў тым, што ў аднаго сусветны пажар быў бязлітасны да людзей, да кожнай асобы чалавечай і да набыткаў культуры, створаных рукамі чалавека. А другі — і гэта лепей за ўсё іншае паказвае, што мінулі гады,— уважлівы да кожнага жадання, да кожнай усмешкі чалавечай, бо галоўная рыса яго вершаў,— гуманізм, бо ён добра разумее, што кожны забіты чалавек — гэта забіты сусвет, забітае мора, забітае неба.

Магчыма, жывым цяпер менш справы да забітых сусветаў — іхнія ж сусветы жывыя,— але сэрца паэта павінна памятаць больш за іншыя сэрцы: на тое ён і паэт.

І вось гніюць у зямлі
Мільёны лясоў,
Мільёны птушак,
Мільёны акіянаў,
Гніюць у зямлі
Мільёны ранкаў,
А над зямлёй займаецца ранак,
Гніюць у зямлі мільёны
жаўранкаў,
Але па-ранейшаму спявае
жаўранак.

Паэта, як і ўсё яго пакаленне, асабліва чуйнае да несправядлівасці, балюча ўразіла з'ява, імя якой «культ асобы». Ён верыў у гэтую асобу, «як у сонца», а аднойчы «тое сонца забальзаміравалі». І паэт гаворыць з горыччу:

Праўда мне даражэй
За ўсё на свеце.
Няўжо ў сонца
Не дрыжала рука,
Калі выкопваў рэчышча ён,
Па якому ў акіян
Смерці
Улілася не адна
Жыцця рака?

У роздуме над гэтай з'явай, у паступовым асэнсаванні таго, што Сталін заняў толькі месца Леніна, а

яго замяніць не мог, паэт робіць мужную выснову («Размова з Уладзімірам Ільічом»):

Паміраючы за яго на полі бою,
Ведайце —
Памiралі за Вас.

Здавалася б, даволі і таго, што сэрца зведала такую горкую праўду. Але на плячах пакалення і яшчэ адна праўда, яшчэ адзін цяжар. Гэта праўда і цяжар атамнага стагоддзя, і, што б ні казалі, цяжар гэты падае на плечы тых, хто малады. Таму што ім жыць, ім несці адказнасць за ўсё, ім заганяць джына — носьбіта смерці — зноў у бутэльку, адкуль яго калісь выпусцілі. І таму юнак нашага часу не можа не быць горача зацікаўлены лёсам чалавецтва і самой маці-Зямлі.

Я не баюся смерці.
Пражыву болей ці меней —
Аб гэтым не буду тужыць.
Але чаму, чаму я павінен
Попелу жменяй
У вочы нашчадкам
Пыліць?

Голас паэта выбухае крыкам усяго чорнага, што перашкаджае багатым фарбам зямлі сплятацца ва ўсё новых каляровых гамах. Гэта сказана вельмі па-беларуску, і адначасова гэта — як слова і песня ўсіх народаў. Хутчэй ваяваць за праўду, каб нікога не крыўдзілі, нікога не забівалі. Нельга, каб выбухнула вайна, нельга ацэньваць грашыма жыццё, нельга, каб панавала сытае свінства, нельга, каб дзяўчына з Хірасімы згарэла ад болю, нельга, каб ажыў фашызм, нельга, каб загінула ад вадародных ураганаў нясцерпна родная ў сусвеце калыска жыцця, жамчужына Розуму — Зямля.

Гэтая абвостранасць пачуццяў нараджае і стыль,— нервовы, трапяткі, які дарэмна хоча здавацца спакойным і разважлівым. Дарэмна, бо ўнутры ў паэта ўсё трапеча любоўю да людзей.

У Алеся Наўроцкага тонкі слых. Вось прамень ударыў па адстралянай гільзе, вось мяўкаюць веснавыя коцікі на галінах ракіт... У яго незвычайны зрок. Ён бачыць, як мяшаюць у шклянцы разам з цукрам сонечны прамень, як «злуецца» пад ветрам беласнежная сукенка дзяўчыны. І тут ужо адбываец-

ца тое дзіва, якое прымушае кожнага горка шкадаваць, чаму ён не прыкмеціў гэтага раней. Чаму не прыкмеціў зялёныя крылы бяроз або вецер, які «свістаў спачатку ў дудачку, потым у дудку, а ўжо затым у дуду».

Сапраўды, чаму?

Справа, відаць, у тым, што трэба самому памясіць гразь, самому адчуць волю сцежкі ў жыце, самому задыхацца ў скрутках калючага мяцельнага дроту...

Можа з'явіцца ўражанне, што я захвальваю паэта. На самай справе гэта не так. Няма кніг без недахопаў, і мне спачатку хацелася проста заўважыць самае добрае. Гэта заўсёды прыемна: заўважаць добрае.

Але, відаць, не абыдзешся і без крытычных заўваг, бо дрэннае асабліва кідаецца ў вочы, калі кніга добрая. Часамі паэт пачынае гаварыць чужым галасам, даўно, яшчэ з 20-х год, знаёмым для нас:

Крытыка,
Бяры на прыцэл
Таго, хто азыз!

Крыўдна таксама, калі ў творах паэта пачынаюць гучаць безгустоўныя ноты:

Можа, сёння твая рука
Выдаіць смяротную кроплю
Малака.

Гэта — як фальшывая нота ў добрай сімфоніі.

Можна было б адшукаць у кнізе яшчэ некаторыя пралікі. Дарэмна, напрыклад, паэт уключыў у яе слабы верш «Дзве дарогі сому», у якім ёсць слабыя па свайму паэтычнаму напаўненню радкі, накшталт:

Спакойна, пане!
Вось вы і папаліся тут, нарэшце,
Вы абяззброены. Вам няма чым крыць,
Скажыце, калі вы ўзбройваеце
Нямеччыну,
Ці не гаворыце, што рашылі
ў вадзе...
Жывога сома затапіць.

Дарэчы, і слова «затапіць» не стасуецца ў дачыненні да сома.

Але гэта ўсё недахопы, якія не псуюць агульнае ўражанне ад кнігі.

Адным з лепшых вершаў зборніка з'яўляецца верш «Яблыня кахання». Мастацкі лаканізм і тая асаблівая

чысціня пачуццяў, якая ўласціва Алесю Наўроцкаму,— усё гэта сплятаецца ў дзіўны па сваёй прастаце і выразнасці вянок.

Тое самае і з вершам «Страта». Паэт знаходзіць простыя, вельмі дакладныя словы для песні ў гонар дружбы. Мала хто за апошні час так палка пісаў аб страце друга, як Наўроцкі. Мы як быццам забылі тое неасэнсаванае пачуццё, якое цягне да чалавека няўхільна, як лёс, і ў гэтым падобнае на каханне. Мы не знаходзім у сваіх вершах такіх шчымлівых нот, якія знайшоў Алесь Наўроцкі для памяці сябра свайго маленства ў вершы «Страта». І наогул у нашых вершах пачуцці часта падмяняюцца вытанчанай нюансіроўкай, бліскучым, але халодным, як крышталь, агнём. Болю, ад якога, як нажом па сэрцу, у нашых вершах амаль няма. У Наўроцкага ж — першапачатковая яркасць і магутны накал смутку, радасці, лікавання. Калісь вытанчаных рымлян здзіўляла, што дакі маглі з гора качацца па зямлі, а ад радасці рагатаць так, што лісце падала з дрэў. І вось мы, што звыклі бараніцца ад гора ўсмешачкай, адчулі: мала нам дадзена такога за апошнія гады. І добра ведаць, што «Другу...» і «Рыдлёўка» — гэта такога накалу вершы аб суме адзіноты, аб жаданні чалавека вечна жыць у працы, у сыне, у справе,— якіх у нас не было з часоў тых вершаў Багдановіча,— беларускіх і рускіх,— што прысвечаны «Ані». Наогул між гэтымі паэтамі значна больш падабенства, чым можна падумаць, і не ў рытміцы, не ў тэмах, а ў цеплыні самой удачы, у неўстаткаванасці паэтычнага характару, што народжаны для цеплыні, але не заўсёды яе мае.

Алесь Наўроцкі часам трохі імпрэсіяністычны: ён сканцэнтроўвае сваю ўвагу на адным якім-небудзь імгненні, і тады, калі ў гэтым імгненні сціснуты ўсе вякі і душы ўсіх людзей,— тады нараджаецца верш-скарб накшталт «Багрыма».

Хацелася б даць А. Наўроцкаму некалькі добрых парад. Першая з іх — не пагарджаць баладным жанрам, бо ён не чужы яму. Такія вершы, як «Вядро вадой напоўнена» і «Пачатак»,— гэта зерні сапраўдных, сціслых, адухоўленых «іскрай божай» балад.

Другая парада — развіваць свой зрок сатырыка. Лепшыя з «Элегій», змешчаных у зборніку, сведчанне

таго, што Алесь Наўроцкі валодае пяром сатырыка. Ён не можа прайсці паўз месца, дзе хлусяць, дзе крыўдзяць людзей, не можа не праспяваць адыходнай таму благому, што, на жаль, яшчэ трымаецца ў жыцці. А калі дадаць да гэтага, што ў «Элегіях» прысутнічаюць яшчэ сум і роздум над лёсам людскім,— вы зразумееце самі: паэту нельга кідаць гэтай сваёй дарогі.

Вунь хмарка плыве над лесу
дзялянкай,
Грымоты нараслі.
Эх, як жа пасля усмешак маланкі
Лёгка дыхаць зямлі.

Пасля ўсмешак маланкі сапраўды лягчэй дыхаць зямлі. Няхай жа часцей бліскаюць гэтыя ачышчальныя маланкі.

## ...БУДЗЕШ СВОЙ СЯРОД ЧУЖЫХ

Калі мяне папрасілі напісаць артыкул аб перакладах твораў Байрана на беларускую мову, я не адразу даў згоду, бо недастаткова ведаю мову арыгінала. І ў тым, што вы чытаеце гэтыя радкі, вінавата мая любоў. Любоў да роднай мовы і любоў да Байрана.

Я чытаў творы паэта ў перакладах на іншыя мовы. Чытаў і некалькі дакладных — слова ў слова — празаічных перакладаў ягоных твораў.

Але мне хочацца пагаварыць аб адным: наколькі па-беларуску, наколькі поўна і дакладна гучаць вершы паэта. Ці не супярэчаць яны агульнаму духу мовы, складу думкі? Ці не зрабіў перакладчык з крылаў — купы лахманоў, з каменнай вежы — груды руін? Ці не стаў Байран заікацца?

Практыка нашага перакладу адмяла ўбок шырока распаўсюджаны цяпер сярод паэтаў Захаду дакладны празаічны пераклад сэнсу верша. Бо ён, пакідаючы непарушным «што», незваротна разбурае «як»: музыку верша, яго інтанацыі, гучанне слоў і гукаў — усё тое, што складае магію паэзіі, усё, за што мы так пяшчотна яе любім.

І аднойчы сасніўся ёй дзіўны сон,
Родны край, палі і зямля,
І пачула далёкі падводны звон
Ліляфея, дачка караля.

Я паспрабаваў перакласці гэта іхнім метадам. «Аднойчы Ліляфея, дачка караля, сасніла дзіўны сон. Сасніла зямлю, палі і родны край. І тут пачула далёкі звон пад вадой...» Міла. Прыемна. Прыдасца нават у казку. Але нікуды не варта.

Нашы перакладчыкі разумеюць непадзельнасць «што» і «як», яны абралі свой шлях, бязмерна больш цяжкі, але і больш удзячны: перадаць душу паэта, не страціўшы ні грана сэнсу, ані гуку.

...Я тройчы прачытаў кнігу перакладаў, і яна пакінула ў мяне прыемнае, харошае ўражанне. Гэта сапраўды Байран, які гаворыць «дзе» і «чаго».

І, насуперак выдумкам дасужых балбатуноў (чуў я і такое), гэта яму аніяк не шкодзіць. Англійскі паэт ходзіць у новым, але сваім плашчы, і ён яму пасуе. Відаць, Байран, каб дажыў, слухаў бы гэтыя незнаёмыя гукі з прыемнасцю, а магчыма, і палюбіў бы нас — нават калі б не ведаў усяго астатняга, за што нас варта паважаць і любіць.

Што дзіўнага? Перакладчыкі таксама любяць яго.

Паспрабую сказаць пра іх некалькі слоў. Па парадку. А гэта цяжка, бо я адразу быў уладна захоплены лаканізмам «Урыўка» (пераклад Я. Семяжона) і простай гаротнасцю верша «Што ж, ты — шчаслівая» ў яго ж перакладзе. Нібы і тугі асаблівай няма, часам верш нібы кідаецца ў прозу, але сэрца аж заходзіцца ад болю.

Мікола Аўрамчык зрабіў адзін з найлепшых перакладаў зборніка. Гэта верш «Не ўспамінай, не ўспамінай». Паэту ўдалося перадаць нясцерпную страснасць шэдэўра. Трэба падкрэсліць, што пераважная большасць перакладаў зроблена на ўзроўні гэтага:

Ці ж мне забыць, забыць цябе,
Як расплятаў касу ўсю ноч,
Як сэрца білася, бы птах?
Нібыта бачу зноў цябе —
З паглядам млявых мілых воч,
З агнём кахання на губах.

. . . . . . . . . . . .

Павекі сплюшчвала ўжо ты,

Яны звужаліся, пакуль
Не прыкрывалі сінь, бы ў сне.
І два чмялі расніц густых
Злятаці ценем на шчаку.
Як ворана пяро — на снег.

Тут усё Байранава. І ўсё — наша. Нават строфіка адпавядае беларускаму сказу, пявучаму, завершанаму ў сваім узвышэнні і падзенні. Сказу, які канчаецца толькі тады, калі не хапае ў грудзях паветра.

«Яўрэйскія мелодыі» — адзін з самых славутых цыклаў паэта — увогуле атрымаўся горш, чым можна было зрабіць. На маю думку, лепшы ў гэтым цыкле верш «Галашэнне Ірада па Марыямне» (пераклад Ю. Гаўрука). Гаўрук наогул шмат зрабіў для таго, каб даць пераклады правільныя, дакладныя, зробленыя на высокім, хоць, можа, і трохі сухаватым прафесійным узроўні. «Схмурнеў мой дух» (пераклад У. Дубоўкі) і «Як ноч у месячнай красе» (пераклад Я. Семяжона) — работы добрыя, але ніжэй магчымасцей перакладчыкаў. Мы будзем яшчэ гаварыць пра гэта.

Спачатку пра Уладзіміра Дубоўку. «Схмурнеў мой дух» — верш выключны, але, па-мойму, мала падыходзіць Дубоўку па духу і самому ладу думкі. У ім — змрочная, сапраўды «біблейская», хмурная патэтыка. Гэта сім-тым эклезіяст, як амаль уся Біблія. А перакладчык — чалавек светлы, рамантычна-мужны, сапраўды славянскі паэт. Нешта светлае, сімпатычнае, бязмерна трывалае, нягледзячы на душэўную тонкасць, прысутнічае ў ягоным вершы. І вось таму так выключна добра атрымаліся ў яго пераклады двух вершаў са «Стансаў да Аўгусты». Гэта — «Калі згасіў праменне змрок» і «Закацілася сонейка лёсу».

Яны зусім розныя. Першы пераклад — вельмі англійскі па манеры выканання. Другі — як славянскі плач. І ўсё ж я сэрцам адчуваю, што тут перакладчык узяўся за самае сэрца, за самую сутнасць гэтых вершаў. І што мне з таго, што гэта, магчыма, не такая высокая паэзія, як «Схмурнеў мой дух». Гэта проста элегічная, вельмі добрая песня — нібы жаўранак вырваўся з роснай травы; і я веру перакладчыку, што ён зразумеў душу Байрана. У гэтым, відаць, уся справа.

Слухайце, якая суровая баладная прысяга:

Няхай лунае над маім
І сілу дасць няхай твой дух.
Са словам ласкавым тваім
На цэлы свет адзін пайду!

. . . . . . . . . . . .

Хай згіне ўсё ў жыцці маім,
Каб толькі ты была са мной!
Хай шляхам я прайшоў цяжкім,
Свет — не пустыня мне з табой!

Якая мужная журба:

Гора ходзіць за мною па пятах,
Можа, нават прыцісне калі —
Панаваць не дазволю я катам
Над сабой, над табой, на зямлі!

. . . . . . . . . . . . . .

Праз памылку я страціў багацце,
Нават больш, чым падумаць бы мог,
Але што б я і як бы ні страціў —
Лёс цябе, дарагая, ўсцярог!

Я чытаў гэты зборнік, не зазіраючы спачатку ў змест, дзе названы прозвішчы перакладчыкаў. Для таго, каб быць бесстароннім у ацэнках. І вось часам з-за Байранавых радкоў выплывала знаёмае нават асабіста абліччa. Так здарылася з вершам «Урывак»:

Калі б рака жыцця вярнула зноў
Мяне да першых летуценняў, сноў,
Я не хацеў бы з ёю плыць туды,
Дзе адцвілі даўно лугі, сады.

Нешта вельмі знаёмае. Ага...

Вісіць у небе месяца нарог,
Стаіць музыка паміж дзвюх дарог.

Канешне, Танк. Настроем амаль той, якога мы ведаем па філасофскіх вершах апошніх гадоў.

І вось тут паўстае адно вельмі важнае пытанне. Ці павінен паэт, які перакладае, памерці ў тым, каго ён перакладае? Я ведаю, для моцнай паэтычнай індывідуальнасці гэта цяжка, амаль немагчыма. Дух не хоча змяшчацца ў чужой амфары, няхай нават чароўнай, бунтуе, узламвае яе. Хоча сам для сябе зляпіць форму-ёмішча. І я не ведаю, што тут лепей:

слабы дух у чужой велічнай форме або моцны, які тую форму зламаў. Відаць, у перакладзе, майстэрстве, якое ўсё ж павінна зберагчы чужую амфару, патрэбна трэцяе: захаваўшы сваю магутнасць, усё ж памерці ў другім, аддаць яму сябе самога, стаць яму слугою, як гэта ні цяжка. Але, з другога боку, як тады ставіцца да перакладаў Лермантава? Што яны, уласныя вершы ці пераклад з Гейнэ? Не ведаю. Ведаю толькі, што пераклад «Урыўка» пераходзіць ужо ў другі жанр, незаконна занядбаны цяпер жанр перайманне.

Эпіграмы і эпітафіі пераклаў для зборніка Семяжон. Аб іх, бадай, і не варта шмат гаварыць. Зроблена гэта лаканічна, з уласцівымі перакладчыку тонкасцю і гумарам. Пасля чароўных перакладаў з Бёрнса гэтага ад яго можна было чакаць. Вось урывак з эпіграмы на самазабойства брытанскага міністра Каслры:

Ты здох, а ўсе мы дыхаем вальней
І думаем: каб гэта ўсё раней,
Пакуль ты рэзаў Англію
па лёгкіх,—
Вось бы ўздыхнуў народ, але
з палёгкай!

Эпіграма — жанр няўдзячны. Усе смяюцца, усе здзіўляюцца, як лёгка і дасціпна льюцца словы. І ніхто не ведае, як гэта цяжка. І паэту, і перакладчыку.

Памер артыкула, на жаль, не дазваляе сказаць добрага слова ўсім астатнім перакладчыкам вершаў.

Цяпер пра паэмы, містэрыі, публіцыстыку. І перш за ўсё пра пераклад «Чайльд Гарольда».

«Чайльд», яго чатыры песні, перакладзены чатырма аўтарамі: Рыгорам Барадуліным, Міколам Арочкам, Язэпам Семяжонам і аўтарам гэтых радкоў.

Мне вельмі хочацца пахваліць свой пераклад. Але я не маю саманадзейнасці аднаго раманіста, які, пералічваючы раманы, што зрабілі пераварот у нашай белетрыстыцы, скончыў спіс словамі: «і раман аўтара гэтых радкоў». Таму я прамаўчу і замест няпэўнай сваёй кандыдатуры выстаўлю ўсе астатнія, асабліва ж — сапраўды выключны па чысціні і яснасці — пераклад Язэпа Семяжона. У ім няма залішняга пафасу, у гэтым перакладзе... Байран і ў пафасе сваім часам іранічны, вонкава лёгкі, нават легкадумны. Ён,

як і Пушкін, і жартуе, і празаізмы ўжывае, і... раптам хапае за душу жалезнай, страшнай рукой пафасу — і стогн, крык ірвуцца з сэрца. Гэтыя ўласцівасці ў поўнай меры перадае праца Семяжона.

Вось пра Венецыю:

На ўлонні акіяна, на выгодзе
Ты гордаю Цыбелаю марской
Раскашавала не адно стагоддзе
З тыярай стромых веж над галавой.

Калі б я жыў у век рамантыкаў, я сказаў бы, што Чэрвеньскія палі падаюць руку Анслейскім палям, каб іхнія верас і шыпшына сталі братам і сястрой нашаму верасу, нашай дзікай ружы.

Перакладу «Чайльда» ў пэўнай меры, відаць, перашкодзіла практыка нашага перакладу наогул. Дадзена згода на выданне кнігі перакладаў (з'ява досыць рэдкая) — і вось пачынаецца ліхаманка. Буйныя рэчы, як той самы «Чайльд Гарольд», трэба перакладаць гады. А час не чакае. Таму рэч даецца некалькім майстрам. Інача проста немагчыма. І вось людзі бяруць на свае плечы велічэзную працу, але ў розных раздзелах усё ж заўважаецца рознастылёвасць.

У гэтым няма правіны людзей, таму што нельга двум майстрам зрабіць з аднаго ўзору дзве цалкам аднолькавыя вазы.

Глядзіце самі.

Во! стук падкоў і кліч трубы не слабне,
Зямлю калоцяць бою перуны.
Ці ж не відаць вам, як дымяцца шаблі
І гіне брат і сын ваш без віны?
Хто быў апошні разбуральнік храма,
Свяцілішча Палады на гарах?
Хто той грабежнік, што з калон і брамаў
Скульптуры краў і помнікі ў мурах?

Растуць, мацнеюць разам з ветрам крылы,
Зноў пачынаюць свой адвечны рух
І шумна абтрасаюць прах магілы,
Кайданы, што трымалі ў пастцы дух.

Хачу дамоў. Яе, маю шыпшыну —
Брытанію, штоночы бачу ў сне.
Няўжо я там забыт? Няўжо чужына
Прытулак вечны дасць бадзягу мне?

Чуеце? Адзін памер, аднолькавы выбух страсці, нават адна настройка. І толькі струны, струны аднолькавага «ля» гучаць розна. Бо не знайшлося яшчэ

майстра, які здолеў бы зрабіць дзве ў свеце аднолькавыя струны. Бо нікому яшчэ не ўдавалася не толькі народ зрабіць аднолькавым ва ўсіх асобах, што складаюць яго, але і двух людзей зрабіць духоўнымі блізнятамі. Нельга забываць гэтага.

І ўсё ж зроблена ўсё магчымае, каб паэма была адной суцэльнай брылай. «Чайльд Гарольд» перакладзены добра, а асобныя месцы (адно з іх — бой быкоў з першай песні) — проста выдатна.

Хацелася б сказаць некалькі слоў аб перакладзеным Максімам Лужаніным «Прароцтве Дантэ».

Праца зроблена на дастаткова высокім мастацкім узроўні, і гэта асабліва прыемна таму, што Дантава тэрцына (у Байрана яе метрыка трошкі парушана) з яе пяцістопным ямбам і пераплеценай, ланцужна-неразрыўнай рыфмоўкай — памер вельмі, надзвычай складаны, памер, якім не кожны паэт можа рызыкнуць.

Да нешматлікіх агрэхаў гэтага перакладу трэба аднесці толькі тое, што ў некаторых месцах трайная рыфма недакладная. У Дантэ — гэта сталь і жалеза, нягледзячы на амаль нечалавечую складанасць пляцення.

Прывяду прыклад у выдатным рускім перакладзе М. Лазінскага (на беларускую мову «Боская камедыя» пакуль не перакладзена). Гэта з песні трэцяй: «Брама пекла. Нікчэмныя», тыя, што «прожили, не зная ни славы, ни позора смертных дел»:

И смертный час для них
недостижим,
И эта жизнь настолько нестерпима,
Что все другое было б легче им.
Их память на земле
невоскресима;
От них и суд и милость отошли.
Они не стоят слов: взгляни — и мимо!
И я, взглянув, увидел стяг вдали.

Або яшчэ больш дакладна:

И понял я, что здесь вопят от боли
Ничтожные, которых не возьмут
Ни бог, ни супостаты божьей воли.
Вовек не живший, этот жалкий люд
Бежал нагим, кусаемый слепнями
И осами, роившимися тут.
Кровь, между слез, с их лиц текла струями.

Байран у «Прароцтве» ішоў шляхам Дантэ. І рап-там у дакладнага, скрупулёзнага паэта, які сапраўды можа «вылепіць з гліны Адама», мы сустракаем та-кую, напрыклад, трайную рыфму: «дух — круг — уладару»; або «прах — рацъ — карацъ», «імкнуўся я — праяў — яхт» і г. д.

Глядзіце, як гэта добра перакладзена па сэнсе і якая недакладная рыфма («узвышаў — знішчаць — вачам») шкодзіць агульнаму ўражанню:

Вачмі любві ўглядаўся з-пад павек
І шчыраю душою узвышаў
Нікчэмнасць, што расплоджваецца век,
Каб панаваць і добрае знішчаць,—
Што ён зрабіў, каб гэткі мець прысуд?
Ці ж не хапіла б тым смутным вачам
Кахання безнадзейнага пакут?

А ўвогуле, паўтараю, гэта дакладны, грунтоўна пабудаваны пераклад.

Пакідае надзвычай добрае ўражанне работа Ула-дзіміра Дубоўкі над «Шыльёнскім вязнем», гэтай пе-сняй мужнасці і тугі. Добра перакладзены той стры-мана-грозны, прароцкі тэмп, якім вызначаецца гэтая паэма:

Бо пры святле астрожных крат
Чужым здаваўся нават брат.
Нас разлучыў, скаваў ланцуг,
Але злучала сэрца, дух.
Нам забаронены былі
Акрасы неба і зямлі,
Ды вораг мову ўзяць не мог,
Яна лунала праз астрог.

Ягоны ж пераклад «Каіна» — сур'ёзная, вельмі разумная і таленавітая работа... Люцыфар — дзіва! Яго словы пра бога — цуд!

Няхай на зоры ён грувасціць зоры,
Усё ж самотны ён,
спрадвечны дэспат.

І як ён адразу перастае быць вялікім, як толькі паспрабуе ўкленчання. І пратэст супроць бога, які не дае людзям Пладоў Жыцця, каб яны не зрабіліся падобныя да багоў. І вера, што той, хто ўладае праўдай, павінен раздзяляць яе на ўсіх. І пакаранне за гэта імкненне Чалавека да ісціны. І пратэст супроць улады смерці над жывымі — усё вельмі добра.

Я дагэтуль трызню размовай Каіна і Авеля. Апошні — такая ханжа і нуда, што я, шчыра кажучы, забіў бы яго на другой старонцы, не чакаючы дзесятай.

Я забыў нават трохі сухаватыя першыя строфы «Бронзавага веку» і рагатаў, чытаючы раздзелы аб кангрэсе, ганьбе Вероны, аб Англіі і Аляксандры Першым. Вось гэта гнеў, вось гэта сарказм, вось гэта сіла!

Дубоўка паказаў, якія разнастайныя рэчы ён можа рабіць. І бліскуча рабіць.

Я казаў ужо, што пераклады Язэпа Семяжона — мая слабасць. «Бепа» — самы чароўны пераклад ва ўсёй кнізе. Лёгкі, натуральны, трохі фрывольны. Ніякай скутасці. Вясёлая, балбатлівая гамонка, як бег крынічкі па жвіры. І раптам — бізуном, дзягай!

Вось ён і з'явіўся, беларускі Байран. Нам патрэбны беларускі Дантэ, беларускі Гётэ... Без «Фаўста» і «Боскай камедыі» не можа абыходзіцца нічыя літаратура. І справа нават не ў Дантэ і Гётэ. Справа ў нас. Трэба гэта зрабіць для сябе, для ўзбагачэння сваёй мовы, для яе гнуткасці, шматфарбнасці, зіхацення, светаноснасці. Таму пераклад Байрана — крок, які нельга пераацаніць.

Добра афармленая, з выразнымі гравюрамі мастака П. Аляксеева, гэтая кніга стала неабходнай кнігай, асабліва на стале маладога чалавека. Таму што Байран — вечная любоў усіх узростаў, а асабліва юнага.

Мы любім яго сяброў, ненавідзім яго ворагаў. Але асабліва любім яго самога. Па многіх прычынах, але галоўным чынам таму, што ён — наш сучаснік, чалавек, які стаяў за лудзітаў, за грэкаў, за вольных, за прыгнечаных.

Ягоная творчасць вучыць любві да радзімы і волі, вучыць сумленню, нянавісці да клерыкалаў, да ханжаў, да поскудзі, да філістэраў, да гнілога быдла, якое церпіць выспяткі, да добраахвотных халопаў, што цалуюць чужынскія рукі. Яна непрымірымая ў нянавісці, бо любіць людзей.

Ці ж гэта не наш сучаснік? Вось аб капітале:

Вы згінеце, як знізіцца цана!
Для вас жыццё шчаслівае — вайна.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад думкі той вам галава баліць,
Што бедны стане лепш на свеце жыць.
Лягчэй людзям,— тлумачыце вы нам,—
Калі ўсе грошы аддадуць панам.

Вось аб манархах, якія хочуць вайны:

Лепш меч на плуг табе перакаваць,
Лепш цаліну пустэльную ўзараць,
Ад рабства вызваліць народ лепш свой,
Чым кідацца туды сторч галавой.

Аб дыктатарах:

Гарачка ўлады кінулася ў кроў
Стваральнікаў вучэнняў і дактрынаў,
Правадыроў, паэтаў, дзеячоў.
І ўсе яны, вялікія мужчыны,
Дурней за тых, каго дурыць павінны.
Зайздросцяць ім. О божа мой, чаму?
Каб чалавецтва глянула ў глыбіні
Такой душы, падобнай на турму,—
Не трэба славы ззяння век было б яму.

Аб рэвалюцыях:

Стаіла страсць у логвішчы дыханне,
Ды пройдзе час — паўстане гневу раць,
І права помсты, кары й даравання
І сёння не прымусіць нас чакаць.

Байран верыў у справядлівасць для мільёнаў. Верыў у тое, што ў нядолі, у грубай сілы, рабаўнікоў, здзерцаў, гвалтаўнікоў і ашуканцаў нядоўгі век.

Ён быў атэіст. Гаворачы пра славу бога, ён разумеў славу і сілу праўды, якая робіць магутным нават слабога і пакрыўджанага.

І нам трэба падзякаваць перакладчыкам за тое, што яны данеслі да нас золата радкоў вялікага англічаніна.

Не, не англічаніна. Вялікага чалавека, які аднолькава належыць усім мовам і ўсім народам зямлі.

Невялічкая кніга ў мяцежнай, барвяна-чорнай вокладцы, кніга на нашай, на маёй і тваёй, чытач, роднай мове сведчыць аб гэтым.

## «БЕТХОВЕН Б'Е Ў ДАЛОНІ...»

Мы з даўніх часоў шануем і любім братнюю паэзію Украіны. Сяброўства гэтае — праверанае часам, небяспекай, а бывала так, што і крывёй, пралітай супроць агульнага ворага. Былі часы, калі ў мужыцкай вайне ехалі перад казацкімі загонамі сляпыя кабзары, а перад беларускімі — сляпыя дудары і лірнікі. Яны былі сляпыя, але відушчыя сэрцам і добра разумелі адзін аднаго.

Час ішоў. Даводзілася нашым паэтам разам сядзець у картуз-бярозах, разам партызаніць. Усё было. Але сяброўства наша прымушала шукаць адзін аднаго і чытаць адзін аднаго, разумеючы сябра сэрцам.

Аб усёй маладой украінскай паэзіі не напішаш. Гэта — работа складаная. І мы часцей за ўсё пішам аб тых, хто нам падабаецца. Як сказаў той паэт, пра якога я хачу гаварыць, у сваёй мініяцюры «Краплина»:

Над чиеюсь нудьгою безглуздою,
над чимсь дріб'язковим горем —
я рікою лечу
розгнузданою,
щоб скоріше злитися з морем...
Хвиль моїх не шукай серед моря:
в морі я — лиш мала краплина,
як сльоза від великого горя,
як між людством одна людина.

Маладая ўкраінская паэзія вялікая. Але я ўсё ж паспрабую аддзяліць ад гэтага мора адну кроплю і паказаць чытачу «Полымя», як яна іскрыцца, якой яна чыстай вады.

Размова пойдзе пра апошнюю кнігу Уладзіміра Лучука, львоўскага маладога паэта.

Магу ганарыцца тым, што ён мой завочны добры сябра. На жаль, падзеі апошняга года не далі мне магчымасці сур'ёзна ўзяцца за пераклад ягоных вершаў, пазнаёміць з імі нашага чытача. Але ўсё яшчэ наперадзе.

Чытаю ягоныя вершы — і ён, здаецца, добра знаёмы мне. І не толькі ён, а яшчэ і заходнеўкраінская зямля. Таму што ён — сапраўдны яе сын і без яе не ўяўляе ні сябе, ні сваёй паэзіі.

У параўнанні з папярэднімі сваімі кнігамі ў новым зборніку Лучук моцна, значна вырас.

Што сказаць аб новай яго кнізе? Перш за ўсё, гэта добрая кніга. І яшчэ — гэта кніга народная і інтэрнацыянальная адначасова. Таму што без разумення душы свайго народа — суседа не зразумееш. Я прачытаў яе, і хоць я і не навічок у блуканні па паэтычных украінскіх сцежках — мне здалося, я лепей зразумеў і Львоў (у якім мне не даводзілася бываць), і людзей гэтай зямлі, і Маркіяна Шашкевіча, заклапочанага лёсам Галіччыны і яе словам, і Івана Франко, і вадаспады Прута, і многае-многае іншае. А гэта азначае — кніжка дасягнула мэты. Бо менавіта так ідзе знаёмства між суседзямі. Бо паэзія — гэта зведанне душ, і выхаванне душ, і крык душ; і калі хочаш ведаць суседа — ведай перш за ўсё яго паэзію.

Я не скажу, што гэты зборнік без недахопаў. Так не бывае, асабліва калі палову недахопаў складаюць недахопы росту. Ёсць вершы проста слабыя, накшталт верша «Мое небо», ёсць псеўдафіласофскія, накшталт «Вогнища на шляху», ёсць і проста рытарычныя. Вось, напрыклад:

Я живу на долоні сторіч,
щоб збагнути
чуття незбагнуті
і розплутати
жмут протиріч,
щоб з минулих сторіч
простягнуті.

Звычайная гульня словам, якое не нясе поўнай нагрузкі.

Але гаварыць пра гэтыя вершы не хочацца. Хочацца хутчэй перайсці да таго, што радасна здзіўляе, аб чым гаварыць заўсёды прыемна,— да цуда сапраўднай высокай паэзіі, якая абпальвае паэта «рудым старукім полымем», «як клён на вятры», якая адмаўляе бязвольнасць, абыякавасць і жорсткасць.

У Лучука, як у кожнага сапраўднага паэта, выключны слых, які адрознівае ўсе сем фарбаў гукаў, выключнае пачуццё да дэталі, калі «сіне глядзяць на шлях з-пад зялёных далоняў ільны», выключны зрок, зрок мастака, які ведае, што цені ад прадметаў рознакаляровыя (мастакі гэта ведаюць даўно, а многія з паэтаў, на жаль, пачынаюць разумець толькі цяпер). Паэт ведае, што ад полымя — чырвоны цень, ад голуба — шызы, ад клёна — зялёны, і прымае ўсе роз-

накаляровыя цені, акрамя аднаго — чорнага ценю ад подлага чалавека.

Але гэта не галоўнае. Галоўнае, без чаго немагчыма ўявіць сабе паэта, гэта добрае, шырокае сэрца, адкрытае ўсім радасцям і гаротам, усяму дабру і злу свету. Гэтае сэрца не можа быць абыякавае. Яно смяецца з людзьмі, шкадуе і любіць іх, і кожны боль кожнага чалавека асядае на яго, як на растрывожаную, адкрытую рану.

Добры (нягледзячы на трохі няўдалую, зніжаную канцоўку) верш «Відозва до лікарів» і верш «Родильний будинок», дзе паэт з такой пяшчотай гаворыць аб ружовай пупышцы кулачка свайго трохдзённага сына, таксама паднятай у пратэсце супроць смерці разам з кулаком Хікмета і парэпаным кулаком калгасніцы. Добры і радасны верш «Сніжички» («Пралескі»), у якім кветкі скачуць з сакавікам і плюхаюцца белымі ручкамі ў сонечнай палонцы.

Але, безумоўна, самы добры і трывожны верш зборніка — «Роси». Ёсць радкі проста выключныя. Вось слухайце:

Удосвіта, як небокрай напне малинову запаску,
як збудиться жайворонок, з долини туман дихне,
виходжу на чисте поле, вітрам повідаю казку —
і плачуть, і плачуть хмари,
і слухають роси мене.

Ті роси збираю в долоні.
Цілую: солонуваті,
неначе вони — не роси, а сльози, що впали з віч.
...Орали снаряди землю,
косили жита автомати.
Снопами бійці лягали...
Спіткнувся. Ніч.

Часам бываюць у жыцці чалавека радасныя нечаканасці. Я нядаўна «знайшоў сякеру пад лавай» — адкрыў для сябе польскага паэта Цыпрыяна Норвіда. А адкрыўшы — літаральна закахаўся ў яго вершы. І вось, чытаючы «Роси», я ўвесь час лавіў сябе на думцы, што недзе я чытаў вершы такога самага запалу, сілы, чалавечнасці, хоць і зусім непадобныя. Потым успомніў. Гэта была «Жалобная рапсодыя на смерць Бема» Норвіда.

Паўтараю, гэта было зусім непадобна. Але гэта было і падобна вышэйшым падабенствам, бо абодва вершы нарадзіў аднолькавы боль па загубленых чалавечых жыццях.

— Де він? — у трави питаю.
Питаю: — Де він? — у жита.
— Де? — у пташок питаю.
Питаю про це — в людей.
...А сонце, умите, чисте,
червоно встае над світом...
День.

Шмат добрых вершаў у зборніку. Вось «Сповідь Маркіяна Шашкевича...» — верш пра папа, які здолеў стаць паэтам, а ўласна — верш пра мову:

Русалкою ж дністровою в Дністрі —
дивіться! — рідна пісня потопае,
летять на неі хвилі отупіння —
ось-ось — і захлинеться, і впаде
на дно, як камінь...
Кашляння і хрип.
І глянуло майбутне на амвон,
не на попа — на віщого поета.
Бо що попи, факіри і міністри,
розбійники і блазні — що, скажи? —
перед словами, що схопіли вічність?
— Русалка випливае із Дністра!

Высокі лаканізм, якога так не хапае многім!

І я па-харошаму зайздрошчу сябру, які мог сказаць так.

Аматары лірыкі, аматары слова і вобраза шмат знойдуць для сябе ў гэтым зборніку. Вось гучыць украінская песня...

І, зсунувши могучою рукою
з-над себе
віко гробове,
встае Бетховен,
б'е в долоні,
аж глухнуть вуха у дерев!

Гэта ж трэба так! Глухі Бетховен, глухія воплескі, якія нібы страляюць у вуха,— усё перанесена на дрэвы. Атрымаўся нейкі дзівосны зрух — і вось перад намі яе вялікасць Паэзія.

Як жа гэта цябе азарыла!

Так, як і ў гэтым здзіўленні, што зямля, людзі і неба могуць жыць без цябе, а ты без іх — не можаш, як і ў тым, што пры позірку на прыгожую дзяўчыну цудам адрастаюць на руках «музычныя пальцы».

Або вось «Водопад». Гэта не проста вадаспад, гэта «Прут послизнувся з обрива!». А круча абыякава глядзіць на яго — «така, як ти, коли я проходжу мимо».

Лірыка прыроды, лірыка кахання ў паэта — чыстая, добрая, празрыстая, як неба, пявучая, як скрыпка.

Вы самі толькі што чулі яе музычнасць.

Я прачытаў гэты зборнік з радасцю. Сучасная маладая ўкраінская паэзія — з'ява такая ўцешная і радасная, што ёй, кажучы словамі Лучука, «Бетховен б'е в долоні».

Я ўсцешаны тым, што наша зямля ўкрываецца такой паэзіяй.

Паўсюль: ад Тбілісі да Таліна, ад Рыгі да Тувы.

Ад Львова да Мінска.

І радасна, што авейвае мяне сумленнае полымя.

Полымя сапраўднай паэзіі.

## КРЭСІВА. ІСКРЫ. АГОНЬ

Памятаеце, прыдбаў андэрсенаўскі салдат цудоўнае крэсіва? Ударыш ім — і спраўдзіцца нават немагчымае. Вось прыблізна ў гэткім стане і я. У руцэ ў мяне «Крэсіва», кніга вершаў паэта Васіля Зуёнка. Але спачатку некалькі заўваг. Занадта, бадай, дэкларатыўны першы верш зборніка — «Мільёны год». Нягледзячы нават на пругкі рытм і някепскую канцоўку (што, увогуле, для невялікага верша зусім няблага). Але такі ўжо ў нас звычай: напхаць у пачатак кнігі самых сярэдніх вершаў. Нібы адчэпнага даць: за сярэднасць не лаюць, то вось вам пад удар пешку, абы зберагаліся фігуры другой лініі.

Некаторая спрошчанасць верша «З вайны сустрэлі мацяркі сыноў» — таксама не радуе. Боль ва ўсіх аднолькавы, калі сын не вярнуўся з вайны. Ды толькі гаварыць пра яго трэба кожны раз іначай. Калі гэтага няма — тады ўвогуле не трэба. Васіль Зуёнак гэта ведае. Ведае хаця б таму, што побач стаіць верш «Помнік», дзе гэтая адметнасць зроку выяўлена высакародна, па-свойму, сапраўды па-народнаму.

Перад намі паэт. Паэт адметны, свежы, паэт са сваім зрокам, са сваім адкрытым гукам жыцця, слыхам і адкрытым болю і любві сэрцам.

Няма патрэбы тлумачыць розніцу паміж паэтам і нейкім іншым чалавекам. Усе ведаюць, напрыклад, са школьнага курсу фізікі, што чалавек, падскочыўшы, штурхае нагамі шар зямны, і той не адкочваецца толькі таму, што неверагодная розніца ў масе, але ўзаемадзеянне між чалавечым целам і зямлёй — роўнае. Усе ведаюць, і ўсе, каму гэта не спатрэбілася ў пасляшкольным жыцці,— забываюць. Але ніхто з тых, хто прачытае верш паэта,— не здолее забыць. Паэзія запамінальная да смерці.

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем —
Ля Халопеніч,
                на Беларусі.
Ніхто не пачуў —
Ні людзі,
        ні травы,
                ні вецер...
Ніхто.
А шар зямны
Здрыгануўся.

Гэта не ілюстрацыя да закону фізікі. Дзеля гэтага трэба было самому ляжаць пад той яблыняй і адчуць, як яблык упаў у траву, як азвалася — гулка на дасвецці — зямля. Трэба было, каб, як ад кожнай сапраўднай паэзіі, здрыгануўся не толькі шар зямны, але і сэрца таго, хто чытае. А калі чытаеш і мурашкі бягуць па спіне, гэта і ёсць — яе вялікасць Паэзія.

Хочацца сказаць аб галоўнай якасці паэзіі В. Зуёнка. Якасць гэтая — сапраўдная чалавечая дабрата, той гуманізм, якому павінна вучыць паэзія і дзеля якога яна толькі і існуе на зямлі.

Ён у паэта ва ўсім. Птушкі недаверліва злятаюць з гнёздаў, і чалавек, каб не астылі гнёзды, ідзе прэч. Ён ведае, што іх занадта многа крыўдзілі. Адкуль ім ведаць, што паэт здатны «піць з жураўлямі піва», што ён «свой»? У недаверы птушак — той недавер, які занадта часта існаваў між людзьмі ў гісторыі і якога не павінна існаваць. Таму што чалавецтва стала дарослае і недавер пахне смерцю. І гэтая дабрата і ўсёразуменне ў аўтара «Крэсіва» паўсюль. У вершы «Добры прыезд». У ненадакучлівай філасофічнасці «Часа абнаўлення, часа вяртання». Словам, Васіль Зуёнак з тых, хто стаў бы нарогам, рунню, дажджом, хлебам і, урэшце, зноў чалавекам.

Духмяных бы лустаў накроіў:
Прыходзьце —
Усе,
    хто не снедаў.
Хто полудзень меў упрыглядку,
Хто ноч сустракае нішчымна,—
Прыходзьце.

У маленькай кніжцы шмат вершаў з сапраўды глыбокай філасафічнасцю. Так, ёю: бо сказанае аб простасці, чысціні, празрыстасці зусім не выключае складанасці. І не выключае глыбокага майстэрства. Напрыклад, у найтанчэйшым па інструментоўцы вершы «Успамін».

Завіхалася,
        шчыравала,
Абдымала ды мілавала...
О, рукі,
Рукі ў ільняной старонцы...
Духмянасць поля і гарачнасць
                сонца...
Мачулішча —
        блакіт палёў,
Нябёс,
Блакіт вачэй —
        блакіт туманны
Слёз.

Падобнае за апошні час нячаста даводзілася бачыць. А тут тое сустракаем у вельмі асацыятыўным, часам нават занадта ўскладнёным вершы «Ралля — аснова». Шукаць, урэшце, трэба і тут. На кожнай сцежцы нашай паэзіі. І паэт шукае.

Ніхто чамусьці не задумаўся, а чаму ў нас малавата вершаў на так званую «рабочую» тэматыку і чаму яны не заўсёды першакласныя па якасці? Якая таму прычына? Можа, яна ў тым, што праца, скажам, селяніна, рыбака, паляўнічага апаэтызавана самім шматтысячагадовым існаваннем паэзіі, што вакол яе традыцыя, звычкі, вакол яе — народная песня, прырода, што жыццё горада, жыццё завода здаецца, па неабходнасці, нівеліраваным. А можа, прычына ў тым, што мы гаворым пра паэзію «сялянскую», «рабочую», паэзію «для нешматлікіх» (глупства якое!!!) і пры тым забываемся на тое, што існуе адна паэзія — чалавечая і дзеля чалавека, у неадрыўным адзінстве і ў разнастайнасці почыркаў.

І вось перад намі вершы: «Над лесам — заводскія гмахі», а найперш — «Соль», ледзь не найлеп-

шы ў зборніку, сапраўдны гімн працы і чалавеку.

Не ад сонца ідзём у глыбіні —
Па сонца ідзём.
Сонца гіне:
У кайданы крышталёў
закута —
Ляжыць у падземных закутках.
Ідзём —
магутныя —
Вызваліць брата
З-за кратаў.

Немагчыма працытаваць увесь верш з вольнай і мужнай яго інтанацыяй. Трэба прачытаць самому.

Яшчэ адной якасцю паэта ёсць — трывалая і дыхтоўная, моцная народная стыхія. Я пазнаю гэтыя радкі нават у перакладзе: па тыпова беларускай, вясковай пяшчоце і мяккасці, па адной гэтай падзяцы:

...Дзякуй, яблынька,
дзякуй, белая,
За казку...

Гэта тая дабрата і ласкавасць супакутавання, якая пераварочвае душу, калі бачыш аднаногага салдата ў лазні, які не пусціў з сабою на паліцу хромавую нагу. Гэта дабрата да тых, хто ў небыцці, але гэта яшчэ і дабрата трывогі, папярэджання, мужнасці, як у адным з найлепшых вершаў зборніка «Ідуць дажджы»:

Ідуць дажджы...
І ліст лілеі
Над смерцю рыб —
хаўтурны стол.

Ідуць...
і стронцыю ўдары
Цвікі у труны
б'юць і б'юць...
А ў небе хмары,
хмары,
хмары...
Ідуць дажджы...
Дажджы ідуць.

Народная стыхія паэтава яшчэ і ў спеўнасці. Не ў той, што нараджае шлягеры, а ў той, што бярэ інструментоўку народнага — «Шчыравала пчала» — і надае ўсяму гэтаму сучасны змест. І гэта больш сучасна, чым вольны верш, які кананізавалі некаторыя з нашых паэтаў.

Вершы «Калі б так проста кахалася», «Я не ведаю

дзень той», «Прадвесне», «На Начы», «Чырвоныя ветры» — сучасныя.

І шмат яшчэ чаго з народнай стыхіі ёсць у творчасці В. Зуёнка. Гэта і гонар чалавека, які «жыве сяўбой, бярэ сяўбой». І страсная любоў да роднай прыроды, уменне пісаць аб ёй так, што верш хвалюе, як яна сама. Вось выезд восені:

Лейцы верасень сплёў з павуціны,
Пугу звіў кастрычнік з пянькі,
Лістапад
лісця ў воз падкінуў,—
Паганяй!
Нацянькі!
Едзе восень,
глядзіць задаволена,
Як ляцяць ад яе і бягуць,
Як чарот ліхаманіць ад золі,
Як ірве з багнішча нагу —
Уцякаць сабраўся мачэўнік...
Ды не ўцёк — падвялі карані.
Едзе восень —
па пнях, па карчэўю...
Едзе восень
на рабым кані.

Гэта — сарказм і іронія («Каменная філасофія», «Стары цэцярук»). І цудоўная лірыка разлукі і кахання, то гарачая, то празрыстая і чыстая снегавой беллю («Ля далёкіх паўстанкаў»). І тое ж язычаскае «Нахіляўся, як дзікі лясун»,— з такой нечаканай і таму поўнай чароўнасці празаічнай канцоўкай.

Чалавек, які сказаў, што кнігаўкі — трыццатае калена марскіх чаек і — рыдаюць, бо трызняць аб назаўсёды страчаным моры, гэты чалавек — паэт. Ён паэт, бо сказаў пра зялёную поўню, што праз тыдзень выйдзе над лесам, што хмарка і верабей б'юць крыламі, купаючыся ў лужыне.

Але нават каб нічога не было напісана, акрамя верша «Тры вышыні, тры сілы знаю ў лесе»,— аднаго з найлепшых за апошнія гады, пра які гаварыць і гаварыць бы асобна — хапіла б і яго. Філасофія, глыбіня, сіла высакароднага сімвалу. Верш, над якім думаць і думаць, перажываць і перажываць. Верш з соснамі, рабрыстымі, як здані, ад падсочкі, з соснамі, што пазбаўлены жывіцы, крыві — чаму і знікае смольны дух з хат, звонкасць — з цымбал, вышыня думкі — у паэтаў. Цудоўны, высокі верш, які якраз і сцвяр-

джае, што не знікае і не знікне вышыня думкі ў сапраўдных паэтаў.

Хацелася б напаследак пажадаць маладому аўтару доўгага шчаслівага, добрага шляху. Каб яго крэсіва заўжды высякала, распальвала сапраўдны, святы агонь паэзіі.

## ДА НОВЫХ, ЯШЧЭ ШЫРЭЙШЫХ ДАЛЯГЛЯДАЎ

Возьмем звычайную геаграфічную карту свету. І паглядзім, як адчувае сябе на ёй кожны пісьменнік і кожная літаратура. У прасторы і часе. Пра якія саслоўі, праслойкі і класы гавораць гэты пісьменнік, гэтая літаратура. У якіх краінах жывуць людзі, створаныя аўтарамі гэтай літаратуры. Якіх пісьменнікаў з далёкіх і блізкіх земляў хочуць наблізіць да свайго народа, зрабіць яму роднымі творцы гэтай літаратуры.

Руская літаратура, напрыклад, асабліва з эпохі Пушкіна, аднолькава вольна адчувала сябе ў Англіі і Германіі, Іспаніі і Францыі. Яна і пісала пра гэтыя і іншыя краіны і, шматлікімі перакладамі, зрабіла так, што для рускіх чытачоў сталі даступнымі многія і многія тысячы кніг. Практычна — усё вартае з духоўнага багацця, накопленага чалавецтвам.

Беларуская літаратура да Багдановіча была лакальная, за рэдкімі выключэннямі гаварыла толькі пра Беларусь. Аўтары яе перакладалі вельмі мала і скупа. І гэта наклала на наша прыгожае пісьменства адбітак нейкай недавершанасці і абдзеленасці. З часоў Вялікага Максіма шмат змянілася. З'явіліся многія сотні перакладаў, пачасту вельмі добрых. З'явіліся дзесяткі перакладчыкаў, часам выдатных. Нябожчык С. Маршак сам (магчыма, з некаторай дозай аўтарскай сціпласці) сказаў, што пераклады Р. Бёрнса, зробленыя Я. Семяжонам, лепшыя, чым у яго. А «Гамлет» і «Лір» у перакладзе Ю. Гаўрука! А пераклады М. Танка, Я. Брыля, Э. Агняцвет, А. Куляшова (называю першае, што прыходзіць да галавы)! А цудоўны беларускі Байран! А Лорка ў перакладзе Р. Барадуліна! І на падыходзе «Фаўст», перакладзены В. Сёмухам.

З вялікай прыемнасцю мы ўзялі ў рукі першую кнігу літаратурна-мастацкага зборніка «Даляглядьі», у якім змешчаны пераклады літаратурных твораў многіх народаў свету. Уласна кажучы, яго трэба на зваць «Даляглядьі — 1975», таму што пакуль ён адзін такі і выйшаў. Першынец. Адзін за год...

Трэба адразу сказаць, што тут атрымаўся зусім не «першы блін». Многа і старанна папрацавала рэдкалегія, пераклады на добрым, часам нават на выдатным узроўні. Пастараліся таксама і паліграфісты.

Яшчэ раз пераглядаючы прачытаную ўжо кніжку, хочацца сказаць з самага пачатку, што даты 1945—1975 да многага абавязвалі ўкладальнікаў. Вайна — гэта асколак, які і дагэтуль сядзіць у калясардэчнай сумцы кожнага з нас.

...А. Твардоўскі: «Той дзень, як скончана вайна». Магутны талент паэта захапляў і пры яго жыцці, а цяпер і пагатоў. Журботная памяць людзей заўжды ўзвышае паэта. І таму трэба мець вялікую смеласць, каб наважыцца на пераклад мастака такога маштабу. І — талент. Падзякуем Міколу Аўрамчыку (ён, дарэчы, пераклаў і «Ты помніш, Алёша, дарогі Смаленшчыны» К. Сіманава), які мае і тое, і другое. Пераклады яго ўсхваляваныя і дакладныя. А гэта цяжка, калі вершы тыя з дзяцінства ведаеш на памяць. Але тут перакладчыку турбавацца няма чаго. Працу ягоную варта памянуць добрым словам. Хай вершы гучаць нязвыкла — не страчана нічога важлівага з таго, што казаў арыгінал:

«Мы вас пачакаем!» — казалі
загоны нам.
«Мы вас пачакаем!» — казалі лясы.
Ты знаеш, Алёша, здаецца мне поначы,
Што следам за мной іх ідуць галасы.

І зноў вайна. М. Шолахаў: «Яны змагаліся за Радзіму». У перакладзе М. Лужаніна, раздзелы з рамана. Таксама даўно знаёмая і таму надта адказная для перакладчыкаў рэч. Але і тут добра. Несумненная ўдача ў стэпавых пейзажах, у малюнку хутара над рэчкай. А лепш за ўсё — Лапахін. Так добра перададзены яго то з'едлівы, то хуткі, то злоснапавольны, то проста з лютым гумарком, а то і вясёлы, балбатлівы гаварок разумніка-салдата. І яшчэ — баб-

ка з яе крыклівасцю, бурчаннем. Такая — як мноства вясковых бабак. Гэтыя моўныя адметнасці, гэтыя дыялектызмы. М. Лужанін справіўся са сваёй задачай грунтоўна, хаця і не без непазбежных страт. Што ж, мы даўно, яшчэ з даваенных часоў, ведаем яго як добрага перакладчыка.

Вельмі дакладны і паэтычны пераклад «Паэзіі» У. Бранеўскага даў нам Ю. Гаўрук:

Калі арфу скамандуюць выбраць,
каб развеяць пякельныя хмары,
сабе жылы гатовы мы выдраць
і па іх, як па струнах, ударыць.
Трэба песняю біць аж да смерці,
знішчыць кодлішча гадаў варожых.
Пэўна ж, ёсць справядлівасць
на свеце,
ёсць — любоў — і яна пераможа.
Вось тады дай слоў самых сардэчных,
найцішэйшых і поўных павагі,
а памерлых укрые хай вечнасць,
як парваныя віхрамі сцягі.

...Першы агрэх. Нехта не ўсё добра прадумаў. Чаму Тадэвушу Ружэвічу такі гонар, што ён мае біяграфію перад сваім цудоўным апавяданнем «Сыны», а, скажам, Яўген Гуцала, той жа Бранеўскі і многія іншыя такога гонару не маюць? Скажам, Шолахаў не мае ў гэтым патрэбы, яго і так усе ведаюць. Але — Ян Костра, Данат Шайнэр ці Францэ Прэшэрн? Шмат хто ведае пра іх?

Увогуле, на мой погляд, у наступных кнігах «Даляглядаў» трэба даваць у канцы (як гэта паспяхова робяць часопісы «Маладосць» або «Иностранная литература») кароткае: «Нашы аўтары». Гэта і карысць прынясе, і адначасова не будзе разбіваць асноўнага тэксту.

А пераклад Т. Ружэвіча Янкам Брылём вельмі добры. Выклікаюць пярэчанне толькі некаторыя дэталі. Застрэлілі хлопца. Брат у моргу змочвае вялікі пук газет і запаўняе забітаму чэрап. Каб, значыцца, выглядала «па-людску» ... Ёсць усё ж і для літаратуры забароненыя вобразы. Асабліва калі за іх няспрытна бяруцца. Але гэта закід аўтару вельмі добрага апавядання, а не перакладчыку, якому трэба сказаць ва ўхвалу, што тут ёсць мова. У адрозненне ад некаторых іншых перакладчыкаў, якія ўжываюць не ўласцівыя нашай граматыцы звароты.

Увогуле, «Даляглядь» — подзвіг перакладчыкаў, за гэта ім нашае дзякуй. Бо так мала часу, каб прачытаць такое па-польску, чэшску, славенску.

Дарэчы, чэшская і славацкая паэзія. Усе пераклады выкананы тут добра, на высокім узроўні. Аднак насцярожвае пачасту падбор вершаў. Вітазслаў Незвал, напрыклад, змешчаным у зборніку вершам робіць не зусім тое, што трэба, уражанне. Можна было выбраць штосьці лепшае.

Добра гучаць вершы Іозефа Горы, Станіслава Косткі Неймана, Даната Шайнэра. Дужа ўдалыя і некаторыя пераклады П. Макаля. Напрыклад, «Страхоўка» Андрэя Плаўкі, «Паўстаць» Іозефа Мігалковіча, «Старыя настаўніцы» Войтэха Мігаліка, «Каляндар» і «Вяселле» Міраслава Валека, «Я іду» Штэфана Жары, «Дрэвы» Яна Смрэкі. П. Макаль праявіў добры густ у адборы пісьменнікаў і меў дакладнае перакладчыцкае пяро. Толькі шкада, што не трапілі сюды вершы, скажам, Лаца Навамескага. І яшчэ шкада, што ўкладальнікі абмежаваліся паўсюль толькі сучаснымі паэтамі, не ўключаючы класіку.

Нельга, вядома, у адным зборніку «абняць неабдымнае», але ў наступных — варта падумаць, каб падаць асобных аўтараў і цэлыя літаратуры па магчымасці паўней.

...«На ціхім возеры» Ю. Нагібіна. І апавяданне выдатнае, і пераклад Ф. Янкоўскага таксама. Ёсць дзве-тры недакладнасці. Напрыклад, наколькі я памятаю, у аўтара было «салодкі кліч прыроды», а не «далікатны». Гэта адно з найлепшых апавяданняў аўтара па сваёй чалавечнасці і глыбіні. Таму, што староннi чалавек паказаў нам саміх сябе збоку, падумаў пра нас так, як мы вельмі рэдка думаем пра сябе, і лепей, чым мы самі пра сябе думаем. Мне шмат даводзілася ездзіць і хадзіць па шляхах Беларусі з нашымі гасцямі, і ўсе яны здзіўляліся нашым людзям, а для нас сваё — непрыкметнае. На многае яны прымусілі мяне зірнуць іхнімі вачыма і яшчэ больш палюбіць тое, вышэйшае, імя чаму — Народ.

...На высокім узроўні і пераклады А. Зарыцкага з Луіса Фюрнберга. Але зноў жа здзіўляе (і гэта ў многіх месцах) нібы наўмысны падбор лірыкі рытарычнай.

Пераклады з украінскай таксама на вышыні. Вось «Чэмпіён» Ю. Смоліча, вось «Дружба» А. Галаўко і іншыя, усяго шэсць апавяданняў. Усе пераклаў Леў Салавей. Але, мне здаецца, трэба было б падбіраць на кожную аўтарскую індывідуальнасць — індывідуальнасць перакладчыцкую. Увогуле, да працы над кнігай прыцягнулі занадта малую колькасць людзей, знаўцаў моў. А яшчэ нашто было ўключаць у падборку апавяданні накшталт «Вышыня-206» І. Лэ? Я люблю гэтага пісьменніка, у прыватнасці раман «Налівайка», але гэтае апавяданне папсавана газетчынай і штампамі. Апавяданне напісана даўно — яшчэ, мабыць, у вайну. Тады так можна было пісаць, не да «красот» было. А сёння як чытаецца вось хаця б гэтае:

«У кожнага (з байцоў.— *У. К.*) у вачах гарэў агонь рашучасці і бясстрашша. Усіх забраў бы ды і павёў... на рашучы бой, на славу». «Генерал стаяў і сачыў, як вярталася бясконца дарагое жыццё байцагероя». «Паўтараю: «Клімаў бярэ каманду на сябе, калі раптам мяне заб'юць (хіба забіць можна і «не раптам» — *У. К.*)... Раздольскі і Ліхтэрман сваімі грудзьмі заступаюць шлях пагоні...»

Яшчэ пра тое, што было натуральна ў Даўжэнкі і што не гучыць у яго паслядоўнікаў:

«Ноч сцерагла сарамяжлівую ўдзячнасць юнака, начныя росы абмывалі вочы».

«Вакол рабілася штосьці неверагоднае».

Гэткае «штосьці неверагоднае» ёсць у кожнага з нас. Але трэба адвучвацца. Вось як у вялікага паэта «бясконца дарагі баец-герой» яшчэ ў вайну гаварыў з палкоўнікам, пераплыўшы ледзяную раку:

И с улыбкою неробкой
Говорит тогда боец:
— А еще нельзя ли стопку,
Потому как молодец?

Зразумела, аўтар апавяданняў тут ні пры чым, адказнасць нясе той, хто ўключыў іх у зборнік, выдадзены ў 1975 годзе.

Гэты «ляп» адзін з зусім нешматлікіх у вельмі добрай кнізе. Але на свята вельмі не хочацца, каб на гожым і дарагім твары была «пад носам клякса». Накшталт грузінскага «аула» (с. 111), якіх там звеку не было.

Ці мае права перакладчык «паляпшаць» такія рэчы? Думаю, што, са згоды аўтара, мае. А калі той не разумее такой карысці і не згодзен — тады не трэба перакладаць такое ўвогуле. Так, апавяданне бабкі (с. 112) немагчыма чытаць пасля «Мы з вогненнай вёскі...». І немагчыма ўжо чытаць сцэну бою з танкамі (с. 117), якая нагадвае славутую песню з не менш славутага, неўміручага Швейка.

Добрае ўражанне робіць твор Я. Гуцалы «Стэфка». Тут і перакладчык зрабіў усё. Гэта найлепшы з усіх перакладаў Л. Салаўя, змешчаных у зборніку.

...Не будучы тэарэтыкам у вершаскладанні, нічога не магу сказаць пра санеты Р. Гамзатава ў перакладзе Язэпа Семяжона. Пераклад першакласны, чытаецца з прыемнасцю. Аднак мне хочацца паўтарыць за перакладчыкам, проста сказаць следам за ім аб «спрэчнасці самога з'яўлення формы санета на аварскай мове...».

Сілабіка? Мы ведаем цудоўныя санеты па-французску і па-польску. Вядома ж, адпаведна характару моў.

Іншыя адметнасці аварскай мовы, аж да алітэрацыі і цэзуры,— ну што ж, бывала і гэта. Але традыцыйная для аварцаў адсутнасць «рыфмы ў канцы радка» (Я. Семяжон) — гэта я ўжо не ведаю.

Я. Семяжон перапісвае аварскія «санеты» на еўрапейскі манер, робіць гэта, як заўсёды, вельмі добра. Але гэта не Гамзатаў і не санеты.

Адсутнасць рыфмоўкі ў арыгінале. А што ж тады дасць гэтым творам санетны замок, апошняе, самае важнае двухрадкоўе? Што звяжа санет? Колькасць радкоў? Разбіўка верша на два катрэны і тры тэрцэты (у перакладзе мы і гэтага не бачым).

Санеты пісалі ўсялякія. «Хвастатыя», «безгаловыя», «перакуленыя», але ўсе гэтыя формы не былі класічнай формай санета. А ўжо санет без рыфмы? Не ўяўляецца.

Урэшце, будзем памяркоўныя. Магчыма, мы прысутнічаем пры нараджэнні формы, якую нейкі будучы тэарэтык літаратуры назаве «аварскім санетам». Толькі тады трэба будзе перакладаць такія санеты, не набліжаючы іх да санетаў Шэкспіра (дарэчы, таксама «няправільных»), а так, як яны гучаць на мове арыгінала.

...Перачытваеш наступныя старонкі і прыемна здзіўляешся. «Абрабаваны» Фелікса Піта Радрыгеса ў перакладзе С. Дорскага. Цудоўнае апавяданне ў добрым перакладзе. Вось гэта сапраўды мікракосм і адначасова макракосм, адно ў адным, чаго так не хапае ўсім апавяданням кнігі. Тут увесь свет на некалькіх старонках: абрыдлівы свет грошай — і свет мастацтва, абмежаванасць — і тое, што мы называем «богам у сабе». І прырода, і вялікая душа чалавечая.

Эстонская проза. Перакладчык Ян Скрыган. Ніхто ніколі не сумняваўся ў ягонай мове. І «Маргіналіі» Фрыдэберта Тугласа, і ягоныя «Уцёкі» — гэта хараша (не толькі хораша аўтар выказваў думкі аб тым, як трэба пісаць, але так і напісаў).

А пранізлівы, шчымлівы боль «Халасцяка» Лілі Промет, схаваны за некаторай нават «весялосцю», ад якой хочацца плакаць.

А лірычная свежасць Эрні Крустэна ў апавяданні «Немаўля», уся гэтая старасць і маладосць у вечным бегу, у вечным чаргаванні, у вечнай змене змяркання і дня.

І Васіль Бялоў, прадстаўлены трыма цудоўнымі маленькімі апавяданнямі (пераклад Алены Шарахоўскай). Вельмі ж добра перакладзены няўлоўны бялоўскі гумар, так шчыльна сплецены з лёгкай — а часам і не вельмі лёгкай — журбой.

Лёс рускай вёскі, такі блізкі да лёсу вёскі нашай.

Увогуле, на гэтай кнізе добра відаць адна вельмі адметная рыса: уменне адчуваць строй думкі суседа. Вось жа здолеў Разанаў зразумець «Homo sum» Юсцінаса Марцінкявічуса з яго адметным стылем.

Балгарыя. Аўтар Іван Вострыкаў. Перакладчык У. Анісковіч. «Сашо забівае ваўка». Суцэльны смех праз слёзы.

Уяўляеце вы сабе сімпатычнага брандахлыста, фантазёра, які проста голы кароль? Прачытваючы апавяданне, пранікаешся адчуваннем таго, якая гэта вялікая сіла — бязмежнае, адданае жаночае каханне. Каханне, якое наўрад ці чакае нешта добрае наперадзе.

Зноў Расія. Пераклад Т. Мартыненка «Сцёпкавага кахання» Васіля Шукшына, які так рана пайшоў

ад нас. Пераклад добры. Але тут адна заўвага. Шукшын, мабыць, як ніхто з сучасных рускіх пісьменнікаў, цяжка паддаецца перакладу. Гэтая алтайская, сібірская, папраўдзе руская, самабытная мова патрабуе і нейкіх эквівалентаў у адным з дыялектаў беларускіх.

І яшчэ адна думка. Правамерна, калі перакладаецца руская класіка або сучасная класіка (дадамо да Нагібіна, Бялова і Шукшына яшчэ і цудоўны пераклад «Ручніка с пеўнямі» М. Булгакава, зроблены Я. Скрыганом). Гэта прыносіць карысць самому літаратурнаму працэсу. А вось перакладаць з рускай нешта сярэдняе — па-мойму, няма рацыі.

У «Даляглядах» заўсёды будзе цесна. Тым не менш трэба даваць больш месца мовам, якія нам незразумелыя. Няхай больш гавораць усходнія паэты, паэты Паўднёвай Амерыкі, манголы, грэкі, арабы, японцы, дый ці мала хто яшчэ. Хай «з берагоў Арпачая» часцей далятае да нас голас вялікага варпета — майстра Аверціка Ісаакяна, які з такой сілай данёс да нас у сваіх перакладах Рыгор Барадулін.

Не ведаючы славенскай, не магу меркаваць з пэўнасцю аб якасцях перакладаў Н. Гілевіча. Думаю, што яны дакладныя. Зноў шкада толькі, што няма хаця б слова-другога пра кожнага са славенскіх паэтаў, якія гавораць тут з намі, і ўвогуле пра славенскую паэзію.

Урэшце дабраліся да смеху.

Перакладзены Янкам Брылём «Непрычасаныя думкі» Станіслава Ежы Леца. Тонкі, філігранны, з'едлівы гумар славутага польскага аўтара гучыць і па-беларуску:

«— Калі скажаш «Святых няма!», абражаюцца нават атэісты.

— Калі няма з чаго смяяцца, нараджаюцца сатырыкі...»

Прыклады можна было б множыць і множыць. Але і так відаць, як упрыгожваюць кнігу гэтыя, «непрычасаныя». Шкада, што іх мала. Будзем спадзявацца на тое, што яны з'явяцца і ў новых «Даляглядах». А ўвогуле гэты гумарыстычны раздзел у наступных кніжках трэба пашыраць.

Дабраліся мы ўрэшце, аж на старонцы 259, і да

крытыкі з публіцыстыкай. «Слова пра Івашкевіча» К. Федзіна (добры пераклад А. Кудраўца), грунтоўнае даследаванне Н. Гілевічам балгарскай паэзіі пра апошнюю вайну, вельмі цёплае слова А. Гардзіцкага пра Альбінаса Жукаўскаса, вернага сябра Беларусі.

На жаль, тут малавата дадзена прасторы нашым замежным сябрам. Толькі адзін артыкул славака Душана Слабодніка — пра беларускую прозу. Ды і той — па неабходнасці — малы.

Рыхтуючы наступныя кнігі, трэба пра гэта падумаць. Магчыма, нават заказаць аўтарам з-за мяжы падобныя артыкулы. Трэба падумаць і аб рубрыцы «Пра нас пішуць». У гэтай кнізе яна прадстаўлена толькі змястоўнай публікацыяй Я. Семяжона аб водгуках нямецкага друку на выданні беларускіх твораў у ГДР і вельмі цікавым фрагментам з артыкула Марыі Чурак (Польшча) аб беларускай літаратуры пра другую сусветную вайну і аб успрыманні яе ў Польшчы.

...Ну вось, мы нібыта прайшліся па розных частках свету. Усе яны ў гэтай не дужа вялікай кнізе, якая, аднак, значна пашырыла наш кругагляд.

Зразумела, што яна яшчэ не без недахопаў, але карысць такога выдання — бязмерная.

У той жа час шкада, што ў кнізе няма англічан, італьянцаў, іспанцаў і г. д. Шкада, што няма хаця б малога раздзела перакладаў з класікі іншых народаў.

Так, ёсць хібы. Але ж гэта толькі пачатак вялікай справы: планамерна пазнаваць іншыя краіны і народы. Перадумовы для гэтага ёсць. Патрэбна толькі быць упартымі, увішнымі, працавітымі. Патрэбны школа перакладчыкаў і максімум прыкладзеных да гэтай справы сіл.

# ШЧЫРАВАЛА Ў БАРЫ ПЧАЛА...

Шчыравала ў бары пчала,
Па верхавінах лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы,
Вуллі ў звівы рыхтуючы,
Спакой вулля вартуючы.
Гаравала ў двары ўдава,
Верхавінкі рубаючы,
Малы дзеткі гадуючы,
Спакой хаты — ратуючы.

*Народная песня*

Я не ведаю, мой дружа, ці пяеш ты гэтую песню дакладна так, як я? Але гэта агульная. Наша песня. І так шкада, што Маці твая, мая другая Мама, Куліна Андрэеўна, той песні не дапела.

Калі ласка, не чакай асаблівай ухвалы ў свой адрас. Усе мы — і ты і я — нічога не варты перад талентамі нашых маці. Усё ў нас — ад іх.

Я не меў гонару ведаць твайго бацьку (хіба што на фота ў маленькай тваёй ушацкай хаціне), але маці тваю з найпрыгажэйшымі ў свеце вачыма — я ведаў. І дужа яе любіў — між іншым — і за тое, што яна нарадзіла гэткага таленавітага сына.

Памятаеш, калісьці мы ехалі старой ушацкай дарогай. Сядала сонца. Стаўбуры хвояў зрабіліся ад таго мядзяныя. І ад кожнага старога кургана лёг заходні дзень. Тысячы і тысячы — паўмесяцам — ценяў. Вы тыя курганы называлі «валатоўкамі». Гэта былі магілы волатаў — нашых продкаў.

...Адкрываю тваю новую кнігу — «Свята пчалы». Усё гэта я амаль дваццаць год ведаў. Ад «Маладзіка над стэпам» да «Займішча», да паэм. Але, сабранае ў адно, гэта ў некаторай ступені плён сарака аднаго года твайго жыцця. Як сказаў Дантэ: «Пражыўшы век зямны да палавіны...»

Адгортваю «Маладзік над стэпам» (1959).

Я тады амаль цябе не знаў. Ведаў — ёсць. Ведаў — вершы, якіх пажадаў бы найлепшаму другу. Пажадаў бы — каб гэта я мог — сабе.

Як захлынуўся ад радасці жаўранак...
Як засінелася возера чыстае...
І крапіва маладая стрыкаецца,
Быццам пяшчотны, прыемны ўспамін.
Ем я капусту трыгубую зайцаву,

Гладжу змарожаны ліст журавін..
Сонца гарыць!

Цытаваць цябе амаль нельга! Іначай атрымаецца кніга цытат.

Ведаю бадай што ўсё пра цябе. І кароткае «прыедзе» з верша «Бацьку», і «цётку-жартаўніцу» з верша «Дома», і нават песні, якія яна спявала.

Дарогі нашы — спачатку — былі розныя. У таварным вагоне ты ехаў на цаліну. Я ў ім — беспрытульнічаў. Цябе чакалі цаліна і падкручванне гадзіннікаў і прыгажосць «Вечара над Таболам». Мяне — вайна і адсутнасць нават мары аб гадзінніку і голад на беразе Табола. І ўсё ж вечна перасякаліся нашы шляхі. Нават у «Насцінай кухні».

З гадамі ты, паэт, робішся прасцей. Як маці. Паспрабуй перакласці «Рунець, красавацьь, налівацца», «Нагбом», «Неруш». А пасля (за выключэннем рэцыдыва «Рум») прыходзіць вельмі простае — «Адам і Ева», вячыстая тэма тваёй творчасці.

Што там кажуць аб залішняй складанасці?!

У верасня — свой, асаблівы пах:
Курыць сівец — плыве дымок гаркавы,
Зямлёю пахне бульба у капцах,
Антонаўкамі — зоры па начах,
І туманы — ляжалаю атавай.

Гэта, па-мойму, прасцей за ўсё. Асабліва калі ўспомніш тваю хату, вяз ля варотаў і тое, як двухзубыя ваўчкі чапляюцца за порткі, калі роснай раніцай пройдзешся па бульбянішчы.

Свежасць погляду. Вось, мабыць, самае галоўнае, што ты прынёс. Тое, што кожны з нас стараўся рабіць, але не кожнаму гэта ўдавалася.

Гінулі нашы з табою сябры («Палата мінёраў»). Нас гэта абышло.

Наша пакаленне — дзіўнае. Сумленнае і пакрыўджанае смерцю бацькоў, братоў, таварышаў. Мала радасці ў вершы паэта Рыгора Барадуліна «Труба». Усё адно як Мефістофель трубіць над пажарышчам. Але што было б, калі б не знайшлося хлопца, які мог бы трубіць? На котлішчах. У самых безнадзейных абставінах. І што было б з чалавекам, які не насіў бы пад пахаю пілу, нібы скрыпку («Скрыпачы»)? Які не навучыўся б падмазваць стэарынавай свеч-

кай патэльню пад аладкі, пісаць добрыя вершы...

Ніяк не магу быць бесстаронні да Маці, да Ушацкай зямлі, да Задаброцця, да дзічкі на роднай тваёй Верасовачцы.

Дабраўся толькі да сорак другой старонкі. А іх трыста дзевяноста тры. І невядома, на чым спыніць вока. Ці на парадзелым касяку гусей над борам, ці на Лысоні, якая ветліва махала галавою гасцям?

...Вечна мы спрачаліся за «нагбом» (па-вашаму, ушацку, гэта, мабыць, правільна, бо «нагібам») і за наша, аршанскае, «нагбом». А спрачацца і не было чаго. Бо сувязныя недапілі, усё адно — «нагбом» ці «набгом». Чашу гэтую дапіваць нам. І, як сказаў ты:

Маці,
Не сорамна анідзе
Сынам тваім называцца.

Хочацца цытаваць усю кнігу. Ад бароў, якія валілі інваліды «для ўдоўіх хат», да суседняй «панны Варшавы» і да любай нашай усеагульнай «Сафійкі», да агульнага нашага Вечалля.

А вось радкі гарэзлівыя, свавольныя:

Лілею
        млявы
                плёс
                        люляе,
З-пад злежаных аблок
Здалёк
Ляціць, віхлясты і бялявы,
Пялёстак лёгкі — матылёк

Мабыць, ніхто з паэтаў не пайшоў бы на такое. Нехта казаў мне, што ў «гэтай вытанчанасці занадта вычварнай вытанчанасці» (стыль!), што ў гэтым ёсць «пэўны інфантылізм».

Дазвольце спытаць, чаму такую «дзяцінnasць» мы прабачаем аўтару, «чуждому чарам черному челну», а сабе — не. Харошае свавольства не пашкодзіць ніякай літаратуры. Хутчэй зробіць яе багацей.

Асабліва калі побач «паляць бульбоўнік», калі праз паэта «прарасла Белавежа».

Бадай што, адзіны верш, які не прымаю,— «Мая мова».

Але гэта здаецца не такім важным, калі побач,

на лясной дарозе, дрыжыць «саломінка з абмалочаным каласком...».

Тым болей што побач «Лісток ушацкай восені» з яго мокрай пыскай, тым болей што побач «Беларусь — мая мова і песня».

Перачытваю «латышскі» (і надта ж беларускі) цыкл Рыгора Барадуліна. Любоў і прыхільнасць нашы да гэтай зямлі вядомыя ўсім. Але мне ніколі не даводзілася сказаць пра гэта на сотую долю так моцна, як ён. Мы былі з ім разам і ў «Лesнічоўцы Вэлдзіс», на возеры пад Малтаю раздавалі белыя лілеі латышскім і літоўскім дзяўчатам, бачылі — па вялікім паўколе — агні на беразе Рыжскага заліва. Было «Ліго», Янаў дзень, дзень Яна Купалы.

Інтэрнацыяналізм уласцівы кожнаму з нас. Беларускія паэты разумеюць спевы сібірскіх людзей, але ўсё ж галоўнымі для іх застаюцца беларусы Адам і Ева, перасяленцы ў далёкаўсходняй тайзе, людзі, якія зрадніліся з ёю і садзяць там сваю бульбу.

Ні дождж, ні град цябе не песцяць,
Надзейны хлеб маёй зямлі.
Не грэбвалі табой і песняй —
З сабою землякі ўзялі.
А покуль недзе спіць залева,
Тайфун вятры ў мяхах вязе,—
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу
у тайзе...

Паэты ўвогуле болей хваляцца, чым робяць. І болей аддана робяць, чым хваляцца. Іх толькі хваляць пасля, часам запозна:

Калі б усе навальніцы плакалі —
Іхнія слёзы
Былі б драбнюткай расінкай
На вейцы тугі па Табе.
Іван Дамінікавіч,
Дзядзька Янка,
Купала...

За што яго, Барадуліна, трэба яшчэ любіць? За яго неймаверную працавітасць, за сакавітую мову яго вершаў.

Цяжка пісаць пра такую кнігу. Бо кожны яе радок адзываецца ўва мне, яго земляку і амаль равесніку, несамавітым болем. Вось радкі пра нашых жанчын:

Гадаваць,
Бедаваць —
Мелі права адно.
І падумаць пра смерць
Часу й права не мелі...
І лічылі гады
Ад вайны да вайны,
Прыхваткамі
Кудзелю ўспамінаў сукалі.
...Можа, прыйдуць мужы,
Можа, прыйдуць сыны,
Можа, прыйдуць унукі —
Чакалі...

Аб усім не скажаш. Але даўно-даўно ты казаў мне аб задуме «Матчыных песень». А я ж і сам іх чуў ад Куліны Андрэеўны. І не дадумаўся да такога. Але на тое ты і ёсць яе сын. Я ж помню, як мы сядзелі ў Задаброцці за малой рачулкай. І маці твая трымала на руках тваю Ілону, тады яшчэ сапраўды малую «Лану». І мы спявалі. І што гэта былі за песні — мабыць, ніхто болей не ўведае. Хіба што па тваіх «Матчыных песнях». Яна была больш таленавітая за нас абодвух.

Перапёлка!
Ты не ві гняздзечка
Блізка ля дарогі,
Перапёлка!

Гэта — з яе песні.

Балючае
І жаданае слова:
Мама?..

Мне таксама не верыцца, што яе няма. Хавалі мы яе на схіле, каля курганоў. І тут ужо нічога не паправіш. Засталіся толькі хата з падлогай, вышараванай яе рукамі, садок, вяз, вечная наша памяць.

І яшчэ твае вершы і паэмы. Тваё «Свята пчалы». І ўсё таленавітае.

Лес над возерам. Мы стаім на ўзгорку на другім баку таго возера. Бачым адбітак гэтага лесу ў вадзе, нерэальны, размыты. І яшчэ лес пад табою. На гэтым беразе. І гэта як фуга з яе трыма часткамі. Толькі трэба глядзець зверху, што ты і робіш. Сын нашай зямлі, нашай беларускай паэзіі. Друг, які прынёс мне «Свята пчалы».

# СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

*Роздум над «Вечам славянскіх балад» Янкі Сіпакова*

Што такое ўплыў кнігі на чалавека і ў чым ён? Чаму адна, здавалася б, разумная з разумных, высакародная з высакародных, так і пакідае цябе халодным?

І чаму іншая, зусім непачцівая да чалавека, прымушае гэтага чалавека ледзь не маліцца на аўтара?

Чаму адна, вытанчаная, выклікае мароз агіды, нешта прабягае па спіне, або, у лепшым выпадку, нястрымныя пазяханні?

А другую, напісаную часам нават крыху карава, не выпусціш з рук і, скончыўшы, адразу захочаш перачытаць.

Мне здаецца, што адзін з сакрэтаў уплыву кнігі — у яе закончанасці. Кніга, як жывая істота. Прыўкрасны алень, прыўкрасная птушка ў палёце, прыўкрасная, як ні дзіўна, і змяя са стракатым візэрункам яе скуры. Хаця першыя выклікаюць жаданне паляцець, а другая — дрыжыкі агіды.

Калі ў цалкам завершанай, у сабе самой цэльнай кнізе заключаны яшчэ высакародныя мэты, якіх хоча дасягнуць аўтар, высокая ідэя (і мужнасць і дасягненні яе), розум, сэрца, захапленне перад чалавекам і супакутаванне яму, нястомная, бяссонная нянавісць да яго ворагаў — кнізе забяспечаны поспех, прынамсі, у людзей добразычлівых і разумных, людзей, якія ведаюць, што да чаго.

Калі да ўсяго гэтага дадаць яшчэ і такую «драбніцу», як талент. Вядома, гэта толькі мая асабістая думка, і я не збіраюся навязваць яе нікому.

У сучаснага чалавека вечна не хапае часу, мы ўсе заўсёды некуды спяшаемся. І, як ні дзіўна, менавіта гэта дапамагло мне напісаць пра кнігу Янкі Сіпакова «Веча славянскіх балад». Выпраўляючыся на адну пачцівую творчую нараду ў Крым, я ўзяў гэтую кнігу з сабой. І там мне прыйшла ў галаву думка выпрабаваць кнігу на аўдыторыі, вельмі далёкай вёрстам і Беларусі.

Прачытаў ёй некалькі балад. І тут пачалося тое, чаго я, прызнацца, аніяк не чакаў. Людзі, якія не

ведалі анічога па-беларуску, людзі, якія мала ведалі нашу літаратуру, раптам нібы страпянуліся, узрушаныя да глыбіні (не пабаюся ўжыць гэта слова) чымсьці, што мне спачатку здалося, магчыма, і не зусім важлівым, хаця кніга і вельмі падабалася мне.

Сібірак передрукаваў «выбранае» на машынцы, ставячы адзінку замест «і». Ленінградзец завучвае «Лазню» і «Еш!» на памяць, просіць выправіць вымаўленне, перапісвае. І ўсе, чалавек дзевяць, просяць самую кнігу.

Гэта было досыць даўно. За гэты час думкі аб «Вечы» адкрышталізаваліся, а сама кніга надыбала процьму верных прыхільнікаў, трывала заняла сваё пачэснае месца на беларускай літаратурнай паліцы.

А тады я моцна задумаўся: у чым справа? Што такое кніга і ў чым, у прыватнасці, уплыў гэтай кнігі?

Так, перш за ўсё, у цэласнасці, у завершанасці, хаця і ў ёй ёсць «лішнія прывескі».

Усяго крыху болей за паўтары сотні старонак. І на гэтых старонках — каласальны віток. Першы віток у гісторыі славянства (пра папярэднія мы не ведаем, ад тых часоў дайшлі да нас курганы ды косці і, на жаль, больш амаль нічога; і хаця «курганы вельмі шмат нам гавораць», а ўсё ж гавораць яны менш, чым нам бы хацелася), пачатак бясконцай, накіраванай у будучыню спіралі, аб бясконцых наступных вітках якой мы пакуль можам толькі здагадвацца.

Маю я рацыю альбо не, але паэт задумаўся над гэтым і паспрабаваў першым — у строгай, амаль сістэматычнай цэласнасці паказаць: а што гэта такое было. Удалося гэта да канца або не — вырашаць не нам. Але я думаю, што ў вельмі значнай ступені ўдалося. Удалося для першага накіду агульнай паэтычнай гісторыі славянства, займацца якой давядзецца яшчэ і яму, і многім іншым, калі мы хочам ведаць, які ён, наш характар, якія адрозненні розных людзей у гэтай вялікай «сям'і».

Хто мы, адкуль мы прыйшлі, куды мы ідзём?

І паэт думае. І цвёрда ведае, што кніга славянства не канчаецца «Дасвеццем». І праводзіць, цярэбіць сякія-такія сцежкі ў будучыню. Накшталт той

жанчыны з балады «Сяўба», якая перш за ўсё сеяла на папялішчы кветкі.

Што з іх вырасце? Толькі б не порах. Што нясе наступны вiток? Гэта залежыць толькі ад нас. Толькі ад нас саміх, і ад усіх, колькі іх ёсць, людзей на зямлі.

І вось гэтая філасофская сістэма кнігі, так рэдкая ў нас, дый не толькі ў нас, здзіўляе перш за ўсё. Не майстэрства і не мастацкасць (такіх кніг многа), нават не напал гуманізму (і гэта ў беларускай кнізе не рэдкасць, хутчэй правіла), а тое, што... кніга — адзін выдых.

Гэты хлопец, сам таго не жадаючы, даў ладнага выспятка паэтам майго пакалення, і ў тым ліку, мне.

І дзякуй богу. Свет, дзе няма месца нечаканасцям — гэта не свет.

І кніга гэта добра паслужыць людзям і Беларусі.

...Менш за ўсё я збіраюся тут цытаваць. Гэта не пахвала кнізе, хаця яна і дабрэнная, не пахвала і майстэрству, хаця яно і адточанае. Гэта пахвала роздуму, задуме і выкананню яе, цэльнасці.

Кніга ў сутнасці — поўная жудасці, страшная кніга, нягледзячы на некаторыя рэверансы ў бок жарту, пераможнай песні і г. д. (дарэчы, у значнай ступені лішніх тут, хаця іхняя прысутнасць і зразумелая, іначай у многіх валасы б усталі дыбаром).

Гэтая кніга ўся — адзін аголены нерв. Гісторыя пакуты. Прычым не толькі гісторыя пакуты македонца, беларуса, рускага, славена, а і ўвогуле гісторыя пакуты Чалавека, імя якому Славянін.

І, нібы ў казцы, чым далей, тым страшней гэтая пераклічка мучэнняў паляка, балгарына, рускага, серба...

Дзеці, чакаючы ўколаў добрага доктара (доктара ў канцлагеры), гуляюць у мячык, не ведаючы, што пасля ўкола будзе не бульба, а смерць[1] («Мячык»).

---

[1] Нягожа гаварыць пра недахопы ў прымяненні да такога цудоўнага верша. Але гэта недахоп не толькі яго. Іншы раз аўтару не хапае пачуцця меры. Доказы грувасцяцца гара на гару, калі хапіла б і пясчынкі. Маленькі чалавек гаворыць: «Мяне вы заб'еце. І толькі за тое, што я паляк». І тут жа крычыць: «Хто ты естэсь? Поляк малы». Ён гэта ўжо давёў. Больш стрымана і высакародна. Але гэтая нястрыманасць ва ўзвышаным — гэта і ўвогуле наша агульная беларуская рыса.

Настаўнік вядзе апошні ўрок, стоячы разам з дзецьмі пад рулямі аўтаматаў, урок нянавісці і чалавечнасці, які дзецям праз пяць мінут ужо не прыдасца, але, быць можа, прыдасца жывым, калі нехта аб ім пачуе («Урок»).

Ды што я кажу? Прыдасца, перш за ўсё, самому сабе. Дзеля ўцвярджэння сябе як чалавека, нават на краю магілы.

Вязні адкормліваюць, каб быў моцны дзеля расправы з наглядчыкам, вязня, не ведаючы, што ён правакатар («Еш!»).

Жанчыны труць перац (сыпаць у вочы гвалтаўнікам, таму што мужчыны пабітыя і бараніць няма каму). Адпраўляюць у выгнанне чалавека за тое, што ён хоча лётаць. Сляпы аркестр рабоў грае перад эмірам, ведаючы, што на эмірскі ложак усходзяць тыя, каго яны, рабы, любяць. І гэтак далей, далей.

Ды што ж гэта за народ (народ аўтара кнігі, перш за ўсё), што ж гэта за народы, што гэта за этнічная група, што на яе валіцца столькі бедаў?! І за што?!

А вось за што. За вечныя пошукі святасці не там, дзе трэба яе шукаць («Пустэльнік»). Іншы раз за залішнюю прывязанасць да свайго і абыякавасць да агульнай справы («Валы»). За тое, што іншы раз адольвае коснасць («Крылы», «Кукіш»). За тое, што не стаяць адзін за аднаго, не падтрымліваюць брата («Рэха»). За неразумную ўладу адных («Булава»). І за не менш неразумную пакорлівасць другіх («Конь»).

Праўда, у кожнай з гэтых балад ёсць і адваротны бок (я ўжо не кажу аб пазіцыі самога аўтара, які галоўны станоўчы герой усёй кнігі, нават самых змрочных і безнадзейных яе твораў). «Пустэльнік» — гэта яшчэ і сумленне, што абудзілася ў «богу» (ды вось толькі калі яно абуджаецца?). «Валы» — гэта яшчэ і людзі, што йдуць на смерць. «Крылы» — гэта ўсё ж апафеоз чалавеку, які ўзляцеў. «Конь» — гэта яшчэ і разіншчына. «Рэха» — гэта яшчэ і гераізм адзіночнай барацьбы.

Так вось, менавіта адзіночнай. І ўся сутнасць, напэўна, у тым, што гістарычныя ўмовы стагоддзямі сеялі між славян раз'еднанасць.

Не дзяржаўную — гэта б яшчэ палова бяды,— а разагульненасць неардынарных асоб, з якіх кож-

ная, амаль кожная прыдатная ў баладу, а на справе — на справе цягне ў свой бок, і таму часта атрымоўваецца адзін канфуз. І таму гінуць, выходзяць на эшафот да плахі, стаюць пад кулі. Таму, што нехта не даў валоў падвезці зброю — «зрабі, божачка, каб у майго суседа карова здохла».

Паміраюць пад чужымі сцягамі, змагаючыся супраць братоў па духу і крыві, абы «Сцяг — уперад, славу — уперад» («Руяне»).

Мы — руяне, мы — славяне...
Ну, каму падаць руку?
Супраць брата нават станем,
Калі ён на тым баку.

. . . . . . . . . . . . . .

Нас жа вораг не дастане
За гарою хваль і льдзін:
Мы славяне, мы — руяне,
Мы на востраве сядзім.

Дык чаму ўсё ж пры такой колькасці ворагаў, пры ўласнай неўладкаванасці, не згінуў самы след гэтага люду яшчэ ў XII, яшчэ ў XV, яшчэ ў...?

Дзе корань сілы і жывучасці?

Па-першае, у высокім пачуцці справядлівасці і несправядлівасці, спрадвечна, прыродна ўласцівым гэтым людзям. Пра гэта гаворыць «Веча» балады-прамовы XI — XIII стагоддзяў, узятых са старажытных летапісаў і хронік, своеасаблівы «запеў у канцы», пасля якога «Развітанне» здаецца нават і не вельмі патрэбным. Нешта накшталт росчырка ў канцы подпісу.

Дык вось, гаворыць веча:
— Мы дапаможам табе, княжа.
«Але не таму, Яраславе,
Што мы цябе дужа любім,
А таму, што мы ненавідзім
Святаполка, брата твайго...»

*(«Слёзы»)*

І гэта нагаварыўшы Яраславу столькі рэзкіх слоў, колькі ён ні дагэтуль, ні пасля не чуў у жыцці, прымусіўшы яго са слязамі прасіць дапамогі.

— Нашто ты асляпіў брата?
«Глядзіш нам у вочы,
і мы ў твае, бачыш, глядзім.
А ён ужо глянуць вось гэтак,
наш браце, не можа...»

*(«Чорны брат»)*

Твары мір з братам сваім,
Мірыся, княжа, бо мы не ідзём.
Мірыся або дбай сам пра сябе...
*(«Апошняя просьба князя»)*

Гэтае вось абвостранае пачуццё справядлівасці не пакідала лепшых людзей славянства і ў самыя чорныя часы. Дый лепшыя гэтыя людзі былі не таму, што былі асабліва разумныя, надзеленыя талентам, уладай і ўсім такім іншым, а таму, што яны былі справядлівыя.

Можа, таму і ўпаў першы ўдар. Можа, таму на месца хмельнага, маладога «Піра», калі продкам здавалася, што абхапілі рукамі Зямлю — і яна трэсне, скора і прыйшла бяда.

Хмель вíруючай, юнай варварскай крыві скора абернецца цяжкім пахмеллем «Руян».

Як быццам можна было, нават тады, камусьці адседзецца на востраве? Як быццам спяваннем славы Батыю («Пыл») можна ўратаваць сваю паганую душонку, калі браты твае пабітыя? Пыл — ён і ёсць пыл.

Цягнецца і цягнецца — ад верша да верша — журботная і мужная ніць беларускай і ўкраінскай, чэшскай і македонскай, славянскай гісторыі.

Бяда і рабства, і няма выйсця. Але ёсць справядлівасць і, у дадатак да яе, у самым пачатку, ледзь ці не толькі ўпартасць.

Упарта стаяць, упарта ўгрызацца каранямі ў зямлю. Прымушаюць — кланяцца ворагу, кланяцца «гаспадару», але ведаць, што гэта несправядліва, і таму ўпарта ненавідзець.

Урэшце, папросту збегчы. Зловяць — уцячы зноў.

Але хаця дзень пабыць свабодным.

А на цябе куюць кайданы. І, нібыта словамі безыменнага серба XIV стагоддзя напісаная, з'яўляецца ў зборніку «Анафема», антыпод «Законніку Стэфана Душана».

Калі раб, пасаджаны некалі на зямлю,
Стоячы ўвосень ля парожняй яшчэ ямы-рупы,
Куды пасля абмалоту ссыпаецца
гаспадарова збожжа,

Убачыць,
Як уласцелічыч
Гвалціць яго каханую,
Убачыць і не спіхне зненавіднага
юрліўца

Сваімі рукамі ў гулкую яму —
Такога паганца (вядома, з яго рукамі) —
анафеме!

. . . . . . . . . . . . .

Чакайце, чакайце...
У законніку Стэфана Душана
Такога не было...
Ды і наогул
У яго законніку
Усё было наадварот.

Гэта ўжо новая ступень на шляху да свабоды і абурэння. Не толькі справядлівасць, не толькі ўпартая вера ва ўцёкі, але яшчэ і разуменне, што несправядлівы закон. А адсюль і нянавісць, падфарбаваная злым сарказмам.

Пратэст «Званоў», пакуль яшчэ праз плач.

І, урэшце, пратэст зброі («Грунвальд»). Пакуль яшчэ толькі за права славянства жыць і дыхаць. Пакуль яшчэ не супраць «сваіх», «унутраных крыжаносцаў».

Ох, які доўгі, які яшчэ доўгі-доўгі-доўгі шлях да гэтай свабоды ад «сваіх» і «чужых» уладароў (як быццам паскудства ведае розніцу рас і нацый?!), шлях да мары аб зямлі, што сплывае малаком і мёдам. І ёсць жа, ёсць яна, вось тут у нас пад нагамі («Казакі»). Але на шляху да яе, на кожным кроку рабства і палон. Зрэдку ўжо ўдаецца вырвацца, але не часта.

І тады справядлівасць, уменне стаяць да канца на сваім, нянавісць і бязмежнае свабадалюбства ўваскрашаюць прызабытую Думку. І няхай сёй-той яшчэ ў «святой прастаце» (словы самога пакутніка) падпраўляе трэскі пад кастром Яна Гуса ды пакідае ў яго лаўжы — гэта нічога. Лозунг Гуса, лозунг чэшскага гусізму «Стой за праўду» — застанецца. Таму што славянін умее ўжо тую праўду давесці.

«Стой горда... Сёння яны запаляць з нас такі касцёр, які ім у вякі-вякоў не пагасіць».

Гэтай праўдзе будзе цяжка праламіцца праз халоднасць людскую («Свае»), праз звычайную чалавечую любоў да свайго цёплага гнязда, якая іншы раз вядзе ў такое рабства, што лепей бы яе не было; недарэмна ж кажуць: «Ворагі Чалавеку хатнія яго».

Нічога, чалавек зразумее, нават праз глухату слёз («Просьба»), што з тымі, з тымі, што, як сляпні,

абляпляюць людскую бяду... з імі не можа быці нічога, акрамя бітвы.

Штохвілінна зрываючыся, часам на каленях, Раб, Славянін, Чалавек усё ж паўзе з прорвы ўгору, устае, зноў падае і зноў устае.

Спыняе Сонца, зрушыўшы ў вечны яе шлях Зямлю, хаця... сам сабе яшчэ баіцца прызнацца ў гэтым («Трызненне»), хаця нават сам Розум павінен праводзіць на радзіму таемна («Кантрабанда»).

Хай сабе. Няхай няўдалая барацьба. Ён цяпер не баіцца і памерці за свабоду — памерці каралём. Хай нават і на распаленым троне.

І сягоння яшчэ
Твой народ не забыўся,— ён помніць,
Як на троне адзін селянін
Паміраў каралём.

І, урэшце, з'яўляецца прага ведання. Не ў адзінак, а паўсямесна. А разам з ёй і гуманізм. Што ж, амаль ужо цэлы Чалавек.

Нават калі яны і церпяць, бо няроўныя сілы,— будынак прыгнёту, што ўзводзяць з іхніх хат, непрыкметна — камар носу не падточыць — усё адно рвецца ў неба языкамі полымя («Будоўля»).

Гэта не азначае, што ў нас не засталося любові да роднай зямлі, калі яна ў бядзе («Ростань»), толькі з-за таго, што ёю правяць нягодныя, прагныя рукі («Булава»). Мы можам прадаць нават жонак, па іхняй жа просьбе, каб купіць коней, дзеля таго, каб на іх ваяваць, дзеля таго, каб на іх перамагчы тых, што нязваныя прыйшлі на нашу зямлю.

Усё ж у нас («Чубы») адзнака вольнасці казацкай. Мы нюхнулі свабоды. А таго, хто яе панюхаў, не загоніш у хлеў. Дудкі!

Думалі, што мы без чубоў
Будзем араць паслухмяна зноў:

. . . . . . . . . . . . . . . .

Але мы дакладна і пэўна,
Самі бясчубыя,
Падпускалі чырвоных чубатых пеўняў
Пад стрэхі панскія вечныя...
Бачыце, і без чубоў казакі небяспечныя!

Так, усё цяжэй і цяжэй. Таму што шалёна супраціўляецца растучаму нашаму дабру — зло. Але і гэта нічога.

Бо прыйшло ўрэшце, пасля пачуцця справядлівасці і ўсяго, што дабром наслаілася, напластавалася на яго, яшчэ і самасвядомасць таго, хто ты ёсць чалавек і якая твая прыналежнасць да свайго народа. Прагучаў заключны акорд. Асоба твая гатовая.

Ты ўстаў на ногі. І цяпер цябе не зваліць ніякімі канцлагерамі, ніякімі маўтгаўзенамі. Нічым.

Падае ў выпаленую вайной зямлю насенне кветак. Што з іх вырасце — залежыць ад рук, якія будуць гэтую зямлю рыхліць, сагравацъ цеплынёю рук, паіць, абараняць.

Ну вось. Калі я не памыліўся, у гэтай кнізе ёсць цэльнасць. Цэльнасць ідэі, цэльнасць мастацкая, цэльнасць сістэмы (хай не без некаторых нязначных пралікаў, дый то зразумелых).

Ёсць высакароднасць мэты. Мужнасць казаць аб рэчах неабходных, знаходзячы ў іншым малым — вялікае, а ў некаторым вялікім — подлае. Ёсць розум, сэрца, захапленне перад чалавекам і супакутаванне яму, нястомнасць, бяссонная нянавісць да яго ворагаў. І, вядома ж, талент, які лёгка заўважыць кожны, хто прачытае гэтую кнігу. Кнігу гордасці і кнігу надзеі.

Гэта дужа беларуская рэч, нягледзячы на прысвячэнне той ці іншай балады таму ці іншаму народу.

Пра мастацкія якасці кнігі казаць не буду. Агромністая задача, якую ўзваліў аўтар на свае плечы, не магла быці выканана не мастаком. Скажу адно: нездарма пасля назвы стаіць не «вершы», а «паэзія». Гэта і ёсць сапраўдная, чыстай вады, паэзія.

І пад канец хачу дадаць яшчэ толькі адно.

Перасцярогу. І вельмі сур'ёзную. Па тым, як аўтар размахнуўся, як яму ўдалося ўдарыць, ён стварыў дзеля сябе і нас, дзеля грамадства адну з кніг свайго жыцця. Ці будуць у яго іншыя — залежыць толькі ад яго аднаго.

Але пасля такой кнігі ён проста не можа... ды не, проста ніхто да яго не пацерпіць вершаў слабых, вершаў хаця б напалову хлуслівых, вершаў — фігавых лісцікаў.

Ён павінен трымацца на вышыні, якую ён сам заваяваў для сябе. І няхай памятае, што нічога няма лягчэй, чым страціць такое давер'е.

Што ж, ён сам хацеў гэтага і сам гэтага дабіўся.
Так што — хочаш не хочаш, — а трэба трымацца.
І няхай ён гэта ведае. Раз і назаўсёды.

## І НАШ «ФАЎСТ»

Шмат год я ведаў аб тым, што чалавек, пра якога я сёння гавару, перакладае адну з найвялікшых паэм зямлі на беларускую мову. Я ведаў Васіля Сёмуху даўно, ён быў рэдактарам аднаго з маіх твораў і сумленна імкнуўся зрабіць яго лепшым. Ведаў пра многія перакладзеныя ім кнігі, ведаў аб тым, што ён вывучыў латышскую мову і цудоўна пераклаў «Агонь і ноч» Я. Райніса. І вось перада мною — цяпер ужо адшліфаваная — ляжыць рэч, аб якой мы столькі гаварылі, за пераклад якой так, часам зацята, спрачаліся... Раней я прачытаў першы варыянт, потым — іншыя. І ўсё ж кожны раз адгортваў першую старонку з пачуццём лёгкага недаверу — а ці можа гэта быці?

Пераклад «Фаўста» рэч, бадай, немагчыма складаная. Ісці па сцежках Гётэ — як на злом галавы. Дыхаць жыватворным, але высокім паветрам яго горных вяршынь можа не ўсякі.

І яшчэ адна падстава для трывогі. Я рызыкну сказаць, што пераклад такой рэчы — адзнака сталасці літаратуры, адзнака таго, што плынь яе нястрымная. Не можа паўнакроўна жыць літаратура без Шэкспіра, Дантэ, Гётэ, якія гучаць на яе мове. Першы ў нас ёсць. Другога пакуль што няма. Трэці — толькі што з'явіўся.

І вось пераклад прачытаны да апошняй старонкі. З грудзей вырываецца ўздых палёгкі... Вытрымалі... І ўсе мары юнацтва калі-небудзь узяцца за яго самому адпадаюць. Цяжкая праца выканана дасканала, і пасля яе ўсе твае спробы будуць проста непатрэбнымі...

Мы чамусьці саромеемся хваліць. Але чаму не сказаць шчырага цёплага слова аб гэтай працы, чаму не аддаць ёй належнага?

В. Сёмуха зрабіў, па-першае, выключную па сур'ёзнасці работу. Дасканала ведаючы нямецкую

мову і з'яўляючыся тонкім знаўцам мовы роднай, ён не абмяжоўваецца гэтым. Тонкасці — тонкасцямі, але дух пераклада, тое, як разумелі ідэю Гётэ розныя людзі зямлі,— гэта таксама важна. І Сёмуха чытае ўсё, што напісана аб «Фаўсце» вучонымі і літаратуразнаўцамі (для сучаснікаў паэту дастаткова было даць намёк, але перакладчыку часам трэба гэты намёк удакладніць і раскрыць, зрабіць зразумелым). Ён чытае пераклады трагедыі на тыя мовы, якія ведае, і, у прыватнасці, вывучае адзін з найлепшых перакладаў — пераклад Я. Райніса. Ён перачытвае дагётэўскія творы, бо ў творчасці вялікага паэта натуральна зліліся філасафічнасць старых аўтараў, брутальная, гратэскавая застрашлівасць сярэдневяковай «літаратуры аб ведзьмах», адчай паэтаў трыццацігадовай вайны і празрыстая яснасць старадаўняй нямецкай народнай балады (нямецкага барока), яе нявіннасць і чысціня, яе кранальная паэтычнасць і грубаваты гумар. Я не памылюся, калі скажу, што ўсё гэта адбілася ў перакладзе.

Перакладзена ўсё: і класічная яснасць гётэўскага «Прысвячэння», і яго лёгкі наіў, што ідзе яшчэ ад XVIII стагоддзя, і гэты ключ да паэмы:

Што маю — мроіцца нібы здалёку,
Што страціў — тое зноў навідавоку.

Кожны падыходзіць да з'яў навакольнага свету, на жаль, са сваім капылом. І аб творы мастацтва мы мяркуем часцей за ўсё па тым, наколькі ён адпавядае нашаму веданню аб гэтым свеце. Чытаючы «Пралог у тэатры», я не мог адкаснуцца ад думкі, што гэты, удала перакладзены перакладчыкам, урывак мае глыбока сучаснае гучанне.

Крышыце п'есы! Рэжце без разліку!
Навошта цэласць тая гледачу!
Я збыць тавар, пардон, ваш твор хачу —
З разумным лёгка збіцца з панталыку.

Часам назіраючы, як тэатр губляе сваё аблічча, мне хочацца прачытаць урыўкі з гэтага пралога. Можна, вядома, «не шкадаваць для прадстаўлення ні дэкарацый, ні машын», але думаючы аб публіцы, як дырэктар з «Пралога», вы страціце яе.

Адзін да нас прыходзіць ад нуды,
А той, укормлены, паважны пан,

Ідзе шукаць духоўнага наедку,
А трэці — крытык-шарлатан —
З гатовай думкай прыхапіў газетку.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Навошта ў эмпірэях вам лунаць? —
Вам ложы перапоўненыя любы?
Хто будзе думкі вашы спажываць?
Той абыякавы, а гэты — грубы.
Адзін пасля ідзе на прэферанс,
Другі шукае пажыўной спакусы.
Нашто ж для гэтай мэты ў транс
Уводзіць светлыя, святыя музы?

Нават нагаданае паказвае, як добра выканаў перакладчык сваю задачу. І не толькі тут. Ён бывае розны: смяшыць, кранае або прымушае гневацца, робіцца лірычным або грубым, але ніколі не нудным. І ў «Пралогу на небе» з яго рэдкаснай па глыбіні, трохі неўразумелай філасафічнасцю, і ў «Піўніцы Аўэрбаха ў Лейпцыгу», і ў апошніх сцэнах. Абыякавым не застаецца ніхто — і гэта першая дадатная якасць перакладу, якая ідзе ў спалучэнні з вялікай дакладнасцю, калі не страчана амаль нічога з таго, што хацеў сказаць паэт,— гэтага, згадзіцеся, зусім нямала.

Другое дасягненне В. Сёмухі — глыбокая нацыянальнасць перакладу. У лепшым сэнсе гэтага слова. На кожным кроку бачыш немца, які склаўся як чалавек у канцы XVIII ст., з яго трохі яшчэ сярэдневяковай нямецкасцю, у якой самое слова «мастацтва» чытаецца не «кунст», а трохі манерна — «куншт». І тут здарылася дзіва: перакладчык добра зразумеў галоўны закон перакладу, які кажа, што каб быць бліжэй — трэба трохі адысціся, што пераклад слова ў слова (які так шкодзіць перакладам з блізкіх моў і збядняе, напрыклад, вялікую беларускую паэзію ў вачах рускага ці ўкраінскага чытача) не самы лепшы, бо, здаецца, усё тое самае, а шарму няма, і трэба шукаць не словы-блізнюкі, а эквівалент.

І вось, шукаючы гэты эквівалент, перакладчык дасягнуў дзіўнага: з намі гаворыць вялікі Германец, але адначасова гэта гаворыць Беларус, што выказвае думкі Гётэ, як выказваў бы іх ён, але па-беларуску. Гэта ёсць і ў самой моўнай тканіне, і ў майстэрскім перакладзе народных сцэн. Перакладчык не баіцца адысці нават ад агульнапрынятых слоўных формул. Іх звычайна цяжка нават перакласці, бо

перад вачыма стаіць прыклад і аўтарытэт першага перакладчыка, які надаў радкам афарыстычны характар.

Вось, напрыклад, разважанні Мефістофеля аб філосафах. Дасціпны дух раптам (і гэта ў славутым рускім перакладзе) канчае гэтыя разважанні дыдактычным уздыхам. Нібы гэта і не ён.

Рускі тэкст Н. Халадкоўскага:

Кто философствует, тот выбрал путь плохой,
Как скот голодный, что в степи сухой
Кружит себе, злым духом обойденный,
А вкруг цветет роскошный луг зеленый.

Беларускі тэкст:

Скажу табе: разумнікі ўсе вашы —
Як тое быдла: ўлева — ўправа
Злы дух іх водзіць па стаптанай пашы,
Хаця навокал свежая атава.

І, далібог, гэта і жыва, і афарыстычна, і надзіва па-беларуску.

Мефістофель увогуле ўдаўся перакладчыку. Як і ў Гётэ, ніяк не можаш пазбыцца думкі, што аўтар ім трохі любуецца. Так, нарабіў пад канец шмат дрэннага (трэба ж яму апраўдаць сваю рэпутацыю), так, з'едлівасць. Але, нягледзячы на ўсё наноснае, ён багаборац, а значыцца, у сім-тым блізкі да ўвасобленага чалавека. Нахабны, дзёрзкі, вясёлы, злосны... і надзіва сімпатычны. Сапраўдны іронік, хітруга, сафіст, цынік — і істота, якая чыніць дабро. Уладар дзіўнай, але цалкам натуральнай дыялектыкі: жыць — каб адмаўляць. Частка цемры, якая спарадзіла святло. Мефістофель, як кожны прывід, створаны людзьмі, і, паколькі «на яго можна», людзі прыпісвалі яму ўсе горшыя якасці саміх сябе. Каб апраўдаць сваё поўзанне на жываце перад уладамі, расперазанымі хамамі-ваякамі і светам гвалту. А таму іронію ягоную назвалі зласлівасцю, праўду — дэманізмам, а з'едлівасць — нянавісцю да людзей.

Натуральнасць, жывасць, лаканізм і дасціпнасць слоў Мефістофеля — найбольшая ўдача ў перакладзе. І не дзіва. Гётэ, відавочна, прыемна было яго пісаць, перакладчыкам — перакладаць. І нездарма ён атрымаўся, на мой погляд, наймацнейшай постаццю твора, вышэй за ідэю пошукаў, увасобленую ў Фаўсце, вышэй за ідэю жаноцкасці і спакою —

анемічную Маргарыту, якой толькі яе пакуты даюць права на нашу ўвагу і спачуванне. Бо ён — гэта скепсіс, гэта адмаўленне старога, пробны камень чалавечай думкі і стымулятар чалавека поступу, а значыць, неабходная частка нас саміх. Перакладчык справіўся з перадачай гэтага цудоўнага.

Вось прыклад. Не ведаючы, дзе збеглы муж Марты, Мефістофель, аднак, кажа ёй, што ён памёр. Фаўст абураецца. І тады калега кідае міну пад яго і ўсю схаластычную «навуку», якая хлусіла і хлусіць людзям, бярэцца тлумачыць свет і ўплываць на яго, а сама разбіраецца ў ім не больш, чым у адметных рысах фізіялогіі кішэчнапаласцевых на Венеры.

Змагар за праўду! Мо ніколі
Вы людзям глупства не малолі?
Хіба пра бога, рух свяціл, планет,
Пра чалавека і яго духоўны свет
Не гаварылі смела і глыбока
З апломбам знаўцы і прарока?
Але ж сабе прызнайцеся хаця,
Што тайны сэнс і змест жыцця
Вядомы вам, мой друг упарты,
Не больш, чым доля мужа Марты.

А вось як перададзена вясёлая, з'едлівая, чароўная сцэна Мефістофеля з вучнем. Разумны цынік — і дурань да апошняга — аж круціцца:

Прабачце, што прыходжу рана
З павагай шчыраю да пана,
Турбуючы для кансультацый
Асобу, вартую авацый.

І разумны, усёзнаючы д'ябал адказвае бліскучым маналогам аб страшнай мане навук. Аб філасофіі, што, разбіраючы на часткі, не ўмее потым злучыць разам, аб метафізіцы, што прыкрывае напышлівымі словамі тое, чаго не можа ўзяць ілбом... Нічога, малады чалавек, навучыцеся і хлусіць. Дзіця таксама не адразу прывыкае да цыцкі маці... Вучань згаджаецца:

Прыпаў бы я да мудрасці грудзей,
Але парайце мне — шукаць іх дзе?

І пачынаецца здзек з усяго таго, чым замяняе для сябе чалавек сапраўдную праўду.

І мы чужыя сплачваем падаткі,
Грахоў бацькоўскіх кволыя нашчадкі.
Дурнота мудрай стала, зло — з дабра,

А што прыродным правам жыць пара,
Забылі мы пра гэта, ані згадкі,
Бо, зрэшты, там, дзе сэнсу мала,
Мы круцім словам дасканала;
Са слоў складаюцца ідэі, тэмы,
Са слоў будуюцца сістэмы,
Нам слова трэба паважаць,
Ні ў якім разе не скажаць.

Той, хто возьме на сябе клопат зверыць прыведзеныя і іншыя цытаты з арыгіналам,— не можа не здзівіцца высокай дакладнасці перакладу, яго вытанчанасці і зграбнасці.

Часам здаецца нават, што пераклад больш афарыстычны, чым арыгінал. І гэта зразумелая рэч. Вялікаму паэту часта даводзілася хаваць сваю ясную ідэю за шалупіннем эзопавай мовы: звычайны лёс паэта, які хоча, каб яго чыталі, і адначасова хоча пазбегнуць папрокаў у бязвер'і, скепсісе і нянавісці да таго, што гэтай нянавісці варта. Перакладчыку цяпер трэба расшыфроўваць і праясняць такія месцы, пакідаючы толькі лёгкі налёт вэлюму на іх: «бачыце, што і як ён хацеў схаваць».

Зямны бажок нязменны, тая ж плоць,
Якою ты стварыў яе, гасподзь.
Адна бяда — не задзіраў бы нос,
Калі б не ведаў ён святла нябёс.
Святло твае ён розумам заве
І з ім усё-такі жывёлінай жыве.
Ён, як цыбаты конік той,
З дазволу кажучы,— цвіркоча
І скача ўверх з травы густой
І ў шыр нябесную падняцца хоча.

Тут прасочана, выяўлена і высветлена ўся гісторыя трагічных пошукаў Фаўста.

Высокая яснасць перакладу прымушае нас думаць не проста аб працы перакладчыка, але аб спалучэнні яе са скрупулёзнай працай даследчыка і тлумачальніка. Гэта прыкметна ў першых ужо сцэнах і асабліва ў «Кабінеце Фаўста». Складаныя пераходы чалавека — ад задыханага рытму адчаю перад непазнавальнасцю прыроды да гордага ўздыму чалавечага гонару перад духамі, сярэдневяковая цьмяная навука з яе лабірынтамі і горкае, гордае расчараванне ў ёй, высоты абстрагаванага мыслення і простыя чалавечыя словы.

Хіба павінен я, да ведаў прагны,
Карпець над процьмай нудных кніг,
Каб ісціну старую вычытаць у іх,
Што чалавеку доўга трэба лезці з багны..

. . . . . . . . . . . . . . . .

Што з'едліва так, чэрап, шчэрыш зубы?
Блукаў упоцемках, як здань, як цень,
Як я, шукаючы свой светлы дзень,
Твой мудры валадар да дня загубы.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Калі ўначы пад непраглядным змрокам
Схаваных таямніц не выкраў ты
Ні розумам сваім, ні сэрцам і ні зрокам,—
Навошта тыя рычагі, вінты...

Між тым нялёгка было перакладчыку. Сучасная беларуская мова і сёння запінаецца на паняццях старадаўняй метафізікі і таго, што складала тады навуку: магіі, астралогіі, дэманалогіі і іншага. В. Сёмуха робіць спробу ўспомніць сёе-тое са старых юрыдычных, філасофскіх, кніжных слоў, хаця, магчыма, часам і недастатковую. Бываюць пры гэтым і выдаткі. Так, напрыклад, у спрэчцы Фаўста з богам, калі першы разбірае пачатак кнігі быцця і прыходзіць да думкі, што «слова» аніяк не магло быць пачаткам усяго існага, нявартa было б ужываць слова «чын» (справа). Не падыходзіць і дробязнае па значэнні слова «ўчынак». Нельга сказаць

«Спачатку быў — Учынак».

Сам не ведаю, што тут трэба ўжыць. «Дзея»? Яшчэ нешта? Але «чын» — гэта ўсё ж значна лепей за «справу» або яшчэ, крый нас божа, «справунак».

І ўсё ж усё, што зроблена для перадачы глыбока філасофскіх месцаў, здзіўляе натуральнасцю гучання, калі нават чалавеку непадрыхтаванаму цалкам ясная сутнасць усіх філасофскіх спрэчак і сама філасофія твора...

Прызнаюся, я заўсёды з вялікай цікавасцю чытаю новы пераклад. Па розных прычынах. У прыватнасці ж, яшчэ і таму, што недзе ў глыбіні маёй душы жыве цікаўнасць тых рымлян, якія хадзілі глядзець на гладыятараў: пачуццё смяротнай небяспекі таго, што адбываецца на арэне, у той час, як табе самому нічога не пагражае за ровам і бар'ерамі.

Сапраўды, перакладчыку цяжкавата па-новаму

перакласці, скажам, «быць або не быць» ці «оставь надежду всяк сюда входящий».

Ці, напрыклад, такую вядомую па рускіх, польскіх, украінскіх перакладах «Блыху», праспяваную мільён разоў усімі basso cantante, пачынаючы ад Шаляпіна.

І вось як яна гучыць па-беларуску:

Жыў раз кароль на свеце,
Была блыха ў яго.
Любіў яе і песціў
Больш, як сынка свайго.
Краўцоў сазваў. Спяшылі
З усіх канцоў краўцы —
Памералі, пашылі
Каптанік і штанцы.

Убраў яго ў каралі —
Зіхціць, як брыліянт.
Манарх любімай кралі
Павесіў крыж на бант.
Блыха міністрам стала —
На ўсё глядзіць згары,
Сваіх сясцёр ці мала
Прыстроіла ў двары.

І такая песня, як «Кароль з Фуле», зацяганая мяшчанскімі спевакамі, катрыншчыкамі, далікатнымі мяшчаначкамі, абсмяяная Генрыхам Гейнэ,— яна таксама загучала па-новаму.

І прывітаў гасціну
Сардэчна валадар,
І выпіў і ў пучыну
Ён кінуў мілай дар.

Прыбой у золкім змрочы
Той кубак падхапіў.
Кароль заплюшчыў вочы
І больш ужо не піў.

І яшчэ адна дадатная рыса перакладу. В. Сёмуха не саромеецца грубасці жыцця, грубасці вялікай трагедыі. А гэтым грашылі амаль усе перакладчыкі — нібы Гётэ адчувае пільную патрэбу ў тым, каб яго выпраўлялі, прыгладжвалі, прычосвалі, забываючы, што бліскучы залізаны радок — прывілей бездараў, за гэта іх і любяць. І ніколі ў свеце не пераможа той, хто не глядзіць жыццю ў вочы і баіцца называць рэчы іх найменнямі.

Перакладчык не цураецца і грубаватасці так званай простанароднасці. І вось глядзіце:

На фэст прыбраўся раз пастух:
Надзеў каптан і капялюш —
Апошні шык, дый годзе!
Пад ліпаю людзей-людзей!..
Музыкі, смех — аж дол гудзе!
А смык — той чортам ходзе!

. . . . . . . . . . . .

Хлапчына ў гурт бачком-бачком —
І дзеўку злёгку плечуком
Штурхель! — а сам не лысы.
Яна зірнула строга: «Ах!
А каб ты скіс, а каб ты спрах!
Не адварочвай пысы!»

Хіба не нагадвае гэта «Без музыкі, без дуды?..». І добра, што нагадвае. Таму што, пачынаючы са сцэны гулянкі, перакладчык, нібы знайшоўшы ключ да таго, што адбываецца ў сэрцах герояў, робіць сваю справу ўсё лепей і лепей.

Усё яскравей паўстае перад намі зямля і народ — сарамлівы, юрлівы і вясёлы. Калі ж яшчэ ўлічыць, што В. Сёмуха паспяхова дабіўся таго, каб ва ўсіх дзеючых асоб была свая мова,— то поспех яго несумненны.

Хораша перакладчык перадае тонкія назіранні Гётэ за прыродай: маналог Фаўста аб захадзе сонца, маналог Фаўста ў пячоры пра навальніцу, пад'ём на Гарц у буру.

Або наіўная сярэдневяковая жаночая песенька, якая сапраўды магла карыстацца поспехам толькі ў XIV стагоддзі, у век містэрый, але якая і цяпер кранае нас, як успамін аб уласнай чароўнай наіўнасці.

Нас таксама кранае маленне Маргарыты, сцэна яе сустрэчы з Валянцінам — і паўсюль разнастайная дакладнасць у рытміцы. Я сям-там звяраў з арыгіналам, калі рытмічны злом перакладу здаваўся мне неапраўданым. І выяўлялася, што так у арыгінале і што гэта не шкодзіць рэчы, бо перакладчык ішоў па радках вялікай трагедыі не па-рабску, а творча.

Я не скажу, вядома, што няма недахопаў. Але іх мала. Раней недакладнасцяў было больш, але перакладчык упарта працаваў над тэкстам — і ён зрабіўся зграбны, дакладны. Былі, напрыклад, раней рытмічныя зрывы ў сцэне з Вагнерам, цяпер яны збольшага выпраўлены. Былі часам рыфмы тыпу «жыве — на ўме! (параўнай сумна славутае «дзе-небудзь — мядзведзь»). Цяпер гэтага амаль няма...

Мінула 15 гадоў з часу майго знаёмства з першым варыянтам «Фаўста». Прайшоў час, і вось рэч, ужо скончаная і адшліфаваная, зноў ляжыць перада мною.

Блуканні па пакутах чалавечай душы, працы, думак, сэрца. І ледзь не першая спроба апісаць выхад яе на святло з таго змроку, у які ўкінута яна жыццём. Няхай яшчэ пад знакам тэалогіі — але спроба выхаду.

Ісці доўга, крывава, амаль безнадзейна:

Зірні, вялікі, з гэтай троннай залы
На родны край, што ўвесь у млгістым чадзе.
Дзе ўсё дабро тваё са злом звязалі
І дзе няпісаны закон — бязладдзе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чарсцвеюць норавы, усюды смуты,
Галодны край, раздзеты і разуты,
Рай для грабежнікаў, зладзюг,
А над сумленнымі вісіць абух.

Уступаюць у бой, нішчачы дабрабыт людскі, папяровыя грошы. На змену першай радасці (іх лёгка насіць нават у сумцы салдата ці ў якой кантычцы) прыходзіць капітал, які Гётэ заўважыў у жыцці і распяў на ганебным слупе ледзь не першы. Прыходзіць з ім інфляцыя.

Б л а з е н. І гэта грошы? Смецце гэта? Цьфу!
М е ф і с т о ф е л ь. Купляй і еш да стогну ў трыбуху!
Б л а з е н. Няўжо куплю я быдла, хату, хлеў?
М е ф і с т о ф е л ь. А ўжо ж! Абы ты ўдосталь грошай меў!
Б л а з е н. І лес, і ворыва, і ўлоў рачны?
М е ф і с т о ф е л ь. Глядзі, а мне казалі — ён дурны!
Б л а з е н. Куплю маёнтак і пайду з двара! *(Выходзіць.)*
М е ф і с т о ф е л ь *(адзін).* Ого! Яго ж на трон садзіць пара!

Усё стаіць на шляху ў гэтай душы. І — вайна:

У гуле шалёным
Войнаў няспынных
Чула, як зыкам утробным багі
Сверб распалялі да славы ваеннай,
І голас жалезны свары крывавай,
Братазабойчай,
Біў у муры.

І ўсё ж душа чалавечая паўстае супраць усяго гэтага. Няхай яна і не пераможа часам, але бываюць паражэнні, што вышэй за перамогу.

І пару слоў аб ілюстрацыях Арлена Кашкурэвіча.

Гэта вельмі своеасаблівы, па-новаму прачытаны, дужа сучасны «Фаўст». «Фаўст» вар'яцкага веку войнаў, нейтронных бомбаў, маўтгаўзенаў, аўтамабіль-

ных гонак, трушчоб, наркотыкаў, рэгбі, дзікіх катастроф і самоты. І кожны мае права на свой апакаліпсіс, на Грэтхен ля аргана з філармоніі, на лысага бітніка Мефістофеля на пустой бочцы з-пад бензіну, на шабас ведзьмаў, што лятуць на аўтапакрышках, на бітыя машыны і на лаканічную, найбольш прасякнутую болем — а не сімваламі — сцэну ў турме. І на сцэны вайны, дзе якраз сімвалы найбольш ім падыходзяць.

Не зусім задавальняе мяне толькі Мефістофель. Зразумела, гэта дастойны праціўнік (менавіта такім дыназаўрам і зрабіў яго мастак), зразумела, будзеш ненавідзець таго, хто падносіць латы, як будучы прэтэз, воіну, а пасля на магілах пераможцаў, на іх латах і гарматах трыумфальна трубіць у трубу.

І ўсё ж гэта крыху не мой Мефістофель. І таму неяк менш верыш ва ўзнясенне Фаўста.

Але ж кожны мае права на свой пункт погляду, да таго ж і ў ілюстрацыях ёсць галоўнае, тое, што і ў кнізе,— выхад да святла.

Фаўсту даравалі, бо ён змагаўся, даравалі, бо ён хацеў дабрыні (а часам з гэтага выходзіла і зло). І пад канец жыцця перамог: нават сляпы, на краі магілы, думаючы, што канчаюць дамбу і канал, ён разважае так:

Свабодны люд і радасная праца
Шчаслівым зробяць гэты ўбогі край.

. . . . . . . . . . . . . . .

Дык вось канечны вынік мудрасці людской:
Што толькі той жыцця і волі варт,
Хто кожны дзень за іх ідзе на бой.

. . . . . . . . . . . . . . .

Калі б у працы ўбачыў я заўсёднай
Народ свабодны на зямлі свабоднай,
Імгненню б я сказаў тады:
«Цудоўнае, спыніся!..»

У заключэнне хачу заўважыць, што кожны новы пераклад — гэта новае даследаванне «Фаўста». У дадзеным выпадку — удалае даследаванне, якое зрабіў Васіль Сёмуха. Таму гэтае эсэ не разважанне пра тое, чаго вартая гэтая рэч, а проста некалькі думак аб перакладзе «Фаўста», аб нашым беларускім «Фаўсце».

# ІНТЭРВ'Ю



## «НЕЛЬГА НЕ БЫЦЬ ГІСТОРЫКАМ»

*— Уладзімір Сямёнавіч, свой шлях у вялікую літаратуру Вы пачыналі як паэт. Успомнім зборнікі вершаў «Матчына душа», «Мая Іліяда». Гэта былі пошукі свайго «я» ці нейкі неабходны этап, праз які прайшлі многія пісьменнікі?*

— З вершаў пачынаюць многія. І толькі ў рэдкім выпадку чалавек пачынае з прозы, а потым прыходзіць да вершаў. Як, напрыклад, Міхась Стральцоў (хоць і гэта я не магу сцвярджаць з абсалютнай дакладнасцю). А магчыма, ён пачынаў з вершаў, ды я гэтага не ведаю.

Пісаць вершы ў пэўным сэнсе прасцей. Прозу наўрад ці пачне пісаць трохгадовае дзіця, але яно зможа напець верш пад які-небудзь рытм. Дастаткова ўспомніць кнігу Карнея Чукоўскага «Ад 2 да 5».

І літаратура пачыналася, мабыць, з верша — з магічнага заклінання. Нават у першых легендах, паданнях існавалі ўзоры рытмікі. Эпас усіх народаў — не што іншае, як паэзія. Хоць у ім сустракаюцца празаічныя ўстаўкі, калі гаворыцца аб заведама празаічных рэчах.

Зрэшты, маім літаратурным дэбютам былі дарожныя запіскі «Вязынка», змешчаныя ў зборніку «Янка Купала», які выйшаў у 1952 годзе. Гэта была ў нейкай ступені выпадковая з'ява. Вершы я не пакідаю пісаць і цяпер, хоць аддаю гэтаму менш часу. Але выданне яшчэ аднаго-двух зборнікаў лічу магчымым.

*— У адным з артыкулаў, прысвечаных Вашай творчасці, указвалася, што «малады паэт празмерна*

*захапляецца гістарычнай тэматыкай». З той пары прайшло дваццаць гадоў. Ваша імя чытачы звязваюць сёння ў першую чаргу з такімі творамі, як «Каласы пад сярпом тваім», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Чым вы растлумачыце такую цікавасць да гістарычнай тэматыкі?*

— Быўшы філолагам, нельга не быць гісторыкам. Кімсьці справядліва заўважана: «Хто забывае мінулае, той павінен будзе перажыць яго яшчэ раз».

Гісторыя — метад мыслення чалавека. Ён і дае магчымасць роздуму над мінулым, сучаснасцю і будучым, бо гісторыя мадэліруе грамадскія працэсы.

У рабоце над кнігамі на гістарычную тэму шмат часу прыходзіцца праводзіць у архівах і бібліятэках. Акрамя таго, багаты матэрыял даюць вусныя легенды, якія часта пацвярджаюцца затым дакументамі. Так было з маім «Паромам на бурнай рацэ». Яго змест — гэта пралог майго рамана «Нельга забыць». Размова ў ім ідзе аб паўстанні 1863 года ў Прыдняпроўі і пакаранні смерцю кіраўніка паўстанцаў Тумаша Грыневіча. Я лічыў, што гэта ўпрыгожанае мясцовае паданне. А пазней у Кракаве былі знойдзены дакументы, якія пацвярджаюць рэальнасць тых падзей. Іх драматызм і асабістая зацікаўленасць прыцягнулі маю ўвагу да гэтай яркай старонкі ў гісторыі нашай беларускай зямлі.

*— Шмат розных водгукаў выклікаў Ваш раман «Нельга забыць», надрукаваны ў часопісе «Полымя» за 1965 год. Якое месца ў сваёй творчасці адводзіце Вы гэтаму раману?*

— Гэты раман быў надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў скарочаным выглядзе. Асобнай кнігай на беларускай мове ён пакуль не выйшаў. Сапраўдная яго назва «Леаніды не вернуцца да Зямлі». Пад такой назвай ён і быў выдадзены на чэшскай мове ў 1975 годзе. Выйдзе раман і на беларускай мове. А пакуль гэтага не здарылася, меркаваць аб яго значэнні цяжка.

*— Уладзімір Сямёнавіч, у кожнага пісьменніка ёсць творы, асабліва дарагія яму па той ці іншай прычыне...*

— Я назаву тры такія творы: «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенія» і «Ладдзя роспачы». Раман «Ка-

ласы пад сярпом тваім» закранае тую яркую старонку беларускай гісторыі, аб якой мы ўжо гаварылі. Пачынаўся ён з прыдняпроўскіх легенд і паданняў, з паэтычнай і вельмі прыгожай прыроды — ад Рагачова да Оршы. Метафарычны вобраз, закладзены ў назве кнігі, навеяны выглядам падмытай грушы на беразе Дняпра ў вёсцы Азярышча. Аповесць «Чазенія» дарагая мне як успамін аб цудоўных месяцах, праведзеных на Далёкім Усходзе. «Ладдзя роспачы», па-мойму, найбольш удалая спроба даць абагульнены характар беларуса, якому і чорт не брат, якога і смерць не палохае, які больш за ўсё любіць Радзіму, жыццё і весялосць і ні пры якіх абставінах не ўступіць у барацьбе за іх.

— *Названыя творы далёка не вычэрпваюць дыяпазон Вашай творчасці. Вы пішаце эсэ, п'есы, кінасцэнарыі. Як Вы лічыце, ці можа пісьменнік дабіцца аднолькавага поспеху ва ўсіх відах творчасці?*

— Усё залежыць ад асобы аўтара. Возьмем два прыклады з мінулага. Мала вядомы сёння чытачам Гусеў-Арэнбургскі пісаў пераважна прозу, паказваў у ёй часцей за ўсё быт духавенства. А вось, скажам, Пушкін дабіўся аднолькавага поспеху ў вершах і ў прозе, у крытыцы і ў гістарычных хроніках... Кожнаму дадзен свой дыяпазон. А вось ці зможа пісьменнік зрабіць што-небудзь значнае ва ўсіх напрамках сваёй творчасці — гэта залежыць ад таленту і ад лёсу.

— *Вашы творы — яшчэ адно сведчанне невычэрпных магчымасцей беларускай мовы. Але як з'яўляюцца ў аўтарскай мове такія словы, як «плотный» (адпавядае беларускаму «шчыльны») або «распавесці» (у значэнні «расказаць»)?*

— А чаму мы павінны забываць старыя корані? Я маю на ўвазе стараславянскую мову. Менавіта там бяруць пачатак рускае слова «повесть», беларускае «апавяданне» і ўкраінскае «розповідзь». Мова — гэта жывы арганізм. З гэтай прычыны ні адзін слоўнік не можа быць вычарпальным. Тлумачальны слоўнік Даля — адзін з найбольш поўных. Але колькі слоў прыбавілася з часу яго выдання, колькі зышло ў нябыт і, магчыма, зноў увойдзе ва ўжытак! Ніякі слоўнік не вычарпае слоўнікавага запасу жывой мовы. Але да гэтага трэба імкнуцца.

*— Вы неахвотна дзеліцеся сваімі творчымі планамі. А як нараджаюцца задумы будучых твораў?*

— Гэта можа быць кімсьці сказанае слова, цікавая ідэя, пейзаж. Нават пах. Я асабіста лічу, што «Антонаўскія яблыкі» Бунін мог напісаць толькі пад уражаннем водару антонавак у скрынцы яго пісьмовага стала. Гэты пах выклікаў няяснае адчуванне, успамін. З усяго гэтага разам узятага нарадзілася апавяданне. Часам задума прыходзіць па асацыяцыі. Старажытныя асірыяне, напрыклад, лічылі, што розум у чалавека змяшчаецца не ў мозгу, а ў вушах. Таму герояў і цароў яны паказвалі з вялікімі вушамі. Можна сабе, напрыклад, уявіць прыдворнага блюдаліза пры асірыйскім царскім двары, які ўсё жыццё гаварыў глупствы, лесціў цара, а яго лічылі вельмі разумным. Але аднойчы, сам гэтага не жадаючы, ён выказаў разумную думку, і яго пакаралі — адрэзалі вушы. У разуменні цара і асірыйскага грамадства ён стаў дурнем. А на самай справе толькі цяпер, паспытаўшы гарачага, ён і стаў разумным. Такая асацыяцыя можа стаць сюжэтам іранічнага апавядання, апавядання-пародыі. Не выключае асацыяцыя і лірыку.

*— Уладзімір Сямёнавіч, якім Вы ўяўляеце сабе чытача сваіх твораў?*

— Чытача перш за ўсё добрага сэрцам, разумнага, сумленнага, які любіць сваю Айчыну, гуманнага. Выходзіць, пераважна ідэальнага. І кожны пісьменнік, які піша ў разліку на такога чытача, павінен старацца, каб кожны яго чытач у рэшце рэшт (хай не сёння і не заўтра) стаў такім.

*Гутарку вяла студэнтка факультэта*
*журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна*
*А. ГУБІЧ*

## «САМАЯ ЦІКАВАЯ НАВУКА — ЖЫЦЦЁ»

*— У якім узросце Вы адчулі патрэбу пісаць? Што з'явілася стымулам для гэтага?*

— Вельмі рана. Чытаць пачаў у тры з паловай гады (можа, нават крыху раней, так што не помню, як вучыўся гэтаму), чытаць лацінкаю і пісаць —

крыху пазней (кепска — чытаў лацінкаю таксама ў тры з паловаю). Вершы спачатку голасам гаварыў і напяваў, а пасля на паперы пісаў,— год з шасці. Пасля апавяданні спрабаваў пісаць і нават «мініп'есы». Сам іх ілюстраваў. Стымул пісання? Сам не ведаю. Можа, процьма добрых кніг вакол і жаданне паспрабаваць і самому, няхай сабе і слабей. Можа, тое, што ў сям'і (і сваякі таксама) не брахалі, але фантазіраваць любілі і ўмелі, падтрымлівалі пахвалой добрую, вясёлую і вынаходлівую выдумку і ніколі з яе не смяяліся, хоць бы і зусім малы прыдумаў.

— *Якім Вы памятаеце сябе ў дзяцінстве? Што з уражанняў дзяцінства, на Вашу думку, найбольш спрыяла развіццю таленту? Якія творы народнай творчасці найбольш падабаліся Вам? Кім Вы хацелі быць у дзяцінстве, у падлеткавым узросце? Любімыя гульні, заняткі? Любімыя ў дзяцінстве кнігі? Калі Вы пачалі цікавіцца гісторыяй наогул і гісторыяй Беларусі, у прыватнасці? Што ў з'явах прыроды найбольш цікавіла Вас?*

— Што спрыяла? Зноў жа асяроддзе. Сваякі (і на суседзяў шанцавала) былі людзі спявучыя, вельмі музычныя, многія з добрымі галасамі, з апавядальным талентам (здзіўляюся, чаму не стаў прафесійным спеваком бацька, пісьменнікамі — дзядзькі, асабліва адзін). Усе з гумарам і схільнасцю да іроніі (у тым ліку да самаіроніі).

Ну і рос як усе. З іхняй бясконцай цікавасцю да ўсіх з'яў і праяў жыцця. З прынцыпам, які і зараз ува мне не выветрыўся: «гэта цікава: а значыць, я павінен гэта ведаць» (не датычыцца асабістых сакрэтаў людзей: гэтым у нас усе грэбавалі), «нехта ўмее — значыць, магу і я».

Нехта плавае, скача ў ваду, ловіць змей дзеля яду, бброў, умее лазіць па скалах — значыць, і я магу. І павінен гэта рабіць добра, бо дрэнна нешта рабіць сорамна.

Народныя творы падабаліся ўсе — ад лірычных да грубых.

Быць хацеў ледзь не ўсім на свеце (за выключэннем, можа, вучонага-матэматыка), і сапраўды многае ўмею.

Любіў, што і ўсе дзеці, падлеткі, юнакі, і што

любіў, тое рабіў добра, а што не любіў — і кіем нельга было прымусіць рабіць гэта. Ніхто і не прымушаў. Фізічнае ўздзеянне ў нас выключалася. Хіба што шлепака аднаго гады ў рады дадуць.

Гісторыя была вакол, і таму цікавіўся ёй з самага ранняга ўзросту. І гісторыя Беларусі была цікавей за ўсё, бо побач (а кніг на гэту тэму было шмат). З'явы прыроды і зараз для мяне цікавей за іншыя кнігі. Мне шкада, напрыклад, што будоўлі пагубілі найбольшую і найцікавейшую ў Мінску і наваколлі ферму тлей, заведзеную мурашкамі-«жывёлагадоўцамі» (трохі не даязджаючы да паваротнікі аўтобуса № 38 з вул. Веры Харужай на бульвар Шаўчэнкі, на беразе ручаіны — Канавы). Надта цікавае жыццё там кіпела.

І ўсе з'явы прыроды захапляюць. Дагэтуль.

*— Для Вашай кнігі «Зямля пад белымі крыламі» і наогул для ўсёй Вашай творчасці неабходны самыя разнастайныя веды пра Беларусь. Што Вам дала самаадукацыя? Якія навукі найбольш цікавяць?*

— Веды пра Беларусь і прынесла пераважна самаадукацыя, назіральнасць, цікаўнасць. Мала месцаў, якія не выхадзіў бы ўласнымі нагамі.

Навукі цікавяць усе. Дакладныя — менш. А больш за ўсё самая цікавая навука — жыццё.

*— Якія мясціны Беларусі Вы найбольш любіце і ведаеце?*

— Люблю ўсе месцы на Беларусі. Ведаю таксама ўсе. Некаторыя болей, некаторыя меней. Найбольш — Прыдняпроўе, Палессе, Прыдзвінне, Навагрудчыну... А ўсе ведаю і ўсе люблю. І яшчэ Далёкі Усход, Украіну, Урал, горны Крым і Каўказ. І, пасля Беларусі, больш за ўсё — мора.

І іншыя краіны люблю. І нават калі ў нейкай не бываў — пачасту ведаю яе літаратуру, геаграфію, гісторыю лепей за некаторых тамтэйшых ураджэнцаў. Ведаць — гэта адзінае вартае на зямлі. Пасільна ўмець — другое. А ведаць і ўмець — гэта і ёсць фундамент чалавека, якім ён, чалавек, павінен быць.

*— Дзе Вам найлепш працуецца: у горадзе, вёсцы, Доме творчасці і г. д.? Ці любіце Вы сам працэс пісьма? Чым пішаце ці друкуеце на машынцы? Ці любіце свой рабочы стол, кабінет? Калі можна, апі-*

*шыце іх. У які час дня вам найлепш працуецца? Пішаце кожны дзень? Па колькі гадзін?*

— Найлепш працуецца ў тым месцы, якое дае настрой для працы. Таўталогія, але так. На гары ў адрыне, у хаце на вёсцы, у купэ, у кватэры ў сябе за сталом. Паўсюль, калі ёсць настрой жыць і паўната гэтага жыцця.

Толькі пішу. Добрым пяром на добрай паперы. Машынкі не разумею. Працэс пісання — адна з найвялікшых асалод на зямлі, калі ёсць настрой. І трэба ўмець гэты настрой выклікаць.

Люблю свой стол і кабінет. Многа кніг, стол, тахта, рэчы з розных канцоў зямлі, з якіх кожная можа быць вусным апавяданнем пра нейкі выпадак у жыцці.

Улюбёнага часу працы — няма. Раней больш любіў працаваць ноччу. Цяпер — калі з'явіцца настрой.

Працую не кожны дзень. Магу адну думку, адзін сказ у дзень запісаць, а магу сядзець і па дзесяць гадзін, тыдзень, месяц, некалькі месяцаў.

— *Якія кнігі Вы ў асноўным збіраеце? Ці ёсць у Вас падзел: чытанне з пэўнай мэтай, напрыклад, навуковай, чытанне, так сказаць, для душы ці нават проста для таго, каб адпачыць ад працы? Калі падзел ёсць, што чытаеце для адпачынку? Чым любіце займацца ў вольны час?*

— Кнігі спецыяльна не збіраю. Толькі ўлюбёныя мастацкія, слоўнікі і даведнікі, геаграфія, гісторыя і археалогія. Асядаюць і кнігі, прыдбаныя з пэўнай мэтай, для работы, і для душы, і для адпачынку (кнігі-дзівакі, кнігі-загадкі, кнігі рэдкага лёсу, дэтэктывы і г. д.).

У вольны час люблю ездзіць, проста швэндацца між людзей, знаёміцца з людзьмі цікавымі і «небывалымі» (дужа памыляюцца тыя, што клічуць мяне «рамантыкам»). Няма ў мяне амаль тыпаў выдуманых, падзей, якіх не было або не магло быць. Я проста валодаю спаўна здольнасцю знаходзіць такіх людзей, трапляць у абставіны рэдкія. І, апісваючы іх, я карыстаюся вымыслам у найменшай ступені.

— *Ці лічыце Вы, што ў Вас ёсць дзівацтвы? Які, на Вашу думку, у Вас характар, тэмперамент? У якіх адносінах знаходзіцца ў Вас фантазія з лагічным мысленнем? Ці любіце Вы марыць, даваць*

*волю фантазіі? Ці верыце ў мастацкую інтуіцыю?*

— Пісанне ўжо само па сабе дзівацтва, нешта не зусім будзённае. А ў мяне да таго і ў штодзённым жыцці дзівацтваў хапае. Лічу, што без іх пісьменніка няма. Аб характары і тэмпераменце маім сведчаць лепей за ўсё маё жыццё і мае кнігі.

Фантазія неадлучная ад логікі, свайго фундаменту. Інакш гэта — грушы на вярбе.

Марыць і даваць волю фантазіі — першае, што складае пісьменніка. Мастацкая інтуіцыя — таксама.

— *Назіральны Вы чалавек? Якая ў Вас памяць? Ці ёсць кніжкі для запісаў? Ці ствараеце папярэдне план твора на паперы?*

— Думаю, што я назіральны, часам нават вельмі. Памяць добрая на тое, што трэба. Што не трэба — забываецца адразу. Нават важнае з бытавога боку. Магу памятаць адценне, пах, імгненны вобраз — гадамі і забыць аб учарашняй важлівай, але нецікавай размове.

Кніжкі для запісаў ёсць. Многа. Менавіта для назваў, імён і інш. А то, бывае, бачыш чалавека, як жывога, а назву вёскі забыў. «Бранебойную» дэталь памятаеш, а колькі год гэты чалавек працуе, скажам, падводным археолагам — вылецела з галавы. Ну і яшчэ запісваю тое, што пры складанні плана можа вылецець з галавы (круціцца, а не ўспомніш).

План — абавязковы. Спачатку агульны, пасля ўсё больш і больш удакладнены (аж да асобных рэплік). І зноў, і зноў. Урэшце план ужо амаль твор (у гэты момант ён перапэцканы так, што і чорт не разбярэцца). А пасля пішу начыста, амаль без правак. Бо ўсё ўжо ясна. Часам, праўда, героі пачынаюць хуліганіць, весці сябе не так, як было задумана. І я іх заўсёды слухаюся і даю ім волю. Бо калі яны ўжо робяцца самастойныя — гэта азначае, што рэч удаецца, што яна жыве.

— *Вы — пісьменнік рамантычнага складу. Значыць, Вас цікавіць усё незвычайнае. Што канкрэтна (хоць і па творах можна, безумоўна, многае ўявіць, але ўсё ж не ўсё, ад аўтара пачуць — важней)? Ці ёсць прататыпы ў Вашых «негістарычных» асоб, напрыклад, у «Чазеніі»?*

— Я не пісьменнік рамантычнага складу. Хто хоча, каб я яго паважаў — хай здасць гэта азначэн-

не, гэты ярлык у архіў. Я, можа, больш чым хто авантурыст (хоць ніколі не шукаў у авантурах выгады), і жыццё падсоўвае мне і такіх людзей, і такія выпадкі, якія не назавеш штодзённымі. «Ищущий обрящет». «Ищите и обрящете» — гэта яшчэ і святое пісьмо гаварыла.

Вось, скажам, падзеі толькі дзесяці дзён верасня 1978 года. З 9-га па 21-га. Палёт у Душанбе.— Паход у Варзобскую цясніну.— Пастухі, што спускаліся з гор з чародамі.— Старажытная крэпасць у Гісары. Рынкі і іх людзі.— Музеі.— Кераміка і яе вывучэнне.— Будоўля Нурэкскай ГЭС.— Над гарамі ў Самарканд.— Узбекскае вяселле ля Гур-Эміра.— Абсерваторыя ў Афрасіябе.— Начны кішлак Улугбек.— Зноў Душанбе.— Таджык-міліцыянер і яго сям'я.— Спрэчкі аб каране і хрысціянстве.— Начныя кішлакі ў Варзобе.— Пералёт у Абхазію і выхад у мора з рыбакамі, якіх ведаю шмат год.

І на маім шляху егеры, змеяловы, чабаны, начлег на Марыяцкай вежы ў Кракаве, скалалазы, ганчары, святары, народныя майстры скрыпак, следчыя і г. д.

Гэта не рамантыка. Такім жыццём жывуць многія тысячы людзей. І я хачу жыць і жыву, як яны, і люблю іх, і апісваю. А тое, што мне на гэта шанцуе — ну што ж, літасць лёсу.

...Сцэна ў кактэбельскай міліцыі. Пагранічнікі затрымалі. Маёр: «Каго затрымалі? Мы яго шмат год ведаем. Добрыя людзі ўсе спяць, а гэты псіх лазіць ноччу па скалах». Мне гэтыя словы — самая дарагая ўзнагарода.

Прататыпы заўсёды ёсць, нават у «негістарычных» маіх асоб. У «Чазеніі» гэта Няпіпіва (Шчукін, капітан МРС-200), чэмпіён — яхтсмен Ляпін, энтамолаг з Харкава Лісоўскі (дзядзька Сакрат). Ясна, што яны ў чымсьці багацей і разнастайней, а ў чымсьці бяднейшыя за арыгіналы.

*— Якія гістарычныя асобы, якія перыяды сусветнай гісторыі Вас найбольш цікавяць? Жыццёвы лёс якога дзеяча культуры, якога мастака Вас найбольш захапляе? Якія архітэктурныя збудаванні ў Мінску Вам найбольш падабаюцца і, наогул: ці па тым шляху ён развіваецца?*

— Асобы і эпохі, якія цікавяць. Ключавыя эпохі

(а Беларусі ў гэтым сэнсе пашанцавала, яна ўся з гэтых эпох), калі вырашаецца лёс Краю, лёс Чалавека з вялікай літары. І людзі такія цікавяць. Якія адстойваюць у сабе Чалавека, нягледзячы ні на якія абставіны і хлусню (асабліва).

Наконт дзеячаў культуры пакуль не скажу. Доўга гаварыць. Таму што кожная культура — тысячы такіх дзеячаў. І толькі ў шматлікай разнастайнасці асоб яна і нараджаецца, сапраўдная культура. Інакшай «грамада-сіфанафора» ў Максіма Багдановіча, злачынная аднастайнасць.

Таму і Мінск, які яго хочуць зрабіць некаторыя архітэктары — злачынства. А ў ім павінны жыць і ўжывацца разнастайныя элементы.

— *Як Вы ўспрымаеце сучасны быт наогул і, у прыватнасці, народную стылізацыю ў ім? Як, на Вашу думку, неабходна выхоўваць нашу моладзь у любві да нацыянальнай культуры?*

— Сучасны быт, народная стылізацыя. Калі ўдалыя — вельмі падабаюцца.

Ёсць на гэтым шляху, ясна, і выдаткі, але і яны патрэбны. Бо лепей нават з крывой мордай, чым зусім без яе.

Выхоўваць любоў да нацыянальнай культуры можна адным толькі спосабам: выхаваннем у чалавеку гордасці за свой народ і яго дзеянні ў гісторыі. І — у сучасным — працай, часам непасільнай, па асвеце моладзі, па абуджэнні ў ёй глыбокіх ведаў аб сваіх людзях і сваім краі. Калі ўсе будуць працаваць над гэтым на грані сваіх магчымасцей — грамадства здолее ўсё.

Вось некалькі слоў. Можа, калісьці яшчэ вярнуся да гэтага.

*З У. Караткевічам гутарыла*
*Таццяна ШАМЯКІНА.*

# ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ



## 1930

*Лістапад, 26*

Нарадзіўся ў горадзе Оршы Віцебскай вобласці ў сям'і бухгалтара. *(Пасведчанне аб нараджэнні, копія; 113-я папка хатняга архіва.)*[1]

«Я ўраджэнец той часткі Беларусі, якая ляжыць на Дняпры... Продкі мае таксама ўсе адсюль...

Маці мая, Надзея Васільеўна, нарадзілася ў 1893 годзе, у дзяцінстве засталася без маці, скончыла марыінскую гімназію ў Магілёве, некаторы час, кінуўшы дом, працавала вясковай настаўніцай у вёсцы Збароў, ля Рагачова, а пасля пазнаёмілася з маім бацькам, Караткевічам Сямёнам Цімафеевічам, і ў 1917 годзе выйшла за яго замуж (бацька нарадзіўся ў 1887 годзе, памёр у 1959-м).

У сям'і нас было трох. Старэйшы брат (загінуў на апошняй, спадзяюся, што апошняй, вайне), старэйшая сястра і я». *(Дарога, якую прайшоў, 1 снеж. 1964 // Пра час і пра сябе. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1966. С. 190—191.)*

---

[1] Асабістыя справы, Аўтабіяграфіі, Картка персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў СССР, Запісныя кніжкі, Рукапісы, Машынапісы, Карэктуры твораў і выступленняў, Лісты, Выпіскі з гісторыі хваробы, Пасведчанні, Даведкі і іншыя матэрыялы, на якія ў «Летапісе...» робіцца спасылка, захоўваюцца ў хатнім архіве пісьменніка, СП БССР, паліклініцы Беларускага Літфонду, Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ЦДАМЛіМ БССР), аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР (ЦНБ АН БССР).

## 1936—1941

«Пісаць (а спачатку «бубніць») вершы пачаў год у шэсць, але, на шчасце, хутка кінуў гэты занятак. Трохі пазней спрабаваў пісаць апавяданні, прычым абавязкова іх ілюстраваў. Увогуле, усё гэта было разнавіднасцю дзіцячай гульні. Таленты выяўляў разнастайныя: і маляваў, і ў музычную школу хадзіў (прычым абсалютны слых спалучаўся ўва мне з гэткай жа абсалютнай лянотай), але ўсе гэтыя таленты пайшлі тунна». *(Дарога, якую прайшоў. С. 192.)*

«У 1938 годзе паступіў там жа, у г. Оршы, у школу *(паводле слоў сястры Н. С. Кучкоўскай, у СШ № 3.— А. В.)* і да вайны скончыў тры класы». *(Аўтабіяграфія, 25 крас.1957; СП БССР.)*

## 1941—1944

Вайна застала ў Маскве, куды пасля заканчэння школы паехаў да сястры, якая там вучылася. *(Паводле слоў Н. С. Кучкоўскай.)*

«Быў спачатку ў Маскве, потым на Разаншчыне. Пасля давялося ўцякаць і адтуль. На Урал, у наваколле Кунгура. Выпадкова даведаўся, што бацькі ў Арэнбургу... *(Паводле слоў сястры, яна прыехала па яго ў жніўні 1943 г., і яны з вялікімі цяжкасцямі дабраліся да бацькоў.— А. В.)* У Арэнбургу скончыў шосты клас. Потым нядаўна вызвалены Кіеў». *(Дарога, якую прайшоў. С. 192.)*

## 1944—1949

«Пасля вызвалення роднага горада пераехаў у Оршу і паступіў у сёмы клас сярэдняй школы, якую скончыў у 1949 годзе. У камсамоле з 1945 года». *(Аўтабіяграфія, 25 крас. 1957; СП БССР. Паводле слоў Н. С. Кучкоўскай, вучыўся ў СШ № 1, а 10-ты клас канчаў у СШ № 5 г. Оршы.)*

«Восенню сорак чацвёртага пераехалі на Беларусь... І ўсё ж многіх з нас цягнула да вершаў. Стольскіх, што мы нават выдалі некалькі нумароў рукапіснага часопіса «Званочак»...

Напісаў я тады, думаю, не менш за дзвесце вершаў, але нікому іх не паказваў. А потым прыйшла настаўніца, якую заўсёды памятаю дабром,— Е. І. Гры-

невіч. І неяк так атрымалася, што ёй некаторыя вершы паказаў. Яны і прыгодніцкая аповесць «Загадка Неферціці» былі «надрукаваны» ў нашым «Званочку». І гэта была адзіная мая «публікацыя» за дзесяць год. Цяпер усё гэта недзе згубілася і шкадаваць аб ім пэўна няма чаго». *(Дарога, якую прайшоў. С. 192—193.)*

## 1949—1954

Вучыўся на філалагічным факультэце рускага аддзела Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі.

«Вучыўся, быў шчаслівы, меў шмат сяброў і, усё ж, успамінаю гэты час са змешаным пачуццём глыбокай пяшчоты і сораму. Пяшчоты — таму, што была навука, старыя рукапісы, кнігі, музеі, музыка, дзяўчаты, сябры, свае і чужыя вершы. Сораму — таму, што нярэдка даводзілася тады сустракацца са звычайнай вульгарызацыяй навукі.

Мне хацелася самому зразумець, чаму і нашто, і таму на некаторыя лекцыі я не хадзіў, а, замест таго, сядзеў у публічнай бібліятэцы.

Як ні дзіўна, я не хацеў быць літаратарам. Вершы пісаў для сябе. А ў будучым хацеў быць літаратуразнаўцам. Напісаў некалькі прац: «Багдановіч і сучаснасць», «Моўная стыхія Пушкіна», «Цёмныя месцы «Слова», «Беларускія і ўкраінскія школьныя драмы», «Авакум і літаратура расколу», «Справа пра «Саборныя дзеянні». *(Дарога, якую прайшоў. С. 193.)*

## 1950

*Лета*

Напісаў першы варыянт аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». *(Памета на карэктуры аповесці; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 53.)*

## 1951

*Ліпень, 29*

У аршанскай раённай газеце «Ленінскі прызыў» надрукаваны вершы «Здесь будет канал» і «Якубу Коласу». Адзін з іх быў на рускай мове, другі — на беларускай.

*3 29 ліпеня*

Праходзіў вайсковыя дваццацідзённыя зборы. *(Павестка; 113-я папка хатняга архіва.)*

1952

*Чэрвень*

Наведаў разам з сябрам-аршанцам, студэнтам Беларускага політэхнічнага інстытута В. Краўцом Вязынку, дзе нарадзіўся Янка Купала. *(Паводле успамінаў В. Краўца, якія захоўваюцца ў аўтара «Летапісу...»)* Пасля паездкі даслаў нарыс «Вязынка» і суправаджальны ліст жонцы Янкі Купалы Уладзіславе Францаўне. *(Рукапіс; 9-я папка хатняга архіва.)*

*Лета*

Даслаў свае раннія творы для ацэнкі Якубу Коласу. Прыклаў да іх суправаджальны ліст. Гэтыя творы (казкі, апрацоўкі казак, вершы і апавяданні) пад назвай «Казкі і легенды маёй Радзімы» (129 с.) змешчаны ў агульным сшытку, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа, воп. 110.

1953

*Пачатак сакавіка*

Ездзіў з сябрамі-студэнтамі на пахаванне Сталіна. (Памёр 5 сакавіка.) «В 39-м вернулся из тюрьмы один из моих дядек, старый коммунист, перед арестом — заведующий камчатским облоно... Несмотря на мой возраст, он ничего от меня не скрывал... Потому и на похороны Сталина поехал и подбил на поездку ребят из комнаты, не из-за скорби, а чтобы видеть собственными глазами. И увидел. И, вместе с хлопцами, помогал санитарам вытаскивать из давки людей. И попал в переделку в Ветошном переулке в день похорон. А это уже не оставляло никаких сомнений и вызывало одно желание: «Скорей бы покончили со всем этим»... Никаких сомнений в его «зрячестве», к счастью, уже на втором курсе у меня не было». *(Дорога, которую прошел (автобиография), 17 верас. 1964; Рукапіс; 21-я папка хатняга архіва.)*

*31 ліпеня*

Праходзіў вайсковыя дваццацідзённыя зборы. *(Павестка; 9-я папка хатняга архіва.)*

*Ліпень*
У час. «Полымя», № 7 надрукаваны верш «Машэка».

«Напісаў я за дзевяць год — горы. Нават трагедыю белым вершам, жахліва тр-рагічную. Але надрукавацца і не думаў. У канцы першага года маёй настаўніцкай работы адбылося, аднак, нечаканае. Мінскі сябра (С. Карпенка.— *А. В.*) папрасіў мяне даслаць яму вершы, пачытаць. Я даслаў як бывала і раней. А ён панёс іх у часопіс «Полымя».

І раптам улетку 1955 года я атрымаў нумар часопіса са сваім вершам «Машэка». Гэта пераламіла мой лёс. Потым з'явіліся яшчэ вершы». *(Дарога, якую прайшоў, С. 194.)*

*Верасень, 15—23*
Быў удзельнікам рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў у Мінску, дзе былі высока ацэнены яго вершы. Удзельнікі нарады сфатаграфаваліся з Якубам Коласам. *(Літ. і мастацтва, 24 верас.)*

*На працягу года*
У кнізе «Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта» надрукаваны нарыс «Вязынка».

## 1956—1958

Працаваў настаўнікам 8-й сярэдняй школы ў Оршы. *(Картка персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў СССР, 23 лют. 1978; СП БССР.)*

## 1956

*Сакавік*
У час. «Полымя, № 3 надрукаваны вершы «Заяц варыць піва», «Орша».

Напісаў у Лесавічах легенду «Маці Ветру». *(Рукапіс; Хатні архіў.)*

*Верасень*
У час. «Полымя», № 9 надрукаваны вершы «Балада пра паўстанца Ваўкалаку», «Стаю ўначы ў завіруху...».

## 1954

*Чэрвень*

Абараніў дыпломную работу на тэму «Казка. Легенда. Паданне». *(Рукапіс; 17-я папка хатняга архіва.)*

*Верасень*

Здаваў уступныя экзамены ў завочную аспірантуру па спецыяльнасці «Руская літаратура» ў Кіеўскі дзяржаўны універсітэт імя Т. Р. Шаўчэнкі. *(Ліст да сябра ад 26 жн.: 9-я папка хатняга архіва.)*

## 1954—1956

Працаваў настаўнікам СШ у вёсцы Лесавічы Таращанскага раёна Кіеўскай вобласці. *(Аўтабіяграфія, 25 крас. 1957; Рукапіс; СП БССР.)*

## 1955

*Сакавік, 28, май, 11*

Здаў экзамены кандыдацкага мінімуму (дыялектычны і гістарычны матэрыялізм, нямецкая мова, гісторыя рускай літаратуры, спецкурс па гісторыі рускай літаратуры). *(Пасведчанне ад 21 мая 1955; 113-я папка хатняга архіва.)* «Пасля заканчэння універсітэта я здаў кандыдацкі мінімум і пачаў быў пісаць дысертацыю пра паўстанне 1863 г. ва ўсходнеславянскіх і польскай літаратурах, але прыйшлі іншыя інтарэсы: з'явілася задумка аб рамане на тую самую тэму. Да рэалізацыі яе, праўда, я прыступіў толькі праз дванаццаць год». *(Дарога, якую прайшоў. С. 193.)*

*Да 17 ліпеня*

Па запрашэнні Віцебскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў працаваў на летніх курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў-філолагаў і прачытаў курс лекцый па рускай савецкай (32 гадзіны) і беларускай (36 гадзін) літаратурах. Курсы праводзіліся ў Оршы. У водзыве, падпісаным загадчыкам курсаў, членам метадычнага савета Віцебскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў М. Садавым, адзначалася, што лекцыі У. Караткевіча былі цікавымі і змястоўнымі. *(Машынапіс; 106-я папка хатняга архіва.)*

## 1957

*Студзень*

У час. «Маладосць», № 1 надрукаваны вершы «Бацькаўшчына», «Ялінка», «Рута ў халоднай расе».

*Сакавік, пачатак — сакавік, 14*

Напісаў п'есу «Млын на Сініх Вірах». Дапрацоўваў у сакавіку і красавіку. *(Рукапіс; Хатні архіў.)* Упершыню — у яго кн. «Старыя беларускія хронікі» (Мн., 1988).

*Красавік*

У час «Маладосць», № 4 надрукаваны верш «Вясна».

*З 20 красавіка*

Быў удзельнікам рэспубліканскага семінара маладых паэтаў. *(Літ. і мастацтва, 24 крас.)* Знаходзіўся ў Каралішчавічах і Мінску амаль два тыдні. *(Ліст да М. А. Садавога ад 14 мая.)*

*Красавік, 26*

Прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР. Рэкамендацыі далі М. Лужанін, А. Вялюгін, А. Бялевіч. На пасяджэнні праўлення СП БССР ад 26 крас. з характарыстыкай творчасці У. Караткевіча выступілі А. Бялевіч і А. Вялюгін. *(Асабістая справа; СП БССР.)*

*Май, 1*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны верш «Рыбы ў падводных лясах». (Вядомы пад назвай «З падсветам».)

*Май*

Закончыў аповесць «У снягах драмае вясна». *(Рукапіс; Хатні архіў.)* Упершыню — у час. «Полымя», 1988, № 4—5.

*Чэрвень, 30*

У газ. «Чырвоная змена» надрукаваны верш «Сплятайце рукі!», адзначаны дыпломам Усебеларускага фестывалю моладзі і студэнтаў.

*Ліпень*

У час. «Полымя», № 7 надрукаваны вершы «Вадарод», «Як размаўляюць звяры і птушкі», «Гісторыя з першым каханнем», «Песня шафёра», «Праменьчык», «Сырцовыя цагліны», «Лісце»,

*Верасень, 11*

У газ. «Чырвоная змена» надрукаваны верш «У тую ноч».

*Да 6 лістапада*

Прысуджана заахвочвальная прэмія за п'есу «Млын на Сініх Вірах» на рэспубліканскім конкурсе на лепшую п'есу, опернае і балетнае лібрэта, прысвечаным 40-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі. *(Літ. і мастацтва, 6 лістап.)*

*Снежань*

У час. «Полымя», № 12 надрукаваны верш «Спадарожніку Зямлі».

## 1958—1960

Вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. «Літаратурныя курсы шмат далі мне самой сваёй атмасферай, глыбінёй спрэчак, сяброўствам, шырынёй далягляду. Там я напісаў сваю другую кнігу «Вячэрнія ветразі» (1960), некалькі апавяданняў і гістарычную аповесць «Сівая легенда»; разам з напісанай раней аповесцю «Цыганскі кароль» яны склалі трэцюю маю кнігу «Блакіт і золата дня». Акрамя таго, у Маскве быў задуманы першы мой раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», надрукаваны пад назвай «Нельга забыць» у часопісе «Полымя» ў 1962 годзе». *(Дарога, якую прайшоў. С. 194.)*

## 1958

*Люты, 4 — май*

У Мінску, у хаце В. Краўца, дзе некаторы час жыў, дапрацоўваў аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». *(Паводле паметы ў канцы рукапісу аповесці, які захоўваецца ў перакладчыка В. Сёмухі.)* Дапрацоўвалася аповесць і ў маі. «Пішу зараз увесь вольны час... і за гэты час скончу сучасныя апавяданні і апрацую дзве-тры маленькіх аповесці пра шляхту. Адну амаль апрацаваў, апошнюю, пра васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя ў беларускай глушы: «Дзікае паляванне караля Стаха». *(Ліст да Я. Брыля ад 10 мая.)*

*Люты*

У час. «Полымя», № 2 надрукаваны вершы «Партызанская балада» і «На пачатку дарог».

*Красавік*

У час. «Маладосць», № 4 надрукаваны верш «На радзіме». (Вядомы пад назвай «У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы...»)

*Май*

У час. «Полымя», № 5 надрукаваны пераклад верша А. Жукаўскаса «Ты не пытай». (З літоўск.)

*Жнівень, 16*

Закончыў аповесць «Цыганскі кароль». *(Машынапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1. адз. зах. 67.)*

*Снежань*

У час. «Полымя», № 12 надрукаваны верш «Дзень першы».

*На працягу года*

Выйшла з друку першая кніга, зборнік вершаў «Матчына душа».

У кн. «Галасы сяброў» (Мн., с. 127, 190—191) надрукаваны пераклады вершаў А. Малдоніса «Голас восені» і В. Рудокаса «Веснавая мелодыя». (З літоўск.)

## 1959

*Сакавік*

У час. «Маладосць», № 3 надрукаваны вершы «Балада пра смяротнікаў», «Баявыя вазы», «Вячэрнія ветразі».

*Да 7 сакавіка*

Беларускае тэлебачанне паставіла п'есу «Млын на Сініх Вірах». *(Літ. і мастацтва, 7 сак.)*

*Сакавік, 22*

У газ. «Чырвоная змена» надрукаваны верш «Як стажары ў небе заззялі...».

*Красавік*

У час. «Полымя», № 4 надрукаваны верш «Месяц над млынам». (Вядомы пад назвай «Было юнацтва».)

*Май, 23*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны артыкул «Замарожаныя мільёны». (Сааўт. І. Чаранок, Т. Бойка, А. Прохараў, М. Сталяроў.)

*Чэрвень, 10*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны нарыс «Пад зялёнымі шатамі паркаў». (Сааўт. А. Бажко, У. Ідэльсон, І. Цяцерын.)

*Чэрвень, 14*

Закончыў апавяданне «Мір і меч». (Пазнейшая назва «Аліва і меч»). *(Машынапіс; 51-я папка хатняга архіва.)* Упершыню — у час. «Маладосць», 1990, № 11.

*Чэрвень, 25*

Закончыў у Оршы апавяданне «Белае полымя». *(Машынапіс; ЦДАМЛіМ БССР, Ф. 37, воп. 1, адз. зах. 110, с. 121—141.)*

*Жнівень, 7*

Узнік пачатак рамана «Каласы пад сярпом тваім». «Пачатак рамана прыйш.[оў] у галаву 7 жн.[іўня] 59 г. ля Азярышча». *(Запісная кніжка.)*

*Жнівень, 26*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны артыкул пра паэзію «Якім шляхам ісці?». Там жа як адказ У. Караткевічу быў надрукаваны артыкул Р. Бярозкіна «Міма паэзіі».

*Верасень, 12*

Закончыў сцэнарый мастацкага фільма «Дзеці вялікай ракі». *(Рукапіс; 90-я папка хатняга архіва.)*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны пераклад верша Е. Стулпана «Журавінка». (З латыш.)

*Верасень, 21*

Памёр бацька Караткевіч Сямён Цімафеевіч *(Паводле слоў сястры Н. С. Кучкоўскай.)*

*Кастрычнік*

У час. «Полымя», № 10 надрукаваны верш «Буслы вучаць дзяцей».

*Верасень 1960 — жнівень 1962*

Вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве. З жніўня 1962 г. на творчай працы. Жыў у Мінску. *(Картка персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў СССР, 23 лют. 1978; СП БССР.)*

## 1960

*Да 20 студзеня*

Пачаў пісаць у Оршы аповесць «Сівая легенда». *(Ліст да Е. Стулпана і яго блізкіх ад 20 студз.)*

*Красавік*

У час. «Маладосць», № 4 надрукаваны верш «Ленін калыша дзіця».

*Май*

У час. «Маладосць», № 5 надрукавана апавяданне «У шалашы».

*Май — чэрвень*

У час. «Подъем», № 3 надрукавана апавяданне

«Пылесос». (Пер. Ю. Ганчароў.) Упершыню на беларускай мове пад назвай «Як звяргаюцца ідалы» — у яго кн. «Блакіт і золата дня» (Мн., 1961).

*Чэрвень*

У час. «Маладосць», № 6 надрукаваны вершы «Дзяўчаты», «Чайка», «О мой цудоўны край...», «Месяц заснуў на коміне хаты...», «Мімозы».

*Верасень 1960 — да 15 лютага 1962*

Напісаў раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць»). *(Памета на рукапісе; ЦДАМЛіМ БССР, Ф. 56, воп. 1, адз. зах. 1; Ліст да Е. Стулпана і яго блізкіх ад 15 лют. 1962.)*

*На працягу года*

Выйшаў з друку зборнік паэзіі «Вячэрнія ветразі».

## 1961

*Студзень*

У час. «Полымя», № 1 надрукавана апавяданне «Каўчэг». (Вядома пад назвай «Блакіт і золата дня».)

*Сакавік*

У час. «Маладосць», № 3 надрукаваны пераклад навелы О. Іаселіяні «Белая дзяўчына». (З груз.)

*Красавік*

У час. «Полымя», № 4 надрукавана легенда «Раман Ракута». (Вядома як аповесць пад назвай «Сівая легенда».)

*Май, 1*

Закончыў апавяданне «Маленькая балерына». *(Паводле паметы на рукапісе, які захоўваецца ў перакладчыка В. Сёмухі.)* Упершыню — на рускай мове (аўтапераклад) — у час. «Нёман», 1987, № 8, на беларускай — у час. «Маладосць», 1988, № 1.

*Май*

У час. «Полымя», № 5 надрукаваны верш «Нявесце Кастуся Каліноўскага».

*Кастрычнік, 7*

Закончыў «Легенду аб бедным д'ябле і адвакатах сатаны» і сцэнарый па ёй для аднайменнага мастацкага фільма. *(Машынапіс, 73-я папка хатняга архіва; Рукапіс, 80-я папка хатняга архіва.)*

*На працягу года*

Выйшаў з друку зборнік апавяданняў і аповесцей «Блакіт і золата дня».

## 1962

*Сакавік*

У час. «Полымя», № 3 надрукаваны верш «Вуліца касманаўтаў».

*Красавік, 21 — май, 12*

Пераклаў п'есу П. Антэаса «Праметэй перад трыбуналам». (З навагрэч.) *(Лісты да Е. Стулпана ад 21 крас. і 12 мая.)*

*27 крас. 1962—18 мая 1964*

Напісаў раман «Каласы пад сярпом тваім». *(Паводле памет у рукапісе, які захоўваецца ў 43-й папцы хатняга архіва.)* Памета ў канцы рукапісу сведчыць, што твор ствараўся ў Рагачове, Мінску, Каралішчавічах, Чэлябінску, Мінску. Гэта першая кніга задуманай трылогіі пра паўстанне 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

*Май — чэрвень*

У час. «Полымя», № 5—6 надрукаваны раман «Нельга забыць». (Вядомы пад назвай «Леаніды не вернуцца да Зямлі».)

*Ліпень*

У час. «Маладосць», № 7 надрукаваў артыкул пра Янку Купалу «Пакуль гэта сэрца б'ецца», дзе згадаў, што да вайны ў Оршы ён аднойчы бачыў паэта.

*Да 25 ліпеня*

Пісаў і ўжо амаль напісаў нарыс пра Латвію «Казкі Янтарнай краіны». *(Ліст да Е. Стулпана і яго блізкіх ад 25 ліп.)*

*Кастрычнік, 5(?) — 25*

Адпачываў у Кактэбелі. «Надо здесь кончить шлифовать первую книгу романа» («Каласы пад сярпом тваім».— *А. В.*). *(Ліст да Е. Стулпана ад 5 кастр.)*

*Снежань*

У час. «Маладосць», № 12 надрукавана рэцэнзія «З любоўю да чалавека» на кн. А. Наўроцкага «Неба ўсміхаецца маланкаю» (Мн., 1962).

У час. «Полымя», № 12 надрукавана навела «Кніганошы».

## 1963

*На пачатку года*

У кн. «Выбранае» Д. Г. Байрана (Мн., с. 54—55, 127—133) надрукаваны пераклады верша «Пара-

жэнне Сенахерыба» і ўрыўка з песні трэцяй паэмы «Паломніцтва Чайльд Гарольда». (З англ.) *(Паводле выхадных даных гэтай кнігі.)*

*Студзень, 21*

Атрымаў аднапакаёвую кватэру ў Мінску па вул. Чарнышэўскага, д. 7, кв. 57. *(Ордэр; 113-я папка хатняга архіва.)* Перавёз з Оршы сваю маці, якая ў далейшым жыла пры ім. *(А. Лабанок. Мой Караткевіч // Віцебскі рабочы, 1988, 22 ліп.)*

*Студзень, да 25*

Працаваў у архівах Вільнюса, дзе збіраў матэрыялы для рамана «Каласы пад сярпом тваім». *(Ліст да Е. Стулпана і яго блізкіх ад 25 студз.)*

*Люты, 1*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны раздзел з рамана «Каласы пад сярпом тваім» пад назвай «Студзеньскім цёмным світаннем».

*Люты, 15 — сакавік, 5*

Быў у Чэлябінску, дзе жыла сястра Н. С. Кучкоўская з сям'ёй. Напісаў там «Руну пра Кастуся», адзін з ранніх варыянтаў п'есы «Кастусь Каліноўскі», працаваў над раманам «Каласы пад сярпом тваім». *(Запісная кніжка; Ліст да Е. Стулпана ад 3 сак.)*

*Люты*

У час. «Полымя», № 2 надрукаваны нарыс «Казкі Янтарнай краіны».

*Люты, 26*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны два раздзелы з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» пад назвай «Прывіды знікаюць». Ва ўступнай нататцы да публікацыі адзначалася, што ў новую кнігу У. Караткевіча «Леаніды не вернуцца да Зямлі» ўваходзяць аднайменны раман і невядомая яшчэ чытачу аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха».

*Чэрвень, 18—24*

Разам з Я. Брылём і У. Калеснікам падарожнічаў па Беларусі (Баранавічы — Слонім — Кракотка — Зэльва — Ваўкавыск — Масты — Шчучын — Мала-Мажэйкава — Ліда — Наваградак — Валеўка — Свіцязь — Туганавічы — Загор'е — Мір — Стоўбцы.) *(Запісная кніжка; Артыкулы пра Я. Брыля «Мой друг і мая зямля» // Маладосць, 1967, № 8 і пра У. Калесніка — «Шляхі ў палях» // Полымя, 1972, № 9;*

*Я. Брыль. Пра Караткевіча //Літ. і мастацтва, 1985, 1 лістап.)*

*Ліпень, 8*

На пасяджэнні секцыі прозы СП БССР адбылося абмеркаванне рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць»). Выступілі Т. Хадкевіч, П. Броўка, А. Кучар, Я. Скрыган, Л. Арабей, А. Асіпенка, І. Мележ. *(Запісная кніжка.)*

*Жнівень, 30*

Закончыў у Тарусе п'есу «Кастусь Каліноўскі». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 135.)* П'еса мела некалькі варыянтаў.

*Кастрычнік*

У час. «Полымя», № 10 надрукавана рэцэнзія «...Будзеш свой сярод чужых» на кн. Д. Г. Байрана «Выбранае» (Мн., 1963).

*Кастрычнік, 30*

Закончыў апавяданне «Барвяны шчыт». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 91. Запісная кніжка.)*

*Лістапад, 7—9*

Напісана апавяданне «Залаты бог». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 74.)*

*Да 16 лістапада*

«Набор моего романа (кнігі «Леаніды не вернуцца да Зямлі».— *А. В.*) рассыпан (обвинили в абстрактном гуманизме и прочих смертных грехах).

Кроме того, п'еса («Кастусь Каліноўскі».— *А. В.*) лежит в ЦК уже много недель... и оттуда опять-таки ни ответа ни привета.

Сценарий («Гнеўнае сонца, пякучае».— *А. В.*) всё ещё мучают и — не хочу быть пророком плохого — но, может быть, тоже зарежут это дело». *(Ліст да сям'і Е. Стулпана ад 16 лістап.)*

## 1964

*Люты, 14*

Закончыў апавяданне «Сіняя-сіняя...». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 76.)*

*Сакавік*

Працаваў у архівах Вільнюса, дзе збіраў матэрыялы для рамана «Каласы пад сярпом тваім». *(А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*Сакавік, 10*

Праз сто гадоў пасля смерці Кастуся Каліноўскага[1] быў у Вільнюсе на месцы яго пакарання. [*Вільнюс — частка душы маёй // Наўёс кнігос (Новыя кнігі)*, 1980, № 8. (На літ. мове.)]

*Сакавік*

У час. «Маладосць» № 3 надрукавана эсэ пра Т. Шаўчэнку «І будуць людзі на зямлі».

У час. «Беларусь», № 3 да 100-годдзя з дня смерці Кастуся Каліноўскага надрукаваны артыкул «Гэта было 10 сакавіка 1864 года...».

*Да 21 красавіка*

Быў у сястры Н. С. Кучкоўскай у Чэлябінску. Пісаў раман «Каласы пад сярпом тваім». *(Паштоўка да Е. Стулпана ад 7 крас.)*

*Май, да 24*

Разам з М. Лужаніным, С. Грахоўскім, Р. Барадуліным, Г. Кляўко, У. Калеснікам, Г. Васюковай выступаў у Брэсце на традыцыйным свяце «Брэсцкая вясна». *(А. Павлов. День этот светел и радостен был //Заря, 24 мая.)*

*Май, 24*

У газ. «Заря» надрукаваны верш «Белавежскі алень».

*Да 28 мая*

«Сидел в Челябинске, кончал роман, потом в Минске вычитывал, потом погнали меня в Брест, а сейчас снова с утра до ночи сижу над снятыми с машинки материалами». *(Ліст да Е. Стулпана ад 28 мая.)*

*Май — верасень, да 18*

Магчымы час напісання аповесці «Зброя», аб чым можа сведчыць памета да рукапісу двух раздзелаў другой кнігі рамана «Каласы пад сярпом тваім» («Брань»), які захоўваецца ў 74-й папцы хатняга архіва: «Пачаў 18 верасня 64 г., у 11 г. дня. Дагэтуль напісаны былі раздзелы аб Маскве і некаторыя другія». Рукапіс аповесці «Зброя» захоўваецца ў 15-й папцы хатняга архіва, паметы аб часе напісання няма.

*Пачатак ліпеня*

Ездзіў са здымачнай групай «Беларусьфільма» на Палессе пад Лельчыцы шукаць і здымаць шматсотга-

---

[1] Падаецца паводле тэксту Уладзіміра Караткевіча. Па новым стылі Кастусь Каліноўскі быў пакараны смерцю 22 сак. 1864 года.

довыя дубы для кароткаметражнага дакументальнага фільма «Сведкі вечнасці». *(Ліст да Е. Стулпана ад 30 чэрв.)*

*Жнівень, 2*

Закончыў у Рагачове «Ладдзю Роспачы». *(Запісная кніжка.)* Рукапіс захоўваецца ў Р. Барадуліна. Упершыню на беларускай мове — у яго кн. «З вякоў мінулых» (Мн., 1978).

*Пачатак верасня*

Разам з аператарам «Беларусьфільма» А. Забалоцкім наведаў Кішынёў, дзе быў прагляд фільма «Праз могілкі». *(Ліст да Е. Стулпана ад 14 верас.)*

*Верасень — снежань*

У час. «Маладосць», № 9—12 надрукавана аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха».

*Верасень*

У час. «Беларусь», № 9 надрукавана апавяданне «Сіняя-сіняя...».

У час. «Полымя», № 9 надрукавана рэцэнзія «Бетховен б'е ў далоні...» на кн. У. Лучука «Полум'я мене овіює» (К., 1963).

*Верасень, 17*

Для Е. Ф. Нікіцінай напісаў аўтабіяграфію «Дорога, которую прошел». *(Рукапіс; 21-я папка хатняга архіва.)*

*Снежань, 1*

Напісаў аўтабіяграфію «Дарога, якую прайшоў» для кнігі аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Пра час і пра сябе» (Мн., 1966). *(Паводле паметы ў кнізе.)*

*На працягу года*

На кінастудыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыі пастаўлены кароткаметражны дакументальны фільм «Сведкі вечнасці».

## 1965

*Люты — чэрвень*

У час. «Полымя», № 2—6 надрукаваны раман «Каласы пад сярпом тваім».

*Сакавік, 14*

У газ. «Ніва» надрукаваны артыкул пра Ф. Скарыну «Людзям простым к добраму навучэнню».

*Сакавік — красавік*

Знаходзіўся у Чэлябінску ў сястры Н. С. Кучкоў-

скай, дзе 31 сакавіка закончыў першы варыянт сцэнарыя мастацкага фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» *(рукапіс захоўваецца ў ЦНБ АН БССР, Ф. 11. воп. 1, адз. зах. 157)* і дзе 7 красавіка пачаў пісаць раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». *(Рукапіс невядомы; Машынапісы захоўваюцца ў ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, ад. зах. 41—47, маюць памету ў канцы: 7 красавіка 1965 г.— 29 красавіка 1966 г. Чэлябінск (Шагол) — Рагачоў.)*

*Красавік, 25*

У газ. «Ніва» надрукаваны вершы «О вясна! Таполі! Свеце мілы!..», «Усё, што было, і ўсё, што часам сніцца...», «Цюляня», «Падымаюць жоўтыя галовы...».

*Чэрвень, 2—9*

Разам з Я. Брылём і Р. Барадуліным падарожнічаў па Магілёўшчыне і Віцебшчыне (Рагачоў — Кісцяні — Гарадзішча — Чэрыкаў — Крычаў — Орша — Полацк — Ушачы — воз. Вечалле — Лепель). *(Запісная кніжка; Мой друг і мая зямля // Маладосць. 1967, № 8.)*

*Ліпень, 24*

У газ. «Сов. Литва» надрукаваны артыкул «Люблю тебя, Вильнюс».

*Жнівень — верасень*

Разам з Р. Барадуліным і Г. Кляўко праходзіў вайсковыя зборы ў «Боевой вахте», штодзённай газеце Ціхаакіянскага флоту. За гэты час надрукаваў у газеце «Красное знамя» (Уладзівасток) пераклад верша «Партызанская балада», выступіў па тэлебачанні, напісаў некалькі нарысаў пра маракоў. Дапрацаваў раман «Каласы пад сярпом тваім», улічваючы заўвагі выдавецкага рэцэнзента М. Лужаніна. Даслаў твор у Мінск. Дапрацаваў сцэнарый фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і даслаў на студыю трэці яго варыянт. Падарожнічаў па Прымор'і і Усурыйскай тайзе, наведаў Бахайскае гарадзішча і запаведнік «Кедравая Падзь», хадзіў у мора. *(Запісная кніжка.)*

*Верасень*

У час. «Маладосць», № 9 надрукавана эсэ пра М. К. Агінскага «Песня з Паўночных Афін».

*Кастрычнік, 27*

У Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР адбылося абмеркаванне рамана «Каласы пад

сярпом тваім». (*А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.*)

«З уступным словам выступіў кандыдат філалагічных навук П. Дзюбайла. Больш падрабязна прааналізаваў твор аспірант С. Андраюк.

У абмеркаванні рамана Ул. Караткевіча прынялі ўдзел доктар філалагічных навук Ю. Пшыркоў, кандыдат мастацтвазнаўчых навук С. Міско, кандыдаты філалагічных навук В. Зайцаў, А. Мальдзіс, супрацоўнік Інстытута гісторыі М. Біч, супрацоўнік Інстытута мовазнаўства М. Шушкевіч, мастак Л. Баразна, кандыдат філасофскіх навук У. Конан, пенсіянер Язэп Сушынскі.

У заключэнне выступіў Ул. Караткевіч». (*Літ. і мастацтва, 29 кастр.*)

*Снежань*

У час. «Маладосць», № 12 надрукаваны пераклады вершаў У. Лучука «Росы», «Калі б». (З укр.)

*На працягу года*

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 78—80, 112—123) надрукаваны «Чорная балада Гаркушы» і нарыс «Балады каменя».

## 1966

*Студзень, да 4*

Быў на Астравеччыне, у Гудагаях і Расолах, на радзіме А. Мальдзіса. (*Запісная кніжка.*)

*Студзень, 20*

У газ. «Чырвоная змена» надрукаваны пераклады вершаў У. Лучука «Роздум пра сівыя косы», «Сняжычкі», «Павярнуся на вёску да мамы...». (З укр.)

*Студзень — красавік*

Быў у Рагачове ў дзядзькі І. В. Грынкевіча, брата маці, пісаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». (*Лісты да Я. Брыля ад 28 студз., 19 лют., 4 мая; Ліст да М. Грынчыка ад 16 лют.*)

*Люты, 8*

У газ. «Літ і мастацтва» надрукаваны верш «Слова беларускай бярозы».

*Люты, 12*

Закончыў эсэ «Дуб Крывашапкі (Апавяданне аб падарожжы ў стагоддзі)». (Пазнейшая назва «Дрэва вечнасці».) (*Рукапіс; 82-я папка хатняга архіва.*)

*Люты*

У час. «Беларусь», № 2 надрукаваны вершы «Слова беларускай бярозы», «Раманс Марылі», «І сніў Адам...».

*Канец лютага — пачатак сакавіка*

Працаваў у архівах Вільнюса. (*А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.*)

*Сакавік*

У газ. «Ніва» надрукаваны верш «Трасцянец».

*Красавік, 10*

У газ. «Ніва» надрукаваны верш «Бацькі з магіл цяплом дыхнулі...».

*Красавік, 24*

У газ. «Ніва» надрукавана «Балада аб нашэсцях».

*Май*

У час. «Полымя», № 5 надрукавана ўступнае слова да твораў А. Міланава і пераклады яго вершаў і эпіграмаў «Праз што праходзяць межы», «Карчма для галодных», «Вольны пераказ андэрсенаўскай казкі пра голага караля», «Анафема», «Узаемнасць», «Ваенны паэт», «Свята паэзіі». (З балг.)

*Май, 12—14*

Быў дэлегатам V з'езда пісьменнікаў Беларусі з правам рашаючага голасу. (*Пасведчанне, мандат; 106-я папка хатняга архіва.*)

*Май, другая палова — пачатак чэрвеня(?)*

«У 1966 годзе Я. Брыль, Р. Барадулін і я калясілі па Налібоцкім пушчанскім наваколлі». (*Шляхі ў палях //Полымя, 1972, № 9.*)

*Чэрвень, 14 — ліпень, 5*

Наведаў Латвію. Быў у рыбалавецкім калгасе, у Латгаліі, у Рызе, на моры. (*Запісная кніжка.*)

*Жнівень, 4 — верасень, 19*

У складзе здымачнай групы «Беларусьфільма» наведаў многія мясціны Беларусі (Заслаўе, Залессе, Гудагай, Расолы, Міхалішкі, Варняны, Мала-Мажэйкава, Гародня, Свіслач, Сынковічы, Слонім, Ружаны, Брэст, Камянец, Мінск, Наваградак, Валеўка, Туганавічы, Нясвіж, Рагачоў, Гомель, Магілёў, Віцебск, Полацк і інш.), Вільнюс, Маскву, дзе здымаўся кароткаметражны дакументальны фільм «Памяць каменя». (*Запісная кніжка.*)

*Жнівень*

У час. «Маладосць», № 8 надрукавана рэцэнзія

«Крэсіва, іскры, агонь» на кн. В. Зуёнка «Крэсіва» (Мн., 1966).

*Кастрычнік, 6*

Напісаў эсэ «Земля под белыми крыльями». *(Рукапіс; 105-я папка хатняга архіва.)*

*Кастрычнік*

У час. «Полымя», № 10 надрукаваны вершы «Крокі ўначы», «Маленне да бога рэк» (вядомы пад назвай «Дняпро і Ака. Ён і яна»), «Бацькі з магіл цяплом дыхнулі...».

*Лістапад, 11*

Закончыў у Рагачове паэму «Чазенія». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 64.)*

*Лістапад, 19*

Разам з Р. Барадуліным, Ю. Голубам, А. Разанавым, Я. Янішчыц выступаў у Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце. *(А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча; Запісная кніжка.)*

*Лістапад — снежань*

У час. «Неман», № 11—12 надрукаваны ў скарачэнні на рускай мове раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». (Аўтарыз. пераклад Н. Кісліка.)

*Снежань, 10*

Ездзіў з А. Лойкам у Мядзель. *(Запісная кніжка; 112-я папка хатняга архіва.)*

*Снежань*

У час. «Маладосць», № 12 да 75-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча надрукаваны артыкул «Летапісец».

*На працягу года*

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 99—101) надрукаваны вершы «Карадаг», «Трасцянец», «Безгаловая Венера».

У кн. «Пра час і пра сябе. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў» (Мн., с. 190—195) надрукавана аўтабіяграфія «Дарога, якую прайшоў».

1967

*Студзень, 29*

Быў у Белдзяржфілармоніі на сустрэчы з экстрасенсам В. Месінгам. *(Запіс «Прароцтва Вольфа Месінга наконт шляху будучага Ул. Караткевіча» і білет на сустрэчу захоўваецца ў 113-й папцы хатняга архіва.)* «Дадаў (Месінг.— *А. В.*), што мае справу з

творамі таленавітага чалавека. І пагадзіўся з прапановай Валянціны Ігнатаўны (Гапавай.— *А. В.*), каб назаўтра прыняць Караткевіча ў гасцініцы. Гаворка ў нумары працягвалася мінут сорак... Па словах Валянціны Ігнатаўны, якая чакала канца размовы на калідоры, Караткевіч выйшаў з нумара задуменны. Медсінг жа выбег, нібы звар'яцелы, ускліknуў: «Вы правільна зрабілі, што прывялі яго. Гэта наш геній!» *(А. Мальдзіс. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*Люты, 7*

У газ. «Правда Востока» надрукаваны нарыс «Земля под белыми крыльями».

*Люты*

У час. «Беларусь», № 2 надрукаваны верш «Каложа».

*Люты — сакавік*

У час. «Маладосць», № 2—3 надрукавана паэма «Чазенія».

*Люты, 22*

На аб'яднаным пасяджэнні сакратарыята, секцыі прозы і крытыкі СП БССР абмяркоўваўся раман «Каласы пад сярпом тваім» для таго, каб рэкамендаваць яго да выдання асобнай кнігай. Старшынстваваў І. Мележ. Выступілі М. Лобан. Г. Кісялёў, Л. Салавей (выдавецкі рэдактар, які абапіраўся галоўным чынам на палажэнні выдавецкай рэцэнзіі М. Лужаніна на гэты твор), А. Адамовіч, Я. Скрыган, В. Адамчык, І. Навуменка, А. Асіпенка, А. Мальдзіс, Н. Гілевіч, Я. Брыль. У абмеркаванні ўдзельнічаў У. Караткевіч. *(Стэнаграма пасяджэння; 42-я папка хатняга архіва.)*

*Сакавік, 15 — красавік, 28*

У складзе здымачнай групы фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» знаходзіўся ў Крыме, дзе напісаў многія вершы, якія склалі цыкл «Таўрыда» ў зборніку «Мая Іліяда» (Мн., 1969).

«Сакавік, 16. Чуфут-Кале, Бахчысарай... Ездзіў на дэкарацыі.

Сакавік, 19. Напісаў «Чуфут-Кале», «Сумесь Бурацiна з Аэлітай», «За перавал сябрам».

Сакавік, 23. Раскопкі таўраў. Ялта.

Сакавік, 25. Здымкі 2-й сцэны.

Сакавік, 27. Быў на магіле Багдановіча і ля доміка.

Адвёз на магілу кветкі, наняў людзей дагледзець». *(З запісной кніжкі.)*

*Сакавік, 27*

У газ. «Коммунист Таджикистана» надрукаваны нарыс «Земля под белыми крыльями».

*Вясной*

Атрымаў разам з маці 2-х пакаёвую кватэру па вул. В. Харужай, д. 48, кв. 26. *(А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*Май, 5—8(?)*

Ездзіў з М. Грынчыкам у Мілавіды, дзе адбыўся бой паміж паўстанцамі 1863 года і царскімі войскамі, і ў яго вёску Бытэнь на Слонімшчыне. Па дарозе начаваў у Стоўбцах. *(Запісная кніжка.)*

*Май, 18—24*

Рэдагаваў з А. Мальдзісам раман «Каласы пад сярпом тваім». *(Запісная кніжка.)*

*Май, 25 — чэрвень, 7*

У складзе здымачнай групы фільма «Будзь шчаслівай, рака» наведаў Падняпроўе. Быў ў Рагачове, Азярышчы, Кісцянях, Жлобіне. *(Запісная кніжка.)*

*Чэрвень, 25*

У газ. «Чырвоная змена» надрукавана нататка-роздум аб прызначэнні чалавека «Твой зорны час».

*Ліпень, 4*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана эсэ да 900-годдзя Оршы «Рша камен...».

*Ліпень, 11*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны верш «Землятрус».

*Ліпень, 21*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана інтэрв'ю «Каласы з цаліны». Запісаў А. Мальдзіс.

Жнівень

У час. «Маладосць», № 8 да 50-годдзя Я. Брыля надрукаваны артыкул «Мой друг і мая зямля».

У час. «Неман», № 8 надрукавана нататка пра Ф. Скарыну «Экзамен в Падуе».

*Жнівень, 6*

У газ. «Ніва» надрукаваны артыкул пра Ф. Скарыну «Людзям простым для добрага навучэння».

*Жнівень, 29 — верасень, 4*

Быў удзельнікам Дзён культуры і мастацтва Бе-

ларускай ССР у Маскве. *(Пасведчанне Міністэрства культуры БССР; 106-я папка хатняга архіва.)*

*Лістапад, 2*

У Брэсцкім педінстытуце адбылося абмеркаванне рамана «Каласы пад сярпом тваім». *(Запісная кніжка.)* Там пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, выкладчыцай гісторыі Брэсцкага педінстытута Валянцінай Браніславаўнай Нікіцінай. *(А. Мальдзіс. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*На працягу года*

У кн. «Горад і годы» надрукаваны артыкул «Горад паўстае. 1863—1864 гг.» (Сааўт. А. Мальдзіс.)

На кінастудыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыі пастаўлены мастацкі фільм «Хрыстос прызямліўся ў «Гародні». (Першапачатковая назва «Жыцце і ўзнясенне Юрася Братчыка»; Сааўтар сцэнарыя У. Бычкоў.) *(Ліст да Е. Стулпана ад 9 снеж.)* Фільм выйшаў на экраны ў 1989. *(Літ. і мастацтва, 1989, 15 снеж.)*

На кінастудыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыі пастаўлены кароткаметражны дакументальны фільм «Будзь шчаслівай, рака». (Сааўтар сцэнарыя А. Ястрабаў.) *(Картка персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў СССР.)*

Выйшаў, адрэдагаваны У. Караткевічам на грамадскіх асновах, зборнік вершаў Л. Геніюш «Невадам з Нёмана».

## 1968

*Студзень*

У час. «Беларусь», № 1 надрукаваны верш «Я іду лугавою дарогай...».

*Люты*

У час. «Неман» № 2 надрукаваны пераклад на рускую мову легенды «Ладдзя Роспачы». (Пер. В. Сёмуха.) Упершыню на беларускай мове — у яго кн. «З вякоў мінулых» (Мн., 1978).

*Красавік, 12(?)—23(?)*

Быў у Крыме. *(Запісная кніжка.)*

*Да 15 мая*

Быў удзельнікам семінара сцэнарыстаў у Доме творчасці ў Каралішчавічах. *(А. Асіпенка. Святло блізкай зоркі // Літ. і мастацтва, 1988, 8 ліп.)*

*Май, 25—30*

Быў запрошаны выступіць на семінары маладых работнікаў мастацтва, які праводзіўся на возеры Свіцязь. Наведаў Валеўку, Любчу, Шчорсы, Дзятлава і іншыя мясціны. *(Ліст да В. Слюнчанкі ад 29 мая // Літ. і мастацтва, 1989, 19 мая; Запісная кніжка.)*

*Чэрвень, 11*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны артыкул «Аўтару «Вянка». (Сааўт. А. Мальдзіс.)

*Жнівень, 4*

Разам з Я. Брылём і Ф. Янкоўскім ездзіў у вёску Клетнае Глускага раёна на радзіму Ф. Янкоўскага. *(Паводле слоў Я. Брыля.)*

*Кастрычнік, 1—3*

Разам з Я. Брылём, У. Калеснікам, М. Аўрамчыкам наведаў Пружаны, Брэст, Камянец, Белавежскую пушчу. *(Паводле слоў Я. Брыля.)*

*Кастрычнік, 25—27*

Наведаў Белавежскую пушчу. *(Запісная кніжка.)*

*Снежань*

У час. «Маладосць», № 12 надрукавана эсэ «Дуб Крывашапкі». (Вядома пад назвай «Дрэва вечнасці».)

*На працягу года*

Выйшаў з друку раман «Каласы пад сярпом тваім» (Мн., у 2-х кн.).

У кн. беларус. народных казак «З рога ўсяго многа» (Для дашкольнага ўзросту) (Мн., с. 3—6) надрукаваны ўступны артыкул «А бадай вам цікава было».

У кн. «Краявіды Беларусі» (Мн, с. 10, 18—20; на беларус., рус., англ. мовах) надрукаваны ўступны артыкул «Калі на зямлі ёсць казачныя краіны...».

## 1969

*Сакавік — красавік*

Быў у Ялце. *(Ліст да Я. Брыля ад 18 крас. з Ялты.)*

*Чэрвень, 5—22*

Па заданні час. «Маладосць» падарожнічаў па Палессі, каб напісаць эсэ пра гэты край. Разам з ім на агітцеплаходзе «Маякоўскі» з Гомеля да Давыд-Гарадка плыў фотакарэспандэнт «Маладосці» В. Ждановіч, у дарозе далучыўся да іх мастацтвазнаўца З. Пазняк. Падарожжа закончыў у Брэсце. *(Рукапіс; 52-я папка хатняга архіва.)*

*Ліпень, 20*

Закончыў эсэ «Званы ў прадоннях азёр». *(Рукапіс; 52-я папка хатняга архіва.)*

*Жнівень*

У час. «Маладосць», № 8 надрукавана нататка пра мастака А. Кашкурэвіча «Князь і гусляр».

*Кастрычнік, 15*

Закончыў апавяданне «Краіна Цыганія». *(Машынапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 77.)*

*Кастрычнік*

У газ. «Голас Радзімы», № 41 надрукаваны верш «Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай...».

У газ. «Голас Радзімы», № 42 надрукаваны вершы «Беларуская песня», «Лебедзь», «Ты і я».

*Лістапад*

У час. «Полымя», № 11 да 60-годдзя М. Лужаніна надрукаваны артыкул «Цёплы жнівеньскі поўдзень».

*Снежань*

У час. «Маладосць», № 12 надрукавана эсэ «Званы ў прадоннях азёр».

*На працягу года*

Выйшаў з друку зборнік вершаў «Мая Іліяда».

У кн. А. Міцкевіча «Зямля навагрудская, краю мой родны...» (Мн., с. 9—24) надрукаваны пераклад паэмы «Мешка, князь Навагрудка». (З польск.)

У кн. Я. Судрабкална «Яшчэ адна вясна» (Мн., с. 13—14, 38—45, 68—70) надрукаваны пераклады вершаў «Сярэдневяковы чалавек», «Зломлены», «Лірычны скандал у бочцы».

Выйшаў на рускай мове зборнік вершаў «Вячэрнія ветразі». (М., пер. І. Бурсаў.)

Выйшаў на рускай мове зборнік прозы «Чазенія». (Мн., пер. У. Сяўрук.)

## 1970

*Люты, 19*

Закончыў апавяданне «Вока тайфуна». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 80.)*

*Сакавік, 28*

Закончыў апавяданне «Вялікі Шан Ян». *(Рукапіс; 70-я папка хатняга архіва.)* Упершыню — у кн. «Шляхам гадоў». (Мн., 1990; укладальнік У. Мархель.)

*Красавік, 2*

Закончыў апавяданне «Былі ў мяне мядзведзі».

*(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 85.)*

*Май, 23*

Закончыў пераклад п'есы А. К. Талстога «Цар Фёдар Іаанавіч». *(Рукапіс; 92-я папка хатняга архіва.)*

*Чэрвень, 1—22*

Удзельнічаў у турыстычнай паездцы на цеплаходзе па Чорным моры (Адэса — Севастопаль — Ялта — Сочы — Сухумі — Новарасійск — Ялта — Адэса). *(Запісная кніжка.)*

*Ліпень, 9—25(?)*

У складзе экспедыцыі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР даследаваў Пінскі і Столінскі раёны Брэсцкай вобл. *(Запісныя кніжкі.)*

*Верасень, 1—25*

Адпачываў у Доме творчасці Літфонду ў Гагры. *(Запісныя кніжкі.)*

*Верасень*

У час. «Маладосць», № 9 надрукавана апавяданне «Вока тайфуна».

У час. «Молодая гвардия» надрукавана нататка «Читателям «Чозении».

*Снежань, 15*

Закончыў першы варыянт лібрэта оперы «Сівая легенда». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 178.)*

*На працягу года*

Выйшла з друку кніга прозы «Чазенія».

У кн. М. Гелавані «Клятва» (Мн., с. 15—16) надрукаваны пераклады вершаў «Асенні вечар», «Ля магілы». (З груз.)

У кн. С. Р. Дабравольскага «Як хлеб і сонца» (Мн., с. 50—56) надрукаваны пераклады вершаў «Навука», «Айчына», «Тут мой бацька...», «Хмары, хмары...», «Пытанні», «Маладым — на прывітанне». (З польск.)

## 1971

*Студзень, 1*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны адказ на навагоднюю анкету «Спадабалася і запомнілася».

*Люты*

У час. «Полымя», № 2 надрукавана эсэ пра Л. Украінку «Saxifraga».

*Люты, 17*

Прысутнічаў на пасяджэнні секцыі драматургіі СП БССР, дзе абмяркоўвалася п'еса «Смерць і неўміручасць Кастуся Каліноўскага». У гутарцы прынялі ўдзел М. Танк, І. Шамякін, А. Макаёнак, А. Кулакоўскі, А. Кучар, Я. Семяжон, В. Каваленка, В. Зуб, А. Ставер, М. Гамолка, доктар філалагічных навук Ю. С. Пшыркоў, супрацоўнікі АН БССР кандыдат гістарычных навук М. Біч, кандыдат філалагічных навук А. Ліс, кандыдаты мастацтвазнаўчых навук А. Сабалеўскі і С. Міско. (*Літ. і мастацтва, 26 лют.*)

*Люты, 19*

Ажаніўся з В. Б. Нікіцінай. (*Пасведчанне аб шлюбе; 113-я папка хатняга архіва.*) Валянціна Браніславаўна працавала потым у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

*Люты, 26*

У СП БССР (Энгельса, 9) адбыўся аўтарскі вечар У. Караткевіча пад назвай «Што створана, што пройдзена». (*Запрашэнне; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 225.*)

*Сакавік, на працягу дзесяці дзён*

Па прапанове Усесаюзнага бюро прапаганды мастацкай літаратуры ў складзе групы беларускіх літаратараў (А. Адамовіч, М. Аўрамчык, В. Вітка, С. Грахоўскі, А. Грачанікаў, А. Лойка, І. Навуменка, У. Паўлаў), якую ўзначальваў Я. Брыль, наведаў Урал (Магнітагорск). Уражанні ад паездкі выклаў у нарысе «Легенды і былі гары Магнітнай», які быў надрукаваны 26 сакавіка ў газ. «Літ. і мастацтва». (Сааўт. А. Грачанікаў, У. Паўлаў, М. Чурылін.)

*Сакавік, 12*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны з некаторымі скарачэннямі ліст да польскага вучонага Міраслава Ахоцкага «Задума: узнікненне і ўвасабленне».

*Сакавік*

У час. «Полымя», № 3 надрукаваны вершы «Месяц над садам, ад квецені белым...», «Домік Багдановіча», «Армянскі матыў».

*Красавік*

У час. «Полымя», № 4 надрукавана апавяданне «Былі ў мяне мядзведзі».

*Чэрвень*

Разам з Я. Брылём і У. Калеснікам падарожнічаў

па Міршчыне і Навагрудчыне. *(Шляхі ў палях // Полымя, 1972, № 9.)*

У газ. «Голас Радзімы», № 23 надрукаваны верш «Шляхі Ігната Буйніцкага».

*Чэрвень, 25*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана выступленне на пасяджэнні секцыі драматургіі СП БССР пад назвай «Драматург і тэатр».

*Ліпень, 12*

Закончыў нарыс «Зямля пад белымі крыламі». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 108.)* Быў прызначаны для ўкраінскага чытача сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Для беларускага выдання дапрацоўваўся.

*Ліпень, 22—31(?)*

У складзе экспедыцыі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР даследаваў Бешанковіцкі, Чашніцкі і Лепельскі раёны Віцебскай вобласці. *(Запісная кніжка; Ліст да М. Абала ад 11 лістап.)*

*Жнівень, 9 — не раней 17*

У складзе здымачнай групы «Беларусьфільма» наведаў Бярэзінскі запаведнік. Лавіў на адсяленне баброў і са змеяловам А. Д. Недзялкавым — змей. *(Запісная кніжка; Ліст да М. Абала ад 11 лістап.)*

*Лістапад*

Адпачываў у Доме творчасці Літфонду ў Гагры. Хадзіў з рыбакамі ў мора. *(Запісная кніжка; Ліст да М. Абала ад 11 лістап.)*

*Лістапад, 25 — снежань, 19*

Па запрашэнні выкладчыка Ягелонскага універсітэта З. Нядзелі наведаў Польшчу. Да 17 снежня быў у Кракаве. 3 снежня падняўся на вежу Марыяцкага касцёла і пераначаваў там, наведаў Вавель, іншыя мясціны. Потым заехаў у Варшаву да сябра па Кіеўскім універсітэце, выкладчыка Варшаўскага універсітэта Ф. Няўважнага. *(З. Нядзеля. Сентыментальнае падарожжа ў Мінск; Запісная кніжка; Білет выезду з Варшавы ад 19 снеж. 1971; 106-я папка хатняга архіва; А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*Снежань, 5*

У газ. «Ніва» надрукаваны верш «Маналог маці».

*Снежань, 24*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны пераклады вершаў А. Паскробышава «Пасцілка», «Конік», «Абдуванчык». (З рус.)

*На працягу года*

Выйшла з друку кніга Л. Дробава «Беларускія мастакі XIX стагоддзя». (Літ. апрацоўка У. Караткевіча.)

## 1972

*Студзень, 14—20*

У складзе кінагрупы, для якой пісаў сцэнарый «Сонцазварот» пра беларускія каляды, наведаў вёску Клетнае Пінскага раёна, а ў канцы студзеня на некалькі дзён з'ездзіў у вёску Тонеж, на Палессе. *(Запісная кніжка; Ліст да М. Абала ад 27 студз.)*

*Студзень*

У час. «Маладосць», № 1 надрукавана віншаванне Р. Р. Шырме ў сувязі з яго 80-годдзем.

*Красавік, 7*

Закончыў пераклад п'есы М. Карыма «У ноч зацьмення Месяца». (З башкірск.) *(Запісная кніжка.)*

*Красавік, 25*

«Быў на вечары ў завочнікаў універсітэта. Вельмі было добра». *(Запісная кніжка.)*

*Красавік, 29*

Закончыў сцэнарый паўнаметражнага мастацкага фільма «Рассказы из каталажки». *(Рукапіс; 91-я папка хатняга архіва.)*

*Ліпень, 17—25(?)*

У складзе экспедыцыі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР даследаваў Лепельскі, Бешанковіцкі і Шумілінскі раёны Віцебскай вобласці. *(Запісная кніжка.)*

*Верасень*

У час. «Полымя», № 9 да 50-годдзя У. Калесніка надрукаваны артыкул «Шляхі ў палях».

*Верасень*

Адпачываў з жонкай у Доме творчасці Літфонду ў Гагры, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з славацкімі пісьменніцамі Г. Крыжановай-Брындзовай і В. Адловай і іх сем'ямі, з чэшскім пісьменнікам І. Кржэн-

кам. (*Г. Крыжанова-Брындзова. Наш дарагі сябра // Літ. і мастацтва, 1987, 25 крас.*)

*Кастрычнік, 11*

У «Лит. газете» надрукаваны артыкул «Что случилось с рассказом?».

*Кастрычнік, 24*

Закончыў аповесць «Лісце каштанаў». (*Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах 62.*)

*Снежань, 19*

У газ. «Віцебскі рабочы» надрукавана інтэрв'ю «Падарожжа ў будучую кнігу: У творчых лабараторыях землякоў». (*Зап. Б. Фірштэйн.*)

*На працягу года*

Выйшаў з друку раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 149—150) надрукаваны верш «Усход».

У кн. Р. Гамзатава «Высокія зоркі» (Мн., с. 199—201, 206—209) надрукаваны пераклады вершаў «Ці высокія горы...», «Бы ў вапне, у снезе...», «Па свеце я нямала вандраваў...», «Не ганарыся, час...», «Дзяцінства помню...», «Дом мой закінуты...», «Спытае дом мой...». (З аварск.)

У кн. «Горад мільённы і мы» (Мн., с. 97—100, 123—124, 177—180, 184—185) надрукаваны пераклады вершаў В. Мразоўскага «Успамінаю», «У жаўтозель нырнуць...», «Мой дом», Я. Гушчы «Прытча», «Неандэрталец ці ты, Адаме...», М. М. Шаргана «Сям'я», «Будаваў галубятню...», «Бальніца», «Бацька», А. Біскупскага «Садружнасць», «Мой знешні голас».

Выйшаў на ўкраінскай мове нарыс «Зямля пад белымі крыламі (Мая Беларусь)». (К., з рукапісу пераклалі В. Іскра, Г. Ткачэнка, К. Скрыпчанка, Н. Цішчанка.)

Выйшла на ўкраінскай мове кніга прозы «Чазенія». (К., пер. А. Лук'янчук, К. Скрыпчанка.)

Выйшла на чэшскай мове аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». (Прага, пер. В. Жыдліцкі.)

Беларускі тэатр імя Янкі Купалы паставіў п'есу М. Карыма «У ноч зацьмення Месяца». (Пер. з башкірск.)

## 1973

*Студзень, 16*

Закончыў лібрэта балета «Кастусь Каліноўскі». *(Рукапіс; 6-я папка хатняга архіва.)*

*Студзень, 20*

Закончыў апавяданне «Калядная рапсодыя». *(Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 81.)*

*Люты, 7—10*

Перакладаў вершы ўкраінскіх паэтаў У. Лучука, А. Сенатовіч, М. Зерава, В. Чумака, С. Літвіна, І. Гнацюка. *(Запісная кніжка.)*

*Люты, 18—22(?)*

Быў у Гродне. 22-га разам з А. Мальдзісам сустрэўся са студэнтамі Гродзенскага педінстытута. *(Ліст да М. Абала ад 18 лют.; Успаміны А. Пяткевіча.)*

*Красавік, 25*

Разам з маці Надзеяй Васільеўнай і жонкай Валянцінай Браніславаўнай усяліўся ў 3-х пакаёвую кватэру па вул. Карла Маркса, д. 36, кв. 24, якую абмяняў з Я. Скрыганам. *(Ордэр; 113-я папка хатняга архіва.)*

*Май*

У час. «Маладосць», № 5 надрукавана аповесць «Лісце каштанаў».

*Ліпень, 1—29*

Па запрашэнні славацкай пісьменніцы Гелены Крыжановай-Брындзовай і яе мужа Ёжы наведаў з жонкай Чэхаславакію. У Празе сустрэўся з перакладчыкам і даследчыкам беларускай літаратуры В. Жыдліцкім, з спеваком М. Забэйдам-Суміцкім. У Празе 5 ліпеня закончыў эсэ пра Ф. Скарыну «Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі — сын Прагі». *(Рукапіс; 21-я папка хатняга архіва.)* Потым паехалі ў Браціславу. Ездзілі ў Высокія Татры, наведалі Дэманоўскія пячоры, горад Левачу. *(Запісная кніжка; Г. Крыжанова-Брындзова. Наш дарагі сябра // Літ. і мастацтва, 1987, 25 верас.)*

*Жнівень — верасень, да 4*

Быў у Крыме, дзе на схіле гары Карадаг здымаўся па яго сцэнарыі фільм «Чырвоны агат». *(Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 4 верас.)*

*Верасень, 16—24*

У Караткевічаў гасцяваў выкладчык Ягелонскага

універсітэта З. Нядзеля. (*З. Нядзеля. Сентыментальнае падарожжа ў Мінск.*)

*Верасень*

У час. «Дружба народов», № 9 надрукаваны артыкул пра мастака А. Кашкурэвіча «Жажда».

*Лістапад, 17*

Закончыў п'есу «Званы Віцебска». (*Рукапіс; ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 145.*)

*Снежань, на пачатку*

Наведала Караткевічаў славацкая пісьменніца Г. Крыжанова-Брындзова. (*Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 17 снеж.*)

*Снежань, 20*

Закончыў «Казку пра чортаў скарб». (*Запісная кніжка.*)

*Снежань, 21*

Закончыў «Казку пра Вераб'я, Саву і птушыны суд». (*Рукапіс; 7-я папка хатняга архіва.*)

*На працягу года*

Выйшаў з друку фотаальбом «Белавежская пушча». (На беларус., рус., англ. мовах. Аўтар тэксту У. Караткевіч.)

На кінастудыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыі пастаўлены мастацкі фільм «Чырвоны агат».

## 1974

*Студзень, 26*

Закончыў пераклад на рускую мову для семінара драматургаў п'есы «Званы Віцебска». (*Запісная кніжка.*)

*Люты, 1 — сакавік, 3*

Быў у Ялце на семінары драматургаў, дзе абмяркоўвалася і была ўхвалена яго п'еса «Званы Віцебска». (*Запісная кніжка; Лісты да Г. і Ё. Брындзовых ад 26 студз. і 26 лют. і Лісты да М. Абала ад 28 студз. і 7 сак.*) Там здымаў праўкі ў рускім перакладзе рамана «Каласы пад сярпом тваім» і адправіў перакладчыцы В. Шчадрыной, закончыў эсэ пра Віцебск «1000 гадоў табе» і артыкул на рускай мове «Справядлівасць» пра зборнік Я. Сіпакова «Веча славянскіх балад» (Мн., 1973). (*Запісная кніжка.*)

*Сакавік*

У час. «Беларусь», № 3 надрукаваны артыкул пра М. Цюндзявіцкага «Адзін з паплечнікаў Каліноўскага». (Сааўт. А. Мальдзіс.)

*Ліпень — жнівень*

У Караткевічаў гасцявалі славацкая пісьменніца Гелена Крыжанова-Брындзова, яе муж Ёжы і іх зяць Ота. Наведалі вёску Мікалаеўшчына, дзе нарадзіўся Якуб Колас, возера Нарач, Нясвіж, Мір, Навагрудак. *(Г. Крыжанова-Брындзова. Наш дарагі сябра // Літ. і мастацтва, 1987, 25 верас.; А. Мальдзіс. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*Жнівень*

У час. «Маладосць», № 8 да тысячагоддзя Віцебска надрукавана эсэ «Тысячу стагоддзяў табе!».

*Жнівень, 29*

У Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа адбылася прэм'ера п'есы «Званы Віцебска» (рэж. В. Мазынскі), прымеркаваная да 1000-годдзя Віцебска. *(Віцебскі рабочы, 31 жн.)* У. Караткевіч быў на прэм'еры спектакля і з'яўляўся ганаровым госцем на ўрачыстасцях у Віцебску. *(В. Мазынскі. Я табе напісаў «Барыса Гадунова»... // Літ. і мастацтва, 1987, 4 верас.; Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 6 кастр. 1975.)*

*Кастрычнік*

Адпачываў у Доме творчасці Літфонду ў Гаграх. *(Ліст С. Панізніка да У. Караткевіча ў Гагры ад 7 кастр.)*

У час. «Бярозка», № 10 надрукавана казка «Чортаў скарб».

*На працягу года*

Выйшла з друку кніга апавяданняў і аповесцей «Вока тайфуна».

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 64, 240—242, 248—249) надрукаваны верш «Закувала зязюля...» і пераклады вершаў Г. Крыжановай-Брындзовай «Колькі тых навальніц», Я. Костры «Жанчына», Л. Навамескага «Неіснуючы шынок», А. Плаўкі «Божае нараджэнне 1944-га». (Са славац.)

Выйшаў на рускай мове раман «Каласы пад сярпом тваім». (М., пер. В. Шчадрына.)

## 1975

*Май*

У час. «Маладосць», № 5 надрукавана «Слова пра Шолахава».

*Ліпень, 1—24*

Лячыўся ў санаторыі ім. 40-годдзя Кастрычніка ў Еўпаторыі. (*Санаторна-курортная кніжка; Хатні архіў; Лісты да М. Абала ад 6, 13, 20 ліп.*)

*Жнівень — верасень*

Наведаў з жонкай Чэхаславакію. (*Картка персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў СССР; Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 27 крас. і 7 чэрв.; Ліст да М. Абала ад 20 ліп.*)

*Кастрычнік, 10*

Быў на адкрыцці помніка заснавальніку сучаснага прафесійнага беларускага тэатра І. Буйніцкаму ў вёсцы Празарокі Глыбоцкага раёна. На ўрачыстым мітынгу прачытаў свой верш, прысвечаны І. Буйніцкаму. (*Літ. і мастацтва, 17 кастр.*)

*Кастрычнік, 12*

Закончыў пераклад апавядання польскага пісьменніка Яна Гушчы «Энергія». (*Запісная кніжка.*)

*Кастрычнік, 14*

Пераклаў пяць вершаў літоўскага паэта Б. Мацкявічуса. (*Запісная кніжка.*)

*Кастрычнік, з 19*

Адпачываў з жонкай у Доме творчасці Літфонду ў Гагры. (*Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 6 кастр.*)

*На працягу года*

Выйшла кніга для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Белавежская пушча».

Выйшла кніга для дашкольнага ўзросту «Казкі».

У кн. «Украінская савецкая паэзія» (Мн., т. 1, с. 98—99; т. 2, с. 375—378) надрукаваны пераклады вершаў В. Чумака «Гоман вясенні», У. Лучука «Давер», «Клён на вятры гарыць...», «Барвы ценяў...», «Азбука», «Птушкі». (З укр.)

## 1976

*Да 1 сакавіка*

Стаў на Беларускім тэлебачанні вядучым праграмы «Спадчына».

«Пачаўся ў нас цыкл перадач «Спадчына». Гэта пра мінулае Беларусі, яе музыку, кнігі, касцюмы, будынкі. Вядучы — я. Першая перадача, па Брэсту, прайшла. Шмат водгукаў. Цяпер мяркуем рабіць па Полацку і Полаччыне». *(Ліст да Г. і Ё. Бryндзовых ад 1 сак.)*

*Сакавік, 12*

У газ. «Знамя юности» надрукавана інтэрв'ю «Культурный человек: какой он?». *(Зап. С. Алексіевіч.)*

*Май*

У час. «Полымя», № 5 надрукавана рэцэнзія «Да новых, яшчэ шырэйшых даляглядаў» на кн. «Даляглядзы» (Мн., 1975).

*Другая палова года*

У час. «Тэатральны Мінск», № 2 надрукавана нататка пра Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа «Коласаўцы».

*Верасень, з 1*

Адпачываў з жонкай у Доме творчасці Літфонду ў Гагры. *(Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 25 жн.)*

*Снежань — да 21 студзеня 1977*

Знаходзіўся ў Дубултах у Доме творчасці імя Яна Райніса. *(Ліст да Г. і Ё. Брындзовых канца ці пачатку 1977 года.)* 9 снежня закончыў верш «Быў. Ёсць. Буду...». *(Рукапіс; 2-я папка хатняга архіва.)*

*На працягу года*

У кн. «Далягляды» (Мн., с. 286—288) надрукаваны артыкул пра мастака Г. Паплаўскага «Узыход на вяршыні».

У кн. Я. Гушчы «Пан Грацыян і іншыя» (Мн., с. 232—287) надрукаваны пераклад апавядання «Энергія». (З польск.)

Выйшла на латышскай мове кніга прозы «Чазенія». (Рыга, пер. М. Абала.)

Выйшаў на польскай мове зборнік апавяданняў «Блакіт і золата дня». (Лодзь, пер. Я. Гушча.)

## 1977

*Студзень*

У час. «Полымя», № 1 надрукавана рэцэнзія «Шчыравала ў бары пчала...» на зборнік паэзіі Р. Барадуліна «Свята пчалы» (Мн., 1975).

Выйшаў на чэшскай мове раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць»). (Прага, пер. В. Жыдліцкі.)

*Сакавік, 11*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана эсэ «Веру ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі».

*Сакавік, 12*

Закончыў лібрэта оперы «Сівая легенда». *(Запісная кніжка.)*

*Сакавік, 17*

У газ. «Звязда» надрукаваны артыкул «Наш агульны клопат», прысвечаны стварэнню ў рэспубліцы музея народнай архітэктуры і быту.

*Да 22 сакавіка*

Разам з В. Быкавым, А. Карпюком, Д. Бічэль-Загнетавай, Ю. Голубам, В. Болтачам, У. Гніламёдавым, А. Гардзіцкім, А. Капусціным, М. Тычынам, А. Шаўнём удзельнічаў у рабоце семінара маладых пісьменнікаў, які праходзіў у Гродне. *(Гродненская правда, 22 сак.)*

*Сакавік, 24*

У газ. «Гродненская правда» надрукавана інтэрв'ю «Город моей любви...». *(Зап. Л. Цыхун.)*

*Пасля 24 красавіка*

Закончыў сцэнарый мастацкага фільма «Дзікае паляванне караля Стаха». *(Запісная кніжка.)*

*Чэрвень*

У час. «Полымя», № 6 надрукавана п'еса «Званы Віцебска».

*Чэрвень, 24*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана рэцэнзія «Справядлівасць» на кн. Я. Сіпакова «Веча славянскіх балад» (Мн., 1973).

*Жнівень — верасень*

Лячыўся ў Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. *(Лісты да Г. і Ё. Брындзовых і да М. Абала ад 5 верас.)*

*Верасень, 29 — кастрычнік, 23(?)*

Наведаў з жонкай Польшчу. Спыніліся ў Варшаве ў сябра па Кіеўскім універсітэце Ф. Няўважнага. 1—14 кастрычніка былі ў Кракаве ў З. Нядзелі. Паглядзелі ў драмтэатры «Мазепу» Ю. Славацкага, хадзілі на Вавель, ездзілі ў Закапанэ. Потым вярнуліся ў Варшаву. *(Запісная кніжка; З. Нядзеля. Сентымен-*

*тальнае падарожжа ў Мінск.)* 22 кастрычніка адбылася сустрэча з ім у памяшканні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Варшаве, куды «прыбыў ён са сваім добрым сябрам Ф. Няўважным». *(Ніва, 11 снеж.)*

*Снежань, 16*

Памерла маці Караткевіч Надзея Васільеўна. *(Паводле слоў сястры Н. С. Кучкоўскай.)*

*На працягу года*

Выйшаў з друку нарыс для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту «Зямля пад белымі крыламі».

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 66—67) надрукаваны верш «Кнігі».

У кн. «Літоўская савецкая паэзія» (Мн., т. 2, с. 74—78) надрукаваны пераклады вершаў Б. Мацкявічуса «Я ведаю, ты часта ўспамінаеш...», «Балада пра Капцы Антакальніса», «Назаўсёды пайшла...», «Аднагодкі», «Пасля вяселля». (З літоўск.)

Выйшаў на рускай мове раман «Каласы пад сярпом тваім» (Мн., пер. В. Шчадрына), дзе была змешчана нататка У. Караткевіча «Замест пасляслоўя».

1978

*Студзень — люты*

Ляжаў у неўралагічным аддзяленні Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. Дыягназ: параксізм, страта свядомасці, г. зн. часовае, праходзячае парушэнне мазгавога кровазвароту. *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Сакавік*

У час. «Бярозка», № 3 надрукавана казка «Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў».

*Сакавік, 23*

У Беларускім тэатры оперы і балета адбылася прэм'ера оперы Д. Смольскага «Сівая легенда». (Лібрэта У. Караткевіча.) *(Літ. і мастацтва, 31 сак.)*

*Красавік, 20 — май, 7*

Ляжаў у 9-й бальніцы г. Мінска ў гепаталагічным аддзяленні. Дыягназ: хранічны халецыстыт, бескаменны хранічны гепатыт. *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Май*

«Паехаў у Планерскае, спрабаваў па старой звычцы ўзысці на Карадаг, але ўпаў, аступіўшыся...

збіў галаву». (*А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.*)

*Май, 31 — чэрвень, 21*

Знаходзіўся на стацыянарным лячэнні ў 6-й бальніцы г. Сімферопаля ў траўматалагічным аддзяленні. Дыягназ: закрытая чэрапна-мазгавая траўма і субарахнаідальнае кровазліццё. (*Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.*)

*Май*

У час. «Маладосць», № 5 надрукаваны артыкул «І наш Фаўст» пра пераклад на беларускую мову «Фаўста» Ё. В. Гётэ. (Пер. В. Сёмуха, Мн., 1976.)

*Ліпень*

У час. «Бярозка», № 7 надрукавана казка «Кацёл з каменьчыкамі».

*Жнівень, 3*

Лечачы ўрач паліклінікі Беларускага Літфонду закрыў бальнічны лісток пасля чэрапна-мазгавой траўмы. (*Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.*)

*Жнівень, 14—28*

Знаходзіўся на стацыянарным лячэнні ў хірургічным аддзяленні Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. Дыягназ: абвастрэнне хранічнага халецыстыту і гепатыту. (*Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.*)

*Верасень*

Наведаў з жонкай Сярэднюю Азію. «За гэтыя дзесяць дзён аб'ездзілі кавал Сярэдняй Азіі. Былі ў Душанбе, Гісары, на Нурэкскай ГЭС, дзе равуцьраўмя нашы пакутнічкі БелАЗы, і бог ведае яшчэ дзе. Учора прыляцелі ў Самарканд». (*Паштоўка да А. Мальдзіса.*)

*Кастрычнік*

Адпачываў з жонкай у Піцундзе. (*Ліст да Г. і Е. Брындзовых ад 23 лют. 1979.*)

*Да 17 лістапада*

Прысутнічаў на адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) у Радашковічах, дзе Ядвігін Ш. жыў і працаваў правізарам у аптэцы. Разам з М. Лужаніным, Я. Каршуковым, А. Мальдзісам, І. Чыгрынам, А. Лісам выступіў у Радашковіцкай школе. (*Літ. і мастацтва, 17 лістап.*)

*Снежань*

Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа паставіў п'есу «Кастусь Каліноўскі». (Рэж. В. Мазынскі.) (Паводле праграмы гэтай п'есы.)

*На працягу года*

Выйшла з друку кніга апавяданняў і аповесцей «З вякоў мінулых».

## 1979

*Сакавік, 23*

Быў удзельнікам IV пленума рэспубліканскага Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. *(Запісная кніжка.)*

*Красавік, 4*

Закончыў раман «Чорны замак Альшанскі» *(Рукапіс; 62-я папка хатняга архіва.)*

*Май, 2*

«Быў у Ракаве, Лю́цінцы, Івянцы, Дзяржынаве». *(Запісная кніжка.)*

*Май, 15*

Наведаў Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, дзе студэнты паказалі дзве сцэны з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха»: «Баль у Яноўскай» і «П'янка ў Дубатоўка». *(Ліст да М. Грынчыка ад 15 мая.)*

*Май, 22*

У ЦНБ АН БССР сустрэўся з кнігалюбамі клуба «Натхненне». *(А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.)*

*Май, 26*

Пераклаў верш І. Франка «Каменяры». *(Запісная кніжка.)*

*Май, 28—чэрвень, 2*

Быў у Кіеве на міжнароднай навуковай канферэнцыі пад эгідай ЮНЕСКА на тэму «Сучасныя славянскія культуры: развіццё, узаемадзеянне, міжнародны кантэкст», дзе з паведамленнем «Метадалагічныя асновы падрыхтоўкі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» выступіла яго жонка В. Б. Караткевіч, супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. *(Запісная кніжка.)*

*Чэрвень, 14—19*

Ездзіў на Вілейшчыну. *(Запісная кніжка.)*

*Чэрвень, 27 — ліпень, 20*

Лячыўся ў санаторыі «Беларусь» у Друскінінкаі. *(Запісная кніжка; Санаторная кніжка.)*

*Ліпень, 15*

У газ. «Звязда» ў рубрыцы «Чытач крытыкуе, прапануе» надрукавана нататка «З вадой і без вады».

*Ліпень — жнівень 1979, студзень — люты 1980*

У час. «Маладосць», 1979, № 7—8; 1980, № 1—2 надрукаваны раман «Чорны замак Альшанскі».

*Жнівень, 7—8*

Ездзіў у Дзяржынскі раён па мясцінах, звязаных з К. Каганцом. *(Запісная кніжка.)*

*Жнівень, 22*

Закончыў пераклад аповесці славацкай пісьменніцы Э. Гашпаровай «Цяжка быць мустангам». *(Запісная кніжка.)*

*Жнівень, 29 — верасень, 17*

Наведаў з жонкай Чэхаславакію. Паехалі на Велеград, былы цэнтр Вялікай Маравы, хадзілі па Нізкіх Татрах, былі ў Добшынскай лядовай пячоры, у горадзе Левачы. *(Запісная кніжка; Г. Крыжанова-Брындзова. Наш дарагі сябра // Літ. і мастацтва, 1987, 25 верас.)*

*Кастрычнік*

Адпачываў з жонкай у Піцундзе. *(Лісты да Р. Іванычука ад 26 жніўня і да Г. і Ё. Брындзовых ад 4 лістапада.)*

*Лістапад, 15—16*

Прысутнічаў на пленуме праўлення СП БССР, які быў прысвечаны праблемам сучаснага беларускага рамана. Выступіў 16-га ў другой палове дня. 23 ліст. газ. «Літ. і мастацтва» змясціла нататку з яго выступлення пад назвай «Больш добразычлівасці», дзе адзначалася: «Трэба пісаць добрыя, вартыя часу творы, у тым ліку раманы. Гэтага за пісьменніка ніхто не зробіць, толькі адзін сам ён можа парадаваць чытача тым, што прыцягне яго ўвагу, што засяродзіць яго на праблемах важных і галоўных...

А, між іншым, мы ўсе... як тыя каменьчыкі ў мазаіцы. Выкінь адзін, і мазаіка распадзецца. У літаратуры адбываецца нешта падобнае. Яна складаецца з талентаў рознай велічыні. Адны пісьменнікі — больш таленавітыя, другія — менш. Але і без іх нельга мець

поўнае ўражанне аб літаратурным працэсе, аб стане яго, аб перспектывах развіцця.

Больш добразычлівасці, уважлівасці адзін да аднаго... Ад гэтага толькі выйграе літаратура. І, вядома ж, чытач».

*Снежань, 26*

У «Настаўніцкай газеце» надрукавана апавяданне «Прыклад».

*На працягу года*

У кн. «Памяць зямлі беларускай» (Мн., с. 2—13; на беларус., рус., англ., франц., ням., ісп. мовах) надрукаваны ўступ «Я хачу правесці Вас па зямлі...».

Выйшла на рускай мове кніга «Белавежская пушча». (Мн., пер. У. Машкоў.)

Выйшаў на рускай мове раман «Каласы пад сярпом тваім». (М., пер. В. Шчадрына.)

Выйшаў на чэшскай мове раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». (Прага, пер. В. Жыдліцкі.)

Выйшла на латышскай мове кніга выбраных вершаў П. Броўкі «Дабрыня». (Рыга, складальнікі У. Караткевіч, Е. Стулпан.)

На кінастудыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыі пастаўлены мастацкі фільм «Дзікае паляванне караля Стаха». (Сааўтар сцэнарыя В. Рубінчык.) *(Звязда, 11 жн.)*

## 1980

*Студзень, 10*

У газ. «Голас Радзімы» надрукавана інтэрв'ю «Паслужу да канца». *(Зап. Г. Якаўлева.)*

*Студзень, 12*

У газ. «Чырвоная змена» надрукавана інтэрв'ю «Нельга не быць гісторыкам». *(Зап. А. Губіч.)*

*Студзень, 17*

Закончыў эсэ «Подзвіг Францыска Скарыны». *(Запісная кніжка.)*

*Студзень, 18*

Закончыў артыкул «Абдуванчык на кромцы вады». *(Рукапіс; 22-я папка хатняга архіва.)*

*Студзень, 27*

Закончыў артыкул «Мова (што я думаю пра цябе)». *(Рукапіс; 21-я папка хатняга архіва.)* Упер-

шыню ў кн. А. Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (Лондан, 1985).

*Студзень, 29*

Закончыў артыкул «Паўстанцам 1863 г.». (*Запісная кніжка.*)

*Люты, 27 — сакавік, 18*

Ляжаў у неўралагічным аддзяленні Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. Дыягназ: атэрасклероз мазгавых артэрый з цэрабральнымі параксізмамі. (*Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.*)

*Сакавік, 24 — красавік, 2*

Знаходзіўся ў бальнічна-клінічным аддзяленні санаторыя «Аксакаўшчына». (*Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.*)

*Красавік*

У час. «Беларусь», № 4 надрукавана эсэ «Подзвіг Францыска Скарыны».

*Красавік, 20*

Напісаў эсэ «Вільнюс — частка душы маёй». (*Рукапіс; 21-я папка хатняга архіва.*)

*Май, 3—16*

Аўтарызаваў пераклад рамана «Чорны замак Альшанскі», зроблены на рускую мову В. Шчадрыной. (*Запісная кніжка.*)

*Май, 16*

Наведаў Вязынку і яе наваколле. (*Запісная кніжка.*)

*Май, 20*

Выступіў у ракетчыкаў. (*Запісная кніжка.*)

*Май, 21*

Сустрэўся з медыкамі шпіталя для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах. (*Запісная кніжка; А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча.*)

*Май, 26 — чэрвень, 2*

Па даручэнні часопіса «Маладосць» ездзіў на Тураўшчыну (разам з фотакарэспандэнтам В. Ждановічам), каб напісаць эсэ да 1000-годдзя Турава. (*Запісная кніжка.*)

*Чэрвень, 20*

Закончыў эсэ пра Тураў «Сцюдзёная вясна, або Тысяча год і сем дзён». (*Рукапіс; 22-я папка хатняга архіва.*)

*Чэрвень*

У час. «Полымя», № 6 надрукавана п'еса «Кастусь Каліноўскі».

У час. «Беларусь», № 6 надрукаваны артыкул «Абдуванчык на кромцы вады».

*Чэрвень, 29*

Быў у Віцебску на Дні паэзіі. *(Запісная кніжка.)*

*Ліпень, 6*

Быў на свяце паэзіі ў Вязынцы. *(Запісная кніжка.)*

*Ліпень, 9*

Сустрэўся з чытачамі ў Доме культуры завода будматэрыялаў (Харкаўская,116). *(Запісная кніжка.)*

*Ліпень, 20 — жнівень, 12(?)*

Лячыўся ў санаторыі «Беларусь» у Друскінінкаі. *(Запісная кніжка; Санаторная кніжка.)* Закончыў для час. «Вясёлка» казкі «Вясна ўвосень» (31 ліпеня) і «Жабкі і Чарапаха» (1 жніўня). *(Машынапісы; 70-я папка хатняга архіва.)*

*Да 15 жніўня*

Беларускае тэлебачанне паставіла спектакль «Сіняя-сіняя...» па аднайменным апавяданні. *(Літ. і мастацтва, 15 жн.)*

*Жнівень, 19*

Закончыў для час. «Бярозка» казку «Нямоглы бацька». *(Запісная кніжка.)*

*Жнівень*

У час. «Маладосць», № 8 надрукавана эсэ «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён», прысвечанае 1000-годдзю Турава.

У літоўскім часопісе «Наўёс кнігос» («Новыя кнігі»), № 8 надрукавана эсэ «Вільнюс — частка душы маёй». Упершыню на бел. мове — у газ. «Чырвоная змена», 1989, 1 жн. (Пер. Я. Кісялёвай.)

*Верасень, 16—24*

Ездзіў у Арменію да паэта А. Пагасяна, з якім вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Быў у Ерэване. Наведаў музеі, паглядзеў многія помнікі архітэктуры Арменіі. *(Запісная кніжка.)*

*Кастрычнік, 17*

Прысутнічаў на пленуме праўлення СП БССР. *(Запісная кніжка.)*

*Лістапад, 14—15*

Удзельнічаў у студэнцкай навуковай канферэн-

цыі па яго творах, якая адбылася ў Брэсцкім пединстытуце. *(Просьба на імя старшыні праўлення СП БССР Максіма Танка аб камандзіроўцы ў Брэст У. Караткевіча, падпісаная рэктарам Брэсцкага пединстытута Г. П. Андраюком, ад 31 кастр. 1980 г.; 107-я папка хатняга архіва.)* Выступіў на Брэсцкай студыі тэлебачання. *(Машынапіс, ЦНБ АН БССР. Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 221.)*

*Лістапад*

У час. «Бярозка», № 11 надрукавана казка «Нямоглы бацька».

У час. «Вясёлка», № 11 надрукавана казка «Вясна ўвосень».

*Лістапад, 25*

За заслугі ў галіне савецкай літаратуры і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў У. Караткевіча ордэнам Дружбы народаў. *(Звязда, 26 лістап.)*

*Лістапад, 28*

У Доме літаратара адбыўся вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння У. Караткевіча. (Паводле запрашэння на гэты вечар.) «Пра сілу і красу караткевічаўскага слова гаварыў, адкрываючы юбілейны вечар пісьменніка ў Доме літаратара, В. Быкаў. Шчыра віталі пісьменніка-юбіляра ў гэты вечар першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, Я. Брыль, А. Юшчанка (Украіна), І. Пташнікаў, Р. Барадулін, А. Мальдзіс, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Н. Пашкевіч, А. Кудравец, А. Жук, А. Шабалін, У. Ліпскі,мастакі Н. Шчасная і У. Басалыга, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Дубянецкі, рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа В. Мазынскі. З тэлеграмамі, якія паступілі ў адрас юбіляра, пазнаёміў прысутных А. Вольскі.

На вечары прысутнічалі загадчык аддзела культуры ЦК КПБ І. І. Антановіч і загадчык сектара мастацкай літаратуры ЦК КПБ С. І. Законнікаў.

У другой частцы вечара — мастацкай — гаспадарылі на сцэне артысты з Віцебска. Былі паказаны ўрыўкі са спектакляў «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі». *(Літ. і мастацтва, 5 снеж.)*

*Снежань, 4*

У «Сельской газете» надрукавана інтэрв'ю «Люблю свою Белую Русь...». *(Зап. Р. Станкевіч.)*

*На працягу года*

Выйшлі з друку «Выбраныя творы» ў 2-х тамах. (Т. 1: Апавяданні, Аповесці; Т. 2: раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».)

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 89—92) надрукаваны вершы «Надпіс на камені над крыніцай», «Афіцэру Лісаневічу», «Абяцаюць нам новы раскошны дом...», «Радок бяззбройны і бясспрэчны...», «Ворыва на валах».

У кн. «Высокае неба» (М., с. 53—55) надрукаваны пераклад верша М. Біблавай «Дзеля будучыні». (З чэшск.)

## 1981

*Студзень, 10*

Скончыў упарадкаванне архіва для перадачы ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН БССР. *(Запісная кніжка.)*

*Красавік, 14—15*

Прысутнічаў на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Выступіў на ім. 24 крас. газ. «Літ. і мастацтва» змясціла нататку з яго выступлення пад назвай «Пісаць цікавей, з большай адказнасцю», дзе адзначалася: «Сапраўды, большасць таго, што мы пішам і друкуем, сведчыць толькі пра тое, што мы ўмеем пісаць. Але ўмелі пісаць таксама і валасныя пісары... Бяда наша — сярэдні ўзровень, шэрасць... Мы ўсе павінны знайсці слова для новых з'яў, для новых рэчаў, новага свету. Трэба памятаць, што мы самі шкодзім і сабе, і народу нашаму, пішучы рэчы пасрэдныя. Пісаць трэба цікавей, пісаць з большай адказнасцю».

*Красавік, 10—23*

Напісаў п'есу «Калыска чатырох чараўніц». *(Рукапіс; 16-я папка хатняга архіва.)*

*Ліпень, 9 — жнівень, 4*

Адпачываў з жонкай у Доме творчасці ў Дубултах. *(Ліст В. Б. Караткевіч да Г. і Ё. Брындзовых ад 4 снеж.)*

*Жнівень*

У час. «Вясёлка», № 8 надрукавана казка «Жабкі і Чарапаха».

*Жнівень, 31 — пачатак верасня*

Ездзіў з А. Кулагіным у Слонім і на Слонімшчыну. Сустрэўся там з А. Іверсам і А. Лойкам. *(Запісная кніжка.)*

*Кастрычнік*
У час. «Маладосць», № 10 надрукавана аповесць «Зброя», дзе было змешчана ўступнае «Слова ад аўтара».
*Да 30 кастрычніка*
Беларускае тэлебачанне паставіла спектаклі «Ладдзя Роспачы» і «Лісце каштанаў». *(Літ. і мастацтва, 30 кастр.)*
*Лістапад, 20—26*
Напісаў больш за 20 вершаў, такіх, як «Гляджу на тую, што спіць», «Страціў лес свой летні чуб», «Віно армянскай гісторыі», «Новая Атлантыда», «Беларускае мінулае» і інш. *(Запісная кніжка.)*
*Снежань, 8*
Быў на адкрыцці выстаўкі ў Палацы мастацтваў, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча.
*Снежань, 9*
Прысутнічаў на вечары, прысвечаным М. Багдановічу, у Беларускім тэатры оперы і балета.
*Снежань, 12*
Выступіў на свяце ўгодкаў М. Багдановіча ў майстэрні А. Марачкіна. *(Запісная кніжка.)*
*На працягу года*
Выйшаў для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту раман «Каласы пад сярпом тваім».
Выйшла з друку аповесць Э. Гашпаровай «Цяжка быць мустангам». (Мн., пер. са славац.)
Выйшла на рускай мове кніга аповесцей «Сівая легенда». (М., пер. В. Шчадрына.)
Выйшаў на літоўскай мове нарыс «Зямля пад белымі крыламі». (Вільнюс, пер. А. Янайціты.)
Выйшаў на французскай мове нарыс «Зямля пад белымі крыламі». (Мн., пер. С. Батура і М. Захаркевіч.)
Выйшла на балгарскай мове аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». (Сафія, пер. Р. Яўцімава.)

## 1982

*Студзень, 8—10*
Ездзіў у Мсціслаў збіраць матэрыялы для будучага нарыса пра гэты горад. *(Запісная кніжка.)*

*Люты, 15*

Закончыў п'есу «Маці ўрагану». (*Рукапіс; 33-я папка хатняга архіва.*) Упершыню — «Маладосць», 1985, № 12. Пастаўлена Мінскім аматарскім тэатрам «Золак» (рэж. Г. Прыма) у крас. 1988. (*Чырвоная змена, 1988, 29 чэрв.*)

*Сакавік, 1*

Закончыў эсэ пра Украіну «Абраная». (*Рукапіс; 22-я папка хатняга архіва.*)

*Сакавік, 2—5*

Перакладаў вершы ўкраінскай паэтэсы М. Львовіч. (*Запісная кніжка.*)

*Да 12 сакавіка*

Разам з Д. К. Міцкевічам, сынам Якуба Коласа, і Г. Кісялёвым і супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа І. Курбекам выступіў на вечары, прысвечаным 100-годдзю песняра, які адбыўся ў Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце. (*Літ. і мастацтва, 26 сак.*)

*Сакавік, 17*

Закончыў эсэ пра Кіеў «Мой се градок!». (*Рукапіс; 82-я папка хатняга архіва.*)

*Да 26 сакавіка*

Беларускае радыё паставіла спектакль «Паром на бурнай рацэ». (Аўтар У. Мехаў, рэж. А. Вавілаў.) (*Літ. і мастацтва, 12 сак.*)

*Сакавік, 26*

Закончыў пераклад верша Махтумкулі «Лёс туркмена». (З туркм.) (*Рукапіс; 2-я папка хатняга архіва.*)

*Красавік, 15*

У газ. «Интеграл», органе вытворчага аб'яднання г. Мінска, надрукавана інтэрв'ю «Каждая книга — часть жизни». (*Зап. В. Аляшкевіч.*)

*Май*

У час. «Маладосць», № 5 надрукавана эсэ пра Кіеў «Мой се градок!».

*Чэрвень, 2*

Напісаў ліст «Господину Председателю II специализированной сессии Генеральной Ассамблеи ООН по разоружению — от белорусского писателя В. Короткевича». (*Рукапіс; 82-я папка хатняга архіва.*)

*Чэрвень, 8*

Закончыў сцэнарый фільма «Чорны замак Альшанскі». (*Рукапіс; 35-я папка хатняга архіва.*)

*Чэрвень*

Ездзіў з жонкай у Сімферопаль, каб пазнаёміць трупу Віцебскага тэатра імя Якуба Коласа, якія знаходзіўся там на гастролях, з п'есай «Маці ўрагану». У гэты час абакралі іх кватэру. (*А. Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча; В. Мазынскі. Я табе напісаў «Барыса Гадунова»...*) (*Літ. і мастацтва, 1987, 4 верас.*)

*Ліпень, 9*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукаваны ўрывак з п'есы «Калыска чатырох чараўніц».

*Ліпень*

У час. «Бярозка», № 7 надрукаваны артыкул пра Янку Купалу «Зліццё з душой народнай».

*Жнівень*

У час. «Маладосць», № 8 надрукавана п'еса «Калыска чатырох чараўніц».

*Жнівень, з 20*

Ездзіў у Мсціслаў і на Мсціслаўшчыну збіраць матэрыялы для будучага эсэ. (*Запісная кніжка.*)

*Верасень, 4*

Закончыў эсэ «Мсціслаў — дыяментавы горад». (*Рукапіс; 98-я папка хатняга архіва.*) Упершыню — у мсціслаўскай раённай газеце «Святло Кастрычніка» пад назвай «Дыяментавы горад» 7 лістап. 1984 — 12 лют. 1985.

*Верасень, 9*

«Да 12 г. хадзіў у мастацкі музей і гаварыў для тэлебачання перадачу пра партрэты для Радзівілаўскай галерэі». (*Запісная кніжка.*)

*Кастрычнік*

У час. «Новый мир», № 10 надрукаваны артыкул пра Янку Купалу «Он один такой — Янка Купала».

*Снежань, 3*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана інтэрв'ю «Любую справу рабіць хвацка». (*Зап. Р. Станкевіч.*)

*На працягу года*

Выйшаў з друку раман «Нельга забыць».

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 23, 141—147) надрукаваны вершы «Армянскі матыў», «На Беларусі бог жыве», «Новая Атлантыда», «Бог пайшоў, жыццё ідзе пад кручу...», «Наследаванне Байрану», «Данеслі добрыя людзі...», «Два наследаванні сярэднявяковым прытчам» (вядомы пад назвай «Армянскія ананімныя

прытчы»), «Дарогі ўсёй зямлі маёй...», «І тады закачалася хмара...», «Страціў лес свой летні чуб...», «Гляджу на тую, што спіць», «З амбона хтось крычаў пра шлях да раю...», «Склероз».

У кн. «Братэрства» (Мн., с. 111—114, 257—267) надрукаваны пераклады вершаў М. Львовіч з цыкла «У вянок Максіму Багдановічу»: «На Волзе, у Ніжнім, змалку ўзрос сабе...», «Так, сыну не перашкаджалі жыць вы...», «Падалі бомбы на вуліцы Менска...», «Ужо не расплюшчваючы вочы...», «Далягляд шырокі, вольны, ясны...», «Апошні міг згарае ўшчэнт...» (З укр.) і эсэ пра Украіну «Абраная».

У кн. «Далягляды» (Мн., с. 20—21) надрукаваны пераклад верша К. Цвейна «Хатынь». (З чэшск.)

Выйшла на ўкраінскай мове аповесць «Лісце каштанаў». (К., пер. К. Скрыпчанка.)

Выйшла на балгарскай мове кніга апавяданняў «Паром на бурнай рацэ». (Сафія, пер. С. Уладзіміраў, І. Дайчынаў, М. Дзімітрава, П. Кынева.)

Выйшаў на англійскай мове нарыс «Зямля пад белымі крыламі». (Мн., пер. А. Вайсэ, У. Мэй.)

Мінскі тэатр юнага гледача да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы паставіў п'есу «Калыска чатырох чараўніц». (Рэж. У. А. Караткевіч.)

## 1983

*Люты, 8*

Прысуджана літаратурная прэмія імя І. Мележа за раман «Нельга забыць». (Выпіска з пратакола № 1 пасяджэння сакратарыята СП БССР ад 8 лютага 1983 г; СП БССР.)

*Люты, 18*

У газ. «Літ. і мастацтва» надрукавана інтэрв'ю «Найперш — судзіць чытачу». *(Зап. У. Ягоўдзік.)*

*Люты, 28*

Памерла жонка Караткевіч Валянціна Браніславаўна. *(Паводле слоў Н. С. Кучкоўскай.)*

*Сакавік, 10—17*

Знаходзіўся ў Доме адпачынку «Сосны» на Нарачы. *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Красавік, 26*

«Застаўся я адзін і не ведаю, як мне быць далей.

Дома пустыя сцены, і быць у іх мне пакуль што дужа цяжка». *(Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 26 крас.)*

*Чэрвень, 1 — снежань, 4*

Паехаў у Оршу. Жыў у сям'і пляменніцы, у хаце бацькоў. *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)* «Сядзеў на радзіме, у Оршы. І — ані радка. Толькі ўсё думаў і спаў, спаў і думаў». *(Ліст да Г. і Ё. Брындзовых ад 13 мая 1984.)*

*На працягу года*

Выйшла з друку кніга «Чорны замак Альшанскі», куды былі ўключаны аднайменны раман і аповесць «Зброя».

У кн. Махтумкулі «Салавей шукае ружу» (Мн., с. 19—20) надрукаваны пераклад верша «Лёс туркмена». (З туркм.)

У кн. І. Франка «Каменярі» (мовамі народів світу)» (К., с. 47—48) надрукаваны пераклад верша «Каменяры». (З укр.)

Выйшла на рускай мове аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». (Мн., пер. В. Шчадрына.)

Выйшла на эстонскай мове аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». (Талін, пер. Л. Соэ.)

Выйшаў на балгарскай мове раман «Чорны замак Альшанскі». (Сафія, пер. П. Кынева.)

Выйшаў на нямецкай мове нарыс «Зямля пад белымі крыламі». (Мн., пер. У. Чапега.)

## 1984

*Да 27 студзеня*

Беларускае радыё падрыхтавала трохсерыйны радыёспектакль паводле рамана «Чорны замак Альшанскі». *(Літ. і мастацтва, 27 студз.)*

*Люты, 4—9*

Напісаў вершы «Стары певень», «Старажытны беларус», «Паэт», «Балада пра развітанне», «Смяротная страта». *(Паводле рукапісаў, якія захоўваюцца ў 1-й і 2-й папках хатняга архіва.)*

*Люты, 25*

Шпіталізаваны ў рэанімацыю Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. Дыягназ: цыроз печані, пячоначная кома.

*Сакавік, 20*

Пераведзены з рэанімацыі ў агульную палату.

*Красавік, 3*

Выпісаўся з бальніцы. Знаходзіўся на стацыянарным лячэнні ў Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Да 29 сакавіка*

На кінастудыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыі пастаўлены мастацкі фільм «Чорны замак Альшанскі». (Сааўтар сцэнарыя М. Пташук.) *(Чырвоная змена, 29 сак.)*

*Красавік, 19—28*

Знаходзіўся ў бальнічна-клінічным аддзяленні санаторыя «Аксакаўшчына». *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Май, 1*

Закончыў складанне і вычытку зборніка паэзіі «Быў. Ёсць. Буду». *(Запісная кніжка.)* Выйшаў у 1986 г.

*Май, 22*

Закончыў вычытку кнігі п'ес «Старыя беларускія хронікі». *(Запісная кніжка.)* Выйшла ў 1988 г.

*Чэрвень, 21*

Прысутнічаў на вечары, прысвечаным 60-годдзю з дня нараджэння В. Быкава, які адбыўся ў Беларускім тэатры імя Янкі Купалы, а таксама на юбілейным банкеце. 19 чэрвеня да юбілею пісьменніка напісаў верш «Васілю Быкаву».

*Чэрвень, 28—ліпень, 2*

Ездзіў у Кіеў на юбілейную сустрэчу выпускнікоў Кіеўскага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі. *(Паводле слоў Н. С. Кучкоўскай.)*

*Ліпень, 12*

Разам з фотакарэспандэнтам В. Ждановічам і мастаком П. Драчовым накіраваўся ў падарожжа на плыце па Прыпяці. Там яму стала дрэнна, 20 ліпеня вярнуўся ў Мінск. Прапаноўвалася бальніца, ад чаго катэгарычна адмовіўся. *(З запісных кніжак // Полымя, 1989, № 3; Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Ліпень, 23*

Раніцай развілося страўнікавае кровацячэнне. Па неадкладнай медыцынскай дапамозе ў цяжкім стане

шпіталізаваны ў хірургічнае аддзяленне Рэспубліканскай бальніцы 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР. *(Медкарта № 27 паліклінікі Беларускага Літфонду.)*

*Ліпень, 25*

Беларуская, уся шматнацыянальная савецкая літаратура панесла вялікую страту. 25 ліпеня на 54-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр выдатны беларускі паэт, празаік, драматург і публіцыст, член праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. *(Літ. і мастацтва, 27 ліп.)*

*Снежань*

Прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларускай ССР імя Якуба Коласа (пасмяротна) за раман «Чорны замак Альшанскі». *(Пастанова ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў Беларускай ССР // Звязда, 30 снеж.)*

*На працягу года*

У кн. «Дзень паэзіі» (Мн., с. 137—143) надрукаваны вершы «Паэт», «Разведчык», «Быў. Есць. Буду...», «Стары певень», «Амаль хрысціянскі тост за варагаў», «Хан і табіб».

У кампл. А. Кашкурэвіча «Ілюстрацыі да трагедыі Гётэ «Фаўст» (Мн., вокл.; беларус., рус., ням.) надрукавана нататка «Наш Фаўст».

У кн. «Латышская савецкая паэзія» (Мн., 1984, т. 1, с. 172—173, 235—236; т. 2, с. 21—25) надрукаваны пераклады вершаў В. Руі «Цыган у трамваі», Е. Стулпанса «Журавінка», Я. Плотніекса «Балада пра дуб», «Пытанне сабе», «Балюча?..». (З латыш.)

Выйшла на рускай мове кніга «Чорны замак Альшанскі», куды былі ўключаны аднайменны раман і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». (Мн., пер. В. Шчадрына.)

Выйшла на ўкраінскай мове кніга «Чорны замак Альшанскі», куды былі ўключаны аднайменны раман і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». (К., пер. К. Скрыпчанка.)

Выйшаў на чэшскай мове раман «Чорны замак Альшанскі». (Прага, пер. Н. Мюлерава.)

Савет Міністраў БССР прыняў 11 чэрвеня 1985 года Пастанову (№ 180) аб ушанаванні памяці вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай

прэміі Беларускай ССР Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. (*Захоўваецца ў СП БССР.*)

Згодна з гэтай Пастановай, імя Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча нададзена сярэдняй школе № 3 г. Оршы, устаноўлена мемарыяльная дошка на доме № 36 па вуліцы Карла Маркса, дзе жыў пісьменнік, на яго магіле на Маскоўскіх могілках устаноўлены надмагільны помнік работы А. Анікейчыка.

У 1987—1991 гадах выдадзены Збор твораў пісьменніка ў 8-мі тамах, яго імя прысвоена вуліцам у Оршы і Віцебску, у сярэдняй школе № 3 г. Оршы адкрыты мемарыяльны музей Уладзіміра Караткевіча, мемарыяльныя пакоі пісьменніка адкрыты ў інтэрнаце будаўнікоў г. Маладзечна і ў інтэрнаце вытворчага аб'яднання «Інтэграл» у Мінску.

*А. Л. Верабей*

# КАМЕНТАРЫІ

## З ЖЫЦЦЯПІСУ

*Дарога, якую трайшоў (с. 5)*

Упершыню — у кн.: Пра час і пра сябе. Мн.: Беларусь, 1966. Друкуецца па тым жа выданні.

## НАРЫСЫ

*Вязынка* (с. 14)

Упершыню — у кн.: Янка Купала. Мн.: Выд. АН БССР, 1955. Друкуецца па тым жа выданні.

*Казкі Янтарнай краіны* (с. 14)

Упершыню — Полымя, 1963, № 2. Друкуецца па тым жа выданні.

*«Рша камен...»* (с. 48)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1967, 4 ліп. Друкуецца па тым жа выданні.

*Званы ў прадоннях азёр* (с. 49)

Упершыню — Маладосць, 1969, № 12. Друкуецца па тым жа выданні.

*Прадмова да кнігі «Белавежская пушча»* (с. 107)

Упершыню — у кн.: Белавежская пушча. Мн.: Беларусь, 1975. Друкуецца па тым жа выданні.

*Вільнюс — часцінка майго сэрца* (с. 108)

Упершыню — у літоўскім часопісе «Наўёс кнігос» («Новыя кнігі»), 1980, № 8. Друкуецца па тым жа выданні. Пераклад Яніны Кісялёвай. Пры перакладзе выкарыстаны чарнавыя накіды У. Караткевіча, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа АН БССР.

*Мой се градок* (с. 110)

Упершыню — Маладосць, 1982, № 5. Друкуецца па тым жа выданні.

## ЭСЭ

*І будуць людзі на зямлі* (с. 129)

Упершыню — Маладосць, 1964, № 3. Друкуецца па тым жа выданні.

*Баладыя каменя* (с. 141)

Упершыню — у кн.: Дзень паэзіі. Мн.: Беларусь, 1965. Друкуецца па тым жа выданні.

*Песня з Паўночных Афін* (с. 141)

Упершыню — Маладосць, 1965, № 9. Друкуецца па тым жа выданні.

*Твой зорны шлях* (с. 150)

Упершыню — Чырв. змена, 1967, 25 чэрв. Друкуецца па тым жа выданні.

*Saxifraga* (с. 152)

Упершыню — Полымя, 1971, № 2. Друкуецца па тым жа выданні.

[*Прадмова да кнігі «Памяць зямлі беларускай»*] (с. 170)

Упершыню — у кн.: Памяць зямлі беларускай. Мн.: Беларусь, 1979. Друкуецца па тым жа выданні.

*Подзвіг Францыска Скарыны* (с. 172)

Упершыню — Беларусь, 1980, № 4. Друкуецца па тым жа выданні.

*Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён* (с. 177)

Упершыню — Маладосць, 1980, № 8. Друкуецца па тым жа выданні.

*Дыяментавы горад* (с. 200)

Упершыню — мсціслаўская раённая газета «Святло Кастрычніка», 1984, 7 лістап.— 1985, 12 лют. (да 850-годдзя Мсціслава). Друкуецца паводле той жа газеты, дзе тэкст не быў сапсаваны адвольнымі ўмяшаннямі, якія былі дапушчаны пры рэдагаванні асобнага кніжнага выдання (Караткевіч У. Мсціслаў. Мн., 1985).

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Гэта было 10 сакавіка 1864 года* (с. 253)

Упершыню — Беларусь, 1964, № 3. Друкуецца па тым жа выданні.

*Горад паўстае* (с. 255)

Упершыню — у кн.: Горад і годы. Мн.: Беларусь, 1967. Сааўт. А. Мальдзіс. Друкуецца па тым жа выданні.

*Коласаўцы* (с. 268)

Упершыню — Тэатральны Мінск, 1976, № 2. Друкуецца па тым жа выданні.

*Наш агульны клопат* (с. 269)

Упершыню — Звязда, 1977, 17 сак. Друкуецца па тым жа выданні.

*Абдуванчык на кромцы вады* (с. 274)

Упершыню — Беларусь, 1980, № 6. Друкуецца па тым жа выданні.

*Родная мова* (с. 284)

Упершыню — Настаўн. газета, 1989, 28 чэрв. Друкуецца па тым жа выданні. Напісана па заказе рэдакцыі ў 1969 г., але не апуб-

